№5(66)
/верасень-кастрычнік/ 2013

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

Уладзімір Някляеў



...Беларускі народ
каго хочаш пахавае.
Хоць самога сябе...

# Бары-бэры

***Апавяданне***

Аляксей Сяўко працаваў некалі з Вадзімам Кашыным у адным праектным інстытуце, дзе абодва яны масты праектавалі і абодва пазнаёміліся са сваімі жонкамі, Любай ды Алёнай, у той час яшчэ нявестамі. І вось днямі Алёна, жонка Сяўко, пачула ад Любы, жонкі Кашына, што той доўга і цяжка хварэў, ляжаў у шпіталі, адкуль яго выпісалі, бо ён безнадзейны – няхай дома памірае. «Як гэта – няхай дома памірае?..» – не зразумеў Аляксей жонку, а тая адмахнулася: «Скуль я ведаю, Люба так сказала! Мне бары-бэры...»

Алёна ад усяго, што ты ёй ні скажы, адмахваецца, махальшчыца... Усё ёй бары-бэры. Гэта Аляксей павінен быў заўважыць яшчэ тады, калі яны ў праектным інстытуце пазнаёміліся, але не заўважыў. Ажаніўся, двое дзяцей. Сын і дачка. Сын нібыта й не дурны, у бацьку, дык цяпер пазнавата заўважаць, што жонка ад усяго адмахваецца. Не той перыяд.

Яны, Сяўко і Кашын, абодва вяселлі, Аляксея з Алёнай і Вадзіма з Любай, як адно адгулялі. Так і ўдвая танней, і ва ўсім астатнім удвая выгадней было. Вось тады, на тым адным на двух вяселлі, яны дамовіліся сябраваць і ўсім, што будуць мець, дзяліцца.

Выпілі лішак – дык і дамовіліся. Але ж не адказваць усё жыццё за тое, што зрабіў некалі малады ды нападпітку...

Сяўко да гэтага так і ставіўся, а Кашын дамоўленасць тую ўспрымаў усур'ёз. Насамрэч дзяліўся. Ну, не ўсім і не заўсёды. Можна нават сказаць, што толькі аднойчы, калі ў лато аднапакаёўку выйграў. Тады Васілю, сыну Сяўко, які паспеў ажаніцца і дзіця займець, не было дзе жыць, дык Кашын выйграную аднапакаёўку саступіў. Не за так, за паўцаны, і яшчэ колькі Сяўко яму праставіў, а Кашын абы-што не п'е, таму нават дзіўна, што так цяжка захварэў, але ўсё адно: хто табе сёння за паўцаны сваю кватэру саступіць, калі яе можна здаць – і пі, колькі ўлезе. Не, Кашын усё ж, калі здаровы быў, у нечым дапамагаў і трэба было б яго, хворага, адведаць.

«Адведай, – адмахнулася Алёна. – Але во будзе, калі ты да яго прыйдзеш, а ён возьме ды памрэ!»

Сяўко пра гэта і сам думаў. Не думаў, праўда, што Кашын, калі ён да яго прыйдзе, адразу памрэ, а думаў, што раптам яму горш стане – і як тады быць? Не прыходзіў да яго Сяўко – было лепш, а прыйшоў – стала горш... Люба такога набалабоніць! Не толькі паўкватэры ў лато выйгранай, а ўсю драбязу паўспамінае. Калі цвік які браў Сяўко ў Кашына, яна і цвік згадае, яна такая...

Добра, што не з Любай ён ажаніўся. Хоць тое, што ажаніўся з Алёнай, не лепш. Але ж з некім трэба было ажаніцца. Калі б не ажаніўся, не было б сына... А не было б сына, дык не патрэбная была б тая, за паўцаны, кватэра! І нічога б Сяўко не быў Кашыну вінен! Усё добра было б, калі б не сын-абэлтус, які не тое што кватэру – куртку, куртачку для дзіцяці купіць не можа! Алёна ўчора ўвесь горад збегала, шукаючы, дзе танней. А куртачкі цяпер каштуюць – раней за такія грошы кватэры куплялі... І вось трэба да Кашына, бо Сяўко яму вінен, цягнуцца ў адведкі, гадаючы, горш ці лепш яму стане, памрэ ён ці не памрэ.

– А што ў яго... рак?.. – спытаў Аляксей жонку, і тая адмахнулася: «Нешта заразнае, мне бары-бэры».

Во, яшчэ і заразнае... Кашын заўсёды любую заразу самы першы хапаў. Хоць птушыны грып, хоць свіны – Кашын тут як тут. І сам на бюлетэнь, а ты за яго працуй.

Вунь мост цераз Вяллю праектавалі, які абваліўся. Чаму абваліўся? Бо Кашын на свінку захварэў. Дзіцячую інфекцыю падхапіў! І залёг. Надоўга залёг, з ускладненнем нейкім... На ныркі, ці яшчэ на нешта – Сяўко ўжо забыўся. А ў інстытуце праектным, дзе яны разам працавалі, ён адзін, Кашын, і быў маставіком. Сяўко таксама маставіком быў, па адной спецыяльнасці політэхнічны скончылі, але... як бы гэта сказаць... не склалася на практыцы. І не толькі ў Сяўко не склалася. Апроч яго, у тым інстытуце праектным яшчэ трое маставікоў у штатным раскладзе значыліся. Усяго, з Кашыным, іх было пяцёра, а Кашын залёг з дзіцячай інфекцыяй – і мост цераз Вяллю абваліўся. Хоць дырэктар інстытута пры ўсіх, каб усе чулі, колькі разоў Кашыну казаў: «Кашын, цяпер інфекцыі ўсялякія, інфлюэнцыі, не цягайся ты абы-дзе!»

Зрэшты, дзе той Кашын цягаўся? З такой жонкай, як Люба, па інф-

люэнцыях не пацягаешся... Але ж абавязак, адказнасць перад калектывам ён павінен быў адчуваць! Дык не, не адчуваў. Вось не было ў ім гэтага: адказнасці за калектыў. Нават тады, калі мост абваліўся.

Сяўко раптам злавіў сябе на тым, што думае пра Кашына як пра нябожчыка. «Не адчуваў, не было...» Няўжо памрэ? Ці ўжо памёр? Не, у інстытуце б ведалі, на вянок бы скінуліся. У інстытуце заўсёды, калі нехта паміраў, скідваліся на вянок. А Кашын і тут вырабляўся: «Я, можа, сам, асобна кветкі хачу купіць! Жывыя, а не папяровыя!» Дык ідзі купі, хто табе не дае? А на вянок скінься. Люба, якая ў прафкаме за нябожчыкаў адказвала, нават да тых, хто даўно ў інстытуце не працаваў і ўжо на пенсіі быў, хадзіла, каб яны скінуліся, бо калектыў ёсць калектыў. З яго на пенсію не выйдзеш, без яго не памрэш. Вунь Зусман у Ізраіль з'ехаў, калі мост абрушыўся. Якраз ён, Зусман, да гэтага моста, можна сказаць, і дачынення не меў, а з'ехаў. І ў Ізраілі памёр. Дык усё адно калектыў скінуўся на вянок – і на стол, за якім Зусман сядзеў, той вянок паклалі.

Вось цікава: памёр бы Зусман, каб у праектным інстытуце ў аддзеле маставікоў застаўся, ці не?.. Простае нібыта пытанне, а не мае адказу. Ніхто з маставікоў, апроч Зусмана, пакуль не памёр, але ж гэта не азначае, што і Зусман быў бы жывы.

З таго моста цераз Вяллю грузавік зваліўся. Кіроўца патануў. Праз тое быў суд, і Кашын на судзе заявіў, што ён паспеў спраектаваць толькі апоры, якія стаяць, як стаялі, а да пралёту, які абваліўся, не мае, як і Зусман, ніякіх дачыненняў. Такая заява не толькі Сяўко, нікому, нават Зусману не спадабалася, бо ўвесь інстытут выступаў на судзе калектывам, а Кашын – сам па сабе. Яго загадзя папярэдзілі, што вінаватымі прызнаюць будаўнікоў, а не праектантаў, а ён усё адно – асобна. Як з тымі кветкамі на пахаванне. Але ж тут табе не нябожчыкі, калегі! Яны цябе на дні нараджэння запрашалі, ты з імі святы спраўляў! Ну, хоць бы жаночы дзень 8 Сакавіка... І што аказалася? Аказалася, Кашын даўно хацеў сказаць, што кваліфікацыя супрацоўнікаў інстытута нізкая, ім толькі прыбіральні прыдарожныя праектаваць – і то на адно ачко.

Ускрыўдаваў тады Сяўко на Кашына, а хто б не ўскрыўдаваў? На адно ачко... Ды ўвесь інстытут усхадзіўся! На агульным сходзе Кашына разбіралі, пастанавілі выказаць недавер і звольніць. Выгнаць! Недавер выказалі, але не выгналі, бо ўсё ж інстытут праектны, трэба нешта некаму праектаваць. А тут яшчэ Зусман з'ехаў... Дык Кашын зусім заганарыўся: яго, бач, і замяніць няма кім! Можа, праз гонар свой і захварэў, да ганарыстых любая зараза найперш прыстае.

Сяўко на тым сходзе пагарачыўся: сказаў, што ўсе ведаюць пра ягонае з Кашыным сяброўства, але такіх пагардлівых адносін да калектыву ён і сябру не даруе ніколі – нават каля труны! Так і ляпнуў: каля труны! – во яго занесла. Цяпер прыйдзеш Кашына адведаць, яму горш стане ці ён памрэ, дык што?.. Скажуць: «Гэта ты яго ў труну й загнаў!» Хіба сход не ўспомняць? Яшчэ як успомняць, бо інстытут праектны – яшчэ той калектыў. Адна Люба чаго вартая...

Аднойчы Люба ў інстытуце, калі 8 Сакавіка адзначалі, зацягнула Сяўко ў прыбіральню і сказала, што кахае і ўсё жыццё кахала не Кашына, а яго, Сяўко, і за Кашына пайшла, каб да Сяўко бліжэй быць, бо Кашын і Сяўко сябравалі. Такую яна прынесла ахвяру – і за тое патрабуе хоць кроплю

звычайнага жаночага шчасця. Адно спатканне, ёй больш не трэба. Гэтага хопіць ёй да труны.

Праз тое, што яна труну прыпляла, Сяўко трохі напружыўся, але не так, каб адмовіць жанчыне ў яе апошнім жаданні. Люба дамовілася з нейкай сваёй сяброўкай пра кватэру, дала яму ключ. Каб ён першы прыйшоў і яе чакаў. Так ёй будзе здавацца, што гэта, маўляў, не патаемнае палюбоўнае спатканне, а нібыта яны даўно разам – і ён штодня яе чакае.

Сяўко купіў кветкі, шампанскае, цукеркі. Ну, як звычайна. Джэнтльменскі набор. Прыйшоў у кватэру, ад якой Люба ключ дала, стаў чакаць... Адчыніў дзверы на званок і ўбачыў у дзвярах Кашына. З джэнтльменскім наборам.

Во што бабы ў жаночы дзень прыдумалі!.. Алёна ў той жа інстытуцкай прыбіральні напляла Кашыну тое самае, што Люба напляла Сяўко. Нібы кахала і кахае яго, Кашына, а за Сяўко пайшла, каб да Кашына бліжэй быць, бо Сяўко і Кашын сябравалі. Такую яна прынесла ахвяру – і за тое патрабуе хоць кроплю звычайнага жаночага шчасця. Адно спатканне, ёй больш не трэба. І прызначыла Алёна спатканне Кашыну ў той жа кватэры, ад якой Люба дала ключ Сяўко. Вось джэнтльмены і спаткаліся. А праз пару хвілінаў абедзве дамы з'явіліся...

О-о-о, што было!

Гэта Люба, змяюка, падстроіла. Алёна да такога б не дадумалася, адмахнулася б...

Добра ўсё ж, што ён з Алёнай ажаніўся. Кашын ажаніўся з Любай – і што? Ляжыць, канае.

Што ў яго там?.. Можа, не зараза ніякая. Але ж не ў тым праблема, зараза ці не зараза... Праблема ўвогуле... Можна сказаць: у жыцці.

Сяўко не аднойчы пытаўся ў сябе самога: вось калі б ён аднапакаёўку ў лато выйграў, а ў Кашына сын быў, хоць сын у Кашына і без таго ёсць, якому б з дзіцём і жонкай жыць не было дзе, аддаў бы ён, Сяўко, кватэру Кашыну за паўцаны? Як Кашын яму аддаў?.. І як ні пераконваў ён сябе ў тым, што, канечне, аддаў бы – ведаў, што не. Не ўступіў бы ні за паўцаны, ні за дзве трацiны. Плюнуў бы на ўсё і ўсіх, сышоў бы ад Алёны, ад сына з ягоным дзіцём і ягонай жонкай – і жыў бы не тужыў адзін у аднапакаёўцы!

Дурань Кашын. Мог бы жыць адзін у сваёй кватэрцы, ляжаў бы там і паміраў. Сяўко прыйшоў бы да яго, і ці лепш Кашыну праз тое стала б, ці горш – цьфу! Няма сведкаў. А Сяўко пра тое, што прыходзіў да Кашына, нікому б і не казаў. Ну, калі б той не памёр. А калі б памёр, давялося б сказаць. Вось, маўляў, прыйшоў адведаць, а тут такое... І пачалося б...

Тады што ж выходзіць? Тады выходзіць, што аддаў Кашын аднапакаёўку, ці сабе пакінуў – без розніцы. Як і тое, адведае яго Сяўко, ці не адведае...

Усё ў гэтым свеце ўсім бары-бэры?..

Не, трэба усё ж адведаць. Памрэ, не памрэ... Чаму ён павінен памерці? Ад якой заразы? Няма заразы на Кашына! Калі б яна была, Сяўко тую заразу даўно б Кашыну падсеяў.

Ён жывучы, гэты Кашын. Неяк яны выпівалі дома ў Сяўко, і Кашыну на галаву карціна ўпала. «М. А. Някрасаў у перыяд «Апошніх песень». Мастака І. А. Крамскога. Алёна з Піцера, тады яшчэ Ленінграда, прывезла. Ёй стрыечны брат, які ў Піцеры жыве і ў Эрмітажы электрыкам працуе, за 85

рублёў карціну прадаў. Прасіў 130, бо шэдэўр, толькі для сястры, і каб яна нікому ні гу-гу: арыгінал у музеі ён копіяй падмяніў. У Алёны зарплата 90, а тут – 130... Паўтары месяцы жыцця. За якую ты карціну паўтары месяцы пражывеш – хай сабе за арыгінал? Стрыечнік згадзіўся, што за карціну столькі не пражывеш, саступіў 45 рублёў – Алёна й купіла. Надта ж ёй карціна глянулася, на якой, апроч Някрасава перыяду апошніх песень, яшчэ й Дабралюбаў з Бялінскім ды Міцкевіч невядома якога перыяду. Карацей, амаль усе, каго Алёна праходзіла ў школе, дзе любіла літаратуру.

Карціна над сталом у гасцёўні вісела. Кашын сеў пад яе, пасунуўшы стол, бо яму, смарчку, цеснавата паміж сталом і сцяной здалося. Карціна сарвалася і дубовай рамай гвазданула Кашыну па чэрапе! Рогам рамы ў самае цемечка, як туды мецiла! А Кашыну бары-бэры... Толькі пачухаўся ды нож да макаўкі прыклаў, каб гузака не было. І ўсё... Гузак, праўда, быў, але больш нічога. Дык з чаго гэта Кашын раптам памрэ, калі яго дубовай рамай не заб'еш? Ён у лата яшчэ двухпакаёўку выйграе, зараза!

Сяўко ніколі ў жыцці нічога не выйграваў. Зусім нічога – нават меднага пятака ў арлянку. Загадае на рэшку – выпадае арол, загадае на арла – выпадае рэшка. Ніводнага разу не здаралася інакш, ніводнага! Ну, можа, пару разоў і шэнціла. Толькі ў такой драбязе, у якой і вераб'ю шэнціць. І калі Кашын выйграў кватэру – так Сяўко запякло! Але ўдвая гарачэй прысмажыла, проста душу запаліла кашынская шчодрасць: на табе кватэру за паўцаны! Проста як у вочы плюнуў – так сваю шчодрасць кінуў, ведаючы, што Сяўко не зможа адмовіцца. Бо як адмовішся?.. Што тады сын скажа, якому з дзіцём і жонкай няма дзе жыць? «Купляй тады сам мне кватэру, – скажа сын. – Калі гонару столькі». І Алёна яшчэ дадасць з крывенькай сваёй усмешачкай: «Гонар маеш, а грошай няма...»

Так, ён, Сяўко, мае гонар! Ён не Кашын, які ў лата гуляе! Ён ніколі да такога не апускаўся! А Кашын яшчэ і ў казіно бегаў! За якія такія, дазвольце спытаць, грошы? За свае? Адкуль у яго свае, калі Люба ў яго нават заначку выграбае?.. За тыя грошы, якія Сяўко яму за паўкватэры аддаў – вось за якія грошы Кашын разгуляўся! Паўкватэры ў казіно прасадзіў і захварэў! А то зараза ў яго...

Распаляў нутро падарункам сваім Кашын. Дапякаў. Астудзіць, заліць апёк нечым трэба было, але ж не піць... І не да скону ж муку праз шчодрасць кашынскую трываць. Разлічыцца трэба, пакуль не памёр, а чым?

Можа, карціну яму аддаць? Някрасава ў перыяд апошніх песень?.. Пасля таго, як карціна ўпала, Алёна яе й не вешала. Сказала ў падвал знесці. Гэта колькі гадоў прамінула... А карціны ў цане з часам толькі набіраюць. Тым больш – шэдэўры. Вунь за сланечнікі нейкія, Сяўко сам па тэлевізары бачыў, мільёны даюць, а тут пісьменнікі. Ды якія... Адзін Някрасаў на колькі пацягне, хоць і відаць, што хворы.

Някрасаў хворы. Кашын хворы.

Някрасаў памёр...

Сяўко схадзіў у падвал і прынёс карціну. Ачысціў яе ад павуціння і пылу. Паставіў на стол да сцяны, адышоў, глянуў – і здзівіўся. Але не з таго, што яго ўразіў схуднелы, белы пад белай прасцінай Някрасаў. Ён чамусьці запомніў, што каля Някрасава сядзяць Бялінскі, Міцкевіч і Дабралюбаў. Міцкевіч на канапе ў нагах Някрасава, а Бялінскі з Дабралюбавым – побач на зэдліках. Ці не: Дабралюбаў на зэдліку, а Бялінскі на крэсле. На гэтакім венскім, з гнутай спінкай...

Дык вось, нічога гэтага не было. Дакладней, яно ўсё было, але зусім не так, як помнілася. Дабралюбаў і Міцкевіч віселі на сцяне над канапай, адзін над левым плячом Някрасава – другі бліжэй да ног, а Бялінскі стаяў у галаве. І ён, Бялінскі, быў бюстам, а Міцкевіч з Дабралюбавым – партрэтамі. Бюстам і партрэтамі на карціне «М. А. Някрасаў у перыяд «Апошніх песень». Мастака І. А. Крамскога.

У падвале было сыравата – і карціна каля рамы ў тым рагу, якім Кашыну па галаве гвазданула, трохі абшалупінілася. Але праз тое яна здавалася яшчэ даўнейшай, яшчэ больш на шэдэўр выглядала. Нават шкада стала яе аддаваць. Ды нічога іншага, што мела б вартасць, роўную кошту паловы кватэры, у Сяўко не было. Таму ён абгарнуў карціну газетамі, абвязаў шпагатам і рушыў на вуліцу.

Ісці было няпроста. Калі спрабаваў несці карціну спераду, рама балюча біла па галёнках, ззаду – па лытках. Збоку адной рукой не ўтрымаць, дзвюма – спіну перакручвала. А ў яго радыкуліт. Ад радыкуліту, вядома, не памрэш, але праляжаць з ім можна болей, чым Кашын ляжыць са сваім... З чым сваім? Халера ведае, што ў Кашына за халера! Тут баішся, каб горш яму не стала, карціну прэш, шэдэўр, а там падхопіш што-небудзь... І прыйдзе Кашын адведаць?..

Дзверы кватэры, у якой жылі Кашыны, адчыніла незнаёмая жанчына ў халаце, худая і зморанач.

«Сядзелку нанялі...» – падумаў Сяўко і спытаў:

– Гаспадар дома?

– Дома, – няветліва адказала сядзелка. – А вы хто? Выдавец?

Сяўко разгубіўся.

– Чаму выдавец?

Сядзелка зірнула на яго злосна.

– Бо выдавец ганарар павінен прынесці! Вы прынеслі ганарар? Труну няма за што купіць!..

«Памёр!» – сціснула, сцяла Сяўко. І як нечакана сцяла – гэтак нечакана адпусціла. Зусім адпусціла, нібы провад з высокім напружаннем нехта ад галавы адняў. Горш, лепш, памрэ, не памрэ... Памёр – і ён першы, як сябар, каля нябожчыка. Як у свеце гэтым пастаноўлена, як павінна быць.

Але чаму ён першы? Трэба яму першым быць? Яшчэ скажуць, што ён толькі й чакаў, калі Кашын памрэ. За дзвярыма стаяў... І грошы трэба будзе адшкадаваць, труну ў іх няма за што купіць, а грошай пры сабе Сяўко не меў. А калі б і меў...

Яму захацелася павярнуцца і пайсці, ён нават спробу такую зрабіў, але злосная сядзелка ўхапілася за шпагат на ўпакаванай карціне:

– А гэта што?

– Карціна.

Сяўко прыціснуў пакунак каленам да сцяны, сядзелка цягнула яго да сябе.

– Якая карціна?

– Някрасаў у...

Ён забыўся, як называецца карціна. У перыяд... Які перыяд?

– Заносьце! – не стала гуляць з ім у перацягванне шпагата сядзелка. – Карціна дык карціна. Хоць нешта, калі не грошы.

Яна выйшла на лесвічную пляцоўку і, аказаўшыся ў сваёй худобе нечакана моцнай, упіхнула Сяўко ў кватэру. Ён пратупаў з вітальні ў пакой,

які быў у Кашыных гасцёўняй – і здранцвеў. На канапе каля сцяны, на трох высокіх падушках ляжаў пад белай прасцінай нейкі іншы, з барадой, зусім не падобны да Кашына нябожчык, а наўкол яго сядзелі незнаёмыя людзі. Адзін з іх, як і нябожчык, быў з барадой, толькі барада ў яго была меншая, такая бародка, другі – з бакенбардамі, а трэці без барады і без бакенбардаў, але ў акулярах.

– Вось... – шмыгнуўшы носам, сказаў адзін з іх, той, які ў акулярах. – Пакінуў нас... А мы спадзяваліся...

І той, які ў акулярах, і той, які з бародкай, і той, які з бакенбардамі – усе яны разам з нябожчыкам некага нагадвалі, Сяўко іх зусім нядаўна недзе бачыў, але дзе? «Хто яны, што ж гэта такое?..» – напружваўся, каб успомніць, Сяўко, азіраючы таксама нібы незнаёмы, абстаўлены старадаўняй і, пэўна ж, ой, якой не таннай мэбляй, пакой, а тут сядзелка штурхнула яго ў спіну: «Ды развязвайце, паказвайце...» – і Сяўко хіснуўся, ледзь не ўпаў, але не праз тое, што яго сядзелка штурхнула, праз іншае: гэта ж Някрасаў! А побач з ім Дабралюбаў з Бялінскім! І Міцкевіч! Вось што гэта такое! Усё, як на карціне, толькі не на той, якую ён прынёс, загарнуўшы ў газеты і перавязаўшы шпагатам, а на той, якая была ў ягонай галаве – і ажыла ў кватэры Кашыных! Бялінскі не быў бюстам, а Міцкевіч з Дабралюбавым не былі партрэтамі! Міцкевіч сядзеў на канапе ў нагах Някрасава, Дабралюбаў – каля канапы на зэдліку, Бялінскі – каля століка на крэсле. На гэтакім венскім, з гнутай спінкай...

Злева на століку, каля якога сядзеў Бялінскі, стаяў, чаго не было на карціне Крамскога, бо партрэты і бюсты не п’юць, дзьмуты штоф з кілішкамі. Літаратары выпівалі. Гулялі. Справа на століку ляжалі карты, пасярэдзіне – куча асігнацый.

А ім труну няма за што купіць...

Можна было б падумаць, што ён, Аляксей Сяўко, звар’яцеў, але, калі б яно было так, дык наўрад ці ён так бы думаў, бо вар’яты пра тое, што яны вар’яты, не думаюць, – гэта Сяўко вычытаў некалі ў некага з рускіх літаратараў. Тады што з ім?..

– Паказвайце, паказвайце... – казаў, дапамагаючы развязаць шпагат, бо ў Сяўко трэсліся рукі, той, які быў у акулярах. Мусібыць, Дабралюбаў. Ці, можа, Бялінскі, Сяўко са школы іх блытаў. – Пабачым, як Іван Мікалаевіч справіўся з кампазіцыяй. У яго з гэтым, між намі кажучы, не надта. Партрэтыст-та ён партрэтыст, а вось што да кампазіцыі...

– Няпраўда! – горача перапыніў, мусібыць, Дабралюбава той, які быў з бародкай. Мусібыць, Бялінскі. – Іван Мікалаевіч геній кампазіцыі!

– Пабачым, пабачым... – не стаў спрачацца з, мусібыць, Бялінскім, мусібыць, Дабралюбаў, і Сяўко падумаў, што такія культурныя людзі маглі б і назвацца, калі б не былі гэткімі ганарлівымі і не думалі, што іх і без таго ўсе ведаюць. Ну, у школе, можа, і ведалі, але калі тое было... А цяпер, калі й разбярэшся, хто з іх хто, дык не ўспомніш, як каго зваць. Нават гэтага з бакенбардамі. Мусібыць, Міцкевіча. – Вось, калі ласка! – развязаўшы шпагат і садраўшы газеты, якімі абгорнутая была карціна, пераможна ўсклікнуў Дабралюбаў. – І дзе вы бачыце тут генія кампазіцыі?

Дабралюбаў, сеўшы на зэдлік і прысланіўшы карціну да канапы, на якой ляжаў нябожчык, звярнуўся чамусьці не да Бялінскага, які з ім спрачаўся, а да Сяўко, які маўчаў, усё глыбей усведамляючы тое, што

бачыў, і ўсё болей не разумеючы таго, што ўсведамляў: гэтыя людзі ўсе, а не адзін Някрасаў, павінны былі памерці, бо яны даўным-даўно, яшчэ пра царызме, нарадзіліся! І на табе: жывыя, сядзяць у кватэры Кашына. А дзе Кашын, куды Кашын падзеўся?

Трэба шукаць Кашына. Выбірацца адсюль трэба, пакуль сам жывы. І шэдэўр, карціну забраць, хоць яна так сабе па кампазіцыі...

– Карціну вам не забраць, – прачытаў ягоныя думкі Бялінскі. – Бо яна не ваша.

Тое, што Бялінскі прачытаў ягоныя думкі, Сяўко, канечне, здзівіла, але не так, каб пакінуць нейкім штукарам карціну, якую нёс ён Кашыну.

– Яна мая! – цвёрда сказаў ён і Бялінскаму, і ўсім астатнім, падобным да рускіх літаратараў і польскага паэта ілюзіяністам, штукарам, якія, невядома скуль узяўшыся, пасяліліся ў кашынскай кватэры. – Яе мая жонка ў Піцеры купіла!

Бялінскі паківаўся на венскім крэсле.

– Цікава... І што яна рабіла ў Піцеры?

– Да брата ездзіла. Да стрыечнага. Ён у Эрмітажы...

Сяўко асёкся. Не расказваць жа, што стрыечнік Алёны скраў карціну з Эрмітажу.

– І не расказвайце, – неяк гадзенька ўсміхнуўся Бялінскі. – Карціну стрыечнік вашай жонкі не краў, бо не мог яе ўкрасці, працуючы электрыкам у Эрмітажы. Гэтая карціна з Трацякоўскай галерэі.

Логіка ў Бялінскага была дзіўная: чаму гэта электрык з Эрмітажу не можа ўкрасці карціну ў Трацякоўскай галерэі? Няхай нават тая галерэя ў Маскве, а не ў Піцеры – гэта Сяўко ведаў. Але тады выходзіць (і праз тое, мусіць, Бялінскі і ўсміхаецца гадзенька), што Алёна ездзіла не ў Піцер? У Маскву – і не да стрыечніка? І карціна – не ад яго?..

Бялінскі паскубаў бародку.

– Цікавы ў вас кірунак думак... Ды карціна ў любым выпадку не ваша.

– А чыя?

– Нічыя, – не расплюшчыўшы вачэй, ціха сказаў нябожчык. – Яна ў банку.

Тое, што нябожчык хоць і ціха, але загаварыў, нікога не ўразіла. Нават Сяўко не ўразіўся, бо не зразумеў:

– У якім банку?

Нябожчык, ледзь прыпадняўшы руку, паказаў на кучу асігнацый і карты.

– У гэтым. У вас жа, апроч карціны, няма чаго ў банк паставіць... Згуляем?

Сяўко не гуляў у карты, ён ні ў што не гуляў, нават у лато, і збіраўся сказаць, што ні ў што не гуляе, але не паспеў.

– Не адмаўляйцеся! – падхапіўшыся з крэсла, парывіста абняў яго Бялінскі і зашаптаў на вуха. – Нечаканка ў Маскве! Раптам мэра пагналі! Казіно ўсе пазачынялі!

– Куды пагналі?.. – паспрабаваў Сяўко адштурхнуць няўрымслівага Вісарыёна (во, успомніў: яго Вісарыёнам завуць! Ніколі б не падумаў, калі б не ўспомніў!), а той павіс на ім:

– У Лондан! Як Герцана! Дык мы да вас! Вы не ўяўляеце, чаго нам гэта каштавала! Колькі здароўя адняло ва ўсіх, асабліва ў Някрасава!..

– Якое здароўе, калі памёр... – ледзь выкруціўся Сяўко з парывістых абдымкаў Бялінскага, каб адразу патрапіць у палымяныя абдымкі Дабралюбава, які ўскочыў са свайго зэдліка.

– У нейкім сэнсе памёр! Толькі ў нейкім сэнсе, бо ён геній! А геніі несмяротныя!

Нябожчык, як здалося Сяўко, слязу пусціў.

– Любоў да цябе асвяжыла маё сэрца!.. Як шкада, што ты памёр раней за мяне, ах, як шкада! – працягнуў ён рукі да Дабралюбава, які спытаў Сяўко:

– Вы чыталі «Апошнія песні»?

Апошніх песень Сяўко не чытаў. Някрасава ён ведаў толькі таму, што той – гэта Сяўко са школы помніў – уславіў працоўны подзвіг простага беларуса на будаўніцтве чыгункі.

– І-мен-на! – усклікнуў Дабралюбаў, прачытаўшы ягоныя думкі. Яны ўсе ўмелі думкі чытаць, так што незразумела, навошта кнігі пісалі. – А хто яшчэ ва ўсёй сусветнай паэзіі ўславіў працоўны подзвіг простага беларуса на будаўніцтве чыгункі? Вось ён уславіў? – ткнуў Дабралюбаў пальцам у, мусібыць, Міцкевіча, які сядзеў у нагах нябожчыка і маўчаў. – Не ўславіў! А чаму?..

– Бо паляк, – сказаў Бялінскі. – Не рускі.

Міцкевіча гэта зачапіла.

– Пры чым тут: паляк, не рускі?.. – упершыню падаў ён голас. – Пры мне чыгункі не было.

– А пры ім не было беларусаў! – нахіліўся Бялінскі да нябожчыка. – Але ж ён напісаў! Прадбачыў! Геній!.. – і павярнуўся да Міцкевіча. – А ты не прадбачыў.

З апошніх слоў вынікала, што Міцкевіч не геній, і той ускрыўдаваў.

– Як гэта беларусаў не было?.. Я сам беларус!

Бялінскі скрывіўся:

– Ведаем, які ты беларус...

– Самы натуральны! – усхапіўся з канапы Міцкевіч. – Нальшанскі! З Наваградку!..

– Без юдафобіі! – стаў паміж імі Дабралюбаў. – Абрыдла!.. – і кінуў Міцкевічу. – Быў бы беларусам, пісаў бы па-руску! Як Пушкін.

Апошніх слоў Дабралюбава Сяўко не зразумеў. Міцкевіч, падобна, таксама. Відаць было, як ён шукаў, што адказаць Дабралюбаву, але не знайшоў і зноў сеў на канапу, пасунуўшы нябожчыка.

– А-а-а! – узняў палец угору Дабралюбаў. – Я ж казаў!

Што ён казаў?..

– Пра беларусаў мала пішуць, – скрушна прамовіў нябожчык. І, памаўчаўшы, дадаў. – Я напісаў два радкі – і столькі шуму.

Усе заківалі галовамі: маўляў, так, зусім мала пішуць пра беларусаў, і ўсе глядзелі на Сяўко, нібы нечага чакаючы, а ён глядзеў на ўсіх: чаго?

– Падыдзі і дзякуй скажы, – штурхнуў яго ў бок Дабралюбаў. – Падыдзі і скажы!..

Сказаць, канечне, можна, толькі за што ён павінен дзякаваць? Не ягоны ж працоўны подзвіг нябожчык уславіў, дый не было за Сяўко ніякіх подзвігаў, не лічыць жа подзвігам завалены мост, але, паколькі сітуацыя і без таго напружвалася, ён вырашыў яе не абвастраць. Падышоў і падзякаваў.

– Няма за што... – сказаў нябожчык, і Міцкевіч буркнуў: «Сапраўды...», – чаго нябожчык не пачуў ці не захацеў пачуць, спытаўшы Сяўко. – А вы не маглі б маскоўскага мэра вярнуць? Ну, калі не самі, дык праз некага?

Як ён маскоўскага мэра верне?.. Праз каго?.. Ён і мінскага не вярнуў бы, калі б таго пагналі. Вунь ён Зусману напісаў, бо дырэктар інстытута папрасіў, каб той вярнуўся – Зусман не адказаў нават. А дырэктар, дазнаўшыся, што Зусман нават не адказаў, яшчэ й кпіны строіў: "Не пава-а-жае вас Зусман..." І па плячы паляпваў.

Усё жыццё нехта па плячы паляпвае.

Нябожчык уздыхнуў, нібы ведаў, што гэта такое, калі цябе ўсё жыццё паляпваюць па плячы, і ўзяў карты са століка.

– Зусмана мы можам вярнуць... Згуляем? Ваш выбар: брыдж, покер, прэферанс? Выйграеце – ваш Зусман.

На якую халеру яму Зусман? І як яны могуць вярнуць яго? А калі й могуць, дык няхай з дырэктарам гуляюць. Гэта дырэктара без Зусмана, бо маставікоў зусім не засталося, з інстытута пагнаць могуць. Як мэра з Масквы.

– Я табе пагуляю! Я табе рукі павырываю! – накінулася на нябожчыка, нібы забіць яго хацела, худая і змораная жанчына, ніякая не сядзелка, бо якая сядзелка гэтак накінецца, толькі жонка. – Усё спусціў, пахаваць няма за што!

– А нашто яго хаваць? – рассмяяўся Міцкевіч. – Ён і так добра ляжыць.

Не падобна было, што ён сядзіць каля ложа Някрасава па-сяброўску. Калі б Някрасаў быў жывы, дык можна было б падумаць, што Міцкевіч чакае, пакуль той сканае.

Нябожчык не пакрыўдзіўся.

– Ведаеш, чаму я захаваўся, як новы? – весела спытаў ён Міцкевіча. – Бо памёр пад Новы год! У Расіі! У люты мароз!

– Дык і я, здаецца, не летам... – паспрабаваў успомніць, калі ён памёр, Міцкевіч, а Дабралюбаў пырхнуў, як на марозе:

– Ага, у Візантыі! Калі ў той Візантыі лютая зіма была?..

Гэтых рускіх паслухаць, дык Візантыя горшая за Расію, бо там цёпла. І не замерзнеш, калі памрэш. Хоць звягаюцца яны з палякам, канечне, не праз тое... Не надта яны, падобна, адзін аднаго любяць. Дый калі рускія любілі палякаў? Ці палякі рускіх?..

– Памёр, а ўсё тое самае! – не супакойвалася худая і змораная. – Дык гэтакі жывы – яшчэ туды-сюды, а гэтакі мёртвы мне нашто? Сыду – і сам сябе хаваць будзеш!

– Мяне народ пахавае, – падміргнуў Някрасаў разгубленаму Сяўко. – Пахавае мяне беларускі народ?

– Пахавае, – сказаў Сяўко, каб худая да нябожчыка не чаплялася. – Беларускі народ каго хочаш пахавае. Хоць самога сябе.

Някрасаў склаў на грудзях рукі з картамі, уздыхнуў:

– Самога сябе пахаваць нельга. Трэба, каб нехта дапамог.

– Палякі дапамогуць, – пазлядзеў Бялінскі на Міцкевіча, які буркнуў: "Ага, як вы нам..." – а худая зноў накінулася на нябожчыка: "І чаго ты ў Мінск мяне прыпёр, калі памёр?!."

Вось чаго яна да вялікага рускага паэта прычапілася?.. Ну, памёр, але ж не кінуў... Гэтак Люба на Кашына накідвалася, калі той загульваў, і

Сяўко падумаў, што вось людзі ў кватэры Кашыных зусім іншыя, рускія літаратары, адзін нават польскі паэт, а жыццё тое самае. Значыць, ад таго, што мяняюцца людзі, яно, жыццё, не мяняецца? Якім было да рускіх літаратараў і польскіх паэтаў, такім і пасля іх застанецца?..

І пасля яго?.. І пасля Кашына?.. І дарма нехта думае, што ён такі... ну, не гэтакі, як іншыя?.. Не, дудкі, гэткі самы, і Кашын праўду на сходзе сказаў, што ўсе вартыя толькі прыбіральні прыдарожныя праектаваць – і то на адно ачко.

А якія прыдарожныя прыбіральні ў Ізраілі?..

– У ачко! – падумаўшы пра прыбіральні ў Ізраілі, нечакана для самога сябе рашуча сказаў Сяўко. – Калі гуляем, дык у ачко!

– Чаму ў ачко?.. – спытаў, бо Кашына на сходзе не чуў, Міцкевіч, а худая, падняўшы карту, якая выпала з калоды, калі Някрасаў рукі складваў, амаль узмалілася: «Не гуляйце вы з імі!.. Круцялі яны! Махляры!..»

– Фёкла праўду кажа! – пачаў мяшаць карты нябожчык. – Ведаеце, які я махляр! Які круцель! Ды большага за мяне круцяля і махляра ва ўсёй рускай літаратуры не было! І гэта мой, калі хочаце ведаць, найвялікшы гонар! А не нейкія там два радкі пра беларуса... Вы, дарэчы, беларус?

Не так даўно быў перапіс насельніцтва, і паненцы, якая прыйшла яго перапісваць, Сяўко сказаў, што ён беларус. Збіраўся сказаць, што рускі, а сказаў, што беларус, сам не разумеючы, чаму... Можа быць, паненка гэтак выглядала, што ёй нельга было сказаць: я рускі.

– Беларус.

– Волосом рус, видишь, стоит, изможден лихорадкою, высокорослый, больной белорус: губы бескровные, веки упавшие, язвы на тощих руках, вечно в воде по колено стоявшие ноги опухли, колтун в волосах! – прадэкламаваў Бялінскі. – Геніяльна!.. Ліхарадка, язвы, калтун!.. – і прапанаваў Сяўко. – Вы сядайце на маё крэсла, я ў ачко не гуляю.

Нябожчык, хоць Бялінскі і пахваліў ягоныя вершы, насупіўся.

– Геніяльна... Гэта цяпер – геніяльна! А як было, нагадаць? «Думкі пра аўтара зборніка «Мары і гукі» зводзяцца да аднаго: пасрэднасць у вершах невыносная». Такое пра мяне, пра маю кнігу!.. Я скупіў, спаліў увесь наклад! Колькі грошай згарэла... А ён яшчэ ў ачко не гуляе! Чаму?

Бялінскі не стаў вінавáціцца ў колішніх грахах.

– Бо ачко – гульня жулікаў.

Фёкла, худая і зморaная жонка нябожчыка, падбачэнілася.

– А вы хто?.. Жулікі і ёсць.

Нябожчык жэстам запрасіў Сяўко сесці на месца Бялінскага.

– Вось я жонку з вёскі ўзяў. У горад вывез. І што? Дзе ўдзячнасць? Хай бы там і сядзела... Яна ў мяне другая, першая гарадская была, блакітная кроў. Са шляхты, – зняважліва зірнуў ён на Міцкевіча. – Дарма я з ёй развёўся, хоць мы і не вянчаліся. Рэўнасць заела!.. – і ён прадэкламаваў нібы назло Фёкле: «Мы разошлись на полпути, мы разлучились до разлуки и думали: не будет муки в последнем роковом «прости». Но даже плакать нету силы. Пиши – прошу я одного... Мне эти письма будут милы, и святы, как цветы с могилы, с могилы сердца моего!»

– Геніяльна! – усклікнуў Бялінскі. – Мука! Разлука! Магіла!.. – болей ён, падобна, не ведаў, што сказаць, а пакрыўджаны Міцкевіч пракінуў пагардліва, як палякі ўмеюць: “Вы б лепей оду вешальніку прачыталі!” Гэта не спадабалася ні Някрасаву, ні Бялінскаму, ні Дабралюбаву, які хоць

і прамаўчаў, але паглядзеў на Міцкевіча як на чалавека, якога нельга запрашаць у кампанію, дзе нябожчыкі вершы чытаюць.

– Жулікі... – доўжыла сваё, нібы не чула ніякіх вершаў, Фёкла. Во кватэру гэтую выжулілі... І дзе тут карціну вешаць? – Ты скажы мне, Коля: мы тут, у правінцыі, жыць збіраемся?

Нябожчык задумаўся, нібы ўспамінаючы нешта, пасля прадэкламаваў:

– Мятеж прошёл, крамола ляжет, в Литве и Жмуди мир взойдёт... – і рукой махнуў. – Нідзе я не збіраюся жыць! Толькі паміраць. Так лепей, усе шкадуюць.

Сяўко ў яго ўперыўся.

– Вы выйгралі гэтую кватэру ў карты? У Кашына?

– Выйграў. А ў Кашына, не ў Кашына... Хто ён такі, каб помніць?

Гэта Сяўко спадабалася больш, чым вершы. А то гонару ў Кашыне шмат: маставік незаменны!

Ніхто не іншы, не інакшы. Усе аднолькавыя.

Усё залежыць ад таго, як карта пакладзецца. Да каго якая. А гэта ў залежнасці ад таго, на якім месцы сядзіш.

Сесці на месца Бялінскага – адна карта, на іншае – іншая.

Дастаткова дзве карты, каб вярнуць кватэру Кашыну – і хай сабе ён хоць памірае, хоць не! Калі ўгадаць, дзе сесці, дык Кашын будзе Сяўко паўкватэры вінен, а не Сяўко яму!

– Гуляем з умовай, – сказаў Сяўко нябожчыку. – Карціна супраць кватэры.

Ён перакананы быў, што ці нябожчык, ці нехта іншы з рускіх літаратараў пачне спрачацца, стане пярэчыць, але ніхто ні спрачацца, ні пярэчыць не стаў. Толькі Дабралюбаў здзівіўся:

– Навошта вам гэты катух? Вунь грошай колькі ў банку! Сапраўдных, яшчэ царскіх!

У кучы асігнацый царскія чырвонцы ды кацярынкі былі перамешаныя з беларускімі рублямі. Кашын, мусібыць, не толькі кватэру прайграў. Але гэта ўжо ягоная праблема.

Чамусьці не хацелася Сяўко на крэсла сядаць. Хоць месца гэтае было найлепшае. А вось не хацелася сядаць на яго – і ўсё.

– Можна я на ваш зэдлік сяду? – спытаў ён Дабралюбава. – А вы на маё крэсла.

– Крэсла маё! – падскочыў да яго Бялінскі. – Тое, што я прапанаваў вам на яго сесці, не азначае, што яно ваша! А тым больш Дабралюбава!

Выглядала на тое, што і гэтыя адзін аднаго не надта любяць, хоць абодва рускія.

І палякі адзін аднаго любяць не надта. Быў Сяўко ў Польшчы.

Нелюбові ў людзей няма толькі да тых, каго няма.

Вось не было беларусаў – іх любілі. А з'явіліся...

Для чаго з'явіліся беларусы?.. І Сяўко раптам падумаў, што беларусы з'явіліся, каб рускім і палякам было каго любіць.

Думка гэтая незвычайна яго ўразіла. Ён увогуле ніколі, калі не лічыць выпадка пры перапісе насельніцтва, пра сябе як пра беларуса не думаў. Не да галавы было. І вось падумаў. Прычым не пра сябе аднаго, а як бы пра сябе разам з усімі. Пра сябе як пра беларуса, прыналежнага да іншых беларусаў. Да таго ж Кашына...

Чаму?

Бо штукары гэтыя ўлезлі ў кашынскую кватэру – вось чаму! Яны тут не гаспадары, а ўлезлі! Ды яшчэ ўказваюць, дзе яму сядаць! У Расіі сваёй указвайце! У Польшчы!

– Ніхто вам нічога не ўказвае, – не згадзіўся з ягонымі думкамі нябожчык. – Хочаце на зэдлік – сядайце на зэдлік. «Паміж Польшчай і Расіяй бульба беларуская!..» – раптам заспяваў ён, відавочна павесялеўшы і нібы забыўшыся, што памёр.

«Паперці б іх... – падумаў Сяўко. – Дык гуляць не будзе з кім. Ні прайграць, ні выйграць...» І ён сеў на зэдлік паміж Дабралюбавым, які заняў крэсла, і Міцкевічам, які застаўся на канапе ў нагах нябожчыка. Паміж Расіяй і Польшчай сеў. На сваё гістарычнае месца.

– Як заўсёды... – сказаў, дамяшаўшы калоду, нябожчык, даў Міцкевічу зняць і пачаў здаваць.

– Вы не падсеклі! – перахапіў ягоную руку Дабралюбаў.

– Падсек!

– Не падсеклі! – падтрымаў Дабралюбава Міцкевіч, і нябожчык перастаў спрачацца, сабраў карты і ўздыхнуў вінавата. – Круцель я, махляр! І зрабіць з сабой не магу нічога. Рускі... Давайце вып’ем.

«Падпаіць хоча, – падумаў Сяўко. – Каб не заўважалі, як махлярыць. Ну, жулік...»

– А вось і не! – узяў штоф і наліў кілішкі нябожчык. – Што жулік – згодны, а выпіць хачу проста так. Проста хачу выпіць. – І ён падняў кілішак, але Міцкевіч проста так выпіць яму не даў, ускочыў са сваім кілішкам:

> Бокал заздравный поднимая,
> Ещё раз выпить нам пора
> Здоровье миротворца края...
> Так много ж лет ему... Ура!

– і кінуў кілішак, зрабіўшы выгляд, што той з рукі выслізнуў, на падлогу, а Някрасаў сказаў услед Фёкле, якая аскепкі сабрала і на кухню панесла: “Вось бачыш, Фёкла, я оду напісаў Мураўёву, які беларусаў і палякаў вешаў, дык палякі мяне не любяць”, – і чокнуўся з Сяўко: “За Расійскую Імперыю!”

Сяўко выпіў – нічога з ім з таго кілішка, калі, канечне, нябожчык нечага не падсыпаў, не станецца – а пасля падумаў: «За якую імперыю? Няма ж ніякай імперыі. Была, калі Мураўёў беларусаў і палякаў вешаў, а цяпер няма...»

– Няма дык няма, – паставіў нябожчык кілішак. – Але ж выпілі.

Міцкевіч глядзеў на Сяўко здзіўлена.

– Выходзіць, беларусы тых, хто іх вешаў, любяць?.. Вы чаму выпілі за імперыю?

– Бо выпіць захацеў! – сунуў нябожчык Міцкевічу калоду, каб зняў. – Дастаў ты мяне з гэтай одай, Адам! Амаль як Герцэн. – І спытаў не Міцкевіча, а Сяўко. – Вы як да Герцэна?.. Любіце?

Сяўко не ведаў, як ён да Герцэна... За што яго любіць? Ён што: маставік?

– Ён якраз думае, што маставік, – падсек калоду Някрасаў. – Будуе мост з Еўропай.

Пра Герцэна, які мост з Еўропай будуе, Някрасаў загаварыў, мусібыць, для таго, каб Міцкевіч ад Сяўко адчапіўся, але той не адчапляўся.

– Вас вешаў Сувораў, вешаў Мураўеў, – а вы...

Сяўко адчуў сябе няёмка. Не праз тое, што Сувораў з Мураўёвым беларусаў вешалі, а ён за імперыю выпіў, гэта ён машынальна, а што схапіўся за кілішак гэтак сквапна, нібы не піў ніколі. Лыкнуў чужое, як свайго няма...

– І не пераймайцеся! – здаў па першай карце нябожчык. – Халява заўсёды смачнейшая. Палякі таксама халяўшчыкі, толькі з пыхай.

Міцкевічу і Сяўко ён паклаў карты на канапу, Дабралюбаву і сабе – на столік. Сяўко падняў першую карту – бубновы туз! Вось што значыць сесці на сваё гістарычнае месца! На мост з Еўропай! Божа, пашлі да туза дзясятку!

– Гэта вы дарэмна, – паківаў галавой нябожчык. – Бог у карты не гуляе.

Ну, як з імі гуляць? Калі яны ўсё, што падумаеш, ведаюць...

– А вы не думайце, – прапанаваў Дабралюбаў, і Сяўко, павярнуўшыся да яго, паспеў заўважыць, што Дабралюбаву таксама прыйшоў туз. І таксама бубновы. Як гэта: у адной калодзе два бубновыя тузы?

– А вы як хацелі? – спытаў нябожчык. – Каб быў адзін?.. Тады выкіньце вашага.

Туза выкінуць?.. Знайшлі дурня. Да туза няхай не дзясятка, а дзявятка, васьмёрка – і ўжо гульня.

– Чаму я павінен свайго выкінуць? Няхай Дабралюбаў свайго выкіне.

Дабралюбаў, ці, мусібыць, Дабралюбаў адсунуўся ў крэсле і паглядзеў на Сяўко непрыязна.

– Скуль вы выдаеце, што я Дабралюбаў?

– А!.. – падскочыў нябожчык. – Дабралюбаў, не Дабралюбаў! Сувораў, Мураўёў!.. Вы падглядваеце адзін у аднаго! А яшчэ мяне круцялём называеце!

Хто яго круцялём называе? Ён сам сябе круцялём назваў.

Падскочыўшы, нябожчык махнуў прасцінай і перавярнуў сваю карту на крайку стала: бубновы туз!

– У мяне таксама, – паказаў бубновага туза Міцкевіч. Чацвёртага ў калодзе.

Нябожчык развёў рукамі

– Вось бачыце... Ва ўсіх тузы. А то круцель, махляр... Нічыя!

– Як нічыя? – не згадзіўся Сяўко. – Гэта ж не шахматы. І не шашкі.

Дабралюбаў зноў у яго ўчапіўся з той жа непрыязнасцю.

– Скуль вы ведаеце, што не шахматы і не шашкі? Карты выпадкова карты. Карты маглі быць шахматамі. Ці шашкамі. А шахматы ці шашкі – картамі.

«Яны ўсе тут заадно!» – падумаў Сяўко, не зразумеўшы таго, што сказаў Дабралюбаў, і запатрабаваў, паклаўшы руку на свайго бубновага туза:

– Яшчэ!

Імгнення не прамарудзіўшы, нябожчык кінуў яму карту на канапу:

– Калі ласка!

Сяўко падняў карту: бубновы туз! Ачко!

– Якое ачко? – насунуўся на яго нябожчык. – У вас двац-цаць два! Пе-ра-бор!

Дзе ж перабор, калі ў такім выпадку туз ідзе за дзясятку?

– Які перабор... – пачаў Сяўко, а нябожчык кінуў калоду:

– Якая дзясятка? Туз гэта туз! Адзінаццаць плюс адзінаццаць! Дваццаць два! І ўвогуле: скуль у вас другі бубновы туз? З другой калоды падклалі? У палякаў прыхапілі? – падняў і, паглядзеўшы, паклаў ён карту Міцкевіча. – Ведаў бы, што беларусы стануць такімі махлярамі, радка б пра вас не напісаў! – І нябожчык заклікаў у сведкі Дабралюбава з Міцкевічам. – Вось глядзіце: у нас па адным бубновым тузе, а ў яго два! Як такое можа быць? Круцель! Вон круцяля! Як можа быць такое?

«Сапраўды...» – падумаў Сяўко, адчуваючы, што яму мазгі закліньвае, і павярнуўся да Міцкевіча, каб разам з ім выкрыць гэтых рускіх, а Міцкевіч адпстрыкнуў сваю карту, паказваючы, што гульня скончаная, і Сяўко раптам зразумеў, што і палякі ў змове з рускімі супраць беларусаў, а яму, дурню, здалося, што палякі змовіліся з рускімі беларусаў любіць...

– Я ж вам казала... – увайшла і паставіла на столік паднос з гарбатай і цукеркамі жонка нябожчыка. – Я ж вам казала...

Што яна казала?..

– Дык хто выйграў?.. – спытаў Сяўко ва ўсіх, і ўсе ад яго адвярнуліся, хто куды. – Чыя кватэра?.. Чыя карціна?..

Не гледзячы на яго, яму азваўся Міцкевіч.

– Нічые. Усё ў гэтым свеце нічыё. Вы яшчэ не зразумелі?

– Фёкла, правядзі госця, – лёг на падушкі нябожчык. – Стаміўся я.

Стаміўся ён... Памёр і стаміўся.

Трэба йсці, калі выпраўляюць. Не чакаць жа, пакуль у каршэнь папруць. Вунь іх, мужыкоў, хоць і нябожчыкаў, чацвёра ды яшчэ гэтая баба худая. Яна нібыта й не за іх, але не надта й за яго...

Сяўко падняўся і на аслаблых нагах, якія да ўсяго, як яму падалося, скрывелі, бо чапляліся адна за адну, падаўся да дзвярэй, у якіх успомніў, што не ўзяў карціну. Не пакідаць жа, калі нічыя...

Ён вярнуўся. У пакоі, дзе толькі што яго дурылі рускія літаратары з польскім паэтам, стаяла канапа, на якой ляжаў Кашын. У ягоных нагах сядзеў на канапе Каржакевіч, на венскім крэсле ў галаве Кашына – Маслюк, а збоку на зэдліку – Зусман. Увесь аддзел маставікоў іх праектнага інстытута – і ўсе яны, павярнуўшыся ў адзін бок, глядзелі на Любу, якая наводзіла на іх вочка фотаапарата.

– Во якраз і Сяўко, – падняўся з зэдліка Зусман, якога тыя махляры, якія толькі што тут былі, невядома як, але вярнулі з Ізраіля. – Я каля Маслюка стану, а ты сядай на маё месца. Паміж Польшчай і Расіяй!

Гэта ён намякаў на тое, што Каржакевіч – паляк, а Маслюк – рускі. Знайшоў з кім прапанаваць сесці... Ведаў бы гэты Зусман, які заўсёды бліжэй да начальства месца выбіраў, таму і ў Ізраіль з'ехаў, побач з кім ён, Сяўко, толькі што сядзеў!

– Ну і што?.. – спытала Люба. – Гэтакі ўжо гонар побач з нейкімі старасвецкімі паэтамі пасядзець! Хто іх зараз чытае, усе тэлевізар глядзяць... – і яна нацэліла фотаапарат. – Ты карціну адсунь, замінае.

Не, Люба не жанчына культуры, добра, што ён з ёй не ажаніўся. Яна карціну мастака І. А. Крамскога «М. А. Някрасаў у перыяд «Апошніх песень» ні за 130, ні за 85 рублёў не купіла б! Задушылася б яна за 130 рублёў, гэта табе не Алёна...

Не пытаючыся, скуль Люба пра ягоныя пасядзелкі са старасвецкімі

паэтамі ведае (мусібыць, Зусман, які не толькі да начальства бліжэй ладзіцца, але і ў кожную шчылінку зазірнуць не праміне, прабалбатаўся), Сяўко пажадаў гаспадару папраўляцца, забраў карціну і рушыў з кватэры, якую Кашын прагуляў Някрасаву ў карты, але пасля, падобна, у нешта адгуляў. Толькі не ў карты, бо Кашын нават у дурня гуляць не ўмее. Хоць, калі паглядзець на ўсё з іншага боку, дык як сказаць...

У вітальні яго чакала Фёкла. «Я ж вам казала...» – пачала яна... і нечакана кінулася яму на шыю, пачала плакаць, цалаваць, шаптаць са слязьмі і пацалункамі, што ніколі не кахала Някрасава, гэтага махляра, нягодніка, п'янтоса і бабніка, а ўсё жыццё чакала яго, Сяўко, і за Някрасава яна пайшла, бо той напісаў вершы пра беларуса, з якім яе – пра што яна ведала, у яе сястра варажбіткай была! – звядзе некалі лёс, і вось яны нарэшце сустрэліся, але позна... «Позна!» – крыкнула, закаціўшы вочы, худая, змораная жанчына, якую прыняў Сяўко за сядзелку Кашына, а яна аказалася ці то жонкай, ці то ўдавой Някрасава, якога не кахала, чакала ўсё жыццё Сяўко, павісла на ягонай шыі – і раптам пачала вяла спаўзаць, бялець на вачах; Сяўко падумаў, што ў яе прыпадак, паклаў на падлогу, кінуўся на кухню па ваду, вярнуўся, схіліўся над гэтай дзіўнай жанчынай, прыпадняў яе, каб даць папіць, а яна не дыхае...

Сканала!..

Сяўко прыйшоў сюды, бо тут, у гэтай кватэры, павінен быў памерці Кашын, а памерла Фёкла... Вось як яно так?.. Гэтай жанчыны, якая, памёршы, не выглядала ні худой, ні зморанай, а зусім нішто сабе, не стала яшчэ ў пазамінулым стагоддзі – дык як яна магла памерці цяпер? Ніяк не магла... Але ўсё адно трэба выклікаць "хуткую", бо, можа, Фёкла не зусім памерла, міліцыю клікаць – во карціна ў перыяд апошніх песень!..

Сяўко ўзяў карціну, пераступіў цераз Фёклу, якая ляжала на падлозе ўпоперак вітальні, адчыніў і зачыніў за сабой дзверы. З хвіліну ён хістаўся, намагаючыся ўцяміць, дзе ён толькі што быў, і што там, дзе ён быў, з ім адбылося?.. Так і не ўцяміўшы, выраўняўся і асцярожна пачаў спускацца па лесвіцы.

На лесвічнай пляцоўцы паміж другім і першым паверхамі стаяў барадаты мужык з пакункам, абгорнутым газетамі і перавязаным шпагатам.

– Прабачце, на хвілінку... У вас вось гэта, – кіўнуў ён на карціну, – падробка. Я не хачу, каб вы на катаргу пайшлі.

Мужык з пакункам стаяў так, што не прайсці, і Сяўко прыпыніўся.

– А вы хто?

Мужык падцягнуўся.

– Дазвольце адрэкамендавацца: Крамской Іван Аляксеевіч. Мастак. Так-так, мастак, – заспяшаўся ён, убачыўшы, што Сяўко шукае спосабу абмінуць яго. – Аўтар карціны, копія якой у вас у руках. – І падсунуў да Сяўко пакунак. – Я прапаную вам арыгінал.

– У нас няма катаргі, у нас хімія, – паспрабаваў Сяўко ўсё ж абысці мужыка, відавочна ненармальнага ці алкаша, які недзе нешта скраў і спрабуе скрадзенае прадаць, каб пахмяліцца, а той пачаў здзіраць з пакунка газеты.

– Вам гэта больш, значна больш спадабаецца! І жонцы вашай глянецца, мяркую...

Ён садраў газеты – і Сяўко ўбачыў сябе. Не аднаго сябе, бо на карціне – а гэта была карціна – былі яшчэ іншыя людзі, але найперш Сяўко

ўбачыў самога сябе. Ён нахіліўся, каб лепей сябе разгледзець, і прачытаў пад карцінай надпіс...

Карціна называлася: «А. Міцкевіч, А. Дабралюбаў, В. Бялінскі і А. М. Сяўко каля ложа М. А. Някрасава ў перыяд «Апошніх песень».

У Сяўко ажно галава закружылася... Во гэта кампанія! Гэта вам не праектны інстытут, не пяцёра маставікоў!

– А як вы... скуль вы... – пачаў ён падбіраць словы, каб спытаць вялікага рускага мастака, якога ледзь не прыняў за алкаша, за злодзея, скуль жа той ведаў столькі гадоў назад, што Сяўко пазнаёміцца з Міцкевічам, Дабралюбавым, Бялінскім і будзе гуляць з імі ў карты каля ложа Някрасава, а вялікі рускі мастак угадаў ягонае пытанне:

– Прадбачыў.

Во гэта геній! А Бялінскі: кампазіцыя, кампазіцыя...

– І што цяпер... як... – зноў замямліў Сяўко, любуючыся сабой на зэдліку паміж Міцкевічам і Дабралюбавым каля ложа Някрасава, у галаве якога стаяў, бо не меў на што сесці, не на столік жа сядаць, Бялінскі (стаіць Бялінскі!), і геніяльны рускі мастак зноўку ўсё ўгадаў:

– Ды ніяк. Забірайце. І прывітанне вашай жонцы... Прыемная ва ўсіх адносінах дама, я з ёй у Маскве сустракаўся.

Во як! Усё ж Алёна была ў Маскве, а не ў Піцеры!.. І цягалася з гэтым...

– Чаму цягалася?.. – не спадабалася тое, як падумаў Сяўко пра жонку, мастаку Крамскому. – Мы з ёй міла бавілі час. Яна... як бы гэта вас не пакрыўдзіць... яна казала, што ніколі вас не кахала, усё жыццё чакала мяне. Вельмі шкадавала, што я памёр.

Гульнула! Ды яшчэ з нябожчыкам! Ну, Алёна! Усё ёй бары-бэры!..

– Добра, – прысланіў Сяўко да парэнчаў копію. – Мяняемся, калі так.

Ён узяў арыгінал і, нават дзякуй не сказаўшы мастаку І. А. Крамскому, які, чакаючы падзякі, прыўзняў капялюш, выйшаў на вуліцу.

Існі было няпроста. Калі спрабаваў несці карціну спераду, рама балюча біла па галёнках, ззаду – па лытках. Збоку адной рукой не ўтрымаць, дзвюма – спіну перакручвала... І раптам Сяўко здалося, што ў каторы раз, не толькі сёння, а ўчора і заўчора, тыдзень, месяц, год і дваццаць гадоў таму, ад самага дня народзінаў ён цягаецца з гэтай непатрэбнай яму карцінай, якая б’е і б’е па галёнках і лытках – і не можа яе выкінуць, бо некалі яна каштавала 130 рублёў, а цяпер ён на ёй намаляваны разам з Някрасавым. І што з таго?.. Ну хоць бы 1300 рублёў яна каштавала, а ён быў намаляваны на ёй хоць з Папам Рымскім – што з таго? Нічога. Папа – гэта Папа, 1300 рублёў – гэта 1300 рублёў, а ён, Сяўко, – гэта ён, Сяўко. І яго самога значна болей без Папы і карціны, бо яны сцягваюць увагу з яго на сябе – вунь усе разявакі на вуліцы на карціну зыркаюць, а не на таго, хто яе нясе. І нават без 1300 рублёў яго болей, бо, калі ён мае 1300 рублёў, дык выходзіць, ці ва ўсялякім выпадку ўсе гэтак думаюць, што столькі ён і каштуе, а чаго ён насамрэч варты – хто ведае? Ніхто не ведае і ведаць не хоча, бо ўсім гэта – бары-бэры!..

Тая ж Алёна... Ведае яна, за каго замуж выйшла, з кім жыве?.. Ведала б – не цягалася б абы з кім... З нябожчыкамі...

Шкада, што Фёкла памерла. Перад самай яе смерцю, можа, за імгненне да таго, як яна крыкнула: «Позна!..» – Сяўко раптам адчуў, што яна і ёсць

ягоная жанчына! Такая жонка не дазволіла б яму гібець нейкім шараговым інжынерам у праектным інстытуце – вунь на якую вышыню Някрасава ўскінула! Ці гэта не яна – Някрасаў яшчэ пра нейкую жонку казаў... Але ўсё адно: нехта ж Някрасава ўскінуў... Дый Міцкевіча – полькі ўвогуле крутлівыя...

Калі б Фёкла не памерла, дык хто ведае... Канечне, пазнавата, але...

Ён прыпыніўся, каб яшчэ раз паглядзець на карціну – і аслупянеў!.. «Во штукар! З той жа хеўры!.. Гіпноз наслаў, карціну за фотакартку выдурыў!»

Мастак...

У раме, якая біла і біла яго то па галёнках, то па лытках, быў фотаздымак, зроблены Любай: Кашын на канапе, у ягоных нагах – Каржакевіч, на венскім крэсле ў галаве Кашына – Маслюк, каля яго стаіць Зусман, а збоку на зэдліку – ён, Сяўко. Увесь аддзел маставікоў праектнага інстытута.

Пад фотаздымкам было напісана: «Прывітанне з Ізраілю. Зусман».

Гэта ўжо было занадта... «Жу-лі-кі!» – не стрываўшы, крыкнуў Сяўко, рвануўся назад, каб знайсці гэтага «мастака», разабрацца з усёй гэтай хеўрай, але цяжкая рама падбіла яму калені – і ён бразнуўся на ходнік, раскрывавіўшы нос, левую скулу і лабаціну...

– З Кашыным пабіўся? – спытала Алёна, калі ён даплёўся дахаты. – Расквасіў яму нюрбалку?..

Чаму ён павінен з Кашыным біцца, калі той памірае?

– Бо ты даўно з ім пабіцца павінен быў, – пачула, нібы сама з той хеўры, ягонае маўклівае пытанне Алёна. – Як можна гэтак ненавідзець адзін аднаго ўсё жыццё – і ні разу не пабіцца?

Кашын павярнуў да яе фотаздымак.

– Ён памірае... Вось... Увесь аддзел развітацца прыйшоў.

Алёна зірнула на фотаздымак абыякава.

– Навошта такі вялікі?.. І скуль тут Зусман?.. Ён жа ў Ізраіль даўно з’ехаў. І гады два як памёр.

Сяўко ўгледзеўся ў Зусмана... На фотаздымку той быў нават жывейшы, чым тады, калі жыў.

– Жывы ён, яны ўсе жывыя... – пачаў Сяўко, падумаўшы: «Божа! Як даўно я, ды ніколі не гаварыў з ёй па-людску!..» – і адставіў карціну, каб падысці да Алёны, абняць яе, прысесці з ёй на канапу так, каб яна паклала галаву яму на плячо, пагладзіць яе валасы, спытаць: «Як ты, любая? Што было з табой сёння, раскажы... Са мной дык вось што было...» – але Алёна адмахнулася, махальшчыца: «Няхай і ўсе жывыя, і ён жывы, мне бары-бэры! – і ткнула пальцам у фотаздымак. – Вось і ўсё вашае жыццё. Занясі ў падвал, куды яно тут...»

Сяўко падняў цяжэнную раму, спусціўся ў падвал і доўга сядзеў там, гледзячы, як цэдзіцца пыл скрозь павуцінне на закратаваным падвальным акенцы і ўспамінаючы такую нечаканую, якая толькі аднойчы ў жыцці можа здарыцца, сустрэчу. Ён шкадаваў, што не скарыстаў шанец, не застаўся з Дабралюбавым, Бялінскім і Міцкевічам каля ложа Някрасава ў перыяд апошніх песень, тады б, можа, усе былі б жывыя – і Фёкла б не памерла.

*Сакавік 2011 г.*

## Вера Бурлак



...І справа толькі ў словах –
болей ні ў чым...

# Аблокі

* * *

Калісь глядзеў на сонца я
І бачыў болей, чым балота.
Вадой свяцілася зямля:
Калісь глядзеў на сонца я.

Глядзеў з салона самалёта
На сонца ў вене ручая.
Калісь глядзеў на сонца я
І бачыў болей чым.

* * *

Птушкі – маленькія жывыя самалёты:
Самі сабе машыны, самі сабе пілоты.

Разумная птушка не палезе ў навальнічныя хмары:
Птушкі лятуць па ўбудаваным радары.

Ды яшчэ малыя дыспетчары ў гняздзе
Нагадваюць, што рабіць, калі і дзе.

А яшчэ ёсць жывыя аўтамабілі – коні.
Коні на аўтабане,
кані на эшалоне.

## АБЛОКІ

Уздым у аблокі так ці гэтак
Выбаўляе з аблогі мабільных сетак.
І рукі ў рэшце рэшт вольныя ад сумак,
І побач аблокі ў форме неакрэсленых думак.
Аблокі, аблокі, аблокі.
Аблокі-міфы,
Аблокі-цмокі.
Воблака-дым,
Воблака-скрутак,
Воблака-камячок,
Воблака-клунак,
Воблака-пацалунак.
Традыцыя: нешта гвалтоўна падобнае да нечага.
Воблака – шэрае мазгавое рэчыва,
Воблака-валасы,
Воблака-шлунак,
Воблака-пацалунак.
Воблака-выбух
З воблака-гары.
Аблокі ў суаўтарстве
Далі і Сэнт-Экзюперы.
Воблака-самалёт,
Воблака-экіпаж,
Воблака-глісада,
Воблака-багаж
(такі немалы пакунак),
Воблака-пацалунак:
Развітальны, пяшчотны,
Сівы, лагодна-старэчы.
Спадзеў сустрэчы.

* * *

Цягнік горад Эн – горад Zero
прыбывае на дзясяты пуць.
А авіяпасажыры
не сеюць і не жнуць.

Пасажыр баяўся, маліўся,
напіўся, праспаўся.
Самалёт прызямліўся,
а пасажыр застаўся.

Зямныя клопаты
з вышыні меншыя за клапоў,
І як па гэтай дробнай
зямлі хадзіць ізноў?

Няхай на зямлі
ўрадлівая глеба:
Авіяпасажыраў
кліча неба.

### *НА ВЫШЫНІ*

На вышыні трыццаці трох тысяч футаў
над узроўнем мора
знаходжуся я
і ведаю,
што на зямлі ў кожнае жанчыны
ў адмысловай скрыні
ляжыць прыгожы нацыянальны строй,
апранаюць яго па святах,
на канцэрты, у тэатр, у госці –
на розныя ўрачыстыя выпадкі.
Або па выходных.
Або калі добры настрой.

На вышыні трыццаці трох тысяч футаў
над узроўнем мора
знаходжуся я
і ведаю,
што на зямлі ў кожнага мужчыны
ёсць свой алень, або конь, або вярблюд.
Яго варта паклікаць чарадзейным заклёнам –
і ён тут.
А калі пераблытаць словы ў заклёне –
прыплыве кіт. Або прыляціць пчала.
Або са слоіка з джэмам вылезе джын.
І справа толькі ў словах –
болей ні ў чым.

На вышыні трыццаці трох тысяч футаў
над узроўнем мора
знаходжуся я

і ведаю,
што ў труме кожнага карабля
схаваны пірацкі сцяг.
І ёсць такі фільм пра тое,
што калі на “Тытаніку” гэты сцяг лунае,
айсберг палохаецца і патанае.

Я ведаю, што ўсе дзеці, прынамсі, да дзесяці гадоў,
могуць лётаць на вышыні трыццаці трох тысяч футаў
над узроўнем мора,
калі не зморацца падтрымліваць
хуткасць метэора –
учора
я сама там бачыла як найменей сямёх.
На вышыні трыццаці трох тысяч футаў
над узроўнем мора
знаходжуся я
і ведаю,
што ўнізе чорныя скалы, пакрытыя снегам.
Але пад аблокамі, зусім недалёка,
снег ператвараецца ў мох.

* * *

Калі над аблокамі лайнер ляціць,
То пасажыры як дзеці:
Аблокі пальцам паварушыць
І паглядзець сакрэцік.

А там многа простых зямных дарог,
Палёў і лясоў, нібыта пірог,
Парэзаных на квадраты:
Іх мапы – нібыта краты.

За кратамі круглая маці-зямля
Ляжыць і варушыць целам.
Глядзіць, як у небе пальцам дзіця
Варушыць у воблаку белым.

А можна яшчэ аблачыну схапіць,
Зляпіць з аблачынкі аладку.
Ды кажа зямля: “Пагулялі, хопіць.
Час ісці на пасадку”.

* * *

На дзевяціпавярховым доме расце вінаград.
У вінаградзе жыве шмат птахаў.
Усе жыхары – ад падвалаў да самага даху
Маюць уласны сад.

У тым садзе гульні ценяў і птушыныя спевы
І вечназялёны вінаград.
Але калі б там яшчэ нешта спела,
Магчыма, гэтага было б ужо зашмат.

Сяргей Рублеўскі



...а рэжысёрам

быў Час...

# Кіно прыехала!

***Апавяданне***

У праўдзівасць ленінскіх слоў пра тое, што важнейшым з мастацтваў для нас з'яўляецца кіно, я непарушна верыў большую частку свайго жыцця, да 1990-х гадоў, пакуль тэлеэкраны не засціў морак легкадумна зляпаных серыялаў і мільгатліва наштампаваных кінафабрыкамі стужак. Я паверыў у растыражыраванае выслоўе змалку, калі яго і па складах яшчэ прачытаць не мог.

Ленінскае выказванне аб кінамастацтве напрыканцы 1950-х гадоў нават пераважала над ягонымі не менш славутымі словамі: "Камунізм ёсць савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны". У крайнім выпадку, у маёй не надта вялікай, але ж і не згубленай у глухмені вёсцы, што на Лепельшчыне. З электрычнасцю ў нас было не надта каб: ток давала маленькая калгасная электрастанцыя са старым карабельным рухавіком і такім жа лядашчым генератарам. Так што святло ў хатах было няпэўным, з перабоямі, а познім вечарам і наогул патухала: рухавік глушылі.

Між тым, кіно ў вёску прывозілі рэгулярна, раз у месяц. Кінамеханік на падводзе аб’язджаў па чарзе і па вызначаным маршруце колькі вёсак. Калёсы, якія цягнуў даволі жвавы каніска, былі нагрувашчаны скрынкамі з бліштастымі зашчапкамі ды невялікім рухавіком, спалучаным з генератарам току. Кінамеханікі ведалі, што “плюс” у электрыфікацыі краіны наша вёска давала вельмі слабы і спадзяваліся на сябе. А ў скрынках быў самы таямнічы і чароўны для нас прыбор таго часу – кінапраектар з неабходным для яго рыштункам.

Як толькі падвода ўязджала ў вёску, яе тут жа акружала гаманкая чародка хлопчыкаў, у асноўным дашкольнікаў ды вучняў малодшых класаў. У мітуслівай радасці мы чапляліся рукамі за калёсы, суправаджалі іх падбегам, калі вясёлы кінамеханік, дурэючы, падганяў каня. А некаторыя спрытнюгі нават паспявалі ўскочыць на калёсы ды прымасціцца каля скрынак і дакрануцца да іх рукою.

– От я зараз вас пужкай падперажу, паналезлі, як тараканы... – з добрай усмешкай на твары пагражаў ім кінамеханік Валера.

І між тым даставаў са схованкі прыладжаную афішу з напісанай тушшу назвай кінафільма ды, як заўсёды, аддаваў старэйшаму з нас – Івану, каб той звыкла прымацаваў афішу-абвеску на слупе ў цэнтры вёскі: усе павінны былі ведаць, што сёння не звычайны вечар, а святочны: кіно прыехала!

І наша чародка ўвобміг дзялілася на дзве часткі: найбольш няўседлівыя мальцы беглі за Іванам прымацоўваць афішу, астатнія “ганаровым эскортам” суправаджалі кінамеханіка далей.

Іванька, нібы баючыся спазніцца, бег па вясковай вуліцы з афішкай, трымаючы яе, скручаную ў трубачку, як эстафетную палачку. Некаторыя ўдзельнікі “эстафеты” па ходу забягалі на сялібы сябрукоў, якія празявалі прыезд кінамеханіка, паведамлялі ім шчаслівую навіну, ды хуценька кідаліся ўслед за сваёй чародкай. На хаду мальцы ўсім сустрэчным гарлалі: “Кіно прыехала!” – хоць гэта і без таго было зразумела па ружовай афішы ў руцэ Іванькі.

Кінамеханік тым часам кіраваў свайго каня на сялібу Юзюка Ільяшэвіча, у хаце якога па дамоўленасці адбываліся кінасеансы, бо клуба ў нашай, абазванай пазней “неперспектыўнай” вёсцы ніколі не было.

Як толькі конь пад’язджаў да падвор’я Юзюка, пачыналася нашая дзея. Мы расчынялі вароты, забягалі ў хату ды паведамлялі гаспадыні, мажной Паўліне, што кіно прыехала. А потым кожны імкнуўся дагадзіць і спадабацца кінамеханіку, дапамагаючы здымаць з калёсаў апаратуру. Важна было загадзя прыгледзець якую невялічкую лёгкую скрынку, каб паспець ухапіць яе першым ды несці ў хату. Дзе ты на ўсіх набярэшся такіх скрыначак!

А пасля, абступіўшы наўкруг даўгацыбага Валеру, мы глядзелі, як ён здымае з калёсаў сваю невялічкую перасоўную электрастанцыю. Гэта вам не скрынка, гэта машына, рухавік!

Іншым разам бывала так, што кінамеханік прывозіў гэты рухавік з генератарам на дзень раней, каб не нагрувашчваць на калёсах усё ў адну кучу, і тады ўжо распачыналі свае забаўкі старэйшыя мальцы, “падуросткі”, як у нас казалі. Валера згружаў рухавік на Юзюковым двары і ехаў далей сваёй дарогай: сеанс жа запланаваны на заўтра. Дык што яму, рухавіку, стаяць калец пад вуглом, калі рукі чэшуцца пакратаць тэхніку, хочацца разабрацца, што ў ёй да чаго? Тым больш, што бацькі ў полі, даручанае

па гаспадарцы зроблена, урокі з большага вывучаны... Дык падуросткі збіваліся ў сваю чародку і спрабавалі завесці той рухавік. А мы, жаўтароцікі, абступалі іх у чаканні дзіва. Старэйшыя мальцы шукалі які матуз, вяроўку, пас, каб з іх дапамогай рэзка крутануць пускавы шкіў і завесці рухавік, не раўнуючы, як гэта робіць кінамеханік.

Нарэшце, хтосьці здагадаўся прынесці з дому церазсядзельнік, і змушаны рухавік з кожнай спробай пачаў больш жвава, чым раней, адгукацца халастым лопаннем свайго поршня. Але ўсё адно аніяк не заводзіўся. Інжынеры ў кароткіх штоніках не ведалі, што такія ж цікаўныя гарэзы меліся ў кожнай вёсцы, і дасведчаны кінамеханік прымяняў тэхнічную хітрасць: штосьці падкручваў-выкручваў у рухавіку, каб ён не заводзіўся.

Але аднойчы Валера забыўся на сваю перасцярогу – і рухавік зачмыхаў бензінавым духам, засакатаў усімі свамі шасцяронкамі... А нашыя твары засвяціліся шчаслівымі ўсмешкамі. Гэта была радасная песня пра кіно, якую гучна спявала машына, а з ёй і нашыя сэрцайкі.

Праўда, мальцы праз пару хвілінаў заглушылі рухавік: ці мала што здарыцца, а заўтра ж сеанс... Ды і дарослыя, крый Божа, даведаюцца – тады лупцоўка.

Памятаю, аднойчы, калі кінафільм не надта захапіў мяне, я неўпрыкмет выйшаў з хаты і колькі хвілінаў стаяў, як зачараваны, ды слухаў роўнае тахканне добра адладжанага рухавіка, які падарыў мне столькі сустрэч з кіно. Так старыя чуллівыя людзі слухаюць спевы птушак, згадваючы сваё мінулае. А я тады думаў толькі пра будучыню.

Але неўзабаве гэты механічны спеў сціх раз і назаўсёды: калгасную электрастанцыю зліквідавалі: у вёску падвялі электрычнасць з цэнтралізаванай сеткі, і цяпер лямпачкі Ільіча можна было запальваць у хатах у любы час сутак.

Але ж толькі лямпачкі – разетак яшчэ не было: навошта, калі ў іх няма чаго ўключаць. Не было і электралічыльнікаў: плату за электрычнасць вызначалі па колькасці лямпачак і іх магутнасці.

А як кіно круціць? Знайшлі выйсце, а, можа, гэта быў нават дзяржаўны захад па падтрыманні важнейшага з мастацтваў. Кінамеханік замест лямпачкі ўкручваў у патрон адаптар – круглую разетку з адпаведнай разьбой, у якую лёгка ўваходзіла вілка са шнурам ад кінапраектара. Вось я неабачліва па-сучаснаму назваў тое хітрае прыстасаванне "адаптарам", а дарма. Тады жартаўлівыя кінамеханікі называлі яго "жулікам", маючы на ўвазе тое, што электрычнасць, няхай сабе з дазволу і дзеля высакароднай мэты, а ўсё ж выкарыстоўвалася "жулікавата", не так паслухмяна, як звычайнымі вяскоўцамі.

Сёння, калі я пішу гэтыя нататкі, міжволі думаю пра тое, што кіно майго дзяцінства адбывалася не толькі на кінаэкране, які вывешваўся на сцяне і нагадваў добра адпрасаваную прасціну, але і на вясковай вуліцы, на якой правіў сваім каньком кінамеханік, і на двары, дзе грымеў жалеззем рухавік мініэлектрастанцыі, і ў Юзюковай хаце, дзе збіралася на прагляд гаманкая вясковая грамада... Кіно на экране было няпоўным, і ўсе мы, дарослыя і малыя, здавалася, уключаліся ў тыя ці іншыя лініі сцэнарыю, рабіліся ўдалымі акторамі, а рэжысёрам быў Час.

Стрыжневай тэмай гэтай кінадзеі было стаўленне маіх землякоў да аплаты квіткоў за паказ кіно. Атрымаўшы на шляху да камунізму вялікі плюс у якасці надзейнай электрыфікацыі, яны ўжо ў думках перанесліся ў

светлую будучыню, дзе ўсё задарма, – і з вялікай неахвотай расшпільвалі кашалькі. А калі больш дакладна і без гумару: спрадвеку былі зажымістымі, “скугутамі”. Але я зусім не папракаю за гэта аднавяскоўцаў, бо ведаю, якімі мазалямі ды потам давалася калгасная капеечка. На жыце ды бульбе на неўрадлівай суглінiстай зямлі не разбагацееш, гэта вам не мандарыны ў цёплых краях вырошчваць ды прадаваць на паўночным базары.

Апроч таго, трэба ўлічыць, што ў памяці дарагіх майму сэрцу людзей яшчэ добра яснілася работа за працадні, гірсу, калі здавалася, што ніколі, да самай магілы не будзе канца зморнаму нішчымнаму жыццю. А тут капеечка цэлы рубельчык беражэ!

Ніколі не забуду, як даваў мне грошы на кіно татулька: кулак яго расціскаўся вельмі павольна, нібы пад лагодным, але ўсё ж неадпрэчным прымусам, пальцы выпросталіся так марудна, не раўнуючы як выцягваецца разморaны слімак, якому трэба адпаўзаць у лазовы цянёк з паўдзённага сонечнага прыгрэву... Я хуценька, нібыта разумеў, што прамаруджванне іголкамі паколе бацькава сэрца, зграбаў з ягонай далоні загадзя адлічаныя медзякі.

Квіткі на сеанс тады каштавалі капейкі, але хіба гэта што-небудзь мяняла ў адносінах маіх аднавяскоўцаў да грошай!

...Глядзельная зала абсталёўвалася ў большым пакоі Юзюковай хаты. Вывешваўся на сцяне экран, расстаўляліся роўнымі радамі лавы, зэдлікі, табурэткі... А калі месца не хапала, можна было прымасціцца і на падлозе. Ці трэба вам казаць, хто ў такіх выпадках саскокваў з лаваў?..

Кінапраектар быў усталяваны на стале пасярэдзіне трысцена і праз разнасцежаныя дзверы да самага экрана свідраваў цемру блакітнымі промнямі.

Калі ў кінапраектар спрытнымі завучанымі рухамі ў лічаныя хвіліны запраўлялася плёнка і ўсё было гатова да яго ўключэння, кінамеханік Валера, нібы баец перад атакай, выходзіў на двор перакурыць, а потым даставаў з кішэні блакітныя квіткі ды ішоў у “глядзельную залу” збіраць плату за прагляд. Пачыналася самая цікавая дзея ў нашых узаемаадносінах з кінематографам.

Адразу за дзвярыма, каля сцяны Юзюковай хаты, стаяў ложак, засланы цёмнай някідкай дзяружкай. На ім таксама ўсаджваліся гледачы. Вядома, больш натуральна і зручна было б сядзець на канапе, але што рабіць, калі яе няма, а званых гасцей хочацца прывецiць з асаблівай прыязнасцю і ўсадзіць, у адрозненне ад усіх астатніх, на мяккае. Вось Паўліна і прыдумала скарыстаць для гэтага ложак, зрабіць яго своеасаблівым ложам (сугучна!) для vip-персон. Іх было нямнога, як і месц на тым ложку: тры суседкі з дзецьмі ды нявестка, якая жыць не магла без кіно і прыходзіла на прагляд з суседняй вёскі. Дарма, што гэтае кіно да іх прывязуць праз пару дзён: не пашкодзіць і перагледзець, а галоўнае – можна будзе наперад расказаць сваім, занятым хатнімі клопатамі таварышкам, варта на яго ісці ці не, пра любоў яно ці зноў пра “нашых і немцаў”, “жызненнае” ці “прыўкрашанае”. Сярод гэтых vip-персон, балазе жанчыны былі танклявыя (мужчынаў на ложак чамусьці не запрашалі), уціскваўся і мой сябрук Пятрок. “Гэта ж трэба, маленькі, як я, а сядзіць на мяккім. Але што скажаш – сусед! І чаму бацька пабудаваў хату так далёка ад Юзюковай,” – вярэдзіла маю душу невыводная думка. І яшчэ вастрэй – калі Пятрок пераможна ўсміхаўся мне са свайго ўзвышша. Калі хто з адораных асаблівай прыхільнасцю

гаспадыні хаты не прыходзіў і месца на ложку заставалася вольным, Паўліна запрашала на яго каго-небудзь іншага, каб не пуставала.

– Ягораўна, – звярталася сваім спеўным голасам да пажылой жанчыны гаспадыня, – не масціся ты на ўскраечку, хадзі вось на ложак прысядзь, зручней будзе. А ўнучку на ўлоні возьмеш... Не саромся, не саромся, садзіся.

А Ягораўна і ўзапраўду трохі саромелася, бо, як і ўсе ў вёсцы, ведала: тым, хто сядзіць на ложку, за кіно плаціць не трэба. Кінамеханік жа заўсёды, калі робіць свой абыход з квіткамі, нават і ў той бок не глядзіць.

Аднойчы, калі замест прыхварэлага Валеры "круціць" кіно быў прысланы іншы кінамеханік, які, вядома, не ведаў нашай завядзёнкі і падышоў з квіткамі да ложка, уважлівая Паўліна тут жа асадзіла яго назад:

– А не, дзетка, з гэтых людцаў плату не бяры, у нас – так.

І маладзён моўчкі збочыў ды пайшоў па радах.

– Што ж я дарма ў хаце мыю-прыбіраю і напярэдадні, і пасля кіно. Паглядзі, колькі яны гразі нанеслі на сваіх гумавіках ды кірзовіках... Цэлы пуд! – даводзіла навічку ў трысцене сваю праўду Паўліна.

Цёплай парой, калі не былі прыстаўленыя падвойныя рамы ў вокны, да Паўлініных улюбёнцаў на ложку далучалася і колькі старэйшых мальцаў з нашай дзіцячай грамады. Як толькі кінамеханік, сабраўшы капейкі, вяртаўся ў трысцен і аддаваў доўгачаканую каманду выключаць святло, яго выключалі ўвобміг і, лічы, аднаімгненна расчынялі акно, праз якое спрытна, хутка ўскоквалі ў хату колькі падлеткаў. Па дамоўленнасці гэтую дабрачынную акцыю праводзіла Юзюкова дачка Маня з сяброўкамі, якія ўжо заглядваліся на мальцаў. Яны зладжана, нібы пасля адмысловых трэніровак, выключалі святло, расчынялі акно і падавалі руку сваім кавалерам. Ніхто не быў супраць – "дзела маладое"... Наадварот, калі кінамеханік, які ведаў пра такія штукі, прыпыняў кіно, уключаў святло і вяртаўся ў пакой са сваім нялюбым нам пачкам квіткоў, каб сабраць грошы з аматараў дармаўшчыны, людзі пачыналі шыкаць, падаваць голас: маўляў, адчапіся, назола, не аб'ядуць цябе мальцы, не валаводзься, ідзі ў трысцен, круці сваё кіно, ноч насоўваецца...

А што, скажыце, было рабіць нам, гледачам з маленькіх зэдлікаў, якія таксама хацелі пахваліцца бацькам зберажонымі капейкамі?

Нам, жаўтароцікам, а не кавалерам, заставалася толькі знаходзіць якія схованкі ў хаце, заціхаць там, як мышаня пад венікам, пакуль кінамеханік не зробіць свой абход з квіткамі, а тады, як пачнецца кіно, вылазіць ды адшукваць у цемры якое месцейка.

Паспрабаваў было згуляць з кінамеханікам у хованкі і я. Разам з сябрукамі залез пад ложак, не падумайце, не пад той, што стаяў у парозе і выкарыстоўваўся ў якасці ложы для ганаровых гледачоў, а пад другі, за перагародкай. Набілася нас туды, можа, чатыры, можа, пяць жэўжыкаў. Пільны кінамеханік ведаў і пра гэтую схованку ды раз-пораз выцягваў адтуль, не раўнуючы як ментузоў з-пад карча, вёрткіх хаванцаў. Але ж цепліцца ў душы спадзяванне... Тым больш, што я пратачыўся паміж сябрукоў і залёг пласточкам каля самай сцяны: здавалася, адсюль ужо Валера аніяк не дастане сваёй даўжэзнай заграбушчай рукой. Але што той кінамеханік, калі мяне хапілася сястрыца Аліна, з якой я на гэты раз прыйшоў у кіно. Дык і пачуў прыцішанае, але для мяне аглушальнае, як раскат грому:

– Сярожа, вылязай адтуль, не пазорся! Ёсць жа ў нас капеечкі...

І я, прысарамачаны, ужо не з ранейшай увішнасцю і спрытам, а вялы, запаволены вымушаны быў зноў працiскацца паміж мальцаў, каб выпаўзці на святло лямпачкі. Хтосьці з іх у дадатак раззлавана таўхануў мяне ў спіну і зашыпеў: “І трэба табе было сястру з сабой у кіно браць!” Як быццам сюды прывёў яе я, а не яна мяне.

Вылезшы з-пад ложка, я пачаў старанна атрасаць з вопраткі пыл, больш для таго, каб чым-небудзь заняць сябе і не ўзнімаць вочы ні на сястру, ні на каго іншага. Праўда, я ведаў, што аднавяскоўцы, у адрозненне ад сястры, пазіраюць на мяне зусім не строгімі вачыма, як падчас пацехі з “кавалерамі”, а многія нават замілавана ўсміхаюцца. На дзіва, сястра, нібы суўдзельніца “злачынства”, раптам узялася дапамагаць мне атрасаць пыл з вопраткі. А яго, як я добра помню, было дужа багата. У душы я нават абурыўся на Паўліну: “Хваліцца, што мые-шаруе, а пад ложак сваю анучку не запускае... Маўчала б!”.

Гэта быў першы і апошні раз (паслухмяны хлопчык!), калі я наважыўся гуляць у хованкі з кінамеханікам. Але пыл той, здаецца, не атрос і па сёння. Ды і не імкнуся: у ім жа – мая светлая памяць...

На трэці год пасля таго, як у нас пачалі паказваць кіно, адбылася падзея, якая шчасліва перакуліла ўвесь мой дзіцячы свет. Той сонечнай раніцай маці, падаючы сняданак, здавалася, трохі ўкрадліва, каб не агаломшыць ці што, паведаміла мне: кінамеханік Валера сыходзіць і кіно будзе вазіць не абы хто, а нашая радня – дзедаў пляменнік і, адпаведна, ейны стрыечны брат Мікола з Вушачаў, цёткі Лукер’і сын. Я ледзьве не папірхнуўся кашай, глынуў малака і кумільгом, нават не зачыніўшы за сабой дзверы, кінуўся на вуліцу паведамляць мальцам сваю выбухова-аглушальную навіну. І найперш пабег, вядома, да Петрака: выхваляешся, што сядзіш на Паўлініным ложку, а вось паслухай!..

На першы кінапрагляд, які ладзіў Мікола, я нібы на самае вялікае свята пайшоў са сваім дзедам Юстынам. Прытым на якую паўгадзіну раней пачатку сеанса, каб дзядуля мог распытаць Міколку пра жыццё-быццё вушацкай радні ды пачаставаць яго спелай беллю з маладой яблыні. Паўліна ўслужліва падставіла Юстыну Мікалаевічу табурэтку, а мне паказала на зэдлік: садзіся і ты.

На маім твары, як сляды крэйды на школьнай дошцы, якую выціралі сухой вахоткай, усё яшчэ свяціўся гонар, калі не за ўвесь наш род, дык за ягоны слаўны вушацкі атожылак. Заўважыў я і ў куточках дзедавых вуснаў ледзь прыкметную ўсмешку задаволенасці і замілавання, якую яму аніяк не ўдавалася схаваць у сваіх густых вусах. І навошта яе хаваць ад людзей, калі не Юзюк з Паўлінай ды Маняй, а мы з дзедам воляй лёсу праз Міколу сталі важнымі людзьмі ў кінафікацыі сваёй вёскі!

Наш любы кінамеханік, адказваючы на дзедавы роспыты, рыхтаваўся да маючага адбыцца сеансу і мне, няўцямнаму, карцела назіраць за ім, а не слухаць пра цётак, дзядзькоў, братоў, нявестак, швагроў ды ўнукаў. Тым больш, што я ўпершыню так зблізку пабачыў, як перамотваецца ды склейваецца кінаплёнка, як яе мудрагеліста закладваюць і прасоўваюць паміж ролікаў кінапраектара, робячы патрэбны, хоць, здавалася, і залішні напуск...

Кінамеханікі падчас папярэдняга прагляду звычайна здымалі пракручаную плёнку з кінапраектара і адразу клалі бабіну ў адмысловы бляшаны футарал. Калі яе так і пракручваць нанова, дык атрымалася б кіно “дагары

нагамі”, з канца – і да пачатку. Вось для чаго абавязкова патрабавалася перамотванне.

Яно рабілася на простым прыстасаванні: два стаякі, якія мацаваліся да стала, на кожным па восьцы для бабінаў, а на адным з іх – яшчэ і ручка для кручэння воські. Трэба было круціць раўнамерна, каб плёнка не абвісала звыш меры і, крый Божа, не зрабіла пятлю, бо парвецца...

І ў мяне не правісала, і не зрабіла пятлю, а ішла роўненька, калі Мікола даў трохі пакруціць...

А тады было кіно, і мы з дзедам сядзелі, няхай сабе не на ложку, дзе ўсе месцы былі загадзя “забраніраваны”, але таксама як ганаровыя госці – у самым цэнтры пакоя. А мяне ўсадзілі на крэсла, а не на зэдлік, як бывала раней.

І вось тут я мушу зноў вярнуцца на сваю ўжо добра пратаптаную сцяжыну і колькі слоў сказаць пра грошы, пра важкія, здавалася, набрынялыя потам калгасныя медзякі. Даруйце мне, але ж тэма сумна абяцанага біблейскага хлеба, разнастайных людскіх клопатаў па яго здабыванню, куламеса пачуццяў, звязаных з нястачай, нішчымніцай ці, наадварот, са зберажэннем і памнажэннем нахапанага багацця з’яўляецца стрыжневай у творчасці праўдзівых пісьменнікаў. Дык і я, падупалы ад інфантыльнасці Брэжнеўскай эпохі, у падказаным самім жыццём сюжэце мушу хаця б крышку наблізіцца да іх кагорты.

Я сядзеў як на іголках, калі Мікола з квіткамі і вялізным кашальком у руцэ пачаў абыходзіць рады: няўжо і з нас возьме плату, аграбе капеечкі ў такой блізкай радні?! А тут яшчэ дзед Юстын, як гарачае вуголле, пачаў раздзімаць маю свярблівую трывогу: дастаў з кішэні медзякі і патрос іх у кулаку, нібыта ўзважваючы, – ці хопіць. Якраз у гэты момант і падышоў да нашага раду Міколка. Дзядуля тут жа падаў яму капейкі:

– Пералічы, Коля. Тут за мяне і за Сярожу...

Сарамлівы малец сумеўся, пачырванеў пад пільнымі, скіраванымі з усіх куткоў хаты позіркамі і сцішана, каб не надта было чуваць, каму не трэба, прамовіў:

– Дзядзя, ну што вы сабе думаеце! Не смяшыце людзей, – і адвёў дзедаву руку ў бок.

Але той, на маё дзіва, зноў прапанаваў капейкі і гучна прамовіў:

– Бяры, Мікола, як з усіх! Мала, што радня...

Людзі здзівіліся не менш, чым я. А Паўліна дык і наогул не сцярпела:

– Не баламуць людзей, Юстын! Сказана табе не плаці, дык і не выкамарвайся, на заводзь тут свае парадкі. І хлопцу нервы не ўзнімай... Пан мне знайшоўся...

Пры чым тут пан? Можа, Паўліна мела на ўвазе асаблівага, хварсістага, не такога, як усе, чалавека, манернага і ганарлівага?

Сапраўды, мой дзед Юстын меў вясёлы нораў, любіў пажартаваць з людзьмі, у тым ліку і з дзецьмі, прыцягнуць да сябе ўвагу, быць у цэнтры падзеі, а пры зручным выпадку і пакрасавацца.

Кінапрагляд якраз і быў такім выпадкам. Дзед уволю наганарыўся: маўляў, паглядзіце, які ў мяне пляменнік – не абы хто, кіно па вёсках возіць; і прыцягнуў да сябе ўвагу, калі памкнуўся – дзівак ды і толькі – заплаціць за прагляд свайму роднаму пляменніку... Можна сказаць, пацешыў усіх аднавяскоўцаў, адну толькі Паўліну раззлаваў. Усё гэта было гульнёй на публіку. Як у тэатры.

Калі Мікола нарэшце абмінуў нас і пайшоў далей па радзе прадаваць свае квіточкі, я бачыў, як дзед ахоўна, не раўнуючы як мой татулька, сціскае ў кулаку капейкі ды яшчэ ўважліва азірае падлогу, нібы каторая капейчына неўпрыкмет магла пратачыцца між пальцаў і ўпасці. І свет мне зноў здаўся звыклым і ўтульным, як родная хата.

Каб не кіно, хіба склаліся б з пазлаў памяці такія цёплыя, а то і шчымлівыя карцінкі пра маіх землякоў, родных людзей, пра тагачаснае жыццё-быццё! Хіба ўдалося б так некранута і празрыста, нібы мошак у бурштыне, зберагчы ў памяці шчасліва народжаныя імгненні?!

Але не падумайце, што я і мае аднагодкі "важнейшае з мастацтваў" успрымалі толькі па-за межамі экрана. Проста мы ўважалі яго як глыбінную, скразную, якая цалкам паглынала нашыя істоты, дзею.

На экран мы вытарэшчвалі свае зенкі, як зачараваныя. Дзякуючы кіно маленства, у свой час я куды больш выразна ўявіў, як, баючыся наезду цягніка, апрометцю выбягалі на вуліцу з "Гран-кафэ" на бульвары Капуцынаў першыя гледачы братоў Люм'ераў.

...Анямелы, я прыліп да свайго зэдліка, калі ў віхурную шабельную атаку на сваім кані паляцеў камдыў Чапаеў. Вочы вырачаныя ў смяротнай рашучасці, рот раскрыты ў гарластым поклічы, шабля бязлітасна блішчыць на сонцы аскепкам вострай маланкавай дугі... У якое імгненне мне падалося, што Чапаеў абрыне сваю шабельную рашучасць на мяне і рассячэ напалам, але імгненне прамінула, і я лёгка ўздыхнуў: не можа чырвоны камандзір загубіць улюбёнага ў яго чалавека! Я ж разам з ім, хоць і не поплеч у той маланкавай атацы. Шчасліва выпала, што вобраз Васіля Іванавіча тады яшчэ не заседзелі мухі брахлівых цынічных показак пра яго.

А як я перажываў – да мурашак на скуры! – за дзяўчынку, якая з ваеннымі прыгодамі шукала свайго бацьку...

А як зноў і зноў маё сэрца напаўняла нецярпенне ў чаканні найхутчэйшай перамогі нашых над немцамі...

Як уважліва назіраў за лёсам мядзведзіка Пушчыка, якому выпала ехаць у Прагу...

А як уразіла мяне бойка з фіначкай у індыйскім фільме "Бадзяга" з Радж Капурам, нават снілася. Малец жа...

Не выходзіць з памяці і даўнейшы прагляд "Разводу па-італьянску": П'ера Джэрмі з Марчэла Мастраяні ў галоўнай ролі.

Трэба сказаць, што ў тую пару ў нашай вёсцы не дзялілі недаверліва гледачоў на тых, каму было да шаснаццаці і на прэміяваных узростам, каму глядзець дазваляецца ўсё, што заўгодна.

Калі мы сядзелі і ўважліва сачылі за разводам па-італьянску, недзе пасярэдзіне фільма, а то і пазней у хату заявіўся Федзечка, самы маленькі чалавек у нашай вёсцы. Малы і ўдалы! Бацька траіх дзяцей, ён быў майстравітым у плотніцкай і сталярнай справе. Адзіны меў у вёсцы вялізны, з усімі неабходнымі прычындаламі варштат і парабіў на маёй памяці ўсім нашым нябожчыкам добра выструганыя, з духмянай сасны шчыльныя дамавіны.

Федзечка не пайшоў у пакой, бліжэй да экрана (кіно ў разгары, не хапала яшчэ, каб капейкі запатрабавалі), а застаўся ў трысцене, каля кінапраектара. Калі я азірнуўся, дык са здзіўленнем адзначыў, што ён макушкай ледзьве дастае да аб'ектыва, з якога высяваліся на экран блакітныя промні.

На Федзечку азіраўся не толькі я. Падвяселены ягадным віном, а можа

бражкай, ён прыйшоў на прагляд якраз калі пачалася пасцельная сцэна. Дык, натуральна, не змог не адгукнуцца на гэты жыццесцвярджальны эпізод – язык жа ў яго ад вясёлых градусаў разбарсаўся, нібы шнурок у стаптаным чаравіку.

– От зараз ён яе прылашчыць, дык прылашчыць! Куды ты адсоўваешся, дурнічка, чаго ламаешся! Чапляйся за шыю, лепшага не знойдзеш... – пачаў свой рэй Федзечка.

А тады – пайшло-паехала: жарты, шпілечкі, каментарыі, параўнанні і нават ушчуванні гераіні, нібыта на экране была ягоная жонка.

Людзі ажывіліся, загаманілі. Некаторыя зашыкалі: “Сціхні, Федзечка, не перашкаджай глядзець, інцірэсная ж карціна...”. Іншыя, наадварот, рассмяяліся ці захіхікалі ў ражкі хустак... Зразумела, што гэта былі наймаладзейшыя жанчыны. Мужчыны, занураныя ў свае патаемныя думкі, амаль не звярталі ўвагі на Федзечкавы вычмурэнні. А зусім старая бабуля, але зацятая аматарка кіно Хрыстына раптам сказала, як адрэзала: “Нап’юцца балаболы, а тады людзям спакою не даюць”. Але ўшчуваць Федзечку было ўжо позна: пікантны эпізод закончыўся так хутка, як заканчваецца людское жыццё.

І чаму мне, яшчэ зусім-зусім зялёнаму, няспеламу, як плоскі гарохавы стручок, так востра засеў у памяць той выпадак з кінапрагляду, я не ведаю...

Шкадую, што з-за хваробы мне не давялося прысутнічаць на яшчэ адным адметным кінасеансе маленства, пра які мне расказаў тадышні сябручок, а сёння дарагі сэрцу сябра Пятрок. Кінамеханік з Лепеля, дарэчы, жанаты на нашай бабчанскай дзяўчыне, Анатоль прывёз было нам “Паласаты рэйс”. А сам з нагоды ці ад звужанасці свайго светаадчування кульнуў з сябрамі, не раўнуючы як Федзечка, колькі чарак разагрэўнага напою. Дык і размарыла нябогу да таго, што забыўся пераматаць перад праглядам плёнку. І пайшлі людзі і тыгры дагары нагамі, па столі. Прычым, нягледзячы на свіст і крык незадаволеных гледачоў, хадзілі так даволі доўга, амаль да сэрэдзіны стужкі, пакуль за сонным, ачмурэлым Анатолем не прыйшла і не павяла яго за шкірку дадому жонка: хтосьці не вытрымаў, сышоў з прагляду раней і паскардзіўся маладзіцы.

Але ж астатнія, няхай сабе свісталі, гарлалі, лаяліся на п’янага кінамеханіка, ды не сышлі: дагары нагамі, але ж кіно! Апроч таго, узрушаныя, але цярплівыя мае аднавяскоўцы пасля прыходу жонкі Анатоля пераканаліся ў праўдзівасці толькі для недасведчаных смешных, а на самой справе вельмі трагічных слоў: “Кіна не будзе – кіншчык спіўся”.

Заінтрыгаваны тым няўдалым праглядам Пятрок потым на працягу некалькіх гадоў імкнуўся дзе-небудзь паглядзець “Паласаты рэйс”, а ўсё не патраплялася і не патраплялася... За гэты час тэхнікум скончыў. Толькі калі ў інстытут паступіў – надарылася. Адно што прадчуванне свята, якое было перад вясковым сеансам, у яго даўно згасла, як іскра ад вогнішча.

Але што тыя засмучэнні – лёгкія хмурынкі на яснасонечным небе радасці, якое ўзвышала над намі незабыўнае кіно маленства.

Вось і сёння, калі б хто-небудзь знячэўку гукнуў мне ў расчыненае акно роднай хаты ў Бабчы, дзе пішу гэтыя радкі: “Кіно прыехала!”, я павяруў бы, што вярнулая маё маленства, а заадно памаладзелі ўсе бабулі і дзядулі нашай сёння і сапраўды неперспектыўнай вёскі.

## Анатоль Дэбіш



...Злоўленае сеткаю чароту,
Сонца рыбай б’ецца на вадзе...

# Крокі...

* * *

Тысячы крокаў зрабіў,
застаўся адзін крок
да мэты дайсці,
ды толькі
назад азірнуся –
за сабою
не бачу сваіх слядоў...
Як крок мне зрабіць
свой першы?..

* * *

Міг вечаровы. Парк. Алея.
Птушыны посвіст, пошум дрэў.
Час супыняецца. Мярцвее
Дзень, што сыходзіць не хацеў.

Між голля цень мільгнуў ваверкі
І растварыўся – як імгла.
Скрозь мур нябёс свіцяцца зоркі,
Вось і яшчэ адна ўзышла.

Ціш ахінае свет паволі.
Душа схіляецца да сну.
Пазбыцца б скаргаў, смутку, болю, –
Хоць на хвіліну, на адну.

* * *

Ні сцяжын, ні дарог.
І не гмахаў высокіх.
Там квітнее мурог
Між бязважкіх аблокаў.

Квецень сцелецца там –
Не хапае пагляду.
Узвышаецца храм
Сярод райскага саду.

Там святая імша
Сны зямныя люляе.
І мая там душа
Між аблокаў блукае.

* * *

Вялікдзень. Музыкай святою
Прастор агучаны зямлі.
Як краскі весняю парою,
Навокал свечкі расцвілі.

Цвіце душа мая таксама,
І сэрца поўніцца святлом
Малітвы велічнай, што з храма
Жывым ільецца ручайком.

* * *

Ляцяць сняжынкі на зямлю,
Як пёркі зоркавага птаха:
На лёдам скутую раллю,
На сцежкі, на палі, на дахі.

На твар, на скроняў сівізну,
І на душу маю таксама.

На тую светлую вясну,
Дзе вербніцу збірае мама.

* * *

Здаецца, што я ўсё сказаў.
Ды раптам выплісну на волю
З душы – адчай, з вачэй – сляза,
Як промні радасці і болю.

І верш, што доўга так драмаў,
Раптоўна ляжа на паперу,
Бы снег, якога не чакаў.
Як Божы дар – якому верыў!

* * *

Час прасвечвае прастору.
Зіхацяць дамоў агні.
Я вяртаюся ва ўчора,
Я свае збіраю дні.

Нібы пацеркі на нітку,
Думкі я вяжу свае.
І душы маёй адбіткі
Дождж з калюжын прагна п’е.

## *ВЕЧАРОВАЕ*

***1***

Паволі нікне сонца пас,
Алеяй паркаваю крочу.
Сыходзіць вечаровы час,
Прыходзіць роспач разам з ноччу.

Блішчыць на небе маладзік,
Лісцё на дрэвах не шапоча...
Але ў нябыце зніклы крык
Ніяк знікаць з грудзей не хоча.

***2***

Серабрыстымі ніткамі рос
Зачапілася сонца за вецце.
Па сцюдзёнай траве іх растрос
Гаманлівы, гарэзлівы вецер.

Ды сваёй цудадзейнай красы
Не згубіла зямля маладая.

З кожнай кроплі вясновай расы
Непазбежна жыццё прарастае.

* * *

Я запалю пад вечар свечку
І ў доме печку зацяплю.
І памалюся чалавечку,
Які з'явіўся на зямлю.

Бездапаможны і пацешны,
Спагаду крыкам разалье.
Магчыма, ён, святы, бязгрэшны,
Замоліць і грахі мае.

* * *

Паволі вогнішча згарала.
І мружыў вочы сон салодкі.
І Час патух. Яго – не стала...
Я – толькі дым бязважка-лёткі.

І паглынула яву змора:
Сцяжынкі, храмы і завулкі,
Чым сёння жыў, чым жыў я ўчора...
Я – толькі цень маўкліва-гулкі.

Ноч беззваротна адляцела,
Але душа не заўважала:
Яна жарынкаю мігцела
У вогнішчы, што дагарала.

* * *

Адчыню заржавелыя весніцы,
сяду на струхлелы ганак
і ўспомню з гармонікам песні продкаў:
бацькі і дзядулі, ворагаў і сяброў.
І паплывуць да нябёсаў птушкі,
кожная несучы на крылах дні;
адны з іх стануць зоркамі,
другія – плямамі на зорках,
трэція – вернуцца да мяне.

І ўбачу я на крылах адлюстраванне:
сваё маленства і на ўвесь свет дарогу,
што вядзе мяне ўдалеч, ды да роднага дому.

І ў сад я ўвайду, дзе на цяжкіх галінках
заместа яблык спеюць каменні.
І трэсці іх буду давідна,
пакуль апошні не ўпадзе пад ногі...

* * *

Матчын дом. Нікога болей
Тут не будзе. Пустата.
У куце, пад самай столлю –
Твар распятага Хрыста.

* * *

Ні прагну ў жыцці ні дарункаў, ні славы,
Што ў часе няісным знікаюць з гадамі.
Мне б трошкі спакою, ды кубачак кавы,
І міг пакаяння ля свечкі – у храме.

Каб месяц не знікнуў і сонейка ззяла,
За шыбінай роднай мяла завіруха.
І сэрца, скрозь смутак і скруху – кахала,
Маліцца за род свой і вечнасць каб слухаць.

* * *

Мяне дакарае радзіна,
Што нечы прыблудны я сын, –
Заўсёды адзін і адзін я...
Ды месяц – таксама адзін.

Не ўсім нам быць побач на свеце,
Атуленым шчасцем людскім.
Адзін толькі ў небе – ды свеціць,
Ён свеціць самотным усім.

## БУДЗЁННЫЯ ДУМКІ

***

Нехта капае студню
ў глыбіню,
нехта ўздоўж.
Хто што хоча адшукаць.

***

Сябе любіць – не эгаізм.
Эгаізм – не любіць іншых.

***

Баюся вялікіх раманаў,
як і вялікіх будынкаў, –
можна заблудзіцца.

***

Навошта хавацца,
калі цябе ніхто не шукае?

***

Прамаўляю – голасу не чую.
Пазіраю – нічога не бачу.
Нарадзіўся нанова.

***

У сне я жыву наяве:
Ствараю, сумую, кахаю.
Прачнуўся – бачу сон.

***

Цесна. Вузка. Невыносна млосна
Сярод людскога натоўпу
На тысячы кіламетраў.

* * *

Няхай ты сон, няхай ты мроя,
Хай недасяжная ты часам,
Ды вераю жыву святою,
Што прыйдзе дзень – мы будзем разам.

Свет не загіне... Рыпнуць дзверы.
Скрозь морак ночы блісне ззянне.
Бо як, скажы мне, жыць без веры,
Хіба без веры ёсць каханне?..

* * *

Няхай агнём маны і здрады
Мне сэрца апаліў мой лёс,
А я жыццю і лёсу рады
За ўсё, што Бог паслаў з нябёс.

Калі б не смутак, боль і беды,
Жыцця б я радасць не спазнаў,
Кахання б слодычы не зведаў,
Калі б без смутку не кахаў.

* * *

Светлы вечар. Як люстэрка, лужы
Дзіўнаю запоўнены красой.
Воблакі цвітуць, нібыта ружы,
І сады квітнеюць нада мной.

Нечым незвычайна дзіўна-новым
Мне Сусвет здаецца навакол.
Поўніцца душа крылатым словам,
Як вiном жыццё – вясельны стол.

* * *

Раскалоўся келіх неба
На аскепкі – не сабраць.
Можа, так яно і трэба,
Час свой – жыць і паміраць.

Час – зіме, і лета квету,
Плоці – час, і Духу – час.
Час вымольваць сны паэту,
Каб затым дарыць для вас.

Час для мудрасці і смеху,
Час для плачу і журбы.
Бо ўсяго мы – толькі рэха,
Толькі волі крык слабы.

Зноў скавалі дол марозы,
Сцюжа душу рве маю.
Не напой мядовы – слёзы
З неба келіха я п’ю.

* * *

Промняў шоўкаваю ніткай
Срэбнай песняю струны
Сакавіцкі ранак выткаў
У лузе красак дываны.

Паглядзі, пад снегам гідкім,
Ажываюць зноў яны.
Сакавіцкі ранак выткаў
У лузе красак дываны.

* * *

Вечарэе. Стомленыя хмары
Гурбамі ляцяць на вадапой,
Каб у пешчах цеплыні і пары
Адшукаць да раніцы спакой.

Ловяць мошак ластавачкі з лёту,
У хмызняк нырцуюць па чарзе.
Злоўленае сеткаю чароту,
Сонца рыбай б’ецца на вадзе.

* * *

Зляцела сонца з Божых рук
І знікла за пагоркам.
Стаміўшыся спяваць, жаўрук
Павіс у небе зоркай.

Бор вечаровай цішыні
Шапоча калыханку.
На ложку з траваў дрэмлюць дні,
Як дзьмухаўцы – да ранку.

* * *

А дрэвы збеглі з тратуараў
Пад засень храмаў і дамоў –
Не чуць каб сцюжы дзікай роў,
І хутаюць, як дзеці, твары
У сны далёкія і мары –
Вясна дзе, веліч і любоў.

* * *

Чаго мне трэба? Толькі цішыні.
Яна змясціла і гады, і дні
Жыцця майго і тых, хто поруч з намі
Жыў, працаваў, і ўжо каго не стала,
І гэта – многа, і так крыўдна мала, –
Жыць мроямі, надзеямі, і снамі...
Як цішыня мяне зачаравала, –
На вуліцы, а быццам я ў храме.

Ева Вежнавец



...калі захутка наліваешся,
больш заўважная дэградацыя мыслення,
нарастае эйфарыя,
потым страх і віна...

# Вінны яблык

***Апавяданне***

*Co to ja usiluje podac do państwa stołu?*
*Strach*
*winę*
*wino*
*zhycie*
*ja nie odpowiadam za własne słowa*
*syrena*
*obiecuje dużo*
*a potem człowiek*
*uderza się lbem o kamień.*
*Zacznijmy więc.*
*Pokusa piękna jest moją zasadą,*
*głodem i moim kierunkiem.*
*Piękne będą nasze przegranie.*

Jolanta Brach-Czajna

*Каб з твайго роту п'яўкі пілі.*

Праклён п'яніцам

Гэтую прамову над яе магілай я магу праказаць з поўнай упэўненасцю, што дасканала яе разумела. Анатолеўна была цэласным чалавекам, ніколі й вока не кінула на павабы

гэтага свету. Працавала ў бібліятэцы, і дня не прахадзіла цвярозая. Бутэлькі хаваліся ўсюды – пад масніцай бліскучай фарбаванай падлогі, за кнігамі на стэлажах, за стосамі тоўстых часопісаў, што ляжалі за грубкай ля вялізнага фікуса. Зрэшты, у дзежцы фікуса, бывала, таксама. Я ведала ўсе яе хованкі, бо праседжвала ў бібліятэцы вечары пасля школы. Анатолеўна сама падбірала мне кніжкі і ладзіла іспыты – ці ўсё я прачытала і ці правільна зразумела.

Калі ж яна змаўкала і апускалася ў свае сусветы, я штампавала кнігі – другую і сямнаццатую старонкі. Або падклейвала карэньчыкі, распроствала старонкі, разносіла па паліцах. Толькі людзей яна мне не давала абслугоўваць – канцэнтравалася і, шклянеючы ад высілку вачыма, рабіла ўсё дакладна, як аўтамат.

Не памятаю, каб хто папікаў яе, ды і начальства заплюшчвала вочы, пакуль у бібліятэцы ўсё ішло гладка.

Часам яна падыходзіла да люстра і доўга ўглядалася ў яго, круцячы галавой то ўправа, то ўлева і прыпадымаючы валасы над ілбом. Нібыта дзівілася: няўжо гэтыя носагубныя барозны і абвіслыя брылы, паараны лоб, парадзелыя бровы, сінюшныя скроні – ейныя? Што за змарнелы, абвіслы і безнадзейны твар з патухлымі вачыма падсунулі ў люстра? Зрэшты, твар мог бы выглядаць лепей, каб не так крычалі поры на ім: «Не пі! Не пі, мы захлынаемся!»

*Трэба штодня мыцца, а я так стамілася. Галаву памый, сама памыйся, зубы пачысці. А калі табе за 50 – колькі разоў гэта даводзіцца зрабіць, ты лічыла? А ў люстэрку бачыш адное і тое ж, толькі з кожным годам старэйшае.*

Прозвішча яе было Жыгалковіч. Прарочае – ад жыгалкі, гажэлкі, гарэлкі, рыгалкі, паджыгалкі. Я прыахвоцілася да яе кніг, а потым і да яе пляшак. Першы пякучы глыток зрабіла з тае, што стаяла за раманам “Цусіма”. Прарочая назва, толькі на дно я іду марудна, значна марудней за маю настаўніцу, тая танула пад усімі сцяжкамі і фанфарамі. Кампрамісаў не прызнавала, піла белую чыстую.

Я ж абрала віно і доўгі час думала, што п’янства – ручны драконччык. Таемна цешылася глыбокімі радасцямі віна, аж пакуль мой цмок не сягнуў поўнае красы і сілы, і цяпер не ён навязаны да мяне, а я да яго. Дні мае плятуцца ў кучу. Але вось учора было адметнае, новая ступень – я выходзіла на вуліцу. Напілася да поўнае пустаты – не памятаю, дзе сарвала дзікую ружу, дзе падбіла локці і калена. Ляжу, а яна мне дыхае ў твар, і сцябло перагрызенае. Шчаслівы з мяне звер, хоць і гіблы.

Вечар падыходзіць. Вярнуўшыся з працы, я адкаркавала пляшку вугорскага. Тонкі чырвоны язык цмока высунуўся з пляшкі і ліжа донца келіха. Віно дакладна адбівае сваіх стваральнікаў. Вугорскае – густое і цёмнае, бы вянозная кроў, дае цяжкое, замкнёнае, згубнае ап’яненне. Італьянскае недалюбліваю за легкадумства і слодыч (самотнае ап’яненне патрабуе стрыманасці і журбы). Французскае бутэлькамі піць не будзеш – прафанацыя. Беларускае можна прымаць хіба што рэктальна – гэта беспрымесная атрута і жывая жоўць. Шкода, што не робяць віна брытанцы. Яно б у іх выйшла не горшае за літаратуру.

Цмочая кроў імкліва ўліваецца ў маю. Гэта не грэх – падліваць у кроў падмацункі, але не трэба спяшацца. Калі захутка наліваешся, больш заўважная дэградацыя мыслення, нарастае эйфарыя, потым страх і віна.

Адарвала паўтвары спявачцы, якая сачыла са сцяны вядзьмарчынымі

вачыма. Гэтую афішу я ўкрала ноччу з тумбы, зачараваная позіркам. Аднак для дома вочы аказаліся занадта неадрыўнымі. Яна мне замінае. Мне ўсе замінаюць, калі я п'ю. Колькі лішняга я нарабіла нападпітку, саромных учынкаў, непатрэбных успамінаў, гэта пачало валачыцца за мною. Таму піць варта адной. Можна быць брыдкай без сведак.

Але пакуль я не буду брыдкай. Яшчэ не цяпер. Цяпер мне трэба трымаць сябе ў руках, бо бутэлька скончылася, і трэба схадзіць у манапольку. Надзяваю спартовы строй – ён трымае цела, як рыштаванне дом-развалюху. Памадай праводжу чырвоную лінію на падлозе і іду па ёй. Прайшла раўнютка. Можна выходзіць.

*Пекар Пётр пёк пірог. Ішла Саша па шашы і смактала сушку. Дайце, калі ласка, пляшку лібфраўмільх і літр мінералкі.*

Я выходжу з дому вельмі асцярожна. Калі ніхто не зірне, значыцца, я пад шапкай-захавайкай. Звычайная, нябачная і бясколерная цётка, унутры п'янюткая, як вінная дзежка.

Але хвалявалася я дарма. У гэты сіні вечар паміж дзвюма навальніцамі на вуліцах толькі вольны народ – валацугі і сцягакі. Вось на лаве спіць адзін такі, босы. Склаў прыгожыя даўгапалыя ступні, красоўкі падклаў пад лысую галаву. Я ў чужой спальні, іду ледзь не на дыбачках, каб не збудзіць гаспадара. Аднак ён адчувае, што нехта крадзецца, скаланаецца і адкрывае спалоханыя, яшчэ непрытомныя вочы. На твары шнары, нос зламаны, рукі апечаныя. Відавочна, яго білі, і соннага і п'янога. «Ціха, – кажу я напаўголаса, – спакойна, гэта ўсяго толькі я». Файная фраза, гучыць аднолькава на ўсіх мовах – трасянцы, беларускай і расейскай. Я ціхая цётка, якая не скрыўдзіць, а мо й пашкадуе. Ён зноў заплюшчвае вочы, адварочвае лысую галаву, варушыць пальцамі ног і засынае.

З манапольки я надзвычай спяшаюся дамоў, каб працягнуць працэс пагружэння.

Я спяшалася і той ноччу, год таму, калі толькі вярнулася ў мястэчка. У двары пры пад'ездных кустах мармыталі-валтузіліся сінякі. Худзенькая алкагалічка з хвосцікам спрабавала вырваць рукі, захопленыя ў замок мужчынскай пяцярнёй. Другой рукой, кулаком, мужык спрабаваў даць сяброўцы па галаве, але ўсё не мог трапіць. Ягоны сябра булькатаў, угаворваючы яго супакоіцца, а яе – не нарывацца. Я прайшла ўзбоч – не захацела пэцкацца. А наранiцу яе знайшлі пад кустамі, збітую на горкі яблык. Яна доўга трымалася, сухая птушачка, але ўсё ж аддала богу душу на шпітальнай койцы. Не пазнала я цябе, Анатолеўна.

Каб я тады зараўла: «А ну пайшоў адсюль. Чаго ты замахваешся на жанчыну кулакамі? Роўнага нікога не знайшоў?!» Каб узяла за рыльца сваю поўную пляшку і замахнулася на п'янюгу. Гэтага хапіла б. Зрэшты, не тое, каб моцна дапамагло б. Справа была гіблая з тае начы, калі яе дачка паехала з выпускнікамі катацца вярхом на бензавозе. Параскідала ўсіх, забіла траіх, але толькі Таню раздушыла бочкаю ад грудзей уніз, і толькі Таня мучылася да раніцы.

Эх, Анатолеўна! Навошта ж ты здрадзіла ордэну самотных алкагалічак, якія ніколі не напіваюцца на вуліцы, ходзяць па чырвонай лініі і не зрываюцца з яе? Але я б не ўратавала цябе, каб і пазнала. Хатнія алкаголікі пагарджаюць адкрытымі, пакуль самі не апынаюцца на вуліцы.

У хатніх чыстыя кватэры і здаровыя дзеці. Яны ўмеюць прытаіцца за сваімі фіранкамі, трываць гадамі, як клоп-блышчыца. Каб, падгадаваўшы

дзяцей, распачаць усё з таго самага месца, дзе спыніліся, хаваючы бутэлькі за акуратнымі стопкамі бялізны, за кнігамі, за сметніцай. А дзеці адкрытых бегаюць па дварах з касымі вачыма – як Рамон, Адрыян і Ніколь. Мурзатыя, як свіны тата, толькі вочы свецяцца. Іх маці, наша дворніца, спрабавала скампенсаваць калецтва і ўбоства прыгожымі імёнамі, верачы, што лёс іх будзе, як у тэлевізары.

*Цёця, я ўчора еў картошку. А сёння буду есці блінчыкі. Мая мама робіць іх мне. Мая мама робіць мне блінчыкі!*

Ліпень, а ў горадзе ўжо шмат апалага лісця. Гэта найслабейшыя, іх сарвалі летнія навальніцы. Лісты шушукаюцца на кожным рагу, быццам статкі жоўтых прусакоў. Разам з паперкамі ладзяць карагоды ля вадасцёкаў. Я заўжды падымаю рукапісы і друкапісы, бо гэта пасланні, якімі горад гаворыць з намі. Трапляюцца старонкі са сшыткаў і дзённікаў, вырваныя шкадлівай рукой школьніка, спісы пакупак, рэцэпты, трапіліся пратакол з агледзінаў цела, абрывак чыйгосьці ліста і, нарэшце, старонка, запісаная дрыготкаю рукой:

*HALT*
*H – HUNGRY*
*A – ANGRY*
*L – LONELY*
*T – TIRED*

*H – hungry. Не будзь галодны, не выходзь з дому, не паеўшы. Спакуса кілішка расце, калі ты галодны, а значыць злосны. Слодычы аслабляюць смагу.*

*A – angry. Гнеў – натуральнае пачуццё. Аднак завысокі ўзровень злосці выкліча напругу, і ты захочаш зняць яе алкаголем. Не накручвай сябе, дай сабе пару хвілінаў, перш чым скажаш або зробіш штосьці, пра што пашкадуеш. Ідзі пагуляй, пазвані іншаму сухому алкаголіку, пагавары пра тое, што цябе злуе.*

*L – lonely. Не будзь самотны. Ад самоты блізка да злосці, напружання, горычы. Таму такі важны кантакт з супольнасцю АА. Знайдзі сабе спонсара з доўгім стажам цвярозасці. Адным з сімптомаў вяртання хваробы ёсць ізаляцыя, самотныя ўцёкі ў свет мараў, уніканне сустрэчаў, крыўда на людзей. Блізкасць з людзьмі – яна не толькі фізічная. Любым коштам трэба ўнікаць самоты.*

*T – tired. Не будзь стомлены фізічна і псіхічна. Алкаголь на кароткі час прыбірае стому, дае падманлівае пачуццё лёгкасці і так вядзе на балотныя вогнікі. Толькі натуральны адпачынак – шпацыр, рэлакс, сон – даюць вынік. Памятай: нявартa замяняць алкаголь працай – у гэтую пастку часта трапляюцца алкаголікі, калі пачынаюць цверазець.*

*HALT спыніць цябе і дапаможа. Адрас – Калектыўная, 5-15, час – аўторак, 14.14.*

Запрашальнік быў яўна прызначаны мне, але на сустрэчу я не пайшла. Без голаду, злосці, самоты і стомы няможна быць чалавекам. А я нікім іншым быць не хачу.

«Сучасная псіхіятрыя лічыць алкагалізм формай “хранічнага самагубства”. Псіхалогія дзеліць алкаголікаў на чатыры тыпы: Genusstrinker – тыя, хто п’е для задавальнення і таварыства; Erleichterungstrinker – тыя, хто праз адурманьванне хоча выцясніць непрыемныя думкі і ўспаміны і звычайна робіць гэта на самоце; Betaeubungstrinker – “самааглушальнікі” – тыя, хто

п’е, каб сысці ад жыцця з ягонымі праблемамі; і нарэшце, Rauschtrinker – тыя, хто п’е дзеля самога ап’янення, якое з’яўляецца для іх самым камфортным, квазінармальным станам. Да апошніх належаць людзі з псіхічнымі паталогіямі, неўротыкі і – вельмі часта – творчыя людзі. Грае ролю фатальная залежнасць ад “знешняй сілы” – натхнення, якое немагчыма выклікаць да сябе высілкам волі. Гэта, як устанавіла наркалогія – адна з псіхалагічных крыніц алкагалізму». *(Паводле Грыгорыя Чхарцішвілі)*.

Хіба мы тут не нязбытыя людзі, залежныя ад знешняй сілы? Кожнаму неабходная прастора, каб тварыць, у нас яе забралі. «Нават яблык пры дыктатуры мае іншы смак», – сказаў Душан Макавееў. Алкагалізм – творчасць нямоглых, у каго няма іншай магчымасці сысці ад рэальнасці або змяніць яе.

Адзін баранавіцкі мужык выпіў тры пляшкі самагонкі і ўрэшце сканаў. За паўгода да таго ён сказаў мне: не магу, астабрыдла ўсё, ні ў чым радасці не бачу. Паехаў у камандзіроўку і захлынуўся гараю ў нумары.

Можа, усім беларускім алкашам зрабіць калектыўны HALT? Толькі што ніхто не прапануе іншай рэальнасці. Яе трэба ствараць самім. А на гэта здольныя не ўсе, многія паламаныя, і беззваротна. Таму:

Калі п’яны ляжыць на вуліцы ў мароз, аддзярыце яго ад лёду і завядзіце ў цяпло (калі вам не будзе брыдка).

Калі п’яны ляжыць на спіне і торгаецца, захлынаючыся ванітамі, перавярніце яго (калі вам не будзе брыдка).

Калі п’яны спіць заголены, падцягніце на ім вопратку (калі вам не будзе брыдка).

Але калі вам брыдка – абмініце, як я абмінула Анатолеўну. Гэта не вашая рэальнасць і не вашая віна.

Цэлы дзень над горадам доўжыўся ўсебеларускі злёт празрыстых пакетаў, яны луналі вышэй за дрэвы і дамы. А пад вечар далі навальніцу. Пра яе пачатак паведамілі кветкі, запахлі нібыта ў апошні раз. У таполяў задраліся серабрыстыя плашчы, хваляй пайшоў быльнёг на пустках, чакаючы сякучай вады. Грымнула, бухнула. Навальніцу асабліва вітаюць маладзёны і «джэнтльмэны» ля манаполек. Першыя бягуць на бяседы, скачуць праз лужыны, пекныя і юныя, у руках іх пакеты, і звон пляшак чуецца адтуль. Другія жвавей і радасней трубяць у свае горны, закідваючы галаву. Я стаю на балконе з пляшкай. Летнія навальніцы! Я вып’ю за вас рэйнскага. Яно халаднаватае, цяжкаватае, як дождж, як зямля, і надаецца для самотных хаўтураў.

У мяне была цудоўная настаўніца: яна нічому мяне не навучыла. За цябе, Анатолеўна.

Я веру, што ёсць недзе сад, і ты ходзіш па ім, знаходзячы ў дуплах і разгалінаваннях паўнюткія бутэлькі, і закусваеш яблыкамі, не зрываючы. Пакусаныя плады растуць у гэтым садзе, і восы кружляюць вакол пляшак. Спадзяюся, што табе там добра.

*2013*

Васіль Дэбіш



...тут стужка згадак
сцелецца прыгожых...

# Зноў я ў роднай хаце

* * *

Зноў я ў роднай хаце.
Цень плыве кудлаты.
Водгук крокаў маці.
Ціхі голас таты.

Запалю я свечку,
Душы хай асвеціць.
Цвыркунок запечны
Затужыў па леце.

А павук з надзеяй
І з такім спакоем
Боскім, нібы фея,
Тчэ радно сівое.

### *ТУМАНЫ*

Прылегла сонейка за плотам
І задрамала – сняцца сны.
Квет бэзу туліцца пяшчотна,
Да цёплых вокнаў і сцяны.

На захадзе пачырванелым
Стаіўся месяц, бы мангол.
Імчыцца ноч патопам белым
На нерушы зялёны дол.

Знікаюць дзесьці час, прастора...
Плыве туман з-за дрэў і гор.
І з гулам падаюць у прорву
Туману дыяменты зор.

### *ПАЛЯВАННЕ*

Як толькі сцямнее, у пушчу пайду я...
Сусед мой дзіка ці ласіху ўпалюе.
Дамоў прынясе ён, шчаслівы, вясёлы
Цяжкія, халодныя сцёгны жывёлы.

А я не ўпалюю ні птаха, ні звера –
Туман у бары, што ўздымаецца, шэры,
Гаворку крыніц, курапатчыны пёркі,
Кавалачак неба і ясныя зоркі.

### *ГРАД*

Трываць немагчыма, ані.
Ды чым тут жывому паможаш?
З нябёсаў ляцяць камяні
На дрэвы, на травы, на збожжа.

На бомы вясны, першацвет,
Што гэтак раскрыліўся міла.
Умомант счарнеў белы свет –
Змяло, паламала, пабіла.

На яблыньках нават няма
Лісточка, ні то што пялёстка.
Вярнулася нібы зіма
Ваўком згаладалым у вёску.

* * *

Наймілейшы – дом матулі,
Што пад ліпамі стаіць.
Ах, каб вы хоць раз пачулі,
Як пяюць там салаўі!

Як над дзічкай ззяюць знічкі,
Сонныя чмялі гудуць.
Серабрыстая крынічка –
Пырскі мёдам аддаюць.

Як там дыхаецца лёгка!
Сцелецца туман, бы дым.
Я іду павольным крокам
З вёдрамі – набраць вады

Да крынічкі дзіўнай гэтай,
Што мне сілу, моц дае.
Ах, як ярка свеціць ветах,
Звонка як цвыркун пяе!

* * *

Не да царквы іду, панове!
Ва ўсім, паўсюдна Бог жывы.
У луг, у поле йду на споведзь
Я да рамонкаў і травы.

Да птаства, што кружляе ў небе,
Да хмаркі, што кудысь плыве.
Інакшай споведзі не трэба.
Ва ўсім, паўсюдна Бог жыве.

* * *

Да роднай хаты! З белымі буслами,
Да рэчкі, што бяжыць між стромкіх дрэў.
Там маладосць мая жыла, ды мама
Сышла на сконе дня, як ціхі спеў.

Плывуць на захад сумныя аблокі.
Не быў тут многа год. Цяжкі мой грэх.
Стаіць дубок, як бацька мой, высокі.
Чародкі птушак туляцца да стрэх.

Тут стужка згадак сцелецца прыгожых.
Усё – як і калісьці, як раней.

Да роднай хаты... Дзе астылы ложак,
Такі мне родны, помніць шчэ мяне!

* * *

У горадзе – смутак і стома.
Падобныя ўсе вечары.
Калі прыязджаю дадому,
Не сумна – суседзі, сябры.

Ляці сабе – у паднябессе.
Ідзі сабе – сотні дарог.
Між сосен высокіх у лесе
Сябе адчуваеш, як Бог.

Па вёсцы я крочу на золку.
Што бачу – я рады ўсяму.
А сонца ўзыходзіць – вясёлкай.
І сэрцу так цёпла майму.

* * *

Кіпцюрамі дождж шкрабе па стрэсе
Радасна і шчасна, нібы кот.
І пад шум дажджу, у сенях дзесьці,
Заскрыпеў матулі калаўрот.

Заспяваў... Ці, можа, мне здалося,
Што не проста гэта дождж ідзе,
А матулечка даджлівай восенню
Промні залацістыя прадзе.

* * *

У слоік чысты малака
Налью і моўчкі пасміхнуся:
Трымае белы свет рука.

* * *

Сярэдзіна жыцця майго зямнога.
А што за ім – бязмоўнасць, забыццё?
Палае сонца летняе. Знямога.
І радасць не прыносіць нам жыццё.

У вачах – сляза. І горыч рэжа грудзі.
Ды жаваранак звонка запяе

І, ім залюбаваўшыся, забудзеш
Пра ўсе зямныя цяжкасці свае.

### *ДЗЕНЬ*

Дзень – чысты,
вымыты цёплым вясновым дажджом,
лашчыць мяне гарачымі
промнямі сонца,
нібы маці – пацалункамі сваё маленькае дзіця,
якое толькі што нарадзілася на свет.
Такі ціхі, узрушаны,
ён расце на вачах, расчыняецца і
ператвараецца ў невераемны
свет любові, пяшчоты і цеплыні,
ад лісоты да карэння,
ды так шчодра, што адчуваю,
як і я разрастаюся
каранямі – у нябёсы.

* * *

Я помню смутак і жалобу:
За мамінай труной ішло
Дзіця маленькае. А побач
Маўкліва, у слязах – сяло.

Спявалі, не змаўкалі птахі,
Усё буяла і цвіло.
І вочы, чорныя ад страху...
Мне тры гады тады было.
А мамачка – на цэлы свет – адна.

* * *

Пра што пісаў – пустым здалося раптам,
Нікчэмным... Беглі дзеці ля ракі.
Сабака спаў, у одуме на лапу
Паклаўшы пысу, бы барон які.

Звінеў у небе жаваранак божы,
І радасна трымцелі матылькі...
Ішоў за плугам я. За мной прыгожа
Раўнюткія ўзыходзілі радкі.

### НА ДВАРЫ

Там, на двары – у здзіве кот:
Снег выпаў белы і высокі.
Каля акна ён. Ля варот
На плоце сварацца сарокі.

Плыве з хлява бялюткі пар,
І брэша радасна сабака.
Карову доіць гаспадар,
І малако цурчыць па гляку.

Наўкол – анёлавы спакой.
Па дрэву, вільчыку, па даху,
Па падваконні – малако
З бяздоннага сцякае гляка.

### ЖАДАННЕ

Да хаты роднай, да дзядоў вярнуцца
Пад вечар сціхлы, калі сонца гасне,
І вочы неба ўсіх абняць імкнуцца:
Тых, хто ў журбе, шчаслівых і няшчасных.
З плячэй сваіх цяжкую скінуць стому,
Пачуць салоўкі спеў і не заплакаць.
Нясмелым крокам разбудзіць ля дому
Прыціхлага на прывязі сабаку.
Над студняю маўкліваю схіліцца,
Папіць вады з вядра, такой салодкай...
За ўсіх жывых і мёртвых памаліцца,
За блізкіх і далёкіх нашых продкаў.

* * *

Так, любая мая, я – валацуга.
І дома мяне ўвесну не ўтрымаць.
Іду за Буг. А там, за сінім Бугам,
Такі прастор – рукамі не абняць.

А там, за Бугам – воля. Ґукам кожным
Яна мяне чаруе і заве.
Там у туманах вечных і прыгожых
Русалка срэбнаскурая жыве.

Дажбог там на аблоках спачывае,
Лясун у ціхім золку будзіць гай....
Ну чым не казка?! Лепшай я не знаю.
Мая Радзіма! Мой палескі край!

Уладзіслаў Ахроменка



...можна выцягнуць паэзію з пляшкі,

але ж пляшку з паэта – ніколі!..

# Музы і свінні

***З новай кнігі***

## Як малады паэт даводзіў аўтарства свайго прызнання ў каханні

*З нізкі "Эрата, паэзія кахання"*

Калі ў сям'і нараджаецца хлопчык, бацькі проста абавязаныя зрабіць усё мажлівае, каб ён ніколі не стаў паэтам.

Мэта паэта – вышукваць узнёслае ў будзённым і пафаснае ў руцінным, каб размаітымі паэтычнымі сродкамі пераканаць чытача, што лайно – гэта ніякі не экскрэмент, а прадукт чыстае красы. Акрамя такога сумнеўнага занятку, паэт больш нічога карыснага рабіць не ўмее. Ён не ўмее варыць боршч, гандляваць на біржы, класці цэглу, пісаць кампутарныя праграмы і нават цыраваць шкарпэткі. Тупіковае адгалінаванне эвалюцыі, прыўкрасны няпотраб, паэт існуе па разумовых законах іншасвету, карэктуючы вершамі свядомасць прагматычных сучаснікаў...

Маладога паэта выпускаюць са сталічнага філфаку і размяркоўваюць школьным настаўнікам у занядбаны калгас. Паэт – праўдзівы рапсод і трубадур: натхнёны погляд, драныя джынсы, кволая фізіялогія. На танюткае шыі барвавеюць глянцавыя прышчы, што, зрэшты, не замінае пісаць яму вершы – даволі ўдалыя, паводле знаўцаў. На філалагічным, дзе амаль усе студэнты – паэты, маладзён пачуваўся ў асяродку братоў па розуме даволі камфортна. Але ж, патрапіўшы ў калгас, натуральным чынам насцярожваецца.

Зрэшты, усе страхі аказваюцца дарэмнымі. Спрактыкаванае вока лірыка цешыцца цудамі некранутай прыроды: іртутныя жнівеньскія росы на смарагдавых пашах, крышталёвая прахалода мясцовай рачулкі, вечаровыя індыгавыя нябёсы з бухматымі свяцiламі... Ды няўжо маладзён будзе бедаваць сярод такіх дзівосных краявідаў?! Ці не ўсе класікі сусветнай паэзіі хоць колькі гадоў жылі на вёсцы, дзе сілкаваліся дарункамі зямлі і натхняліся на буколікі. Тым больш, што згодна дзейснаму заканадаўству, маладому спецыялісту ствараюць усе ўмовы: даюць закінутую хату на беразе маляўнічае рачулкі, нават са студняй і зямелькай пад бульбу. Размілаваны творца задуменна чухае шыю і прыкідвае: нічога, жыць тут, аказваецца, можна! Жуй сабе дранікі пад самагонку і пішы “Дні і турботы” пра даярак і камбайнёраў...

Але ж пачынаецца навучальны год, і малады настаўнік хуценька прасякаецца калгаснымі рэаліямі. Раз’етая, бы тая свінаматка, дырэктарка школы, з залатымі зубамі і нездаровым бляскам вачэй. Школьнікі малодшых класаў, якія выдатна разумеюць, што да трыццаці гадоў абавязкова тут сап’юцца, але на ўсялякі выпадак мараць стаць бізнэсменамі і кіназоркамі. Загадчык Райаддзела народнай адукацыі, ашалелы ад метадычак па дзяржаўнай ідэалогіі і мізэрнай зарплаты.

На бясклапотнага выпускніка філфаку штабелем сілікатнае цэглы навальваюцца класнае кіраўніцтва, праверка сшыткаў, складанне канспектаў, педагагічныя нарады, ідэалагічныя гадзіны, пазашкольнае выхаванне і суворы вясковы побыт. Па хуткім часе сілікатная цэгла складаецца ў сцежку, каторай мосціцца дарога ў пекла. Вясковыя ландшафты, якімі яшчэ нядаўна захапляўся ўзнёслы маладзён, укрываюць сырыя восеньскія туманы, на выцвілых нябёсах пакутліва паміраюць зоркі, затое прышчы на паэтавай шыі барвавеюць ад хранічнага недасыпу і нястачы вітамінаў.

За няпоўны навучальны год малады паэт па поўніцы спазнае тутэйшае жыццё. Разам са сваім класам ён на выходных перабірае згнілую цыбулю ў калгасным сховішчы. За “дзякуй” рамантуе прыватныя парнікі начальства. Бух*а*е з механізатарамі ў цяню сіласнай вежы. Далоні маладзёна ўкрываюцца цыпкамі, класавай прыкметай вясковага пралетарыя.

У якасці перманентнае маральнае ўзнагароды маладога спецыяліста прэміруюць выступам на ўрачыстасцях, прысвечаных вызваленню роднага калгаса ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Паэтычная чытанні канчаюцца гучным скандалам: рыфма “танкі” і “лесбіянкі” даводзіць загадчыка РАНА да істэрыкі. У выніку паэта вінавацяць у антыдзяржаўнай дзейнасці, пазбаўляюць аўдыторыі, і ў яго натуральным чынам пачынаецца цяжкая дэпрэсія. І толькі дырэктарка-свінаматка аблізваецца на маладзёна, рэгулярна запрашае ў госці, і па яе шматзначнаму позірку паэт нарэшце разумее, што яна марыць яго згвалціць...

Дэпрэсія доўжыцца ажно да канца траўня. З заканчэннем навучальнага

года апухлы паэт раздае школьнікам табелі і выносіць на падворак мех парожніх пляшак. Тупа глядзіць у каламутную рачулку, аўтаматычна фіксуе вачыма пяшчотна-зялёную вярбу на падворку школьнай дырэктаркі, што крыху ніжэй па рачной плыні, пераводзіць позірк на дзялку галоўнага інжынера за свінаматчыным плотам, і...

Мех выслізгвае з паэтавых рук, пляшкі звіняць, коцяцца па траве. Паэт хаўкае, паціраe вочы, недаверліва шкрабае шыю шурпатай далонню і міжволі робіць колькі крокаў да рэчкі.

У якіхсьці трыццаці метрах ад яго – сапраўдная Венера з карціны Сандра Баціччэлі. Вытанчаны антычны профіль, доўгія ільняныя валасы, бездакорная постаць. На Венеры – эратычны паўпразрысты купальнік, дзве танюткіх палоскі тканіны. Сонечныя прамяні кругляцца на прыродных пукатасцях прыгажуні, залацяць ледзь кранутае травеньскім загарам цела.

Паэт безвынікова спрабуе выраўняць дыханне. Становіцца за студню, нервова грызе пазногаць і адчувае, як у ягоных грудзях пяшчотна вібруюць залатыя струны. А яшчэ адчувае, што ён загінуў назаўсёды і паратунку яму няма.

У той жа дзень вясковы настаўнік вырашае звярнуць на сябе ўвагу інжынеравай дачкі, якая прыехала на вакацыі з Мінска.

Але як?!

Нармальны чалавек напэўна знайшоў бы якую нагоду, каб завітаць да суседа. Пазнаёміўся б з дзяўчынай, запрасіў бы яе ў гандэлак, правёў бы потым дахаты, няўзнак крануў бы налітую цыцку... Але ж паэт абірае нетрадыцыйны спосаб знаёмства. Ён кволы, несімпатычны з твару, з хранічнае паталогіяй сальных залозаў, да таго ж – занадта сарамлівы. Вось вясковы трубадур і вырашае напісаць узнёслы лірычны верш, прысвяціць яго Венеры, потым неяк зрабіць, каб той верш патрапіў на ейныя вочы і толькі пасля гэтага прызнацца ў аўтарстве і, калі атрымаецца, у каханні.

У той жа вечар натхнёны паэт сядае за працу. Матэрыяльныя ўкладанні ў паэтычную творчасць мінімальныя, дастаткова просценькага ноўтбука, але ж у маладзёна няма нават гэтага, бо надта ўжо бедны ён творца. Паэт піша ад рукі, крэсліць, камечыць паперы, зноў піша, зноў крэсліць... Атрымліваецца не зусім тое, чаго прагне закаханы, і ён натуральным чынам узгадвае пра допінг: накатвае гранчак гарэлкі, запальвае пляскатую “астру”, засяроджана мружыцца, дбайна перагаблёўвае ў галаве рыфмы.

На раніцу маладзён сядае на беразе рачулкі і каторы раз перапісвае верш, раз-пораз зыркаючы ў бок інжынеравага падворку. Электрычнае веснавое сонца валіць з купарвасных нябёсаў, Венера бесклапотна загарае і нават не падазрае, якое свята паэзіі напаткае яе па самым хуткім часе. Праўда, зусім побач, за плотам, на градах стаіць свінаматка-дырэктарка, і яе залатыя зубы злосна блішчаць у сонечных прамянях... Але ж закаханаму маладзёну цяпер відавочна не да яе. Паэт кропліць потам паперу, дыхае слязьмі замілавання, крэсліць і перапісвае.

Нарэшце, канчатковы варыянт гатовы. Лірычна, стрымана і вельмі далікатна, бо пры жаданні верш можна ўспрыняць і як палымянае прызнанне ў каханні, і як узнёслы гімн навакольным прыгажосцям.

Але ж што зрабіць, каб напісанае прачытала дзяўчына? Падкінуць у паштовую скрыню – не факт, што твор патрапіць на вочы каханай, а не ейнаму бацьку-інжынеру, тым больш, інжынеры традыцыйна не любяць

паэтаў. Папрасіць суседскага хлопца перадаць “асабіста ў рукі” – дык той напэўна прачытае і адразу растрындзіць усяму калгасу. Маладзён ліхаманкава перабірае ў галаве мажлівыя варыянты: скласці з аркуша папяровы самалёцік і закінуць яго на інжынераў падворак, дазнацца нумар мабільніка Венеры і скінуць паэтычны твор вялізнай эсэмэскай, напісаць верш незмывальнай фарбай пад ейнымі вокнамі...

По хуткім часе паэт знаходзіць досыць небанальнае выйсце: пакласці аркуш з вершам у парожнюю пляшку, герметычна яе закаркаваць і кінуць у рачулку. Рэчышча тут выгінаецца літарай “С”, так што плынь напэўна мусіць прыцягнуць пляшку да інжынеравага берага. Красуня раз-пораз купаецца – мо і заўважыць падарунак?! А як не заўважыць, то можна і паўтарыць; чаго-чаго, а парожніх пляшак у паэтавай хаце на пяцітомнік!

Творца, высалапіўшы ад напругі язык, каліграфічна перапісвае верш. Укладае ў прыгожую пляшку з-пад “Белавежскай”. Залівае рыльца свечным парафінам і шпурляе пляшку з сакральнымі радкамі ў хвалі...

Назаўтра закаханы ад самое раніцы напружана касавурыцца ў бок інжынеравага берага. Венера лянотна раскінулася ў гамаку і нават не глядзіць у ягоны бок. Няўжо ёй верш не спадабаўся? А, можа, яна проста пляшку не злавіла? Паэт спрабуе супакоіць сябе другім, зноў перапісвае, закаркоўвае і шпурляе.

Так доўжыцца цэлы тыдзень, але ніякага плёну маладзён так і не дасягае; дзяўчына па-ранейшаму не зважае на аўтара. Паэт выбудоўвае ў галаве самыя фантастычныя версіі – пра начных браканьераў, якія падступна ставяць на рацэ гіганцкія сеткі, пра пачварнага сома, які рэгулярна глынае пляшкі з ягонай паэзіяй і нават пра падпітых русалак... Нарэшце, бацька-інжынер атрымлівае адпачынак і разам з усёй сям’ёй з’язджае на мора.

Праз які тыдзень калі паэт, счарнелы ад тугі і пакутаў кахання, у каторы ўжо раз шыбуе ў мясцовую краму, яго нечакана пераймае загадчык Райаддзела адукацыі. Мружыцца на несвядомага маладзёна, выцягвае з кішэні раённую газету, разгладжвае далонню і абвяшчае:

– Вось якія вершы патрэбныя сёння на ідэалагічным фронце! Не тое малаідэйнае лайно, якое ты на патрыятычнай вечарыне чытаў! Паглядзі, паглядзі, як трэба!

Паэт млявым вокам праглядае першы радок і адчувае, што валасы ў яго міжволі становяцца дыбкі... Гэта ж... ягоны верш, які ён так пакутліва пісаў для сваёй Венеры! Слова ў слова і рыфма ў рыфму! Толькі называецца ён “Да юбілею роднага калгасу” і прысвячаецца сямідзесяцігоддзю са дня ягонага заснавання. Маладзён ачмурэла глядзіць на прозвішча знізу і адчувае, што распадаецца на малекулы і атамы... У якасці аўтаркі ягонага пранікнёнага верша пазначаная залатазубая дырэктарка.

Пэўна, адрынутая маладзёнам свінаматка дапяла, які скарб хаваўся ў закаркаваных пляшках, якія яна штораз вылоўлівала з рачулкі. А мо, і сам малады спецыяліст не разлічыў рачной плыні, і пляшкі тыя штораз прыбівала да дырэктарскага берага...

Паэту можна адмовіць у грошах, у каханні і нават у прызнанні. Але ж толькі не ў аўтарстве. Абражаны ў святых пачуццях маладзён з непрыхаваным выклікам глядзіць на загадчыка РАНА і прапануе рашуча:

– Пайшлі!

– Куды? – не разумее той.

– Да гэтай тлустай сукі!

Дыялог з дырэктаркай, аднак, адразу заходзіць у тупік, бо тлустая сука вішчыць на ўвесь падворак, і ўсе ейныя аргументы зводзяцца да аднаго: “А ты давядзі, што гэта не я напісала!..”

Паэт асякаецца. Чухае барвовую шыю. Запальвае “астру”. І нечакана пытаецца:

– Вы гарэлку п’яцё?

– Я?! – абурана перапытваецца зладзейка. – Ды ў рот не бяру!..

– Дакладна? Усе чулі? – маладзён з выклікам глядзіць на начальніка РАНА, ідзе да самога берага і шалберскім жэстам выцягвае з-пад брызенту з рыдлёўкамі і сапкамі пляшкі з-пад гарэлкі. Усе сем штук, з размоклымі налепкамі і парафінавымі пісягамі на рыльцах...

– Можна выцягнуць паэзію з пляшкі, але ж пляшку з паэта – ніколі! – пераможна рэзюмуе паэт. – Якія вам яшчэ доказы тут патрэбныя?..

...Розгалас атрымаўся гучным, бо абкрадзены творца, натуральна, не супакоіўся і пайшоў даводзіць сваё аўтарства ў мясцовую раёнку. Як то ні дзіўна, але там да ягоных аргументаў і асабліва рэчавых доказаў паставіліся з поўным разуменнем.

Бо калі паэзія – карэкцыя свядомасці чытача, то алкаголь – традыцыйны сродак карэкцыі свядомасці паэтаў. Не меншы, чым самае рамантычнае каханне. А мо, нават, і большы.

## Як трубач Гомельскага цыркавога аркестра граў з паднябесся “Інтэрнацыянал” для Пятра Машэрава

*З нізкі “Палігімнія, Гімны”*

Словы “савецкі цырк” патыхаюць прыхаваным і дасціпным кпінам. Смяшнейшае хіба што “Шоу кракадзілаў, прысвечанае юбілею Вялікага Кастрычніка”.

Гомельскі абласны цырк, арганізаваны ў 1972 годзе, быў спрэс савецкім: паветраныя эквілібрысты са сцягамі саюзных рэспублік, конныя гімнасты ў будзёнаўках. Нават клоўны – і тыя выкрывалі нядбайных сантэхнікаў і амерыканскіх імперыялістаў. Як і мае быць, увесь гэты цырк суправаджаўся эстрадна-духавым аркестрам. Праца ў эстрадна-духавым лічылася ў лабухаў прэстыжнай: трохгадзінны працоўны дзень, непаганыя зарплаты і нават ведамасная чарга на кватэру.

З кватэры ўсё і пачалося...

Прыходзіць на гомельскі цырк доўгачаканая разнарадка – жылплошча ў новабудоўлі. Чарга даўно сфармаваная і зацверджаная, і, згодна ёй, кватэру мае атрымаць трубач: саліст, спецыяліст, камуналка, двое дзетак, палітычна граматны, ніводнага залёту па п’янках. Дый у кватэрным спісе ён ужо гадоў сем як пад першым нумарам, так што ўсё справядліва.

Трубач на радасцях прастаўляецца ўсяму аркестру. Ягоная жонка закупляе гарэлку на ўваходзіны. Дзеткі гуляюцца з лялькамі “ў пераезд на новую кватэру”. Суседзі па камуналцы распачынаюць класічную зваду, каму з іх засяляцца на вызваленыя метры.

І тут уся гэтая эйфарыя перапыняецца запрашэннем шчасліўца ў месцкам. Прафарг, хаваючы вочы, абвяшчае афіцыйна-спагадліва: новую кватэру давядзецца крыху пачакаць. Музыка з разуменнем удакладняе: што, гарвыканкам яшчэ ордэр не выпісаў? Ды не, кажа прафарг, выпі-

саў, толькі не табе. Лабух прачышчае пальцам адно вуха, другое, потым сінхранізуе працэс і няўцямліва лыпае вачыма: у сэнсе? А ў тым сэнсе, адказвае прафарг, што наверсе вырашылі перагуляць – знайшлася куды больш годная кандыдатура. Наташу з балетнай групы ведаеш, цыркавога камсарга? Вось яна ордэр і атрымала. Ды разумею, разумею, што толькі паўтары гады тут працуе. А ведаеш, хто яе харыць? Як гэта “не”, калі ўвесь цырк толькі пра гэта і гаворыць?! Вось яе хахаль з абкаму і пастараўся.

Трубач паволі асэнсоўвае пачутае і разгублена шчоўкае дзюбай, бы той цыркавы пінгвін, якога здзекліва пацвялілі заслужанай рыбкай. Ягоная крэўная кватэра – і каму? Камсамольскай давалцы, каб яна там перад зажэртым абкамаўскім кныром ногі задзірала!

Музыка паволі спаўзае з фатэлю, сарамліва грукае каленямі у паркет і прамаўляе ўмольным паўшэптам:

– Майце ж сумленне... усё жыццё ў камуналцы! Адзін пакой на чатырох, і той фіранкай перагароджаны! Я ж нават з жонкай памілавацца не магу – то дзеткі ў вайнушку гуляюць, то алкашня за сценкай раве! Мне што – у пятлю цяпер?

Прафарг мітусіцца з валідолам – яшчэ інфаркту ў гэтага пакрыўджанага яму не ставала! Усё наладзіцца, квохча ён, наступная кватэра, што на наш цырк прыйдзе – дакладна твая. Трубач глынае пякучыя слёзы: дык што, яшчэ цэлых сем гадоў чакаць?! А дзе гарантыя, што тую жылплошчу не аддадуць якому клоўну, вернаму ленінцу і каханку рэферэнткі абкаму? Та-ак, суворае прафарг: ты што, хочаш абскардзіць рашэнне партыі? Савецкая ўлада не падабаецца?

Лабух у абсалютна разбітым стане вяртаецца дахаты. На ранішнюю рэпетыцыю не ідзе, купляе ў знаёмага тэрапеўта бюлетэнь райпаліклінікі, сядае за фіранкай і мэтанакіравана жлукціць скрыню гарэлкі, купленую на ўваходзіны. Жонка трагічна скардзіцца на несправядлівасць суседзям і сустракае суцэльнае іх спачуванне. Дзеткі гуляюць у гестапа, навесіўшы на лялек шыльдачкі з надпісамі “прафарг” і “камсарг”.

Гарэлка канчаецца, ссіняча-чорны музыка праблёўваецца, бярэ душ і спакваля вяртаецца да рэчаіснасці. А рэчаіснасць такая, што хочацца зноўку запіць, дый ужо здароўе не дазваляе. Хаблы-суседзі, дэбілы-начальнікі, суботнікі і палітінфармацыі, цырк на дроце і бег па коле, і так – усё жыццё! А ў перспектыве – інфаркт у роднай камуналцы і смерць у бальнічным бараку.

Іншы б злякана падціснуў звыклыя для падсрачнікаў клубы і змірыўся б. Не ён першы, не ён апошні, за маё жыта мяне і біта, а праўды ўсё адно не дамагчыся! Але лабух вырашае ісці да канца: савецкі чалавек, пазбаўлены законнай халявы, імгненна ператвараецца ў крыважэрнага хіжака, і ніякія браты Запашныя такога не ўтаймуюць!

Наступным днём трубач запісваецца на прыём у гарвыканкам і ў абкам, піша абураны ліст у “Гомельскую праўду”. Прытым у лісце неабачліва называе прозвішча і камсамольскай давалкі, і абкамаўскага кныра. У гарвыканкаме яму нагадваюць пра распараджэнне абкаму, у абкаме чытаюць лекцыю пра ідэйную тоеснасць партыі і камсамолу, а ліст з “Гомельскай праўды” адфутбольваецца ў цырк.

Заканчваецца гэта ўсё таварыскім судом, гучным і пафасным, як “Parade allez” на адкрыцці сезона. Манежныя падхалімы скачуць вакол начальства дрэсіраванымі пудзелямі і імпэтна брэшуць на падсуднага: на ленінскі

камсамол плявузгаць? сумленных камуністаў брудам абліваць? у савецкім цырку такім не месца!

У выніку праўдашукальніка выганяюць з працы, прытым з такой характарыстыкай, па каторай не возьмуць нават у лагерны аркестр. Банальная камсамольска-партыйная разбэста і такое ж банальнае махлярства з дармавой жылплошчай пакрысе спрычыняюцца да класічнай сацыяльнай драмы.

Колькі дзён былы цыркавы музыка засяроджана паліць на агульным калідоры і пад вуркатанне камунальнага ўнітаза прыкідвае інстанцыі, куды яшчэ можна аднесці сваю крыўду: ЦК КПСС, газета “Правда”, “Саюздзяржцырк”... Але ж хто там з ім, антысаветчыкам і паклёпнікам, стане размаўляць?!

І тут сусед па камуналцы, дворнік у Парку культуры і адпачынку, выдае службовую таямніцу: заўтра ў Гомелі чакаюць на нейкае высокае начальства з Мінску, мажа, і на самога таварыша Машэрава. Адкуль вядома? А дырэкцыя загадала транспаранты навесіць, смецце з клумбаў папрыбіраць ды дрэвы белай алейнай фарбай абшмараваць, каб ажно блішчэлі. Вось бы табе, сусед, са сваімі праблемамі да нашага роднага бацькі з беларускага цэ-ка!

Лабух і сам разумее, што гэта шанец. Савецкая ўлада яму не падабаецца, свалоту-начальства ён ненавідзіць люта, і толькі да таварыша Машэрава, найгалоўнага кіраўніка ўсяе гэтае свалоты, у пакрыўджанага невытлумачальны сантымент. Прычыны гэтага сантыменту знаходзяцца па-за межамі здаровай чалавечай логікі і сягаюць у плоскасць калектыўнага неўсвядомленага.

Але як патрапіць да Пятра Міронавіча на вочы? Ездзіць родны бацька з цэ-ка на спецлімузіне, вячэрае ў спецрэстарацыі, спіць у спецгатэлі, і ад родных сыноў ён аддзелены тлустай праслойкай спецахоўнікаў, спецлёкаеў, спецкухараў і спецхалуёў. Гнанага музыку да яго й на гарматны стрэл не падпусцяць!

А сусед-дворнік гундосіць добразычліва: табе ўсё адно няма чаго губляць, так што паспрабуй да Міроныча неяк прарвацца! Ён жа наш, з народу, і за просты люд у яго ажно сэрца шчэміць! Напэўна, і па нашым парку прайсціся захоча, як самы звычайны савецкі чалавек, таму там і марафет наводзяць. Толькі глядзі – усіх наведвальнікаў адтуль загадзя выганяюць, а па перыметры выстаўляюць заградатрады мянтоў!..

...Наступным днём двое мудзілаў з невыразнымі пысамі дбайна аглядаюць гомельскі Парк культуры і адпачынку. Фармальна рэвізія на прадмет асабістай бяспекі высокага госця, але ж ані амерыканскіх рэйнджараў у гурбах апалага лісця, ані цэрэушных мікрафонаў на клумбах тут быць не можа. Так што ўся ўвага на пустых пляшках пад лаўкамі і валацужных сабаках у хмызах.

Сонечныя прамяні наскрозь працінаюць напаўабляцелыя прысады. Бліскучае павуцінне раскрэслівае празрыстыя краявіды. Мудзілы, уздымаючы нагамі лісце колераў сусветнага пажару, мэтанакіравана сунуцца сцежкамі, прыдзірліва заглядаюць у самыя аддаленыя паркавыя куткі. Па хуткім часе абодва ўлоўліваюць дзіўную акустычную вібрацыю з боку Сожа, і гэтая вібрацыя імгненна афармляецца ў густы сакавіты гук, які крыху нагадвае параходную сірэну. Мудзілы перазіраюцца, імкліва кідаюцца ў бок набярэжнай і недаверліва ўтаропліваюцца ў прастору, праціраючы вочы.

Сіняе неба, шэрая рака. Паміж імі даўжэзны пешаходны мост з высачэзнымі карункавымі фермамі. Наверсе бліжэйшай – самотны мужчынскі сілуэт, прытым нават здалёк відно, што ў руках верхалаза блішчыць нешта залатое і мудрагелістае. Да снайперскай стрэльбы не падобнае, але ж карцінка абсалютна не ўпісваецца ў краявід, пратакол і свядомасць.

Мудзілы навыперадкі імчаць праз увесь парк да моста, задзіраюць падбароддзі. На самай верхатуры – невядомы мужык з трубой. Пэўна, калі парк напярэдадні машэраўскага візіту перакрывалі, ён на бязлюдным пляжы па той бок ракі хаваўся ў распранальнай кабінцы, таму і не ўгледзелі. Ат жа і пасыплюцца сёння ў некага зоркі з пагонаў!

Першы мудзіла спрактыкавана хапаецца за кабуру. Другі істэрычна цісне кнопку партатыўнай рацыі, дакладае начальству пра гнюсную антысавецкую правакацыю.

І тут з паднябесся знянацку гучыць шляхотны і пругкі гук трубы, і ўжо першыя ноты прымушаюць мудзілаў схамянуцца і рэфлекторна выцягнуцца струмка.

Трубач грае “Інтэрнацыянал”!

Слухачы, аднак, нядоўга камянеюць у рытуальных паставах. Па хуткім часе абодва ачомваюцца, тым больш, што на мост збягаецца ўсё іх наяўнае ў парку начальства ў цывільным. Нехта праціраe оптыку бінокля, нехта спрабуе залезці на ферму, нехта ліхаманкава высвятляе асобу парушальніка.

Пачынаюцца перамовы.

Высокі начальнік складае далонькі рупарам, раве злякана: алё, мужык з дудкай, хто ты такі і хуля там робіш? Трубач надзіва роўна дайграе куплет, пасля чаго адрэпетавана адказвае: такі і такі, бязвінна пацярпеў, прашу сустрэчы з першым сакратарам цэка кампартыі Беларусі таварышам Машэравым Пятром Міронавічам. Начальнік абяцае музыку сустрэчу з расстрэльным узводам. Трубач са сваёй верхатуры абурана перапыняе: як, за публічнае выкананне “Інтэрнацыянала” забойствам палохаць? А калі пра гэта варожыя “галасы” дазнаюцца? Дый не толькі варожыя, але і з краінаў сацыялістычнай садружнасці... што скажуць пра гомельскі абкам?!

Знізу гучыць няўпэўненае: зараз псіхбрыгаду выклічам! Вільготная ўкрутка, дручком па галаве, аміназінам у сраку – і ніякіх праблемаў! А хрэн вам у вочы, парыруе трубач з паднябесся. Акурат учора быў у псіхдыспансеры, узяў даведку, што абсалютна здаровы.

Высокі начальнік нервова грызе пазногці і тужліва мацюгаецца: усё, падла дысідэнтская, наперад пралічыў!

Трубач трубіць з паднябесся натхнёна і з выклікам, бы Архістратыг Міхаіл перад Вечным судом. Сожскі ветрык рашпілем шкрабае распаленыя твары слухачоў, дзьме за каршэні індпашываўскіх пінжакоў восеньскай вільгаццю. Тым часам асоба парушальніка прасвечваецца ідэалагічнымі рэнтгенамі ва ўсіх падрабязнасцях і фарматах: трыццаць восем гадоў, беспартыйны, раней не судзімы, вайсковаабавязаны, адукацыя няскончаная вышэйшая, на акупаванай тэрыторыі не заставаўся, сваякоў за мяжою няма, выгнаны з цыркавога аркестру з воўчым білетам за пасквіль на партыю і камсамол...

Неўзабаве хтось прапануе: а што, калі сапраўды даць гэтаму паўдурку кватэру, каб заткнуўся? На дабрадзея шыкаюць з усіх бакоў: ну, зусім з глузду з’ехаў! Ведаеш, якая ў гарвыканкаме чарга на жылплошчу? Назаўтра ўсе гомельскія масты будуць гронкамі бескватэрных аблепленыя!

Вось і атрымліваецца, што сагнаць парушальніка з верхатуры проста немажліва. А запрасіць таварыша Машэрава для перамоваў з ім – і пагатоў!

Высокі начальнік трагічна абхоплівае голаў рукамі і, спатыкаючыся, ідзе прэч. Мудзілы змрочна паляць каля парэнчаў, адбудоўваючы форс-мажорныя варыянты пра снайпера і дэсантнікаў.

А трубач зноўку грае "Інтэрнацыянал". Велічныя сакавітыя гукі працінаюць прысутных ажно да дрыжыкаў, міжволі нагадваючы пра светлыя ідэалы рэвалюцыі і сацыяльную справядлівасць... Як ні круці, план у гнанага музыкі наіўны і прыўкрасны: не можа быць, каб таварыш Машэраў яго не пачуў, не падышоў і не пацікавіўся!..

А тым часам таварыш Машэраў разам з адказным таварышам драбнейшага калібру нетаропка шпацыруюць восеньскім паркам. Падыходзіць Пётр Міронавіч да аглядальнай пляцоўкі на рачным адхоне, і ў ягоных вачах выяўляецца паблажлівая зацікаўленасць:

– Што там робіць гэты клоўн?

– Выконвае гімн Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, – драўляным языком тлумачыць адказны таварыш з гомельскага абкаму.

– А чаму так высока?

– Ён з цырку. Вось і прапагандуе партыйную музыку сродкамі савецкага цыркавога мастацтва! Усё ўзгоднена, Пётр Міронавіч, тамака на нізе ўжо і слухачы сабраліся!

Карацей, у гомельскім абкаме вырашылі скарыстаць прыкрую неспадзяванку на ўласную карысць: маўляў, іхні ноў-хаў, атмасфера кіпучага энтузіязму, з роднай партыяй да новых вышыняў, так усё і было задумана!

Галоўны беларускі камуніст намысліваецца, прыдзірліва глядзіць на трубача, адступае на які крок, зноў глядзіць.

– Толькі краявід тут псуе, – гучыць грэблівы начальніцкі вердыкт, і ўжо праз якую хвіліну таварыш Машэраў забываецца і на пачутае, і на пабачанае...

...Чым скончылася тая гісторыя, дакладна невядома. Можа, свавольнага музыку падстрэлілі знізу, можа, зваліўся ў раку, можа, змерз на верхатуры і здаўся сам.

Але, хутчэй за ўсё, яго забралі на нябёсы анёлы.

З прыгоннымі артыстамі, якія паўстаюць супраць свайго рабства, такое іншым разам здараецца.

паэзія

Фёдар Ястраб



...ніколі ў слова
не згібее вера...

# Вечны Пілігрым

***Санеты***

* * *

Спякотай разамлелаю – бялюткі снег,
Нібы кінжал у анямелыя разлогі...
Няўжо насамрэч чымсьці разгнявілі бога?
І што за жарт такі – яго пагрозны смех?

Мо гэта плата нам за неспазнаны грэх?
Кудысьці не туды мо завялі дарогі,
А мы пагардліва адрынулі трывогі
І неўсвядомлены свой не спынілі бег?

Пакуль праз жар і пот не апячэ марозам,
Бяжым кудысьці мы, нібыта пад наркозам
Традыцый, звычак, думак чэзлых... Дзе іх плён?

Адкуль імчымся мы і пад чыім наглядам?
Ці блісне ісціна калі пад маскарадам?
Бяздумным табуном ляцім праз жыццясон...

* * *

Ты, як Касандра, смела прадракаеш
І шчасця светлы след, і стос трывог –
Такі даў дар табе калісьці бог.
А шлях уласны ў цемры адшукаеш?

Да дна сябе ніколі не спазнаеш,
Хоць за душой і ведаў новых рог,
Ды ўсё ж душы няведамы аблог –
І Абсалюту зноўку саступаеш...

Што ёсць жыццё – хаос альбо парадак
Сумеснай дзеі, адзіноты, звадак?
І рух адвечны – нейкі механізм?

Мы проста адчуваем, што міжволі
Гуляюць намі на бязмежным полі
Мільёны яркіх сонечных харызм.

* * *

У белы сад расчынена вакно,
І цягне пахам сена ад адрыны.
Стары крумкач застыў ля каляіны,
Нібы вядзьмак з індыйскага кіно.

Не зварухнуўшыся, глядзіць на дно
Маленькай лужынкі абоч яліны...
Мо ён шукае сэнсы і прычыны,
І там яму хоць нешта, ды відно?

Шукаеш дух жыццёвы на аблоках,
А ён жа тут – у звычным, недалёка,
Ты толькі голаў ніжай апусці.

Знайдзі ў душы нябачаныя сховы
І неабсяжны свет адкрыеш новы,
І да яго цераз жыццё ісці...

* * *

Свой кожны адшукае небакрай,
Для кожнага цячэ свая крыніца,
Не гуртам трэба – аднаму маліцца,
Калі ў душы паселіцца адчай.

Глядзішся ты Нарцысам у ручай
І не перастаеш сабе дзівіцца:
Мяняе твар бруістая вадзіца –
Быў толькі ты, а зараз хто? Пазнай!

Ты сам сябе ніколі не пабачыш,
Штрыхом імгненным толькі абазначыш,
Твой дух – не скамянелы ў часе стод!

Пярэстых з'яў імкліва, часам, змена.
Ці ж можа камянець жывая сцэна?..
І нашы лёсы не сцішаюць ход...

* * *

Пад вечар праз адчыненую створку
Я чую – нібы гукі немаўля...
Размытымі аскепкамі здаля
Лаўлю тваю няўцямную гаворку.

Стаіш ты ў садзе сумным на пагорку.
З прыдыхам нешта мовіш спакваля,
І штось скрозь трэск счарнелага галля
Даносіць вецер пра Гарсія Лорку...

Ніколі ў слова не згібее вера –
Праз слоту ты чытаеш "Рамансэра"!..
Струменіць гукамі цыганскі дух!

Ты прагнеш волі і з нямот збавення –
Заззяе слова золатам імгненняў,
Як сонца вечна непагасны круг!

* * *

Па дарогах зблытаных чужых абнасіўся абутак,
Я блукаю па іх з самай раніцы і дацямна,
Толькі зноўку і зноўку туман, як сівая сцяна,
Ахінае, нібыта знарок, ветрагон-перапутак.

І раней, і цяпер не магу зразумець: ну чаму так
Зацягнулася з лёсам маім зладзяюга-вайна?
І няўжо ў прымірэння адвеку такая цана,
І яно не сілкуецца ісцінай – ворагам чутак?

У кішэнях нічога няма – у душы толькі скарбы,
Падарожнік мой – вецер – шукаў... не знайшоў болей фарбы,
Толькі шэрань туману, а дзесь – залацінку святла.

Крочыў я па дарозе, а мэту па ходзе вышукваў,
Хоць блудзіў увесь час – ні другіх, ні сябе не ашукваў,
Толькі сэнс той нястомнай хады вея часу змяла...

* * *

Ад сораму не буду чырванець,
Калі анёлаў сабярэцца веча,
Абмеркаваць каб шлях мой чалавечы,
Падсумаваць і золата, і медзь.

Нам час даваўся крыху памудрэць,
Табе і мне, пакуль трываюць плечы.
І не змарнее цела, дух старэчы
Не стане цьмянай свечкаю мігцець.

Што прынясу з сабой на верхні суд –
Няўжо пацех разгульных тлум і блуд,
Раскошу і над беднасцю глумленне?

А, можа, пышна прарасце дабром
Праз сцены ліўняў і буркаты гром
У глебе мной пасеянае зерне?

* * *

Разгарну адвячоркам жыцця свой зацёрты кілім,
Калі ўладу яшчэ не займее навечна дрымота,
Калі памяць другіх пра мяне не завеюць сумёты
І не ўстане, як прывід, з зіхоткім мячом херувім.

Колькі вёснаў сквітнела і колькі адвеяла зім –
Ты лічы не лічы, а лісток адарваны з блакнота.
Падуладна жыццё непазбежнасці сонцазварота –
За ўзыходам вясёлкавым ноч накладзе чорны грым.

Спакваля з сваёй торбы дарожнай дастану здабыткі,
Пакладу на кілім стос карцін і запісаных сшыткаў –
Вось, напэўна, і ўсё, што сабраў па шляхах, што прыдбаў.

Там у гнуткім я слове і ў вобразе кожным карціны,
Там развагі мае і пачуцці, і гуд успамінаў,
Там адбіткі імклівых падзей, незавершаных спраў...

* * *

Што для цябе іскрысты дух мастацтва?
Яшчэ нікім не знойдзены сакрэт

Тварэння свету? З богам тэт-а-тэт
Ты ў кожным творы. І не святатацтва –

Шукаць у бога кропельку сваяцтва –
Ты ж творыш свой няведамы сусвет
І божай іскрай зацвярджаеш след
Агнішча духу, а не панібрацтва.

Ты – мора, ты – спакуслівы вятрыска,
Для немаўля прамністая калыска,
Ў прастор бясконцы мкне узнёслы птах.

Ты – велічных дуброў уздых ад сэрца,
У свет сакральна-патаемны дзверцы,
Дзе ўжо не месціцца ніякі страх...

* * *

Дзе летапісцы, дзе вы, Герадоты?
Гісторый праўда ставіцца на кон –
Што далятае – як праз буру звон –
Аскепкамі няўцямнымі, драбнотай.

Ва ўсякі час хтось сабірае ўпотай,
Не баючыся жорсткіх забарон,
Зярняткі праўды і не б’е паклон
Тым, хто на Зло наносіць пазалоту.

О, як хацеў бы высвеціць тыран
Сваю асобу ў бляску, без заган,
І рыскі каб ніводнай выпадковай!

А ты, хто піша пра сябе і нас,
Пранікніся адказнасцю за Час –
Не прадавай душу, а з ёю – слова!

* * *

Як звер шалёны, рыскае вайна,
Ды ваярам яе не трэба латы,
І не грымяць на той вайне гарматы,
Хоць, пэўна, вечнасць доўжыцца яна.

Дабро і Зло – іх бойка не адна,
Хто на крыжы тваім? – Хрыстос распяты!
Хоць час прайшоў, але ізноў стыгматы
Пякуць далонь – адвечная віна...

Куды ты крочыш, Вечны Пілігрым,
Бо на чале няўрымслівым тваім
Дабра і Зла накрэсленыя меткі?

Шалее ад пакут імклівы век,
Ды выбар за табою, чалавек –
Ты запісаўся ў змагары ці ў сведкі?

* * *

Мы на караблі, дзе пашкоджаны руль,
Праз ветразі дзёртыя зіркаюць зоркі,
Дабром непатрэбным каюты-каморкі
Набіты і потам матроскіх кашуль,

Дзе ўсе пасажыры пастрыжаны "ў нуль"
І рваныя сэнсы штодзённай гаворкі
У сплюшчаны свет працягнулі аборкі,
Дзе рэч уладарыць над многім пакуль.

Куды мы плывем – без вятрыл, без руля,
Пад песні і танцы, пад "гоп-ля-ля-ля"?
Згубіўшыя праўду, мы сэнсы губляем.

Няўжо бляск раскошы так вочы засціў,
Што мэта адна – гэта грошы, наўздзіў?
Няўжо мэтаў іншых – глыбейшых – не знаем?

Генадзь Дзмітрыеў



...на іх, як з неба, звалілася незалежнасць,
і рубам паўстала пытанне:
што рабіць з гэтай самай незалежнасцю
і як ладзіць жыццё далей...

# Рэінкарнацыя

***Два апавяданні***

## Савок

Былы настаўнік пачатковай школы Віктар Яўменавіч Шамкуць, а па-вясковаму далікатна – Віцёк, які большую частку свайго немаладога жыцця навучаў вясковых дзетак, не сказаць, каб надта ўжо пяўся патрапіць на пастаяннае жыхарства ў горад. Але лёс склаўся так, што апынуўся ён, амаль заслужоны пенсіянер з не дужа высокай пенсіяй, не тое што ў горадзе, дык нават у самой сталіцы. А сталася гэта надзвычай проста: даўно перабраліся ў горад іхнія з бабуляй Стэпкай трое дзетак, атабарыліся там, напладзілі старым ажно пяцёра ўнукаў і нарэшце выцягнулі бліжэй да сябе бацькоў з амаль сканалай вёскі. Нават прыдбалі для іх у прыватным сектары, на ўскрайку горада, нехуцавую, а ўсё ж на тры пакойчыкі дагледжаную былымі гаспадарамі хаціну. Балазе старыя мелі сякую-такую капейчыну, якую здабывалі крывёю і потам усё сваё жыццё, збіралі, як яны

казалі, “на смерць”. Гэтую капейчыну, не малую па тым часе, дзяржаўныя жулікі недзе на пачатку дзевяностых выграблі дачыста. Засталіся з той, з дазволу сказаць, “раскошы” толькі хата, сякая-такая гаспадарка пры ладным кавалку прысядзібнай зямелькі ды не першай свежасці легкавік “жыгулёнак” – галоўны гаспадароў гонар. Аднак здолеў-такі Віктар Яўменавіч яшчэ да выхаду на пенсію зноў узбіцца на грошы, эканомячы па старой “саўковай” звычцы на ўсім, на чым толькі можна. Навучаць у вёсцы ўжо не было каго, бо састарэлыя вяскоўцы, вядома, дзетак не наплодзяць. І запачаткаваў былы настаўнік “прыдарожны бізнес”: летам вывозіў на сваім старэнькім “жыгулёнку” на не вельмі далёкую асфальтаванку і прадаваў сёе-тое з таго, што не вельмі густа расло на гародзе, а пад восень – яблыкі з уласнага саду ды багатыя дарункі лесу. Трэба пагадзіцца ўсё ж, што не засталіся ўбаку і дзеткі – дапамаглі старым у складчыну грашыма. Так і зажылі яны са Стэпкай ні то ў горадзе, ні то ў вёсцы, што было для іх не вельмі камфортна, але па-сялянску звыкла, бо, як часам выказваўся не вельмі інтэлігентны экснастаўнік, дзіва дзіўнае: гэтыя гарадскія паляць цыгаркі на лесвіцах ці на балконах, а смярдзючую патрэбу спраўляюць проста ў кватэрах. Хоць праўда, былі і ў гэтай хаце адпаведныя зручнасці. Найперш вада, дзякуючы чаму, відаць, былыя гаспадары парупіліся і з прыбіральняй: знайшлі для яе зручны куток у сенцах з усімі належнымі прычандаламі. Нейкім незразумелым чынам перасялілася на новае месца і ягонае ранейшае вясковае мяно – Віцёк.

Найбольш цешыла тое, што побач дзеткі. Яны даволі часта наведвалі новае бацькоўскае жытло і, чым маглі, падтрымлівалі старых: то дачка Алёна, правізарка, харчу якога падкіне ды лекаў, то сярэдні сын Алесь, крыху “бізнясмэн”, дровамі забяспечыць. А самы малодшы, Юрась, выбітны музыка-гітарыст, шастаў па свеце са сваім даволі папулярным рок-гуртом і напаўняў бацькоў непрыхаваным гонарам, што ў іх такі знакаміты сын. Крыху грэла сэрца Віцьку і тое, што яшчэ няблага захаваўся ягоны даўні сябар “жыгулёнак”, на якім можна было выбрацца некуды са Стэпкай – па грыбы-ягады ці проста пабыць у лясочку або ля якой азярынкі, палюбавацца прыродай, пакаўтаць на поўныя грудзі свежага паветра.

Аднак неадольная цяга хоць трохі падмацаваць грашыма сямейны бюджэт паступова брала Віцька за жывое. А што тут надта заробіш, калі прысядзібнага ўчастка кот наплакаў: ні табе гарода толкам, ды і саду таго нейкіх тры пні састарэлых яблыняў. Хоць Стэпка і на гэтых мізэрных, па іхнім меркаванні, сотках, вымудроўвала вырасціць крыху нейкай гародніны, але каб прадаць які лішак – амаль што не выпадала. Дачуўся неяк Віцёк, што можна нешта зарабіць так званым “ізвозам”. А чаму б і не: “жыгуль” яшчэ, дзякуй Богу, на хаду ды і не надта жарлівы на паліва. Праўда, крыху насцярожвала чутае недзе страхатлівае слова “бамбіла”, якім ахрысцілі людцы гэтых самых “ізвозчыкаў”, але ж ні ён першы, ні ён апошні. І ўрэшце – дзе наша не прападала – не сказаўшы нічога ні Стэпцы, ні дзеткам, падаўся Віктар Яўменавіч на заробкі, выехаў на сваім “жыгулёнку” на вуліцы сталіцы. Балазе ў сталіцы “квітнеючай” краіны не перавяліся аматары хуткай язды на легкавіках, а не на перапоўненым грамадскім транспарце: ці то ў іхніх кішэнях сёе-тое вадзілася, ці то моцна шанавалі яны свае ўласныя рэбры... Так ці інакш, на самым пачатку, калі ў жмені зашамацелі першыя заробленыя такім чынам грашыскі, новы Віцькоў “бізнес” натхняў яго, заахвочваў, падаваў вялікую надзею, што так

яно і будзе, ажно пакуль дазволіць здароўе. Але, як па-філасофску мудра зазначыў адзін Віцькоў знаёмец: “Э-э-э... Не ўсё так проста, таварышы, у нашым жыцці!..”— нядоўга гучала музыка надзеі ў новаспечанага “бізнесоўца”. Даволі хутка скмецілі падбылага аўтачужака на такім жа падбылым “жыгулёнку”, ці на іхнім слэнгу, “засяклі” тыя самыя ўкаранелыя “бамбілы”. Пасля аднаго-двух іхніх не надта далікатных папярэджанняў гаспадару заўпарціўся нарэшце ягоны легкавічок. Абязножыў раптам на ўсе чатыры колы, бо папрабіваў іх нехта, павыпускаў паветра, і ўпёрся ён на адным месцы – ні тпру-у!, ні но-о! Акурат як некалі ў пасляваенным калгасе надзвычай упартыя конікі-“манголы”, якія пад бізунчыкам брыкаліся ў аглоблях, але не краналіся з месца, пакуль нецярплівы кіроўца не аглавушваў бедную жывёліну вычварнымі мацюкамі. “Жыгуль”, вядома, не брыкаўся, але і з месца зрушыць яго было немагчыма, нават тымі самымі мацюкамі. Давялося Віцьку клікаць на дапамогу сыноў. Дапамаглі. Хоць і бурчэлі на гаротніка-бацьку за ягоны сакрэтны “бізнес”, але паставілі “жыгуль” на колы і даставілі на бацькаў падворак.

І ўсё ж Віктару Яўменавічу нечакана падфарціла. Малодшы сын Юрась, як ужо ўпаміналася – музыка-гітарыст, неяк папрасіў бацькоў даць часовы, недзе цягам тыдня, прытулак знаёмаму італьянцу – менеджару ад культуры. Маўляў, той прыляціць у Беларусь ладзіць нейкія там кантакты і заключаць афіцыйныя дамовы з беларускімі музычнымі калектывамі, якія трапяць у поле ягонага зроку і могуць зацікавіць патрабавальную італьянскую публіку сваім майстэрствам. Ёсць надзея, што зверне ён увагу і на ягоны, Юрасёў, рок-гурт. У самога ж Юрася на траіх сямейнікаў – усяго аднапакаёўка, не разгонішся. Словам, дакляруе італьянец Арманда заплаціць за пражыванне ў іхняй хаце ажно па дваццаць еўра за суткі. І гэта без сталавання, толькі за начлег. Яму так будзе выгадней, бо за гатэль у нас трэба плаціць не раўнуючы як у лепшых гатэлях Рыма... Віцёк адразу сцяміў: можна няблага зарабіць амаль на дурніцу. Нават без асаблівага напружання хутка падлічыў, што яму ўсміхаецца самае малае ажно сто дваццаць (!) гэтых самых “еўрыкаў”. Ды і сына трэба падтрымаць: глядзіш, пашанцуе таму на гастролі ў самую Італію.

І неўзабаве дачакаўся Віктар Яўменавіч таго шчаслівага восеньскага дня, калі парог іхняе хаты пераступіў жаданы замежны госць – італьянец Арманда. На пачатку здарылася замінка: вядома ж, ні Юрась, ні гаспадар хаты, ні тым больш ягоная Стэпка – ні “бэ” ні “мэ” па-італьянску. Аднак тут жа выявілася, што італьянец не так даўно па два-тры месяцы правёў у Расіі і ва Украіне, зноў жа па сваіх менеджарскіх справах, і трошкі набраўся расейскіх і ўкраінскіх слоўцаў. Так што пры першым знаёмстве, хоць з вялікай цяжкасцю, але можна было з ім паразумецца – дзе слаўцом, дзе жэстам, а дзе Бог ведае як. Самае ж галоўнае і ўсцешнае тое, што госць тут жа выцягнуў са свайго шыкоўнага кашаля ажно шэсць новенькіх, хрумсткіх, блішчастых “еўрыкаў”-дваццатак і працягнуў іх амаль здранцвеламу ад шчасця гаспадару. Але можа не так моцна ўразілі Віцька тыя “еўрыкі”, як тое, што ён скмеціў краем вока ў тым шыкоўным кашалі: адтуль выразна вытыркаўся тоўсценькі, па ўсім відно, даволі ладны пачак такіх жа новенькіх, вабных замежных дваццатачак... “Жывуць жа людзі, – скрушна падумалася Віцьку. – Каб знаць, дык хоць бы па якой трыццатцы за суткі трэба было замаўляць.” І гэты сумнеў тут жа засеў у ягонай галаве – імгненна і, як потым выявілася, надоўга, амаль на цэлы тыдзень...

Пакуль пастаялец Арманда ўладкоўваўся ў выдзеленым яму асобным пакойчыку, а потым доўга яшчэ шамацеў, перабіраючы нейкія свае паперы, падаспела пара палуднаваць. Як бы там ні было, але традыцыя ёсць традыцыя: заморскі госць у хаце, ды не паклікаць яго да стала? Руплівая Стэпка нават выкапала недзе са свайго загашніка прыхаваную бутэльку чырвонага сухога віна (вядома, нашага беларускага разліву), і Віцёк, з цяжкасцю адкаркаваўшы, урачыста ўладкаваў яе паміж не надта багатых хатніх страў. На стале былі галоўным чынам салаты з гуркоў ды памідораў, смажаныя яйкі ды крыху варанай крамнай каўбаскі. Маўляў – чым багаты, тым і рады. Да таго ж гэта быў яшчэ і хітры намёк на тое, што не такі ўжо багаты дабрабыт у гэтай хаце...

Як то ні дзіўна, але, не ў прыклад нашым тутэйшым гасцям, Арманда доўга ўпрошваць не давялося. Ён ахвотна ашчасліўіў гаспадароў, сеўшы за стол і буркнуўшы сабе пад нос сваё "грацыа", што па-нашаму азначала не іначай, як заўчаснае "дзякуй". Дзелавіта агледзеўшы стол, госць, не чакаючы звыклай у такіх выпадках прапановы гаспадара, падхапіў бутэльчыну з віном, наліў – адно сабе – амаль поўны фужэр і без усялякіх там цырымоній кульнуў яго ў рот. "Вось табе і хвалёная еўрапейская культура, – падумаў Віцёк. – Не, каб пачакаў гаспадара ды хоць бы для прыліку, хоць бы па-свойму, сказаў пару слоў. Самапасам наліў, глыкнуў, а ты хоць здохні..." І абураны гаспадар, каўтнуўшы сліну, увогуле праігнараваў тое віно. Госць, на спрадзіўленне, не звярнуў на гэта ніякай увагі, яшчэ колькі разоў напоўніў сваю шклянку, ажно пакуль у бутэльчыне засталося менш паловы нятаннага пітва. Мала таго, праз нейкі час, уважліва акінуўшы вокам стол, італьянец заявіў надзіва выразна па-расейску: "Мяса давай!" "Вось табе і пусці свінню за стол..." – зноў падумалася гаспадару...

Паўдзённая трапеза яшчэ колькі часу, бадай што да самай ночы, не выходзіла з Віцьковай галавы. А назаўтра раніцой Арманда з цяжкасцю, блытаючы расейскую мову са сваёй італьянскай, давёў да ягонага ведама, што яму сёння прыспічыла ў горад, у філармонію. Віцёк раптам акрыяў душой і розумам. На якую трасцу яму выклікаць італьянцу тое "аўто", тую таксоўку? Чаму б самому не аблегчыць Армандаў кашэль хоць бы на колькі "еўрыкаў"? Мяркуючы па тым пачку, які Віцёк нядаўна бачыў, госць надта не збяднее, а ім у гаспадарцы вунь як не лішнія яны. І неяк утлумачыў ён Арманда, што не варта таму раскашэльвацца на такія дарагія таксоўкі, калі пад бокам ёсць транспарт, ягоны "жыгуль", а ён гатовы ўзяць на сябе клопат па дастаўцы таго ў любую кропку горада. Яны тут жа дасягнулі згоды, і Віктар Яўменавіч з гэтага моманту з галавой акунуўся ў шчаслівую мажлівасць зарабіць, ды яшчэ і не такімі вялікімі высілкамі. А паколькі ў ягоным легкавіку ніякага лічыльніка, як у таксоўцы, не было, то гэты самы "лічыльнік" міжволі ўключыўся ў ягонай галаве – лічыльнік на такія вабныя "еўрыкі"...

Сказана – зроблена. Амаль увесь дзень з невялікім перакурам на абед (зноў жа з вінцом і на гэты раз ужо з мясам) вазіў Віцёк італьянца то ў філармонію, то ў нейкія палацы культуры, то проста на хатні адрас тутэйшых выбітных музыкантаў. У таго ўвачавідкі таўсцела папка з нейкімі паперамі, а ў Віцька расла ўпэўненасць, што ўсё гэта абыдзецца ягонаму пасажыру ў немалую капейку. Выдаткі на паліва, плюс прабег, плюс немалая фізічная напруга – худа-бедна цягнулі па дваццатніку за кожны

дзень. І грэла ягоную душу прыемнае прадчуванне, і надавала гэта яму яшчэ большага імпэту і натхнення...

Пад вечар таго ж дня Арманда сяк-так, падалося, нават з не вельмі далікатным намёкам, патлумачыў надзвычай гасціннаму гаспадару, што не пазней, як заўтра, яму абавязкова трэба быць ў Брэсце, у тамашняй філармоніі. Вядома, пусціцца ў такі шлях на сваім "жыгулёнку", як гэта ні шкада, Віцёк не мог. Затое ён можа паспрыяць госцю па-іншаму: падскочыць на цэнтральны аўтавакзал і ўзяць папярэдні білет на маршрутку. Маўляў, і без яго даедзе італьянец да Брэста з шыкам. Ну і, вядома, павінен жа ён пры канчатковым разліку ўлічыць гэтую Віцькову паслугу... І хоць было пазнавата, ён завінуўся ў білетныя касы і дабіўся-такі білета для італьянца.

Як на тое ліха, за ноч канчаткова сапсавалася надвор'е: падуў злы восеньскі вецер і зацярусіў-заімжэў дробны дожджык. У такую слоту, як кажуць, добры гаспадар сабаку на вуліцу не выганяе. А тут візіцёр з цёплай краіны, у адной лёгенькай куртачцы, ды яшчэ ў такую дарогу. Віцьку нават узгадаўся любімы суседаў афарызм: "Тут – гэта табе не здзесь!.." Пашкадаваў ён гаротніка-італьянца, даў яму сваю цёплую выхадную куртку, свой старэнькі парасон і адтарабаніў таго на аўтавакзал.

Пляцоўка на Брэст была яшчэ амаль пустая, у чаканні маршруткі тапталася на ёй адно некалькі скукожаных ад холаду пасажыраў. Нарэшце замест маршруткі прыпоўз на пляцоўку, па ўсім відно, яшчэ з савецкіх часоў, дапатопны "ікарус". Нешта ў ім злёгку драмацела, ён дыміў і чмыхаў, а збоку, над багажным аддзяленнем, здзекліва глядзелася некалькі бляшаных лапікаў на блішчастых заклёпках. Ні даць ні ўзяць нядобрай памяці савецкі *керагаз*... З яго вытыркнулася мажная кабета, відаць, кантралёрка, і абвясціла: "У каго білеты на брэсцкую маршрутку – сядайце ў аўтобус." З нямым запытаннем у вачах Арманда здзіўлена пазіраў то на прыпоўзлы керагаз, то на кантралёрку, то на разгубленага Віцька: а дзе ж абяцаная маршрутка? Віцёк паспрабаваў заікнуцца кантралёрцы, маўляў, вось тут, сярод пасажыраў, замежны грамадзянін, італьянец, наш госць, што ён падумае... Упаўнаважаная кабета акінула грэблівым позіркам пасажыраў і без аніякай спробы аўпраўдацца зласліва запярэчыла: "Вам падалі мяккі аўтобус і вам яшчэ кепска? Сядайце і не размундыквайце!" Калі аўтобус нарэшце крануўся, Арманда скрушна памахаў Віцьку растапыранай даланёй. Выгляд у яго быў такі, нібыта ён выпраўляўся ў апошні свой зямны шлях... Віцёк злосна цвыркнуў слінай і працадзіў сам сабе праз зубы: "Вось табе і "квітнеючая"! Аднак зноў і зноў ён суцяшаў сябе ўпэўненасцю, што італьянец рана ці позна, як належыць, адпаведна ацэніць ягоны клопат...

З Брэста Арманда вярнуўся праз ноч, у першай палове дня. Ён доўга нешта тлумачыў Віцьку, тыркаў пальцам у разгорнутую папку з паперамі, круціў перад ягоным носам нейкім білетам, з чаго той толькі і зразумеў, што італьянцу зноў прыспічыла некуды ў горад і што заўтра ён мусіць ляцець у сваю Італію. Ён плёў пра нейкую легалізацыю, пра якую, вядома, Віцёк ні сном, ні духам. Напачатку падумалася, што Арманда ўвогуле прабраўся ў Беларусь нелегальна і можна з ім набрацца бяды. Але нарэшце сяк-так стала зразумела: не пазней, як сёння, яму трэба трапіць у наша Міністэрства юстыцыі па вельмі важнай справе. Трэба дык трэба. Муліла толькі пытанне: калі ўжо нарэшце турботны пастаялец выцягне з кішэні

запаветны кашэль і адлічыць нешта гаспадару. Для сябе Віцёк падлічыў, што за ўсе ягоныя немалыя клопаты ён павінен атрымаць за кожны дзень, а іх набярэцца цэлых шэсць, як мінімум яшчэ па аднаму дваццатніку...

У Міністэрстве юстыцыі паглядзелі на італьянца, як на таго Піліпа з канопляў: маўляў, хто ты такі, чалавек, скуль узяўся і якія такія дамовы табе трэба легалізаваць? Разабраўшыся нарэшце, хто ды што, чыноўнікі далі Арманда ад варот паварот: павінна быць, як мінімум, па два экзэмпляры кожнай дамовы – на рускай і італьянскай мовах. А паколькі ў іх свайго такога перакладчыка няма – пашукайце самі, і тады – ласкава просім, будзем рады вас бачыць... А дзе яго ўзяць, таго талмача? Праз нейкі час усё ж датумкалі: трэба званіць у італьянскую амбасаду. Сказана – зроблена. Балазе ў італьянца быў такі неабходны на гэты момант мабільнік і патрэбны нумар тэлефона. З тлумачэнняў амбасаднага чыноўніка вынікала, што ў іхнім штаце, на жаль, ёсць толькі перакладчык з ангельскай, а з рускай на італьянскую яны карыстаюцца паслугамі прыватніка. А той жыве... Словам, далі Віцьку дакладны хатні адрас таго талмача, па закону подласці – ажно на другім канцы горада.

І ўсё было б нічога, каб раптам не заўпарціўся "жыгулёнак". Колькі ні склыгаў ягоны старцер, і як бедалага Віцёк ні скрыгатаў ад злосці зубамі – упёрся рухавік і маўчаў, як тая рыбіна. Італьянец тыркаў пальцам на гадзіннік і паўтараў адно і тое ж: "Аўто!" Урэшце Віцёк здагадаўся і з дапамогай гаспадара мабільніка пачаў вызвоньваць тое "аўто". Адусюль адказ быў адзін: "Сожалеем, но в центре сейчас машин нет..." Выйсце было адно: дабірацца грамадскім транспартам. Акурат падвярнуўся тралейбус, маршрут якога, па Віцьковых прыкідках, пралягаў у патрэбным кірунку.

У перапоўненым, як заўсёды ў гэтую пару, тралейбусе пакутнікаў напаткала новая мітрэнга: у іх, вядома ж, не было квіткоў на праезд. А пакуль Віцёк шукаў па сваіх кішэнях дробязь, каб набыць білет у вадзіцеля, на наступным прыпынку ў салон адразу з двух дзвярэй уваліліся ажно два мажныя кантралёры. За лічаную хвіліну яны апынуліся ля двух "зайцоў". Ніякія Віцьковы тлумачэнні – ні спасылкі на тое, што ён апякуецца іншаземцам, ні тое, што яны проста яшчэ не паспелі набыць білеты ў вадзіцеля – не кранулі сэрцы надзвычай пільных службоўцаў. Давялося-такі Віцьку заплаціць штраф, прычым за дваіх, бо ў італьянца беларускіх грошай не было. Дзіва што сума меркаванай кампенсацыі яму італьянцам усіх фізічных, маральных і, галоўнае, матэрыяльных выдаткаў з гэтага моманту ў галаве Віцька непамерна ўзрасла...

Затое ім пашанцавала з перакладчыкам: па-першае, ён акурат быў дома, а па-другое – аказаўся таксама агазлівым на "еўра", таму без лішніх угавораў пагадзіўся зрабіць пераклад усіх Армандавых папер літаральна да заўтрашняга дня. Адно папярэдзіў, што гэтыя пераклады трэба будзе завізаваць у натарыяльнай канторы, дзе ён афіцыйна зарэгістраваны як перакладчык.

Рэшту дня Віктар Яўменавіч ратаваў свайго сябра "жыгулёнка", што зноў жа каштавала яму не слаба. Апроч таго, ён нямала заплаціў ахвотніку адбуксіраваць яго на бліжэйшую СТА, а там злупілі з яго за рамонт машыны столькі... Адным словам, па ягоным разуменні, італьянцу пры разліку мала не падасца!

А вечарам Арманда запрасіўся ў краму, як зразумеў Віцёк, каб запасціся цыгарэтамі нібыта ў падарунак ягоным італьянскім сябрам. Бо,

відаць, дачуўся ён, што ў гэтай краіне надзвычай паважаюць курцоў, таму каштуюць тут цыгарэты ў разы танней, чымся ў іхняй Італіі. Змэнчаны за дзень гаспадар натхніўся раптам надзеяй, што хоць праз тую краму можна атрымаць ад Арманда нейкую дадатковую кампенсацыю – калі не грашыма, то сякімі-такімі прадуктамі. Ён вадзіў італьянца з аднаго аддзела ў другі, нібыта каб параўнаць кошты на прадукты ў нас і ў іх, а сам увесь час таемна спадзяваўся, што нарэшце таго прарве здагадка ўлагодзіць гасцінных гаспадароў якімі-небудзь прыстойнымі падарункамі. Але – няма дурняў... Арманда спакойна пракаментаваў розніцу ў коштах італьянскіх і тутэйшых, выбраў на прэзенты два блокі дарагіх цыгарэт і пачак бульбяных чыпсаў. Як і ўдзень, у ягоным кашалі зноў не аказалася беларускіх рублёў. Ну, не ганьбіць жа замежнага госця... І Віцёк, сцяўшы зубы, выклаў на касе свае кроўныя.

Затое па дарозе дахаты Арманда ўскрыў пакунак з чыпсамі, пахрумсцеў імі хвіліну-другую і нарэшце ўважыў пачастункам Віцька – працягнуў яму ажно дзве чыпсіны. Вось табе, Віцёк, і кампенсацыя!..

Амаль усю ноч і ўвесь наступны дзень Віктар Яўменавіч вырашаў паўсталую раптам надзвычай актуальную задачу: як спадручней змусіць нарэшце італьянца разлічыцца з ім за ўсе ягоныя пакуты, фізічныя і маральныя, не кажучы ўжо пра немалыя матэрыяльныя затраты? Аднак прыродная, ці, хутчэй, набытая за многія гады так званая “саўковая” нягегласць, ніяк не дазваляла яму паставіць перад замежным госцем гэтае пытанне рубам. Ды ўсё ж быў спадзеў, што нарэшце і да самога італьянца дойдзе, што тут не Дом міласэрнасці, а яны са Стэпкай не ліхвяры. Таму напярэдадні адлёту Арманда на радзіму Віцёк вырашыў усё ж спраўдзіць іхнюю гасціннасць да канца, не псаваць добрага ўражання замежніка пра беларусаў. А канчатковы рахунак можна будзе выставіць і заўтра.

Паездка да перакладчыка сцвердзіла, што не так яно ўсё і страшна ў гэтым “царстве-гасударстве”: паперы былі ўжо з раніцы гатовыя, засталося толькі завізаваць у натарыуса подпіс выканаўцы і “легалізаваць” іх нарэшце ў Мінюсце.

Сакратарка ў натарыяльнай канторы не вельмі далікатна паведаміла: “Вы што – з неба зваліліся? Ды ў нас на прыём людзі амаль за тры месяцы запісваюцца, а вам тут падавай усё і адразу...” Як ні даводзіў Віцёк гжэчнай кабеціне, што гэта італьянец, што ён заўтра раніцой вылятае ў сваю Італію, што ў яго ўжо на руках білет на самалёт – нічога путнага з гэтага не атрымалася. Была толькі суцяшальная парада: прайдзіцеся па кабінетах, можа хто з юрыстаў пранікнецца вашай праблемай, асабліва, калі... Што стаяла за гэтым “калі”, Віцьку тлумачыць не трэба, гэта азначала адно: “не падмажаш – не паедзеш”. Тут возьмуць і еўрапейскай валютай... Узялі. Хоць Арманда доўга ніяк не мог зразумець, чаму ягоныя дваццаць еўра так лёгка знайшлі прытулак у кішэні юрыста ў, здаецца, дзяржаўнай канторы. Дзівак-чалавек! Затое подпіс завізавалі без чаргі на тры месяцы...

Амаль увесь астатні дзень быў патрачаны на візіты спачатку ў Мінюст, потым у італьянскую амбасаду, і зноў у Мінюст, і зноў у амбасаду. Гэта ўжо як здаўна ў чыноўнікаў водзіцца. А вечарам была развітальная вячэра, на гэты раз з мясам і таксама з чаркай. Колькі разоў Віцёк парываўся адкрыць вочы італьянцу, як нясоладка ім са Стэпкаю жывецца, маўляў, пенсіі маленькія, а ў сталічных крамах – сам бачыў – цэны дужа куслівыя.

Усё чакаў, што той расчуліцца і нарэшце расколецца на такія жаданыя "еўрыкі". Але ён маўчаў, толькі час ад часу згодна хітаў галавою. "Каб табе трасца! – білася ў крыху затуманенай ад віна Віцьковай галаве скрушная думка. – Няўжо табе не зразумела, што не за так жа я цябе цёгаў на сваім "жыгулёнку" па ўсім Мінску, куртку сваю лепшую пазычаў. Не кажучы ўжо пра тое, колькі сваіх кроўных я на цябе за гэты тыдзень уляпаў, колькі патраціўся, а колькі нерваў сапсаваў..." Агучыць усё гэта ў Віцька не хапала ні то смеласці, ні то нахабства. А хутчэй за ўсё гэта быў вынік ягонай прыроднай сарамяжлівасці ці, можа лепей сказаць, ягонай нягегласці.

Арманда маўчаў, толькі час ад часу лагодна пасміхаўся і ўсё паўтараў сваё "грацыа, грацыа". "Відаць, усё-ткі ёсць у яго сумленне, не павінен з'ехаць не разлічыўшыся,– думалася Віцьку. – Трэба пачакаць да заўтра..."

Калі назаўтра раніцой да іхняе хаты падкаціла таксоўка, Арманда раптам заклапочана палез ў кішэню, без усялякага сумніва за такімі доўгачаканымі еўрамі-дваццаткамі. Сэрца ў Віцька радасна ёкнула. Пашамацеўшы крыху ў кішэні нейкімі паперкамі, італьянец явіў на свет... дзве голенькія жуйкі. Адну ўпхнуў у руку аслупянеламу Віцьку, другую – сабе ў рот, і са словамі «чао, чао» дзелавіта ўладкаваўся ў таксі. Легкавік чмыхнуў бензінавым перагарам і знік за паваротам...

А Віцёк яшчэ доўга стаяў ля веснічак, ашапулены незразумелым чужым нахабствам, і скрушна пазіраў у той бок, куды разам з Арманда знікла ягоная, здавалася б, такая блізкая, але нязбытная мара...

## Рэінкарнацыя

Гісторыю гэтую – адначасова містычную і ў нейкай ступені нават трагічную – трэба, бадай, пачаць з не вельмі далёкага мінулага, калі загадаў доўга жыць Савецкі Саюз. Інакш кажучы, калі нядаўнія "не разлі вада" сябры – саюзныя рэспублікі "краіны Саветаў" – не без пэўнага імпэту разбегліся па сваіх кватэрах. На іх, як з неба, звалілася незалежнасць, і рубам паўстала пытанне: што рабіць з гэтай самай незалежнасцю і як ладзіць жыццё далей. Некаторыя з іх, знясіленыя былым "непарушным сяброўствам", залічылі свайго нядаўняга "старэйшага брата" ў акупанты, іншыя вызверыліся і нават паспрабавалі пусціць таму кроў – хоць, праўда, няўдала...

Але ж у нас, на Беларусі, як казаў класік, Бог жыве! Можа, яно і так, бо ніякіх асабліва балючых катаклізмаў не адбылося, калі не лічыць розныя там інфляцыі і дэнамінацыі, у выніку чаго ў простага люду (чаго не скажаш пра "слугаў" гэтага самага люду) раптоўна пайшлі сінім полымем усе грашовыя накапленні. Нават у старых, якія амаль усё жыццё збіралі капейчыну да капейчыны, каб у свой час дзяцініскі гожа выправілі іх у іншы свет.

Словам, як спяваецца ў нашым Дзяржаўным гімне, "мы, беларусы – мірныя людзі", таму па тым часе толькі ў свежаспечаным парламенце грымелі на ўсе галасы лакальныя "войны" паміж рознымі групоўкамі дэпутатаў. Вядома ж, зноў за светлую будучыню, а найбольш за такое прыцягальнае і смачнае права кіраваць, за "святое" права "ўслугоўваць" народу... Так ці інакш, але пачалася эпоха ўсенародных выбараў, рэферэндумаў, усебеларускіх народных сходаў і гэтак далей, ажно пакуль не намацалі так званы "свой шлях" у гэтым глабальным свеце...

Хоць, праўда, у той мясціне, дзе мела месца памянёная на пачатку аповеду гісторыя, застаўся нібыта шлях ранейшы – “Ленінскі шлях”. Ва ўсялякім выпадку, такое звычнае найменне меў тутэйшы калгас. Відаць, высокаму начальству, якое выдумала такое найменне, і ў галаў не прыходзіла, што жыццёвы шлях “правадыра сусветнага пралетарыяту” Уладзіміра Ільіча пралягаў праз ссылкі і нябедныя эміграцыі, ды і закончыўся ён (даруй, Божа!) не зусім па-людску. Быў калгас не лепшы і не горшы за іншыя, з усімі належнымі прыкметамі былога і апошняга часу – жывёлагадоўчымі і свінагадоўчымі фермамі, “рэкорднымі” надоямі і прывагамі. Нават з аграгарадком Бурдзялёва, на большую палову заселеным наводнымі людцамі, бо сваіх немагчыма было адарваць ад родных наседжаных сядзібаў. З былых савецкіх часоў засталася ў калгасе даволі прыстойная – на два паверхі – будыніна, у якой на першым паверсе месціліся калгасная кантора і сельсавет, а на другім – з шыкоўнай прыёмнай кабінет старшыні калгаса, зала для паседжанняў і нават гатэльны пакой. Як і належыць, была перад будынінай і пампезная дошка гонару – неабходны атрыбут савецкіх часоў.

Непадалёк ад цэнтральнай сядзібы калгаса, літаральна за нейкі кіламетр ад яе, прытулілася невялікая – двароў на пару дзясяткаў – вёсачка Цінявічы. Апроч іншых, галоўным чынам старых і падбылых жыхароў, жылі-былі ў ёй два адметныя фіґуранты гэтай гісторыі, два тубыльцы: Павел Вілента і Пятрок Гальяш.

Пра першага лацвей было б сказаць Павел Іванавіч Вілента, бо быў ён чалавекам паважаным. У свой час скончыў Бурдзялёўскую дзесяцігодку з залатым медалём, адразу ж паступіў у Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію і ўжо больш як чвэрць веку працаваў галоўным аграномам у родным калгасе. Атабарыўся тут жа, у сваіх Цінявічах. Абзавёўся жонкаю, сякой-такой гаспадаркай, а перасяліцца ў аграгарадок катэгарычна адмовіўся. Як, дарэчы, і іншыя аднавяскоўцы. Ці то часу на гэта не хапала ў галоўнага агранома, ці яшчэ з якое прычыны, але дзетак са сваёй Марусяй, а па-вясковаму – Мархуляй, яны так і не нажылі. Была толькі адна закавыка ў ягонай біяграфіі: ніхто, апроч ягонай маці, старой Віленціхі, не ведаў, хто ягоны бацька. Былі ў вёсцы розныя меркаванні на гэты конт. Сярод іх найбольш верагодным бацькам аднавяскоўцы лічылі былога галоўнага ветэрынара, які ўсяго пару гадоў папрацаваў у іхнім калгасе, а потым некуды з’ехаў, і з таго часу ні тулоў, ні гулоў пра яго. А маладая, сімпатычная і бязмужная Віленціха той парой працавала ў калгасе даяркай. Вядома ж, з’едлівыя таваркі даймалі пытаннем, ад каго ейны сынок Паўлік. Звычайна адказ быў адзін: “Ой, бабы, не скажу! Але ад разумнага”... Мо і праўда, бо розумам той невядомы “вытворца” яго не абдзяліў. Затое вырабіў яму вельмі адмысловы нос. Мала таго, што гэты нос быў нязвыкла вялікі, дык яшчэ з такой гарбінай, што сваёй канструкцыяй нагадваў дзюбу гругана. Ды яшчэ валасы ў Паўла Іванавіча былі густыя, чорныя, нават з сіняватым адлівам. Відаць, з-за гэтага адметнага носа і варанёна-чорных валасоў асцярожна называлі яго калгаснікі за вочы “крумкачом”. А то ж! Народ у нас такі змыслы, што, калі дасць мяно, то ні адняць, ні прыбавіць – прыліпае да скону. Толькі вось падбылыя людзі сведчаць, што ў таго ветэрынара быў і нос, як нос, і валасы амаль што рыжыя...

Не ў прыклад свайму аднавяскоўцу і аднагодку Паўлу Віленту, Пятрок Гальяш зорак з неба не хапаў. Звычайны вясковы мужык. Школу ён неяк

агараў, але ў велькія людзі не выбіўся. Праўда, пасля крыху павучыўся на курсах механізатараў і стаў "трактарыстам-машыністам шырокага профілю". А калі сказаць прасцей, сеў аднойчы на трактар "Беларус" і не злазіў з яго да таго часу, пакуль не здарылася з ім тое, пра што кажуць "чорт свінню падлажыў"... Гаспадаром на сваёй сядзібе Пятрок быў адмысловым: трымаў у хляве нямала жывасціны, удвох са сваёй Ганулькай спраўна ўвіхаліся на прысядзібных сотках. А ў вольны ад працы час, зноў жа супольна з Ганулькай, накумекалі дачку і сына. Тыя павырасталі, і, пакуль канчаткова не засмактала "светлая вясковая ява", хуценька змыліся ў горад – толькі пяткі бліснулі. Дачка рана выпырхнула замуж у сталіцу, а хлопец надоўга зрабіўся абаронцам Айчыны і застаўся ў войску на звыштэрміновую службу – стаў так званым "прапарам".

Так што нічога асаблівага ў лёсе Пятра Гальяша не было – тыповы лёс вяскоўца, якому не пашчасціла ў маладыя гады вырвацца ў горад. Але была і ў яго свая адметнасць, якой ён дужа ганарыўся: матуля нарадзіла яго на свет акурат на свята святых апосталаў Пятра і Паўла. Таму і імя яму далі ў гонар апостала Пятра. Праўда, вяскоўцы рэдка пачціва называлі яго гэтым імем, а ўсё па-свойму – Гальяш ды Гальяш. Так, відаць, было ім спрытней. Была ў яго падчас гаворкі крыху смешная звычка без усялякай патрэбы бязладна махаць рукамі. Праз гэтую звычку вяскоўцы часам называлі яго "матавілам", але грэблівае мяно да яго так і не прыліпла.

Меў Гальяш і адметнае, хоць і не такое ўжо рэдкае на вёсцы, як цяпер кажуць, "хобі". За сваім гародам калісьці ён з купленага на нежылым хутары зруба сваімі рукамі збудаваў адмысловую лазню, пакрытую дранкай, з невялікай асобнай парылкай і, вядома, з абсталяваным, па яго словах, "пад піва" прылазнікам. Мела ягоная лазня і іншы, крыху патаемны сэнс: гаспадар наладзіў там маленькі бровар і гнаў якасную, дужа апетытную самагонку. Такой у Цінявічах ні ў кога не было. Ці то Гальяш быў добрым спецыялістам у гэтай справе, а хутчэй за ўсё таму, што ягоны сусед праз вуліцу і яшчэ змалку сябрук Павел Іванавіч Вілента спраўна пастаўляў яму жыта з калгаснага свірна. А, як вядома, жытнёўка – яна і ў Афрыцы жытнёўка! Ніякая крамная гарэлка і блізка не стаяла, як бы яе не ўпрыгожвалі і не аздаблялі, у якія б хітрыя бутэльчыны не апраналі...

Здаўна панадзіўся ў Гальяшову лазню і Павел Іванавіч. Там яны не толькі мыліся-парыліся, але пасля гэтага па-сяброўску смакавалі тую слаўную жытнёвачку. Жонкі абодвух ставіліся да гэтага паблажліва, бо мужыкі надта не напіваліся, а калі дзе колечы і перабіралі чарку, дык на тое ж яны і мужыкі. А Ганулька цешыла сябе яшчэ і тым, што ў ейнага Петрака такі важны сябрук, які, дарэчы, пры выпадку можа і паспрыяць калгасным дабром, калі раптам узнікне такая патрэба. Такі ж немалы калгасны начальнік!

І тут нарэшце, дарагі чытач, мы падышлі да самага галоўнага. Незадоўга да распаведаных ніжэй падзей пачала бегаць паміж нашымі героямі "чорная котка". Канечне ж, не ў прамым сэнсе кошка, а тая "чорная", якая прыносіць адны толькі непрыемнасці.

А пачалося ўсё з таго, што некалі Гальяш пасадзіў перад сваёй хатай бярозку. Звычайную, выкапаную ў лесе бярозку. Але, як ні стараўся гаспадар, прыжылося жаданае дрэўца толькі з трэцяга разу. І, відаць, угледзеў Гальяш у гэтым нейкі патаемны сэнс, бо палюбіў тую бярозку, не раўнуючы, як сваю Ганульку. Як падрасла, падыдзе да яе, бывала, прыхінецца

грудзьмі, абшчаперыць абедзвюма рукамі за бялюткі ствол, пастаіць так некалькі хвілінаў ды яшчэ і пашэпча нешта пяшчотнае. Рыхтык, як у маладыя гады абдымаў сваю Ганульку... Па ўсім было відаць, што ён убіў сабе ў галаву, быццам бяроза тая валодае нейкай міфічнай сілай, дзеліцца з ім сваёй салодкай энергіяй, надае імпэту жыць. Не дзіва, што на прапанову вяскоўцаў, маўляў, пара збіраць з яе бярозавік, Гальяш заўсёды злосліва бурчаў нешта не зусім прыстойнае. Час ішоў, удзячная бяроза падрастала і нарэшце вымахала так высока, што занепакоіўся Гальяшоў сябрук Павел Іванавіч. А справа ў тым, што амаль на ягоным падворку, інакш кажучы, адразу за ягоным плотам ад вуліцы, узвышаўся драўляны слуп, які трымаў электрычныя правады. Гэта была электралінія, што забяспечвала электрычнасцю ўсю вёску. Не давядзі Бог якая бура паваліць Гальяшову высачэзную бярозу на гэтыя правады, а то і на сам слуп – быць бядзе! Кароткае замыканне і – пажар!.. Пачаў Павел Іванавіч спакваля пілаваць – не, не злашчасную бярозу – а самаго Гальяша. Спачатку асцярожна, пад жытнёвачку ў прылазніку, а потым усё больш настойліва і цвёрда. Вядома, гэта вярэдзіла душу беднаму Петраку. Ён яшчэ далікатна, каб не пакрыўдзіць сябра, агрызаўся, стараўся пагасіць непрыемную тэму той самай жытнёўкай. Па першым часе гэта як бы і ўдавалася, а потым пытанне ўзнікала зноў, ужо на цвярозыя галовы. Урэшце Паўлу Іванавічу надакучыла гэтая цягамоціна, і ён прыгразіў сябру, што паставіць пытанне ў сельсавеце. Прыйдзе камісія, разбярэцца, што да чаго, і спілуе дрэва без усялякай на гэта Гальяшовай згоды!

Вось і з'явілася тут як тут згаданая вышэй "чорная котка". Спахмурнеў Гальяш, затоіў у душы крыўду на суседа, хоць стараўся не агрызацца. Рабіў выгляд, што ўспрымае суседаву пагрозу, як недарэчны жарт, па-ранейшаму запрашаў таго ў лазню, і, што немалаважна, з усімі здаўна заведзенымі там працэдурамі. Што ні кажы, а ўсё ж Павел Іванавіч не толькі сябрук, але і даволі патрэбны для гаспадаркі чалавек...

Падчас адной з іх Павел Іванавіч распавёў сябру непрыемны выпадак, сведкам якога яму выпала быць. Падчас пахавання былога калгаснага бухгалтара на могілках здарылася непрадбачанае. Як заўсёды, труна з целам стаяла на пясчаным грудку ля свежавыкапанай магілы і да яе па чарзе падыходзілі спачатку родзічы, а потым усе, хто жадаў развітацца з нябожчыкам. І собіла ж убіцца ў гэту скрушную чаргу суседу памерлага! А так як быў ён з гора ўжо на добрым падпітку, не ўтрымаўся на нагах і ўсім целам абрынуўся... на труну. Прысутныя войкнулі хорам на ўсе могілкі, і было з-за чаго: труна з'ехала проста ў глыбокую яму і перакулілася так, што цела нябожчыка аказалася пад ёй. Як даставалі спачатку тую труну, потым разматлашонае цела нябожчыка, як зноў усё ўпарадкавалі, каб годна завяршыць гэты сумны рытуал, лепей не расказваць... Пасля працяглай паўзы, выкліканай горкім успамінам, Павел Іванавіч выдаў суседу набалелае. Хоць і рана яшчэ пра гэта гаварыць, але цвёрда вырашыў ён, і дарэчы, увёў гэта ў Ганульчыны вушы, што, як сам "здырдзее", каб, крый Божа, не здарылася і з ягоным целам такая поскудзь, ці, каб не тачылі яго ў зямельцы чарвякі – спаліць яго ў гарадскім крэматорыі. А каб лішне не траціцца з-за яго на розныя там "кулумбарыі", хай Ганулька забярэ тую урну з ягоным попелам і развее яго на іхнім гародзе. Хто ведае, што болей патрэбна Богу пасля ягонай смерці – сточанае чарвякамі цела, спарахнелыя косткі ці ягоная душа...

Напачатку Гальяш анямеў ад пачутага. Можа, той перабраў жытнёўкі? Здаецца, не – не было яшчэ з чаго. Сказанае суседам так узрушыла яго, што ён не стрымаў свайго абурэння і выдаў яго працяглым, надзвычай эмацыйным маналогам. Маўляў, дзе гэта бачана, каб вясковыя людзі так выпраўляліся на той свет? Ёсць жа раз і назаўсёды ўсталяваная ў нас завядзёнка – быць пахаваным, як усе людзі, на могілках. Каб можна было прыйсці на магілку, пакланіцца, паплакацца, а мо каму і паспавядацца нябожчыку аб нечым набалелым. А ты, Паўлюк, што надумаў? Гэта ж трэба, каб так, не па-хрысціянску! Выкінь ты дурное з галавы! Ды і ўвогуле, рана пра гэта гаварыць. Знайшлі пра што...

Пад канец сваёй ушчувальнай прамовы Гальяш наліў сабе і Паўлу Іванавічу, і яны з асаблівай ахвотай выпілі па добраму келіху. Крэкнуўшы ад асалоды, гаспадар лазні выцер губы, паклаў на кавалачак хлеба скрылік сала і, перш чым закінуць яго ў рот, аптымістычна падвёў рахунак такой непрыемнай гаворкі: “А давай будзем жыць, дружа, і не думаць пра горшае!” На тым і памеркаваліся.

“Чорная котка” падціснула хвост і да пары да часу затаілася...

У той жа год здарыліся ў рэспубліцы чарговыя выбары. Не будзем удакладняць, каго і куды абіралі (ці, хутчэй, “усенародна” прызначалі), каб не наклікаць на сваю галаву лішнія клопаты. Скажам толькі, што старшынём выбарчай камісіі на Бурдзялёўскім выбарчым участку прызначылі паважанага Паўла Іванавіча Віленту. Дырэктар школы, які звычайна старшыняваў, на той час надоўга залёг у раённую лякарню. Мус-няволя давялося раённаму начальству аператыўна шукаць яму замену. Сышліся на кандыдатуры Паўла Іванавіча, бо быў ён у калгасе чалавекам аўтарытэтным, адказным, ні ў якія палітычныя разборкі не ўлазіў, начальству ніколі не пярэчыў – ні мясцоваму, ні, крый Божа, раённаму. Словам, з якога боку ні вазьмі – чалавек надзейны. Не сказаць, каб гэтае прызначэнне парадавала Паўла Іванавіча, але асабліва і не прыгнятала. Прыемна, што заўважылі. А што вопыту ў гэтай справе няма, дык жа, як сказала падчас прызначэння высокае начальства: “Не Боги горшки обжигают! Надеемся, справитесь, Павел Иванович. Если что – поможем”.

Выбары прайшлі амаль як па масле. Ні табе ніякіх канфліктаў з назіральнікамі, ні табе ніякіх палітычных выбрыкаў з боку нешматлікіх мясцовых “сведамых”, ніхто не “набраўся”, не нахуліганіў, як гэта неаднойчы бывала ў іхнім Бурдзялёве на папярэдніх выбарах. Ніякага “разгулу дэмакратыі”. Аднак... Пад вечар таго ўрачыстага дня, яшчэ задоўга да падліку камісіяй галасоў, Павел Іванавіч на хвіліну пакінуў свой “баявы пост” па ўласнай патрэбе. І тут да яго падышлі двое падкрэслена ветлівых мужчынаў, далікатна павялі перад шыкоўным носам старшыні камісіі чырвонымі кніжачкамі з гербамі на вокладках і... Павел Іванавіч зніякавеў. Ён зразумеў, чым пагражала канкрэтна яму іхняя настойлівая прапанова Не дай бог пасля выявіцца... Гэта ж падсудная справа! Паспрабаваў запярэчыць, але хутка зразумеў, што ўсё марна.

Што было потым, можна не тлумачыць...

Выбары закончыліся, камісія, як і належыць, падлічыла галасы, і Павел Іванавіч з прыкрым пачуццём няўдала выкананага абавязку аддзячыў членам камісіі негалосна прадугледжаным у такіх выпадках невялікім фуршэтам. Як усе разышліся, ён прысеў у пустой зале для галасавання, ашчаперыў галаву рукамі і, як пабіты нядбайным гаспадаром сабачка, ціха

заскуголіў ад пражытага нядаўна прыніжэння. Ён і раней краем вуха чуў, што такое бывае падчас выбараў, але не даваў веры, бо лічыў, што гэта чарговыя прыдумкі ўсялякіх там апазіцыянераў. А тут... Успомніў, як пры развітанні тыя двое, зноў жа далікатна, нагадалі аглавушанаму старшыні камісіі, што "маўчанне – золата", і пажадалі яму берагчы сваё здароўе...

Той ганебны, нават зневажальны для Паўла Іванавіча фінал выбараў засеў у ягонай душы балючай стрэмкай. Усё ж, здаецца, ішло як мае быць, ніякіх заўвагаў ад прысутнага на выбарах упаўнаважанага раённага прадстаўніка не было. Як выявілася пазней, і абралі каго трэба. А ўсё ж стрэмка ў ягонай душы пякла і турзала, нібыта там спеў і брыняў брудам балючы нарыў. Яму нясцерпна карцела падзяліцца з кім-небудзь сваім болем, хоць добра разумеў, чым гэта пахне.

І ўсё ж праз нейкі час нарыў нарэшце прарвала. Напарыўшыся ў чарговы раз з Гальяшом у лазні і сербануўшы пасля гэтага, магчыма, крыху лішняга жытнёўкі, не вытрымаў і падзяліўся-такі ён з сябрам сваёй болькай. Пры гэтым дужа прасіў Пятра, каб той дзе-небудзь каму-небудзь пра гэта, крый Божа, не ляпнуў, бо могуць быць дурныя наступствы. Вядома, Гальяш кляўся і бажыўся, што нікому ні мур-мур, бо што ён жа не дурань і ўсё разумее. Словам – магіла!..

Аднак аднойчы на калгасным сенаванні нячысцік усё ж пацягнуў яго за язык. Недзе ў полудзень селі мужыкі на перакур і, як водзіцца ў такіх выпадках, распачалі гаворку спачатку на надзённую калгасную тэматыку, а потым неўпрыкмет перайшлі на палітыку. Нехта хваліў, нехта ганіў рознае кіраўніцтва – ад раённага да самага вышэйшага. Успаміналі пра колішнія парламенцкія баталіі, якія нават можна было назіраць па тэлевізары і ад якіх было мала толку. Згадалі пра нядаўнія выбары і пабэсцілі заадно апазіцыянераў, якія да гэтага часу даводзілі, што выбары былі "нячэсныя". Разважалі, маўляў, "чэсныя-нячэсныя" – ніхто нікога за руку не злавіў. А тое, што мясцовае начальства і на выбарах зробіць так, як зверху скажуць, пагадзіліся нямногія. І менавіта тады падвёў Гальяша ягоны дурны язык. Ляпнуў ён такі пра тое, што расказаў яму ў лазні Павел Іванавіч. Ляпнуў і спалохаўся. Схамянуўся, а позна. Як той казаў, "позна, доктар, я ўжо мёртвы". Назад не вернеш. Адзін спадзеў, што сказанае ім нідзе не выплыве...

Выплыла. Хто, каму і як пераказаў іхнюю гаворку, а, калі больш дакладна, менавіта выдадзены Гальяшом сябрукоў сакрэт – ніхто не ведае. А толькі неўзабаве пасыпаліся на бедную галаву Паўла Іванавіча Віленты шматлікія непрыемнасці. Спачатку раз за разам выклікалі ў раён – у выканкам і ў тыя самыя "дзяржаўныя органы". У калгас зачасцілі розныя камісіі, і па выніках праверак найбольш перападала галоўнаму аграному. На яго пачаў касавурыцца і старшыня калгаса, які да гэтага не мог ім нахваліцца. Нарэшце пад канец жніва чарговая праверка выявіла нейкія прыпіскі ў справаздачах па ўраджайнасці збожжавых, а таксама шмат яшчэ дробных недахопаў. І, што называецца, "прыйшла каза да воза". Неўзабаве было прынята рашэнне: вызваліць Віленту Паўла Іванавіча ад пасады галоўнага агранома калгаса "Ленінскі шлях"...

Вядома ж, Павел Іванавіч добра разумеў, "адкуль растуць ногі". Па першым часе ён старанна пазбягаў кантактаў з суседам. А сусед, ведаючы сваю віну, пры сустрэчы з ужо былым сябруком нізка апускаў голаў і, калі была нявыкрутка, стараўся прашмыгнуць паўз яго як бы неўпрыкметку.

Было, вядома, жаданне запыніць Паўла, павініцца, але не хапала ў Гальяша духу, гэта сталася вышэй за ягоныя сілы. Толькі, калі часам выпадала ім па-суседску сустрэцца позіркамі, ён бачыў з'едлівую, злую ўхмылку "ахвяры" свайго дурнога языка і хуценька адводзіў вочы.

Гэтым разам "чорная котка" нават не прабегла, а нанейкі час паўстала паміж імі ва ўсёй сваёй шкадлівай сутнасці.

А неўзабаве з Паўлам Іванавічам здарылася непапраўнае. Перажытыя ім стрэсы і прыніжэнні не прапалі проста так. Ён і раней сяды-тады скардзіўся таму ж Гальяшу на галаўны боль і на высакаваты ціск, але асаблівай увагі гэтаму не надаваў. Дый не было асабліва калі займацца сваім здароўем. А тут... Калі "хуткая дапамога" даставіла яго, напаўжывога, у раённую лякарню, дактары канстатавалі: інсульт. Каб даць хоць нейкую палёгку сасудам хворага, яго свядома ўвялі ў кому. Але, як гаворыцца, чалавек мяркуе, а Бог кіруе: Павел Іванавіч з комы так і не выйшаў. Пад раніцу наступнага дня сэрца ягонае спынілася і дактары бездапаможна развялі рукамі...

Як такога пахавання пяцідзесяціпяцігадовага былога галоўнага агранома калгаса "Ленінскі шлях" не было. Цела, вядома, даставілі ў родную хату. Ні калгаснае, ні сельсавецкае кіраўніцтва па вядомай прычыне не наведалі Вілентаву хату, каб назаўсёды развітацца з колішнім калегам. Не пайшоў развітацца з былым сябрам і Гальяш, бо не ўяўляў, як ён гляне ў вочы Марусі. Разумеў, што, па вялікім рахунку, хоць і не наўмысна, але менавіта ён у нейкай ступені спрычыніўся да Паўлавай смерці, дапамог таму дачасна пакінуць гэты свет...

Пару дзён аднавяскоўцы прыходзілі пасядзець ля нябожчыка і заадно падтрымаць ушчэнт сплаканую, аўдавелую і канчаткова асіроцелую Марусю. І як яе не ўгаворвалі, не пераконвалі, усё ж яна вырашыла выканаць прыжыццёвую Паўлаву волю – спаліць па смерці ягонае цела ў крэматорыі і развеяць попел на роднай сядзібе.

Далёка не ўсе разумелі колішняе дзіўнае жаданне таго, хто так рана і так нечакана пакінуў гэты свет. Як не апраўдвалі і залішнюю ўпартасць удавы. Можа, менавіта таму ніхто, апроч Марусі і нешматлікіх Паўлавых родзічаў, не паехаў папрысутнічаць на такім нязвыклым для вясковых людзей рытуале развітання з нябожчыкам у крэматорыі ...

Праз колькі дзён Маруся забрала з крэматорыя урну з прахам мужа і прывезла яе дадому, каб там, у адзіноце, хоць так яшчэ крыху пабыць калі не з самім дарагім чалавекам, то з ягонай Душою, бо да сарака дзён яна, без сумневу, будзе недзе побач.

На саракавы дзень, калі душа чалавека па ўсіх хрысціянскіх законах павінна пакінуць зямную прастору і перасяліцца ў іншы свет, Маруся склікала тых жа Паўлавых родзічаў і таго-сяго з вяскоўцаў. Вынесла на гародчык загорнутую ў прыгожы рушнічок урну і папрасіла прысутных сыпнуць па жменечцы попелу ў розных кутках сядзібы. Менавіта так, як калісьці прасіў яе Павел...

Ніхто не бачыў, як за гэтым дзіўным і, на думку многіх, нялюдскім рытуалам патаемна назіраў былы Паўлаў сябрук. Пятрок туляўся за невялікім стажком саломы ля лазні і моўчкі каўтаў застылы ў горле гаркавы камяк...

Літаральна на наступны дзень пасля саракавінаў, калі душа раба Божага Паўла ўжо лунала ў нябёсных прасторах, да Гальяшовага двара прытарабанілі якуюсь вышку. Як выявілася, яшчэ незадоўга да смерці збэшчаны і нікому

не патрэбны Павел Іванавіч, мабыць, падштурхнуты сябравай здрадай, дамогся-такі, каб спілавалі суседаву “небяспечную”, як ён лічыў, бярозу. Сельсавецкія работнікі і калгасны электрык пабывалі тады ля Гальяшовага падворка, дарэчы, у адсутнасць гаспадароў, і таксама прыйшлі да высновы, што рана ці позна якая віхура можа паваліць бярозу на электраправады, і тады бяды не абярэшся. Сапраўды, так недалёка і да пажару.

Як ні працівіўся Гальяш – і прасіў напрамілы Бог, і сварыўся-лаяўся – нічога не дапамагло. Зайшлося ягонае сэрца ад болю і роспачы, калі, пачынаючы з самага верху, бензапілой адпілоўвалі голле, а потым узяліся за бялюткі ствол. За лічаныя паўгадзіны ад бярозы толькі і засталося, што гаротны пень ды раскалашмачанае, але яшчэ нібыта жывое голле... Застаўшыся адзін (бо Ганулька акурат у гэты чорны дзень з’ехала ў раённую паліклініку), агаломшаны толькі што ўчыненым Пятрок абсунуўся на гэты пень і, можа, упершыню за ягонае дарослае жыццё, на вочы навярнуліся слёзы. Крыху счакаўшы, пасунуўся ў сваю лазню і доўга, да забыцця, гасіў жытнёўкай не той магчымы ці немагчымы, а свой пякельны душэўны пажар, які нішчыў веру ў людскую спагаду...

А потым пачалося штосьці такое, што ўрэшце давяло Гальяша да нейкага ўтрапення. На ягоную сядзібу панадзіўся прылятаць крумкач. Вялізны, з сіне-чорным бліскучым пер’ем і з тоўстай пародзістай дзюбай, ён штодня з самай раніцы ўладкоўваўся на вільчыку лазні і раз-пораз аглавушваў Петрака і Ганульку сваім задужа гучным карканнем. Мала таго, ашаломленаму гаспадару здавалася, што крумкач за ім цікуе. Куды ён ні завінецца – на падворку ці па гародчыку – воран таксама паварочваў у той бок сваю вялізную дзюбу. І так – да позняга вечара. Пятрок “кышкаў” на яго, махаў рукамі, нават спрабаваў пужнуць яго каменьчыкам ці якім дручком – усё марна: воран узляціць з вільчыка і тут жа варочаецца назад. І ўсё гэта паўтаралася з дня ў дзень. Дайшло да таго, што Пятрок пачаў без аніякіх падстаў нервавацца, незаслужана крыўдзіць кепскім словам сваю Ганульку, закіпаць злосцю без усялякай на тое прычыны. Ён не аднойчы спрабаваў размаўляць з воранам, упрошваць яго, каб адчапіўся, каб знік з вачэй, нібыта той мог яго зразумець. Апроч нахабнага “кар-р-р, кар-р-р”, воран не падаваў ніякай надзеі на збавенне.

І аднойчы цюкнула ў галаву змэнчанага Петрака, што воран гэты – зусім не воран, а пераўвасобленая Паўлава Душа. Не дарэмна пры жыцці ягонага сябра называлі “крумкачом” за ягоны надта дзюбасты нос і адмыслова чорныя валасы. Ён падзяліўся сваёй здагадкай з жонкай, і тая амаль што з ім пагадзілася. Маўляў, гэта ён так помсціць табе за твой “доўгі” язык. Можа, яно і так. Схадзілі ў царкву, паставілі свечачку і заказалі саракауст за супакой душы Паўла Іванавіча. А заадно падзяліліся сваім клопатам з бацюшкам. Той паабяцаў сваю дапамогу: адразу пасля свята святых апосталаў Пятра і Паўла, якое будзе ўсяго праз некалькі дзён, ён наведае Гальяшову сядзібу, абнясе яе абразом Божай Маці, пасвенціць і пачытае адпаведную малітву. Тады, дасць Бог, супакоіцца нарэшце душа раба Божага Паўла.

А як нам ужо вядома, акурат на гэтае свята ў Пятра Гальяша – дзень нараджэння. Ніякай урачыстасці з гэтай нагоды яны з Ганулькай не ладзілі, калі не лічыць, што імяніннік, зноў жа пад пільным наглядам крумкача, схадзіў у лазню па жытнёўку і за сямейным снеданнем выпіў з жоначкай некалькі стограмовак. Пасля святочнай “трапезы” Пятрок, ужо з прыхмя-

лелай галавой, падаўся на падворак. Абрыдлы крумкач, як і раней, сустрэў яго сваім гучным карканнем, на гэты раз, падалося Петраку, асабліва здзеклівым, нават абразлівым. І такая злосць закіпела ў ягонай душы, пацяла ўсё ягонае цела!

Зусім нечакана прыгадалася яму, што некалі на ягоны чарговы дзень нараджэння сынок "прапар" прывёз яму ў падарунак тры кітайскія петарды. Тады сын, каб падзівіць ці парадаваць бацьку падарункам, а заадно адсалютаваць імяніннiку, падпаліў на падворку адну петарду, і яна праз секунду-другую выбухнула ў неба прыгожым вогненным букетам. Пры гэтым сын абнадзеіў, маўляў, будзе цяпер табе, бацька, чым птушак з гарода пужаць, і крыху патлумачыў, як правільна петардамі карыстацца. Пятрок палічыў тыя петарды звычайнай забаўкай, хутчэй для маладых вясковых балбесаў, якія любяць такія штучкі, і надоўга пра іх забыўся. А тут такая нагода! Сапраўды, чаму б і не пужнуць настырнага крумкача гэтай штукай?

Ён хуценька забег у хату, дастаў з шафы адну петарду, прыхапіў на прыпеку запалкі і, поўны жадання пазбавіцца нарэшце настырнай, нахабнай птушкі, рашуча рушыў у бок лазні, каб здзейсніць задуманае.

Крумкач, нібыта прадчуваючы нядобрае, насцярожана маўчаў, не спускаючы вачэй з гаспадара сядзібы. А той раптам спыніўся, нешта паклаў на траву, прысеў ля гэтага "нешта" і таропка чыркнуў запалкай.

Выбух скалануў паветра... На гэты раз прастору прарэзаў пранізлівы чалавечы крык! Крык самога Петрака. Ён трымаў перад сабою акрываўленую далонь, глядзеў на скурожаныя выбухам пальцы, круціўся на адным месцы і енчыў ад нясцерпнага болю.

Некаторыя вяскоўцы бачылі, як у гэты дзень, відаць, напалоханая нечаканым выбухам, на ўвесь размах крылаў кружыла над вёскай вялізная чорная птушка...

Кажуць, з таго часу крумкач больш ніколі не прылятаў на Гальяшову сядзібу. А дужа дасведчаныя людзі выказвалі меркаванне, што гэта была не інакш як нейкая помста Гальяшу, прамаўляючы пры гэтым незразумелае вяскоўцам слова "рэінкарнацыя".

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць шаноўнага
Генадзя Рыгоравіча Дзмітрыева з юбілеем
і зычаць яму моцнага здароўя, аптымізму,
душэўнае трываласці і новых твораў!

Іна Снарская



...Пішыце пра любоў, бязродныя паэты,

Сучаснікі мае, сямейства вайдэлот...

# Сатканая з ветру

### *КОЛА ЖЫЦЦЯ*

Гарталі жыццё, як міты.
Спавітае немаўляці
Спала ў калысцы вешчай.
І падступала вечнасць
Да вокан гаючай травы.
Травень быў на зямлі,
І мы
Зноў нарадзіліся...

* * *

*Хмары пахнуць трывогай, радзімай...*

К. Галчыньскі

Чары-хмары і дарога...
Будзь ласкавы, Бог,

Да кавалачку зямнога
Раю ўсіх трывог.

Усіх сумных, усіх кволых
На маёй зямлі
Захіні, і ветрам волі
Наталі палі.

Вечар. Хмары, як кудзеля.
Рай мой, пачакай,
Пакуль я ступлю з надзеяй
На сівы прычал.

І пякучы, і балючы,
Болем дарагі,
Кожнай кветкай ён навучыць,
Як скарыць снягі.

## ***ДАРОЗЕ***

Ля ног лягла дарога шчанюком,
Ступні казыча, ў вочы заглядае.
Было заўжды так на рагу вякоў,
На ростанях трывожных небакраю.

Я пабягу па ёй, я палячу
І вылечу душу сваю дарогай.
Свой лепшы верш дарозе прысвячу
Шчаслівай і самотнай, доўгай-доўгай.

Усе трывогі звяжа пояском,
Усе сумненні і вузлы развяжа.
І ўспомню я гасцінны, цёплы дом,
Багаты Богам, праўдаю сярмяжнай.

Я сяду на драўляны ганак свой,
Як у дзяцінстве, абдыму бабулю...
І паляціць зямля няўлоўнай куляй
Цераз сумёты вечнасці сівой.

* * *

*Дрэва кожнае на зямлі*
*паўтарае Дрэва Сусвету...*
Р. Барадулін

Прыснілася дрэва жыцця –
Вярбіна мая каля хаты,

А там на галінах – буцян,
У прымы прыбіўся, ці ў сваты.

І свята было на зямлі,
Басое бегла дарогай,
І ручнікі плылі
Ракою, журбою, трывогай.

І недзе гармонік ляцеў
Ад ганку да небакраю,
І не было чысцей
Сярмяжнага гэтага раю.

Абраныя для жыцця
Пісалі свой першы спомін.
А ў небе кружыў буцян,
І я з ім, і сон, і поўня.

* * *

Калі б на дрэвах не было кары,
Яны свяціліся б у цемры – дрэвы-свечкі,
І нас вялі, нібы павадыры,
Народжаныя прарастаць у вечнасць.

Калі б на дрэвах не было кары,
Мы стукат сэрцаў, пэўна бы, пачулі,
Пра крылы гаварылі б да зары,
А на світанку вусцішна заснулі.

Нам снілася б дзяцінства і спакой,
Антонаўкаю першай прасвятлёны,
І рукі маці – поўняй над ракой,
І вочы бацькі – небам жоўтых клёнаў.

Калі б на дрэвах не было кары,
Калі б душой мы ўмелі гаварыць...

### *ЛАСТАЎКА*

Аднойчы я прынесла дадому
ластаўку са зламаным крылом.
Доўга яе лячыла
і гаварыць вучыла.
Сунічным вечарам
вынесла птушку ў сад
(няхай пад*ы*хае яблыневым паветрам),

падкінула хворую ў неба
(а раптам? а раптам?)
І дзіва – ластаўка паляцела,
А я напісала свой першы верш.

### ПАДАРОЖЖА

*А павінна ж недзе паблізу віцца*
*(Але дзе яна, як знайсці?)*
*Вуліца скрадзенага дзяцінства,*
*Вуліца Шчодрай Куцці.*

К. Галчыньскі

А там яшчэ ўсе маладыя,
І шчодры калядны дзед
Малую мяне абдыме,
Схавае ў сівой барадзе.

А там калаўроту круціцца,
Срэбную нітку плясці...
Зоркі мае, зарніцы,
Як мне да вас дайсці?

Лётам ці пехатою
Рушу не за бядой,
Сцежкай адзінай тою –
За жывою вадой.

* * *

Калі цені кладуцца шурпата
На душу ільняную грамамі,
Уяўляю я свята,
Успамінаю маму.

Калі коціцца сонца ў прадонне
І сланечнікі нават счарнелі,
Я цябе, мая мама, успомню
І ўпаду на калені.

Калі зноў на шляху бездарожжа,
І трывожна, і голас без сілы,
Мама ў сне мне на лоб паложа
Кветачку дзівасілу.

* * *

Жыццё і смерць пароўну падзялілі
Усіх, каго любіла і люблю.

Ляцелі дні, завеі вылі,
Калматы снег ўкрываў зямлю.

Стаялі сосны, быццам горы,
І не было за іх мацней.
Так цяжка быць гарою ў горы
І нават свечкай у вакне.

Мне не хапае іх адчайна,
Тых, на самотных берагах,
З такімі добрымі вачамі,
З такімі вострымі плячамі,
З такой душой без апранах.

## *СПОВЕДЗЬ*

Ён упаў на зямлю
І пачаў маліцца.
І было яму так балюча
І так пякуча,
Што зямля загарэлася
І правалілася.
З провалля ўласнай свядомасці,
З яміны спустошанасці і адзіноты,
З бездані страчаных надзей і няўтоленай смагі,
Ён папрасіўся дадому,
Туды, дзе яго любяць і разумеюць.
Ніхто не бачыў гэтага чалавека раней.
“Ён чарнец”, – гаварылі адны.
“Ён вялікі грэшнік”, – казалі другія.
“Ён прапашчая душа”, – думалі трэція...
А калі вялізная белая птушка
Рассекла чорныя хмары ўзмахам моцных крылаў,
Усе, нарэшце, пазналі яго:
Калісьці ён быў вандроўнікам і паэтам.

* * *

Пакуль я чую голас твой – звані,
Пакуль кахаеш, не шкадуй пяшчоты.
Гады ляцяць, сівеюць камяні,
Дык наталяй душу маю, як соты.

І напаўняй світанкам да краёў,
Ад родных берагоў і да заморскіх,
Да ўсіх маіх сцяблін і каранёў
У Полацку і на абшарах Ворсклы.

Мне у Палтаве чуюцца званы
Сабораў менскіх. Сэрца адзавецца
На мове вершаў сонечна-зямных.
Ты іх пачуеш. Толькі ты і вецер.

Ну а цяпер, прашу цябе, звані,
Бо я жыву, пакуль твой голас чую.
Нябёсы спяць. Ляціць няўлоўнай куляй
Цягнік мой і зямля. І мы на ёй адны.

* * *

Пасівела маладзіца, пастарэла.
Хоць і вечар выдаўся ласкавы,
Разбівала зоркі і калені
Аб гарачы прыдарожны камень.

Пасівела сізая галубка,
А гняздо так спраўна вышывала.
Кожны дзень яшчэ яе галубіў,
Захінаў ад ночы пакрывалам.

Ды гняўлівы вецер на гасціны
Завітаў. І стала ў хаце цесна.
А яна сказала: “Мой адзіны”.
Толькі крыжык сціснула нацельны.

* * *

Сатканая з ветру каханая...
Коціцца, коціцца сон
Па сцежках чырвоных,
Крыніцах салёных.
У руках – толькі лён.

Каханая, ветрам тканая...
Напіўся з крыніцы сон.
А ноч адзінокая,
А поўня глыбокая.
У руках – толькі лён.

* * *

А ляцелі побач,
Залацелі птушкамі
Да сёмага неба
Вясельнымі пушчамі.

Дзе ўзяліся тыя
Паляўнічыя?
Пакліч мяне, любы,
Пакліч мяне...

## *ПЧАЛА*

***1***
Не гавары “ніколі” і “назаўсёды”,
на гронках мядовых пчалою будзь.
А лютыя гарады
няхай дарэмна шукаюць твой цень
нявечны і недарэчны.

***2***
Залатая пчала
свой мёд аддала
і паляцела да сонца.
Бясконцы
шлях пчалы да шчырага сэрца.

***3***
Калі б пчала не джаліла,
то навучылася б жыць доўга –
з Богам, гаючай дарогай...
Пашкадуйце пчалу,
і яна на світанку
яшчэ прынясе мёд,
настоены на цудадзейных зёлках.

** * **

Гэты дзень – спелы, як яблык.
Далоў трывогу, віват спакой!
На снезе танцуюць анёлы радасці,
Бачу іх у вакно.

Хто сказаў, што людзі не ўмеюць лётаць?
Я адваротнае дакажу –
Надзену на шыю каралі з лотаці,
Ступлю на мяжу.

Гэты дзень – крышталёвая звонкая ваза.
Мне анёлак падасць руку...
І неба, роднае для адважных,
Пацалуе ў шчаку.

### ГАНЧАР

Стамлёныя рукі, жывая і звонкая гліна...
А неба высока, а сэрца глыбока. Хвіліны
Ляцяць зарападам да сэрца, на самае дно,
І дзень дагарае, і п'е залатое віно.

Народзішся з гліны і вернешся ў гліну калісьці.
А сэрца? А сэрца натоліцца вершам, і лісцем,
І траўнем чаромхавым, вераснем жоўтагаловым.
Ісці па зямлі табе босым з пранізлівым словам.

### * * *

Мы сустрэнемся ўсе калі-небудзь
На скрыжалях вятроў і дарог,
У далонях сунічнага неба,
На зары каралёў і нябог.

За ракой, за абшарам сусвету
Чарадзейныя ёсць астравы,
Там і вечар рыфмуецца з верай,
Там і сосны – сёстры травы.

Мы сустрэнемся ўсе нечакана
Па крыві, па сумленні радня...
І рукі не падыме Каін,
І прыме яго зямля.

### ПАЭТАМ

Гарачыя снягі ўзышлі, як караваі,
Яны плывуць скрозь сон
На берагі душы.
Я кнігу цішыні павольна адкрываю,
Там родная рака
І зорак гладышы.

Пішыце пра любоў, бязродныя паэты,
Сучаснікі мае, сямейства вайдэлот.
Адчайна так любіць
Снягі старонкі гэтай
Мы ўмелі толькі там,
Дзе плакаў вечны Лот.

Кася Дземянчук



...пасля цябе застануцца

толькі попел і роспач...

# Гарбата з мёдам і мелісай

***Апавяданне***

Катастрафічна мала цябе. Востра не хапае. А тое, што было, ужо даўно змяшалася з ранішняй кавай ды вулічным брудам. Табе патрэбна зноў з'явіцца. Як ты ўмееш. Нечакана, знянацку. З'явіцца і больш ніколі не знікаць. Я больш так не вытрымаю. Не магу ўсё жыццё хадзіць басаногж па лязе, усміхацца і пры гэтым рэзаць сваё сэрца тваімі словамі. Не рэж яго, чуеш? Ты думаеш, што я вар'ятка? Ты памыляешся. Вар'яты таксама могуць адчуваць. Толькі глыбей і змястоўней. Скінь гэтую маску. Яна табе не пасуе. Тым больш, такія сурагатныя адносіны яшчэ нікога не задавальнялі. Табе падабаецца? Ну што ж. Я калісьці казала, што ты незвычайны. Хочаш яшчэ раз пераканаць мяне ў гэтым? Ды я ж ведаю!

Пуста і маўклівa. Не чутно лета. Ды якое ж можа быць лета без цябе? Ага, у нас з табой рознае лета... Прабач, я забыла. Пачынаю забываць рысы твайго тва-

ру. Гэта вельмі страшна — старацца да болю ў рэбрах узгадаць, успомніць аблічча чалавека, які табе патрэбен, і не магчы.

Эпітафіі жыцця. Я малюю тушшу твой партрэт. Невыразна і блякла. “З натуры” атрымалася б куды лепей. Цябе няма. Магчыма, ты проста спіш на канапе ў сваёй аднапакаёўцы, паклаўшы галаву на маленькую падушку. А можа, якраз едзеш. Аднекуль-кудысьці. Можа, сядзіш у кавярні з якой-небудзь сімпатычнай асобай. Гэта не страшна. Толькі будзь. Будзь і не знікай. Ніколі. Не забывай. Пасля цябе застануцца толькі попел і роспач. А ты ж варты большага.

Тлумна-нікатынавыя дні. Спякота. Яна плавіць асфальт і мае пачуцці. Ты як допінг, нешта кшталту наркотыка. Мне патрэбна, каб тваё словы заўсёды віселі ў паветры. Патрэбны, як паветра. Я не эгаістка. Я проста добра ведаю, чаго хачу. Цябе... Ты скінеш маску, калі апусціцца занавес. І тады ты станеш сапраўдным. Трэба толькі пачакаць, калі скончыцца гэтая балюча-цягучая п’еса. Я вельмі хацела б пазнаёміцца з яе рэжысёрам. Маркотнымі днямі і дэкарацыі ўжо іншыя. Не тыя. Не нашыя. Пачакаем, калі святло пагасне і апусцее сцэна. Ты на сцэне, я за кулісамі. Гэта не важна. Я выйду да цябе. На сцэну. Галоўнае, каб пачуцці не астылі. Як тая кава. Хаця, яна ўжо з раніцы стаіць.

***

Неба губляе сняжынкі... А яны, нібыта маленькія гномікі ў белых апранахах, кружацца і ціхутка падаюць на зямлю.

Яна прачнулася, калі першыя промні сонца пасказыталі яе па твары, заблыталіся ў доўгіх русых валасах і апусціліся на падлогу. Узяўшы любімую зялёную гарбатку, Яна падыйшла да вакна, прысела на падваконне. Здавалася, што вуліца, дамы насупраць – усё глядзела на яе, маленькую дзяўчынку ў вялікім горадзе. А Яна не бачыла нічога, акрамя гэтага цудаснегу. Ён засыпаў усё наваколле. Такі бялюткі, як крылы ў анёла. Нейкі дзівосны, незвычайны. Першы снег... Захацелася хутчэй апрануцца і выйсці на вуліцу, дакрануцца да гэтай казкі.

І вось Яна ўжо зачыняе дзверы пад’езда і раптам спыняецца. Ад снежнага блакіту і бляску цямнее ў вачах. Яна ідзе. Ідзе па такіх знаёмых і ў той жа момант незнаёмых вуліцах. Думае, марыць, жадае, напэўна, кагосьці кахае. Яе зялёныя вочы звыкліся з гэтай беллю. Хацелася бегаць, крычаць і танцаваць ад бязмежнай лёгкасці і свабоды. Тваёй свабоды. Ты падараваў Ёй гэта адчуванне, гэтую волю і... гэтае паветра, якое мае водар мелісы, белага шакаладу і лімону. Яна закахалася ў тваё паветра. Ад яго кружыцца галава.

Яна хутаецца ў свой цёплы шалік і ідзе далей, насустрач новаму дню, насустрач снегу. А сняжынкі кружацца і апускаюцца на яе пушыстыя вейкі, вільготныя вусны, шэры шалік. Яна шчаслівая. Як Снежная Каралева. Прыгожая і недасяжная. Каб яшчэ больш узвысіцца, Яна заскочыла на лаўку каля аўтобуснага прыпынку, падняла галаву і паглядзела на неба. Якое гэта было неба! Нібыта невядомы жывапісец намаляваў на сваім блакітным палатне фігуркі белымі фарбамі. Так можна было б стаяць бясконца...

Яна марыла пра шчаслівую будучыню, пра светлы і плённы жыццёвы шлях. Пастаяўшы яшчэ трошачкі, Яна пачала ўжо марыць пра пахучую гарбату з карыцай і цёплы плед. Тады Яна спусцілася на зямлю і пайшла

дамоў. Ішла марудна-марудна. Хоць мароз ужо добранька прабраў яе худзенькае цела і пафарбаваў шчочкі ў ружовы колер. Ад гэтага Яна станавілася яшчэ прыгажэйшай. Калі б Яна ішла такая стагоддзе таму па старой зімовай Вільні, у яе абавязкова закахаўся б які-небудзь малады мастак ці паэт-летуценнік. Снежная Панна ў снежні...

А неба ўсё губляе сняжынкі.

***

Першыя крокі. Па падваконні. Сённяшнім халодным, няўтульным, маўклівым, адзінокім вечарам. Рашучыя крокі, якія скідваюць далоў усе рэчы, што спакон веку, з года ў год мірна жывуць на гэтым маленькім, але самым жывым участку маёй каморкі. Тады чаму ж менавіта сёння ўпартасць і адчай крышаць усё на шляху. Усё, што было такім дарагім і любым сэрцу. Сэрца... Сёння я не адчуваю яго прысутнасці ўнутры. Дый прысутнасці ўвогуле. Значыць, людзі могуць жыць без сэрца. Могуць.

Шматпакутныя крокі. Калі з першай хвіліны, з першага імгнення ведаеш, што твая абраная дарога – гэта шлях у бясконцасць. У нескančальнасць мараў, памкненняў і жаданняў. “Навошта тады ідзеш?” – спытала б сэрца. Чуецца толькі цішыня. Бо сэрца няма. Няма ў прапанаванай сістэме каардынатаў. А ты ўсё роўна ідзеш. Басанож. Праз прысак, праз шкло, праз пачуцці людзей. Перастала заўважаць чужыя пачуцці. Яны сталі незразумелымі і непатрэбнымі. Толькі свая, намаляваная блакітнай крэйдай дарожка, і ні кроку ў бок. Гэта ўжо не чарговая роля. Гэта не сцэнічныя паводзіны. Пачынаеш сумнявацца і тлумачыць сам сабе, што гэта мэтазгодна, што ён таго варты, што ўсё спраўдзіцца і мары здзейсняцца. Не ведаю, дзе жыве мая крохкая надзея. Магчыма, у сэрцы. Але яго няма.

Тлумныя крокі. Доўгія начныя размовы збіваюць з абранага гасцінца, туманяць думкі. А потым, водар ранішняй кавы альбо гарбаты з мёдам і мелісай вяртае да жыцця. І зноў пачынаю адчуваць тваю прысутнасць у маім жыцці. Цьмяна, невыразна, але адчуваю. Недзе на самым узмежку свядомасці. Ты ёсць. Гэта так па-вар’яцку, па-мазахісцку трымацца за цябе, за твой намаляваны і напісаны жывы вобраз, нават за тваё імя, зачыніць усе дзверы і не выпускаць цябе з галавы.

Апошнія крокі. Ногі ўжо гушкаюць паветра і звісаюць з падваконня. Ніхто нікуды больш не пойдзе. Яны будуць чакаць. Чакаць як збавення, як паратунку, як доўгачаканай адлігі – цябе. Тыдзень. Год. Бясконцасць. Але ж яны пачакаюць. Пачакаюць і ты прыйдзеш. З’явішся і будзеш яшчэ доўга ззяць, як бліскучы недапалак на мокрым гарадскім тратуары.

***

Прыслухайся.

Ты чуеш? Паветра... Няўжо ты не ведаў, што можна слухаць паветра? Тысячы, мільёны гукаў, нібы дыяментаў, рассыпаліся... Кожная нотка – твой адбітак і вобраз. Вакол і ўнутры мяне.

Раскрытыя фіранкі, насцеж распахнутае вакно. Гукі вуліцы. Начной вуліцы. Нехта здзекуецца з гітары. Піскі і віскі. Гарадскі тлум. Чутны галасы людзей. Нібыта спрэчкі, сваркі і звадкі.

Каб ты быў побач, я абавязкова распавядала б табе самыя цікавыя гісторыі, самыя займальныя сюжэты. Растлумачыла б табе сэнс кожнага гуку. Гуку паветра.

Мы б гаварылі. Гаварылі пра тое, што можна, а што нельга, дзяліліся б уражаннямі, перажывалі разам. Маё плячо назаўсёды б зберагло твой дотык, вочы запомнілі твае вочы, твае словы і... твае вершы.

Ты чуеш? Паветра гуляецца ў тваіх валасах і шэпча. Шэпча нейкія дзіўныя словы, якія разумееце толькі вы. Ты вельмі хацеў ведаць, пра што я думаю, калі прыпадымаю левае брыво. Гэтай ноччу я табе пра гэта расказала б. Я смяюся, калі ты кажаш, што ў цемры ў мяне свецяцца вочы. Хаця ў цябе яны таксама свяціліся. Абліваеш глінтвейнам джынсы. Лёгкі павеў ветру плюс уласная няўклюднасць. Доўгія, музычныя пальцы, нізкі, спакойны голас і правільныя скулы.

Невядомыя адно аднаму, але такія блізкія і родныя. Паветра пачынае запаўняцца цыгарэтным дымам і набывае новыя гукі-адбіткі. Слязіцца вока. Але ж ніхто не звяртае на гэта ніякай увагі. Дзівімся, чаму на небе няма зор. Можа, проста яшчэ холадна. Ды й не сезон пакуль што на зоры. У шматпавярховым доме насупраць яшчэ гарыць святло ў вокнах. “Нібы падглядае хтосьці”, – смяешся ты. У той момант мы не думалі, што людзі проста займаюцца сваімі справамі. Дый каму патрэбен наш пяты паверх?

Пахаладала. Рукі, і так заўжды халодныя, пачалі станавіцца ледзянымі. Цішыня. Прыкрая, цяжкая цішыня. Яе таксама можна слухаць. Апошнія начныя акорды.

Пачало ўжо світаць. Дый гукі ўжо не тыя. Кажаш, што, напэўна, мяне ў дзяцінстве мала насілі на руках і цяпер я злуюся на ўвесь сусвет і абдымаеш. Цёпла і ўтульна. Цяпер толькі гукі твайго дыхання з хрыпатасцю *Winston*.

Раніца пачынала ўжо сваю песню. Ды якую песню.

Прыслухайся.

Ты толькі прыслухайся...

Ірына Бельская



...Бог дарэчы
калі б Ты мог
расцягнуць гэты момант –
няхай бы ён быў
вечным...

# Мы дзеці аднаго Бога

* * *

мужчына
якога я пакідаю
вучыцца жыць
самастойна
гатаваць ежу
прыбіраць
за сабой рэчы –
акуратна
аднак так па-мужчынску
часам плача

пакуль
я яго не пакінула
раблю сняданак
свежы
(ён так удзячны)

выкідваю свае рэчы
паштоўкі
джынсы
калядныя свечкі
кветкі жывыя...
прыбіраю
прыбраную ім
кватэру
зусім па-жаночы
таксама плачу
не – вык

хаджу ў царкву
зноў і зноў
пытаюся ў Бога –
ну што там
як
ці вырашылася
нешта
нарэшце
наконт майго месца ў свеце
прашу для ўсіх шчасця
і ўсмешак
прынамсі
для некаторых
пажадана
на Каляды
хаця б на Вялікдзень...
Бог прымае без блату
слухае
кажа падумае

мужчына
якога я пакідаю
пазычае мне грошы
кажа
каб не вяртала
стварае бачнасць засяроджанасці
на серыялах
прагнозах надвор'я
навінах
кажа
што я не павінна
нічога
што так шмат рабіла
і прычым тут грошы
наогул
гэта так –

на першы час дапамога
стаў такі сталы
і я стала
толькі я –
горшая

пакуль я яго
не пакінула
стаю ў дзвярох
па-святочнаму
прыбранай кватэры
трымаю ў руках рэчы
часткова веру
плачу
кажу:
Бог
дарэчы
калі б Ты мог
расцягнуць гэты момант –
няхай бы ён быў
вечным

* * *

Нічога ў мяне не крываточыць.
Ніякіх ранаў.
Толькі слязяцца вочы
і нос зімой быў зламаны.
Душа мая цэлая – недзе валяецца
разам з дыпломам
у некага дома.
Спатрэбіцца – адшукаецца.
Я занадта здаровая,
каб магло мне быць дрэнна
ці проста фігова.
Я яшчэ маладая. Дарэмна
хтось думаў, што я ў адчаі,
што гэта трагедыя.
Ведаеце,
я ўсё прыкмячаю –
гэтыя цікаўныя позіркі й словы,
нічога новага:
“І як яна будзе тады–
без мужа, без дому, без грошай...”
Не было б горшай
бяды.

Я чула праклёны, выходзячы з хаты.
Так хацела не чуць.
Ці хацяб забыць.
Так і быць –
я сама ва ўсім вінаватая.

І адзінае, што тады я змагла зрабіць –
сказаць:
выклік прыняты.

* * *

Панурае,
пракуранае
і прапаленае акуркамі
ранне.
Усё, што я маю – вось
гэтая мая дзіравая рэчаіснасць.
І ў бяздомнага,
і ў мяне дом –
усюды.
Сюды
сцякаецца ўсё
святло свету
і змешваецца з
соллю зямлі.
І я раствараюся,
як толькі пачынае днець.
У бяздонняж вачэй,
на празрыстых тварах
іх бяздомных гаспадароў –
Бездапаможнасць.

* * *

Ён маліўся Алаху,
Але часам быў не супраць
Закусіць самагонку свежанінай.

А я любіла Ісуса
І не любіла танцаваць,
А ён любіў,
А я любіла пісаць
Свае вершыкі.
А закусваць свежанінай самагонку
Мне і так можна.

Але мы любілі адно аднога
І верылі, што мы дзеці аднаго
Бога.

Я прасіла яго ў Ісуса,
І пазней высветлілася, што атрымала
Менавіта так, як сфармулявала.
І ён прасіў мяне ў Алаха,
Але таксама, відаць,
Сфармуляваў блага...

Але мы любілі адно аднога
І верылі.

Тыя родныя, што асуджалі,
Ну, пачытаюць яны, можа, вершы –
Ну ўджаляць яшчэ
Але мне – што?
Нічога – верыце?
Я ад пчалінага джала
Тут толькі магу памерці.

Мы так любілі адно аднога,
У нас саміх паверыўшы,
Што нам было на ўсіх напляваць.
Але нядоўга.

Хіба можна пісаць вершы,
Калі нават не ўмееш фармуляваць
Просьбы да Бога?..

* * *

тут паўсюль – не я
гэтыя паштоўкі і фота
чужых жанчын і дзяцей
да мяне тут былі
танцаўшчыца
мастачка
шведка
анечка
наркаманка
мастачка-наркаманка
габрэйка
маці яго дачкі
яго маці
дачка
тыя пра каго няма чаго ўзгадваць

як чарговы прыстанак –
утульны –
я – паэтачка
з трохі сінімі ручкамі
якая амаль не піша
ужо не працуе
нічым не зарабляе
акрамя таго што пазычае грошы

на сценах і дзвярах –
паштоўкі і фота
паштоўкі і фота
паўсюль
гэта момант –
калі хочацца збегчы
арганізм гэтай кватэры
мяне не прымае

*“а давай тут павесім і тваё фота”*?

* * *

Доўгія расстанні –
гэта ўсё, ведаеце,
не для мяне –
трагізм абдымкаў
перад дарогай далёкай
і слёзы.
Усё мінае –
І гэта няхай міне.
Хай усім будзе лёгка
ў дарозе.

* * *

Я б таксама хацела ўмець –
Хоць карціны, хоць вершы, хоць музыку...
Я б таксама хацела быць –
Хоць бы жонкаю, ці хоць музаю.

Але хто б мяне навучыў...
Як не ўмею – дык што тут крыўдзіцца.
А не ўмееш – сядзі маўчы,
Бо адказваць за ўсё прыйдзецца.

Эрнест Ялугін



...супрацiўнiк рыхтуе галоўны ўдар...

# Перад Патопам

***Гістарычны раман***

Працяг. Пачатак у №65.

Часопісны варыянт.

## 15. Вядзьмарка ўгледзела ваўкалака

– Цур мяне! Цур! – вісклівыя бабскія воклічы прымусілі Зыха страпянуцца і разляпіць вока. Здзівіўся, што, аказваецца, спаў. Хутчэй – драмаў, бо не снілася ж яму сутычка пана Скоркі з ляхам Курчам і трапны стрэл пані Курцэвічавай, толькі ўспаміналася здарэнне, але як яскрава! А ўспомнілася таму, што ў турэмнае акенца ўбачыў асветлены заходзячым сонцам стромкі спічак чашніцкага касцёла. Цяпер жа ў аконцы цьмяна ільсніўся лапічак передранішняга неба з дзвюма-трыма жарынкамі зорак, калі пільна ўглядацца, што не адразу ўдалося.

– Каб табе зарвала! – пажадаў Зых, зусім ачомаўшыся ад дрымоты, і паляпаў абапал сябе, падграбаючы расцярушаную салому. – Ды спала б ужо, ведзьма. Пачуе турэмшчык – дубца атрымаеш, а заадно мне дастанецца.

– Сам вядзьмак, лясун, – агрызнулася баба, то чухаючыся, – і яе ж даймалі клапы і блохі, – то паграбаючы

посцілку. – Га-а! Цур! Цур! – раптам зноў успалашылася яна, але ўжо не так гучна.

– Ціха! Звар’яцела? – хрыпнуў Зых, ужо міжволі напружваючыся невядома пакуль ад якой небяспекі. – На каго там цуркаеш, вядзьмарка?

– Ваўкалак у акенца лез.

– Той бяды, – развесяліўся Зых. – Хопіць і яму месца, на яго павінна блох багата перайсці, табе ж выгада, а цуркаеш. А мо гэта ён да цябе, грэцца?

– Скула табе на язык! – зазлавала баба. – Ваўкалак – няйнакш твая радня.

– Дык і сядзі ціхенька. – Зых паклыпаў да аконца. Высакавата, каб у яго зазірнуць. Прыслухаўся. Знадворку ці не ціхае-ціхае кароткае скавытанне. Ласкава-радаснае.

Зых кашлянуў і як мага падаўся тварам да аконца. Прамовіў амаль шэптам, стараючыся выразна:

– Чуеш, Ваўчок? Кепска, што ўзяў з сабой Найду. Яе месца ў лесе, мы ж дамовіліся. У горад каб ні-ні. Я вярнуся. Калі ж раптам – не, тады ідзі ў Цяпіна, да пана Васіля. Скажаш, я прасіў, каб ён навучаў цябе ці ўладкаваў у Вільні. Ён усё зразумее. Служы яму аддана і болей нікому. Але я вярнуся. Дык сядзі ціха-ціха. Ну, дадому! Кыш! – дадаў Зых, пракоўтваючы камякі ў горле, і стаў пільна ўслухоўвацца, як за акенцам аддаляецца лёгкі шоргат.

Патыліцай адчуваў: варажбітка працінае яго позіркам наскрозь. Сапраўды, павярнуўшыся ад акенца, убачыў праз прыцемак мігценне двух зялёных светлякоў. Так іншым разам сочыць за чужынцам кот. Відаць, варажбітка сапраўды ўявіла, што патрапіла на начлег з ведзьмаком. Ён бы і сам ці не гэтак падумаў у былыя гады, каб вось гэтак уначы ўгледзеў звярыную морду. А так яно ж і было, бабе не памроілася. Сын няйнакш прыўзнімаў да аконца ваўчаняці.

Эх, шкада, што ў яго, Зыха, няма вядзьмарскіх здольнасцей! Іншым разам яны ў гэтым тлумным жыцці яшчэ як патрэбныя.

Праўда, іншае ёсць. Ён адчувае ў сабе нейкую дзейную здольнасць, якую яму ці не перадаў дзед Крывейта. Эх, думаў, людзям будзе на добрае, а вось ці не атрымліваецца – сабе на бяду. Спачатку, як асеў на жыхарства ў вёсачцы, таіў гэтую сваю здольнасць. Ну, вывіх каму ўправіць ці пчалу на патыліцу прыткнуць, каб галава не надта балела, асабліва ў каго каўтун, расплаўлены воск на пухліну пакладзе, траву для лекавага ўзвару пакажа, але без замоваў, моўчкі. А вось замаўляць-ратаваць Курча, няхай нават аб гэтым прасіў вельмі патрэбны чалавек – пан ляснічы, было не трэба. Відаць, пры цяперашнім розуме неяк бы адмовіўся – і ўсё.

Лячыў Курча, хоць самога трэсла ці не ад злой нейкай задаволенасці: вось, вось, я такі ўратую, уратую цябе, пажыві цяпер без яе, паўспамінай, як мяне адштурхнуў, а твае гайдукі здзекліва выскаляліся.

А, можа, не так трэба было сябе паводзіць, калі няпрошаны з’явіўся на ганку сядзібы Курча? Не тузацца, не шалець, забыўшы, хто ты такі і як выглядаеш. Пачуў ад лесніка –пані сыходзіць крывёю пасля родаў, вось і памчаўся няпрошаны. Да каго?!

Бо цвёрда быў упэўнены: у ягоных сілах крывацёк спыніць. Яшчэ ў часе казакавання адчуў гэта ў сабе. Потым ужо ў Іванску: прыбег у адчаі Петраш: “Жонка крывёю сыходзіць, а папа няма, апошняе прычасце пакуль

жывая прыняць". Якога папа? Пайшоў да Петраша – ляжыць яго жонка, ледзь дыхае. Паклаў рукі на яе, напружыўся, сказаў запаветныя словы – і выжыла! А вось да Стэца паклікалі надта позна, калі шаптухі адступіліся. І ён, агледзеўшы, таксама сказаў: "Позна". Ды хоць бы і раней, відаць, не ўратаваў бы, надта ж ваўкі парвалі небараку, гэтак адчайна чалавек клячу сваю бараніў замест таго, каб уцячы падалей, пакуль з ёю зграя распраўлялася. Заўсёды даводзіцца нечым афяраваць, часта – істотным.

Пані Курцэвічаву пахавалі ў Іванску, блізу алтарнай часткі царквы, побач з сУродзічамі. Курч спачатку клапаціўся, каб у Чашніках, ля касцёла, аднак не стаў упарціцца, выслухаўшы рашучыя пярэчанні суродзічаў нябожчыцы-жонкі. Што сталася з дзіцем, у вёсцы не ведалі, схіляліся да меркавання – тое нарадзілася мёртвым і было пакладзена ў адну труну з маці.

Пакуль жонка была жывая, за Курча стаяла яе радня, з паўтузіна сем'яў ваяўнічай засцянковай шляхты, пасля ж ці не ўсе яны ад зяця адхіснуліся, лях і католік, ён стаў для іх чужынцам. Тым болей, што пайшла чутка: у смерці жонкі Курч і вінаваты, нібыта здзекаваўся, сілком прымушаючы перайсці ў рымскую веру, замучыў. Добразычліўцы раілі яму куды падалей з'ехаць, аддаўшы маёнтак у арэнду. Аднак той нібы не заўважаў, якая нянавісць вакол яго тчэцца, займаўся ўмацаваннем сядзібы, паляваў, штотыдзень станавіўся на малітву ў касцёле і ажно пачаў пацiху прыглядацца да каго б зноў пасватацца, прычым з праваслаўных шляхцянак на выданні. Выходзіла, зноў ажаніўшыся, лях такім чынам набудзе новыя маёнткі, а з імі ўплыў на сейміку і ў асяродку саноўнікаў Полацкага ваяводства, і такім чынам у Вільні. Не забываў Курч наведваць і магілу нябожчыцы-жонкі, Зых двойчы там з ім сутыкнуўся. Дабром усё гэта скончыцца для ляха не магло, многія ў Іванску схіляліся да такой думкі. І сапраўды – неўзабаве пачаліся напады.

Ці не першы напад адбыўся ранняй вясной, калі толькі пачынала цвярдзець дарога, пра гэта яму, Зыху, сказаў манастырскі ляснік, Костка. Курча перастрэлі ў часе пераправы праз малапрыкметны ўлетку, але бурлівы і глыбакаводны ад веснавой паводкі ручай каля Барка. Ён адбіўся дзякуючы абачлівасці, добрай агнястрэльнай зброі і вайсковай адвазе сваёй і сваіх гайдукоў. Параненым аказаўся толькі адзін малады пахолак ды забіты конь пад самім панам.

На свае вочы ён, Зых, стаў сведкаю аблогі ўжо самой сядзібы Курча, пра што потым на сваю галаву і паведаміў надта зацікаўленаму падрабязнасцямі пану ляснічаму, асабліва ўдзелам у нападзе пана Скоркі. Змоўчаў толькі пра ўласныя тады прыгоды. І ні слова ўвогуле пра гандаль з ваўком. Тым не меней стаў прыкідваць, а ці не з прычыны таго, што ён тады зрабіў, яго і вязуць, каб спаліць на кастры інквізіцыі, раптам хто ўсё ж дазнаўся, які бадзяга-манах.

Не прызнаўся пану ляснічаму і адкуль назіраў дакладна за дзеямі вакол сядзібы Курча, сказаў толькі – убачыў з высокага берага возера, а пра дрэва з пчоламі ні слова. Вырашыў так з самага пачатку, калі дзякуючы куніцы ўвосень наткнуўся на паламанае мядзведзем дупло. Бо гэта ж не борць з нечым знакам. Тым болей, што і спадзеву было мала, каб сямейка здолела перазімаваць: і корму вобмаль, і гняздо для злодзеяў надта даступнае.

Абарону ад куніцы ён урэшце прыдумаў, загарадзіўшы шырачэзную адтуліну ў дупле вялікімі кавалкамі тоўстай дубовай кары, пакінуў толькі бліз самага нізу вузкі ляток. Затым, паразважаўшы, паверх абклаў усё ўчэпіста-калючымі сцяблами шыпшынніку і ажыны. Як ні асцерагаўся, а

далоні і пальцы сабе параніў да крыві, то няхай паспрабуе сунуцца пыскай куніца ў такую калючую загарадку! Вось ад мядзведзя гэта, канечне, не абарона. Але прыдумае нешта болей надзейнае, пазней, летам, раптам жа сямейка перазімуе.

А яна такі выжыла! У сярэдзіне сакавіка, калі сонца стала працягла награваць узгоркі і вершаліны дрэў, ён наведаў запаветную мясцінку і з радасцю ўгледзеў: віхурнымі залатоўкамі мільгацяць, аблётваючыся, пчолкі. Ды не сіратлівыя дзве-тры, як здараецца, калі сям'я амаль цалкам загінула за зіму, а вясёлай зграяй! Ён ці не з гадзіну зачаравана назіраў за цудоўнымі боскімі стварэннямі.

І так яго гэта сямейка радавала заўсёды, што ён і надалей стараўся наведвацца да яе, калі ўжо стала зраумела – яна выжыве без усялякай дапамогі звонку. Мала таго, гэткія ціхмяныя ўвесну, набыўшы сілу, яе ахоўнікі пачалі ўжо ого як імпэтна кідацца на няпрошанага госця яшчэ зводдаль гнязда. А ўжо калі шаргануцца бліз дупла... Лепей імчы прэч і не азірайся.

Яго абараняў духмяны ўзвар траў, таямніцу якога разам з запаветным словам перадаў яму бацька. Людзі ж, якім даводзілася назіраць, як пчолы ціхамірна садзяцца яму на рукі і твар, думалі, што ён, Зых, сябруе з нячыстай сілай. На роспыты пасмейваўся: не, толькі з лясным гаспадаром – Бялуном, якога частуе самым лепшым мёдам на Спаса.

А ў той дзень усё болей насоўвалася густая хмарнасць, пчолы паспешліва-заўзята сноўдалі каля лятка, відаць, прадчувалі набліжэнне навальніцы. Кожная несла салодкага здабытку столькі, што іншая каля дупла валілася ўжо куды папала, і толькі аддыхаўшыся, паўзком дабіралася да лятка.

Змачыўшы як след твар і рукі траўным узварам, ён асцярожна адсунуў загадзя прыстасаваны кавалак кары над даўжнёю і, адчуваючы хваляванне, бы рабіў такое ўпершыню, утаропіўся ў таямнічы паўзмрок дупла, дзе заўзята і з дзіўнай мэтанакіраванасцю варушыўся вялізны клуб крылатых маленькіх працаўніц. Чаму яны так стараюцца? Бачна ж, што самахоць, ніхто іх не падганяе, не пагражае расправай за маруднасць – ніякіх жа цівуноў. Ва ўсім гняздзе ён заўважыў толькі адну пчалу, тую самую, Гаспадыню, як назваў яе калісьці бацька, калі вылавіўшы ў асаджаным на сліву раі, пусціў у пусты лубяны кораб:

– Кліч туды сваіх дзетак, маці! – і яму, Зыху: – Бачыў, якая прыгажуня? Гаспадыня! Без яе рой – нішто.

Сапраўды, нядаўна такі вялізны і шчыльны клуб пчол на сліве стаў распадацца-распаўзацца, разлятацца з жалобна-трывожным нейкім дзыньканнем.

І як жа пчолкі ўзрадавана замітусіліся, як дружна памкнулі ў кораб, адшукаўшы там сваю Гаспадыню!

Чаму – гаспадыню? Нікога ж не прымушае, нікому не пагражае. Паважна паўзе па сотах, а вакол, галоўкамі да яе, з паўсотні пчолак, падобна, маладых. Агладжваюць, кормяць... Што ж робіць Яна? Зазірае, зазірае то ў адну сотавую ячэю, то ў другую. Правярае мядовы запас? Ды не! Вось жа: адкладвае малюсенькія белыя крупінкі... Яйкі! Значыць, не так сабе бацька сказаў – "Маці". Ведаў стары гэта аднекуль. Не ён, Зых, першы ўгледзеў – чым займаецца Гаспадыня, якую гэтак шануюць астатнія пчолкі.

Ён, Зых, тады так захапіўся чароўным відовішчам заўзятай зладжа-

най працы тысяч маленькіх стварэнняў, што зусім забыўся на казацкае правіла: як бы ні было навокал ціхамірна, час ад часу пільна аглядацца, прыслухоўвацца. Усё ж, аднак, у ім таілася звычная пільная насцярожанасць жыхара пагранічча, падмацаваная горкім вопытам. Таму, пабачыўшы бакавым зрокам раптоўны ўзлёт пары буслоў на забалочаным узбярэжжы за дальнім краем паўвострава, адразу зразумеў: нехта там чужы.

А праз колькі імгненняў пачуўся і стракат сарок. Прычым ажно ў трох кутках лесу. І ўсе блізка ля ўваходу на паўвостраў. Вось калі, прыгледзеўшыся, заўважыў – аблога!

Відавочна, за аблогай ужо сачылі і з-за высокага моцнага дубовага тына перад сядзібай: не так сабе каля некалькіх вузкіх прарэзаў-байніц станавіліся гайдукі Курча, трымаючы напагатоў стрэльбы.

Нарэшце яшчэ заўважыў, як за дальнім краем паўвострава каля месца, дзе ўзляцелі буслы, два грабцы торапка гналі шыракадонную лодку, на якіх звычайна звозяць з маладаступных ад бездарожжа мясцін сена і дровы. Пасярод лодкі стаяў асядланы конь малапрыкметнай мышастай масці, якога за аброць адной рукой трымаў гайдук, тады як другой, правай, прыціскаў да сябе ладны скрутак выбеленага палатна.

Ад гэтага загадкавага відовішча ягоную, Зыха, увагу ўсё ж міжволі адцягнула іншае: з-за агароджы раптам гучна ўдарыў мушкетны стрэл. Следам другі. Прычым куля, падалося, свіснула так блізка, можа, побач, што ён, Зых, пахаладзеў: ці не яго прыкмецілі ахоўнікі сядзібы!

Нічога не заставалася, як прыціснуцца да дрэва – у шэрай апратцы на шэрым. І ў любым выпадку на добры лад хутчэй злезці ўвогуле на дол, бо духмяны ўзвар цалкам высах, выветрываючыся, і ціхамірнасць пчол можа скончыцца іхнім дружным нападам, сямейка ўгняздзілася надзіва ваяўнічая, а яшчэ ж будзе асабліва лютаваць, як заўсёды адбываецца ў часе перамены надвор'я на дождж.

Ды тут гахнуў новы стрэл, ужо ўвогуле недзе зусім побач, з ядлоўцу – у бок сядзібы, відаць, адказам на стрэлы гайдукоў Курча. Тыя не марудзячы таксама выпалілі двойчы, і куля зноў свіснула так блізка, што яму, Зыху, успомнілася казакаванне і апошняя разгромная пагоня маскоўцаў.

Стрэлы і неспакой за ўласную бяспеку пазбавілі яго цікавасці да лодкі, а калі нарэшце зірнуў у той бок зноў, карма пасудзіны ледзьве праглядалася ў чароце. Конь ужо быў на беразе, а вершнік на ім знікаў у забалочаным нізкарослым сасонніку.

– Гэта ён у Чашнікі, за падмогай! – гучна прамовіў нехта за шчыльнай сцяной ядлоўцу.

– А мо, у манастыр? – пачулася яшчэ. – Тады паедзе міма бабровых тоней, а там надта грузка. Можна яшчэ перахапіць.

– Перахоплівайце дзе хочаце, але ні ў манастыр, ні тым болей у Чашнікі ён трапіць не павінен, – пачулася ў адказ загаднае. – Хутчэй! – то быў знаёмы голас – пана Скоркі! Значыць, выжыў, ваўчына.

Блізка затупаталі, зафыркалі коні. Давялося прыціснуцца да дрэва, зліцца з ім, бездапаможна чакаючы: заўважаць ці не. Заўважаць – пагібель. Што ж, сякерку ў пана ён пастараецца шпурнуць. Унізе можна б паспрабаваць крутнуцца з нажом, але хутчэй за ўсё злезці яму не дадуць, у панства няма часу. Чортаў Курч. Пракляты Скорка!

Сапраўды, праз якое імгненне гэты страшны шляхцюк у скураным калеце, з пулгакам за поясам і шабляй на баку паказаўся на магутным стаенніку ў прагале паміж ядлоўцам і сасоннікам. З ім – ватага хто чым

узброеных вершнікаў. Ну і пан! Выходзіць, не баіцца суда ваяводы за новы наезд, ранейшы, відаць, Курчу даказаць не ўдалося?

– Куды прывезці ляховіча? – пачціва спытаў у Скоркі дзікаваты магутны гайдук, стрымліваючы імклівага каня, каб не апярэдзіць атамана.

– Навошта? Там і пакіньце, – у голасе Скоркі чулася раздражненне. – Па конях!

## 16. Мена з ваўком

Конскі тупат даўно паглынуў лес, а ён, Зых, усё туліўся да дрэва, прыслухоўваючыся і прыглядаючыся. Недзе блізка цівікалі сінічкі, дзумкалі пчолы, а сарокі змоўклі, ужо ніякай трывогі ў лясных насельнікаў. Нібыта ўвогуле нічога зусім нядаўна побач не адбывалася. Хоць па-ранейшаму за тынам сядзібы Курча сядзелі са зброяй напагатоў гайдукі, а недзе, не так ужо і далёка, ля бабровых тоняў ці ўжо на вузенькай лясной дарозе да манастыра не палююць на чалавека, па сутнасці не павіннага, толькі таму, што той – “ляховіч”, слуга ці, можа, які суродзіч пана Курча.

І нічога не перайначыш. А калі на тое, і самому трэба падавацца падалей, ды крадком, бо хутчэй за ўсё аблога працягваецца і недзе блізка тоіцца засада. Нездарма над узлескам ля паўвострава зноў папераджальна-трывожна застракаталі сарокі, а пан Курч прывідам паўстаў на высокім ганку, ці не ўглядаючыся туды, дзе знік ягоны пасыльны.

Раптам у тым баку тахнуў стрэл. Падобна – з пулгака. Над балотам узнялася, замітусілася, загаманіла чарада птушак. Гэтак жа глуха прагучаў другі стрэл. Курч, увесь напружаны, падаўся наперад, здаецца, вось-вось гатовы ўзляцець.

Пчала знянацку джганула ў скроню, ён, Зых, адмахнуўся, забыўшыся з-за, што дзеелася ля сядзібы Курча, яшчэ на адну небяспеку, і другая пчала пеканула яго ў пераноссе. Едкі пах пчалінага яду казытнуў ноздры, вока затуманіла слязой. Ого, значыць, “чараванне” траўнага ўзвару выветрылася канчаткова, трэба было найхутчэй уніз-уніз і падалей, а то каб не давялося ратавацца, падобна мядзведзю – у возеры.

На нейкія імгненні, пакуль не паднырнуў пад нізкія шаты густога хмызняку, мусіў змірыцца, што можа быць заўважаным людзьмі Скоркі. У самай зацені прысеў, прыглядаючыся і прыслухоўваючыся, пацягнуў да сябе лазіва, у якім ледзь не заблытаўся, спаўзаючы з дрэва, жмутом, не складваючы, запіхнуў у торбу. Куды ісці? Да іванскай дарогі? Гэта ўсё роўна як перціся міма мядзведжага логава ці ваўчынай гулянкі, засады ж пакінутыя абавязкова. Усцяж берага – таксама надта рызыкоўна. Эх, хочаш ці не, давядзецца скарыстацца сцяжынай, па якой вершнікі Скоркі памчалі ў бок манастыра, і недзе ля бабровых тоняў потым чулася страляніна. Можа, ганец Курча, адбіўшыся, здолеў знікнуць у пушчы і падаўся ў Чашнікі? А пагоня тады следам.

Яшчэ прыслухаўшыся і агледзеўшыся, ён пабрыў да натаптанай сцяжыны, якой карысталіся жыхары наваколля, калі хадзілі ў манастыр. А ўначы лясное звяр’ё на вадапой да возера – чыіх толькі слядоў раніцою не заўважыш на беразе.

На сцяжыне выразна відмеліся сляды конскіх капытоў у адным накірунку – да манастыра. Каб толькі не напароцца на зграю Скоркі, калі яна будзе вяртацца!

І наклікаў сабе на галаву. Сутыкнуўся амаль нос к носу. Ужо ля самых

бабровых тоняў, таму і расслабіўся. Якраз жа мерыўся сысці са сцяжыны да лагчыны, дзе надоечы паставіў сіло з конскага воласа на заячы ход у папаратніку. Месцейка вельмі прыдатнае для здабычы, а калі яна ёсць, нанач пакідаць нельга – не ваўкі, дык лісы ўнюхаюць жа абавязкова. Заадно прападзе і выдатнае сіло, не так проста новае займець, волас з конскага хваста яшчэ здабыць трэба.

Спыніўся яшчэ і таму, што падалося – недзе як быццам плача малое дзіця. Здараецца, падобна скуголіць начная сава. Дык жа яшчэ відно. Вечарэе, але ж і не прыцемак. Лесавік забаўляецца? Кажуць таксама, працягваў разважаць, гэтак плачуць душы загінулых нявінных дзетак, асабліва, калі застаюцца непахаванымі. Давялося чуць і такое ў часе начлегу на месцы, дзе зграя маскоўцаў спаліла вёску, ягоную, родную.

Міжволі заглыбіўся ва ўспамін, як раптам зусім блізка, за чарговым паваротам, якіх ён мінуў ужо некалькі, пачулася фырканне коней.

Тут ужо зусім ні пра што не разважаючы, ціха хістануўся ў ельнік. О, колькі разоў яліны ратавалі, распасціраючы над ім свае зялёныя крылы! Ратавалі ад дажджу, сцюжы і не аднойчы ад варожага зірку.

Яшчэ якое імгненне – і вершнікі б яго заўважылі, таму ён нават адпаўзці хоць крыху падалей у гушчар не асмеліўся, прыціснуўся да сырога шчыгалля тварам уніз, будзе як будзе. Коні тупаталі над самай галавой.

Не адразу варухнуўся і тады, калі тупат стаў аддаляцца – раптам нехта яшчэ з'явіцца, наўздагон. Нарэшце ўсё аціхла, не ўзнімаючыся, павярнуў галаву, зірнуць усё ж услед, а вершнікі стаяць! Зусім блізка, да нечага прыслухоўваюцца, твары насцярожаныя.

Тады зноў недзе ў балатах яму памроіўся дзіцячы плач. Відаць, пачулі гэта і вершнікі, бо ў той бок напружана глядзелі! Але нарэшце яны дружна пераждагналіся і пусцілі коней у галоп, бы ўцякаючы.

Конскі тупат аддаляўся і аддаляўся, пакуль не растварыўся ў звычным лясным пошуме. Недзе блізка ўсчаў стукат дзяцел, ускрыкнула сойка, ёй азвалася падалей другая. Можна было нарэшце ісці правяраць сіло.

Месца надоечы, здаецца, цвёрда прыкмеціў, а вось жа з-за хвалявання давялося ўспамінаць наноў, сноўдаючы ў густых папаратніках ды торкаючы перад сабой дубовую кульбу. Двойчы ледзь не наступіў на гадзюку (ці вужаку, у зарасцях добра не разгледзеў), блізка жоўтым языком полымя слізганула ліса, шумліва шуснуў прэч вывадак аблепленых балотнай тванню падсвінкаў, адна моладзь, дзякаваць лясному богу, але ў зарасцях трыснягу запытальна рохкаў ці не вяпрук-атаман, з якім калі сустракацца, то трымаючы перад сабой рагаціну з жалезнымі рожнамі, а не дубец.

Такі ў сіло заяц трапіў. Яшчэ малады, невялікі, якога ўжо нехта паспеў скубануць, хутчэй за ўсё ліса, бо каб ухапілі свінні, і хваста б заечага не засталося, канечне.

Хаваючы здабычу ў торбу, зладзеявата зіркнуў па баках, хоць і разумеў, што блізка людзей няма. Бо каб дазнаўся пра гэта ягонае паляванне княскі лоўчы, пакаранне было б жорсткае, за самавольства. Вось каб заяц, прыкладам, заскочыў у чый агарод, тады ён нічый, а на абшарах паляўнічых – толькі таго, каму зямля належыць, значыць, панскі.

Для сябе ён, Зых, не стаў бы здабываць зайца, ды яшчэ ўлетку, калі скурка малаякасная, але хацелася дапамагчы гаспадару хаты, які даў прытулак, а затым дазволіў прыляпіць асобную халупу, той ужо каторы тыдзень ляжаў цяжка хворы: ці то надта ахаладзіўся на сіверы і скразняку, разагрэўшыся каля буды, ці пачаліся сухоты – звычайная рэч у смалаку-

раў. Пастаянна прадымленая дыхаўка яшчэ нікому здароўя не ўмацавала. Птушкі і тыя, надыхаўшыся смуроду ў часеляснога пажару, ужо, здаецца, уратаваўшыся, нярэдка раптам падалі на дол мёртвыя. Кармілец хварэе – сям'я ў прагалодак харчуецца. А калі памрэ? Пяцёра дзетак, і самы меншы зусім немаўля.

Заспяшаўся, бо вечарэла, а тут яшчэ неба зусім завалакло цяжкімі хмарамі, і на твар пырскалі першыя кроплі дажджу. Вяртаўся да сцяжыны, ляскаючы дубцом па кустах і дрэўцах – каб знячэўку не наткнуцца на якога небяспечнага звера. Трэба завідна дабрацца да кладкі, каб без прыгод перабрацца праз вялікае гіблае балота, акаляючае бабровыя тоні. Балота амаль побач, за сцяжынай і хмызом, вантробна гулькала. Там знаходзіліся асабліва небяспечныя прорвы, дзе грунту не было ці не да падземнага царства мерцвякоў. Няйнакш тут і вылазілі на паверхню кікімары. Як заўсёды перад навальніцай, мацней звычайнага патыхала багульнікам, расянкай, іржавай вадой, настоенай на прэснасалодкіх каранях аіра і асакі.

Датупаўшы неяк да шырокай сцяжыны, стаў за кустом, звычна зіркнуўшы навокал і сабе пад ногі. Проста так, але і згадаўшы нядаўна перажытае. Не забываўся страх, калі конскія капыты тупацелі каля яго галавы. Ну, і засела скабкай пустая ўвогуле цікаўнасць: ці сыйдуцца сляды вершнікаў Скоркі са слядамі каня ганца ад Курча.

Ён і ўбачыў гэта праз якіх дваццаць ці крыху болей крокаў далей, дзе знаходзіўся выхад на манастырскую шырокую сцяжыну з боку бабровых тоняў. Па натаптанаму можна было вызначыць, што двое нападнікаў стаялі ля паварота, а яшчэ адзін паехаў насустрач ганцу, пакуль з ім не сутыкнуўся.

Хто першы каго заўважыў, разабрацца было складана. Але хутчэй за ўсё – ганец. Выразна бачна, дзе ягоны конь уздыбіўся, рэзка паварочваючы, – заднія ногі глыбака ўлезлі ў вільготны тарфянік, раскінуўшы ў бакі гразь разам з кавалкамі прагнілых жэрдак насцілу. Праз балота на кані – гэта шукаць дурных прыгод, але чамусьці ж хутчэй за ўсё сам Курч свайго чалавека гэткім шляхам і накіраваў.

Канечне, не сустрэнься ганцу людзі Скоркі, той праз гіблае месца паспяхова перабраўся б, відавочна, меў досвед, – да надзейнага грунту манастырскай сцяжыны заставалася якая сотня сажэняў, а вось жа давялося паварочваць, каб рынуцца назад. І ў выніку ўскочыць у прорву...

Так, прайшоўшы яшчэ якіх паўсотні крокаў углыб балота, ён, Зых, канчаткова зразумеў, куды падзеўся чалавек Курча.

А страляў не ганец. Стралялі ў яго. Відаць, першая куля трапіла ў каня. Конь усё ж паваліўся не адразу. Калі ж нарэшце ўпаў, то перагарадзіў сабою сцяжыну ды яшчэ і доўга торгаўся, спрабуючы ўзняцца. Ніводзін конь не адважыцца ў такіх абставінах пераступіць цераз свайго параненага канаючага сабрата, будзе, храпучы, дзіка тузацца, уставаць на дыбкі, небяспечна кідацца ў бакі, а там жа багна. У выніку нападніку давялося даганяць чалавека Курча пешкі – наўрад ці той рынуўся насустрач, прарывацца праз варожую заслону, нават узброены шабляй і, вельмі магчыма, пулгакам. Магчыма, бо было не зусім зразумела, з якога боку прагучаў другі стрэл. У любым выпадку, усе трое нападнікаў засталіся жывыя, а ці быў нехта з іх паранены, вызначыць цяжка, крыві на слядах тых, хто вяртаўся, ён, Зых, не заўважыў, ды і прыглядаўся мала.

Затое шлях чалавека Курча прасачыў да канца, прайшоў следам ужо і тады, калі глеба стала не проста прагінацца, а гойдацца пад нагамі.

Чалавек жа Курча ішоў далей, ужо перабіраючыся з купіны на купіну. Пакуль у нізкарослым чорным альшаніку такі не абслізнуўся канчаткова, у прорву. Там яшчэ ільсняна паблісквала, пузырачыся, ірваная палоска бура-зялёнай вады – бы пашча пачварна-прагнай істоты, нешта гулькала, пакалыхваючы рваныя лапікі расянкі і пласты цёмна-карычневай мінулагодняй лістоты альхі.

У багне патанаў і конь ганца. Відаць, яго дабівалі, перш чым цягнуць далей у балота, таму столькі і крыві. Потым нападнікі стараліся прыбраць за сабой і сядзелі, наглядаючы, пакуль багна канчаткова не заглыне ахвяру, ці не таму так доўга і не вярталіся ў стан Скоркі.

Было зразумела, чаму ніхто з нападнікаў, здаецца, не вяртаўся з лішнім сядлом, але і клунка не прыхапілі, а ганец жа Курча яго меў, і даволі вялікі. Паразважаўшы, ён, Зых, прыйшоў да высновы: хутчэй за ўсё ношу сваю ўцякач згубіў, калі сноўдаў у хмызняках, спрабуючы ўратавацца ад праследу, а нападнікі не звярнулі на гэта ўвагі, не клунак нейкі іх цікавіў, для іншага былі пасланыя.

А вось ён, Зых, клунак уцекача такі нарэшце заўважыў. Непадалёку ад мясціны, дзе чалавек знайшоў свой апошні прымусовы спачын. Спачатку проста пазіраў туды, дзівячыся: ну вось, як быццам нічога не здарылася, адна ціхая багна ільсніцца. Затым адзначыў убаку шэрую груду спарахнелага трыснягу, па выглядзе – пакінутае гняздо вялікай балотнай птушкі. І толькі яшчэ прыгледзеўшыся, ажно страпянуўся: у гняздзе, звісаючы з яго, выторквалася нешта светла-шэрае! Ну не птушка ж.

Зірнуць... Гэта няйначай і ёсць скрутак, які быў у ганца. А ў гняздзе ён мог апынуцца, толькі калі чалавек, нават адчуваючы, што патанае, апошнім намаганнем выштурхвае яго з прорвы, ды, відаць, стараючыся, каб не заўважылі ворагі.

Залішняя цікаўнасць рэдка калі на добрае. А іншым разам наадварот, як каму Дзіў прызначыць. Ужо грымоты бліжэй і бліжэй каціліся, маланкі над галавой выблісквалі, стаміўся, навальніца вось-вось, і паспрабуй тады праз балаты выбрацца паздарову, а ўсё адно, бы хлапчук неразумны, палез бліжэй зірнуць на жахлівую прорву, дзе сыта гулькаюць зялёныя бурбалкі твані. Над гэтым чорна-зялёным зеўлам яшчэ ці лётае жывая нечая душа? Бо мроілася нечае танюсенькае жалобнае мармытанне.

Падпоўз... Не, не прымсцілася: за грудай шэрага друзу старога птушынага гнязда праглядалася нешта падобнае на скрутак ільнянога нябеленага палатна. Там шавяленне? Ці гэта гойдаецца дрыгва, з-за якой не падступіцца без крайняй рызыкі бліжэй? Пад тонкім насцілам апалай лістоты і рэдкага трыснягу так і гулькае вада з тванню, зусім нядаўна няйнакш на гэтым месцы знаходзілася крынічнае азярцо.

Час ад часу зноў пачынаў мсціцца плач дзіцяці. Балотная птушка? Кнігаўка? Ці гэта вадзянік? А мо, лясун? Ранавата. Балотныя кікімары цемру любяць. Тады іх час. А мо, анёл плача па бязвінна загубленай чалавечай душы? Ну, каб анёлы ды плакалі па ўсіх бязвінна загубленых, азёры, рэкі слёз даўна б утварыліся на зямлі.

Прыглядаючыся да недасяжнага клунка, адчуў, як на яго самога не міргаючы нехта цікуе. Адной рукой сціснуў дубец, другой намацаў сякеру за поясам... Павярнуў галаву – воўк! Зусім непадалёку. І – во ліха: учапіўшыся ў яго, паціху скуголіць дзіцё! Аголенымі ножкамі топчацца па кавалку скамечанай мокрай анучы. І воўк мокры... Эге, гэта ж сплаваў да клунка, ухапіў здабычу, а цяпер дзівіцца, што далей рабіць. Каб быў

галодны, ужо разарваў бы і з’еў, а так разважае, на месцы прыдушыць ці несці ваўчанятам жыўцом, каб пазабаўляліся? Ваўчыны нораў яму, Зыху, быў даўно вядомы.

А бо-о! Вось што, аказваецца, знаходзілася ў скрутку ганца. Сама бяспечней было б паціху адсоўвацца і адсоўвацца падалей, бо звер у любы момант мог накінуцца, абараняючы здабычу, і ці ўдасца яшчэ ад яго адбіцца вось так, лежачы. Але ж дзіцё!

Запаволенымі рухамі дастаў з торбы зайца, шкада, ды што зробіш іншае.

– Паслухай, пане, – прамовіў як мага ціхамірней і амаль шэптам, адначасова кульбай пасоўваючы перад сабой да ваўка зайца. – Твая здабыча, прызнаю, але што гэтае дзіцё? Давай мяняцца. Я табе за яго куды смачнейшае – зайца. Прынюхайся, як пахне, маладзенькі, мякенькі...

Відаць, ад таго, што заяц быў ужо надкусаны і крывяніў, звер і сапраўды даволі хутка наставіў на яго пысу, прынюхваючыся, нават гыркнуў на дзіцё, якое адважна ўхапілася за ваўчынае вуха.

Калі заяц апынуўся так блізка, што можна было зачапіць лапай, звер ашчэрыўся, прыўзняўся, ці то вырашыўшы пайсці прэч, ці то скочыць на спакусніка. Ён, Зых, ужо ліхаманкава прыкідваў, як лепей абараняцца, як воўк і сапраўды кінуўся – наперад, маланкава, на зайца! І яшчэ праз імгненне знік са здабычай у трыснягу.

Самым безуважлівым чынам адштурхнутае пры гэтым дзіцё ўжо не скуголіла, а ўзняло гучны крык абурэння. Падыйшоў, працягнуў руку, каб узяць, а яно – за палец! Ды так учэпіста, ён, Зых, ажно збянтэжыўся: няўжо і сапраўды лясун жартуе? Але ж і не кінеш малое ўжо, тым болей – плача!

Ну, ну, мармытаў, суцяшаючы, стаў абціраць, і тады заўважыў на дзіцёнку крыжык. Ды залаты! Эге-ге... Думаць трэба. А пакуль неадкладна выбірацца з балатоў.

Пераадолеўшы з нечаканай здабычай бабровыя тоні ўжо ўпрыцемку і пад дажджом, даклыпаў да сасновага бору на пясчаным узгорку паблізу свайго паселішча. Там і вырашыў канчаткова, што рабіць. Зняў з дзіцёнка сарочкі, верхнюю і ніжнюю... О, хлопчык! Спачатку абпэцканыя спаражненнямі апраткі хацеў у ручаі памыць, потым адумаўся – такіх у мужыкоў быць не магло, а хіба што ў панскай прыслугі, і выкінуў у балота. На выцягнутых руках панёс мыць самога малога. Той перад гэтым незадаволена скуголіў, а вось мыцця не спалохаўся, нават паспакайнеў і разы са два ці тры сербануў вады.

Так-сяк абцёршы, загарнуў дзіцё ў сваю кашулю, мармычучы: “Во, во... Чыім бы ты раней ні быў, а цяпер што ж, напітвайся мужыцкім духам, можа, неяк і выжывеш”.

Малы, падалося, не пярэчыў, адно цягнуўся палец смактаць. “Гэта ж агаладаў!” – нарэшце сцяміў Зых. Трэба было думаць, а як, чым немаўля накарміць.

Пад грымоты навальніцы, прыціскаючы ахаладалага і агаладалага малога, панёс да сябе ў гняздо і тут толькі далоняю выпадкова намацаў крыжык. Каб хто такі заўважыў на шыі дзіцёнка сялянскага, магло пацягнуць за сабой бяду. Зняў крыжык, узважыў на далоні... Нехта ж дарослы начапіў такое на дзіцё, няйначай зняўшы з сябе. Бацька? Маці? Чаму? Хто?

Чаму – стала вядома недзе досвіткам, калі ва ўсю яшчэ працягвала грымець навальніца, расколваючы, здаецца, неба, сляпілі маланкі, а на

зямлі віраваў патоп. Вось тады дзверы яго халупы нахабна адчыніў гайдук пана ляснічага, мокры, злы, небяспечны.

– Пайшлі! – загадаў коратка і змрочна.

Першае, што мільганула ў галаве: хто ж гэта ўгледзеў і паспеў данесці? І пры чым тут пан ляснічы? – з'явілася наступнае пытанне. – Нешта з борцямі?

А ўсё ж бы ўваскрос, калі пачуў:

– Вазьмі з сабой усё, чым лечыш ад ран, і хадзем.

Значыць, не з-за малога. Дзіцё ён адразу, таячыся, прынёс да суседзяў. Падаў гаспадыні, якая карміла нанач свайго сысунка:

– Прыхіні і майго сірату, – папрасіў. – Вось жа мала, што пад дождж патрапіў, дык жа і зусім згаладаў.

– Адкуль ён узяўся ў цябе, бабыля? – услых здзівіўся смалакур, а жонка тое ж выказала позіркам.

Каб у чым небяспечным не западозрылі, давялося выдумляць:

– Сястра, аўдавеўшы, дабіралася да мяне з-пад Оршы, ды ў дарозе сканала. Па яе апошняму наказу вандроўныя манахі, бач, здолелі і перадаць. Цяпер рабі, бабыль, што хочаш.

– Ай-яй-яй! – паспачуваў Смаляк. – То і пакінулі б немаўля ў манастыры, там жа сірат даглядаць умеюць, каровы ёсць, козы. А мая, – паказаў на жонку, цяжка кашляючы, – сам бачыш, не малочная, ды каб на дваіх. Пакармі ўжо неяк, што ж цяпер, – сказаў ён жонцы, якая ў першы ж момант ад чужынца адхіснулася, прыкрываючы грудзі.

Смалячыха неахвотна падпарадкавалася. Дзіцё ж пацягнулася да яе імпэтна, хутка адшукала незаняты сасок і прагна засмактала, адной ручкай учапіўшыся ў цыцку, а другую выставіўшы супроць свайго малога суседа.

– Моцнае, – у голасе Смалячыхі чулася непрыязнасць. – Відаць, кормленая ў яго была маці, не засуха.

– Ага, не засуха, а вось жа пакінула сірату. – Ён, Зых, кулаком выцер слязу, дзівячыся на малога. – Цяпер з-пад зямлі, нябожчыца, не пакорміць. А я вам зайца прынясу, курапатак... мёду. Можа, і рыбы.

З лагодным здзіўленнем назіраў, як лясное дзіця спяшаецца сілкавацца. Ці адчувае, што чужым малаком? Час жа ад часу зіркае на карміцельку ўважліва-запытальна. Іш... І як быць далей? Насамрэч перадаць у манастыр? А што там падумаюць, і чым такое можа ўрэшце для яго скончыцца?..

Толькі следам за служэбнікам ляснічага выбраўся з нізкіх сенцаў халупы, а над галавой – шых! Маланка асляпіла, бы апошняе вока выпекла. Следам гром – гах! Побач конскі тупат.

– Куды ісці? – сказаў у спіну праважатаму. Той з-пад накінутай на галаву прасмоленай папонкі выцягнуў руку:

– Садзімося і паедзем.

Угледзеў ля прасла коней. Не асядланых. Адзін вайсковы, страявы, побач – мужыцкая пузатая кляча. Ого! Значыць, справа надта спешная. Ці не сам пан ляснічы неяк паранены.

Праз грымоты, бліскавіцы, залеву, на крок перад сабой нічога не бачна, а неяк дабраліся да сядзібы пана ляснічага. Ля брамы сустрэлі гайдукі, узброеныя дзідамі і рагацінамі, уздоўж ганка таксама стаяла ахова.

– Хутчэй, варушыся! – падштурхоўваў у спіну праважаты.

У доме ляснічага сноўдалі слугі. Яго, Зыха, як быў, з ног да галавы мокрага, адно даўшы анучу абцерці рукі і твар, паспешліва павялі праз

панскія харомы – ажно да дальняй горніцы, амаль закутка, але з моцнымі дубовымі дзвярамі.

## 17. “Няхай пан жыве і ўспамінае”...

Яшчэ ў дарозе ён, Зых, праз пятае-дзясятае пачуў ад свайго напалоханага навальніцай праважатага пра начны напад нейкіх злодзеяў на сядзібу Курча, у выніку чаго гаспадар ледзьве адбіўся, але ляжыць цяжка паранены. Але ён, Зых, і ўявіць сабе не мог, што пана гэтак пасеклі. Раны ўжо нехта перавязаў, няўмела, так-сяк, давядзецца перарабляць.

Спачатку як убачыў Курча, ажно затрэсла ад нейкай недарэчнай нянавісці, ці што. Хоць хто яму гэты чалавек – чужы, ды яшчэ й пан. А затрэсла, бо імгненна ўспомнілася, як грэбліва адштурхнуў, калі ён, Зых, прыбег ратаваць парадзіху, што сцякала крывёю. Таму першым імкненнем было – сказаць: “Не змагу, позна”. Стрымліваў сябе, пакуль мыў і мыў рукі. Пакуль не вырашыў: не, няхай жыве, няхай успамінае, як грэбліва адмовіўся ад дапамогі, бо – мужыцкая. А мо, вырашыў па іншай прычыне, яшчэ больш прыхаванай.

Тады заспяшаўся. Першым чынам зрабіў тое, чаму давялося навучыцца ў часе казакавання: скруткамі з нарэзанага палосамі зрэбнага палатна перацісніў самыя крывацечныя жылы.

Узняў рукі – па локаць у ліпучай чырвані. Вось яна, панская кроў: салёная на смак, калі яе пырскі трапляюць на вусны, цёплая, пакуль жывая, нічым не адрозніваецца ад мужыцкай. Як выцурчыць уся з цела вонкі, – чалавеку пагібель. І ад аднаго яго, басяка, аказалася, залежыць, пан выжыве ці ляжа ў зямлю, да жонкі.

– Вады мне на рукі! – прамовіў, і сам пан ляснічы даў знак слугам, каб імгненна падпарадкаваліся, працягваючы глядзець на яго, Зыха, у чаканні наступных загадаў. Свет перакуліўся!

Вада гарачая, як і патрэбна, ручнік чысцюткі.

– Гарэлка ёсць?

– Гарэлкі! – загадны рык пана ляснічага.

Гарлавіна сулейкі дробна стукоча аб край срэбнай чаркі, у слугі трасуцца рукі. Але не праліў міма ані кроплі. Вывучка! Працягвае напоўненую.

– Памалу ліні мне ў жмені.

На пысе здзіўленне, нават ці не абуранасць – мужык каштоўнай панскай гарэлкай рукі мые! Аднак робіцца загаданае, і ні гуку. Бо сам ляснічы знак падае – падпарадкавацца!

Ох, і адыграюцца слугі на ім, калі не здолее ўратаваць!

Ліхаманкава прыкінуў, ці рабіць спярша самае рызыкоўнае – даставаць з грудзей кулю. І значыць, яшчэ ўзмацніць крывацёк, набліжаючы смерць. А калі куля наогул увайшла надта глыбака і кроў ужо заліла нутро?

Злавіў зірк гайдука Курча, што сядзеў, сцяўшыся, у покуце ля дзвярэй, па-звярынаму бліскаючы вачыма. Гэты, відаць, і прыцягнуў параненага пана да ляснічага. Спытаў у яго:

– Пан Курч быў у панцыры?

– Га? Не. Не, у скураным кунтушы.

Ад гэтага ледзьве выпхнутага з глоткі хрыплага падвойнага, пасля роздуму, відаць, “не” ў яго, Зыха, у самога перацяла дыхаўку.

Памацаў параненаму спіну: выхадной адтуліны не было, стралялі, значыць, не з мушкета, іначай бы наскрозь працяла. Праўда, і куля з

пулгака праз звычайную вопратку, калі тонкая, летняя, упіваецца вельмі глыбака, разрываючы нутро, не з яго ўмельствам такую дастаць. Сама б лепш адразу перавязаць і сказаць: спадзеву няма. А то ж іначай потым абавязкова абвінавацяць: ты, сярмяжны, у смерці павінен!

– На пане пад кунтушом была тонкая кальчуга з нагруднымі бляхамі, – раптам сказаў ляснічы, відаць, прыкмеціўшы яго, Зыха, развагі.

Гайдук Курча хістануўся, узмахнуў рукамі, бы варона крыламі, хрыпла выштурхнуў з сябе:

– Ага. Вунь яна, на лаве, куля прабіла срэбную бляху.

Так стала прыкра ад гэтага варонінага каркання! Бо ўжо амаль канчаткова вырашыў: перавязаць – і вон. Хоць, з іншага боку, няхай бы Курч і выжыў, няхай.

Выходзіць, спадзеў дастаць кулю ёсць, і гэта патрэбна, бо тая, прабіўшы металёвую пласціну, абавязкова ж сплюшчылася і вострымі краямі будзе ўвесь час крэмзаць нутро, такая не зарасце, як бывае часам. Давядзецца рэзаць, пашыраючы і паглыбляючы рану, крываток павялічыцца яшчэ. Не кожны вытрымае. Праўда, суцішыць крываток можна б паспрабаваць. У выпадку, калі чалавек у сваім розуме і ўспрымае слова. Твар збялелы, вочы заплюшчаныя, запалі, аднак, здаецца, прытомнасці Курч не страціў. Добры знак. Спытаў:

– Пан паручнік разумее гаворку па-нашаму ці толькі па-польску?

Курч ніяк не паказаў, што пачуў, за яго адказаў ляснічы:

– Разумее, разумее. Але займайся, дзеля чаго пакліканы, і ўсё.

Во як. Рабі, хлоп, загаданае – і каб моўчкі. Набраўся вытрымкі патлумачыць:

– Пан павінен добра разумець яму сказанае, іначай не ўдасца хаця б крыху прыпыніць крываток. Дык ці разумее мяне пан ратман?

Ляснічы тузануўся, каб нешта адказаць, можа, загадаць нешта, але яго апярэдзіў шэпт параненага. Асмяглыя вусны ледзьве варушыліся, аднак голас даволі ўцямны:

– Я... чуў пра цябе. Рабі... сваё.

Відаць, хоць блізкі подых смерці іншым разам раўняе мужыка з панам.

– Што табе буду гаварыць, пане, слухай надзвычай уважліва і вер мне. Вер...

Твар Курча перасмыкнуўся і напружыўся ўвагай.

– Буду даставаць з цябе кулю, будзе яшчэ балючай... Цярпі, гэта на ратаванне. Цярпі!..

Запалыя вочы параненага міргнулі згодай.

Ён, Зых, дастаў свой нож, сулейку з пчаліным клеем, працягнуў руку да старой жанчыны, якая сцішана стаяла непадалёк, гатовая дапамагаць пры патрэбе, на левай руцэ бярэмца доўгіх пасак беленага качанага палатна, а правай хрысціцца, хрысціцца, варушачы сухімі вуснамі. Ну хрысціся, хрысціся.

– Гарэлкі, – ціха сказаў ёй, паводзячы лязом нажа над полымем тоўстай свечкі. – І місу, вялікую.

Узнікла ранейшая сулейка, срэбная чарка, у якой забулькатала хмельна-пахучая вадкасць. Ну, пара. Узяў напоўненую чарку, дыхнуў на яе, паднёс да вуснаў параненага.

– Глыні, пане, колькі зможаш.

Курч, перамагаючыся, глынуў.

– Добра. Яшчэ, пане.

Курч падпарадкаваўся, на імгненне расплюшчыўшы набрынялыя слязою вочы, заперхаўся.

– Яшчэ!

З чаркі лінуў парэшткі на нож, кіўнуў кабеце:

– З сулейкі – у місу, паболей.

Чуў, як запаўнялася міса, а позірк засяродзіўся на ране. Ну, а калі куля ўсё ж раптам надта глыбока – бяда. Лаўчэй узяў нож, прыцэліўшыся, зрабіў надрэз. Панская гарачая кроў пырснула на пальцы. Курч тузануўся.

– Цярпі, пане, цярпі...

Кулі не бачна. Малы надрэз? Глыбей? Курч задыхаў перарывіста-часта.

Намацаў, здаецца... Намацаў. Ухапіць. Пальцы хоць і танкаватыя, але бы абцугі. Колькі разоў даводзілася вяскоўцам вырываць набалелыя зубы. Надта падгнілыя заціскаў дубовымі дошчачкамі. Ухапіў!

– Гэх! – тарганууўся паранены.

Куля! Сапраўды крыху сплюшчаная, таму столькі пакрывяніла.

Кулю на стол, да трысвечніка, туды і нож. Скрываўленыя далоні да кабеты:

– Лі ваду!

Старанна абмываў рукі, выціраў чыстым панскім ручніком, а тым часам углядаўся ў параненага, засяроджваючыся, успамінаючы пачутае патаемнае – ад Крывейты, ад маці, ад старога смалакура, які ратаваў яго самога.

Паранены дыхаў цяжка, вочы заплюшчаныя, яшчэ глыбей запалыя. Ці ў прытомнасці? Углядаючыся яму ў твар, спытаў:

– Мяне слухаеш, пане?

Паранены варухнуў асмяглымі вуснамі, ды павейкі задрыжэлі. Але ж, падобна, пачуў.

– То слухай і вер. Слова маё моцнае, старадаўняе, ад дзядоў-прадзедаў ідзе...

Узяў у кабеты чысцюткую мяккую анучку, абмакнуў у місу з гарэлкай, прыклаў наперш да кулявой раны. Курч тарганууўся, апякло.

– Гэта нічога, пацярпі, – падбадзёрваў параненага. І следам важка, нізкім незвычайным голасам, які пераняў ад ведуна Крывейты: – Слова маё моцнае, бы дуб, слова цвёрдае, бы камень. Фух! Фух! Фух! Кроў у целе – усё цэла. Цэла! Цэла! Ні нажом не рэзалася, ні куляй не прабівалася. Фух! Замок на ключ, кроў у целе – усё цэла. Фух!

Пасля прымочкі гарэлкай, другой мяккай анучай змазаў рану растворам пчалінага клею. І кабеце:

– Перавязвай канчаткова.

А сам хутка зняў жмуты, што пераціскалі крывацечныя жылы, і стаў абціраць гарэлкай наступную самую небяспечную рану, нанесеную, відавочна, шабляй, прамаўляючы:

– Ты, кроў гарачая, спыніся, запякіся, не ідзі вонкі, а будзь у целе, у жылах, дзеля жыцця, няма ўвонку чаго табе рабіць, бо трапіш на сырую зямлю і згінеш, дарма прападзеш. Фух! Фух! Фух!

Прамаўляючы заклён, праціраў раны, змочваў гарэлкай, мазаў пчаліным клеем і падаваў кабеце знак перавязваць. Паблізу нікога, акрамя яе. Астатнія самахоць адступіліся і зіркалі зводдаль з паважлівай бояззю. Кабета, відаць, таксама пабойвалася, але рабіла сваё ўвішна і ўмела, няй-

накш занятак ёй быў добра знаёмы. Яно ж у панскім двары нехта ж мусіў хоць крыху валодаць лекарскім умельствам, бо ў выпадку якога ранення не кожны зможа за тузін і болей вёрст прывезці лекара з Чашнікаў.

У вёсцы, у мужыцкім асяродку, з гэтым было яшчэ складаней, але і там урэшце знаходзіўся нехта, пераважна жанчыны. Лекавалі хто як і чым: уласнай слінай, нажаваным хлебам з павуціннем, тлушчам – заечым, гусіным, сабачым, а мара была – займець мядзведжы, паілі траўнымі ўзварамі, у бортнікаў набывалі каштоўны пчаліны клей, для раствору якога патрабавалася гарэлка, яе даводзілася купляць у горадзе, у карчмароў.

Лекаванне лічылася не зусім надзейным без нашэптвання запаветных слоў. А ўжо ўпраўляць моўчкі вывіхі ніводзін знахар не браўся, яму б не паверылі. Дарэмна было чакаць паратунку без чароўнай замовы і калі ўкусіла змяя.

Замаўляць жа кроў, каб занадта не выцякала пры раненнях, такое ўмельства было надзвычай рэдкае, і ён, Зых, ажно здзівіўся, калі аднойчы адчуў яго ў сабе. Каб не пільная пастаянная патрэба ў часе казакавання, можа, не адважыўся б ім скарыстацца. Не хацеў паказваць яго і атабарыўшыся пад Іванскам, пакуль малы смалакура дужа не параніўся касой. Прасіў Смалякоў нікому пра сваё ўмельства не расказваць, дык жа язык у бабы доўгі – такі суседкам пахвалілася. Чуткі пашырыліся, вось і да пана ляснічага дайшло.

Спіна задубела, пакуль гэтулькі часу над параненым гнуўся. Язык стаў як не свой ад шаптанняў, звон у галаве, гэтак перанапружыўся, усю сваю сілу ў запаветныя словы ўкладаючы, ужо адчуваў – і ва ўласным целе кроў перапыняе ток і халадзее. Агледзеў павязкі: там-сям кроў прасачылася, але ж не выцякае! Кроў у целе – жыццё цэла! Абцёр спацелы лоб, сказаў ляснічаму:

– Усё, пане. Як ужо змог. Шкада, пальцы на руцэ не прыклеіш. Такое, відаць, не здолее і каралеўскі лекар... Гадзінку счакаўшы, параненаму трэба мёду прэснага, вадой разбаўленага.

Узяў важкую срэбную чарку. На донцы бліскала жвавае вочка хмельнай вадкасці. Змачыў пякучым вусны, праглынуў. Даўно не каштаваў панскага напою.

Ляснічы паказаў на сулейку:

– Налі сабе яшчэ, пі колькі захочацца.

Пахітаў сцяжэлай галавой, паставіў на стол пустую чарку і ўзяў свой нож, ужо старанна абмыты ўвішнай кабетай.

– Дзякую, пане. Мне досыць. Дык пайду ўжо?

– Цябе завядуць на кухню, падсілкуйся, – сказаў ляснічы і паклаў на яго, Зыха, далонь дзве срэбныя манеты. – Вазьмі гэта. Пан Курч, калі ачомаецца, цябе адшукае і сам аддзячыць. Толькі... – ляснічы пасуравеў тварам, – толькі пра тое, што тут бачыў – нікому. Нікому, – паўтарыў з націскам.

А ў самога глыбока ў позірку прыхаваны страх. Во як у паноў, аказваецца. То дзе ж ім дружна разам край ад ворагаў бараніць, калі адзін аднаго баяцца!

На кухні перад ім паставілі гліняную місу цёплага варанага гароху з кавалкам вяндліны, кружку квасу і паклалі ладную лусту хлеба. Усё моўчкі і з насцярожаным выглядам. Мяса ён вырашыў узяць з сабою, а гарох еў з задавальненнем, такі прагаладаўся. І гэта пачуццё голаду навяло на ўспамін, як было ў хаце смалакура, калі ягоны малы знайдыш прагна

сілкаваўся малаком чужой маці. А што рабіць далей? І ўсё з-за таго, што нешта дужа нядобрае адбылося ў паноў.

Праз адчыненае акно былі добра чуваць занепакоеныя перамовы чэлядзі, тупат і фырканне коней, нехта прыехаў, відаць, з сядзібы Курча, бо пайшла гаворка пра яе: дом згарэў да падмурка, бальшыня прыбудоў таксама, знішчаны сабакі, скаціна часткаю, відаць, зведзена, авечкі ці не ўсе згарэлі, паросная свіння ўтапілася ў возеры, карова па вушы ў багне, і Місяй з Кірдзеем спрабуюць яе выцягнуць, а галоўнае – людзі перабітыя! Конюх Клыш, кухарка з карміліцай. Хто ўратаваўся – невядома, нідзе блізка ні жывой душы.

Во як, выходзіць, у мірны час панскае шчасце ператвараецца ў смуродны дым папялішчаў! З размовы дворні асабліва ўразілі словы пра карміліцу. Ажно зніякавеў, спалучыўшы гэта са знаходкай на бабровых тонях. Выходзіла, Курч прадбачыў, што давядзецца збройна прабівацца праз варожую аблогу? Жанчын, відаць, пакінуў, спадзеючыся, што іх чапаць нападнікі не будуць. І як цяпер з малым быць? Расказаць пра яго – ублытацца самому ў панскае ліха.

Той жа самы гайдук, што прывёз яго, вывеў з двара ляснічага назад, нацянькі, садам і праз адмысловы лаз у густы ельнік. Развітваючыся, пазіраў пахмурна, заклапочана. Яно і зразумела: ляснічы, схаваўшы Курча, дужа рызыкаваў, выглядала, і сабой, і дворняй, якая ў выпадку ўскладненняў будзе вымушаная абараняць гаспадара.

– Каб якой крыўды табе не здарылася, – сказаў гайдук, – ідзі да сябе лесам, не па дарозе. І нікому ані слова.

Брыў праз урачыста вымыты, як заўсёды бывае летам пасля навальніцы, лес. Сонейка ласкава ззяе, птушкі заліваюцца на розныя галасы. Рай зямны! І ні знаку, што не так і далёка дыміцца кіслым смуродам пажарышча, адкуль людзей пабітых і згарэлых, канечне, яшчэ не паспелі вывезці. А навошта такое Уладаром Нябесным дазволена, калі ўсемагутны?

Куды, рызыкуючы, паспешліва вёз дзіцё няўдалы пасланец Курча? Спытаць няма ў каго. Ясней яснага: намякнуць каму, што пра гэта ведаеш, – самому капцы. Ай, ай! Нават да варажэі нельга схадзіць. Вох, цёмна, цёмна ў лесе без Бялуна.

Так ён, Зых, тады тузаўся думкамі, і ні да якой варажэі ўрэшце не пайшоў, хоць хацелася. Іншую затое задуму ледзьве не здзейсніў. Пасля таго, як, прышоўшы да сваёй нары, убачыў там дзіцяці.

Яшчэ на падыходзе пачуў слабы дзіцячы плач, падобна як там, на балатах. І падумаў, ці не мроіцца ўжо ад трывожных клопатаў. Падыйшоў да халупы, плач чуўся па-ранейшаму, толькі гучней і ў хаце! Зайшоў, прыгледзеўся: пан лясны! На лаве бліз аконца сядзеў кот, а ў яго ўчапіўся малы. Голы, пасінелы, сучыць ножкамі і скуголіць, скуголіць. Сіратліва, безнадзейна. Пан лясны! Пярун нябесны! Бялун міласцівы! Як жа гэта?! Смалякоў куды нячыстая сіла звалакла, ці што?

Малы заўважыў яго адразу. Паспрабаваў павярнуцца, не ўтрымаўся, ножкі ж яшчэ зусім кволыя, зваліўся пад лаву, відаць, ад болю заплакаў гучней – і паўзком насустрач. Эх ты! Прызнаў, выходзіць, за блізкага, не ворага. Але і плакаць пачаў, здаецца, болей рашуча, з патрабавальнасцю. Во як!

Узяў на рукі – халодны, як лёд. Эх, бяда, яшчэ ж прастудзіцца. Узняў з падлогі сваю кашулю, у якую загарнуў малога, калі аддаваў Смалячысе, зноў абхінуў ёю, паўзверх накінуў аблезлую аўчыну. Малы працягваў пла-

каць. Крыху хіба толькі цішэй. Варушыўся, цмокаў. Піць хоча, здагадаўся. Ці галодны. Ну вядома ж, галодны! Паспрабаваў дзіцёнка хоць напаіць, з чарапка. Атрымалася не вельмі, ледзьве не захлынуўся, надта, выходзіць, яшчэ малы, каб гэтак. А заплакаў так, хоць з хаты бяжы. Вох, няйнакш Дзіў гэтак чамусьці пажартаваў: не хапала клопату – у лесе знайшоў. Трэба, вырашыў, усё ж занесці ў манастыр.

Пакуль жа дастаў з торбы кавалачак чыстай мяккай анучы для перавязак, намачыў у спешна прыгатаванай сыце з прэснага мёду і паднёс да вуснаў малога. Той ажно страпянуўся. Ухапіў анучу аберуч, засмактаў.

– Эге, – сказаў малому, – і дурань жа я. Ну смакчы, смакчы, я табе яшчэ сыты дам, але крыху, каб не зашкодзіць. Набраўся страху, га? Дык і я ж. А цяпер клопатаў – паціху падкінуць цябе манахам.

Дзіцё ўпарта смактала саладжавую сыць, учэпіста трымаючы анучу аберуч. І раптам здзіўлена-ўдзячна, як яму, Зыху, падалося, углядаючыся ў яго, даверліва і ласкава заўсміхалася.

Ён, здаецца, ужо зусім счарсцвелы душой ад пастаяннай патрэбы быць жорсткім, каб неяк выжыць, раптам адчуў, як вока засцілае смуга, і коціцца, коціцца на асмяглыя вусны гарачая салёная вільгаць.

– Ах ты, малы недарэка, – мармытнуў дзіцёнку, ямчэй захутваючы ў аўчыну і прыціскаючы да сябе з невядомым раней пачуццём лагоды. – Толькі паспеў нарадзіцца, а ўжо столькі нацярпеўся. І куля магла ў цябе патрапіць, і конь, калі валіўся, прыціснуць, калечачы, і ў ваўчыных зубах пабываў. А што ўрэшце з табой рабіцьмеш?

Гэтак запытаў, усё болей і болей пераконваючыся, калі прыкідваў, як прынясе да манастырскіх варот дзіця, каб там пакінуць, што неўпрыкмет такое хутчэй за ўсё не ўдасца. Прынесці ж і сказаць: знайшоў, вазьміце, значыць адкрыцца, бо могуць даўмецца, калі даведаюцца, што з сядзібы Курча вывозілі дзіцё. А куды падзелася? Вось і дойдзе да вушэй Скоркі, а пану наўрад ці патрэбны сведка. Ляснічы не так жа сабе папярэджваў – нікому ні слова.

– Эх, малеча, і як з табою быць? – мармытаў, накіроўваючыся з дзіцем у хату Смаляка, дазнацца, што здарылася.

Нічога з суседзямі кепскага не адбылося, і тое добра. Дзеці забаўляліся на двары, старэйшая дзяўчынка пакалыхвала прывязаную пад бэлькай сплеценую з лазы люльку, гаспадыня нешта гатавала, гаспадар, кашляючы, ладзіў з сабачай скуры просценькі абутак – чуні.

– Здароўя і дабра вам, суседзі! – звярнуўся да ўсіх, як мага ветлівей усміхаючыся, хоць не ведаў, наколькі пераканаўча гэта атрымліваецца, бо ў грудзях кіпела абурэнне.

Гаспадыня ці то непрыязна, ці то саромеючыся, толькі зіркнула і нізка нахілілася над гаршкамі, затое гаспадар пазіраў добразычліва і гэтак жа азваўся:

– Няхай і цябе Айцец Нябесны не абыйдзе міласцю. Зноў усё ж прынёс?

– І не кажы, сусед, – пастараўся гаварыць жартуючы, каб не сказаць адразу крыўднага. – А нешта ж вяртаюся дахаты ад пана ляснічага, той па неадкладнаму клопату выклікаў, – а ля парога, бацюхны! – сынавец мой малы, бы шчанюк непатрэбны, скуголіць з голаду і адзінокі. Га?

– Дык табе ж было сказана, сусед, у Анісеі і на адно дзіця малака мала, – гаспадар закашляўся.

– То хоць бы мяне дачакаліся тады.

– А калі ён майго палохаў! – ускінулася гаспадыня. – Я сама яго баюся.

– Гэткую малечу?

– Ад яго ваўком патыхае.

– Так ужо і ваўком?

– І майго сыночка адштурхвае, адштурхвае. Ваўчаня. Цмокча, цмокча... Не!

– Малака ў яе надта мала, на аднаго не хапае, таму і штурхаюцца. Мацнейшы слабейшага, – кашляючы, спагадліва стаў тлумачыць гаспадар. – Харч надта слабы, сам ведаеш, сусед.

– Я мяса варанага ў ляснічага расстараўся, – і ажно тарганууся, успомніўшы, што забыў ад хвалявання прыхапіць тое мяса. – От жа, забыўся! – і дзяўчынцы: – Патрымай майго, а я зараз, прынясу.

Ішоў у сваю халупу сумеўшыся: раптам ды здабыты ў ляснічага харч кот паспеў з торбы выцягнуць, бо пакінуў незавязанай, а з пустымі рукамі вяртацца аніяк нельга.

Кот і насамрэч пільнаваў торбу, але залезці ў яе пакуль не адважыўся. Ах, як добра было б яшчэ і зайчыка!.. Але што аддаў ваўку, шкадаваць не стаў. Проста трэба бліжэйшым часам здабыць яшчэ. Затое з уласных прыпасаў забраў усё, да чэрствага кавалка хлеба.

Тым не меней, ягоныя дары настрой суседкі не перайначылі. Спачатку нават і браць нічога не стала, паўтараючы ранейшае, можа, толькі не так злосна:

– І не прасі. Мне б свайго хоць неяк пракарміць. І воўкам пахне, – дадала, адчужаючы яшчэ і гэтак.

– Не, лесам, – сказала дзяўчынка, абнюхваючы дзіцё. – Дымам... А ваўком... Можа хіба трошкі-трошкі.

– На лаве на старой ваўчынай скуры ляжаў, сірата малы, – сказаў, каб адцягнуць увагу ад галоўнага.

Не ўдалося. Ва ўпартасці Анісея нават вусны падцяла.

– У Залесавічах знойдзецца карміцелька, калі ўжо не хочаш аддаць у манастыр, а лепей занясі. У манахаў каровы, козы.

Тады ён успомніў, што ў манастыры жывёла часта і на продаж бывае. Карову трымаць яму не асіліць, а вось козачку... У крайнім выпадку давядзецца сапраўды нешта шукаць ці ў Залесавічах, ці ў Іванску. Але ж дзіцё галадае ўжо цяпер, і аддаваць яго манахам ён не збіраецца.

– Суседка, – сказаў як мага ласкавейшым тонам, – ты ўжо хоць сёння малога пакармі. Га? Хоць крыху. Я аддзячу. К вечару абавязкова рыбы здабуду. А мо, і курапатак.

– Мам, – прамовіла дзяўчынка, пакалыхваючы малога, – ну няхай крыху пабудзе ў нас.

Анісея пляснула дачку па азадку.

– І ты яшчэ! – крыкнула, азлаваўшы. – Сказана ж, аддай дзіцё суседу.

– Сапраўды, няхай ужо колькі ў нас пабудзе, – праз кашаль, але рашуча падтрымаў дачушку Смаляк. – Дні са два, пакуль неяк уладкуецца.

– У манастыр можна аддаць і зараз, – стаяла на сваім кабета.

– Туды не панясу, гэта ж пляменнік! – сказаў ён, Зых, ужо і сапраўды ў душы прызнаўшы роднаснасць з малым, бездапаможным і адзінокім, як сам, лясным найдаю.

– Твой клопат, – адгукнуўся гаспадар не надта ўхвальна, – але ў нас каб два дні.

Позірк жонкі выказваў ранейшую нязгоду, але ўслых мужу Анісея не запярэчыла.

## 18. Козька-Ваўчок

Ён не надта цвёрда ўяўляў, колькі можа каштаваць дойная козачка, тым не меней, вырашыў набыць, калі нават давядзецца грошай крыху і пазычыць у тых жа манахаў. Ніколі не ўяўляў, што даглядаць малое гэтак складана. Паўсюдна ў сем'ях дзецьмі займаліся жанчыны, зводдаль здавалася, гэта адбываецца неяк само сабой. Ну, мітусня, гармідар, часам лаянка, нехта плача, дзяцей нечым кормяць, ім падціраюць азадкі, іх мыюць у кадушцы, галаву – са шчолакам, каб не заводзіліся вошы і, барані божа, каўтун, у нешта апранаюць, цёмнымі вечарамі ўкладваюць спачываць, спяваюць малым калыханку, бабулі мармычуць казкі-дзівосы, нярэдка здараецца, лечаць хворых. Нехта і памірае. Тады жанчыны плачуць. Мужчыны звычайна толькі пазіраюць пахмурна, бо што ж, выжыць не кожнаму ўдаецца.

Ён вельмі хацеў, каб малы выжыў. Можа, прычынай быў малодшы брат, Міколка? Той не пражыў належнае, загінуў ад рук нападнікаў-маскоўцаў, што заявіліся рабаваць, але ж дарогу ў вёску даведаліся з-за яго, Зыха, дурнога свавольства: не паслухаўся старога вешчуна, угаварыў бацькоў, не прызнаўшыся, што наваражыў у вадзе знахар. А можа, чамусьці яшчэ. Праўда, дзяцей мець не хацеў. Гэтак як і жаніцца. А вось жа ўгледзеў Курцэвічаву і стаў сам не свой.

Ну і клопату ж сабе здабыў з гэтым малым найдаю! Яму добра ўдавалася рабіць усё, за што даводзілася брацца, – здабываць мёд, секчы дрэвы, валодаць амаль любой зброяй. Нарэшце і лекаваць, як аказалася. А вось дагледзець дзіцё як мае быць – ну бы якое чараванне замінала! Анісея, пашкадаваўшы ўсё ж малога сірату, паслала дачушку, ці дзяўчынка сама даўмелася дапамагчы, але рабіла гэта, бы забаўляючыся, даіла козачку, паіла малога малаком, падмывала, хутала ў рыззё – і ўсё ўсмешліва, ласкава, бы роднага, хлопчык ажно ззяў тварыкам, калі яе заўважаў. Праўда, і яму, Зыху, не меней радаваўся, цягнуў ручкі. Ды як жа такога кудысьці ў манастыр!

Спачатку малога называў сынаўцом, пляменнікам, затым неяк само сабой атрымалася – ужо і сынам. Вяскоўцы любяць даваць адно аднаму мянушкі. Часам проста смяшлівыя, а то каб адрозніць сына ад бацькі. Прыкладам, суседскага асочніка ў царкве пры хрышчэнні поп запісаў Валодкам, а пасля і малодшага гэтак жа чамусьці, дык таго сталі называць у дадатак – Валадковіч Баран. У агародніка Сенкі мянушка – Капуста, а сынок ягоны падшыванец атрымаў прыкмету – Капусцін. Яшчэ ў аднаго асочніка, Ісая, мянушка – Бразгун. А маладога Юрэя, ягонага, Зыха, добрага прыяцеля клічуць яшчэ – Дзябёла, за дужасць. Пра яго самога хто кажа Кульга, хто – Рубан, а яшчэ – Гуд, як іншым разам па-старажытнаму тутэйшаму называюць ваўка. Яго ж малога найду, як толькі сталі пазнаваць на вясковай вуліцы, сталі клікаць Козькам. З-за карміцелькі-казы. Першымі – дзеці Смаляка. А вось ці не на дзясятым леце дадалася мянушка іншая – Ваўчок. Ці за ўпарта-пагрозлівыя зіркі і адвагу лезці мерацца сілай і адвагай нават са старэйшымі за сябе хлапчукамі, ці заўважылі цікаўнасць да ваўкоў і ажно нібыта сяброўства з тымі, што ўжо магло стаць небяспечным.

Даводзілася ахалоджваць малога: не лезь на ражон, не нажывай залішняй варажнечы. Нібы пагаджаецца, дзень-другі паводзіць сябе ціхамірна. А потым глядзіш – а за ім гоніцца хлапчукоўская зграя, каб адлупцаваць. Бо ўжо кагосьці паспеў зачапіць, старэйшага і мацнейшага за сябе. Слабейшых і малодшых наадварот, урэшце пачаў старацца абараніць, і тыя станавіліся яму прыяцелямі. Гэтаму ён, Зых, такі навучыў сына, заўважыўшы ў ім залішнюю бязлітаснасць, а то і пагарду да слабейшых, пераймаючы гэта ад вясковага атачэння. Асэнсаваў жа выразна магчымыя наступствы ў далейшым, калі той на пацеху свайму атачэнню пачаў здзекліва куляць хілага сынка шматдзетнай удавы Хмеліхі. Паклікаўшы малога дахаты, не павышаючы голасу, растлумачыў, як брыдка той сябе паводзіў, у давяршэнне ўрока сцебануўшы разы два ці тры па азадку і плячах папругай. Відаць, балюча, хаця сам, можа, адчуваў большы боль ад гэтага ўсяго. Але ж так яго самога калісьці навучаў бацька, калі слова аказвалася замала.

Увогуле ж стараўся навучаць ускосна, часцей проста ўспамінаючы розныя жыццёвыя выпадкі, якім быў сведкам, ды разважаючы пра наступствы. Сын ухопліваў навуку кемліва і ўвогуле ўсё імкнуўся ў яго, Зыха, пераймаць. Нават вока гэтак жа прыплюшчваў. Хіба што кульгаць не спрабаваў. Любіў урокі валодання зброяй і хітрасці самаабароны, але не меней – дапамагаць у лекарскай справе, адначасова хутка запамінаючы адпаведныя замовы. А ўжо як спрытна караскаўся да борці ці рой аграбаў! Ну нібы гэта яго, Зыха, малодшы брат, Міколка, вярнуўся, устаў з брацкай магілы ў лесе пад Мсціславам.

Адно розніца – Міколка жадаў толькі бортніцтву навучыцца і касой валодаць, а Ваўчок – так кідаць нож, каб абавязкова ўтыркаўся ў дрэва, хітра біцца кулакамі, дручком, бы шабляй, страляць з самаробнага лука, а потым ужо і з пулгака, які ён, Зых, здабыў, абараняючы манастырскі абоз на лясной дарозе бліз Полацка, ды так і не аддаў жміндзе-келару.

Зноў жа: Міколка, здаецца, абыякава ставіўся да коней, а гэты прайсці міма іх не можа. Гадоў з пяці, відаць, пачынаючы, ужо лез, каб хаця дакрануцца. А гадоў у восем ці на дзявятым прышоў аднойчы ў надзвычай радасным настроі, вачаняты так і ззялі, хваліцца:

– Я ездзіў на кані!

У іхняй вёсцы коней мала, а гаспадары, што іх мелі, у пераважнай большыні наўрад ці дазволілі б садзіцца на свайго нейкаму чужому сапляняці. Дык не цяжка было здагадацца, на чыю клячу садзіўся Ваўчок.

– У дзядзькі Быкуна кабыла хіба ўжо ажарабілася?

– Я ездзіў на стаенніку!

– Ажно! На дрыкганце? Сыне, на чужога каня лепей цішком не садзіцца. Каб не падумалі – канакрад.

– Дык жа мне дазволілі. Сам конюх – машталер пана ляснічага! – сына ажно распіралі гонар і радасць.

– І доўга ты прасіўся і падлабуньваўся? – падкалупнуў малога, бо многа разоў жа павучаў: ні ў кога нічога не прасі, не прыніжайся.

– Бацька, – зусім па-даросламу азваўся малы. – Я ж дапамог сабраць табун, калі яго разагналі ваўкі.

– Хочаш, каб цябе коні любілі, – урэшце параіў яму, – тады не совайся да ваўкоў.

– А калі яны мне, бы прыяцелі.

– Магчыма, пакуль сытыя. Лепей ад іх падалей.

– А сам? – напомніў сын.

– Але ж у прыяцелі да іх я не набіваўся, – толькі і змог запярэчыць, бо сам жа і падахвоціў малога паназіраць за ваўчыным вывадкам. Выпадкова на яго натрапіў. Шукаў грыбы на парослым асіннікам узгорку бліз ручая і раптам угледзеў пад старым вываратнем прыхаваны лаз у нару. Спачатку вырашыў – лісіная. Не, уваход значна большы, пашыраны няйнакш звярынымі лапамі, так робіць барсук, калі яму спадабаецца нара лісіцы. А яго самога потым, бывае, выганяюць ваўкі. Гэта і здарылася, як можна было вызначыць па слядах: у нары прыжыўся ваўчыны вывадак. Сказаў малому, той зацікавіўся, урэшце давялося весці паказваць. Падкраўшыся з падветранага боку, разам і цікавалі, як ваўчыха навучае шчанюкоў. Потым малы стаў наведвацца туды сам, адзін ці з сябруком, сынам Смаляка, старэйшым за сябе гады на два.

А мінулым летам прыходзіць надвячоркам з пушчы і дастае з-пад світы ваўчаня, зусім малое.

– Во, здабыў!

Было ад чаго занепакоіцца:

– Ой, сцеражыся цяпер ваўкоў, не даруюць пакражу! Занясі лепей назад, дзе ўзяў. Выпусці паціху, ваўчыха неўзабаве і знойдзе. А не – пану ляснічаму, заплоціць колькі пенязяў. А то ж па тваіх слядах каб ваўчыха да нас не завітала.

– Не завітае.

– Мала яшчэ ваўкоў ведаеш. Каб ты на крылах шчанюка прынёс, ён жа пачне скавытаць, бацькоў клікаць – і пачуюць.

– Але ж я не краў! І сілком не забіраў, – адказаў сын. – Дзіва: сама ваўчыха кінула, я і падабраў. Спачатку дзівіўся.

– Блізка падступацца небяспечна, хоць і кажаш, што шэрым прыяцель.

– Дык жа з дуба-вываратня. Ну і крыху хістануўся.

– А каб зваліўся?

– Ну не. Ваўчыха на шчанюкоў глядзела, мяне воўк заўважыў. Пазней. Ваўчыца назірала, як малыя куляюць адзін аднаго, бы пасмейваючыся, з дабрынёй, нават калі яе самую спрабавалі куснуць. І гэтае падыйшло, а маці як зіркне! Яно ад яе позірку курчыцца, курчыцца і пачало скавытаць, ну, быццам вінаваціцца. Ваўчыца позірк адвядзе – яно весялее, з астатнімі шчанюкамі спрабуе дужацца. Дык ваўчыха зноў як утаропіцца ў яго – малое і самлела, да долу прыціснулася, вінавата скавытаючы. Гэтак жа і да саскоў не дапусціла. Астатнія малыя заўзята смокчуць, смокчуць. Ну, я і варухнуўся, спачуваючы. Зусім ледзь-ледзь, але воўк заўважыў. Ціхенька гыркнуў, ваўчыца – дзеткам, ды праз купіны шусь у ельнік. Малыя следам, і праз імгненне як нікога і не было. Апроч аднаго, во гэтага. Яно ж таксама пабегла, пахістваючыся. Ды ўблыталася ў дзеразу, кульнулася, вылезла, пабегла, а тут на яго ваўчыха – зірк, малое і лягло, ціхенька-ціхенька так скавытаючы. Я крыху счакаў – і да яго.

– Ой, ваўку ў пашчу лез.

– Дык жа кінулі малога! – абурыўся сын. – Праўда, я ўзяў яго, адчуваю – нехта побач. Зірк – воўк ля нары шчэрыцца. Можа, хто з ваўчанят туды схаваўся.

– Во!

– Я суліцу на яго наставіў, а сам кажу: “Кінулі вы дзіця? Кінулі. Я падабраў. Будзе маё. Але за гэта прынясу дзве курапаткі. Ці зайца”.

Сын не зразумеў, вядома, чаго ён, Зых, гэтак збянтэжана ўсміхаецца.

Ваўчаня стала карміць маладая козачка, дачка той, чыім малаком здолеў узгадавацца сын. Потым давялося цішком здабываць у лесе мяса. Цяпер з нягеглага шчанюка вырасла маладая ваўчыха. І што за хібу калісьці ў ёй заўважыла яе маці, калі вырашыла малую зжыць са свету?

Сын выканаў абяцанае: прынёс ваўкам цішком падстрэленых з лука курапатак. Бацькоў не было, а падрослая моладзь сустрэла дар спачатку надта насцярожана, усе зашыліся ў нару, акрамя самага моцнага, той урэшце пакваліўся на мяса, следам пачалі далучацца астатнія, і той-сёй нават лізнуў яму твар, пахваліўся сын. Ну ці не Ваўчок?

## 19. У накірунку Вільні

На досвітку Галабароды ўвайшоў у камору і гаркнуў:

– Усе тут? А мы ўжо непакоіліся – чэрці за ноч куды запраторылі. А яны спяць без задніх ног. Годзе! У царкве звоняць на ранішнюю малітву. На двары прыбіральня, у сенцах вада ў кадушцы. Потым па акрайцу хлеба з квасам – і ў дарогу. Уставайце, нячысцікі!

Зых сеў адразу, толькі ўчуўшы шоргат дзвярэй, а вядьмарка катурхалася доўга. Нешта мармытала, лыпаючы на Галабародага сонным позіркам, і чухалася, чухалася. Ці то на яе менавіта наскочылі ўсе турэмныя блохі з клапамі, ці то сваіх хатніх багата прыхапіла. Такая з бабы і вядзьмарка.

– Куды ж гэта ў дарогу? – агрызнулася нарэшце яна.

– Ну не ў тваю ж Чарэю, – Галабароды задаволена засмяяўся ўласнаму жарту, – у Вільні цябе не дачакаюцца.

– Каб кагосьці гэтак родныя дзеці чакалі! – агрызнулася кабета, устаючы.

– Цур мяне, цур! – ахоўнік пералжагнаўся. – Яшчэ такое пачую – урэжу бізуна. Не пагляджу, што вядзьмарка. Мяне святы Хрыстос абароніць.

– Ага, калі і сам сябе не здолеў, – гмыкнуў Зых, пальцамі стараючыся расчасаць валасы на галаве, а заадно выдаліць турэмных блох.

– Зразумела, чаму цябе, калеку, у Вільню. Але галля досыць знайшлося б і ў Чашінках. Бяры кульбу і гайда на двор.

З Чашнікаў выехалі, як толькі ахова адчыніла гарадскую браму. Лёгкая фура аб два кані хоць і рыпела на кожнай каляіне, але стары габрэй-фурман на кепікі ахоўнікаў адказваў з папрокам у голасе, што да Лепеля даедуць спраўна. Ні Зыха, ні яго напарніцу не звязвалі. Пасля ціхамірнага начлега ў вязніцы, відаць, зрабілі выснову: шкодзіць не будуць. Фурман жа ўвогуле звяртаўся да іх па-свойску. Перад лесам паведаміў, што ў гэтых мясцінах іншым разам заўважаліся разбойнікі, то каму прыпрэ спаражніцца, лепей вёрст шэсць пацярпець, да Цяпіна. Пасля чаго не стаў пярэчыць, калі ахоўнікі загадалі часцей падганяць кляч пугай.

<...>

У Лепель дабраліся даволі рана, ахоўнікі хацелі было спачатку, паўгадзінкі перадыхнуўшы, рухацца далей, да Бягомля, куды чашніцкі фурман і падрадзіўся даставіць падарожнікаў, ажно ў замачку адшукаліся добрыя знаёмыя. Дык вясёлым гуртам заселі ў карчме падсілкавацца тушанай з гарохам свіной трыбухой, само сабой, асушыўшы кухаль-другі піва (карчмар бажыўся, надта свежае, зваранае на панскім бровары). А дзе горкае піва – следам слодыч медавухі. Каб урэшце адважыцца на чарку гарэліцы (хоць дарагая, халера!).

Частавалі лепельскія, паважаючы статус сваіх віленскіх знаёмцаў,

– вялікакняскія путныя баяры – ого! Прагна лавілі сталічныя навіны – хто з высокага панства атрымаў апошнім часам якую добрую пасаду, хто сышоў у лепшы свет і з якой прычыны, ці праўда, што няўрымслівая княгіня Слуцкая пасварылася з Радзівілам Рудым, ці замірыліся Сангушкі з Сапегамі... Галоўнае ж – што чуваць у Вільні пра пагаршэнне стасункаў з Масковіяй, не так жа сабе з Польшчы раней звычайнага заявіўся яго вялікасць гаспадар Жыгімонт Аўгуст. Менавіта гэтая вестка прымусіла лепельскае панства нарэшце абраць войскага замест памерлага, – каб было каму клапаціцца пра іх сем'і, калі самі гаспадары мусяць выправіцца пад сцяг ваяводы, а тутэйшы кашталян загадаў паднавіць варотныя вежы замачка ды пачысціць ад смецця ахоўны роў. Значыць, чакай вайны. Магчыма, узімку нават, калі надзейна замерзнуць рэкі і балаты.

Віленцы пераконвалі: вайны, гэтак хутка ва ўсякім разе, быць не павінна: ёсць тайныя звесткі з Масквы – тамтэйшы вялікі князь, які ўпарта дамагаецца, каб Жыгімонт Аўгуст у сваіх лістах называў яго царом, вось-вось павядзе сваю арду на Інфлянты, ці, як часцей краіна называецца маскоўцамі, Лівонію. Маскавіцкі перадавы полк ужо ваўком гойсае каля крэпасці Нарва. Лепельцы ж меркавалі – гэта дзеля адцягвання ўвагі, а ўдар будзе па Вялікаму Княству, хутчэй за ўсё ў накірунку Оршы. Альбо Віцебска.

Пілі, спрачаліся, і дарэмна чакалі Зых з вядзьмаркай, што іх чым-небудзь пакормяць. Пачынаўся ўжо вечаровы прыцемак, а яны ўсё туліліся ля ганка карчмы, пакуль Барадаты не ўгледзеў іх, выпаўзшы спаражніцца. Скончылася тым, што па дамоўленасці з карчмаром зноў абоіх разам упіхнулі ў нейкую камору, куды служка занёс пару бярэмцаў саломы, і ён жа напаіў вадой. Ахоўнікі частаваліся да ночы.

І як жа Зых быў уражаны, калі, ачнуўшыся ад неспакойнага сну, побач з сабой намацаў сына!

– Міколка, ты?! – прамовіў амаль з роспаччу.

– Я падумаў, табе спатрэбіцца гэта, – прытуліўшыся, прашаптаў у самае вуха сын, укладаючы яму ў руку знаёмы да малай шурпацінкі нож Крывейты.

– Гэта ж столькі бег! – усё не мог супакіцца Зых, уявіўшы дарогу. – Няўжо і ваўчыху з сабой узяў? – спытаў, улавіўшы знаёмы звярыны пах.

– Я ёй загадаў застацца з Цішкам Смаляком. Не хацела, але паслухаецца.

– Во. Не тое што ты, неслух. Мой наказ быў які? – ушчуваў сына, абдымаючы, стараючыся сагрэць.

– Бацька, мы звяжам ахоўнікаў, хоць яны і так на нагах не ўстаяць, самі на іхніх коней – і ў казакі! А каторы пагоніцца, я сам яго заб'ю.

Зых ажно тарганууся ад сказанага сынам.

– Я адразу, яшчэ пры выездзе з Чашнікаў, хацеў забіць абодвух, але вырашыў спытацца ў цябе, – дадаў сын.

– Выкінь такое з галавы! – ажно голас узняў ад хвалявання. – Як гэта – забіць? Ваўкоў шкадуеш, а гэта ж людзі. Чуеш? Нельга!

– А калі ворагі?

– Ворагі – справа зусім іншая. А гэтыя людзі выконваюць загад нечы, на мяне не злуючы.

– Ага, і забралі ў палон. Я не хачу, каб ты быў у палоне! – горача шаптаў сын, шчанюком прыціскаючыся да рукі Зыха.

– Чаму – у палоне? Я ж табе казаў пра пана Васіля з Цяпіна. Можа,

зноў спатрэбілася распытаць мяне пра маскавіцкае памежжа. Неяк высветліцца. А забіць... І кім жа мы з табой пасля гэтага станем? Такое магчыма толькі на вайне. Нават проста каго-небудзь біць трэба асцерагацца, я табе колькі разоў казаў. Ці ж хлапчукі, якіх ты біў, сталі табе сябрамі?

– Бацька, а калі не падпарадкаваліся, – сын мацней прытуліўся да Зыха. – Ты сам быў атаманам, ведаеш, як гэта.

– Атаман, які б'е ці зневажае падначаленых, сам ненадзейны. Сама лепей – пераканаць словам, паказаць сябе разумнейшым. Спі ўжо, калі з'явіўся. І як заўтра будзе?..

– Але ж ты біў? – не сунімаўся сын. – А каня? Я пашкадаваў, а ты сказаў: так трэба.

– От жа смала, – збянтэжана прамармытаў Зых, нічога, аказваецца, дарэмна не праходзіць. – Ну, каня. Я ж і цябе пасам частаваў. За непаслухмянства дурное, каб якой надалей шкоды не нарабіў. А вось біць напоўніцу, са злосцю, ды яшчэ здзекавацца, прыніжаючы... Каня? Так, бо падагнаць жа трэба было, каб пасярод лужыны не стаў. Але ж стараўся, каб не надта балюча, а, як лепей сказаць? крыху пастрашыць, бо жывёла ж – не чалавек, які павінен значна болей разумець слова.

– А яшчэ ты сам казаў, – у голасе Міколкі па-ранейшаму гучала бязлітаснасць малога шукальніка праўды, – так, ты сам казаў, што... гэта, людзей забіваў жа? І мяне навучыў, як лаўчэй гэта рабіць.

– Людзей? – у Зыха перацяла дыханне ад ніякаватасці. – То ворагі былі, сыне! – нарэшце выдыхнуў. – Ды не проста ворагі, а нападнікі. Было ж як? Альбо цябе, альбо ты. Аніяк не ўхіліцца. Ці абараніць блізкіх неабходна. Зразумеў?

– Я думаю, – мармытнуў малы.

– Ну, думай, думай. Калі спаць неахвота.

## 20. “Presto!”[1]

Акрамя штодзённага канцылярскага клопату, Міхал Гарабурда апошнім часам займеў яшчэ тры дадатковыя. Важнасці асаблівай і надта тэрміновай. Presto!, як часам казалі ў сенатарскім асяродку, залучыўшы сабе ва ўжытак гэтае італійскае бадзёрае слоўка з часоў яе вялікасці каралевы Боны. Толькі цяпер, калі тая, з гвалтам з'ехаўшы ў сваё Бары, гэтак жа гвалтоўна-недарэчна там сканала, асабліва мудрыя з вышэйшага панства пачыналі цяміць, якую незаменную страту панесла дзяржава. Сірэч, як гаворыцца, Вялікае Княства. Бо ў Польшчы, ці ў Кароне, тамтэйшыя мажнаўладныя на чале з гетманам Тарнаўскім і ўсімі біскупамі ў дадатак за знешнім смуткаваннем ледзьве хаваюць радасць, хціва мяркуючы, што нарэшце такі Жыгімонт Аўгуст з гэтым сваім “заўтра” цалкам у іхніх руках.

Асабліва калі яшчэ пастараецца Мнішак. А ён, бестыя, гэты ад'ютант д'ябла, часу дарэмна не губляў. Адно і непакоіць апошнім часам – уяўны ў яго вялікасці ўпадак мужчынскай сілы, з якой прычыны нядобрым словам успамінаюць біскупа Гамрата, няхай той ужо і ў райскіх садах Усявышняга: канечне, ухвальна, што дамогся, каб старую кабету Кацярыну Вейглаву за пропаведзь жыдоўскай веры публічна спалілі ў славу Хрыстову на рынку ў Кракаве, але навошта нацкаваў маладых псоў Гасподніх, студыюсаў-семінарыстаў і на памагатую Боны ў справах вядзьмарскіх, старосціну

[1] Хутка! Неадкладна! *(лац.)*

кобрынскую Фальчэўскую? А тая, унюхаўшы, што запахла смажанай чалавечынай, узяла і схавалася недзе ў палескай глушы, у балатах пад Пінскам. Спрабавалі адшукаць, калі пільна нарэшце спатрэбілася, – дарэмна. Цяпер нібыта аб'явілася нейкая шаптуха ў іншым гушчары – ля Чарэі на Полаччыне, але ці здолее яна замяніць Фальчэўскую на ніве паганскай багіні Венус? Па зелле дзеля аднаўлення моцы мужчынскай да старосціны кобрынскай ці не палова зацных паноў звярталася – і ніхто не расчараваўся, здаецца, а пра чарэйскую вядзьмарку адкуль узялася слава? Ваявода полацкі, Давойна пахваліў? Можа, нападпітку? Ды пан увогуле ўжо даўно са Станьчыкам у смяхацтве спаборнічае. Што ж, за чарэйскай кудзесніцай спешна паслалі. Але калі тая не здолее ўзбадзёрыць каралеўскія чрэслы, віленскі біскуп ужо абвесціў, што яна ўпрыгожыць сабою вогнішча святога ачышчэння, каб атрымалася не горшае, чым у Кракаве.

Высокае панства, калі па шчырасці, засмучае не тое, што Жыгімонт Аўгуст, маючы ўжо трэцюю жонку, з ніводнай так і не здолеў змайстраваць нашчадка, то воля Усявышняга, раздражняла, што як толькі гасудар цярпеў паразу ў ложку, так, нібы ачомаўшыся, браўся за справы дзяржаўныя, часам вырашаючы іх і мудра, і presto. Прэста! Адразу нагадваючы, што ў яго жылах цячэ кроў не толькі маруды-бацькі, але імпэтных Сфорцаў. І вось гэты Сфорца ў ім зноў пачынае выяўляцца.

Спадзяваліся, што па адыходзе ад дзяржаўных гаспадарчых спраў апантанай Боны паціху сканае і яе клятая "Устава на валокі". Ды не. Кароль, як толькі з'явіўся ў Вільні і крыху ачомаўся ад радзівілаўскіх застолляў, загадаў канцлеру даставіць адпаведныя паперы, каб самому (самому!) вычытаць, перш чым прадставіць на зацвярджэнне сейму. Бона нарэшце на тым свеце, а яе задума перамерыць землі – з асаблівай пільнасцю магнацкія – жыве і вось-вось стане законам.

Спыніць Жыгімонта Аўгуста маглі б хіба жанчыны. А так – не адступіцца. Тым болей, што дзяржаўная казна зусім апусцела, і скарбнік раіць яго вялікасці, перш чым ставіць на сейме пытанне пра павелічэнне падаткаў, вярнуць прысабечаныя магнатамі і біскупамі немалыя абшары, каб прадаць па належнай цане ці аддаць у арэнду. Тым болей, што вось-вось узнікнуць вялізныя выдаткі на вайну.

Пра што нявесела і разважаў Жыгімонт Аўгуст, назіраючы, як у бібліятэку са сціплай годнасцю ўваходзіць дзяржаўны сакратар па замежных справах сенатар Яўстафій Валовіч. Следам – памочнік Міхал Гарабурда са стосам папер.

– Твая гасударская міласць, – Валовіч, кладучы паперы на стол, пакланіўся. – Вось учора ўвечары дастаўлена тайным ганцом з Масквы, а здабыта тайным рыскуном у дзяка, набліжанага да гасудара Іаана. Такі ж спіс маскоўцы даставяць у Вену, імператару рымскаму.

Жыгімонт Аўгуст аддудырыў ніжнюю губу і ўгледзеўся ў жоўты ліст. Ад пакручаста выпісаных стараславянскіх буквіцаў у яго ажно заныла ў патыліцы. Ніводнага разу ён не даведаўся з падобных пісаніц пра добрае і мірнае. Толькі і розніцы здаралася, што калі ў маскоўцаў ваеннай сілы аказвалася меней звычайнага, "посланія" рабіліся крыху далікатнейшымі. Цяпер жа, калі Іаан Чацвёрты канчаткова падпарадкаваў Казанскае царства і дабівае Астраханскае, пыхліва-нахабнай дзёрзкасці, насычанай царкоўнаславянскай шматслоўнасцю, будзе мора – такі ўжо чалавек.

– Мне ўсё патрэбна абавязкова прачытаць? – спытаў у Валовіча, з непрыязнасцю кіўнуўшы на паперы.

– Так, твая міласць, – пацвердзіў Валовіч з усмешкай разумення. – Мы абмеркавалі гэта з панам канцлерам.

– Наш брат у Хрысце Іаан Маскоўскі здольны прамаўляць доўга і квяцісцей свайго мітрапаліта. Мне ж патрэбна сутнасць.

Валовіч коратка ўздыхнуў:

– Лепей бы прачытаць усё, твая гасударская міласць. Але калі жадаеш сутнасць, то гэта нечым падобнае на казанне рымскага Катона, накшталт Ceterum censeo Carthaginem esse delendam[2], толькі па-маскавіцку зануднае і з дадаткам, што Масква – трэці Рым, а чацвёртаму не быць.

Жыгімонт Аўгуст нявесела засмяяўся:

– Карфаген, значыць, зноў павінен быць знішчаны, а Маскве ззяць да Апакаліпсісу? Адносна Рыму – маскоўскага нам не трэба, значыць, рупіцца, Вену пераконваць, што яна яму наступніца, імператару Рымскай Імперыі ёсць над чым задумацца.

– Вене адносна трэцяга Рыму маўчок. Толькі тое, што суродзіч адшукаўся: Іаан абвяшчае свой радавод ажно ад рымскага цэсара Аўгуста.

Жыгімонт Аўгуст зноў засмяяўся, ужо з ноткай з’едлівасці:

– Во як! Рурыка мець продкам, выходзіць, Іаану ўжо замала.

– Твая міласць, – сказаў Валовіч, – гэтая пісанка, чаго раней не было, рассылаецца ва ўсе каралеўскія двары Еўропы. А, можа, галоўнае, сваім вайсковым начальнікам, ігуменам манастырскім і царкоўным прыходам. З наказам: неадкладна абвяшчаць вернікам падчас набажэнстваў.

– Чаму неадкладна? – Жыгімонт Аўгуст утаропіўся ў Валовіча, потым перавёў дапытлівы позірк на Гарабурду, які сцішана так і стаяў блізу дзвярэй.

Валовіч уздыхнуў і пераступіў з нагі на нагу, грузны, пад вачыма набрыняла сінню:

– Мы, твая гасударская вялікасць, гэта пан канцлер і абодва гетманы, абмеркавалі звесткі з Масквы.

– Ну яшчэ б.

– Пагадзіліся, – працягваў Валовіч, – не болей як праз год пасля заваявання Астрахані, наступіць наша чарга.

– Але ж маючы з намі мірнае пагадненне, – запярэчыў кароль, – Іаану выгадней пасля Астрахані надоўга ўціхамірыць крымчакоў, а то і падпарадкаваць. Тым болей, што туркі не змогуць дапамагчы, надта ўлезлі ў балканскія справы.

– У Іаана, відаць, іншыя памкненні, – пахітаў сівой грывай Валовіч. – Яму ці не карціць пашырыць выхад да Балтыйскага мора. Польны гетман ад рыскуноў нядаўна атрымаў звесткі, што маскавіцкі ваявода князь Шастуноў з нямалым войскам сеў ніжэй Іван-горада і імкліва будуе порт у вусці Нарвы-ракі.

– Дальнабачна, – ухваліў Жыгімонт Аўгуст. – Хаця, палепшыўшы такім чынам сувязь з ганзейскімі гарадамі і англійцамі, заадно мацней улезе ў звягу са шведамі.

– Усё так, – Валовіч уздыхнуў, – аднак у трактаце маскоўца не толькі радавод ад рымскага Аўгуста, а яшчэ – што ты, міласцівец, не ўгневайся, аказваецца, ажно халоп Іаанаў па спадчыне.

Выпрастаўшыся, Жыгімонт Аўгуст бліснуў вачыма і паказаў Гарабурдзе на маскавіцкую пісанку:

---

[2] Карфаген павінен быць разбураны (*лац.*).

– Ты лепей за ўсіх у нас разбіраеш маскавіцкае пісьмо, то чытай мне, пане. Сам я, прызнаюся, так і не здолеў улавіць увесь глыбінны сэнс шматслоўных іаанавых перлаў.

Слухаў з усмешлівасцю ў позірку, але сумна-насцярожана. У самай жа глыбіні вачэй Гарабурда прыкмеціў прыхаваную ці не вінаватасць. Нават калі хітаў галавой, слухаючы саманадзейна-пыхлівае: “Два Ріма падоша, а третій стоіт, а четвяртому не бываті”. Шкада, не чуе Станьчык, той бы пекануў адносна гэтай дурноты смяротнага чалавека, няхай сабе і ажно самадзержац.

Наноў скроены радасловец маскоўскага Іаана таксама ўражваў дзікай нейкай бессаромнасцю. І не тое нават, што родапачынальнікам у яго ўжо значыцца рымскі імператар. А нейкая нездаровае памкненне адначасова прыніжаць продкаў суседняга гасудара. Яшчэ кветачкі, што Жыгімонт Аўгуст, аказваецца, паходзіць ад смаленскага князя малодшага калена Рурыкавічаў Расціслава. Дык яшчэ і дачку другога ягонага продка, Віценя, “поял” нібыта ўжо і зусім чалавек “чорнай касці”, “нізкій раб”, слабодшчык князя Аляксандра Цвярскога Гегімінік, завёмы таксама Гедымінам.

Яшчэ раней меліся звесткі, што нешта такое наконт паходжання гасудараў Вялікага Княства Літоўскага рыхтавалася для бацькі Іаана, Васіля Трэцяга. Сачыняў гэта заточаны ў манастырскі падклет былы мітрапаліт Спірыдон-Саўка ў спадзеве атрымаць царскую міласць, калі добра выканае заказ. Затым гэтае блюзнерства і стала патроху ўжывацца ў “говореніях” маскавіцкіх думных баяраў, калі спрачаліся пра воласці памежжа. Але хітрымі згадкамі – адзін раз так гаварылася, другі па-іншаму, у залежнасці ад абставін. Цяпер справа выглядала па-іншаму: пісанка рассылаецца па каралеўскіх дварах ужо ў якасці афіцыйнага пацверджання: маскоўскі гасудар, маўляў, займаецца не рабаўніцкімі захопамі земляў памежных суверэнных дзяржаў, а нарэшце па спадчыннаму праву руплiва наводзіць парадак, ставячы на належнае месца сваіх васалаў, якія раней па розных прычынах адбіліся ад рук. Дык хто ж з каралёў-імператараў асудзіць такое ці заступіцца за чужых васалаў, ды яшчэ і “чарнакостных”?

Як успрымуць пісанку маскавіцкую еўрапейскія манархі, справа ўрэшце другасная, Жыгімонт Аўгуст, слухаючы паведамленне пра свой удасканалены маскавіцкім адстаўным мітрапалітам радасловец, іранічна ўсміхнуўся: паставяцца ў залежнасці ад дзяржаўнай патрэбы. Увогуле, мала хто з гасудараў дасягнуў дзяржаўнага стала толькі згодна з цвёрда кімсьці і калісьці ўстаноўленым спадчынным кодэксам. І продкі ў кожнага аніяк не анёльскага чыну, даведаешся пра радаслоўныя таямніцы шмат каго – валасы на галаве дыбарам становяцца, як такое і Усявышні церпіць. Была б гэтая пісанка, не было б яе, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі ўсё роўна схаўрусаваўся б з маскоўцам, бо ў абодвух мэта аднолькавая: у Вене мараць расцярушыць, аслабіць Польшчу, У Маскве – Вялікае Княства Літоўскае, а гэта ж яшчэ з часоў Ягайлы і Вітаўта – моцная вайсковая супольнасць. Тым не меней, тое, што, стрымліваючы абуранасць, чытае яму, Жыгімонту Аўгусту, дарадца па міжнародных справах, недаацэньваць нельга. Яно распаўсюджваецца не толькі на Захадзе, яно паўсядзённа настойліва ўбіваецца ў галовы маскоўцаў, вось што самае небяспечнае.

– Таленавіты ж гэты Спірыдон-Саўка, – засмяяўся Жыгімонт Аўгуст.

– Ага, мярзотныя пісанкі састаўляць, – скупа ўсміхнуўся Валовіч. –

Шкада, у нас яму своечасова не адкруцілі галаву. Гэта ж трэба: і як яго ў астрозе сцераглі, што так лёгка здолеў у Маскву збегчы! Аднак і жывучы. Ужо ж зусім, відаць, стары ёлупень, а такое піша.

– Відаць, у спадзеве хоць памерці на волі, – сказаў Гарабурда.

– Ну і жывучы, – паўтарыў сваё Валовіч. – Не, Іаан Чацвёрты яго таксама не выпусціць.

<...>

Вынікаюць, развважаў Жыгімонт Аўгуст, па меншай меры тры высновы, якія трэба абдумаць асабліва грунтоўна. Па-першае, гэта можа быць сведчаннем душэўнай няўпэўненасці маскоўца ў бяспецы свайго асабістага валадарання, падазрэнняў адносна верхняга, думнага баярства – ці не сумняваецца тое ў праве менавіта яго, Іаана Чацвёртага, займаць гасударскі трон. Другое, якое выцякае з першага, – патрэба (мнімая ці сапраўдная) умацавання ў вачах каралеўскіх двароў Еўропы свайго права на ўзброенае падпарадкаванне Маскве Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жэмайцкага. Вельмі верагодна – Лівоніі таксама, як тое ўжо зроблена ў дачыненні да раней самастойных дзяржаў Вялікага Ноўгарада і Пскова. Трэцяе ж – ці не звязана гэта і асабіста з ім, Жыгімонтам Аўгустам, са станам яго здароўя. Галоўнае – з бяздзетнасцю і адсутнасцю паўнапраўнага пры гэтым спадчынніка. Стан, у якім у свой час апынуўся маскоўскі Васіль Трэці. Тады тамтэйшыя санавітыя баярскія рады пачалі прыхаваную жорсткую валтузню адносна магчымасці пасадзіць на трон свайго прадстаўніка. Каб спыніць небяспечную для адзінства дзяржавы грызню, Васіль Трэці нават паспяшаўся прызначыць сабе стаўленіка з блізкай радні, але ўрэшце такі здолеў зламаць супраціў царкоўных іерархаў на чале з мітрапалітам, запраторыць бясплодную першую жонку ў манастыр і паспешліва ажаніцца з маладзенькай пляменніцай прыхадня з Вялікага Княства Глінскага, каб праз які год ужо займець ад яе сына, гэтага чортава Іаана Чацвёртага. Яму, Жыгімонту Аўгусту, развод з безнадзейна хворай жонкай не дазваляе ажно Папа Рымскі. Бо слухаецца жончынага бацькі, імператара Рымскай Імперыі германскай нацыі Габсбурга. А той ці не спадзяецца, што ён, Жыгімонт Аўгуст, памрэ ўсё ж першым, і на трон удасца пасадзіць удаву, ва ўсякім разе ў Польшчы, Вялікае Княства будуць дзяліць з Іаанам Маскоўскім. Не трэба зазіраць у вядзьмарскае *зерцала* Твардоўскага, каб уявіць, што тады пачнецца ў краіне. Разор і крывавы патоп забяспечаны на многія гады. “Mea culpa, mea maxima culpa”[3], – звычна на лаціне падумаў Жыгімонт Аўгуст.

Яго віна? Але ж пры ўсім тым гэта быў сын каралевы Боны з дзейснага роду Сфорца! І калі Гарабурда, скончыўшы чытанне, тыльным бокам далоні выцер з ілба буйныя кроплі поту і запытальна зірнуў на Жыгімонта Аўгуста, той рашуча ўзяў у сакратара маскавіцкую пісанку, узважыў і паклаў на стол. Павярнуўся да Валовіча:

– Кажуць, Іаан любіць гуляць у шахматы?

– Пан Давойна лічыць, той умее рабіць хітрыя хады, – пацвердзіў Валовіч, дзівячыся цікаўнасці гасудара ў такіх абставінах адносна забаваў маскоўца.

– Давойна іншым разам здольны пераўзысці нашага смехача Станьчыка.

– Мяркую, гасудар, Іаан Маскоўскі дастаў бацькоўскую пісанку з куфра, такі палічыўшы некалькі хадоў наперад, – сказаў Гарабурда.

---

[3] “Мая віна, мая вялікая віна”(*лац.*) – фрагмент каталіцкай малітвы.

– Аднак дзёрзка: толькі распачаў гульню – і ўжо нам "шах!" – твар караля зацвярдзеў рашучасцю. – Ты болей за іншых апошнім часам прыглядаўся да Іаана, – звярнуўся да Гарабурды, – якім павінен быць наш адказ?

– Твая вялікасць, – Гарабурда пакланіўся, – мяркую, масковец надта не любіць, калі чапляюць прылюдна і яго.

– Станьчык таксама не ў захапленні, калі не ён, а яго зачэпяць.

– Важна, што ў такім разе масковец пачынае лютаваць, і тады шах надта аддаляецца ад таго, каб быў абвешчаны мат. Колькі разоў здаралася нават у часе пакарання якога злачынцы: ужо каля плахі адкладваў працу ката, калі злачынца адважна зачэпліваў якой дзёрзкай спрэчкай. Асабліва ж бесіць Іаана, – працягваў Гарабурда, – абвінавачанне пісьмовае. Тады масковец піша грунтоўны, на ягоную думку, адказ, робячы спасылкі на Біблію, пераважна на свой, відаць, любімы Стары Запавет.

Жыгімонт Аўгуст уважліва слухаў, але позірк заставаўся заглыбленым у сваё, як у шахматыста, падумаў Гарабурда. Нарэшце сказаў Валовічу рашуча, але з нейкай самотай:

– Зробіш, пане, сам, і вызначы памочнікаў: сапраўды, Іаану ў сваю чаргу трэба падкінуць важкую чытанку. Каб чытаў не адно паскудства на суседзяў і халуйскі славасловец сабе, гэтае sit venia verbo, няхай прад царскія вочы (гм, цар?) прадстане люстэрка ісціны. Што высакавата яму не тое што да падножжа рымскага імператара Аўгуста, а і нават варага Рурыка. Што ўжо хутчэй ён прамы крэўнік-нашчадак беглага нашага, былога падданага Вялікага Княства, здрадніка і злодзея-забойцы Глінскага. То калі ён блізкі родзіч нашага падданага, выходзіць, і сам тады наш падданы!

Жыгімонт Аўгуст іранічна-нявесела ўсміхнуўся і паказаў на стос паперы на сваім стале:

– Вось пахваляецца крэўнасцю з царэўнай візантыйскай Соф'яй. Можна яму прыгадаць радасловец і гэтай асобы. Мне нядаўна даставілі з бібліятэкі Папы Рымскага спіс "Тайнай гісторыі" імперскага прыдворнага чыноўніка ў Канстанцінопалі Пракопія Кесарыйскага. Ужо гэтая гісторыя Палеолагаў! Суровае папярэджанне тым, хто захоча ўзвысіцца злачыннасцю і тыранствам. Не дзіва, чым урэшце скончыла сваё існаванне Візантыя. Вось яскравы прыклад пакарання нябеснага за злачынствы! Іаан, бачыце, на біблейскі Стары Запавет любіць спасылацца. Дык жа і там колькі ўсяго напісана пра гнюснасць тыранаў і наступствы за такое – царствы разбураліся, народ у няволю трапляў! Хаця... Кажуць, Іаан часта і апантана моліцца. А такіх звычайна здольнае спыніць не слова хрысціянскай міласэрнасці і добразычлівасці, а жалезны кулак ваяра.

Жыгімонт Аўгуст ад хвалявання ўзняўся з-за стала і прайшоў да акна, сказаў адтуль, пазіраючы то на Валовіча, то на Гарабурду:

– У нас вялікая дзяржава. Але панства, на жаль, прывыкла жыць надта бяспечна і шыкуючы. А нам даўно патрэбна нарэшце займець належнае войска.

– Карона павінна аказваць значна большую ваенную дапамогу Вялікаму Княству, а не весяліцца зларадна, калі нас і ў хвост, і ў грыву лупцуе масковец, – адказаў на гэта Валовіч.

– Гэта так, пане, – Жыгімонт Аўгуст грузна пайшоў да стала. – Аднак з умовай, што і панства Вялікага Княства не павінна раз за разам на соймах абвяшчаць, што не гатова выконваць раней падпісаныя ўмовы паяднання.

– Калі ж гэта ўмовы гаспадара з парабкам, а не на роўных! – усклікнуў Валовіч.

– Умовы можна, вядома, яшчэ абмяркоўваць і ўдакладняць, – адказаў Жыгімонт Аўгуст, – але не зацягваючы спрэчкі да часу, пакуль у адно месца смажаны певень не клюне, як кажа Станьчык. Цяпер я буду больш рашуча патрабаваць выканання пагадненняў пра унію. Вось жа самі кажаце, масковец не так сабе раптам пачаў рассылаць гэтую мярзоту. Трэба нарэшце дзейнічаць. Яднацца! Presto! Presto!

<...>

У канцлера, да якога яны з Валовічам наведаліся адразу пасля размовы з Жыгімонтам Аўгустам, было вырашана, што адказ на маскавіцкую пісанку падрыхтуе ён, Гарабурда. Яго ж канцлер папрасіў зрабіць і спіс шляхты, якая ўпарта трымаецца грэцкага, так званага праваслаўнага веравызнання, бо ў попісу войска гэта не пазначана, а каштоўнасць паміж тым мае істотную: апошнім часам шляхта, якая называе сябе літвінамі, усё прыкметней імкнецца да паяднання з палякамі дзеля іхніх прывілеяў, у той час як русіны, ці "русіны белыя" нават, што азначае "вольныя", і насамрэч гатовыя адстойваць гэтую самасць, памятаючы незалежнасць Полацкага княства, пачынаючы ад часу князя Усяслава Чарадзея. Праўда, яны таксама пачынаюць настойліва дамагацца прывілеяў, але пакуль роўных з літвінамі-каталікамі сваёй дзяржавы, зліцця з ляхамі не патрабуючы.

Прапанова ў многім супадала з намерам самога Гарабурды, які рыхтаваў справаздачу для паноў-рады па выніках інспекцыйнай паездкі ў памежныя з Крымам і Масковіяй воласці. Гарабурда спадзяваўся, што яго слова пачуе таксама Жыгімонт Аўгуст, і няхай бы гэта дадало каралю дальнабачнасці, суняўшы нейкі паспешлівы апошнім часам імпэт да адзінацельнасці саюзнай дзяржавы. Унія справа ўвогуле неабходная, вось толькі праводзіць яе трэба далікатна, а не на ўмовах польскіх дарадцаў з іхняй прагнасцю.

Увогуле клопат Жыгімонта Аўгуста можна зразумець: палякі не хочуць істотна дапамагаць войскам без паяднання, а з боку Масковіі вось-вось, па ўсім заўважна, адбудзецца новы напад. Паўсюдна люд на ўсходняй мяжы не жыве, а мадзее, клапоцячыся не пра ўмацаванне гаспадаркі, а як выжыць, куды падацца, каб ўратавацца і не патрапіць у палон падчас вайны.

Ужо гэты Іаан-масковец! Не абмежаваўшыся падпарадкаваннем, яшчэ чамусьці і разарыў ушчэнт выдатную гаспадарку Ноўгарада і Пскова, раменікаў пазабіваў тысячамі, а ў той жа час выманьвае абяцанкамі райскага жыцця ўмельцаў з Заходняй Еўропы. Дык на добры розум, падумаў бы – а з якой прычыны там набралася столькі добрых майстроў? Хоча скарыстацца гаспадарчымі дасягненнямі ганзейскіх гарадоў і Англіі? Разумна. Боязна плаваць туды па Паўночным моры, а выгадней па Балтыйскім? Што ж, зразумела, чаму гэтак зацікавіўся прамым туды выхадам. Дык жа атрымаў яго: і праз магутную раку Нява, і ад Іван-горада па Нарве, у вусці якой будуе ўжо і пашыраную гавань. Не! Адчуваецца, гэтым не абмяжуецца. Выведнікі тайныя і купцы сведчаць: з-пад Масквы ў Вялікія Лукі сцягваецца дадатковае войска, дзясяткі тысяч ратнікаў, конных і пешых. Не дзеля ж адной царскай пацехі. Гэткую процьму мужыкоў у што абыйдзецца толькі пракарміць, няхай і прасянай кашай з салам? А абуць, апрануць? А ўзброіць? А хоць нейкім жытлом забяспечыць, каб не вымерзлі і не паляглі ад моравага паветрыя?.. Выходзіць, сабраўшы ў адзіна гэтулькі войска, яго трэба найхутчэй пускаць на справу, а значыць,

на рабаўніцтва, збройны гвалтоўны захоп чужога! Іначай, агаладаўшы, могуць жа пачаць пустошыць і свае валасці.

Прыкінуўшы яшчэ, якую адлегласць войска з артылерыяй, пяхотай і абозамі здольнае пераадолець за дзень, можна больш-менш дакладна вызначыць, калі яно будзе гатовае распачаць вайну. Атрымліваецца – зацішша можа доўжыцца не болей некалькіх тыдняў. За гэты час выведнікам трэба пастарацца як мага хутчэй высветліць, у якім месцы супраціўнік рыхтуе галоўны ўдар.

Тым не меней, разважаў Гарабурда, Іаану Маскоўскаму трэба сапраўды неадкладна нанесці ўдар апераджальны, духоўны, так бы мовіць, па ягоным самалюбстве.

Даўно маючы справу з рознага шталту звесткамі пра таямніцы жыцця імператарскіх, каралеўскіх і вялікакняскіх еўрапейскіх двароў, Гарабурда мог бы па памяці апісаць радаслоўцы бальшыні кіроўных гасудараў, маскоўца ж яшчэ падрабязней, чым венца ці шведа. У дадатак ёсць схаваныя ў акаваных меддзю скрынях канцыляры́і пісьмовыя паведамленні выведнікаў, паслоў і купцоў, роспыты палонных і перабежчыкаў, а ў дадатак – доследы гісторыкаў і нататкі летапісцаў, назбіраныя ў асабістай бібліятэцы гасудара. Гарабурда навучыўся хітра выкарыстоўваць гэтыя звесткі: калі патрабаваўся пісьмовы наказ дыпламатам для міралюбных стасункаў, падбіралася адно, для таго, каб кагосьці прымусіць злавацца, рабіць недальнабачныя ўчынкі – іншае. І нават нічога не дамысліваючы, тым болей не выдумляючы, а проста робячы нешта, чымсьці падобнае да ўмелага кухарства: што трэба падсаладзіць – дадаць мёду, а ў патрэбе процілеглай – сыпануць не шкадуючы солі, перцу ды ўкінуць паболей гарчыцы і цёртага хрэну.

У апошнім выпадку патрабаваліся менавіта гарчыца і хрэн, хаця кароль слушна падкрэсліў: адказ трэба каб быў без домыслу і варажнечы, а хутчэй з выявай суседскага шкадавання, з пераканаўчымі спасылкамі. Іаану падабаецца абапірацца на біблейскія выказванні? І яму ў адказ тое ж, але толькі з Новага Запавету, а не Старога, састаўленага да часу нараджэння Сына Божага кніжнікамі-жыдовінамі, якіх Іаан гэтак не любіць, і дзе ўсё наадварот: Хрыстос заклікае да дабрыні і замірэння нават з лютымі ворагамі, а ў Старым Запавеце – вока за вока, зуб за зуб, забі ворага і адпомсці крыўдзіцелю.

Трэба звярнуць увагу Іаана Чацвёртага, што беглы з Вялікага Княства поп Саўка-Спірыдон зрабіў ці па недасведчанасці падлог, склаўшы свой радавод маскоўскіх князёў. Хоць хутчэй за ўсё сам Іаан і прадыктаваў, што і як напісаць для прыкрыцця нібыта свайго права на захопніцтва.

## 21. Літвін у Вільні, паляк у Кракаве

Яго і ў Вільні часцей клічуць каралём, хоць для тутэйшых ён, Жыгімонт Аўгуст, імкнецца быць вялікім князем, не забываючы, што менавіта тут яшчэ саплюком-малалеткам быў абраны гасударам, калі польскае магнацтва заўзята супраціўлялася, працягваючы торг з Жыгімонтам Старым. Спадзяюцца, што ён самыя жыццяважныя пытанні вырашыць па праўдзе. О, Госпадзе! А яна, праўда, што такое? Запаветы Ісуса Хрыста? Біскуп віленскі Павел скажа, што безумоўна так. А вось павінны з'явіцца начальнікі гараджан і вядома дзеля чаго – менавіта на яго скардзіцца, на біскупа, на дзеянні зусім не хрысціянскія. А біскуп будзе ўпарта даводзіць – ягоныя

дзеянні патрэбныя дзеля ўзвелічэння касцёла, а значыць славы Гасподняй. Хутчэй, не зусім так, хутчэй, і Паўла пад старасць падбухторвае хцівасць гандлярская, але ж з князем касцёла давядзецца абыходзіцца далікатна. За ім ого якая сіла. А што з праўдай гараджан? Давядзецца сем разоў падумаць, як упадобіцца біблейскаму Саламону.

Увечары яго чакае па-ранейшаму хвалюючая сустрэча – з Барбарай! Нарэшце прывезлі ведзьмака Твардоўскага. Ад успаміну ўзняўся з-за стала, падышоў да вялікага люстэрка над камінам, таксама венецыйскага, перад ім свая варажба.

<...>

Бібліятэкар увайшоў ціха, ценем, паклаў на стол кніжачку ў выдатным пераплёце:

– Ваша вялікасць, Арыстоцель, “Палітыка”.

– Выдатна! І вось яшчэ: падбяры мне ўсё, што ў маёй бібліятэцы ёсць, пра радасловец князёў маскоўскіх.

– На сёння?

– Не, на заўтра. А на сёння – апошнія кнігі, забароненыя Ватыканам.

– Разумею, ваша міласць.

Бібліятэкар гэтак жа ціха знік. Але дзынькнуць у званочак – адразу з’явіцца. Гэтак жа, як Ленцкі. У бібліятэцы ён адчуваў сябе не так адзінока. Кнігі ўмелі падказваць, умелі падтрымліваць. Асабліва створаныя рымлянамі. Але і грэцкія. Вось мудры Платон. Яго “Дзяржава”, “Законы”. Вось Арыстоцель. Непераможнаму імператару Аляксандру Македонскаму нездарма прыпісваюць выказванне: “Калі бацьку я абавязаны жыццём, то Арыстоцелю – тым, што дае яму цану”.

Ён, Жыгімонт Аўгуст, далёка не адразу адчуў патрэбу прачытаць творы Арыстоцеля. Спачатку толькі і хапіла цярплівасці, каб адолець першую старонку “Метафізікі”. Затое ў пятнаццаць гадоў хваліўся, што прачытаў “Залатога асла”, а ў шаснаццаць нехта з італійскіх фаварытак маці падсунуў яму навэлы месіра Бакача, узрост, у якім македонец Аляксандр ужо атрымаў асноўную навуку ад Арыстоцеля. Маці, вялікая Бона, свайму сыну ні ў Кракаве, ні тым болей у Вільні падобнага настаўніка не знайшла ды і не шукала, бацька, Жыгімонт Стары, таксама падобнай адукацыяй не цікавіўся. Лічыў, сын і без грэка-рымскіх разумнікаў зможа навучыцца кіраваць дзяржавай, уважліва назіраючы за тым, як і што робіцца ў сенатах і на соймах Кароны і Вялікага Княства, гасударам якога і быў абвешчаны ўсяго васьмігадовым падшыванцам. Але ён, спешчаны ліслівай увагай прыдворных паненак маці, куды з большай цікаўнасцю прыслухоўваўся да іх шчабятання пра асалоду амурных прыгод, чымся да незразумелых размоў, а нярэдка спрэчак сівабародых пыхлівых сенатараў і крыклівых шляхецкіх дэпутатаў.

Так і ішло да сейма 1537 року, калі маладзенькі пястун-каралевіч і вялікі князь літвінаў упершыню ад тых самых не надта паважаных сенатарамі дэпутатаў пачуў пра сябе зусім адваротнае таму, што прывык слухаць ад фрэйлін і пекных кракаўскіх мяшчаначак. На сейме паслоў панства польскага! Што бяспутны і пястун абаблены, што такога і блізка нельга падпускаць да дзяржаўнага стырна, бо які з гулякі можа быць гаспадар і першы рыцар-абаронца дзяржавы?

І ўсё таму, абураліся дэпутаты, што маці, іншым занятая, шляхецкія валокі заўзята перамерваючы, не навучае таму, чаму абавязаная па статусе.

Не абмінулі палкія выступоўцы і бацьку.

– Твая міласць, наш гасудар, – звярнуўся да Жыгімонта Старога мажны кашталян Гнёзна ахмістр Апаліньскі, – нарэшце, хвала Госпаду, ты займеў сына, усёй Польшчы на радасць, здавалася б. Але ж якая радасць, твая міласць, літвінам і палякам такога гасудара будзе займець, які гартуе мужнасць сэрца і атрымлівае рыцарскую вывучку пад бабскімі спадніцамі?

– Бацька, загадай крыкунам адсекчы галовы! – абураны да лютасці, палка зашаптаў ён каралю, усхопліваючыся, каб пакінуць сейм.

Той прытрымаў сына за плячо і ціха адказаў:

– Сядзі і вучыся з годнасцю слухаць непрыемнае і крыўднае. А тое, да чаго заклікаеш, гэта – бы цмоку з казкі: адну галаву адсеклі, а на яе месцы ўжо тры новыя.

Крыкуноў тады ледзь-ледзь суняў каронны канцлер, пан Таміцкі. Абодва шляхецкія станы, сенатары і ізба зямянская, урэшце пастанавілі: каб будучы гасудар не збэсціўся канчаткова, яго ад бабскіх спадніц як мага аддаліць, дзеля чаго прызначыць надзейнага “дзядзьку” з наказам пільна наглядаць, каб каралевіч добрых рыцарскіх навук сцярог, а дурнымі справамі болей не забаўляўся. Калі ж непаслухмянасць праявіць, тады секчы лазой па патрэбе, не шкадуючы. Кароль не пярэчыў, каб сыну такім “дзядзькам” стаў суровы стары рыцар Апаліньскі.

Навучанне ў гнёзненскага кашталяна доўжылася каля двух гадоў. Настаўнік услых іншым разам шкадаваў, што вучань яму дастаўся парасткам-гулёнам, хоць і сам пан Пятро быў далёка не Арыстоцель. Але прыстойна валодаць шабляй і ўпраўляцца з канём такі навучыў. А вось секчы лазой... Ну як лупцаваць па аголеным азадку ажно вялікага князя літоўскага! Калі і здаралася за што.

Пакуль нарэшце кароль па прапанове жонкі, каб падалей ад кракаўскіх спакус, не выправіў сына ў Вільню набірацца літвінскіх звычаяў і доблесці на памежжы.

Як быццам у Вялікім Княстве не мелася пекных паненак, гатовых дагадзіць маладзенькаму каралевічу. Або панства, ахвочага да забаў. Ды ў тых жа Радзівілаў меліся нават адпаведныя дваране, якія толькі тым і займаліся, што выдумлялі пацехі. Паляванне і то без гэтага не абыходзілася, а найвышэйшая слава даставалася тым, хто адважваўся дужацца з мядзведзем.

А следам – пір. Віно, хмельны мёд – бочкамі. Тосты пад салюты з гармат і гакаўніц. Дзівосны россып феерверкаў.

Танцы! У Парыжы прыдумалі вальс, тамтэйшы кароль Анры Чацвёрты, прыўзнімаючы на руках, кружыць на сваім вяселлі Марго Наварскую, а ў Ніжнім каралеўскім замку Вільні па навошчаным да бляску дубовым паркеце юны Жыгімонт Аўгуст пад воклічы захаплення “Які Апалон!” ужо робіць тое ж. Ах, як вытанчана ён віхурыць і ўзнімае ў паветра юную пляменніцу Радзівіла Чорнага, малжонку старога рыцара Гаштольда сонечна-чароўную Барбару! І не адна кабета прамовіла з прыхаванай зайздрасцю:

– Якая магла б быць пара!

Маючы на ўвазе тое, чаго ніхто і ўявіць сабе не мог. А вось жа ўзяло ўрэшце і здзейснілася.

Прыглядаліся, каб заказаць майстру нешта падобнае, які ў яго гарнітур. Колькі гузікаў і з якіх камянёў-самацветаў. Якім чынам абшыты каўнер індыйскімі дыяментамі. А пантофлі!

Лепшыя віленскія краўцы майстравалі яму камзолы і кунтушы. Асобны ўмелец завіхаўся над адмысловасцю штаноў юнага вялікага князя, французскасць і тут павінна спалучацца з тутэйшасцю, ён жадаў, каб і па штанах яго прызнавалі за літвіна.

Гранд-кухараў у яго было два – адзін з Вены, другі – зноў жа з Парыжа. Яны спаборнічалі паміж сабой да варажнечы. Аднак абодва гатавалі выдатна. Радзівілы – абодва! – ад зайздрасці плакалі і мяняліся з твару: у Чорнага рабіўся жоўтым, у Рудага – зялёным, паведамляў заўжды вясёлы і верны Станіслаў Давойна, сваяк тых жа Радзівілаў. Той-сёй з сенатараў называў пана літоўскім Станьчыкам.

А музыка! Музыка! Спаборніцтва магнацкіх аркестраў. Гнюсна-сладастрасныя венскія валторны, балонскія надзвычай пявучыя скрыпкі, гарэзлівыя французскія цытры, гулкія турэцкія барабаны, германскія прарэзліва-пагрозлівыя трубы і нахабна-звонкія літаўры, дзіўнаватыя сіпатыя валынкі з заморскай Англіі – кожны нечым стараўся адрозніваццa.

Тым не меней, асаблівым гонарам у асяродку віленскага вышэйшага панства лічылася паслухаць рулады на лютні ў выкананні самога Жыгімонта Аўгуста. Для некаторых пані ён яшчэ і спяваў італійскія серэнады. Асабліва ж яго натхняла прысутнасць Барбары Радзівілянкі-Гаштольдавай.

Весткі пра вясёлы двор маладзенькага літвінскага вялікага князя хутка разнесліся па ўсёй Еўропе, і як матылькі на агонь, у Вільню пачалі злятацца ўсё новыя і новыя штукары-забаўляльнікі. Шчыравалі ж, само сабой, не за кавалак шэрага хлеба і куфаль піва ці медавухі, як мясцовыя смехачы-скамарохі. Адмысловасць замежных майстроў натхнялі дукаты. І гэта яшчэ так, дробязі.

Ды аднойчы, калі былы саксонскі іўдзей Лукас Вольф, якому пашчасціла стаць каралеўскім цырульнікам, ад стараннасці падцяўшы вусны, запаволена галіў яго, Жыгімонта Аўгуста, самай лепшай міланскай брытвай, бо на вечар рыхтаваўся пір у гонар госця-родзіча, інфанта французскага, дворны маршалак Іван Гарнастай, выслухаўшы апошнія пажаданні адносна дзівосаў, якімі прыём патрэбна абставіць, прамовіў ацвярэзлівае:

– Твая гасударская міласць, на гэта дукатаў ужо не хопіць, у расход пушчана апошняя капа грошай з майго куфэрка, а болей хутка пазычыць не ўдасца. І венгерскага няма за што набыць. Высокаму панству пададзім мальвазію, а меншай шляхце сталічны магістрат абяцае к вечару даставіць піва.

– Піва?!

– Так, дзесяць бачонкаў віленскай меры. Ды пан Ленцкі абяцае праз біскупа здабыць яшчэ бачонак гарэліцы. У доўг.

– У доўг? – ажно таргануўся Жыгімонт Аўгуст, у гневе забыўшыся нават пра брытву ля самай глоткі.

– А на феерверк, не ўгневайся, грошай зусім не знайшлося, – развёў рукі дворны маршалак, дабіваючы.

– Паклікаць скарбніка!

– Твая міласць, гасудар, – так і не звёўшы рукі, грузна пакланіўся Іван Гарнастай, – ці ж асмеліўся б я ад сябе толькі казаць, што вялікакняская казна зусім апусцела. Скарбнік паведаміў.

– Заўтра выдам указ аб замене, калі не здабудзе грошай. То пакліч тады падскарбія земскага.

– Я ўжо да яго падбіваў кліны, каб цябе гэтым не непакоіць, – па-мядзведжаму затаптаўся Гарнастай. – То кажа, са згоды паноў-рады нядаўна

дадзена з казны польнаму гетману нямала на новыя гарматы для ўсходніх замкаў. Ды крымскаму хану паўтузіна куфэркаў з дукатамі павезлі.

– Адносна гармат пакуль нічога не кажу, а вось навошта басурману?

– А не тое, вырашылі, Масква можа апярэдзіць.

– Падскарбія – сюды!

<...>

## 22. Нечысць у Вільні

Блізка к заходу сонца, але яшчэ не званілі ў храмах на вячэрнюю службу, у камору зазірнуў замкавы служка, па вопратцы – гасударскі дваранін.

– Ты, – буркнуў Зыху, падазрона абмацваючы позіркам, – ідзі за мной.

Зых, абапіраючыся на кульбу, паволі ўзняўся з гарохавай посцілкі. Следам лёгка ўсхапіўся Міколка, стаў побач.

– Без малога, – тон у служкі быў нядобразычлівы, нават пагрозлівы.

Як Зых ні рыхтваў сябе да такой хвіліны, усё ж зірнуў на сына разгублена. Свабоднай рукой прытуліў да сябе, з асаблівай вінаватасцю адчуўшы пад далоняй ягоную дзіцячую худобу. Скура ды костачкі. Але і сцятыя ў адно пругкімі жыламі, няхай і тонкімі, яшчэ моцы набярэ, калі ўдасца вырасці, не счэзнуць недагледжаным сіратой.

Яны сустрэліся позіркамі. Зых не здзівіўся, што на худым тварыку сына (ужо даўно лічыў малога сваім крэўным) не было і ценю роспачы, адна змагарная рашучасць, падобная на ваўчыную, зрэнкі, бы з крэменю.

– То як дамовіліся: калі мяне не будзе – адразу да пана Васіля і нікуды болей.

– Бацька, – малы аберуч ухапіў ягоную далонь і бліснуў зубамі, – але я запомню таго, хто цябе пакрыўдзіць.

Раптам імкліва падаўся да расчыненых дзвярэй і толькі там азірнуўся, перш чым знікнуць, бо, відаць, асцерагаўся, каб не затрымалі.

– Бач якое ваўчанё, – падзівіўся дваранін. – Такому галаву адарваць, пакуль малы.

Прымятая гарохавая салома, дзе ён надоечы сядзеў з Міколкам, ужо здавалася і сваім гняздом. У куце згорнутая кулем старая апратка, бы асірацелая. Там і нож.

– Сярмягу б узяць...

– Спаляць і без цябе, – у голасе двараніна непрыхаваная грэблівасць. – І дручок свой тут пакінь.

Спаляць! У ноздры быццам патыхнула ўдушлівым дымам. Хоць бы Міколка ацалеў. Відаць жа, яшчэ вернецца, а раптам схопяць.

Эх, Міколка, Міколка! Хоць і рызыкоўны, а павінен бы здагадацца, як не патрапіць у сак. На замкавым падворку, вось жа, асвойтаўся надзіва хутка. Асабліва пасябраваў з конюхамі, і ў горад з імі некалькі разоў хадзіў, глядзелі месца на плошчы каля ратушы, дзе спальваюць ведзьмакоў. Там ужо збіраюцца разявакі, радасна чакаюць відовішча, калі будуць жыўцом гарэць людзі.

У замкавым падклеце ён заўважыў некалькі такіх, каго, па словах ахоўнікаў, рыхтуюць для ачышчальнага кастра. Бачыў, як напярэдадні вялі кудысьці чарэйскую вядзьмарку, а назад ужо не вярнулася. Цяпер, значыць, ягоная чарга, Зыха, ісці на якую расправу. Але хаця б Міколка неяк здолеў ацалець!

Калі клыпаў міма каморы ўжо бліз самага выхаду з сутарэння, заўважыў, як адтуль праз прачыненыя дзверы падслепавата зіркнуў таксама, відаць, ці не вядзьмак, пра якога размаўлялі паміж сабой ахоўнікі, прозвішчам Твардоўскі, аднекуль з Падлясся, гаварылі з пачцівай бояззю. Не дзіва: да яго нібыта апоўначы завітаў ажно сам гасудар, каб разам глядзець у нейкае люстэрка, праз якое вядзьмак паказвае: хочаш – каго з памерлых, ці пажадаеш – убачыш уласную будучыню. Зых паправіў на сабе апратку, чыстую, але чужую і нязвыклую, нейкай панскай прыслугі, яе ён атрымаў замест сваёй ранейшай, кіўнуў Твардоўскаму, бы свайму, развітваючыся. Усё ў ім трымцела, бы ў ляснога звера, што ўчуў небяспеку, якой яшчэ невядома як супрацьстаяць.

А магчыма, гэты настрой у ляснога чалавека ўзнік не толькі ад таго, што яго, запалоненага, кудысьці вялі, дзе магло здарыцца з ім адно яшчэ горшае. Магчыма, гранічная насцярожанасць душы дазволіла ўчуць размову ў палацы віленскага біскупа? Бо там менавіта ў гэты час і вырашаўся лёс ведзьмака-бортніка з-пад Іванска, і не яго аднаго. Свяцейшы Валерыян з князёў Пратасевічаў пасля ўрачыстага богаслужэння (на лаціне – канцэлебрацыі) у катэдральным саборы ў памяць свайго слыннага папярэдніка біскупа Паўла Гальшанскага частаваў абедам высокапастаўленых, усе ў фіялетавых шапачках, суўдзельнікаў гэтай імшы. Надта, трэба адзначыць, удалай – прысутнічаў сам кароль, а з ім плойма літвінскіх і русінскіх магнатаў. Трапеза была посная, галоўная страва – запечаны ў цесце шчупак, але як адмыслова прыгатаваны! З адборнымі белымі грыбамі, з часныком і духмянымі спецыямі, дастаўленымі нейкім чынам ажно са святой Палесціны.

Адпаведным быў і напой. Свяцейшыя сутрапезнікі зачаравана назіралі, як стольнік засяроджана, бы валхвуючы, напаўняў чашы з тонкага венецыйскага шкла густа-чырвоным, падобным на свежую кроў віном для царкоўнага прычасця. Менавіта тады, парушаючы ўрачыстую сцішанасць, падрэ Кіпрыян, нягледзячы на сваю шыкоўную мантыю ўніверсітэцкага прафесара, больш падобны да мацёрага ротмістра, прамовіў дзве-тры фразы, у якіх іспанскае “аўтодафэ” спалучалася з русінскім “святы ачышчальны агонь”. Прамовіў так, што ноздры прысутных бы казытнуў пах дыму вялікага кастра на галоўнай гарадской плошчы.

Гэта быў адказ на паведамленне біскупа жэмайцкага, што з таго часу, як герцагства Прускае далучылася васальствам да Рэчы Паспалітай і былі знятыя заставы на мяжы з ім, адтуль усё болей і болей прыходзіць дзёрзкіх кальвіністаў, ерэтычнымі казаннямі бэсцячы Святую Тройцу ды адваджваючы прастадушных хрысціянаў ад прававернага касцёла. А ў Расіенах і Юрбарку з папушчэння каралеўскага намесніка дзяржаўцы пана Хадкевіча пратэстанты ўжо ўвогуле пачынаюць віць свае сатанінскія гнёзды – так званыя зборы.

– Што казаць пра дальнія Расіены, там яшчэ ў балатах вакол паганскага капішча ў Купальскую ноч жанкі карагоды водзяць, а то ж во, – падслепавата міргаючы, паказаў у бок вялікага венецыйскага акна няўмольна прыгнуты гадамі, але жылаваты біскуп луцкі і берасцейскі Самсон, – у трох сотнях крокаў адсюль, дзёрзка, насупроць ажно святога апостала Яна ўзводзіцца вялізны кальвінісцкі вяртэп! Брат у Хрысце Валерыян, як жа гэта?!

– Virgin Santissima![4] – бліснуўшы пярсцёнкамі на ўзнятых руках, у адрозненне ад берасцейца, які прамаўляў сваё па-русінску, на добрай лаціне азваўся біскуп віленскі. – У свяцейшага нябожчыка Паўла не спытаеш, чаму змоўчаў, калі гэта толькі распачыналася.

– Вось вынік патурання яго міласці гасудара гараджанам, – звягліва працягнуў сваё берасцеец, позіркам шукаючы падтрымкі ў біскупа кіеўскага. Год таму, па скону Паўла Гальшанскага, абодва дамагаючыся віленскай катэдры, яны, раўнуючы, заварагавалі, але цяпер шукалі, як годна замірыцца.

– Магістрат, каб і хацеў, не мог уступіцца ў гэтую справу, – сказаў патэр Кіпрыян. – Князь ваявода Мікалай Радзівіл загадаў ставіць царкву ерэтыкаў на асабіста яму належным плацы і за свае сродкі. Спыніць такое маглі хіба вялікі князь ці рада паноў, а яны ўхіліліся. Іншая рэч – можна было б натхніць паству на супрацiў, абкружаючы будоўлю днём і ноччу хроснымі шэсцямі.

– Пра што і кажу! – ад узрушанасці берасцеец нават паспрабаваў разагнуцца.

– Пошасць кальвініiсцкую разам з лютэранскай трэба было неадкладна ўсім клірам спыняць, канечне, а найперш – айцам дамініканам, самі ж назваліся псамі гасподнімі, спыняць тады яшчэ, калі толькі гэтым д'ябальскім смуродам пацягнула з Чэхіі, – біскуп Жэмайцкі казаў на лаціне, але адчувалася мясцовае маўленне. – Але ж ці не ў Велькапольшчы найперш было дазволена атабарыцца чэшскім гэтак званым братам? І ці не сам патэр Анджэй Гурка ўзяў ерэтыкоў пад апеку, даўшы магчымасць прапаведаваць, смуту сеячы. Хоць вядома ж было, чым такое ў Чэхіі выспела, грамадзянскай вайной!

Падрэ Кіпрыян, хоць ужо даўно лічыў сябе "ні элінам, ні юдзеем", дабраславёны папам Рымскім на суфрагацтва віленскае, усё ж адчуў, слухаючы блюзнерства жэмайта, крыўду за палякаў.

– З тым жа поспехам чэшскія ерэтыкі, – сказаў ён, – маглі звярнуцца па падтрымку да Радзівілаў, ці Чорнага, ці Рудога.

– Але ж пакланіліся айцу Гурку.

– Магчыма, што бліжэй. Ды і мова падобная. – на жорсткім, добра паголеным твары падрэ Кіпрыяна мільганула паблажлівая ўсмешка. – Важна, чым скончылася: ці ж не ўказ караля прымусіў чэшскіх ерэтыкоў неадкладна пакінуць Польшчу. Шкадавання варта, што тое ж не зрабіў прускі Альбрахт.

– Яно так, – у голасе жэмайта прыбавілася з'едлівасці. – Толькі ж і таго шкада, што і патэр Гурка не той урок атрымаў. Вось да яго і паспяшаўся далучыцца пробашч Пражмоўскі ў Познані. Праўда, адтуль урэшце турнулі. Дык перабраўся пад крыло ваяводскае ў Куявы і нават змог там кальвініісцкі збор змайстраваць. Дажыліся: у Кракаве жакі-студэнты са шкалярамі ксяндза (пробашча!) з касцёльным клірам на плошчы камянямі закідваюць, распусна ходзяць па вуліцах натоўпам, нейкага абнаўлення веры патрабуючы. Падвучыў зразумела хто, а вось хто дазваляе?

– Усё так, брат мой, – падрэ Кіпрыян нахіліў галаву. – Але... – у голасе суфрагата віленскага і адначасова галоўнага выведніка гасподняга, начальніка інквізіцыі Вялікага Княства ў хрысціянскую спагадлівасць пачала ўплятацца жорсткая засцярога. – Але. Брат мой, вось заўважана,

---

[4] Дзева найсвяцейшая! (*лац.*)

што двор біскупа Жэмайцкага пачалі ўтоптваць хадакі з той самай Прусіі, з Круляўца. Часцей за іншых Марцін Мажвідас.

– Сапраўды, прыходзіў і ў мяне спавядаўся, – біскуп Жэмайцкі ўпэўнена працягнуў руку да чары з віном, калыхнуў, любуючыся. – Прававерны хрысціянін.

– А вось жа ў Круляўцы пастаянна бывае ў доме ўніверсітэцкага прафесара Абрама Кульвы, заўзятага прыхільніка Эразма Ратэрдамскага, за што ў свой час быў выгнаны з Вільні. З таго ж цеста ягоны бліжэйшы сябра паэт Рапалёніс. Ерэтызму, відаць, набраўся, калі вучыўся ў Вітэнбергу.

– Ці ў Кракаве, – ківае біскуп Жэмайцкі, падціскаючы вусны. – Дзе мог навучыцца і чорнай магіі, падобна вядомаму Твардоўскаму.

– Магчыма, – пагадзіўся падрэ Кіпрыян. – Але звернем увагу, гэта ўсё атачэнне Мажвідаса. І яшчэ трэба высветліць, навошта ім услаўляць мову тубыльцаў, перакантоўваючы на яе Біблію. Ці не надта гэта сугучнае з тым, чым захапляюцца ерэтыкі ў Чэхіі, Брандэнбургу, Амстэрдаме, Ратэрдаме.

– Мажвідас здолеў стварыць кнігу – там разам з Катэхізісам, малітоўнікам – Азбука! Вершы! – на мове, якой карыстаюцца роднасныя плямёны, не толькі жэмайты, а і земгалы, аўкштоты, шмат хто з карэнных прусаў, гэта духоўна яднае ўсіх.

– У касцёле яднае лаціна, у законах – мова Кароны, польская, а не русінская, як здаецца сепаратыстам з Вялікага Княства, а тут яшчэ і нейкая мясцовая дзікая гаворка. Наадварот, яна можа стаць прычынай раз'яднання, – сказаў падрэ Кіпрыян.

– Не дзікая, а літвінская, – і без таго хударлявы твар біскупа Жэмайцкага бы акасцянеў.

– Ажно літвінская! – у голасе падрэ Кіпрыяна чуліся з'едлівасць і папрок. – У жэмайтаў з аўкштотамі і іншымі? А ці ж не сам ты, брат мой, сцвярджаеш: літва – племя з Рымскай зямлі, якое з'явілася пазней за іншых.

– Ёсць сведчанні, – упёрся біскуп Жэмайцкі. – А з часам прыхадні парадніліся з мясцовай шляхтай, даўшы таленавітых ваяводаў-князёў, з Палямона пачынаючы. Але і простых людзей з роднасных плямёнаў іншым чым не паяднаць у народ, як асветніцтвам на адной, тутэйшай мове. Так піша Мажвідас, так сцвярджае пераканаўча і самы цяпер маладзейшы з нашых асветнікаў, Даўкша Бабініч.

– Ксёндз з Кракескага прыхода?

– Прадбачу, духоўны подзвіг яго яшчэ наперадзе.

– А пачынае духоўны подзвіг з паганства, самахвальна назваўшыся літвінскім Арфеем, – з ранейшай з'едлівасцю прамовіў падрэ Кіпрыян. – Добра, хоць не літвінскім Янам Гусам.

– Я ўжо меў з аўтарам строгую размову, – біскуп Жэмайцкі кіўнуў у знак таго, што пагаджаецца з папрокам. – Сапраўды, не прыстала служыцелю святога касцёла параўноўваць сябе з грэцкім язычнікам. Даўкша шчыра пакаяўся.

– У Іспаніі, не кажучы пра Масковію, сей новы Арфей сама менш трапіў бы ў манастырскае затачэнне, а то і на ачышчальны касцёр. Чаму б яму не ўжыць свой паэтычны талент, праслаўляючы подзвігі айцоў касцёла.

– Мой недагляд, – жэмайт-літвін пакаянна ўздыхнуў і перажагнаў. – Маладым патрэбна вывучка і вывучка. Аднак тое адзначу, што язычніцкі Арфей з яго ліраў аніяк не падобны на чэшскага ерэтыка і бунтаўшчыка.

– Калі не спыніць своечасова, то можа яшчэ стаць не толькі Гусам, але і англійскім Тайлерам. – вочы езуіта нядобра бліснулі. – Бо што атрымліваецца: Мажвідас піша на мове басякоў, заўважце, пра ўціск панамі сялянаў, ад чаго, звяртае ўвагу, тыя, ад цямна да цямна цяжка працуючы, тым не меней марнеюць у жабрацтве. Дык Арфей ваш літоўскі пайшоў яшчэ далей – ужо абвяшчае вышэйшае панства, знаць адчужэнцамі, толькі што не здраднікамі радзімы! Бо цураюцца, аказваецца, простага люду, грэбуюць мясцовымі звычаямі, мовай, бачыце, ужываючы не сваю, а русінскую ці польскую. Ды гэта ж прамое падбухторванне да саслоўнай варажнечы і грамадзянскай вайны!

– Не так, брат мой, – біскуп Жэмайцкі ажно выпнуўся. – Гэта папярэджанне. Пра магчымыя наступствы. Хрысціянскі заклік задумацца. Бо ці ж не сапраўды свая мова – маці адзінства народнага, бацька грамадства і ахова моцнай дзяржаўнасці ўрэшце. Таму адрынуць яе – усё адно як парушыць Боскі парадак, пазбавіць народ спадзеву на вечнае жыццё і славу.

– Я што мушу дадаць да слоў айца Кіпрыяна, – сівая галава берасцейца затрэслася прыкметней. – Падбухторваць чэрнь гуртавацца ў нейкі асобны народ, калі ўжо ўсталявалася дзяржаўная еднасць, наша Вялікае Княства, агульная мова ў дзяржаўным Статуце зацверджана...

– Русінская! – не даслухаўшы берасцейца, рашуча перапыніў яго біскуп Жэмайцкі. – Але ж як напісаў пра сваіх палякаў іхні паэт Рэй, і літвіны ж таксама не гусі нейкія.

– А чаму б не русінская, калі яе ўсе разумеюць? – біскуп Кіеўскі аберуч таргануў срэбны крыж на грудзях. – Гэта ж колькі разоў абмяркоўвалася, пакуль сеймамі і вялікімі князямі не было канчаткова зацверджана. Дык руйнаваць тое, што стваралася некалькімі пакаленнямі нашых слаўных папярэднікаў! У нас на Украйне таксама ёсць такія, хто гатовы адмежавацца і мовай, і ўласнымі законамі, але ж ці не абавязак царквы ісціннай своечасова астудзіць занадта гарачыя галовы, каб бяды не нарабілі.

Біскуп Жэмайцкі яўна не жадаў настройваць супраць сябе астатніх князёў касцёла Вялікага Княства. Прыўзняўшы рукі і адразу да ўсіх ззяючы дружалюбнай усмешкай, ён мякка прамовіў:

– Pax! Pax, mea,[5] брація! Адно дадам, многае адбываецца з-за няпэўнасці будучыні нашай дзяржавы. Вось у нас выдатны гасудар, няхай бы Усявышні доўжыў і доўжыў ягонае жыццё. Але... Што будзе, калі так і не з’явіцца ў яго спадчыннік? Асаблівая небяспека падсцерагае тады ўскраінныя землі, дзе плямёны яшчэ да канца не паяднаныя ў адно. Ваенная навала абавязкова адбудзецца, не з аднаго боку, дык з другога, а то і з усіх разам. То каб не разбегліся тады авечкі хто куды, але аднолькава трапляючы ў ваўчыныя зубы. Лепей за іншых, канечне, перажыве бескаралеўе Польшча, бо надзейней згуртаваная ўжо і мовай, і касцёлам.

– Будынак касцёла, на вялікае шкадаванне, і там хістаецца, – заўважыў біскуп Віленскі. – Таму галоўнае зараз – усім згуртавацца дзеля супрацьстаяння найбліжэйшай вялікай небяспекі – распаўсюджання пратэстанцтва. – у голасе святейшага Валерыяна дадалося цвёрдасці, як і належала ў выраку новага кіраўніка галоўнай епархіі Вялікага Княства.

– Вось і патрэбна табе, брат мой, – звярнуўся да яго берасцеец, – прыклад паказаць, спыніўшы перш-наперш кальвінісцкія памкненні каралят Радзівілаў.

---

[5] Мір! Мір! (лац.)

– Брацiя! – бы схамянуўшыся, прамовiў падрэ Кiпрыян. – Сапраўды ў самы блiжэйшы час будзе ваярам iсцiннай веры Хрыстовай прыкметнае выпрабаванне: князь Радзiвiл Чорны ўжо на днях рыхтуецца адчынiць гэты свой палац граху, пра якi ўжо згадвалася, – кальвiнiсцкi збор насупраць касцёла святога Яна. І ўжо запрасiў на сваю пратэстанцкую iмшу яго вялiкасць.

– Караля?! – амаль у адзiн голас усклiкнулi бiскупы, ускiдваючы позiркi на высокае венецыйскае акно, за дробнымi забранымi ў свiнец шыбамi якога дагараў заходнiм сонцам дзень, абмываючы шкельцы крывава-трывожным пурпурам.

– То напярэдаднi дзёрзкай дзеi радзiвiлаўскай было б вельмi знамянальна, каб адбылася iншая – аўтадафэ. – iнквiзiтар патрабавальна дзiвiўся на твары святых айцоў, якiя нагадалi яму чамусьцi купку ўстрывожаных ваўком старых коз. – Гасудар, вы ж ведаеце, мае асаблiвую цiкавасць да валхвавання. Раней начамi дзiвiўся з мазуром Твардоўскiм у паганскае венецыйскае люстра, цяпер у дадатак сабрана з тутэйшых пушчаў i балот каля паўтузiна ведзьмакоў. Дык калi адразу некалькi бiскупаў папросяць яго вялiкасць перадаць гэтую хеўру нячысцiкаў у рукi святой iнквiзiцыi, адмовiць ён не адважыцца, мяркую. Касцёр жа ачышчэння як нiшто iншае здольны ўтаймаваць занадта iмпэтных кальвiнiстаў i iншых ерэтыкоў разам з паганцамi.

– Памолiмся, брацiя, аб дараваннi Усявышнiм цвёрдасцi духу iсцiнным служкам ягонага святога касцёла, – склаўшы далонi, урачыста прамовiў бiскуп Вiленскi.

## 23. Каралеўскі дар бортніку

На падыходзе да акаваных чырвонай меддзю велiчных дубовых дзвярэй мажны шляхцiц, якi ўзнiк аднекуль, пiльна агледзеўшы Зыха, з пагрозай у голасе папярэдзiў:

– Якая там у цябе нага, хоць драўляная, а як увойдзеш i ўбачыш яго мiласць гасудара, – адразу моўчкi на каленi i лбом у падлогу. Што спытаюць – адкажаш i зноў каб нiцма. А ўчынiш якую дурасць, запомнi, пасля гайдукi абушкамi i другую нагу пераб’юць, перш чым утапiць у вiры.

Ступiўшы ў вялiзны духмяна-цёплы пакой, Зых так i хацеў зрабiць, заўважыўшы ў крэсле побач стала з кнiгамi мажнага пана са значным, але азызлым тварам. Нос дзюбай, вiслы, з той нездаровай чырванню з сiнюшнасцю, якая ўзнiкае ў вынiку шматгадовага злоўжывання моцнымi хмяльнымi напоямi. Вялiкiя цёмныя вочы пазiралi ўважлiва, упэўнена i надзiва без усялякай пагрозлiвасцi i нават зняважлiвай пахмурнасцi, з якой паны звычайна глядзяць на сялян. Але ж, падобна, сапраўды кароль, хоць i без кароны i пазалочанага адзення. Праўда, кунтуш цi не з шоўку, пералiваецца сiнiм, жоўтым, фiялетавым i атарочаны зiхатлiвымi пазументамi.

Усё гэта Зых ухапiў хуткiм зiркам, бо адразу ж апусцiў твар долу, прымерваючыся, як бы стаць калi ўжо не на абодва калена, то хаця б на адно. Не ад страху, а паважаючы звычай. Для таго каб зрабiць гэта, спачатку сагнуўся ўдвая, абапёрся далонямi аб падлогу, стаў на здаровае калена, а следам ужо скалечаную нагу выпрастаў назад, як мага нiжэй апусцiўшы галаву.

Кароль назiраў за ўсiм гэтым са здзiўленнем, нарэшце ўсклiкнуў:

– Гэй! Што ты робіш?

– Загадалі, такі панскі звычай, а проста стаць на калені, дык у мяне, твая міласць, нага не гнецца.

– Нага не гнецца? – кароль весела засмяяўся, звяртаючыся да нейкага пажылога, але на выгляд моцнага яшчэ пана, які знаходзіўся даволі блізка ля крэсла, бы целаахоўнік. – Вось бы Станьчык зірнуў! На такое і ён не здатны. Ха-ха-ха! Хто ён?

– Яго міласць пан Давойна запэўніў, што гэта самы здатны вядзьмак у Полацкім ваяводстве.

– Не ўпэўнены, не ўпэўнены, – кароль працягваў весяліцца, але неяк нервова. – Падазраю, Станьчык Полацкі зноў пажартаваў. Ха-ха-ха! Спачатку прывялі старую кабету, якая ўмее толькі варажыць, цяпер кульгавага лесуна. Эй, падтрымайце яго, каб не паваліўся зусім! – загадаў кароль дзецюкам, што, насцярожаныя, стаялі каля дзвярэй. – Толькі не папсуйце яму яшчэ і хрыбетнік, – дадаў, бачачы, што ягоны загад выконваецца хутчэй з адваротным вынікам. – А лепей пасадзіце на лаву.

– На лаву? – перапытаў набліжаны целаахоўнік, як яго вызначыў для сябе Зых. – Такое не кожнаму шляхціцу дазволена.

– А як мне з чалавекам размаўляць, калі ён ілбом у падлогу? – кароль таргануў барадой.

Так Зых нарэшце апынуўся на невялікім услоне, дзецюкі сталі абапал, учапіўшыся яму ў плечы жалезнымі лапамі. Кароль махнуў ім:

– Усім за дзверы. Ты, Лукаш, застанься, – дадаў, зіркнуўшы на набліжанага служэбніка. І да Зыха: – А я-то лічыў, вядзьмакі здольныя нават лётаць. А ты? Ці самому сатане не дагадзіў, і той гэтак пакалечыў?

– Ат! – Зых дакрануўся далоняй да параненай нагі, яна ныла, патрывожаная. – Я ўжо казаў тваім людзям, міласцівы пане, можа, і сапраўды кулю сатана вырабіў, але стрэлілі яе з маскавіцкага мушкета.

– І вока там жа страціў?

– Амаль што. Толькі раней.

– Чыя шабля?

– Людзей маскавіцкага князя Шуйскага, Пятра.

– Дык ты ваяр?

– Рыхтаваўся ім стаць, – Зых агладзіў далонямі твар, каб не выглядаць ужо занадта расцярobленым. – Марыў выслужыцца да шляхецкай годнасці, ды, выходзіць, лёс іншы наканаваны.

– Што, на вядзьмацтва спакусіўся? То як жа ты, вядзьмак, дапусціў, каб цябе гэтак? – у голасе караля было расчараванне.

– Ніколі не пачуваўся ведзьмаком, твая васпанская міласць.

– Не бойся, смела кажы. Дык няпраўда, што ты з ваўкамі ўмееш размаўляць, яны табе слугуюць, пчолы не джаляць, кроў з раны словамі спыняеш.

– Гэтак уратаваў ротмістра Курча, ваша вялікасць, – ціха падказаў служэбнік.

– Так, Курч сам пацвердзіў, што не інакш вядзьмарствам. Ну і...

Зых напружана чакаў, вось зараз кароль вымавіць тое, чаго ён асцерагаўся, два-тры словы: “На ачышчальны касцёр ведзьмака!” – і тады канец. Але кароль змоўк, відаць, нешта абдумваючы.

– Пана Курча сапраўды ратаваў, – адважыўся Зых скарыстаць нечаканую магчымасць перайначыць вырак. – Ляснічы загадаў. Кулю дастаў з раны, кроў усяляк спыняў. Ляснымі зёлкамі, клеем пчаліным. Ну, нешта казаў

пры гэтым, нельга ж моўчкі. З ваўкамі... – прыпыніўся, раздумваючы, вырашыў – лепей без падрабязнасцей. – Хто ж на іх не крычыць, каб абмінулі? А пчолы... Мне не даспадобы, калі закурваюць дымам насмерць, каб іхні здабытак забраць. Яны заўзята стараліся, а за гэта знішчыць і абрабаваць? І ўвогуле так рабіць не па-гаспадарску. Дык сам даўмеўся і знахары падказалі, як словам запаветным пчол уціхамірваць. Ну і зёлкамі. Тады можна крыху паназіраць, бо так у іх усё разумна робіцца! Людзям бы павучыцца.

– Ну, бы Арыстоцеля чытаў! – звярнуўся кароль да служэбніка, і той засмяяўся, падтакваючы.

– Не чуў, аднак, пра такога пана, – сказаў Зых.

Тады засмяяўся і кароль.

– Што ж цябе гэтак уразіла ў пчол, – спытаў, – каб ажно разумных людзей павучаць?

– Калі разумных. А часцей... Не дай бог! – з такім шчырым пачуццём роспачы прамовіў Зых, што кароль зноў развесяліўся. – Ды хаця б і гэта, – адчуўшы цікаўнасць, ужо распаволеней працягваў бортнік. – Значыць, з дазволу пана ляснічага выштукаваў я борць, бо недалёка дупло старое з пчоламі ўгледзеў. Думалася, калі там саспее рой, хутчэй жа за ўсё ў маю борць сядзе. Так і атрымалася. Толькі ж восенню ў борці сям’я хоць і вырасла, а мёду – мізэр! У дупле ж запас значна большы, затое пчол значна меней, бо двойчы раі адпусцілі. І што вы думаеце, аднойчы гляджу: пчолы з борці, моцныя, але галаднейшыя, напалі на аслабелых суседзяўсуродзічаў, парэзалі ахову і давай рабаваць. Ажно пакуль у дупле ні кроплі мёду не засталося, і жывых гаспадароў таксама.

– Былі забітыя ці ўцяклі? – кароль пазіраў зацікаўлена, бы хлапчук.

– То ж і яно. Слухайце, – ужо зусім па-свойску, бы ў асяродку сяброўсмалакураў, працягваў бортнік. – Дык прабіў я збоку ў дрэве дзірку, доўжань называецца, каб зазірнуць у гняздо... А там пасярод нежывых пчолак – і іхняя гаспадыня, каралева.

– Мёртвая?

– Ну. Заджаленая, бо счарнелая. І гэткія ж пчолкі з яе світы.

– Значыць, адважна абаранялі сваю каралеву, як ты кажаш, да скону? – Жыгімонт Аўгуст узняўся з крэсла, падышоў да паліц і задумліва ўтаропіўся ў чародку кніг.

– Мяркую, не ўсе адважна, твая міласць, вось жа яно што, – страпянуўся бортнік. – Тыя загінулі, хто абараняўся. Але аказалася нямала і такіх, якія бралі мёд са свайго гнязда і неслі да нападнікаў.

– Во як! – кароль жвава павярнуўся да Зыха, у ягоным позірку было расчараванне.

– Ага, – пацвердзіў бортнік. – Я прыкмеціў іх дакладна, бо яшчэ ў дупле абсыпаў тонкай мукой, і яны прыляталі ў борць пабеленыя, бы з млына.

– Выходзіць, пераможаныя і застрашаныя самі занеслі свой мёд пераможцам? – вялікія вочы караля затуманіліся сумам.

– Так атрымліваецца, – пацвердзіў бортнік. – Неслі ды яшчэ і кланяліся перад чужым уваходам, упрошваліся, трапечучы крылцамі і згінаючыся пакорліва, падобна слугам, што падыходзяць да злоснага пана.

– Затое засталіся жывымі. – кароль засмяяўся, але нявесела. – Што яшчэ бачыў, бортнік?

– Ну, калі будзе на тое твая воля, міласцівы гасудар, тады скажу, што другі раз назіраў, увесну.

– Гавары.

– Таксама заўважыў сям'ю малую, бо яе гняздо мядзведзь абдзёр. Вось тая дык надзіва заўзята змагалася з нападнікамі-суседзямі. І абаранілася. Пад восень прыйшоў зірнуць – не толькі жывая, але і моцная стала.

Жыгімонт Аўгуст зноў вярнуўся ў крэсла. Пазіраючы на Зыха, прамовіў, усміхнуўшыся:

– Пра пчол я, аказваецца, і яшчэ б слухаў, часу няма... Цяпер скажы... – зіркнуў на служэбніка, той адразу памкнуў да дзвярэй, кароль спыніў яго кароткім жэстам. – Скажы, – паўтарыў, таргануўшыся. – Вось чалавеку да жанчыны ахвота ўзнікла... Забавы распачаў – а шышка-то... млявая! Ты ў такой справе дапамагаў каму? Не бойся! Вядзьмарствам дапамагаў?

Зых забраў далоняй бараду, пацягнуў уніз, нарэшце зіркнуў на караля, па-новаму ацэньваючы. Асцярожна прамовіў:

– Ды як сказаць. Чуў, некаторыя з гэтым спраўляюцца добра. А я... Ну, наш пан ляснічы такога шукаў. Дык аднойчы паклікаў мяне: дапамагай. Што ж зробіш? Я яго агледзеў і ўспомніў наказ дзеда Крывейты – не наядацца на сваім вяселлі, каб у шлюбную ноч маладая ў тваіх мужчынскіх здольнасцях не расчаравалася. І дзіцё каб зачаць добрае, асабліва на розум, хмельнага нельга ўжываць, а толькі кубачак вады з мёдам. Або вось келар нашага манастыра, у Іванску, той разгадаваў чэрава яшчэ таўсцейшае, чымся ў пана ляснічага, – Зых прыбадзёрыўся, заўважыўшы цікаўнасць да сваіх баек, – дык казаў, з бабай промаху звычайна не мае, калі дзён з пяць, а то і тыдзень папасціцца, ужываючы крыху хлеба, узвар з сушаных груш, пару лыжак прэснага мёду з горсткай арэхаў. Асабліва ж увішным робіцца, хваліўся, на трэці дзень пасля Вялікага посту, ужо наеўся крыху, але яшчэ чэрава падцяла і адчувае галадок.

– А вось у самым нізе жывата пабольвае і ад гэтага млявасць?

– Здараецца, ад вялікай напругі кіла выпне, – Зых паказаў на сабе, дзе такое можа быць, – тады рамянём падціскаюць звычайна. А проста забаліць унізе, часта дапамагае, калі пчолы разоў некалькі ўджалілі.

– Уджалілі! – кароль, уявіўшы на сабе, як гэта можа быць, таргануў плячыма і засмяяўся. – Да борці, значыць, кашулю задраўшы, падставіцца?

– Не. Лекар аднойчы да мяне наведаўся пана кашталяна чашніцкага. Цікавіўся, як зубы выдзіраю без болю, ну і пра гэта. Я злавіў пчалу за крылцы, прыціснуў пану да шчакі, ён усё і зразумеў. Спачатку трэба дзве пчалы. На другі дзень – тры, і гэтак да тузіна.

– Тузіна!

– Затым перапынак. Як ужо каму.

Жыгімонт Аўгуст зусім развесяліўся:

– Так і мой лекар здолее. Мяне вядзьмацкі спосаб цікавіць.

– На ўсё твая каралеўская воля, – Зых уздыхнуў і развёў рукамі. – Каб жа я быў ведзьмаком!

Жыгімонт Аўгуст мерыўся нешта сказаць у адказ, але ў дзверы стукнула-грукнула, яны прачыніліся, паказалася стракатая са званочкамі шапка смехача Станьчыка. На старэчым твары ззяла бяззубая, але з'едлівая ўсмешка.

– Твая каралеўская міласць! – усклікнуў Станьчык, не пераступаючы парога. – Далей мяне цэрберы не пускаюць.

– Бо не ў пару дакучаць уздумаў, – кароль паблажліва адмахнуўся.

– Хацеў толькі спытаць, каму са сваіх блазнаў першаму аўдыенцыю назначыш, польскаму, які eo rus[6], ці ваяводу полацкаму?

– Ваявода – асоба дзяржаўная, – у голасе Жыгімонта Аўгуста чулася радасць.

– Дык я што хацеў прапанаваць вашай каралеўскай міласці, – працягваў Станьчык, адпіхваючы ад сябе ахоўніка. – Чутку ўхапіў старым вухам: зноў хутка маскоўцы на Вялікае Княства папруць. То на мой розум, няма надзейней абароны, каб у памежных землях ваяводамі сталі смехачы.

– Надзвычай каштоўная прапанова, – Жыгімонт Аўгуст працягваў усміхацца.

– А то! – заганарыўся Станьчык. – У мяне галава не горшая, чым у гетмана Тарнаўскага. Нездарма пад адной зоркай нарадзіліся. Вось і прызначыў бы, ваша вялікасць, на старасці начальнікам памежнага замка. У Полацку пан Давойна, а мяне няхай па суседству – у Віцебск.

– Баюся, каб віцебцы не абышліся з табой, як раней з тваім цёзкаю.

– О! Гэта ўжо будзе занадта. Не, няхай ужо Віцебск пан Збаражскі апякае. А мяне – у Оршу тады. Ці ў Дуброўну. Дзеля чаго дзівішся? А ці ж стары Станьчык не патрыёт? Ды каб жа гэтак зрабіць, ніводзін бы нападнік далей мяжы не пратачыўся! Як дазналіся б, хто начальнікі замкаў, адразу ж усёй масквой і паваліліся са смеху. Памежніку і засталося б клопату – браць і вязаць супастатаў. Ні шабляў не трэба, ні гармат з порахам і ядрамі. Адно – вяровак назапасіць загадзя.

– Ні слова болей! – працягваючы смяяцца, прамовіў Жыгімонт Аўгуст. – Бывай здаровы! Спадзяюся, сустрэнемся ў Вавелі.

– Eo rus, мой міласцівы кароль, eo rus, – яшчэ паспеў адказаць стары скамарох, па-ранейшаму стараючыся захаваць насмешлівасць, перш чым дзверы перад ім не зачыніліся канчаткова. Быццам усё прымроілася. Ва ўсякім разе, Жыгімонту Аўгусту, такі ў яго быў выгляд.

– Ну, мой Лукаш, – звярнуўся ён да служэбніка, – перадай кухмістру, са мной вячэрае Давойна. Яму, – паказаў на Зыха, які сядзеў угнуўшыся, – дукат.

Зразумеўшы, што настрой у караля перамяніўся, і размова іхняя скончана, Зых узняўся і стаў у нізкім паклоне.

– Няхай забіраюць людзі біскупа? – служэбнік кіўнуў у бок Зыха.

Жыгімонт Аўгуст фыркнуў:

– Нягледзячы на ўсю пачцівасць да свяцейшых біскупаў, не можна перадаць тое, чаго ў нашым замку няма. А Твардоўскага – у Кракаў, разам са Станьчыкам.

Зых адчуў зноў вялікую трывогу, якая было аціхла падчас размовы з каралём. Да свайго лёсу ён ставіўся раўнадушна, але шчымела ў грудзях – а як выжыве малы, зусім жа адзін на белым свеце.

– Ваша каралеўская міласць, – прамовіў, падпільнаваўшы мімалётны зірк караля. – Калі няма болей патрэбы, то, можа, мне б дадому? Вось-вось пчолы пачнуць раіцца. А пакуль жа я яшчэ дабяруся да Чашнікаў. І сынок мой малы недзе сіратой бадзяецца. Маці ж памерла.

Жыгімонт Аўгуст паглядзеў на Зыха ўжо болей засяроджана. Слабая ўсмешка на імгненне амаладзіла яго азызлы твар.

– Дык у цябе ёсць сын?

---

[6] “Адпраўляюся ў вёску”(*лац.*). У Старажытным Рыме ўжывалася ў сэнсе – “еду паміраць”.

– Адзін гадую.

– Бортніку яшчэ дукат. – і да Зыха: – Цябе не шукаюць? Вольны?

– Хіба што маскоўцы. Тыя маё казакаванне запомнілі. – Зых асмялеў: было не было! – Папера мая з-за маскоўцаў прапала. Дык не за сябе, за сыночка непакоюся: каб хто не прыняволіў, калі падрасце.

Позірк Жыгімонта Аўгуста пацяплеў:

– Каб маскоўцы цябе пакалечылі ў часе вайсковай нам службы, атрымаў бы ад ваяводы прывілей. А так... – зірнуў на служэбніка: – Пісарчука з пяром і паперай!

Праз колькі хвілін пісарчук, паставіўшы зашмальцаваныя локці на каралеўскі стол, старанна выводзіў:

*Вільня. Жыгімонт Аўгуст Божаю міласцю кроль польскі і вялікі князь літовскі, рускі, княжа жэмаіцкі і іных.*

*Знаймуем сім нашым лістом кому будзе потреба того ведаті, нынешнім і напотом будучым, што подданы наш у власной воле Захар Гудавіч з сынком Міколаю в пушчы нашей Чашніцкай і где буде ім зручно маюць дазвол ныне і на все часы валодать бортямі нікому не замінаючы хто мел там пчол раней. А подать з того мае платіті в помере як іншыі нашы бортнікі.*

*Прыкметы сего Захара Гудовіча – росту высоковатого, кульгае на правую нагу пасля баявой раны і вока правае ж выцекшы ад шабельнай раны крывы.*

*Падпісана рукой власной*
*Sigismundus-Augustus rex*
*Пячатка каралеўская*

<...>

Яшчэ праз некалькі хвілін нікога з прыслугі ў пакоі не засталося, знік нават падкаморый. І тады Давойна падзівіўся, які каралеўскі пакой вялізны, такой палаты ў Полацку і няма. Але ад бязлюднасці памяшканне падалося нейкім нежылым, увогуле было ўражанне – недзе блізка знаходзіцца нябожчык, толькі зачараваны і таму нябачны. І невядома што патрэбна, якое слова, каб змрочнасць змянілася нядаўняй радасцю сустрэчы.

Прыгорблены стары бы з паветра саткаўся. Давойна азірнуўся на раптоўную мітусню язычкоў полымя свечак, а тут – вось ён, Твардоўскі. І кароль пазірае на ведзьмака зачаравана.

Твардоўскі, засяроджана гледзячы прама перад сабой, не кланяючыся, датупаў да стала, з-пад пахі ў яго вылузнуўся пляскаты скрутак кужэльнай шэрай тканкі, вядзьмак запаволена разгарнуў яе. Давойна дзівіўся: вось яно, таямнічае венецыйскае люстра! У серабрыстым шкле зрокамі рогана бліснулі агеньчыкі. Стары ўпэўнена дзьмухаў на бліжнія свечкі. Засталіся гарэць толькі дзве дальнія, у насценным шандале ля зацягнутага габеленам акна. Ціха сказаў каралю:

– Глядзі, твая міласць.

Жыгімонт Аўгуст сеў у крэсла перад люстэркам, зірнуў на ведзьмака:

– Мой сябра стане побач.

Імгненне павагаўшыся, Твардоўскі накрыў люстра тканкай і кіўнуў:

– Аднак пан усё адно не ўбачыць таго, як твая міласць. А цяпер засяродзься думкай пра сваё запаветнае... Яно блізка, бліжэй... – стары замармытаў няўцямна-настойліва, зняў тканку – у шкле раптам ка-

лыхнулася таямнічая цёмна-зялёная глыбіня, з якой выплывалі аблокі. – Глядзі, гасудар!

Аблокі расхінуліся... Вось яна, Барбара! Па-ранейшаму юная, пекная, вабная да шчымлення ў грудзях. Бліжэй, бліжэй... Яшчэ імгненне – і можна прыхінуць да сябе, абняць...

Але ж калі Жыгімонт Аўгуст, забыўшыся на ранейшыя папярэджанні ведзьмака не варушыцца і не спрабаваць дакрануцца да ўбачанага, усё ж працягнуў рукі, то датыкнуўся да халоднай цвердзі шкла, постаць жа любай адхінулася ў ззяючую бездань неабсяжнага блакіту, да аблокаў. Яшчэ праз імгненне клубіліся толькі яны.

На гэты раз прывід Барбары знік значна хутчэй ранейшага, Жыгімонт Аўгуст роспачна азірнуўся на ведзьмака:

– Няхай яшчэ!

– Не, твая міласць, сёння болей не з'явіцца, бо парушыў умову. Але глядзі, глядзі...

– Аблокі? Гэта лепей разглядаць з тэрасы ў садзе. – Жыгімонт Аўгуст у расчараванні грузна ўзняўся, выціраючы хусцінкай слёзы. Да Давойны: – Садзіся на маё месца, раптам яна пакажацца хоць табе.

Давойна таргануўся:

– Ніяк мне не можна ў тваё крэсла, гасудар, – прамовіў сцішана. – Але за ім – стану, адданым слугой тваё міласці. Раптам сапраўды нешта ж істотнае даведаюся.

– Угледзься,васпане, і даведаешся, што ў цябе наперадзе, – вядзьмак правёў тканкай па цьмянай гладзі люстра, і там зноў узнікла зеленавата-блакітная глыб, варухнуліся сівымі клубамі аблокі. А ў атачэнні іх на адно імгненне маладое аблічча Барбары! А вось побач...

Побач з'явілася яго, Давойны, уласная жонка! Нейкая змарнелая, значна болей састарэлая, чымся як з тыдзень таму ён развітваўся з ёю ў Полацку.

Пакаціліся вадзяныя хвалі, адна за другую вышэй і круцей, а ў іхняй каламуці, ужо чырвонай, бы крывавай, узнікла людская куламеса – падобна чужыя вайскоўцы конна, з пікамі, шаблямі, гарматамі, а стрэч ім – свая шляхта, узброеная хто чым, уступаючы з чужынцамі ў бой, а тыя наплывалі хваля за хваляй ордамі.

І што ўспрымалася з асаблівым абурэннем – нямала сваіх замест змагання станавіліся перад захопнікамі на калені ці ўліваліся ажно ў чужацкую хвалю. Прыглядаючыся, Давойна пачынаў заўважаць знаёмыя твары! А хвалі ўсё імклівей, вышэй. І ў віраванні іх зноў жа надта знаёмая постаць у каралеўскіх строях ладзіць ці то велізарную чорную труну, ці то каўчэг накшталт намаляванага ў Бібліі.

Яшчэ відзежа: ушчэнт растаптаная зімняя дарога, а па ёй калыхаецца брудны паток змарнелых людзей з вяроўкамі на шыі, значыць, запалоненыя. І так многа знаёмых твараў! А сярод іх – уласная яго жонка! Ад відовішча ў Давойны ажно дыханне заняло. Сцебанула перад вачыма нясцерпная бліскавіца – і праваліўся полацкі ваявода ў чорна-крывавую прорву без памяці.

Здалося, у непрытомнасці знаходзіўся імгненне, а ў пакоі ўжо ні люстра, ні ведзьмака, якога Давойна ўзненавідзеў так, што сам за шкірку здаў бы інквізітарам, каб спалілі. Давойна неаднойчы чуў, як ведзьмакі для сваёй нейкай карысці зачароўваюць людзей, прымушаючы іх мроіць розныя жахі, але сам з гэтым сутыкнуўся ўпершыню. І дзе!

Сноўдалі струцкасы, запальваючы свечкі ў шандалах, кароль сядзеў за сталом, назіраў, як у кубкі, рубінава паблісккваючы, льецца бургундскае.

Жыгімонт Аўгуст кіўком паказаў Давойну, каб сеў насупраць, а калі перад ваяводаю ўзнік напоўнены кубак, узняў свой:

– Глынем зелля ад самоты!

Сапраўды, віно, як заўсёды, хутка ўзняло настрой.

– Барбара і табе паказалася? – Жыгімонту Аўгусту чамусьці хацелася, каб не адзін ён убачыў нябожчыцу-жонку, зразумеў Давойна. Бадзёра азваўся:

– Убачыў! Эх, на імгненне хоць гэтак зірнуць на яе – а якая радасць.

– Але ж, мой Станіслаvус, нешта ж ты і яшчэ ўбачыў, адчуваю.

– Ат! – Давойна пакруціў галавой. – Барбару на адно імгненне, затое жонку...

– Значыць, кахаеш моцна, не паспеў разлучыцца, а ўжо засумаваў.

– Ат! – зноў збянтэжана крактануў Давойна і пашукаў абраз, каб перахрысціцца. Не знайшоў – і пераждагнаўся на паліцы з кнігамі. – Мерцвякоў процьму ўбачыў, вось што. І нібыта патоп, з хвалямі крывавымі. А твая міласць накшталт Ноя біблейскага, каўчэг ладзіш.

– Накшталт, значыць, Ноя? – Жыгімонт Аўгуст засмяяўся. – Паўтарыў: – Ной... Сапраўды, пра нешта такое думаецца. Выходзіць, і табе перадаўся мой клопат. То вып'ем, стары дружа, за ўдачу карабельшчыкаў. Ды раскажы нарэшце што-небудзь вясёлае...

## 24. Воля сената: "Nunquam!"[7]

Тайная рада вышэйшага панства, альбо сенат, збіралася б яшчэ некалькі тыдняў, каб у Вільню не з'явіліся паслы маскоўскага гасудара. Нешта ж надта хутка, калі параўноўваць з ранейшым. Двое. Думны баярын Варанцоў і галава дзяржаўнага казначэйства Сукін. У адказ на паездку ў Маскву князя Збаражскага, сенатара і ваяводы віцебскага, і маршалка каралеўскага Шышковіча.

Ад імя караля і сената Вялікага Княства іх пасылалі з прапановай вечнага міру, бо тэрмін ранейшай дамовы аб перамір'і заканчваўся, а Масква, тым не меней, загадкава маўчала. Дык паслоў Вялікага Княства болей трох тыдняў тамілі яшчэ і на падвор'і ў стане неакрэсленага чакання. То гасудар знаходзіўся на дальнім паляванні з маладым крэчатам, то ездзіў у Пясношскі манастыр да інака Васіяна Тапаркова, хоць ад гэтага Максім Грэк яго і адгаворваў, кажучы: Тапаркоў з розуму даўно выжыў. А вось жа Іаану Чацвёртаму з Васіянам гутарыць было люба. Бо на пытанне, як валадарыць, манах даваў адказ, які супадаў з запаветнай думкай самога маладога гасудара: "Глас горній мне чуўся ў часе малення за цябе: како хочаш быць ісцінна самадзержцам, не трымай побач ніводнага дарадцы за сябе разумнейшага. Ты лепей за ўсіх, разумнікі ж, як што не па-іхняму, цішком абавязкова здрадзяць. Бойся здрады". Кажуць, Іаан пацалаваў інаку руку і зрабіўся радасны і бадзёры.

Як прыстаўленыя наглядчыкі ні пільнавалі Збаражскага, той здолеў пра многае даведацца. Толькі яму аднаму Яўстафій Валовіч паведаміў імёны надзейных сяброў Вялікага Княства, з якімі ўжо наладжаны тайныя сувязі.

---

[7] "Ніколі!" (*лац.*)

Усё ж на Маскве ці не палова вышэйшага дваранства набралася калі не чыста літвінскага, то беларусінскага ці ўкраінскага паходжання, і далёка не ўсе грэбліва ставіліся да пакінутай па розных прычынах радзімы блізкіх продкаў. Ды і той-сёй з карэнных маскоўцаў не ўхваляў распальвання варажнечы з бліжэйшымі заходнімі суседзямі. Хоць было гэта смяротна небяспечна не толькі для таго, хто асмельваўся нават словам перакінуцца з “літвою”, як называлі ў Масковіі ўсіх жыхароў Вялікага Княства незалежна ад роду-племені ці веравызнання – па іхніх валадарах, а для родзічаў аслушніка да трэцяга калена: за дзеда каралі і ўнукаў, няхай малалеткаў.

Збаражскі вельмі спадзяваўся на падтрымку і парады думнага баярына князя Сямёна Растоўскага. Пра яго сказаў той жаВаловіч. Тры гады таму ён ездзіў з ваяводам Давойнаю пасламі ў Маскву гэтаксама ж ладзіць вечны мір, але дарэмна. Іаан Чацвёрты іх нават блізка не падпусціў і абедам не пачаставаў, як было прынята. Іхнюю ж даверную грамату прынёс назад дробны прыказны дзяк са словамі: не тая, бо ў ёй маскоўскі гасудар царом не названы. І як пасли не даводзілі, каб было перададзена Іаану, што да размовы пра новы тытул варта б усё ж заключыць абодвум бакам патрэбны вечны мір, праз тыдзень атрымалі загад з’язджаць прэч з пустымі рукамі. А карміцца за свой кошт.

Адно крыху і суцяшала: пакуль Валовіч валтузіўся з дзякамі Замежнага прыказа, Давойна, гаваркі, умелец пасмяшыць застольнікаў дасціпным жартам і падлабуніцца да каго хочаш, хутка займеў прыяцеляў у асяродку тых з думнага баярства, каму было дазволена пасядзець у карчме за чаркай з ахвочым да хмельнага літоўскім ваяводаю, стараючыся выпытаць што важнае пра памежныя ўмацаванні, асабліва пра Полацк. Сенат Вялікага Княства ўсяляк дамагаўся вярнуць Смаленск, маскоўскі ж гасудар мроіў дадаць да Смаленска Полацк. Найлепш ранейшым спосабам – падкупіўшы схільных да здрадніцтва начальнікаў. Так і паспрыяла пані Удача нямалым высілкам Давойны – займець у тайныя прыяцелі акрамя таго-сяго з дваранскіх дзяцей яшчэ і думнага баярына і князя Сямёна Растоўскага. І калі ўжо каля Вязьмы пасольства дагнаў гасудараў дваранін з прапановай усё ж вярнуцца ў Маскву, менавіта Растоўскі праз свайго давeранага чалавека растлумачыў нечаканы выбрык Іаана: таго пераканалі князі-ваяводы Мсціслаўскі і Курбскі ўсё ж літвінаў з пустымі рукамі не выдвараць, бо ў Вялікім Княстве будуць рыхтавацца тады да блізкай вайны, а на дарогах каля Оршы і Дуброўны ўжо напагатоў конніца ў некалькі тысяч шабляў на чале з гетманам Радзівілам. Тады як галоўныя сілы маскоўцаў адцягнуты да Казані, а яе ўзяўшы, трэба потым яшчэ абрынуцца на суседняе Астраханскае Царства. А тым часам Радзівіл, гетман умелы і адважны, скарыстаўшы момант, можа раптоўна, без аніякага аб’яўлення вайны, бы вызваляючы свае валасці, абрынуцца на Смаленск, каб следам, не атрымаўшы моцнага адпору, рынуцца і далей, на Маскву.

Іаан Чацвёрты, калі не ўпадаў у шаленства, быў здольны ацэньваць справу разумна. Вось і вырашыў: паслоў вярнуць, бы праяўляючы міласць, і заключыць перамір’е, кароткачасовае, на год. Ваяводы далікатна, каб не ўгнявіць, параілі дадаць яшчэ хаця б год, бо з казанцамі давядзецца валэндацца сама менш паўгода, а Астрахань добра, калі ўдасца заваяваць затым за год. Іаан узлютаваў, а ўрэшце пагадзіўся з дарадцамі.

Але Астраханскае Царства надзіва пад ударамі маскоўцаў заваяваць удалося значна лягчэй, чым Казанскае, хаця і там людазабойства доўжылася

многія месяцы. Масковец паслаў у Вільню ганца, каб пахваліцца значнымі перамогамі, Жыгімонт Аўгуст у адказ накіраваў свайго двараніна, Васіля Тышкевіча, з віншавальным лістом. Віншавальную грамату Іаан Маскоўскі ўзяў, аднак пра здароўе караля адпаведна звычаю не спытаўся. Не стаў размаўляць і аб падоўжанні замірэння. Адно, пачуўшы ад Тышкевіча, што той веры грэцкай праваслаўнай, задаволіў просьбу атрымаць дабраславенне ў маскоўскага мітрапаліта.

Тышкевіч меў на ўвазе пагаварыць з мітрапалітам Макарыем пра замірэнне. Той прыняў "літвіна" ўрачыста, ахвотна даў настаўленне аб ісціннасці менавіта праваслаўнай веры, як яе разумеюць у Маскве, аднак на просьбу ўгаварыць свайго гасудара стаць на шлях хрысціянскай міралюбнасці ды накіраваць паслоў у Вільню дзеля заключэння нарэшце вечнага міру паміж суседзямі-хрысціянамі, а то ж зноў можа хутка аднавіцца жахлівае людазабойства на ўцеху д'яблу, адчужана заціяўся, сказаў: перш, чым размаўляць пра што іншае, трэба, каб паны літоўскія з польскімі разам пераканалі караля прызнаць за маскоўскім гасударам яго неаспрэчны тытул – цар цароў, цэсар па-рымску, а значыць імператар. На тым і развіталіся.

Паколькі перамір'е заканчвалася, а з Масквы па-ранейшаму ні гуку, трэба было ці абвяшчаць збор шляхецкага войска і ставіць каля памежжа, каб прадухіліць магчымасць нападу знянацку, ці ўсё ж, адкінуўшы гонар, выкарыстаць апошнія месяцы замірэння і самім з белым сцягам стукацца ў маскоўскія вароты.

Між тым як масковец значна меншымі сіламі, чым разлічваў, падпарадкаваўшы казанцаў і астраханцаў, а разам уціхамірыўшы стэпавыя плямёны Заволжа, пачаў пашыраць і ўмацоўваць сабе выхад да Балтыйскага мора. Па звестках, да гэтага кроку Іаана падштурхнулі парады англійскіх купцоў, караблям якіх даводзілася, каб трапіць у Масковію, агінаючы Скандынавію, плаваць па бурлівых і сцюдзёных паўночных марах. Праход у Балтыйскае мора меўся, праз памежную раку Нарву, аднак заўсёды хочацца большага, тым болей, што Лапландыя, якая належала шведам, ахоўвалася тымі слаба.

Пачалося як быццам па дробязях, якіх і раней хапала, – з сутычак за памежныя сенажаці і рыбныя лоўлі. Але ў хуткім часе маскоўскія ваяводы з'явіліся там са свежымі сіламі, перакінутымі з поўдня. У тым ліку скараць лапландцаў з лівонцамі прыйшло на чале з царэвічам Кайбулою пятнаццаць тысяч коннікаў-астраханцаў, што прысягнулі Іаану Чацвёртаму.

Маскоўцы ўступілі ў Фінляндыю, Карэлію, асадзілі Выбарг. Сцены гэтай крэпасці праламіць з ходу, праўда, не ўдалося, затое, паколькі шведскіх войскаў паблізу было мала, лёгка гramілі іх атрады, адначасова спусташаючы і спальваючы наваколле. Знішчылі вёскі па ўзбярэжжы Ваксы, захапілі амаль не ўмацаваны горад Найшлаг. Ціхмяных мясцовых сялян – чухонцаў, карэлаў, лапландцаў, фінаў нахапалі столькі, што моцнага маладога мужыка на рынку рабоў бліз Пскова аддавалі за грыўну, а дзеўку – за пяць алтын. Старых, дзятву проста забівалі, часцей тапілі ці кідалі ў агонь. Шведскі кароль стары Густаў запрасіў у выніку міру на любых умовах. Масковец не адгукнуўся, яшчэ было нявыгадна. Даходзілі звесткі, што ваяводы і баярскія дзеці, адчуўшы смак лёгкай і багатай здабычы, прасілі гасудара, каб загадаў заадно павярнуць і на суседнюю Лівонію, ці Інфлянты, разведаўшы, што і там войска слабае, а бароны нядружныя, кожны сам па сабе, гараджане ж ільсняцца ад тлушчу, разбагацелі.

Тым часам шведскі Густаў пачаў паспешліва рассылаць ганцоў да бліжніх і дальніх суседзяў – у Вялікае Княства Літоўскае, Польшчу, Прусію, Данію, заклікаючы пакуль не позна агульнымі высілкамі спыніць небяспечную прагу маскоўца да захопу чужых земляў, што можа непазбежна абярнуцца цяжкімі бедамі для ўсіх, у тым ліку голадам і моравым паветрыем. Швед пераконваў і англійскую каралеву Марыю – не варта дапамагаць усходняму драпежніку ваеннымі таварамі і майстрамі па вырабу зброі. Цяпер гэта Англіі здаецца выгадным, але ці не спрацуе супраць яе ж інтарэсаў у далейшым.

Нарэшце ў Вільню прыйшла вестка: масковец дазволіў з'явіцца да сябе шведскім паслам, якіх перад тым доўга трымалі ўвогуле амаль у вязенстве. А тым часам запрашаліся ў Маскву і літвіны.

Вельмі разлічвалі, Растоўскі падкажа, якія ў сапраўднасці настроі ў Іаана Чацвёртага і на што можна разлічваць у часе перамоў, але перад самым амаль ад'ездам дэлегацыі ў Маскву тайны ганец перадаў: князь Сямён разам з блізкімі суродзічамі схопленыя і падвяргаюцца лютым катаванням, у выніку якіх прызналіся, што збіраліся бегчы ў Літву, а сам галава роду ачарняў цара і раскрываў дзяржаўныя тайны.

Спачатку было вырашана: выдаў родзіч, князь Нікіта Лабанаў-Растоўскі, які быў затрыманы ў Тарапцы, калі спрабаваў перабрацца праз мяжу на літоўскі бок. Затым з Масковіі паступіла ад выведніка важнае ўдакладненне: Лабанава яшчэ і не дапытвалі, калі Сямён Растоўскі ўжо быў абвінавачаны ў здрадзе. А прывёз на яго данос царскі дваранін Астаф'еў, які знаходзіўся ў Вялікім Княстве ў якасці ганца. Выходзіла, Растоўскага выдаў нехта з віленцаў.

Страта вялікая, а ўсё ж хоць і скупавата, а па-ранейшаму тое-сёе з таямніц маскоўскага гасудара дазнавацца ўдавалася. Упільнаваць днём і ноччу кожнага чалавека ахоўнікам было складана. Да таго ж, на пасольскае падвор'е Вялікага Княства маскоўцы запраторылі яшчэ і шведаў, каб спадручней было наглядаць за ўсімі ў адной загарадцы, а гэта яшчэ сто пяцьдзясят адных падвод у дадатак, з сенам, фуражным зернем, хлебам, нарэшце з падарункамі маскоўскаму гасудару, ягоным дамачадцам і думным баярам, таму людзей сноўдае як на базары, сотні, адны ўнутры, другія звонку, за варотамі, дзе і начуюць пад вазамі, аблога хоць і шчыльная, а ці ж прасочыш за кожным.

Збаражскі ў выніку загадзя дазнаўся: Іаан Чацвёрты на вечны мір не пагодзіцца, хоць бы і прызналі за ім тытул цара цароў, задума насамрэч у яго іншая – рознымі спосабамі аслабіць Вялікае Княства і Польшчу, задурыць, каб не рыхтавалася да ваеннага супрацьстаяння з Масковіяй. Вось настойліва прапануе заключыць дамову аб сумеснай вайне супраць Крымскага Ханства. Справа сапраўды нібы і вельмі слушная. Крыважэрнага цмока, які ўжо ці не стагоддзе, з часу, калі яго не дабіў Вітаўт, бо разлічваў наадварот, на ўдзячнасць і дабразычлівасць, грабіць і знішчае ўсё жывое на паўднёвых землях Вялікага Княства. Але ж заключыць дамову, што першым у вайну ўступіць Жыгімонт Аўгуст? А калі потым акажацца – масковец не толькі не паслаў і свае войскі на Крым, а дамовіўся з ханам аб сяброўстве? Паміж тым як крымчакоў абавязкова ж падтрымае турэцкі султан. Тады маскоўцам можна гуляючы дайсці да Вільні, а то і Кракава. Ці ж не было колькі разоў, калі маскоўцы адступаліся ад сваіх абяцанняў? Таму самае лепшае – проста заключыць сапраўды моцны доўгатэрміновы, а лепей бы вечны мір і па-хрысціянску захоўваць яго.

Дзеля чаго, канечне, адмовіцца ад раней захопленых у Вялікага Княства валасцей з гарадамі, перш за ўсё – Смаленска.

У адказ пачулі раздражнёнае: “Паны, како і говоріть то, чего і во сне не прігрезітся? Как тому взойті, что гніло посеяно? Только понапрасну істому прінімать. Так будем ладіть перемірье на чем стоім”.

Толькі зноў перамір’е? І ўсяго на шэсць гадоў? Што за лічба? Ды хоць бы ўжо на пятнаццаць.

Масковец як рогам упёрся: шэсць. А хочаце болей – аддайце “нашы” Белую Русь, Украіну левым берагам Дняпра.

Збаражскі рукамі развёў: “Баяры вялікія! Ды злітаваліся б, суседзі, па-хрысціянску! Гэта ж нібы жывое цела рассекчы”.

На пасяджэнні тайнай рады вышэйшае панства займала месцы, нагрэтыя яшчэ бацькамі, а то і дзядамі, новыя людзі сюды траплялі рэдка. Дворны маршалак у асноўным хутчэй дзеля прыдання важкасці сваёй пасадзе назіраў, каб захоўвалася чыннасць. На пярэднія крэслы, па даўняй традыцыі так і званыя “лавіцай”, садзіліся віленскія каталіцкі біскуп і ваявода з кашталянам, побач – троцкія ваявода з кашталянам і вялікакняскі намеснік, або староста Жэмайціі, канцлер дзяржаўны, гетманы земскі, або вялікі, і польны, які кіраваў памежнымі войскамі. Другую лавіцу займалі каталіцкія ж біскупы кіеўскі і луцкі (ён жа берасцейскі) і жэмайцкі. І ўжо за імі ваяводы земляў – полацкі, віцебскі, наваградскі, смаленскі, Падлесся, Валыншчыны, менскі, мсціслаўскі, брацлаўскі і дзяржаўны, або земскі скарбнік.

Ніжэй садзіліся запрошаныя князі і паны, за імі – прыдворныя чыны, у тым ліку вялікакняскі канюшы, крайчы, лоўчы, падкаморый, стольнік і падстолій, чашнік і падчашы, харужыя земскі з дворным, пісары дзяржаўныя, а таксама кухмістр.

Асобнай купкай тоўпіліся запрошаныя саветнікі ў даручаных ім справах. Звычайна ўсіх чалавек сорак пяць ці крыху болей. Аднак калі вырашаліся пытанні надзвычай важныя для дзяржавы, у палаце заставаліся разам з вялікім князем (зразумела – ён жа і кароль) паноў пятнаццаць, выбіраў іх канцлер. У асноўным з верхняй і другой лавіцы, а сачыў за парадкам дворны маршалак. Гэта і была ўжо зусім тайная рада, альбо сенат.

Выдаляліся падчас пасяджэння сената нават дзяржаўныя пісары, пакідаўся толькі адзін з іх, асабліва давераны, які лічыўся намеснікам дзяржаўнага сакратара-сенатара, і цяпер гэта быў Міхал Гарабурда.

Жыгімонт Аўгуст у гарнастаевай мантыі і трымаючы ў правай руцэ адмыслова аздобленае жазло – знак сваёй гасударскай годнасці, сядзеў перад панствам на невысокім узвышэнні на тронным крэсле, аздобленым адчаканеным з золата дзяржаўным гербам, на тры крокі ззаду стаялі двараNе-целаахоўнікі, а бліжэй – дворны маршалак, які выслухоўваў гасударскія распараджэнні і запыты, наглядаў за парадкам і кіраваў усімі службоўцамі ад струцкасаў да пісараў з пісарчукамі. Апошнія цешылі Жыгімонта Аўгуста сваімі маладымі тварамі і жыццярадаснасцю, якая не-не ды праяўлялася – усмешкамі, імклівасцю рухаў, нягледзячы на знешнюю стрыманасць і выявы вялікай пачцівасці да паноў-радных і дворных вяльмож. Затое сенатарскі гурт наводзіў на Жыгімонта Аўгуста ціхую амаль што роспач: на каго ні зірні – старызна і старызна. Азызлыя твары, жываты выпіраюць з багата аздобленых кунтушоў піўнымі бачонкамі, ходзяць, неяк асядаючы азадкамі на прыгнутыя ў каленях ногі. Сівыя, аблезлыя, і выглядалі б

канчаткова па нейкіх прычынах непахаванымі мерцвякамі, каб не гэта звычная пыха, не раздзьмутыя прагай ноздры, не хцівы бляск вачэй, уцягнутых у глыбіню чэрапа ў адных, а ў другіх наадварот – вырачаных, нібы іх нешта выціскала вонкі. Пераважнай бальшыні час даўно б сысці на спакой, даглядаць унукаў, але ж будуць трымацца за пасады, пакуль і дух вон. А за сваё па сутнасці бессэнсоўнае, калі не шкоднае панаванне гатовыя плаціць чужымі лёсамі і жыццямі, іншым разам і ўласных дзяцей, як тая ж Беата Астрожская, празваная літвінскай Месалінай.

Старое, змярцвелае не толькі замаруджвала, а то і ўвогуле не давала ўзрасці і расквітнець маладзейшаму лепшаму, яно разбэшчвала, станавілася заразай для парасткаў новага. Жыгімонт Аўгуст адчуваў гэта нават па сабе, таму разумеў Іаана Маскоўскага, які, па звестках, здабытых выведнікамі Валовіча, рыхтаваўся "прарэдзіць" замшэлае баярства, замяніць яго маладымі прызначэнцамі ў асноўным з бязродных дзяцей дваранскіх. Ды лепей бы Іаан гэтым і працягваў займацца, а не гуртаваў сваю згаладалую чэрнь дзеля рабаўніцтва і забойства суседзяў.

Жыгімонт Аўгуст дапытліва агледзеў панства. Так, пераважная бальшыня – мала таго, што старызна, гэта яшчэ і своекарыслівыя хітруны, багатыя пыхай і бедныя разважлівым розумам, каб вырашаць не толькі свае дробныя, а і агульнадзяржаўныя справы. Ды хутка, хутка, як не аднойчы ў запале патрабавала найяснейшая Бона, яго маці нябожчыца.

Да чаго ж мала маладых і адухоўленых твараў! Такіх, як хаця б у гэтага Гарабурды. Аб нечым перашэптваецца з запрошаным на пасяджэнне віленскім купцом Дземянцеем, у таго таксама твар, асветлены розумам. І годнасцю. У Дземянцея сяброўскія, даверныя адносіны з купецтвам Ноўгарада, Масквы, казаў Валовіч. Само сабой, ёсць надзейныя сувязі з Рыгай і лівонцамі. Веры цвёрда трымаецца праваслаўнай. Аднак нездарма і каталік, нябожчык біскуп Павел ухваліў прапанову Радзівіла Рудага менавіта яго паслаць у Маскву да ўплывовага ў гасударскай думе князя Івана Шуйскага і мітрапаліта з лістом-просьбаю паўздзейнічаць на Іаана Чацвёртага, каб прадоўжыў замірэнне дзеля гаспадарчай карысці абедзвюх дзяржаў. І ці то сапраўды клопаты Дземянцея паспрыялі, ці так абставіны склаліся, што Іаан, улезшы ў вайну са шведамі за балтыйскае ўзбярэжжа, такі даў апасную грамату на прыезд паўнамоцных дзяржаўных паслоў Вялікага Княства.

Побач туліцца, бачна, што адчувае сябе ніякавата ў шляхецкім асяродку, другі просты чалавек – Кузьма Мамоніч, спраўны купец і старшыня рады віленскіх гараджан. Разам са сваім братам, Лукашом, валодаюць крамамі, млынамі, у тым ліку для вырабу пораху і паперы. Ладзяць яшчэ і друкарню, ужо атрымалі на гэта прывілей.

<...>

– Твая найяснейшая міласць, – гучна азваўся Радзівіл Чорны, канцлер, – з твайго дазволу можам пачынаць, панства ў зборы.

– Тады, з богам! – Жыгімонт Аўгуст выпрастаўся, абапёршы дзяржак вялікакняскага жэзла на шырокі падлакотнік, надаў твару выраз самавітай велічы.

Канцлер, адступіўшы на крок і крыху наперад ад троннага падножжа, пакланіўся гасудару, павярнуўся да панства, утаропліваючы позірк у самую глыбіню залы, і ўзняўшы булаву, гучна абвесціў пачатак пасяджэння рады.

Тады з пярэдняй лавіцы ўзняўся віленскі біскуп і, бліскаючы пярсцёнкам,

тройчы асяніў панства крыжаваннем дабраславення, важка прамаўляючы на добрай лаціне:

– In nomine patris et filii![8]

Што Радзівілам не надта спадабалася. Аднак разам з усім панствам і яны ўрачыста адгукнуліся:

– Amen!

– Асвяцоныя et яснавяльможныя міласцівыя панове радныя, мае панове! – звярнуўся Жыгімонт Аўгуст да сенатараў, калі па звычаі настала пара казаць яму як гасудару. – Звяртаюся да вас, самых мудрых мужоў Вялікага Княства Літоўскага, каб пачуць вашы меркаванні адносна найважнейшых на сёння пытанняў бяспекі і годнага існавання дзяржавы нашай. Пытанняў некалькі, – Жыгімонт Аўгуст прыпыніўся, каб глыбока ўздыхнуць, а разам засяродзіць увагу слухачоў, – але першае такое: у суседняй зале знаходзяцца паслы вялікага князя Маскоўскага Іаана, чакаюць вашага пацверджання на замірэнне. Згода?

– Няхай бы і навечна, – у выгуку зухаватага Рамана Сангушкі разам з іроніяй усё ж адчуваўся і малюсенькі спадзеў на цуд.

У шэрагах панства, перад тым маўкліва-заклапочанага, то там, то тут пачуўся смех.

– Ага, падстаў, дзеўка, падол, арэхі насыплюцца, – сказаў пан Давойна, яшчэ болей натхніўшы панства на іранічную весялосць.

– Адшукаў баран воўка, во будзе толку.

– Замірыцца ўсходні сусед пагадзіўся на шэсць гадоў, – Жыгімонт Аўгуст пазіраў на сенатараў без ценю ўсмешкі. – Згода?

– Нешта ж шчодра, мог бы зноў на два, – вузкі мужны твар Сангушкі крывіла з'едлівая ўсмешка.

Чымсьці падобны да яго ваявода Жэмайціі Ян Хадкевіч таксама адгукнуўся з насміхам:

– Альбо на пяць. Усё нам была б да маскоўскіх блінцоў і лыжка смятаны. У шахі з намі гуляе масковец, такое тут міралюбства. Першы заступ у яго быў – два гады. Каб мы раптам не перашкодзілі ўпарадкаваць астраханцаў з лугавымі плямёнамі. Цяпер, падобна, заступ другі: чутна, дамаўляецца, ці ўжо дамовіўся, замірыцца на час са шведам, мы ж таксама не адмовімся... То па ўсім і выходзіць: наступная ахвяра маскоўца – Інфлянты, Лівонія. Здабыча даволі лёгкая. Я яе нават з аднымі сваімі жэмайтамі прыдбаў бы. Там вайсковай сілы і без таго мізэр, дык яшчэ ж і кожны барон як баран, толькі свой падворак сцеражэ. Іван Маскоўскі і падлічыў: чатыры рокі на вайну, а затым яшчэ два на канчатковае ўпарадкаванне і ўмацаванне крэпасцей. На гэта ён сваё цяперашняе войска і расцярушыць. А праз шэсць рокаў якраз новыя малойцы ў стэпах падрастуць. А каб тыя неўзнарок самім маскоўцам клопату ад прагаладзі не ўчынілі, Іван і штурхане гэтыя новыя орды на нас.

Панства слухала надзіва сцішана, угаманіліся нават тыя, хто з'явіўся на добрым падпітку, многім, асабліва з тых, чые маёнткі знаходзіліся ля памежжа з Масковіяй, не цяжка было ўявіць, як усё можа адбыцца.

Агледзеўшы скамянела-зацятыя твары, Жыгімонт Аўгуст спытаўся:

– То як вырашым, міласцівыя паны-радныя, зацвердзім дамову? Пан дзяржаўны канцлер?

– Куды ж падзецца, – сказаў Радзівіл Чорны.

---

[8] У імя Айца і Сына! (*лац.*)

– Пан вялікі гетман?

– Як сказаў пан Сангушка: не на два гады – і то добра, – Радзівіл Руды туды-сюды драпежна павёў дзюбатым носам.

– Пан ваявода жэмайцкі?

– Пацвярджаю, – рухі ў Яна Хадкевіча рашуча-імклівыя.

– Пан ваявода полацкі?

– А хай на яго немач і кары нябесныя! – Давойна грузна прыўзняўся нават. – Згода.

Жыгімонт Аўгуст звяртаўся да сенатараў па звычаі згодна з іх месцамі, але нарэшце проста звярнуўся ў залу:

– А можа, у каго з шаноўнага панства ёсць іншая якая думка? То auditon et altera pors. Няхай будуць выслуханыя ўсе.

Іншых меркаванняў і думак не аказалася.

– Тады прынята! – Жыгімонт Аўгуст падаў знак Валовічу і зноў звярнуўся да залы: – Але! Паслы маскавіцкія тым часам дамагаюцца, каб у гэтай нашай грамаце іхні гасудар абавязкова быў пазначаны тытулам цар.

– Во! Я ж казаў: падымай вышэй, дзеўка, падол, – усклікнуў Давойна.

Панства дружна іранічна заўсміхалася, адзін-другі хіхікнуў. Кашталян брацлаўскі нахінуўся да суседа, маршалка валынскага: “І няхай бы. Абы звягу спыніць”.

– Мы б і згодныя, – працягваў Жыгімонт Аўгуст. – Але! Вось да нас дайшлі звесткі: гасудар маскоўскі пачаў ажно ўласнай рукой выпраўляць старажытныя пролагі ды летапісы... Спытацца б: як можна? Дзеля чаго? А вось, аказваецца, дзеля чаго. Каб, спадзеючыся, відаць, на кароткую памяць людскую, з паветра, гэтак бы мовіць, стварыць доказы, нібыта Масква па спадчыннасці мае права на ўсе валасці Старажытнай Русі. А гасудары маскавіцкія па радаводу – нібыта старэйшыя, ад самога вялікага князя Кіеўскага Рурыка.

Зала загула растрывожаным пчаліным роем. Хоць бальшыня слаба ўяўляла, што было за тым варагам-конунгам, які з дружынай аднекуль са Скандынавіі перабраўся на службу ў Кіеў. Рус яго назвалі, а дружыну – русінамі, дык яны ж у Вялікім Княстве цяперашнім многія ўвогуле – літы, ці літвіны. Адно – размаўляюць па-русінску, а хто прабаўляючыся яшчэ і лацінай, на якой нібыта размаўлялі іхнія далёкія ўжо продкі. І якая ім справа да Рурыка?

Жыгімонт Аўгуст прычакаў цішыні і з іранічнай усмешкай дадаў:

– Дык пагодзімся ці скажам, няхай наш брат маскоўскі ў Хрысце дарэмна не напружваецца і не марнуе час гасударскі?

Панства развесялілася, загуло мацней і аціхла толькі, калі Жыгімонт Аўгуст гучна і важка прамовіў:

– Так, няхай бы марна не напружваўся. Бо мы ў сябе, ён у сябе. І ў нас маюцца пісьмовыя доказы, старэйшыя і больш нават важкія за тыя, якія гасудар Іаан высільваецца перайначыць сабе на карысць, сапраўдныя кідаючы ў агонь. – Жыгімонт Аўгуст працягнуў не гледзячы правую руку ў бок, і стары пісар Гарнастай уклаў у яе тонкі фаліянт у рудай старанна адпрасаванай скураной вокладцы. Не разгортваючы, Жыгімонт Аўгуст паказаў кнігу панству: – Тут доказы. Няхай наш дзяржаўны пісар Гарабурда ці сам пан Валовіч пакажуць гэта маскоўскім паслам ды паведамяць: спісы адсюль, пацверджаныя подпісамі і пячаткамі высокіх іерархаў абедзвюх цэркваў хрысціянскіх, мы перадаем у Канстанцінопаль, Рым і Вену дзеля

азнаямлення і захавання. – Жыгімонт Аўгуст вярнуў фаліянт Гарнастаю. – Дзеі, пра якія гэтыя дакументы сведчаць, запісаны ў манастырах розных княстваў – Ноўгарада Вялікага, Кіева, Цверы, кожны з уладароў якіх лічыў, што менавіта ён мае першаснае спадчыннае права называцца вялікім князем земляў Русі. – Жыгімонт Аўгуст пахітаў галавой, мружачыся, бы ўглядаючыся некуды ў далячынь паўзверх прыціхлага панства. Можа, і прымроіўшы люстра варажбіта Твардоўскага. – Русі, якая ўжо знікла за гарою часу. Мяркую, не таму толькі, што з'явіліся орды Чынгізхана, гэтая саранча, кара боская.

Дык вось, – Жыгімонт Аўгуст, бы адганяючы ад сябе прэч невясёлыя мроі, правёў далоняй па спацелым крутым ілбе і ўзвысіў голас: – То нам ці ж не ведаць, што насамрэч уяўляе сабой Масква і калі яна ўзнікла ўвогуле. Справа нават не ў тым, што паселішча называлася напачатку Куцкова, калі воласць захапіў, забіўшы законнага ўладальніка, княжыч Даніла, пляменнік князя Уладзімірска-Суздальскага Андрэя прозвішчам Багалюбскі. А ў тым, што Даніла быў усяго толькі малодшым сынам Аляксандра па прозвішчы Неўскі, выгнанага ноўгарадцамі за хцівасць і нядбайнасць, сярэдняга сына таго Багалюбскага. Па чарзе старшынства Данілу не было ніякага шанца заняць вялікакняскі стол, а толькі рабаўніцтвам сваіх жа родзічаў, хітрыкамі і заляцаннем з ардынцамі. Сын жа ягоны, Юрый, дык той ужо ўвогуле здраднік. Бо стаў збройна служыць хану, грабячы, палонячы суседзяў, званых рускімі, ды дзелячыся здабычай з татарамі. А ўрэшце наплявузгаў на свайго ж стрыечнага брата, на Міхала Цвярскога, суседа і добрага сябра нашай дзяржавы. У выніку таго князя Міхала ардынцы замучылі, а ярлыком нібыта вялікага князя за подлую службу хан узнагародзіў Юрыя. То мяркуйце самі, панове, што за спадчыннасць у суседа нашага Іаана Маскоўскага атрымліваецца, якой ён уздумаў казыраць ды з намі мерацца.

– Мерацца? – Давойна ад абурэння ажно падскочыў. – Меранне такое, што як гаворыцца, чашыся, свіння, аб вугал.

Панства дружна грымнула здзеклівым рогатам.

Засмяяўся і Жыгімонт Аўгуст. Стрымана, годна. Счакаўшы, узняў жэзл, патрабуючы ўвагі, і дадаў:

– То ў рэчышчы згаданага не толькі недарэчна, але і злонамерна нашаму суседу і брату ў Хрысце Іаану Маскоўскаму абвяшчаць сябе па праву ажно прамым спадчыннікам на ўсё і ўся хаця б і ў Кіеўскай Русі, не кажучы, што Полацк даўно ад яе аддзяліўся.

– Твая вялікасць, – падаў голас Валовіч. – А яшчэ ж князь той князь Андрэй прозвішчам Багалюбскі мала што не меў ніякага права на вялікі стол. Валадарачы на Растове і Суздалі, ён жа самахоць канчаткова адшчапіўся, выдаліўся з-пад рукі Кіева. Нават прызначыўшы сабе асобнага, аўтакефальнага япіскапа. Праўда, потым, калі прыпякло, таго свайго аўтакефала і здаў Кіеву ж, дзе святому айцу выракам мітрапаліта за аўтакефальнасць і адсеклі галаву. Мы кажам гэта нашым паслам на Маскву, каб там напаміналі праўду.

– Напамінайце таксама, – адказаў Жыгімонт Аўгуст, – тады і тое, як Андрэй Багалюбскі, хітрыкамі падпарадкаваўшы сабе Уладзімір ды саманазваўшыся вялікім князем, такім чынам стаў адшчапенцам ад Кіева. Што канчаткова і пацвердзіў, напаўшы на святы Кіеў ды, бы злы чужынец, басурман разрабаваўшы сталіцу Рурыкавічаў, абадраўшы яе храмы, а насельніцтва звёўшы ў палон, каб прадаць ардынцам. І даволі. Баста! –

усклікнуў Жыгімонт Аўгуст, наліваючыся чырванню абуранасці. – Ergo, – прамовіў на лаціне спакайней, цвёрда. – Са згоды вашай, паны-рада, і маёй, гаспадарскай, пастанаўляем адказаць паслам маскоўскім: пацвярджаем замірэнне на шэсць гадоў, хоць і дзівімся маласці тэрміну. – Жыгімонт Аўгуст прыпыніўся і зноў правёў далоняй па ілбе. – А назваць гасудара Масковіі царом... Царом няхай бы... – заўважыўшы на тварах панства недаўменне, падсумаваў: – Але каб яшчэ і ўсёй Русі... Nunquam! Ніколі!

– Ніколі! – падхапіла панства. Многія ўскочылі з месцаў, грукаючы шаблямі аб дубовую падлогу. – Ніколі!

– Амэн! – сказаў Жыгімонт Аўгуст. – Бо інакш азначала б пагадзіцца, што і землі Вялікага Княства таксама нібы спадчына маскоўца, чаго ніколі не было. І не будзе. Nunquam!

– Nunquam! – пацвердзіла ў ярасным яднанні панства. – Ніколі! Ніколі! Амэн!

## 25. Будны супраць рэбі Ісаака, а Цяпінскі супраць Гарабурды

Міхал Гарабурда выйшаў з прахалоды храма Святога Спаса з адчуваннем палёгкі ў грудзях і прасвятленнем у думках. Нарэшце паспавядаўся, шчыра прызнаўшыся ў грахах, якіх за апошнія тры месяцы такі набралася. Звычайна ён спавядаўся штотыдзень, але ж у другіх мясцінах, дзе давялося зноў пабываць, незнаёмым святарам, няхай гэта таксама ж служкі Усявышняга, адкрываць сваё патаемнае душа не ляжала. Там у храмы ён заходзіў памаліцца і запаліць свечкі перад абразамі Божай Маці і апостала Андрэя, якога папрасіў быць сабе заступнікам, лічачы, што занятак у яго даволі блізкі менавіта з гэтым святым. А спавядаўся моўчкі, гледзячы на абраз Божай Маці. Ён і свайму духоўніку, айцу Сіланцію, казаў далёка не ўсё, а проста: “Саграшыў, святы ойча. Не дзеля асабістай выгады, а вялікай добрай дзяржаўнай справы для”. – “Усявышняму гэта вядома, – адказваў духоўнік. – То ці раскайваешся ў слабасці сваёй?” І задаволіцца адказам: “Каюся, святы ойча, каюся!” Грэх будзе адпушчаны, але не названы. Усявышні і так усё ведае і бачыць, дык навошта лішняе ўслых? Бо і святару чалавечыя ж слабасці ўласцівыя. Ты скажаш яму – ён свайму начальніку, епіскапу, той, магчыма, – мітрапаліту, і тайнае становіцца вядомым не толькі ў нябеснай канцылярыі.

З другога боку, Гарабурда любіў гутарыць з духоўнымі асобамі: абавязкова нешта пачуеш патрэбнае для справы. У кожнага са святых айцоў сваё кола суразмоўцаў у часе спавядання, а разам складваецца агульнае меркаванне ажно ці то шляхціцаў, ці то купцоў, ці то простага народа аб нейкай падзеі. Не толькі каб памаліцца, а і дзеля справы Гарабурда часцяком наведваў і храмы Масквы, яшчэ калі там бываў простым пісарчуком у складзе пасольстваў. Прыслухоўваўся да размоў вернікаў, прасіў дабраславення ў тамтэйшых святароў, і з імі перамаўляўся словам-другім.

Валовіч раіў з асаблівай увагай прыглядацца да дворні Гедымінавічаў. А разам і да тых, хто трапіў у Маскву з Ноўгарада Вялікага і Пскова. Бо многія ж зусім не па ўласнай ахвоце. А калі хто і па сваёй, усё адно памятаюць пра лёс суродзічаў, пабітых, задушаных ці ўтопленых у Волхаве стральцамі маскоўскімі яшчэ па загаду бацькі цяперашняга гасудара. Не ўсе ад лютага застрашвання займелі авечыя душы. У тых жа наўгародцаў многімі стагоддзямі ў змаганні за незалежнасць гартаваўся ваярскі дух.

Значыць, будуць старацца хоць як ды адпомсціць захопнікам, калі не справай, то злым словам-праклёнам.

У царкве знаёмыя паны віталіся з асаблівым, як яму падалося, значэннем. Ужо даведаліся? Пра тое, аб чым пакуль вядома, здавалася, толькі пяці асобам уключна з каралём. А будзе агучана яшчэ праз тыдзень, на пасяджэнні сената. Там ён, Міхал Гарабурда, упершыню атрымае слова ў новым сваім званні – дзяржаўнага сакратара Вялікага Княства Літоўскага, міністра па справах замежных, як такая пасада завецца ў Францыі і Англіі, з якіх яго вялікасць Жыгімонт Аўгуст заклікае браць прыклад.

Гарабурда павярнуўся тварам да ўваходу ў царкву і размашыста перажагнаўся на наддзверную ікону.

Гледзячы на яго, перахрысціўся і пляменнік. “Іш, хрысціцца”, – з некаторай збянтэжанасцю зіркнуў на яго Гарабурда, бо ўсё яшчэ не мог прывыкнуць, што пляменнік адцураўся бацькоўскай веры, стаўшы нейкім кальвіністам.

Гарабурда адчуваў у сувязі з гэтым вінаватасць. Сястра ўжо дакарала яго за недагляд. Бо пад яго ж апеку аддала сыночка, выправіўшы з маёнтка ля Гародні ў такое распуслівае месца, як Вільня. Уга, угледзіш, калі ці не палова сталічнай моладзі братаецца з пратэстантамі. Асабліва кальвіністамі. Не дзіва: ажно магутныя князі Радзівілы – што Чорны, што Руды, – у тым аказаліся завадатарамі. Што ж, вось і ён, Гарабурда, нарэшце адважыўся на грэшнае – паглядзець зблізу і паслухаць самых адпетых прапаведнікаў так званай паноўленай веры. Пляменнік паведаміў, што з імі пагадзіўся ўступіць у спрэчку, то ёсць па лаціне дыспут, самы слынны не толькі ў Вялікім Княстве, але і ў Польшчы знаўца Старога Запавету і юдзейскіх законаў рабін з Трокаў. Пляменнік думае: вось спакусіў дзядзьку, маладзёна чакае ўрок. Тым не меней, і пра гэты грэх-не грэх духоўніку ў часе спавядання лепей будзе не казаць, а пакінуць на разгляд Суддзі Нябеснага.

Прыемна парыпвалі новыя сёдлы, але коні часта мянялі ходу на шматлікіх калдобінах, ажно паясніца пачынала ныць. Увогуле можна было б прайсціся па вуліцы і пешкі, але ж шляхецкая годнасць! Жартуюць, што добры шляхціц нават да ветру едзе на кані і з шабляй на баку. Гарабурда таксама быў узброены, пояс адцягваў корд, са срэбнай рукаяткай і срэбрам жа акаванымі похвамі – падарунак цесця. Хоць на самай справе яго зброяй і прыладамі для здабывання сродкаў на хлеб, як і ў маладосці, заставаліся гусінае пяро і чарнільніца, амаль такая, што звычайна вісіць на поясе кручкатвораў, якія шкрэбаюць на рынкавай плошчы розныя пісулькі для паспалітага люду. Адно, рынкавыя пісарчукі атрымлівалі за свае паслугі некалькі зашмальцаваных потных пенязяў, а кожны радок, выведзены ім, Міхалам Гарабурдаю, можа звінець золатам. Ці стаць нейчым жыццёвым выракам. Ужо колькі разоў яму даводзілася занатоўваць указы і прывілеі, якія падпісваў амаль не чытаючы сам гасудар. Некаторыя вялікакняскія пісарчукі ўзбагачаліся, крышачку перайначыўшы радкі, прыкладам, прывілеяў ці завяшчанняў. Рызыкі амаль ніякай, шляхта спрэс непісьменная. Тут многае залежала, не кажучы ўсё ж пра боязь рызыкі, і ад наяўнасці хрысціянскага сумлення. А яшчэ – і ад усведамлення скіраванасці сваёй службы: стараешся толькі дзеля сябе, а далей хоць трава не расці, ці хоць бы няхай і крыху, адчуваеш, калі ўжыць высокія словы, адказнасць за лёс радзімы.

Гарабурда ўсміхнуўся сваім разважанням: самапачуванне, аказваецца,

залежыць і ад таго, як ты ўладкаваўся ў жыцці, ці даўно пра такое ўвогуле не думаў. Клопат свідраваў адзін – як яму, сыну худароднага і небагатага шляхціца, утрымацца хоць бы на самай ніжняй прыступцы дзяржаўнай калясніцы. А вось жа бог даў трапіць на магнацкае застолле. Не прыслужваць, хоць і такое лічылася за ўдачы, а калі, лагодна паляпваючы па плячы, яму казалі: "Цяпер ты сапраўдны літвін, наш брат". Думаючы гэтым узвысіць і ўхваліць, а ў яго ўзнікала адчуванне – абразілі. І каб быў п'янейшым, магчыма, адказаў бы: я ведаю свой радавод з шостага калена, пра ранейшых продкаў, на вялікі жаль, толькі цьмяныя паданні. Дык вось бацькоўская радня называла сябе крывічамі. Калі ж адбылося паўсюднае хрышчэнне краю, то як і вялікі князь, назваліся русінамі, хаця і пасля ўспаміналі ранейшага бога, язычніцкага, старыя і зараз кажуць: Хрысту свечку, а Бялуну – другую. Пра літвінаў жа вядома: прыйшлі ад германцаў і папрасіліся служыць пану Полацку. А каб ім ды пераказаць паказаную ў Гамбургу тамтэйшым канонікам дарчую кляштару ад баронаў, месца, дзе гаворыцца пра сялян, якія перадаюцца! Вось гэта: "Ceteri liti, videlicet hoc est zmurdi", што на лаціне значыць – "астатнія літы, зразумела, тыя ж смерды".

Смерды! Відаць, веданне гэтай ісціны муляе нават каралятам Радзівілам, нездарма ж не пашкадавалі немалых грошай, каб набыць годнасць рымскіх князёў. Смерды германскія, і нечага задзіраць асабліва нос перад русінамі, увогуле ж усе калісьці былі, відаць, мужыкамі, напачатку, калі Усявышні аддзяляў на Зямлі Цемру ад Святла, акрамя Адама і Евы Біблія згадвае толькі змея-спакусніка ды анёлаў. Але змоўчыў. І нават усміхнуўся. Яшчэ дзед паспеў навучыць вытрымцы.

На вуліцах было даволі людна, але ніхто не бадзяўся лайдаком, за парадкам сачылі приставы гарадской ратушы. У кожнага меўся нейкі клопат, само паветра, здавалася, насычана імпэтам да дзейнасці, амаль як у ганзейскіх гарадах, парадаваўся Гарабурда. Дзякаваць Богу, знікла нарэшце млявасць пазамінулага года, калі горад яшчэ не акрыяў ад голада. Краіне толькі б працяглы трывалы мір з суседзямі. І крыху б паболей разважлівасці ў ачмурэлых ад п'янак сенатараў і дэпутатаў сейма.

То, можа, сапраўды патрэбна б цвярозасць і, кажуць, зацятая гаспадарлівасць пратэстантаў, усміхнуўся сабе ў вусы Гарабурда, аб'язджаючы мажары з будаўнічым прыпасам – круглым бярвеннем, пляскатым цёсам, свежаабпаленай, яшчэ цёплай плінфай, бочкамі з вапнай, вялізнымі мяхамі з кудзелістым мохам, ад якога патыхала хмельным водарам журавін і грыбамі. На яшчэ мінулай восенню пустых пляцах тут і там узвышаліся сцены будынкаў, у асноўным з цэглы – у Вільні зямля каштуе дарага, каб займаць нядоўгавечнымі драўлянымі халупамі, спажывай пажараў. Гандлёвыя імбары і тыя спраўныя гаспадары стараліся ўзводзіць з цэглы. Ужо гэтыя пажары! Страшней толькі вайна.

Самыя дыхтоўныя імбары ў таварыства купцоў-гасцей, тры вялізныя будыніны. Наверсе людское жытло і канторы, унізе, у падклетах – склады з таварамі. Вароты крыж-накрыж акаваныя жалезам. Уваходныя дзверы таксама, ручкі і клямкі медныя.

Асабліва дыхтоўна выглядае імбар-гелда Лукаша Мамоніча, амаль што абаронча ўмацаванне. Яно так і ёсць, бо тавараў там, кажуць, на многія сотні талераў – ад індыйскіх прысмакаў і перлін і кітайскага шоўку, кітайкі, да англіцкага сукна і вырабаў з іспанскага золата, прывезенага на караблях аднекуль з Новага Свету. Размах! А не так і даўно бацька ягоны, Мамона, гандляваў у Магілёве ў суполцы з жыдовінам быдлячымі скурамі.

Талент у чалавека і адмысловы розум на гаспадарчыя справы. Не спаў у шапку, своечасова ўцяміў, як на прыбытак скарыстаць Магдэбургскае права. Вось яно, новае, да якога так варожа ставяцца ўладары дзяржавы, свецкае і царкоўнае магнацтва.

А Мамонічы ўжо і на гандлі кнігамі спрабуюць узяць прыбытак. Малодшы, Кузьма, займеў папяровы млын і майструе пры ім паперню. Да яго і накіроўваецца Гарабурда з пляменнікам. Само сабой, не з-за адной толькі нагоды паслухаць Сымона Буднага, якім пахваляўся ажно сам Радзівіл Чорны, прыкмеціўшы гаваркога кальвініста недзе ў Мазовіі. Падобных мазурыкаў у Вільню бог Удачы падкідвае пастаянна – ад астролагаў з алхімікамі да персідскіх магаў з маскавіцкімі ерэтыкамі, якіх у Вільні ніхто не чапае, калі не парушаюць законаў Вялікага Княства. У Заходняй Еўропе і то з гэтым людам абыходзяцца круцей. Асабліва апошнім часам, калі ў дадатак да святой інквізіцыі з яе імпэтам да аўтадафэ, прылюдных спальванняў розных ведзьмаў з ерэтыкамі, чым займаліся “псы гасподнія”, як называюць сябе дамініканцы, прыбавіўся яшчэ адзін падобны ордэн, святога Ісуса. У Польшчы езуіты ўжо дзейнічаюць, значыць, чакай у хуткім часе і ў Вялікім Княстве.

Кажуць, гэта адказ папы Рымскага на пашырэнне дзейнасці пратэстантаў – рэфарматараў хрысціянскай царквы. Сапраўды, іх распладзілася нямала. Не паспеў вызначыцца Лютэр, як з’явіўся болей за яго небяспечны для каталікоў прарок – Кальвін. Ды следам яшчэ навейшыя, з яшчэ болей рашучымі прапановамі – не толькі сілай распаўсюдзіць свабоду, роўнасць і братэрства, а і дзяржавы знішчыць, бо з-за іх жа ўсюды прымус да рабства простага люду і войны. Царкоўнікі ж, прыляпіўшыся да ўладароў, цішком адцураліся Хрыста, толькі выгляд робяць, што служаць яму, насамрэч жа – сатане.

Паспрабуй тут зразумець, каму верыць і ў які бок хрысціцца, уздыхнуў Гарабурда, разглядаючы вялізны гадзіннік на вільчыку ратушы, дзе таксама была адмыслова выштукавана выява ўкрыжаванага Сына Божага. Ужо не на царкоўны, а на гадзіннікавы звон прызвычаіўся люд віленскі прымяркоўваць свой жыцёвы клопат – калі ўставаць раніцай, а калі гасіць агні ўвечары, з малітваю да нябёсаў кладучыся спачываць. Бо якога бога за самага правільнага ні прызнаваў, а нябёсы адны, сонца адно і родная зямля пад імі таксама. І што за справа простаму люду – сонца круціцца вакол Зямлі ці ўсё наадварот, як угледзеў нядаўна на сваю галаву кракаўскі вучоны дзівак Капернік.

Побач з будынкам ратушы – высачэзны чорны крыж. Напамін пра тых семярых інакаў ордэна святога Францыса, якіх у час панавання вялікага князя Альгерда ваявода віленскі Гаштольд запрасіў у горад, каб распаўсюдзіць рымскую веру. А гараджане не захацелі мяняць ранейшую і францысканцаў за залішнюю ўпартасць забілі. Словам, і боскую справу робячы, не варта забывацца пра далікатнасць.

Бліз крыжа – чорны слуп ганьбы. З аднаго боку прымацаваны ланцуг, з другога – “рука” вісельні з прасмоленай вяровачнай пятлёй. Цяпер яна пустая, але часцяком тут хто-небудзь гойдаецца з пасінелым тварам і вываленым апухлым языком, забойцы, канакрады, рабаўнікі. Побач жа, пасярод шэрага папялішча, яшчэ адзін слуп – жалезны. Тут час ад часу такі гараць пад малітоўныя спевы святых айцоў розныя ведзьмакі. Не так часта, як у Кракаве, тым болей у Рыме ці Парыжы, але шугае, шугае і тут полымя святога ачышчэння, каб меней было працы чарцям у пекле.

Падалей ратушу абступаюць невялікія лаўкі – клеткі. У адных гандлююць соллю, у другіх маслам і сырам, у трэціх тканінай, у чацвёртых – воскам і свечкамі, у пятых – розным рыззём і драбязой, хто з гандляроў на што купіў дазвол ад гарадской управы, сірэч магістрата. Яшчэ далей, на водшыбе змрочна шарэе турма-вязніца.

За ратушай на правым баку вуліцы Вялікай, адразу як мінуць Конную – каля абнесенага дубовым высокімі тынам Гасцёўнага двара жалудамі ільсняцца два дамы Мамонічаў, у кожнага з братоў асобны, толькі сад агульны.

– Не, дзядзька, нам туды, – паказаў сынавец на іншы дом, бліжэй да Траецкай гары.

– Ты ж казаў – да Мамонічаў, а там жа, як мне помніцца, харомы Зарэцкага, – усумніўся Гарабурда.

– Але пакуль ты, дзядзька, кланяўся кіеўскай Сафіі і вандраваў за Гомлем, пан Зарэцкі паспеў прадаць гэты дом сваякам, Мамонічам, а сабе набыць лепшы, бліжэй да ратушы.

– Аднак разбагацелі купцы!

– Памяшканне тут надта для друкарні прыдатнае, – патлумачыў сынавец, які быў з Мамонічамі ў добрым знаёмстве на агульнай ніве захаплення кнігавыдавецкай справай. – Яшчэ ж бурмістр Якуб Бабіч тут пачаў яе абсталёўваць. Аднак да ладу давесці не асіліў, то і прадаў з домам Зарэцкаму, а той цяпер – Мамонічам.

– І Мамонічы, значыць, адцураліся бацькоўскай веры?

– Дакладна сказаць цяжка. Усё ж, мяркую, будуць там, дзе выгадней іхняму промыслу, – вырашыў урэшце сынавец.

Гарабурда засмяяўся:

– Во як. А ты, ты, мой любы пляменнік? Упэўнены, што табе выгадна менавіта з кальвіністамі?

– Гэ, дзядзька міласцівы, – Гарабурда-малодшы таксама гучна засмяяўся. – Ты куды лепей за мяне ведаеш князёў Радзівілаў. То няўжо лічыш, яны рабілі б нешта сабе ва ўбытак?

– Э, гэта як у каго атрымліваецца, як у каго, кажу. Асабліва ў справах веры.

Так размаўляючы, Гарабурды пад'ехалі да былога дома Івана Зарэцкага, а раней – Бабіча. Бліз самых варот іх сустрэў увішны казачок. Казачок прыняў коней, каб прывязаць і даць сена, у той час як сам гаспадар, старэйшы з братоў Мамонічаў, Лука, ужо здалёк прывітальна-радасна кланяўся, а наблізіўшыся, сардэчна запрасіў у дом.

На прывязі ля моцнага частакола ўжо знаходзілася некалькі коней пад сёдламі, але з адпушчанымі падпругамі, а падалей стаяла распрэжаная калымажка, добрых дзве траціны якой займаў скураны намёт, адкуль з цікаўнасцю, але насцярожана зіркаў зарослы чорнай кучаравай барадой дзяцюк, па знешнім выглядзе, шапцы і ўсёй вопратцы Гарабурда лёгка пазнаў юдзея. Гэта не здзівіла, маючы на ўвазе і гандлёва-прамысловую дзейнасць Мамонічаў, у якой, вядома ж, меней за ўсё адрозніваюць эліна ад юдзея, і паведамленне пляменніка пра мудраца-кніжніка з Трокаў, які на вагах здаровага сэнсу, бы ліхвяр золата, узважваў словы ажно біблейскага цара Саламона.

– Пан міласцівы Міхал Гарабурда і сынавец ягоны Васіль! – абвесціў гаспадар прысутным. Сам. Ці дзеля асаблівай пачцівасці, ці таму, што Мамонічы яшчэ не трымалі дварэцкага, эканомячы.

Гарабурда з пляменнікам, вітаючыся, пакланіліся на тры бакі. Старэйшыя з прысутных сядзелі за доўгім сталом, а маладзейшыя – хто разглядаў кнігі на дзвюх палічках блізка ля ўваходу ў залу, хто дзівіўся на камін, на якім таксама знайшлося што паглядзець. Гарабурдам таксама ветліва кланяліся, а гаспадар называў імёны.

– Брат мой малодшы, але ўжо і сівы – Кузьма, бурмістр віленскі... А гэты дзяцюк – сын ягоны, Лявон, вершаскладальнік і кніжнік, замест таго, каб добрай прамысловай справай займацца.

Дзядзька хоць нібыта і пасміхаўся з кніжных заняткаў пляменніка, але бачна было, што і ганарыўся. Гарабурда параўнаў маладога купца са сваім пляменнікам-шляхціцам і знайшоў падабенства: новае пакаленне расло больш адукаваным, а мабыць, і разумнейшым за бацькоў. Хоць і тыя для гэтага пастараліся. На кепска ўробленым полі буяюць хіба бур’ян з крапівою.

– А гэта пан Васіль, з краю Полацкага рыцар, гаспадар Цяпіна і іншых маёнткаў.

Гарабурда Цяпінскага крыху ведаў, таму, вітаючыся, ледзь прыкметна ўсмешліва падміргнуў: маўляў, вось дзе цяпер добрыя шляхціцы могуць сустрэцца, у простых месцічаў.

– Вельмі вучоны муж, вядомы ў Кракаве і землях германскіх, італійскіх і англійскіх, пастыр і брат наш у Хрысце Сымон з Буды Мазурскай, – працягваў Лука Мамоніч прадстаўляць прысутных.

На Гарабурду прыязна, але дапытліва глядзеў невысокага росту, з жоўтай лысінай на ўсю галаву, так што пасівелыя валасы заставаліся толькі каля вялікіх вушэй і на патыліцы, чалавек у простай цёмнай вопратцы, падобнай на тую, што звычайна носяць прыхадскія святары. Па знешнім выглядзе не вызначыць, чым ён мог настолькі прывабіць Радзівілаў, што тыя не толькі слухаюць яго казанні, а пасялілі ў сваім Нясвіжы і нават даюць грошы на кніжныя патрэбы.

Аднак яшчэ цікавейшым паказаўся Гарабурдзе другі адмысловы прапаведнік, юдзейскі. Сівыя кучаравыя валасы на галаве ажно задзіраюцца на чорную аксамітавую шапачку на макушцы, гэткія ж пейсы, магутная шырокая барада, позірк запалых цёмных вачэй пранізліва-ўсмешлівы.

– Пачцівы рэбі Ісаак бен Абрам з Трокаў, – назваў старога Лукаш Мамоніч, і заўважна было, што гаспадар прамаўляў гэта ці не з большай нават і сапраўды пачцівасцю, чым калі прадстаўляў Буднага. – Надта вучоны кніжнік... – на імгненне перапыніўшыся, – і бацька добрага купца нашай гільдыі Сымона Троцкага.

– Якога вы такі спакусілі ўчыніць вялікі грэх, – з’едліва і надзіва гучным голасам азваўся на гэта рабін Ісаак. – Маё неразумнае дзіця! Стаў гоем! Такая ганьба на маю галаву!

– Пачцівы рабін, – азваўся Будны, – дарэмна гневішся на сына. Наадварот, гэта надта разумна – ахрысціцца, прыняць веру народа, з якім наканавана паяднацца ў братэрстве.

– Паяднацца? Прыйдзе час, і мой народ такі вернецца на зямлю сваіх продкаў. – голас Ісаака бен Абраама набыў асаблівую ўрачыстасць. – Але вернецца без майго сына, вось яна, ваша вера!

– Мушу сказаць, аднак, яна ж ці не ў вашым народзе выспела, – ускінуўся Будны. – А ці ж не ў Ерусаліме прапаведаваў Хрыстос і там жа за святую ісціну жыццём ахвяраваў! А святыя першыя апосталы... Яны з якога племені?

– Якія апосталы?! – усклікнуў Ісаак бен Абраам. – Невукі і бадзягі. Ленаваліся працаваць, не падпарадкаваліся старэйшым, вось мянташылі языкамі, казкі выдумляючы для зману даверлівых.

– Выдумляючы?! – Будны ад абуранасці ажно прыўзняўся.

Ісаак бен Абраам таксама ўжо стаяў, абапіраючыся кулачкамі аб сталешніцу і ваяўніча пабліскваючы вачыма. Сівыя валасы над ілбом віліся німбам.

– Пане доктар Будны, – у яго голасе чулася ўжо не насмешлівая лагода, а з'едлівасць. – У мяне ёсць спісы многіх, калі не ўсіх тваіх казанняў і твораў. Я заўважыў, і мая навука табе на карысць.

– Пачцівы рабін, – Будны пакланіўся, – сведчу, менавіта ты навучыў мяне чытанню манускрыптаў, напісаных мала цяпер каму вядомай мовай тваіх паважаных продкаў. Так мне адкрылася многае.

– Ага! – страпянуўся Ісаак бен Абраам. – Дык вось ніхто ў Еўропе, ні Лютэр, ні Кальвін, ні Мор, ні Эразм з Ратэрдама, ні нават няшчасны Сэрвэт больш пераканаўча не даказалі, чым змог ты, што бога, званага Ісус Хрыстос, не існавала. Яго...

– Высокашаноўны настаўнік! – перапыняючы, усклікнуў Будны, наліваючыся чырванню. – Я скажу іншае.

– Не, гэта я скажу, – упарта нагнуў галаву Ісаак бен Абраам. – Скажу, ты адзін з нямногіх, каму ўдалося так глыбока і дакладна прачытаць святыя тэксты. Дык сваімі вачыма бачыў, напісана, што сам Бог даў знак: вось жанчына зачне і народзіць сына і назаве яго імем Імануіл. Але ж грэцкія, а за імі іншыя не надта адукаваныя перакладчыкі, дакладна не разумеючы старой мовы нашай, слова "альма" пераклалі як "дзева". Ну? Дык у выніку ў гэтых разумнікаў увогуле ўзнік нейкі яшчэ і дух! Які, не маючы цела, тым не меней здолеў утачыцца ў лона альма, па-іхняму дзевы. Калі ў Святым Пісанні адзначаны ўсяго толькі стан надвор'я: руах мэрахэфэт, што ты, чалавек дасведчаны, зразумела ж, перакладзеш па-вашаму, што веяў вецер. А хрысціянскія невукі пераклалі: над дзяўчынай рэяў Дух Святы! Ну? І дух той, бачыце, без належнай плоці альма такі зацяжараў! Ну? Я кажу: падумайце цвяроза, ды навошта гэтыя нізкія хітрыкі занядбанага штукара з рынку ўсемагутнаму Богу! Ну?

– Тут я згодны з табою, пачцівы рабін, але ж паслухай, – паспрабаваў Будны перавесці размову на іншае. Дзе там!

– Чуеце? Ён такі згодны, – выкрывальным жэстам паказаў на яго Ісаак бен Абраам. – Не, толькі паслухайце, паважаныя. А я кажу: дык мала тым невукам выдумаць Усявышняму дзеля падмогі нейкага духа, яны яшчэ і Імануіла замянілі на Ісуса Хрыста! І абвесцілі ажно новым богам! Але ж Усявышні адзін. Адзін, і іншага быць не можа. Бо – вечны!

– Пачцівейшы Ісаак! – усклікнуў Будны. – Я адносна твайго Мануіла нічога не кажу. І Усявышні, так, адзін. Але Хрыстос ісцінна нарадзіўся.

– Такі нарадзіўся? – з'едліва перапытаў Ісаак бен Абрам і, бліснуўшы вачыма, адсунуў ад сябе падалей зэдлік.

– Ісцінна, – упарта нагнуў галаву Будны. – Ты, настаўнік, навучыў мяне дакладна чытаць старажытныя вашы тэксты. Дык і іх чытаючы, я знаходзіў доказы. Паслухай хаця б гэты.

– І слухаць не хачу! Нездарма сказана: не дапамагай гою разумець Святое Пісьмо наша, бо цяжкі грэх і пакаранне за яго. Я – грэшны, я – грэшны! Пайду прэч ад цябе. – стары строга пакланіўся гаспадарам.

– Пачцівы госць, – заступіў яму дарогу Лука Мамоніч, – ты б не

крыўдаваў. Размова, яна для таго і размова. Ты казаў – табе адказвалі, і толькі. Просім, паснедай у нас.

– Што крыўдаваць на таго, хто яшчэ не прачнуўся для ісціны, – адмахнуўся Ісаак бен Абраам. – То спадзяюся, можа, яшчэ адумаецца.

І патупаў да дзвярэй, абапіраючыся на посах, але рашуча.

– А я кажу, – сказаў яму ў спіну Будны, – сам бы нарэшце ўцяміў праўду, хаця б і свайго сына. Ох, адчуваю, нацерпіцца ж яшчэ твой народ ліха з такімі пастырамі і старым кумірам!

Не адказваючы, толькі зноў годна пакланіўшыся ўжо аднаму Мамонічу, троцкі рабін знік за дзвярыма.

Цяпер ужо Будны стаяў, упёршы сціснутыя кулакі ў адглянцаваную дубовую сталешніцу. На вуснах яго блукала іранічная ўсмешка. Але ж упарты не меней за юдзея! – падзівіўся Гарабурда.

У зале ўзнікла сцішанасць, усе сядзелі апусціўшы вочы. Асэнсоўвалі пачутае, такое незвычайнае, што і Гарабурда паддаўся агульнаму настрою. Пакуль не загаварыў самы малодшы з Мамонічаў:

– Але ж ты, дзядзька, – пасміхаючыся, звярнуўся ён да Буднага, – і сам лічышся хутчэй жыдовінам, чым ісцінным хрысціянінам, а вось жа здолеў пакрыўдзіць самага ўплывовага юдзея ў нашым краі, а то і ў Польшчы.

– Праўда разумнаму не ў крыўду, браце Лявон. – Будны правёў далоняў па спацелым і ўсё яшчэ пачырванелым ілбе. – Што да троцкага рабіна, ён сапраўды розуму як быццам нямалага і ўважліва прачытаў не толькі юдэйскія старазапаветныя Талмуд і Тору. Але ж усё гэта яму аказалася, баюся, як пужліваму каню шоры. Бач, нават уласнага сына ганьбіць, а дарма.

– Значыць, ты, дзядзька Сымон, толькі задзіраў троцкага рабіна, каб спрэчку абвастрыць, а насамрэч прызнаеш, што Ісус Хрыстос – роўнавялікі са сваім бацькам нябесным?

Адказ быў кароткі, рашучы і ашаламляльны:

– Хрыстос – не бог.

Прысутныя ў гасцёўні дружна ахнулі, зіркаючы адзін на аднаго, нібы пытаючыся позіркамі: “Мы сапраўды чулі такое?” Юдзей казаў перад тым – няхай, сам абазначыўся чужынцам, хоць і жыў са сваім народам побач з тутэйшым людам ужо стагоддзі. Побач, але як аказваецца, не разам, не заадно, тутэйшыя нікуды сыходзіць не збіраліся, тады як суродзічы троцкага рабіна, па яго словах, нават маліліся ў бок нейкага заморскага краю, куды іхні бязлітасна-суровы бог загадваў вярнуцца. Зусім іншае ўражанне атрымалася, калі тое ж адносна Хрыста выказаў чалавек свой, паважаны ажно Радзівіламі суайчыннік і нібыта хрысціянін па веры.

– Божа, даруй, што я такое слухаю! – размашыста хрысцячыся, усклікнуў Кузьма Мамоніч.

Пачалі абмахвацца крыжаваннем, ачомаўшыся, і астатнія ў гасцёўні. Лука Мамоніч, хрысцячыся, так і спыніўся ў дзвярах, бы вагаючыся ўваходзіць. Хрысціліся і прыхільнікі Буднага. Аказалася, адна справа – пагадзіцца з нечым гэткім у душы і зусім іншая – прылюдна рашуча вызначыцца пратэстантам.

– Ён – так, Сын Божы, але ж і ўсе мы – дзеці Усявышняга. – Будны казаў ужо зусім спакойна і так упэўнена, быццам сведка таго, што адбылося болей за тысячу рокаў таму назад недзе за далёкім морам, у месцы амаль казачным.

– Ён-та сын, апосталы сведчаць, аднак людзі не роўня яму, бо рабы

Гасподні, такая розніца, – рашуча заўважыў Лука Мамоніч. – Я Біблію тройчы чытаў.

– На якой мове? – у позірку Буднага цеплілася ласкавае шкадаванне блізкага яму па духу чалавека.

– І на старабалгарскай, і ў перакладзе доктара Скарыны полацкага.

– Ужо гэтыя перакладчыкі! – Будны ўздыхнуў. – Так, балгарскія браты для хрысціянскай сяўбы ў нашым краі многа зрабілі, ды і подзвіг Скарыны слаўны на векі вечныя, але ж пераклады іхнія адкуль? Зператлумачанага візантыйцамі. Самі чулі, так і троцкі рабін казаў. І ён жа заўважыў хібу, а мо і грэх перакладчыкаў: ці то не надта ведалі тонкасці старажытнаюдэйскай мовы, ці і з куды горшай прычыны, але ўчынілі перакрут. Калі першае – сляпцы. А сказана ў Святым Пісанні: ашчэ ж сляпы сляпога вядзе, абое ў яму ўпадатася. Калі ж другое – грэшнікі, бо асмеліліся выканаць сатанінскае. Падумайце, – Будны працягнуў рукі да сцішана-збянтэжаных слухачоў, бы трымаючы перад імі нешта важкае і велізарнае. – Падумайце, – паўтарыў, – каму патрэбныя рабы. Усявышняму і ўсемагутнаму? Навошта? Ён дзяцей сабе стварыў, таму і падобнымі сабе, іначай былі б чалавекі валамі, свіннямі ці сабакамі. Стварыў, каб сусветнай сваёй шматвяковай адзіноты пазбавіцца.

– Для гэтага ў яго анёлы, – сказаў Гарабурда ў падтрымку Лукі Мамоніча.

– Брацці мае, – жвава адгукнуўся Будны, ласкава аглядаючы сваіх слухачоў, – упэўнены, усе вы ўважліва чыталі Святое Пісанне. Няхай у нейкіх месцах не надта дакладна перакладзенае. То ўспомніце, ці згадваецца дзе, каб анёлы рабілі дарогі, касілі траву, даглядалі жывёлу ці seклі дрэвы. Нарэшце, яны бясполыя, не здольныя, значыць, размнажацца. Яны ўмеюць хораша спяваць псальмы-харалы і старанна выконваюць розныя даручэнні Усявышняга. Але ж, ствараючы Зямлю, той безумоўна разумеў, што ўрабляць яе анёлы не ў стане.

– Вось і вырашыў Усявышні насяліць яе рабамі, – вёў сваё Гарабурда. – У Бібліі ж пра гэта сказана. Асабліва ў Старым Запавеце.

– Ага, падробленым кніжнікамі-халуямі дзеля патрэбы начальнікаў сваіх, а значыць – сатанінскай. Падумайце, іначай ці казаў бы Хрыстос у Новым Запавеце: гора вам, законнікам, яка забралі сабе ключ да разумення праўды пра Бога і ўваходзячым у храм дазнацца яе ўзбраняеце!

Кажучы так, Будны па-асабліваму, выкрывальна і пільна глядзеў на Гарабурду, адчуўшы менавіта ў ім супярэчніка сабе.

– Таму і заклікаюць мае аднадумцы-паплечнікі, – працягваў, ужо звяртаючыся да ўсіх, – сама лепш дзеля ратавання душы праўда, а не гібець у няпраўдзе, фарысеяў ілжывых слухаючы; самастойна лекаў шукаць. Заўважыўшы хлуслівасці цэсарскіх угоднікаў, Усявышні і дазволіў Хрысту вылучыць з чэсных і непадкупных сабе апосталаў. І Хрыстос ці не сказаў ім: вы, хто цэніць сумленне вышэй за багацце і нават жыццё, і ёсць соль зямлі. Соллю назваў настаўнікаў ісціннай веры, бо соль, самі ведаеце, захоўвае што ёю пасаліць, каб не згніла і не сапсавалася. Так жа і настаўнік нехлуслівы казаннем, павучаннем і напамінам захоўвае людзей ад гнюсі прагнасці і гнілі духоўнай. Але еслі таго не чыніць, – узвысіў голас Будны, – такога загадвае Госпад вон выкінуць. Так што адхініцеся, брацція мае любыя, ад настаўнікаў-слепакоў ці хлусліўцаў! Бо ўпадзе ўсяк, хто ся сляпому вадзіці дазваляе, а хлусліўцу і таго небяспечней, паўтаруся.

– Змілуйся ўрэшце кожны над сабой Бога для, – пранікнёна казаў

Будны, аглядаючы слухачоў. – Досыць сну духоўнага! І так ужо Бог гневаецца за грахі продкаў нашых, якія за сны і старэчыя байкі хлуслівыя пра ісцінны запавет, на Слова Боскае забыліся, ажно злое ў царкве запанавала. Дык Усявышні яшчэ міласцівы, папярэджваючы: адумайцеся, пакуль не настаў Апошні Суд! І нам праз абранніка свайго годнага Ісуса Хрыста, нам грэшным праўдзівы Запавет Новы адкрыў, каб у ім жыць маглі, іншых да яго далучаючы. Як да лёгкадумных дзяцей сваіх Усявышні звяртаецца, а не да рабоў бязглуздых.

Буднага слухалі са сцішанай насцярожанасцю, нават сынавец Гарабурды, адкрыты прыхільнік няўрымслівага пратэстанта. Цяпер Гарабурда разумеў, чаму Буднага аднолькава ненавідзяць як каталікі-папісты, так і грэкаправаслаўныя царкоўнікі. Тым не меней, вось жа, нягледзячы на рызыку займець немалыя непрыемнсці з боку па-ранейшаму магутнай афіцыйнай царквы, прыцягвае людзей, асабліва моладзь, гэты няўрымслівы прарок з яго новай, ці дакладней, паноўленай верай. Паветрые прыйшло з Захаду, дзе ўжо некаторыя краіны апанавала цалкам – Англію, Галандыю, усю Скандынавію, у Францыі пакуль невядома хто возьме верх, а вось германскія курфюрствы, а цяпер і Прусія з Лівоніяй таксама адхіснуліся ад акасцянелага ў хцівасці рымскага каталіцтва. Ужо і палякі падхапілі заразу пратэстанцтва, дык не дзіва, што яно з’явілася ў Вялікім Княстве.

Умее Будны казаць пранікнёна, тым не меней, захопленыя напачатку ягоным красамоўствам слухачы пачынаюць ачомвацца, і ўзнікаюць сумненні. Першым зноў звяртаецца да яго надта дапытлівы ж малодшы Мамоніч.

– Настаўнік, – кажа пачціва, але ўпэўнена, – ты кажаш, Хрыстос не асаблівы і адзіны сын Божы, а ўсім людзям па нараджэнні роўня, адно мудрасцю і дабрынёю іншых пераўзышоў, таму і набліжаны да нябеснага прастола.

– Сапраўды, – Будны зацікаўлена насцярожыўся.

– Дык па-твойму, ён проста слуга?

– А ці не гонар кожнаму добраму сыну ўслужыць бацьку? – пытаннем на пытанне адказаў Будны. – У Дзеях апостальскіх як пра Ісуса Хрыста сказана? Так, слуга Божы. Па-стараюдзейску – овэд. Праўда, блізкае гэтаму значэнне – раб. У Старым Запавеце, ад Майсея, так і перакладзена – раб. Толькі ж які разумны бацька пажадае, каб уласны сын быў яму рабом! Таму зноў кажу: вольнымі Усявышні чалавекаў стварыў. Бо які Запавет даў? Вось вам свет, вось вам сіла і свой розум дасціпны, пра ўсё думайце самі. Мой запавет даведаецеся ад свайго брата, Ісуса Хрыста, мне і вам да смерці адданага. Запавет гэты – дабрыня, як сабе хочаце, так і людзям старайцеся. Іншае пажадаеце – патрапіце да сатаны. Выбірайце. Таму хто з уладароў заганяе людзей у рабства, то супраць каго паўстае і каму служыць? А чым такое ўрэшце канчаецца? У якіх краінах людзі жывуць багацей? Так, там, дзе рабства няма.

Зірнуўшы ўважліва на рухавы твар малодшага Мамоніча, Будны сказаў:

– Бачу, браце Лявон, яшчэ блукаюць у табе сумненні. Нічога. Насамрэч недалёкі розумам той, хто сцвярджае: я спасцігнуў усе таямніцы жыцця. Вось твой бацька ўжо тройчы Святую кнігу прачытаў і, упэўнены, яшчэ не аднойчы яе разгорне.

– Абавязкова, – пацвердзіў стары Мамоніч.

– Ага, бачыш? – твар Буднага асвятліла лагодная ўсмешка. – Табе ж,

браце мой любы, што хачу сказаць. Вось мы ўсе пачынаем сваю галоўную малітву словамі: “Ойча наш нябесны! Хай свеціцца імя тваё!” То калі Ён – наш бацька, хіба мо дурню няўцям, хто яму чалавекі.

Гарабурда зразумеў, чаму Будны зноў вяртаецца да ўжо раней ім сказанага, умелы настаўнік заўсёды так робіць, новае і самымі кемлівымі вучнямі далёка не адразу цалкам успрымаецца.

– Адносна ж Ісуса Хрыста, – працягваў Будны, – зноў паўтару: ён той жа плоці і крыві, што і ўсе мы. А чаму Усявышні менавіта яго сабе на святую паслугу выбраў, – і гэта вам, людзі добрыя, мною даведзена. Ды й самі чытайце Святое Пісанне ўважліва. Звярніце ўвагу: ці адзінокі Хрыстос? Не. Меў братоў і сясцёр адзінакрэўных. А ці быў першаком па нараджэнні? Не. То як жа казаць пра маці яго, што дзева непарочная? Таму ў гэтым пытанні я з троцкім вучоным жыдовінам цалкам і згодны. Сапраўды выходзіць – пераклад недасканалы. Пачцівы Ісаак з Трокаў тлумачыць: на іхняй мове старых часоў бахор азначае – той сын у бацькі, які незалежна ці нарадзіўся першым кіруе сваімі братамі, бо аказаўся самым мудрэйшым у сям’і. Ого! Трэба было вельмі вызначыцца мудрасцю і духоўнай дасканаласцю, каб Усявышні даручыў менавіта гэтаму сыну чалавечаму данесці задураным хлусліўцамі сабраццям Запавет Ісціны.

– Настаўнік, – не сунімаўся малодшы Мамоніч, – кажаш – грэх маліцца Святой Тройцы...

– Грэх, – адрэзаў Будны. – Бо гэтым наносіцца абраза Усявышняму, адзінаму і непаўторнаму.

– А вось жа ў царкве...

– Па тым адразу і ўцяміш, каму хто пакланяецца – Богу ці ўладарам зямным, – прамовіў Будны ўзрушана. – Бо Тройцу калі абвесцілі і дзе? У Рыме, калі дзяржаваю ўзяліся кіраваць адразу тры цэсары, трыўмвірат так званы. Рымскаму мітрапаліту і загадалі: кажы вернікам, трыумвірат – гэта святое, бо і на нябёсах трое ўладараць. Так Дух і з’явіўся. А чый ён, да гэтага часу іерархі царкоўныя на сабор з’ехаўшыся не перастаюць зло спрачацца. Не зважаючы, што тым самым Усявышняга абражаюць.

– Настаўнік, – звярнуўся да Буднага яшчэ адзін з маладзейшых, і гэта быў пляменнік Гарабурды. – А ці варта асяняцца крыжаваннем, калі Хрыстос, ты сцвярджаеш, толькі сын Божы і слуга?

Во да якіх небяспечных пытанняў могуць сягнуць жаўтадзюбыя, калі іх своечасова не стрымліваць! У Гарабурды халодныя мурашкі па спіне пабеглі, і ён са значэннем дакрануўся да локця пляменніка.

Будны ж запытанню як быццам узрадаваўся.

– Разважаў я і пра гэта, – ён спагадліва зірнуў на Гарабурду-малодшага. – Вырашыў урэшце – воля кожнага. Адно варта памятаць: калі асяняецеся крыжаваннем, значыць, паказваеце не толькі веру ў Хрыста, але і гатоўнасць ахвярную быць распятым дзеля праўды Ягонай.

Будны ўрачыста перахрысціўся.

– Выходзіць, грэх пакланяцца і крыжу як прыладзе для злых мук да смерці абранніка Усявышняга Ісуса Хрыста? – зноў падаў голас малодшы Гарабурда.

– Кланяцца прыладзе для мук чалавечых можа хіба кат, і то не ўсякі. Ці... самі ўявіце, хто яшчэ, – Будны самотна ўсміхнуўся, у наступны момант узняўшы галаву з выразам рашучасці. – Але ж калі начапіў крыж на сябе... драўляны крыж, не залаты, вядома, той зноў жа сведчыць аб гатоўнасці ахвярнай. А хто носіць крыжык са срэбра-золата ды аздоблены каменнем

каштоўным, – Хрысту вораг, служка д’ябла, якімі і былі ўладары візантыйскія, адкуль такое і пайшло, абчапіцца золатам, срэбрам, смарагдамі, перлінамі. Пакуль урэшце сілы сатанінскія і не звялі магутную дзяржаву да пагібелі, а народ у няволі басурманскай не апынуўся. Дык цяпер гэта залатое непатрэбства раскошы візантыйскай у Масковіі расквітнела. Бедныя, бедныя! Яшчэ нагаруюцца, яшчэ наплачуцца...

Гарабурда з пляменнікам пакінулі сядзібу Мамонічаў, калі стала цямнець. Насупраць праз вуліцу гараджане цягнуліся да праваслаўнай царквы Уваскрэсення на вячэрняе набажэнства. Калі бомкнулі званы, Міхал Гарабурда спыніў каня і, зняўшы шапку, перахрысціўся на купал. Пляменнік, зіркнуўшы на дзядзьку, зрабіў тое ж, але хаваючы іранічную ўсмешку.

Пад’ехаў Цяпінскі, таксама трымаючы шапку ў левай руцэ, па-вайско243 ваму рэзка-рашуча абмахнуўся крыжаваннем.

– Ты ж, пане Васіль, з Будным ці не ў адным хаўрусе, а на праваслаўны храм хрысцішся, – напаўжартам заўважыў Гарабурда.

– Ат, па старой завядзёнцы, на ўсякі выпадак, – гэтак жа лёгка азваўся Цяпінскі.

– Чаму з Будным не застаўся?

– Размова ў яго з Мамонічамі далікатная.

– Стаўлю дзесяць дукатаў супраць пенязя, не ўдасца яму перацягнуць купцоў на свой бок. – Гарабурда нахіліўся і ласкава паляпаў далоняй па шыі каня, супакойваючы, бо той уздрыгваў ад бомкання званоў.

– Слухалі ж і прытулак далі. – Цяпінскі стаў пагладжваць свайго цудоўнага аргамака, выдаляючы з грывы сянінкі. – У Буднага, мяркую, цяпер галоўны клопат – дамовіцца, каб супольна з купцамі абсталяваць добрую друкарню. Эх, друкарня! І мая ж мара. Будны знаёмы з умелымі друкарамі ды і сам добра ведае кніжную справу.

– Не адважацца Мамонічы з ім на хаўрус, – Гарабурда надзеў шапку, азірнуўся на двор купцоў, які пакідаў яшчэ нехта.

– Тарговыя людзі каб выгаду ўпусцілі? Будны – гэта ж яшчэ і сувязь з Радзівіламі.

– Так здаецца, – Гарабурда прыязна агледзеў імклівую постаць Цяпінскага, у якім было штосьці рысінае. – Хоць і пільнае ў цябе вока, паляўнічае...

– Го! Шляхціц жа памежны, не прыдворны п’янтос.

– Адно не заўважыў, – працягваў Гарабурда, падобна Цяпінскаму пасмейваючыся аднымі вачыма. – Таго, у якім баку Мамонічам галоўная выгада, калі будуць кнігі друкаваць. Масковія – во дзе гэта могуць купіць, не ляхі ж і не германцы з французамі, там сваіх друкарняў і выдаўцоў цяпер багата.

– Уга, разгоняцца маскоўцы, – Цяпінскі засмяяўся напоўніцу. – Мой зямляк майстар Скарына таксама ж на той рынак спадзяванне меў. А чым скончылася? Ладна, толькі кнігі адабралі ды спалілі, хоць сам ацалеў.

– У многіх навуках твой зямляк дасканаласць меў, але ж не купец, – Гарабурда зірнуў на пляменніка, той слухаў уважліва. – Што да Мамонічаў, то для сябе яны, мажа, пратэстанты большыя, чым Будны, а знешне застануцца праваслаўнейшымі за маскавіцкага гасудара з тамтэйшым мітрапалітам, хоць, мяркую, тыя ў душы хутчэй юдзейскай веры, чым Хрыстовай.

– А ты, пане міласцівы? – з некаторым выклікам зірнуў на суразмоўцу Цяпінскі.

– Я? Мне па пасадзе дзяржаўнай, адчуваю, хутка зноў у Маскву, ды, магчыма, яшчэ не аднойчы, – усмешлівасць Гарабурды стала кволай, уявіў, як усё тое будзе.

– Мне здаецца, мы, народ Вялікага Княства, памылку робім, чапляючыся за грэцкае праваслаўе, – у голасе Цяпінскага чулася горыч, але і жорсткасць ваяра.

– Чаму?

– Ты, мой пане, лепей за мяне цяміш: яно даўно ператварылася ў чыста маскавіцкую веру. Увогуле не зразумела, які там насамрэч бог у маскавіцкіх святароў, калі крыжам і Бібліяй натхняюць свае орды рабаваць ды забіваць нават нас, палачанаў з віцебцамі і мінчукамі, адзінаверцаў жа, здавалася б! Калі запавет Хрыста ўвогуле ж – не забі!

– Мяркуеш, нам лепей усім у каталікі падацца, тады б ахвотней палякі абараніцца дапамагалі?

– Яны дапамогуць! Не, на касцёл таксама спадзеву быць не можа. Ох, чуў я, што пра Папу Рымскага пан Радзівіл Чорны казаў! Нам бы веру новую, сапраўды евангельскую. Вайскоўцы-пратэстанты не аднойчы даказалі – яны самыя мужныя і адважныя, калі сваю радзіму бароняць. І гаспадараць лепей. Вунь у той жа Лівоніі.

– Лівонцы? – Гарабурда з сумам пахітаў галавой. – Ты, пане Васіль, надта важнае сказаў па цяперашніх абставінах. Заможней-та заможней яны жывуць, можа, а вось еднасці, адчування сябе адзіным народам там пакуль няма. Лівы сабе, эсты сабе, германскія мызнікі з баронамі коўдру на сябе цягнуць. Не хочацца ўяўляць нават, што адбудзецца, калі ў Лівонію хлыне ненажэрны маскавіцка-ардынскі патоп на чале з іхнімі нібыта хрысціянскімі бацюшкамі. Патоп крывавы! І каб так не атрымалася, што не будзе там каму пабудаваць хоць нейкі прыстойны каўчэг ратавання, каб не знік увогуле гэты працавіты і дружалюбны да нас лівонскі народ.

– Баюся і як памежнік прадбачу, і нам з-за нашага раз’яднання не паздаровіцца гады праз тры, – пахмурна азваўся Цяпінскі.

## Ася Волкава



...Я бачыла
Жыццё паміж
Аконнымі рамамі...

# Тэт-а-тэт

* * *

Я пчала.
Я бачыла,
Як плача баба,
У якой адняло мову.
Нібы выцірае
Мокрымі газетамі
Вымытае шкло.

Я пчала.
Тры дні
Карова плача
Па адабраным цяляці.
Тры дні плача,
А потым забывае,
Нібы і не было.
Я пчала.
Я бачыла.

Я пчала.
Я бачыла
Жыццё паміж
Аконнымі рамамі.
Ад шкла да шкла
Я пчала.

* * *

І пакуль рука твая
Мые маю
Руку

Я буду ісці
За табою след
У след

І пакуль прыціскаеш
Да пляча свайго
Маё плячо

Я на Страшным Судзе
Аддам вока сваё
За тваё

І зуб свой
За твой зуб

І пакуль воўк твой
Сядзіць з маім
Тэт-а-тэт

Я табе чалавек
І ты мне чалавек.

### *АНАНІМНАЯ ГУТАРКА*

Вясна гола перапала.
Паласкала горам горла,
З горкай рабіны і снегу
Зрабіла пацеркі.

Перабірай іх і цярпі,
Перабірай і цярпі.

* * *

Ева валодае
Прасторай сілы.
Калі ёй баліць горла,
Яна ідзе на Бабіну гару
І гарох там таўчэ і лён трэ.

Ева валодае
Прасторай любові.
Калі ёй баліць рабро,
Яна ідзе на Перунову гару
І гаворыць там замовы.

Ева валодае
Прасторай дзіваў.
Калі ёй баляць вочы,
Яна ідзе на Дзявочую гару
І сыпле ў іх дробны пясок.

Ева валодае
Прасторай руху.
Калі ёй баляць ногі,
Яна ідзе на Авідаву гару
І душыць там вінаград.

Ева валодае
Прасторай жыцця.
Калі ёй баліць жывот,
Яна ідзе на Богаву гару
І нараджаецца там наноў.

* * *

Какаін.
Ты такі хударлявы,
Бо ўжываеш какаін.

Праз гадзіну
Мы разганяем твой “Б’юік”
Па М1 так,
Што з неба кокс
Сыплецца проста на лабавое.

– Каін.
Бацькоў накрыла,
І яны далі мне імя Каін.

Распавядаеш ты,
Пакуль левай
Трымаеш стырно,
А правай шнарыш у бардачку,
Шукаючы, чым запаліць.

– Шнары.
Адкуль яны,
Усе твае гэтыя шнары?

Пытаюся я,
Разразаючы тваім нажом
Свае джынсы
(Спадзяюся, гэта адзіныя парэзы,
Што застануцца пасля цябе).

– Авель.
Самы вялікі
Пакінуў Авель.

– Баліць?
– Ніколі не пытайся,
Ці Каіну баліць.
Ніколі.

Наталля Навіцкая



...Хочацца задаваць тысячы пытанняў,

а задаваць няма каму...

# Гадавое прызнанне

***Зацемкі***

### 08/86/27, Або простае жыццёвае

“08/86/27....08-86-27... Што гэта? Можа, нумар тэлефона, аднак гарадскога ці мабільнага? Не, гэта было б зусім проста. Тады што? Што?” – думкі ганяліся адна за адной, быццам тыя матылькі, што ў купцы падбіліся пад вулічны ліхтар, безвынікова спрабуючы разарваць складзеную імі ж акружнасць.

А з чаго пачалося – здаецца, нейкая драбнічка: прачнулася з лічбамі ў думках... Ну і што тут такога, пайшла б, па даўняй звычцы заварыла кавы з нятлустым малаком у любімы чырвоны слоік: пі і жыццю радуйся. Ды не, і каву п’ю, а ў думках 08-86-27. Так, а што калі скласці? 121 ...ммм... 121 дае квадратны корань 11, тады што значыць 11? Не, не было ў цябе прыхільнасці да матэматыкі, і не трэба. Думкі-матылькі перапыняе гук ключа, што праварочваецца. Адчыняюцца дзверы, чую родную хаду. Ведаеце, няма нічога лепшага, чым

чуць на “сваёй тэрыторыі” родныя крокі. Такое шчасце, ціхае ды неабсяжна бязмернае. Нам патрэбныя ў жыцці нашы людзі, здаецца, нічога тут дзіўнага няма. Але ж у сілы вышэйшай на гэты конт свае погляды... неба надзвычай рэдка дорыць нам нашых людзей. Бывае так: пакажа і ўсё... баста! Пакіне, здаецца, і блізка, а, між тым, зусім далёка, – у суседні дом, сям’ю, у суседняе жыццё. І хочацца крычаць: чаму? Хочацца задаваць тысячы пытанняў, а задаваць няма каму. А нашы людзі, між тым, крочаць поруч, але так далёка, здаецца, працягні руку насустрач... а нельга. Прынцыпы, меркаванні... Няма нічога больш ядавітага, чым уласная мараль. І зноў: 08/86/27... Чаго ты, дурненькая, прычапілася. Можа, гэта проста нумары здымкаў, што ты ўчора гартала ў сваёй кампутарнай папцы. Але ж, дажыліся. Раней альбомы гартала, паказальна было – у кожнай дзяўчыны свой альбом: гэта ты маленькая ў мамкі на руках, а гэта – з белым бантам у школьным двары, а гэта ты ў 10 класе на школьным вечары, а вунь той, крайні справа, ну вельмі табе падабаўся. А потым на выпускным балі, на беразе любімага возера. А гэта – група інстытуцкая, першая паездка на мора, а гэты здымак – выява твайго, як здавалася, адзінага кахання. А цяпер што? “Пакажы здымкі”. – “Зараз, толькі флэшку вазьму”. Утаропішся ў манітор, першы слайд, другі... і... і ўсё. Паглядзеў і забыўся. А я вось падумала пра іншае, а між тым не забылася на 08/86/27... Можа, у мяне ўжо неадчэпная ідэя, можа, мой “сістэмны блок” перагрузіўся? Зноў жа, параўнанні з нейкімі тэхнічнымі катэгорыямі. Спішам гэта на ўздзеянне часу. Дарэчы, няма лепшага паратунку ад такой перагрузкі, чым сон. Паклала галаву на мяккую падушачку (я, напрыклад, такія люблю, каб не надта цяжкія і вялікія), палічыла бараноў, авечак, ці хаця б сукенкі свае ў шафе, уявіла сябе ў самай прыгожай і... потым не ведаю што, у гэты час я ўжо сплю. І сны бачу, часта і розныя, пустыя і, як кажа мая бабуля, прадбачлівыя. Але ж усё ў ступені веры нашай, не інакш. Ёсць тут шаманства нейкае незразумелае, хаця, лепш не давацца ў глыбіні, бо даведаешся часам пра такое, ад чаго ніякай асалоды не атрымаеш. Але ж, зноў жа ў сне, убачыла я гэтыя 08/86/27. Што б гэта значыла? Добра, што сёння субота, а то на працу з такімі думкамі пасунулася б. Часам я думаю, наколькі б меней было ў нас праблем, каб мы іх самі, самім сабе каханенькім-родненькім не прыдумлялі. Ёсць адна сапраўдная праблема – гэта страта здароўя, ды і яна, часам, вырашаецца. Чаму мы не ўмеем радавацца мінімуму паўсядзённаму? Не навучылі самі сябе, а больш ніхто-ніхто не навучыць. Трэба, каб у думках нешта закрэслілася, а гэта нешта – змена каштоўнасцей. На самай жа справе, каштоўнасці, яны, на першы погляд, і не каштоўныя зусім, але яны і ёсць сапраўдныя. У кожнага, зноў жа, свае: няма большага кайфу, чым прыехаць летам да ракі, возера, спыніцца, разматаць вуду, месца “прыкормленае” знайсці... і такога “кайфу спаймаць” ад жыцця, ад неба гэтага велічнага, ад шаўковай бліскучасці воднай, ад улову першага... А яшчэ, няма большай асалоды потым з такіх паездак у сам-насам з прыродай дадому вяртацца, скідаць адзенне і пад цёплыя струменьчыкі душа, заплюшчыць вочы і ні пра што не думаць, ні пра выгаранне на працы, ні пра праблемы сябровак, ні пра тое, калі ж усё ж жаданы дзень зарплаты. Восем-дзесяць хвілін для сябе, гэта штосьці роднаснае з ёгай... Вада ўвогуле надае сіл. Напрыклад, з год таму адкрыла для сябе лазню. Не, не такая я цёмная, ведала пра яе і раней. Але толькі зусім нядаўна зразумела, што лазня не проста для таго, каб змыць бруд з

цела, яна душу грэе і, здаецца, выпарвае з цябе назапашаны за тыдзень-два негатыў. Зараз я не ўяўляю лазні без парылкі, без венічка, без думак добрых. Дарэчы, да думак, у галаве ізноў слайдам 08/86/27: паказаліся і зніклі, а думкі засталіся... напэўна, у парылку трэба мне "дурасць" гэтую лічбавую выганяць.

Цікава, але шчаслівыя мы тады, калі гэтага не разумеем зусім. Калі думак пра сэнс жыцця і ўсялякія такія не даючыя спакою рэчы няма. Так добра: прачнуўся дома, у сваёй пасцельцы з фіялетавымі ірысамі ці аранжавымі тыграмі, паглядзеў на столь высокую, павярнуўся да вакна з пытаннем, што за надвор'е, чаго ад дня гэтага чакаць, пацягнуў ручанькі ўгору, пакруціў кісцямі (для сэрца карысна) разоў з 10 у кожны бок, прыўстаў, знайшоў пантофлікі на тым месцы, дзе і трэба, і пайшоў на куханьку – дзве сталовыя лыжкі кавы ў турку, вадзіцы, і сачы, каб кава не збегла. Гэта такое шчасце рабіць штосьці на дваіх: два кубкі кавы, дзве лыжкі да абеду, два білеты ў кіно... 08/86/27. А што, па сутнасці, гэтыя лічбы? Ды нічога, у параўнанні з чаканнем шчасця...

## Гадавое прызнанне...

***Снежань***

Снежань – гэта шчымлівая пара чакання. Чаго звычайна чакаюць? Банальна, але змен да лепшага. Парадаксальная рэч: нават калі ўсё добра, тым не менш, чакаюць. А мо тыя змены і не патрэбны зусім?.. Вялікая навука атрымліваць асалоду ад таго, што маеш, не займела шмат вучняў. Затое, ніхто не набярэцца смеласці назваць яе масавай. А гэта ўжо добра.

...Калі ты прачынаешся зусім не раніцай, а ў свядомасці гартаюцца слайды з выявай елкі, бурбалак савецкага напою, што хутка трапляе ў кроў, традыцыйнай салаты, чаканых і не вельмі падарункаў і іншых асацыяцый гадавых змен, то свядомасць пачынае падказваць, што настаў проста новы дзень. Так бы мовіць чарговы... І больш нічога. Становіцца сумна. Але ж чаму новы дзень трэба ўспрымаць як штосьці звыклае? Гэта пакутная сцяжына, прычым пакут, прыдуманых намі ж самімі. Хопіць жалю, не так ужо ўсё і дрэнна. І, такім чынам,

***студзень.***

Першая яго палова імчыць хутчэй за парушальніка хуткаснага рэжыму пры "зялёным святле" на дарозе. А з надыходам другой раптам разумееш, што не будзе лішку даць перадых страўніку і кашальку. І хаця новае жыццё забылася тэлеграмай нагадаць табе пра свой пачатак, час будаваць планы. Хаця б на тыдзень. Безумоўна, ад слова *план* цягне тым, з чым вядуць барацьбу, а менавіта бюракратызмам. Але ж рэч гэта дзейсная не толькі на адміністрацыйнай працы. Бо няма нічога больш цяжкога, чым пытаць з самога сябе, чым займацца ўласнай дысцыплінай.

А яшчэ студзень – гэта час святочных прадказанняў і спроб зазірнуць у будучыню. Цягне ад гэтага чымсьці вясковым: бабулінай хатай, утульным трэскам у грубцы, зноў жа марамі... Адным часам смешна было ад такіх успамінаў 10-цігадовай даўніны, а потым іх так стала не хапаць. І не вернеш. Мо толькі сама калі стану бабуляй, займею хату і грубку...

***Люты***

Ніколі не любіла назву гэтага месяца. І няхай ён (месяц) мне прабачыць, ёсць у ёй эмацыянальна-адмоўнае адценне. Але гэта толькі што тычыцца назвы. У астатнім люты не выклікае адмоўных асацыяцыяў. Глядзіш у вакно з пятага паверха "хрушчоўкі" і чакаеш вясны. Ды так пільна, быццам бы яна зараз возьме і з'явіцца на дарозе. А яшчэ гэта час школьных сустрэч з аднакласнікамі (і гэта ў тысячу разоў лепей, чым на сайце, якому не трэба рабіць рэкламы), з любімымі і не вельмі настаўнікамі. Гэта час кранальных размоў за чарговым кубкам кавы, час амаль апошніх у сезоне назіранняў за снежнымі матылькамі пад вулічнымі ліхтарамі.

***Сакавік***

Пра тое, што вясною хочацца кахання, не гаварыў толькі той, хто ленаваўся гэта рабіць. Я маю на ўвазе гаварыць. Але ж кахання хочацца не толькі вясной, а заўжды. Проста гэта вельмі зручна, калі чаго не маеш, прымеркаваць яго з'яўленне да даты, а потым сесці і чакаць. Толькі для таго, каб штосьці мець, трэба штосьці і рабіць. Вось менавіта таму з пачаткам вясны мне хочацца пачынаць новыя справы (часта забыўшыся пра тое, што час бы закончыць ужо пачатыя). З месяц такіх роздумаў прыводзіць да наступнай кропкі каляндарнага адліку,

***красавіка***.

Кажуць, што ў народжаных у гэтым месяцы лёгкая рука. Што ні пасадзяць – расце, што ні прыгатуюць – смачна. Тым, хто з'явіўся на свет у якісьці з адзінаццаці астатніх месяцаў, чуць гэта не вельмі што і прыемна. Асабліва жанчынам. Бо гэта чарговая падстава, каб паставіць пад сумненне ўпэўненасць кожнай з нас у сваёй выключнасці. А яшчэ да красавіка паспяваеш набыць чарговую пару абутку, пра якую марыў тры тыдні да таго, як стаў яе шчаслівым уладальнікам. Пасля гэтага, як звычайна, інтарэс да яе (пары абутку) цябе чамусьці пакідае. На змену яму прыходзіць дзіўнае: "Ну і навошта?". Ёсць, напэўна, рацыянальнае зерне ў думцы пра тое, што частка мараў павінна толькі марамі і застацца, каб было жаданне да чагосьці імкнуцца.

***Май***

Я люблю май ужо толькі за тое, што ў першай яго дэкадзе нарадзілася мая матулечка. А ўжо квецень і пахі, канікулы і ўмоўная кропка адліку адпачынкаў, сонца і галавакружная вышыня неба на другім плане.

***Чэрвень***

Чэрвень распачынаецца арганізаванымі турзлётамі і "несанкцыянаванымі" вылазкамі ў лес. Табе ўжо цёпла, але яшчэ не горача. Усяго ў меру. Чэрвень – гэта час аматараў ціхага палявання, час першых суніц, яшчэ кіславатых ля дарогі і больш дыхтоўных, калі падацца глыбей у лес. Разумная Маці-прырода і тут мусіла нагадаць, што каб мець сапраўдную якасць прадуктаў спажывання, як, дарэчы, і адносін, трэба шукаць глыбей, а значыць, і прыкладаць больш намаганняў. Збіраць з паверхні можна таксама, толькі гэта не цікава. Тым больш, што мы не шукаем лёгкіх шляхоў!

***Ліпень***

Ужо сярэдзіна, ды яшчэ не канец. То добра, то млосна. Няма жадання чытаць добрыя кніжкі, хочацца аблегчанага варыянту, які абзывае бестселерам сезону бліжэйшая крама. Загадзя разумееш, што цябе падманулі. Добра адпрацаваўшы свае грошы, хлопцы і дзяўчаты з аддзелу рэкламы прафесійна зрабілі сваю справу. І ўсё ж дастаеш грашовыя паперкі з кішэні і ўпэўнена кладзеш у касу. І чаму часам нам хочацца быць падманутымі? Можа, каб была прычына пашкадаваць сябе і палаяцца на ілюзорнага віноўцу.

***Жнівень***

Ведаю шмат людзей, якія любяць жнівень. Адношу сябе да іх ліку. Падораныя нябёсамі жнівеньскія дзянькі тояць у сабе шмат асалоды. Цёплае начное паветра грэе лепш за ўтульную кофтачку. А калі пашанцуе, то і графік адпачынку можа супасці з восьмым месяцам года. А яшчэ – гэта традыцыйнае жніво. Адно толькі назіранне за працай камбайнёраў надае спакою і ўпэўненасці. За прыемнымі момантамі не паспяваеш заўважыць, як годам пачынае ўладарыць

верасень.

***Верасень***

Грыбная пара. Асабліва, калі не паленавацца і трапіць у баравыя мясціны з раніцы. Асабліва, калі ў кішэні любімы і "шчаслівы" ножык. Асабліва, калі гумавыя боты па памеры, а плецены кошык са зручнай ручкай. Асабліва калі з грыбніцы на свет з'явіліся не два ці тры, а ...цццаць грыбочкаў. Асабліва, калі такі вось ураджай табе ёсць дзеля каго збіраць...

***Кастрычнік***

Кастрычнік пахне дымком. І гэты водар помніцца аж да наступнага года.

Глебу падмарожвае, а таму раніцай асаблівая кастрычніцкая свежасць. Пачынае мроіцца пра мандарыны і снег. Пра якія хоць на некалькі дзён хочацца забыцца зімою.

***Лістапад***

Закончыць хочацца лістападам. Бо ў маім светаўспрыманні менавіта ён падсумоўвае год. У лістападзе мне хочацца папрасіць прабачэння ў сваіх самых родных за тое, што крыўдзіш іх заўжды больш, чым астатніх... Мо таму, што родных хочаш бачыць бездакорнымі. І дзякуй ім за тое, што яны прабачаюць мне. І, такім чынам, зноў снежань.

Мікіта Прыходзька



...ззяюць зоркі на небе
мільёнам вачэй...

# Не згубіць дарогі

* * *

Адзінота...  
Сумнае слова...  
Быццам сэрца тваё памірае,  
Нібы дробныя кроплі дажджу  
На вачах у цябе астываюць...

Лягу ў ложак, ды спаць не магу...  
Адзінота мяне дакарае.  
Цяжка ўбачыць яе, але хай,  
Як наймітка, мяне атручае.

Выйду ў поле я зорнай пароющ,  
Каб пабачыць хістанне яліны.  
Буду з месяцам я размаўляць,  
І раптоўна адновяцца крылы...

Прылячу я дамоў, але тут
Адзінота мяне сустракае...
Будзем з ёю сядзець да рання,
Можа, разам сустрэнем світанне.

Толькі раніцай знікне яна.
Мабыць, сонца тады я спаткаю...
Ці дрымотны, счарнелы ліхтар,
Які ціхай надзеяй заззяе...

* * *

Час імкліва бяжыць скрозь аблокі,
Не спыняючы хваляў жыцця.
Усміхаецца лёс шэравокі:
Памятай таямніцы быцця.

Не забудзь, браце, матчынай мовы,
Край ад ворагаў свой барані.
Без цябе – і ён без аховы,
Яго покліч у сэрцы тваім.

Не забудзь аб каханні адданым,
Не зважай на агіды і страх.
Сцеражыся кайданаў ды здрады,
Захавай бляск жыцця ў вачах.

Час няспынна ідзе скрозь аблокі,
Праплываюць стагоддзі, гады.
Не згубі, калі ласка, дарогі,
Бо жыццё, сапраўды, час святы.

* * *

Я ўжо тут быў,
Знаёмы гэты горад.
Змянілася аблічча,
Параслі дамы.
Але цікава –
Ён насамрэч новы?
А, можа, проста –
Шэры, як тады.

Прайшоўшы крыху,
Зноў пабачыў тое ж:
Людскую зайдрасць,
Прагнасці праклён.

Сляпыя вочы.
І маўклівую нянавісць –
Штодзённай абыякавасці плён.

Калісь тут быў,
Знаёмы гэты горад.
Змянілася аблічча –
Людзі ўсё адны.
Вы не турбуйцеся
Ды не хавайце позірк,
Аднолькавыя нашы
Гарады.

* * *

Яны маўчаць...

Але жывыя будуць словы,
Жыццё, пакуты усплываюць праз радкі.
Свой час рабілі, не гублялі мовы,
Чуваць з старонак 37-га гудкі..

Яны ляжаць...

Ў магіле недзе невядомай,
Маці-краіна, сэрца заняможа зноў.
І рух прыпыніцца маўклівай стомай,
Бо звыкла Беларусь губляць сыноў..

## РАНІШНІ ШЭПТ

Час спыніўся даўно, нашы знічкі гараць,
На стале недапіты світанак.
Надакучыла сэрцу штосьці шукаць.
Мроі светлае прывідны ганак.

І сярод гэтых доўгіх, халодных начэй,
Мне маўчаннем тваім не сагрэцца.
Ззяюць зоркі на небе мільёнам вачэй,
Нам ад іх нікуды не падзецца.

дэбют

Ксеня Бандарэнка



...звар’яцелы настрой,
стой...

# У душы маёй хвошча дождж...

* * *

Мыю рукі перад пацыентам,
Як раблю заслону – чысціню.
І працую я не тэрапеўтам –
Пушчаю дзетак з неба на зямлю.

Незвычайны в*ы*падак-выпа*д*ак:
Яна маці ўжо ў шаснаццаць год.
Медык, а прашу за немаўлятак,
А яна, як шпрыцам мне : “Аборт”.

Не шкада ёй сэрца тое сэрцам,
Не шкада ёй новае дзіцё.
Маладая, ў будучыну мкнецца,
Адбіраючы яго жыццё.

Вось заява. Тут усё законна,
А папера колецца, як дрот.

А душа варушыцца палонна,
На забойства, як на эшафот.

Лямпа. Скальпель. Кроў. Рука дзіцяці.
І яно само ў маёй руцэ.
Бездакорнае. А дзеўка-маці
З новым хлопцам танчыць пры рацэ...

Мыю рукі я за пацыентам,
Я змываю смутак і тугу.
Мыю рукі я за пацыента,
Бо ужо нічога не змагу.

### *У ДУШЫ МАЁЙ ХВОШЧА ДОЖДЖ*

Звар'яцелы настрой, стой.
І, накінуўшы плашч плошч,
Горад знік пад маёй журбой.
У жыцці гамана – мана.
Адчыні праўдзе дзверы – вер.
Крыўды кубак адна – да дна.
Не дам вам белы сцяг цяпер.
Пашкадуй мяне, лёс, досыць.
Адпачыць я крыху змагу.
Усё ад тых, хто відовішч просіць,
Усё ад тых, хто нясе тугу.
У душы маёй хвошча дождж.
Звар'яцелы настрой, стой.
І, накінуўшы плашч плошч,
Горад знік пад маёй журбой.
Толькі ранак вясёлкай золкай
На пляцоўцы нябеснай развесіцца,
Яго промні святлом – іголкай
Ўсе зашыюць дзіркі ад месяца.
І спусцее пляцоўка жаху,
І разгубяцца кроплі палонныя.
І зямля асфальтавым пахам
Распаўсюдзіць шчасце няўлоўнае.

### *НЕ ПАЛІТЫЧНАЕ*

Чаму жыццё мы вымяраем годам?
Не месяцам, секундай ці гадзінай,
Не суткамі і не хвілінай,
А менавіта – годам-крыгаходам?
Чаму мы засынаем да світання?
(Так безадказна час марнуем ночы).

На цемру мы чаму заплюшчым вочы,
Забараніўшы з зоркамі спатканне?

Чаму жывем сам-насам мы з душою?
Быць можа, ёй адной жыць цяжка.
Чаму душу змушаем быць манашкай,
А не пушчаем ў свет разам з сабою?
Таму мы і жывем, здаецца, мала.
І спім, бо забываем Жыць.
Душы мы не даем прасторай быць,
Таму што наша воля занядбала.

## ***ПРЫМАЙ***

*Наталлі Мікалаеўне, маці*

Пазыч мне крыху дабрыні,
Каб сэрца змагалася з цемрай.
Пазыч мне крыху цеплыні,
Душу абагрэла каб верай.
І слова мне роднае дай,
Каб чуць, як гамоніць дуброва,
Як плешча малінавы гай –
Дай роднае матчына слова.
Цярплівасці мне падаруй,
Гадзіннік, каб ўзважыць імгненні.
І мне маю палкасць даруй,
Даруй мне душы мітусенні.
Галоўнае ты мне дала:
Жыццё і мой розум дзявочы,
І сэрца – майго спадара,
Блакітна-зялёныя вочы.
Цяпер ты прымай ад мяне
І максімалізм мой юнацкі,
Спаборніцкі дух па вясне
І гонар буйны, заліхвацкі.
І верш ад мяне ты прымай,
Пабачыш тут роднае слова...
І родны малінавы гай
Яму тут уток і аснова.
Даруй мне, матуля, мае
Ўсе непаслухмяныя ўчынкі.
Хай вочы клапоцяць твае
Выключна ад шчасця слязінкі.
Ніколі хай сэрца тваё
Не стоміцца мной ганарыцца.
Я дзякую Богу, што ён
Дазволіў мне ТАК нарадзіцца.

дэбют

## Максім Шняк



…І толькі вецер,
які без смерці,
у Беларусі
жыве, клянуся…

# Вуч*ы*цца цярпенню ў снегу

* * *

Адзіны вецер,
які без смецця,
на Беларусі
туліцца мусіць,
і не дарэмна
у сутарэннях
пустога голля
дзіцём скуголіць,
не выпадкова
гукае Бога
штораз нанова
па ўсіх дарогах,
нібыта хворы
па чыстых болках
выводзіць творы
сваім алоўкам.

І вечар цэлы
ў вышынях самых
з нябеснай цэглы
будуе храмы.
І толькі вецер,
які без смерці,
у Беларусі
жыве, клянуся...

## *АЎТААКРАВЕРШ 1*

**М**аўкліва знікаюць выявы чыгуначных станцый...
**А** так недарэчна, што хлеб з тваіх рук
мае болей не ўспомняць,
**К**авалкі яго застануцца на памяць наступным каханкам.
**С**альюся ў адно з цягнікам, з гэтай ноччу і поўняй.
**І** болей нічога...
**М**аўклівасць бярэ наша ўчора.

## *КРОПЛІ*

ліпень збірае
ўраджай пацалункаў

пырскі дажджу
і зіхценне карункаў

кроплі тваю
аздабляюць усмешку

і разам з ёй
прамаўляюць мне нешта

## *ДЗЕНЬ РАСКОЛЕЦЦА КАШТАНАМ*

Дзень расколецца каштанам
(Мо ў ім апынешся?
Незнаёмай мне і смешнай,
блізкай нечакана).

Мне дасі паглядам веры –
я адразу стану
ценем восеньскіх каштанаў
на тваім каўнеры.

У вышынях ледзь прыкметна
буду гойдаць вецце...

Восень для мяне завецца
жоўтай апраметнай.

Я у ёй ніякавею,
й нашае каханне,
нібы лісце ад каштанаў,
Бог паўсюль развеяў.

Сэрца упадзе каштанам.
(Ты ў ім апынешся!)
Так знаёма ўсміхнешся,
і мяне не стане...

*27.9.07*

## *СНЯДАНАК*

Яна не снедае ніколі, толькі кава
яе надзейная і верная сяброўка.
І штоглыток – нязмушанае слоўка...
Яна не снедае ўвогуле. Цікава...

Яна не снедае ўвогуле, магчыма,
сняданак ейны – даўкае паветра
падчас вандроўкі ў апусцелым скверы.
Яна не снедае ніколі... Без прычыны...

*03.10.09*

* * *

Упасці мільярдам сняжынак,
Узвёўшы сумёты й лагчыны,
Нібыта з канструктара LEGO –
Вучыцца
          Цярпенню
                    У снегу

Прайсці запаволеным ветрам
Па плошчах, завулках і скверах,
Па дахах ссівелай сталіцы
У снегу
          Цярпенню
                    Вучыцца

І сцішыцца, нібы ад жаху,
Стаць кволай ільдзінкай на даху
у невымоўным трымценні
Вучыцца
          У снегу
                    Цярпенню

Льюіс Кэрал



...Снарк вас знішчыць
суровым паглядам сваім,
толькі словаў пачуе гульню...

# Снаркаловы*

***Прападанне ў васьмі выкліках[1]***

***ПРЫСВЯЧЭННЕ[2]***

**Г**арэзніца ў хлапечым: раз пясочак
**Е**йны ўвесь спрыт адцягне і цікавасць,
**Р**аз на твае калені яна ўскочыць –
**Т**ы любіш ёй расказваць.

**Р**упліўцы, за сур'ёзнаю работай
**У**цехі вам не даць малому сэрцу,
**Д**ля вас гадзіны мары бестурботнай
**З**усім не маюць сэнсу.

*Пераклад з ангельскай мовы і каментары – Макса ШЧУРА.*

* Пасля доўгіх развагаў мы абралі гэты варыянт назвы не толькі дзеля “остраннения”, але перадусім праз яго двухсэнсоўнасць: у ім хаваецца як “Паляванне на Снарка” (зрэшты, хто на каго тут палюе – яшчэ вялікае пытанне), так і намінка на тое, што ў паэме вядзецца не столькі пра паляванне, колькі пра паляўнічых, “снаркаловаў”.

**Е**рэтыкі! Бай, мройніца ў хлапечым,
**Ч**эрствыя душы хай ратуюць жарты
**А**д суму. Той шчаслівы, хто ў малечы
**Т**акой любові варты!

**Э**х, згадкі мілыя! Лепш не цвяліце мрою –
**Ў** мяне шмат працы ўдзень, бяссонне ўночы...
**Э**кскурс на бераг той чуйнуе з мною
**Й** лятункам засціць вочы.

***Выклік першы***
***ВЫСАДКА***

«Тут нам трапіцца Снарк!», у кірунку зямлі[3]
пальцы выцягнуў Балабол[4],
і матросаў, падвешаных за касмылі,
асцярожна спусціў на дол.[5]

«Тут нам трапіцца Снарк! Двойчы вымавіць сказ –
падбадзёрыць каманду ўдвая.
Тут нам трапіцца Снарк! Я сказаў трэці раз –
значыць, вас не падманваю я!»[6]

Экспедыцыя ў зборы: тут Ботаў шавец,
Бакалаўр, у юстыцыі спец
(каб астатніх мірыць), тут Берэтаў кравец[7],
тут і Брокер, ацэншчык-купец.

Тут наўдачу маніўся Більярдны маркёр
знесці болей за ўнесены пай[8],
ды Бухгалтар (што сам іх як ліпку абдзёр)
кожны цэнт пільнаваў: не чапай!

Тут Бабёр мераў палубу крокам сваім
ці на носе сплятаў матузкі,
і нібы шмат разоў праявіў гераізм –
Балабол адзін ведаў, які.

Тут яшчэ адзін – той, што пра свой гардэроб
не падумаў, як рушыў на трап:
парасон там, гадзіннік, шмат іншых аздоб –
не забыць столькі рэчаў патрап!

Сорак два чамаданы з пазнакай імя[9]
ён з сабою прыпёр у ваяж –
каб хто ведаў пра гэта, яго акрамя,
не застаўся б на пляжы багаж.

А ён сам – і ні лыс! На ім сем столак рыз,
па тры боты на кожнай назе –
ды забыў ён імя, што, апроч тых валіз,
не даўмеўся пазначыць нідзе.

Адгукаўся на «Гэй!», «Не дурэй!», на «Скарэй!»,
«Гэта, чуеш!», на «Я табе дам!»,
на «Падай мне парык!» – на любы гучны крык,
і найбольш на «Ну як цябе там!»

Праўда, іншым карціць падагнаць, нахаміць –
і для тых меў ён свой псеўданім.
Той, хто з ім сябраваў, «Кнот» яго называў,
а хто не – быў ён «Сырнікам» ім.

«Спрыт ягоны не велькі (казаў Балабол),
і ў яго замалыя глузды,
толькі мужнасцю й дзёрзкасцю ён – ну арол,
а на Снарка без іх – нікуды».

Ён заўжды жартаўліва ківаў галавой,
злых гіенаў заўважыўшы ледзь,
і з мядзведзем гуляў па сцяжыне лясной,
каб адзін не баяўся мядзведзь.

Ён наняўся як Булачнік – праўда, яшчэ
(Балабол не забіў ледзь яго)
мог сказаць, што адны караваі пячэ,
а пячы не было іх з чаго.

Заслугоўвае згадкі й апошні марак –
поўны дурань, які, адылі,
меў адну толькі думку, і думкай быў Снарк:
дурня тут жа на борт прынялі.[10]

Ён, маўляў, Быкабой – ды праз тыдзень прызнаў,
што Баброў рэжа на свежыну.
Балабол з пераляку вады ў рот набраў
і нібыта язык праглынуў.

А пасля апавёў, што тут ёсць пасажыр –
ім прыручаны сябар-Бабёр,
толькі б ён, Балабол, мабыць, не пераЖыў,
калі б той нечакана памёр.

Сам Бабёр улавіў іхнай гутаркі ніць,
і з'явіліся слёзы ўваччу –
нат, маўляў, дзеля радасці Снарка злавіць
галавой налажыць не хачу!

Ён настойваў, каб ён і спадар Бабрабой
на асобных плылі караблях.
Балабол запярэчыў: задумы такой
мы не мелі, плануючы шлях!

Кіравацъ звышскладана ў любую пару
нат адным караблём усяго!
А таму ён, на жаль, адмаўляе Бабру
ў фрахтаванні яшчэ аднаго.

Даў Бабру раду Булачнік: хай апране
камізэльку, што нож не бярэ.
А Бухгалтар: «Хай купіць страхоўку ў мяне
на той раз, калі ўсё-ткі памрэ».

На разумных умовах салідны тавар
прапаноўваў Бабру казнакрат:
першы поліс – калі б распачаўся пажар,
а другі – калі б здарыўся град.

Ды Бабёр з таго дня стаў да ўсіх халадзець,
а як міма ішоў Бабрабой,
то ў той бок намагаўся зусім не глядзець
і сядзеў, як грызун пад мятлой.

***Выклік другі***
***БАЛАБОЛАВА ПРАМОВА***

Балабол для каманды быў светач і бог –
во дзе грацыя, спрыт! А пастаць!
Колькі годнасці ў ім! А ў шляхотных вачох –
колькі мудрасці! Не перадаць!

Ён прыдбаў сабе мапу марацкую, дзе
не было ані следу зямлі –
мараплаўцы чыталі яе па чарзе
й начытацца ніяк не маглі.

«Напрыдумваў Мэркатар: полюс, тропік, экватар...»,
ім крычаў Балабол. «Што з таго?»
Падтрымаў экіпаж: «Сапраўды, ойча наш!
Гэта ўмоўныя знакі ўсяго!

Іншы ў мапу б занёс выспаў, мысаў хаос!
Але наш Балабол-капітан
не пасквапіўся, каб мець найлепшую з мап,
на якой толькі сам акіян!»

Што матросу зямля? Толькі хутка пасля
капітан цалкам страціў пашану,
то ж бо ўсім, у чым ён разбіраўся, быў звон,
у які ён званіў апантана.

Мудра ён кіраваў – ды загады даваў,
што не йшлі іншым да галавы.
Крыкне: «Права руля – ўлева нос карабля!» –
Што павінен рабіць стырнавы?

Так бушпрыт час ад часу ўтыркаўся ў карму –
«Так бывае, – казаў пустазвон, –
у трапічных краях (хто б паверыў яму?),
калі Снарку плывеш наўздагон».

Ані ў мачту, ні ў ветразь матросы не верацъ,
Балабол у адчаі кляне:
«Вецер гоніць да Ўсходу – на Захад мы ходу!
Карабель ігнаруе мяне!»

Ды мінуў час ліхі – і на бераг сухі
разам з трантамі брыг іх давёз,
хоць спярша экіпаж не натхніў антураж,
у якім – спрэс цясніна ды ўцёс.

Балабол запрыкмеціў, што чэзне іх дух,
і прапеў колькі жартаў старых
(што прыпас адмыслова на час нескладух),
ды ў адказ чуў не смех – толькі рык.

Ён спагадна па чарцы ім грогу раздаў,
рассадзіў на ўзбярэжжы вакол:
зноўку велічна ў іх уваччу выглядаў
і прамовай грымеў Балабол.

«Вам кажу, землякі, грамадзяне, сябры!»[11]
(Маракі давяралі цытатам,
таму чарку ўзялі за яго разы тры –
Балабол падліваў ім, паддатым.)

«Мы ў дарозе шмат тыдняў і шмат месяцоў
(па чатыры ў штомесяцы тыдні),
ды ніводны з нас Снарка пакуль не знайшоў –
невідочны ён, хоць не нявідны.

«Мы ў дарозе шмат тыдняў і шчэ болей дзён
(па сем дзён, нагадаю, у тыдні),
ды застаўся наш Снарк для вачэй невідзён,
хоць ён з выгляду і не агідны!

Дык прачысцеце слых: паўтараю для ўсіх
я прыкметы (якіх толькі пяць).
Калі не праспіце – на любой шыраце
вы здалееце Снарка пазнаць.

Першым чынам, пра смак мушу я паясніць:
Снарк нішчымны, але храбусткі,
бы плашчы, што завузкія ля паясніц,
ці яшчэ – як з балот аганькі.

Па-другое, залішне ён любіць паспаць –
уявеце, скажу я вам ледзь,
што ён снедае звычна гарбатаю ў пяць,
а вячэру ўжо раніцай есць.

Трэцім чынам, крый бог, не жартуйце вы з ім –
як дасціпнік ён роўны нулю.
Снарк вас знішчыць суровым паглядам сваім,
толькі словаў пачуе гульню.

Знак чацвёрты: любоў да купальных вазкоў.[12]
Снарк заўжды з сабой цягне адзін –
ён без іх не ўяўляе марскіх абразкоў,
хай мы коса на гэта глядзім.

Пяты знак – засяроджанасць.[13] Нельга мяшаць
у адзін іх прыродны падклас,
каб адрозніць пярнатых, што любяць кусаць,
ад вусатых, што драпаюць вас.

Снарк звычайны не будзе вас крыўдзіць знарок,
ды замоўчаць я б вам не здалеў:
ёсць і Буджумы-Снаркі...» Прамоўца замоўк,
то ж бо Булачнік раптам самлеў.

### *Выклік трэці*
### *АПОВЕД БУЛАЧНІКА*

Тармасілі яго кексам, сочывам, льдом
і гарчыцай з салатаю-крэс,
прапаноўвалі галаваломкі гуртом,
каб, маўляў, не дурэў і ўваскрэс.

Ачуняўшы, сказаў ён: «Аповед карціць
расказаць мне мой, сумны для ўсіх».
Балабол усхадзіўся: «Замоўкніце! Цыц!» –
і званіў, покуль кожны не сціх.

Цішыня – бы аглух! Жадны крык, жадны рух
(толькі хтосьці раз-пораз зароў) –
і спадар «Як цябе» апавёў пра сябе
тонам шчэ дапатопных звяроў.

«Гаравалі рупліўцы-бацькі...» Балабол
абарваў: «Гэта лепш прапусці!
Бо як стане цямнець – можам і не паспець
за размовамі Снарка знайсці!»

«Сорак год прапушчу, – выцер слёзы ўваччу
сумны Булачнік, – і раскажу,
што я ўведаў, калі вы мяне нанялі
плыць па Снарка ажно за мяжу.

Дзядзька мой, у чый гонар я хрышчаны быў,[14]
развітаўся пяшчотна са мной...»
«Дзядзьку выкінь!», зароў Балабол, анібы
ашалелы ў звон лупячы свой.

«Ён прамовіў», аднак жа працягваў бядак:
«Прывязі ты, што б там ні было,
таго Снарка дамоў – зварым з ім буракоў
і ад скуры запалім святло.

І напарсткам, і клопатам Снарка прынадзь,
і відэльцам, і процьмай надзей,
і ў чыгуначны трэст пагразіся прыняць –
мылам, смехам аблытай барздзей!

(«Так і трэба! – у дужках крычыць Капітан, –
я ўстаўляю іх тут мімаходзь, –
Так казалі і мне, каб і я паспытаў
шчасця Снарку накінуць аброць!»)

«Толькі, гласны[15] пляменнік мой, крый цябе бог
Снарка-Буджума неяк спаткаць!
Ад сустрэчы такой назаўсёды ты б мог
паступова ў паветры растаць!»

Тыя словы апошнія дзядзькі майго
мне душу несупынна гнятуць.
Кроў у мне закіпае, нібы малако,
і ўздымае ў мазгох каламуць!

Тыя словы...» «Паўторна пра іх ты вярзеш!», –
нагадаць Балабол не міне.
Толькі Булачнік: «Зноў паўтару, тым не менш:
тыя словы лякаюць мяне.

Штоначы мяне Снарк пераследуе ў снах –
я на бой выклікаю яго
і ў любую пару з буракамі вару,
выкрасаючы з скуры агонь.

Але ж варта мне Буджума-Снарка спаткаць,
як (сумневаў няма) у той міг
паступова ў паветры я мушу растаць...
З тым змірыцца – не ў сілах маіх!»

***Выклік чацвёрты***
***ПАЛЯВАННЕ***

Спахмурнеў Балабол, як умеюць сычы:
«Ці ж нагоды раней не было
ў тым прызнацца? Прачнуўся, калі ўжо, лічы,
Снарк у нашае трапіў сіло!

Ты б пачуў наш усхліп, безумоўна, калі б
у паветры растаў назаўжды –
ды, гаротны ты наш, як наймаўся ў ваяж –
намякнуў бы, прынамсі, тады!

Ці ж раней ты прызнацца не мог усім нам?
Гэта я ўжо казаў, адылі...»
Толькі «Як цябе там» прысягнуў сябрукам:
«Я казаў перш, чым мы адплылі!

Я, магчыма, забойца і поўны баран,
(час ад часу мы ўсе бараны),
ды каб я непрызнаннем каго абураў –
тут не меў і не маю віны!

Я сказаў, як сказалі б Майсей ці Эсфір,
як Спіноза, як Кант, як Гамэр –
ды забыў, што гаворыце вы, як Шэкспір!
(І пра гэта шкадую цяпер.)»

Балабол яму: «Вельмі шчымлівы расказ, –
(бровы ўзняў ён за неба вышэй), –
ды цяпер, калі ты ашчаслівіў ім нас,
не тлумі болей нашых вушэй.

Я прамову сваю дакажу да канца,
калі ўздумаю, – ён абнадзеіў, –
але Снарк ужо зараз бяжыць на лаўца!
Справа гонару – вышукаць, дзе ён!

І напарсткам, і клопатам Снарка цкаваць,
і відэльцам, і процьмай надзей,
і чыгуначным трэстам яму пагражаць
пачынайце як мага барздзей!

Снарк – істота адметная, ён не дае
ўпаляваць сам сябе абы-дзе.
Прыкладзіце ўсе веды й няведы свае,
не спудлуйце, бо сёння – ваш дзень!

Дый Радзіма чакае – між іншым дадам
у сентэнцыі духу старой.
Распакуйце ўсе рэчы, патрэбныя вам,
каб узброіцца добра на бой!»

Тут Бухгалтар хутчэй падпісаў б'янка-чэк,
абмяняў на банкноты грашы.
«Як цябе» валасы прычасаў і вусы,
і нат вопратку прыхарашыў.

Майстар Ботаў і Брокер рыдлёўку гастрыць
аб валун пачалі па чарзе –
а Бабёр матузкі плёў, як мокрадзь гарыць,
абыякавы, бы й кагадзе.

Бакалаўр казыраў сваім веданнем праў,
ды дарэмна мянціў языком,
што істоты з ракі, плетучы матузкі,
парушаюць закон часцяком.

Неўтаймоўны Берэтчык прадумваў, які
вузел будзе ў бантоў-матылькоў,
а Більярдны маркёр кончык носу, як кій,
набяліў неслухмянай рукой.

Бабрабой і жабо нацягнуў, як фацэт,
і пальчаткі, астатнім на здзіў,
ды сказаў: «Я ў гуморы. Хадзем на фуршэт!» –
Балабол толькі носам круціў.

«Калі Снарка сустрэнем, то будзь сябруком
і прадстаў мяне гэтаму цуду!»
Балабол адказаў з шматсэнсоўным кіўком:
«Як надвор'е дазволіць – то буду».

Аж затанчыў Бабёр, калі раптам зірнуў,
як зрахманеў цяпер Бабрабой.
Нават Булачнік, чэрствасцю роўны бярну,
стаў паміргваць і дрыгаць губой.

«Будзь мужчынам! – як толькі
данеслася «хлюп»,
Балабол раскрычаўся, як псіх. –
Калі трапіцца роспачны птах нам, Дзюбдзюб,
будзе мужнасць не лішняй для ўсіх!»

## *Выклік пяты*
## *БАБРОВА НАВУКА*

І напарсткам, і клопатам Снарка цкаваць,
і відэльцам, і процьмай надзей,
і чыгуначным трэстам жыццю пагражаць
пачалі яны як найбарздзей!

Самастойна шукаць захацеў Бабрабой
і пакрочыў прачэсваць лагчыну,
дзе, як ён падлічыў, аніякай парой
чалавека сустрэць немагчыма.

І Бабру закарцела памкнуцца туды,
бы не мелася іншых лагчын –
ды сябе (ну, хіба што грымасай брыды)
з іх ніводны не выдаў нічым.

Во дзе Снарк задурыў ім абодвум ілбы
і ягонай знаходкі прэстыж!
Кожны выгляд рабіў, не заўважыў нібы,
што і іншы папёрся туды ж.

Ды цямнела вакол, надыходзіў вячор,
у цясніну звужэла лагчына –
да Бабра Бабрабой дакрануўся плячом –
так і йшлі, бы зрасліся плячыма.

Тут нябёсы працяў гук у спосаб выцця –
смерць учулі яны над сабою:
адліла ў звера кроў ад хваста і мазгоў,
стала вусцішна і Бабрабою.

Час дзяцінства ў яго замігцеў уваччу,
час нявінны, што нельга забыць,
і праз столькі гадоў ён выразна пачуў,
як па дошчачцы грыфель рыпіць!

«Так галосіць Дзюбдзюб!», – невядома з чаго
голас дурня прарваў цішыню.
«Балабол бы дадаў (я скажу за яго) –
гэта выкрыкнуў я ўпершыню!»

«Так гукае Дзюбдзюб! Пракрычу другі раз,
ты ж яшчэ адзін палец загні.
Так спявае Дзюбдзюб! – вось і трэцяя з фраз,
доказ нашае з ім блізіні!»

Скрупулёзна падлічваў на пальцах Бабёр,
з трэцім сказам збялеўшы ад страху –
ледзь ад слоў Бабрабоевых ён не памёр,
што свярбяху яго ды крыўляху.[16]

У віры шматпакутных душэўных намог
фразаў лік ён даўмеўся забыць,
і адно ў галаве ён цяпер толькі мог
суму сказанага падлічыць.

«Вось на пальцах калі – зрахаваць мы б змаглі,
колькі будзе адзінка плюс два!
У былыя гады, як я быў малады,
лепш лічыла мая галава!»

«Мы павінны, мы можам, мы мусім злічыць! –
Бабрабой тут жа кінуўся ў лямант. –
Мне найлепшыя з тых, што табе па плячы,
падрыхтоўвай паперу й атрамант!»

Тут Бабёр прыцягнуў яму пёраў, папер
і атраманту ледзьве не воз –
ажна выпаўзлі з нораў пачваркі цяпер,
што не бачылі гэткіх дзівос.[17]

Ды на іх Бабрабой не меў часу зважаць,
бо трымаў у руцэ па пяры,
і Бабру паясняў, тугадуму маўляў,
што і так разумеюць бабры:

«Для рахубы такой – на пісьме, да таго ж, –
лепшай лічбы за «тры» не знайсці.
Сем плюс дзесяць на тысячу проста памнож
І на восем усё скараці.

Падзялі дадаткова ўсё на дзевяцьсот
дзевяноста ты два і адкінь
ад астатку сямнаццаць – усё цот у цот!
Смех важдацца з падлікам такім!

Я з ахвотай табе растлумачыў бы ўраз,
як да вынікаў гэткіх дайшоў,
каб была хоць хвілінка ў наяўнасці ў нас,
а ў цябе – хоць бы жменька глуздоў.

Мець тут трэба чало, як мае, што змагло
таямніцу разблытаць нялёгкую...
А цяпер задарма між вачмі чатырма
пагаворым пра арніталогію!»

Вось што вёрз Бабрабой у манеры сваёй
(толькі своечасова не скеміў ён,
што не робяць ніводзін даклад без уводзін,
каб не блытаць чальцоў Акадэміі):

«Па натуры Дзюбдзюб – вельмі роспачны птах,
ён у стрэсе страшэнным заўсёды.
Ён прафан у падборы сваіх апранах –
на гады ён наперадзе моды!

Нічыіх не забудзецца тавараў, імён,
падкупіць яго – марны спадзеў.
Як на бедных збіраюць, то з шапкаю ён
абыходзіць, хоць сам не кладзе.

Што да водару – вустрыцы, яйкі ці плоў
Не заменяць Дзюбдзюба для вас!
(Трэ хаваць яго ў амфарах з біўняў сланоў,
Як няма махагонавых ваз.)

Абваляй у апілках яго, з саранчой
патушы (будзе мяккі на зуб),
клею-солі дадай, каб любою цаной
захаваў сіметрычнасць Дзюбдзюб!»

Так да раніцы б мог прамаўляць Бабрабой,
ды за лепшае змоўкнуць абраў –
пад канец ён ужо не валодаў сабой
і назваў сваім сябрам Бабра.

Хай ад шчасця Бабёр не расплакаўся тут –
вочы выдалі, што аб прыродзе
ён даведаўся болей за дзесяць мінут,
чымся кніжнік за дзесяцігоддзі.

Па вяртанні назад Балабол у слязах
быў, убачыўшы іх у гуморы:
«Вось цудоўны рэванш за дасюлешні ваш
недавер цягам шляху па моры!»

Дружбакоў, як Бабёр з Бабрабоем, нідзе
з таго часу бліжэйшых няма:
там, дзе крочыць адзін – іншы побач ідзе,
лета хай на дварэ ці зіма.

А калі надараўся перыяд нязгод –
непазбежных, як нам ні нялюба –
мацавала сяброўства абедзвюх істот
незабыўная песня Дзюбдзюба!

### *Выклік шосты*
### *СОН БАКАЛАЎРА*

І напарсткам, і клопатам Снарка цкаваць,
і відэльцам, і процьмай надзей,
і чыгуначным трэстам яму пагражаць
не спыняўся ніводны ў той дзень.

Хваляваўся найбольш адвакат-Бакалаўр,
засудзіць не здалеўшы Бабра –
гэтак ён задрамаў і наяве маўляў
сэрцу любага ўбачыў звяра.

Ён нібыта ў судзе, разбіральніцтва йдзе –
Снарк пры буклях, манаклі, камзолу
абвяргае віну: вінавацяць свінню,
што ўцякла з хлеўчука без дазволу.

Сведка кляўся, што так і было, то ж бо хлеў
ён знайшоў абсалютна пустым,
а Суддзя манатонна пад вусы бубнеў,
што закон разумее пад тым.

Быў заблытаным вынік судовага дня:
Снарк спрачаўся не менш трох гадзін,
толькі што насамрэч учыніла свіння,
разумеў да канца ён адзін.

У мазгох засядацеляў быў разнабой
(шмат раней, чым вердыкт прагучаў):
усе разам гулі, і ніхто за сабой
не пачуў, што хто іншы крычаў.

На заўвагі Суддзі Снарк крычаў: «Не дудзі!
Кодэкс брэша твой веку спакон!
У памыйку яго! Тут ключом да ўсяго,
як па мне, дык салічны[18] закон!

Што да здрады свінні, то прызнаць я гатоў:
паспрыяла, але не падзуджвала.
А з банкруцтвам – даўно ўжо была б «без даўгоў»,
калі б Вашаць сумленна падсуджвала!

Дэзертырства – ну так, уцякла, ды нідзе
ў гэтым ейнай віны не прызналі бы
(што да меншых судовых выдаткаў вядзе),
бо ў свінні ёсць жалезнае алібі.

Ейны лёс ад прысяжных залежыць цяпер», –
з тым Снарк слова Суддзю перадаў,
каб Суддзя на падставе судовых папер
справу коратка падсумаваў.

Той – сумбур, а не сум, сумятню праявіў –
Снарк злічыў за яго з спрытам гэткім,
што свінні выйшла болей гадоў ды правін,
чым паводле сказанага Сведкам!

Час прысяжным настаў агалошваць вердыкт –
прачытаць не змаглі яны слоўца,
што было зацяжкім для галоваў цвярдых:
хай, чытае, маўляў, абаронца.

Снарк надзвычай стаміўся за дзень, адылі
абвясціў урачыста і важна:
«ВІНАВАТАЯ!» – Лаўнікі шчасна гулі,
некаторыя млеючы ажна.

Тут суддзя анямеў: Снарк быў змушаны ўстаць,
каб з прысудам яму памагчы –
у цішы было піск камарыны чуваць,
бы відаць ззянне поўні ўначы.

«Пакараць пажыццёвым выгнаннем свінню
ды спагнаць яшчэ сорак гінеяў[19]!»
Лава ў скокі! Ды тут свой уласны прысуд
сам Суддзя абвясціў «ахінеяй».

А турэмшчык, гатовы ад роспачы выць,
радасць іхную звесткай суняў,
што не ўступіць у сілу прысуд, мусібыць,
бо даўно ўжо памёрла свіння.

Двор пакінуў суддзя вельмі незадаволены –
толькі Снарк, адагнаўшы сумнеў,
да канца бараніў права хатняй жывёліны
крыкам, рыкам, выццём – як умеў.

Гэтак сніў Бакалаўр, ды наўкол спакваля
крык пачаў нарастаць неўспадзеў,
і ачомаўся ён – бо над вухам у звон
Балабол, як шалёны, звінеў.[20]

***Выклік сёмы***
***ЛЁС БУХГАЛТАРА***

І напарсткам, і клопатам Снарка цкаваць,
і відэльцам, і процьмай надзей,
і чыгуначным трэстам жыццю пагражаць
не спыняўся ніводны ў той дзень.

Нат Бухгалтар апінію рэшты абверг
(быў ніякі з яго следапыт),
калі Снарка высочваць раптоўна пабег
невядома куды – наўскапыт.

Клопат ён і напарсткі ўжываў, як і ўсе,
ды застыў – хоць ты крыкам крычы –
калі Снарка замест прыімчаў Крывасек[21],
ад якога няможна ўцячы.

Прапаноўваў і зніжку Бухгалтар, і чэк
(на імя!), даў бы дзесяць за сем –
толькі выцягнуў шыю ў адказ Крывасек
і шчэ больш на нябогу насеў.

Страшна сківіцамі скрыгатаў ён сваймі –
ратаваўся Бухгалтар ад іх
то наўскач, то трушком, то бягом, то паўзком –
але ўпаў і, знясілены, сціх.

А пачвара – ўцякаць! Зноў жа наўскапыта
беглі ўсе на Бухгалтараў вой...
«Вось чаго я баяўся!», – сказаў капітан,
урачыста ў звон лупячы свой.

Не падобны быў ён да таго, што здавён
пад пятою трымаў экіпаж:
пачарнеў правадыр, а ягоны мундыр
пабялеў ад гістэрыкі аж!

І, да жаху прысутных на зборышчы тым,
Балабол, фрэнч змяніўшы на фрак,
намагаўся на словах паведаміць ім,
што відаць было ў твары і так.

У глыбокі шэзлёнг нечакана ён лёг,
гульнявымі касцямі грукочучы,
і спяваў гэтак рыса[22], нібыта не лысы,
што ўсе ўбачылі: дурань ён кончаны!

Вось што ён прапяяў: «Што Бухгалтар прапаў,
буду я турбавацца яшчэ!
Каштавала паўдня ваша нам валтузня!
Як сцямнее – дык Снарк уцячэ!»

***Выклік восьмы***
***РАСТАННЕ***

І напарсткам, і клопатам Снарка цкаваць,
і відэльцам, і процьмай надзей,
і чыгуначным трэстам яму пагражаць
спрабавалі яны й надалей.

Дзень мінаў, і пры думцы пра ловаў разгром
жах любога праймаў да касцей –
нат Бабёр, быццам быць перастаўшы Бабром,
хваляваўся й скакаў на хвасце.

«Цыц! Крычыць “Як цябе”! – загарлаў Балабол. –
Як шалёны крычыць, далібог!
І махае рукой, і трасе галавой –
ён не высачыць Снарка не мог!»

Бабрабой не паверыў уласным вачам
(«Ды ён цвеліцца з нас, жартаўнік!»):
бравы Булачнік, мужны «Ну як цябе там»
на абрыве паблізным узнік.

Нейкі час як тытан узвышаўся ён там,
ды раптоўна героя пастаць
бы зарвала зямля – снаркаловы здаля
сталі ўслухвацца й знаку чакаць.

«Гэта Снарк!» – прагучала нязвыкла ў той міг,
калі верыць было ўжо табу.
Потым смех пераможны данёсся да іх,
потым – роспачны крык: «Гэта Бу...»

А пасля – цішыня. У паўсонні нібы
нехта з іх яшчэ вычуць здалеў
водгук «джум» – гэта мог быць і шолах слабы,
і звычайнага брызу павеў.

Да цямна яны гузікаў, пёраў нідзе
на зямлі не знайшлі паміж дрэў –
ані знаку таго, што вось тут кагадзе
бедны Булачнік Снарка сустрэў.

Так пад смех, што прарочыў канец барацьбе,
на сярэдзіне слова, няўзнак,
паступова ў паветры растаў «Як цябе» –
бо і праўда, быў Буджумам Снарк!

Каментары:

1. “Прападанне” – у арыгінале *Agony*: агонія, скон, перадсмяротныя пакуты. Тым не менш, першапачаткова грэцкае слова “агонія” азначае “барацьба, змаганне”. Як і большыня старажытных легендаў і паданняў, “гераічная” паэма Кэрала прысвечаная барацьбе са страшыдлам(і). “...у васьмі выкліках”: у арыгінале ўжытае слова *fit*, якое некалі азначала “сутычку”, “калізію” (на рыцарскім ці, магчыма, паэтычным турніры), а ў Сярэднявеччы пачало ўжывацца для азначэння асобных частак (спеваў, песняў, раздзелаў) балады. Адначасова, *fit* азначае і “прыступ, прыпадак, сутарга, канвульсія”. Такім чынам, Кэралаў падзагаловак мае двайны сэнс: “Змаганне ў восем этапаў (раўндаў, частак, тураў)”/“Агонія ў васьмі прыступах (прыпадках, корчах, сутаргах)”. Абранае намі (з мноства магчымых варыянтаў) слова “выклік” адсылае да турніру, да перашкодаў на шляху да перамогі, а таксама – да выкрыку ці выгуку пры паміранні.

2. Гертруд (Гертруда) Чатэўэй (1866-1951) на момант знаёмства з Кэралам (1875) мела дзевяць гадоў; яна лічыцца другой па значэнні (пасля Эліс Лідэл) «музай» Кэрала.

3. У арыгінале гульня словаў са значэннем слова *land*, “зямля”: 1) суша, 2) грунт, глеба. Як відаць паводле ілюстрацый Генры Голідэя да першага выдання “Снарка”, Балабол выпроствае пальцы не наперад (удалеч), а ўніз, да грунту, ставячы аднаго з чальцоў каманды на ногі, як лялькавод. Гэтае “расстаўленне” герояў на беразе выспы дазваляе задумацца над тым, ці не ёсць “Снарк” свайго кшталту апісаннем шахматнай партыі, якую вядзе Балабол супраць нябачнага суперніка (чытача?) з дапамогаю васьмі пешак і караля (чальцоў ягонай экспедыцыі ўсяго дзевяць) – прынамсі, кніга “На тым баку Люстэрка”, напісаная на некалькі гадоў раней, з’яўляецца апісаннем такой партыі. У такім разе, сюжэт “Снарка” зводзіўся б да падарожжа васьмі пешак на супрацьлеглы край дошкі, цягам якога некаторыя з іх стаюцца ахвярамі фігураў суперніка: Крывасека, Дзюбдзюба, Снарка і Снарка-Буджума.

4. Балабол – у арыгінале *Bellman*, “званар”, “вястун”. Ангельскае слова можа адсылаць як да карабельнага звону (т. зв. “шклянкі”), так і да званочкаў, з якімі ў Сярэднявеччы па гасцінцах Англіі хадзілі вар‘яты, сляпыя, струплякі, жабракі й г.д., што спявалі жаласныя ці жартаўлівыя песенькі. Беларускі пераклад адсылае як да званка (на шыі ў авечкі ці каровы, балабону) ці бразготкі (балаболкі), так да чалавека, які несупынна вярзе абы што. Кэрал робіць з Балабола правадыра экспедыцыі – той найбольш гаворыць і мае ў руцэ звон, сімвал улады над камандай – магчыма, тут прысутная ўласцівая Кэралу асацыяцыя з школьным настаўнікам.

5. У першым раздзеле кнігі “На тым баку люстэрка” Алеся занатоўвае ў “мемарандумніку” Белага Караля: “*Белы Вершнік з’язджае па качарэжцы. Ён вельмі блага трымае раўнавагу*”. Як ён гэта робіць, паказана на ілюстрацыі – падобным чынам з пальцаў Балабола спускаюцца ўніз чальцы ягонай каманды. Адразу пасля гэтай занатоўкі ў “Люстэрку” ідзе верш “Жабавокі”, які лічаць асноўнаю крыніцаю і папярэднікам “Снарка”.

6. Правіла “Тройчы сказанае ёсць праўдай” вядомае як “правіла Балабола”. У старажытным фальклёры можна знайсці шмат прыкладаў трайной замовы, заклёну, праклёну й г.д. – лічба тры лічылася свяшчэннай. Напрыклад, у суніцкім ісламе муж павінен тройчы адрачыся ад жонкі, каб лічыцца з ёю разведзеным.

7. Берэтчык (“*the maker of Bonnets and Hoods*”) нагадвае Шапавала-Шампавала з абедзвюх частак “Алесі”.

8. У арыгінале Кэрал іранічна называе спрыт Більярднага маркёра “агромністым”, каб дадаць, што дзякуючы яму ён “*мог бы* выйграць болей, чым унёс сам” (а мог бы і не выйграць) – то бок відавочна, што насамрэч гэты спрыт не такі й вялікі. Як доказ гэтага, у чацвёртым выкліку Більярдны маркёр *“неслухмянай рукой”* намазвае сабе крэйдай кончык носу замест кія.

9. Мяркуецца, што ў гэтым персанажы выявіў сябе сам Кэрал, якому на момант напісання паэмы было 42 гады. Персанаж крыху нагадвае Белага Вершніка з “Люстэрка” (раздзел VIII), ведамага вялікай колькасцю скрыначак і клункаў – у Белым Вершніку таксама часта бачаць увасабленне аўтара. Беручы да ўвагі, што паэма жанрава азначаная як “агонія”, можна зрабіць выснову, што адной з яе тэмаў ёсць набліжэнне непазбежнай смерці.

10. Тое, што Бабрабой дурань, выяўляецца пазней у ягоных звышскладаных падліках (гл. выклік "Баброва навука").

11. У арыгінале цытата з п'есы У. Шэкспіра «Юлій Цэзар» (дзея 3, сц. II): «*Friends, Romans and countrymen, lend me your ears...*»

12. Параўнайма з "Алесінымі прыгодамі", раздзел II: *"Дагэтуль Алеся была на моры толькі аднойчы, але гэтага ёй хапіла, каб зрабіць выснову, што на ўзбярэжжы, куды ні паедзь, абавязкова павінны быць купальныя кабінкі, дзеці, якія гуляюць у пяску, за імі — радочак курортных дамкоў, а далей — чыгуначная станцыя".*

13. Здаецца, што словам *ambition* (амбітнасць, славалюбства, мэтаскіраванасць, працавітасць) Кэрал адсылае да слова *ambient* (асяроддзе, месца распаўсюджання звяроў ці раслінаў), таму мы перакладаем замест *амбітнасць* – *засяроджанасць.*

14. Цікава, што Кэралавага дзядзьку, які памёр незадоўга да напісання паэмы, звалі Робэрт Ўілфрэд Скефінгтан Латўідж, тады як самога Кэрала – Чарлз Латўідж Додсан. Гэта можа быць яшчэ адным ускосным сведчаннем таго, што Булачнік – гэта сам аўтар.

15. У арыгінале – *beamish*, слова непасрэдна пазычанае з "Жабавокага": "*Come to my arms, my beamish boy...*"

16. Чарговы адсыл да "Жабавокага".

17. Магчыма, і тут Кэрал мае на ўвазе "барзюкоў" з "Жабавокага", але замест выразу "*slithy toves*" ужывае проста "*strange creepy creatures*" (дзіўныя брыдкія стварэнні).

18. «Салічны закон» – прававы кодэкс старажытных франкаў з часоў караля Хлёдвіга. У арыгінале стаіць выраз "*ancient manorial right*", што можна перакласці як "старажытнае феадальнае права", аднак нам падалося, што "салічны закон" больш стасуецца да свінні праз сугучнасць з словам "сала".

19. У арыгінале – фунтаў.

20. Калі Алеся прачынаецца ў XII раздзеле "Прыгодаў", то прыснёны *"звон кубкаў з гарбатаю*" ў рэчаіснасці робіцца *"бразгатам балабонаў на авечках*".

21. Такое ж імя (*Bandersnatch*) мае ў вершы "Жабавокі" меч галоўнага героя.

22. У арыгінале *mimsiest* – яшчэ адно слова з "Жабавокага".

Тадэвуш Міціньскі



...Позірк страшыдлы мяне працінае,

шэпт чую: я – твая існасць другая...

# Чорны замак духу

***Сёлета спаўняецца 140 год са дня нараджэння Тадэвуша Міціньскага (1873-1918) – польскага паэта, празаіка, перакладчыка, драматурга. Аматар містыкі і эзатэрыкі, тэосаф і апалагет ідэй панславізму, Міціньскі і дагэтуль застаецца адной з найбольш таямнічых і супярэчлівых літаратурных постацяў эпохі “Маладой Польшчы”.***

***Загінуў на тэрыторыі Беларусі пры нявысветленых абставінах (па адной з версій, быў забіты рабаўнікамі, па другой – стаў ахвярай бальшавіцкай змовы).***

### *INFERNO*

*Пераклад з польскай мовы і прадмова – Ірыны ХАДАРЭНКА.*

Неба раздзерта стыхійнаю сілай –
вежы маланак, скуленне шатанаў;
дух мой, што тоне ў глыбі акіянаў,
кідае кпіны ў бок варты застылай.

Ха, Бельфегор! Тваёй долі зайздрошчу –
Феніксам жар абмінаеш пякельны,
светаў згасаючых бард, князь удзельны,
ў лаўрах хаваеш анёльскіх мар мошчы.

Ззяў ты бліскуча, хоць холад пракляты
рэзаў, нібыта лязом, мае жылы.
Пот твой упаў на жалезныя краты,
іх зруйнаваў, як ты выпрастаў крылы.
Позірк страшыдлы мяне працінае,
шэпт чую: я – твая існасць другая.

## *СОН*

*Мікалаю Н. у Крэстаўздвіжанску*

Памёр ты? Невядома. Я прачнуўся –
працягваюць гучаць хары анёльскіх лютняў.
У сэрцы плач, як хваля, схалануўся,
здалёк пачуўшы шэпты вучняў Тваіх смутных.

Чытаў я кнігу ў перaспелым збожжы,
там летапіс пакут і болю след сакральны –
нібы святлом крануў мне вочы, Божа,
бы расквітнелі кветкі ў стэпах незвычайных:

згасаючы, паспеў усцешыцца прад сконам
і зведаць боль нясцерпны Твайго цела,
душа мая – ах, роспачна трымцела,
што не забраў яе – нібы сцяблінку лёну,
якая на дарогу выпала з павозкі
у пыл...

## * * *

Мая самота
па прывідным каханні
цвіце лілеяй жоўтай
і раптам стыне ўранні.
Анёлы з іншых светаў
не ахінуць крыламі –
ох, колькі яшчэ звяне
тых кветак...

## *НАКЦЮРН*

Голы гай бяроз
покрывам засланы,

унaчы мароз
пасцінаў цюльпаны.
А ля ног маіх
чайка памірае,
свой апошні ўздых
дрэвам прысвячае.
Снегам змыю кроў,
ды не знішчыць скруху –
абудзіўся зноў
чорны замак духу.

### *МЕЛАНХОЛІЯ*

Жыве ўнутры мяне глухі працяглы плач –
рыданне не спыняецца ўва мне,
нібыта ў цёмным гроце кропляў вечны шум,
таемны манатонных кропляў енк.
Ах, там замкнёны золатавалосы скарб –
(ці служка, ці пастушка), што з палёў
бандыты скралі і замуравалі ў грот,
каб крываточыла на вострых валунах
маёй душы прынцэса.
Плынь дзявочых слёз у цемрадзі начной –
як россып найкаштоўных камянёў,
як сталактыты, што звісаюць з вышыні
з разважнасцю крысталаў ледзяных.
Пачуўшы кропляў гук, прыпоўз у гэты грот
змей-спакушальнік з падзямелляў тых,
і, прагнучы з крыніцы смагу наталіць,
ад бляску здрыгануўся незнарок.
Сапфіры слёз змяіны позірк падхапіў –
і вочы ён узняў зялёныя свае,
каб утаропіцца ў прынцэсы бледны твар,
бо бачыць ён цудоўна ў цемры мог.
Вачыма мудрымі суцешыў і павёў –
глыбока ў далеч звабіў за сабой –
у невядомы шлях паклікаў за сабой
вачэй глыбокіх фосфарным святлом.
І пад скрываўленай аб валуны рукой,
у пошукай апоры хоць якой,
грацьпачалі вакол крысталы, як
званы, дзе невыказны боль акамянеў:
праклёнам пакараны пілігрымаў хор
зацягвае ўжо спеў святой труны,
тарчаў з мячамі грозна водбліскі таньчаць
між чарнаты базальтавых калон –
з магіл нябачных веліканы паўстаюць –
і шал імклівых коней іх нясе

скрозь пространь перуноў, маланак і агню
туды, дзе гнеўнай Велічы абшар.
Раптоўна сцішыліся спевы, змоўкла ўсё, –
і бездань распасцерлася ў імгле –
сярод слізготных скал, пад коўдрай тумаnoў,
адкрыўся возера чароўны вір.
Прынцэса трапіла ў капліцу, каб спачыць,
уся ў трымценні, змоклая наскрозь,
і бачыць без адзінай зорачкі прасцяг,
самлелых водаў незвычайны храм.
Шасцёра крылаў узнялі яе ўгару,
прастору закрануў бязгучны крык –
пад месячным святлом, у дзіўнай цішыні,
твар Люцыфера перад ёй узнік.

* * *

Увосень свет – у фарбах незлічоных,
асвечаны лес сонцам, што заходзіць.
Вітаю дрэвы ў шапках залачоных,
гляджу на дзіўныя руіны ў бродзе.
З чаго смяюцца тонкія рабіны?
І хто скрываваіў маладыя клёны?
Чаму развагай поўняцца яліны?
Плыве туман пурпурны па далінах,
і матылямі ў гэтым карагодзе
кружляе лісце жоўтае з чырвоным.

Валяр'ян Кіслік



...Ідэалагічных ворагаў выкрывалі ўсюды: у навуцы, мастацтве, літаратуры, у тэатры, кіно...

# ...Непратаптанай сцяжынай прайсці

## *Пра чырвонаармейца Навума Кісліка, яго сяброў і не толькі...*

*...и памятью ведет*
*вот этот след ребячий*
*под кровлю, где жильцов*
*давно простыл и след...*

Навум Кіслік

Чаму пра чырвонаармейца Навума Кісліка? Бо ён жа, як вядома, усё сваё жыццё пісаў і перакладаў вершы. Так, але першы верш быў апублікаваны ў нейкай прыфрантавой газеце і падпісаны «Чырвонаармеец Н. Кіслік». Вось як пра гэта пісаў паэт: «N, пісьменнік і маёр, якому мой выпадак быў не новы, перагарнуўшы маё стварэнне, дастаў лісток і даў каманду: «У нумар!»

У нейкім сэнсе чырвонаармейцам ён застаўся назаўсёды.

Аднак самы першы верш, які я пачуў ад яго, быў складзены вось пры якіх абставінах. Неяк бацькі сышлі ў госці і пакінулі нас адных. Я ўжо збіраўся заплакаць без бачнай прычыны, і тады Навум пачаў складаць мне вершы. Цікава і іншае:



*Навум КІСЛІК.*

мне было недзе каля чатырох гадоў, але я сёе-тое запомніў на ўсё жыццё. Бо ён іх больш ніколі не паўтараў. «Гулял в саду, нашел дуду и опустил ее в воду, Плывет, плывет в воде дуда, в дуду набралася вода...» Гэта быў бясконца доўгі верш кшталу «Гаўрыліяды» і сканчваўся так: «И чтоб штаны не потерять, он стал руками их держать». Не ведаю, як у сэнсе паэзіі, але плакаць мне расхацелася.

Канечне, самае цяжкае пытанне, – калі чалавек пачаў складаць вершы? На яго цяжка было адказаць, думаю, і самому паэту. Відавочна, вершы пачалі складацца даўно, але ён хацеў, хутчэй за ўсё, стаць мастаком. Памятаю, да нейкага юбілею А. Пушкіна ён намаляваў у куце ватманскага ліста школьнай газеты ў віньетцы тушшу партрэт Пушкіна ў профіль. Пасля, ужо ў эвакуацыі, намаляваў з фотаздымка партрэт У. Маякоўскага каляровымі алоўкамі. Дарэчы, паэзію Маякоўскага любіў з дзіцячых гадоў, як Алесь Адамовіч з дзіцячых гадоў любіў і ведаў паэзію Пушкіна.

Пісьменніка ці паэта характарызуе, перш за ўсё, яго творчасць. Але часам бываюць такія ўспаміны, якія не адносяцца да творчасці, а нейкім чынам проста характарызуюць чалавека, і яны таксама неацэнныя. Я ўжо не памятаю, хто з вядомых літаратараў пісаў пра пісьменнікаў сам-насам з сабой... Там, у прыватнасці, расказана, як А. Чэхаў спрабаваў капелюшом злавіць «сонечнага зайчыка». І Чэхаў паўстае перад намі не такім, які ён на фотаздымку, калі чытае сваю п'есу артыстам МХАТа, а проста чалавекам.

Можна было б прыдумаць такі варыянт, што Навум быў хуліганістым хлопчыкам, што яго часта ставілі ў кут, і, паколькі ў куце займацца не было чым, ён стаў складаць вершы. І хаця курыць ён пачаў яшчэ да школы, тым не менш паводзінамі вызначаўся ўзорнымі, вучыўся на «выдатна» і ў кожным класе атрымліваў пахвальную грамату. А чытаць пачаў яшчэ да школы.

Бегаў з сябрамі па дварах, гуляў у звычайныя гульні, але больш за ўсё любіў гуляць у валейбол. Пасярод суседняга прасторнага двара была вытаптаная пляцоўка для валейбола. Паміж слупамі нацягнута тое, што некалі называлася валейбольнай сеткай: пара вяровак уздоўж і некалькі ўпоперак. Заўсёды прызначаўся суддзя, які павінен быў вызначыць, прайшоў мяч праз сетку ці над ёй.

Мы жылі ў Віцебску на вуліцы Дзяржынскага на першым паверсе двухпавярховага дома. Кватэра была вялікая: кухня з вялізнай печкай, прахадны пакой, дзе жыў гадзіннікавы майстар Фішкін з жонкай, і два нашых, дзе ў другім пакоі была мая з братам спальня. Вокны з пакоя Фішкіна і нашай вітальні выходзілі ў двор, але былі крыху ніжэй за ўзровень зямлі, таму, каб увайсці ў кватэру (уваход быў праз кухню) патрэбна было спусціцца на 2-3 прыступкі. Вакно са спальні выходзіла ў другі двор, дзе быў мой дзіцячы садок. Гэтае вакно знаходзілася ўжо над зямлёй, так што ў дажджлівае надвор'е мама адкрывала яго, я выскокваў і бег у садок найкарацейшым шляхам. Дарэчы, калі бацька атрымаў у Мінску кватэру на вуліцы Фрунзе, вокны выходзілі на вуліцу на вышыні чалавечага росту, а вокны нашых суседзяў выходзілі ў двор на ўзроўні зямлі.

У 1925 годзе мама з'ехала нараджаць у Маскву да свайго старэйшага брата. У Маскве народжанага Навума зарэгістравалі, і бацькі вярнуліся ў Віцебск. Калі я нарадзіўся (гэта здарылася 1 красавіка, але праз 10 гадоў), Навум сядзеў на плоце і не паверыў, што ў яго нарадзіўся брат, лічыў, што яго ашукваюць.

У сакавіку 1941 года бацьку ўзялі на ваенныя зборы, дзе ён і сустрэў вайну на заходняй мяжы Беларусі. Добра памятаю, як ён яшчэ падчас збораў прыехаў дадому ў ваеннай форме і з рэвальверам. Рэвальвер, без патронаў, я з цяжкасцю ўсцягнуў на падваконне і паказваў суседскім хлопцам.

Калі Віцебск ужо быў пад абстрэламі і бамбёжкай, мама забрала нас з Навумам да сваёй маці, дзе жыла яшчэ і яе бабуля. Аднойчы ноччу пачуўся грукат у дзверы, і ў пакой уваліўся ў плашч-намёце бацька. Ён распавёў, што на яго вачах загінуў бацька хлопчыка, з якім я сябраваў у дзіцячым садку, і што сам ён цудам выратаваўся ад акружэння дзякуючы таму, што ўмеў кіраваць машынай. Яны спынілі выпадковую машыну і пагрузілі туды раненых. Шафёр сказаў, што забяжыць у краму па прадукты (крамы тады ўжо былі кінутыя). Бацька доўга чакаў і, калі чакаць ужо было небяспечна, пайшоў у краму. Яна была пустая – кіроўца проста збег.

Бацька прабыў у нас нейкія хвіліны і на развітанне сказаў:

– Ад'язджайце куды толькі можаце, каб духу вашага тут не было.

Навум па выхаванні быў тыповым савецкім дзіцём: радаваўся поспехам індустрыялізацыі, перамогам у засваенні Поўначы, ганарыўся за сваю краіну. Калі Іспанія змагалася супраць фашыстаў, ён, як і многія хлапчукі яго ўзросту, гатовы быў стаць «на самым небяспечным, на самым галоўным участку бітвы».

Так пісаў Навум ужо ў 1950 годзе ў вершы «Ідуць герыльерас»: «В ударные роты интербригады давно записалось мое поколенье».

Унутраны свет пісьменніка, паэта лепш за ўсё раскрываюць яго творы. Гэта яшчэ важна і для таго, каб зразумець, што аб'ядноўвала яго з сябрамі. Прывяду радкі з яго ранняга верша, напісанага яшчэ дастаткова маладым паэтам у тым узросце, калі толькі «складаюць заяўкі» на будучае жыццё.

В житейское море я вышел давно,
И годы бегут к тридцати,
А сердце
    все тем же волненьем полно,
как в самом начале пути.
Я много ходил,
    сухопутьем пыля,
от синих морей в стороне,
но часто
    воскликнуть по-детски:
        – Земля! –
хотелось неистово мне.
Я верю,
    что каждому в жизни дано
нехоженой тропкой пройти,
и пусть хоть немного,
    хоть что-то одно
упрямо искать
    и найти.
Пусть только
    высокая
        ясная цель
маячной звездою горит.
Ведь столько еще
    неоткрытых земель
в том мире,
    что нами открыт!
Покуда сердце
    на все тормоза
не станет в положенный срок,
пусть ветер, и ливень, и солнце в глаза,
и версты,
    и версты дорог.

Па чыстай выпадковасці апошнім эшалонам мы з'ехалі з Віцебска. Састаў цягнуўся па адкрытым месцы, а далёка над лесам кружылі самалёты. Людзі напружана ўзіраліся ў неба то з аднаго, то з другога боку вагона. Потым былі выбухі, і нават патрапленне ў апошнія вагоны цягніка.

У Воршы мы сядзелі на пероне: мама на нейкіх рэчах, а я ў яе на руках. Была ціхая ноч. І раптам зямля здрыганулася, і ў неба ўскінуўся фантан агню: бомба трапіла ў склад за чыгуначнымі пуцямі.

У рэшце рэшт мы апынуліся ў Набярэжных Чаўнах. Падсялілі нас да адной татаркі. Жылі мы на гары, дзе знаходзіўся элеватар, конны двор, дзіцячы сад, сталовая. Маму ўзялі працаваць на элеватар, мяне аддалі ў дзіцячы садок, а Навум пайшоў вучыцца ў школу. Гара з элеватарам аддзялялася ад горада прытокам Камы – Чалнынкай, перапраўляліся праз якую на пароме. З аднаго берага да другога быў працягнуты металічны трос, і з дапамогай драўлянай прылады і рук плот перасоўваўся па ім.

З намі яшчэ жыла родная маміна сястра (жонка малодшага брата майго бацькі) з дачкой. У найцяжэйшых баях каля горада Ярцава пад Масквой малодшы брат бацькі загінуў. Загінуў смерцю адважных (так было напісана ў пахаронцы). Ён быў кулямётчыкам.

Хутка пасля гэтага Навум, які вучыўся ў 10-м класе, і яму яшчэ не было 18 гадоў, пайшоў добраахвотнікам на фронт.

> Средняя школа –
> направо,
> прямо –
> военкомат.
> Здорово держится мама,
> хлюпает маленький брат.

Ён сыходзіў зімой. Мы з мамай стаялі на высокім беразе Камы і глядзелі зверху, як цераз замерзлую і пакрытую снегам раку, па пратаптанай сцежцы перасоўвалася стужка чорных кропак з заплечнікамі (ну дакладна мураўіная шаша).

Навум патрапіў у Саратаўскую кулямётную вучэльню. Ім не далі скончыць вучэльню і адправілі на фронт. Вайна, незалежна ад таго, справядлівая яна ці несправядлівая, вучыць толькі аднаму – забіваць. Ці ты забіваеш, ці забіваюць цябе. Дзесьці на Арлоўска-Курскай дузе Навум атрымаў вельмі цяжкое раненне. Пра тое, што здарылася, пасля расказана ў вершы «Ліст ад Івана Русакова».

> А случай в том,
> что был я просто ранен,
> но кем-то
> в скорбный список
> занесен.
> И в тыл помчался
> треугольник Ванин,
> покуда я
> смотрел нездешний сон...
>
> Иван писал,
> что пал я, как герой.
> А я ни мертвым,
> ни героем не был.

Але так атрымалася, што ліст са шпіталю мы атрымалі раней, а ад Вані крыху пазней.

Пасля шпіталю Навума спісалі ў тыл, і ён прыехаў да нас ужо ў Чкалаў (Арэнбург), дзе жыў дзед з сям'ёй дачкі.

Каб зарабіць хоць нейкія грошы на жыццё, Навум стаў пісаць карціны і прадаваць на рынку. Памятаю, ён зрабіў копію карціны Васняцова «Волаты». Напісаны ім нацюрморт вісеў нават нейкі час у музеі. Была і карціна, дзе на тахце ляжала ўсходняя прыгажуня, а перад ёй стаяла ваза з садавінай. Садавіну мы бачылі толькі на той карціне.

І ўсё ж, нягледзячы на забарону дактароў, ён паступае ў Чкалаўскі педінстытут. Справа ў тым, што пасля ранення яго доўгія гады мучылі болі ў галаве. Праз шмат гадоў, калі пачалі выяўляцца разнастайныя ўзроставыя хваробы, яму зрабілі мноства рэнтгенаўскіх здымкаў. Адзін з іх ён паказаў мне: частка чэрапа і верхняя сківіца, як зорнае неба, былі ўсеяныя драбнюткімі асколкамі.

Бацька вярнуўся не адразу пасля заканчэння вайны. У 1946 годзе іх частку адправілі на перафармаванне ў горад Горкі. Там у яго здарыўся першы сардэчны прыступ. Яму было 43 гады. У тым жа 1946 годзе мы пераехалі з бацькам, які дэмабілізаваўся, у Мінск, куды яго запрасілі даваенныя сябры на працу. Навум павінен быў скончыць курс і пазней прыехаць да нас.

Пасляваенны Мінск ляжаў у руінах. Нам часова даў прытулак у сябе адзін з малодшых братоў бацькі, які застаўся жывым. Бацька атрымаў кватэру ў адным з двух неразбураных дамоў на вул. Завальнай. Кватэра патрабавала рамонту: у адной са сценаў зеўрала дзірка. Адзін пакой заняла нашая сям'я, а ў другі – маміна сястра з дачкой.

Навума прынялі ва ўніверсітэт на філфак. Пры гэтым ён павінен быў даздаць шмат прадметаў. Мужчынскае палова курса так ці інакш складалася з франтавікоў (хто з дзеючай арміі, хто з партызанаў). І, нягледзячы на цяжкі час, думаю, ён быў самым вясёлым у іх жыцці, па-сапраўднаму студэнцкім. Да вучобы яны ставіліся сур'ёзна: хацелі нагнаць тое, што адабрала вайна, але і заводзілі знаёмствы з дзяўчатамі, ладзілі літаратурныя вечарыны, танцы.

Пісьменнік Леанід Коваль паступіў ва ўніверсітэт у 1947 годзе. У сваёй кнізе «Дзённік сведкі» (Рыга, 2006) ён піша: "Збіраліся на літаратурныя дыскусіі. Прагна сачылі за публікацыямі ў часопісах. Чыталі вершы. Літаратурным пларокам і аўтарытэтам быў Навум Кіслік, таленавіты паэт, франтавік, дасціпнік і сумленне студэнцтва. Алесь Адамовіч ужо тады быў вядомы сваёй прынцыповасцю і шчырасцю, добрым літаратурным густам...»

Вельмі хутка пасля паступлення ў Навума з'явіліся сябры, якія былі верныя яму ўсё жыццё: Саша Адамовіч, Алег Сурскі, а пазней і Валянцін Тарас. Мы былі сведкамі іх пастаянных сустрэчаў, сталення. За доўгія гады іх цесных адносінаў сталі цікавыя не толькі яны самі, але і іх родныя і блізкія. Іх асабістае жыццё стала часткай нашага жыцця, адбываліся вяселлі, нараджаліся дзеці.

Нашымі суседзямі па паверсе былі сімпатычныя і добразычлівыя беларусы – Пётр Сямёнавіч і Сцепаніда Якаўлеўна з дзецьмі. Сцепаніда Якаўлеўна часта звярталася да мамы па дапамогу і наогул дзялілася з ёй сваімі праблемамі. Ніколі пры гэтым не ўзнікалі якія-небудзь міжнацыянальныя канфлікты.

Аднойчы Сцепаніда Якаўлеўна, прыйшоўшы з базару, сказала маме:

– Кажуць, што габрэі прадаюць на базары атручаныя грыбы!

Бацька наш вельмі дакладна вызначыў, што адбываецца і што варта чакаць. І прагноз апраўдаўся: у краіне пачалася антысеміцкая кампанія.

Сцепаніда Якаўлеўна, усвядоміўшы, што яна сказала маме, прыйшла прасіць прабачэння, але... кампанія выяўляла сябе не толькі на рынку, але і ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Ідэалагічных ворагаў выкрывалі ўсюды: у навуцы, мастацтве, літаратуры, у тэатры, кіно. Людзі, многія з якіх падчас вайны абаранялі Айчыну, былі прыбітыя да ганебнага слупа, пазбаўляліся працы, станавіліся ізгоямі. Пад гарачую руку партыйных апрычнікаў траплялiся і сапраўды вялікія прадстаўнікі карэннай нацыянальнасці – Дзмітрый Шастаковіч, Ганна Ахматава, Міхаіл Зошчанка.

Каб перадаць атмасферу таго часу ва ўніверсітэце, лепш за ўсё даць слова Валянціну Тарасу, які бліскуча расказаў пра гэта ў сваіх мемуарах «На выспе ўспамінаў»: “Ва аўдыторыях БДУ 1950 гадоў гучэла рэха году мінулага, 1949-га, калі грамілі ўніверсітэцкіх “бязродных касмапалітаў”. Пра аднаго з іх, дацэнта Барага, хлопцы з старэйшых курсаў распавядалі як пра найлепшага выкладчыка філфаку. Выкладаў ён старажытную рускую літаратуру, ведаў на памяць амаль усе старажытныя літаратурныя тэксты і ўмеў падаваць іх так, што аўдыторыя затойвала дыханне. Але ў Барага быў адзін вялікі мінус, ён быў габрэй, што аўтаматычна далучала чалавека да «касмапалітаў»...

«На кафедры рускай літаратуры было некалькі выдатных выкладчыкаў: Саўсун, Круцікава і Рэзнікаў...

Сёння разумею, што гэтыя людзі былі не тое што смелыя, хоць, вядома, і смелыя таксама, але перадусім яны былі людзьмі высокай культуры, якая была іхняй арганічнай чалавечай якасцю, уласцівасцю душы. Яны проста не маглі паводзіць сябе інакш, насуперак сваім ведам і сумленню. І вось за гэтых трох узяўся прафесар Іван Васільевіч Гутараў, постаць таксама неардынарная, яркая і разам с тым – партыйны інквізітар».

Яны былі ўсе выгнаныя з універсітэта, і не толькі яны, але яшчэ і цудоўныя выкладчыкі Касоўскі, Фактаровіч, Зярніцкі.

Інквізітарскі талент І. Гутарава разгарнуўся з незвычайнай сілай. Ён зразумеў, што для цкавання гэтых ні ў чым не вінаватых людзей добрыя ўсе сродкі, бо ідэалагічны гаспадар скамандаваў: “Фас!”

І. Гутараў адчуваў каласальнае задавальненне, выконваючы волю партыі. Зрэшты, такое ж задавальненне адчувалі пагромшчыкі любога ўзроўню».

Пра гэтыя падзеі Навум распавядаў мне з вялікім болем. Сітуацыя сапраўды была безвыходнай і безнадзейнай: самая перадавая, дэмакратычная і справядлівая сістэма ў свеце, розум, гонар і сумленне нашай эпохі (як яна пра сябе аб’яўляла) абрынула ўсю сваю моц супраць людзей пэўнага роду.

Вядома, падзеі грамадскага жыцця фармавалі светапогляд студэнтаў, выпрацоўвалі правілы іх паводзінаў. Адны, якія рыхтавалі сябе ў партыйныя функцыянеры, цалкам спадзяваліся на гонар і сумленне партыі і не мелі свайго. Праўда, партыя ім за гэта плаціла пэўнымі жыццёвымі выгодамі. Іншыя ўзбройваліся цытатамі з працаў правадыроў сусветнага пралетарыяту, рашэнняў з’ездаў партыі і маглі спакойна існаваць у якасці прафесараў ВНУ.

Складаней за ўсё было тым, хто сфармаваўся як асоба, меў уласнае меркаванне, але не мог яго адстойваць.

Валянцін Тарас піша, што «Галоўны набытак ва ўніверсітэце – гэта знаёмства з Алег Сурскім, які звёў мяне з Навумам Кіслікам»...

Саша Адамовіч упершыню з’явіўся ў нас дома, калі мы яшчэ жылі на вуліцы Завальнай. Колькі я яго памятаю, ён ніколі не піў, не выпіваў у адрозненне ад іншых студэнтаў. І гэта была яго прынцыповая пазіцыя. Калі здараліся застоллі і збіраліся сябры брата (ужо на вуліцы Фрунзе каля парку Горкага), Саша як заўсёды быў энергічны, у меру вясёлы, актыўна ўдзельнічаў у гутарцы, часам сам уздымаў якую-небудзь тэму. І такім ён заставаўся на працягу ўсяго вечара.

Я ўспомніў пра гэтую яго рысу, калі чытаў Ўінстана Чэрчыля «Мае вялікія сучаснікі». Успамінаючы Бернарда Шоу, ён піша, што яго прыцягнула ў Шоу яркая і вясёлая манера весці дыялог і ўразіў той факт, што за абедам ён еў толькі гародніну і садавіну і піў толькі ваду. Чэрчыль хацеў падчапіць яго і спытаў: «А што Вы сапраўды ніколі не п’еце віна?», «Не, я дастаткова дужы, каб заставацца ў парадку і так», – адказаў ён.

Ніколі ў кампаніі Навума не вяліся пустыя размовы. Слухаць іх было заўсёды цікава...

Быў такі выпадак. Сабраліся пайсці ў кіно Саша, Навум і я. Дзень быў летні, вельмі гарачы і перад кіно вырашылі схадзіць на Камсамольскае возера. Выкупаліся, абсохлі і ўжо сыходзілі, як раптам пачулі крык:

– Чалавек патануў!

Крычаў хлопец і паказваў рукой на ваду недалёка ад берага. Раней чым я ўсвядоміў, што трэба рабіць, Саша скінуў з сябе вопратку і ўжо даў нырца. Калі я нырнуў, то ўбачыў, што вада зусім мутная і нічога не відаць (тады, магчыма ўпершыню, возера чысцілі земснарады і грунтоўна замуцілі ваду). Амаль адразу прыехалі выратавальнікі, выцягнулі небараку, адкачвалі і павезлі ў бальніцу, не адкачаўшы.

Сюды ж на вуліцу Фрунзе да Навума Саша стаў прыносіць рукапіс частак рамана «Вайна пад стрэхамі». Памятаю, як аднойчы Навум выйшаў са свайго пакоя, калі Саша сышоў, і ўрачыста-таямнічым голасам паведаміў:

– Саша напісаў раман!.

І ў інтанацыі і словах гучаў гонар за яго.

Рэгулярна Саша з’яўляўся ў нашым доме, каб распавесці пра свае справы, пра розныя сітуацыі ў Акадэміі навук БССР. Прыходзіў заўсёды парывісты, ажыўлены, гучны. Было такое адчуванне, што прынёс вялізную навіну, настолькі ён быў неабыякавы да таго, што адбывалася ў Акадэміі навук або ў Маскве. І гэта працягвалася нават і тады, калі ён ужо жыў у Маскве і ўсё, што там адбывалася, тычылася яго непасрэдна.

У сувязі з ад’ездам Сашы ў Маскву Васіль Быкаў пісаў: «Шмат хто ўзрадваўся ад’езду, мне ж стала дужа сіратліва без Сашы. Хаця ён званіў з Масквы, коратка пісаў, зрэдку прыязджаў у Мінск, дзе заставалася ягоная сям’я – жонка Вера і дачка Наташа. Але ўжо было пэўна, што ў Мінск ён не вернецца – на вялікі жаль ягоных сяброў, якія яго вельмі любілі. Некалі звычайна маўклівы Навум Кіслік сказаў пра Сашу: “Калі б ён піў, яму б цаны не было”. Гэта была вышэйшая адзнака Адамовічу ад пітной кампаніі. Але ў Мінску яму даўно стала цесна і душна, зрэшты, таксама, як і ў Маскве, адкуль ён аднойчы ўжо ўцякаў менавіта ў Мінск. Мабыць, чалавеку гэткага сумлення і таленту нідзе няма мейсца на сьвеце..” (В. Быкаў. “Доўгая дарога дадому”).

У кожны яго прыезд у Мінск і наведванне Навума адчувалася, што ў Сашы адбываюцца змены. Гэта ніяк не выяўлялася вонкава. Ён заставаўся нібыта ранейшым, але ўнутрана змяняўся. У гэтым сэнсе можна працытаваць самога Сашу: «...калі з’яўляецца салавей і пачынае паласкаць горлачка, увесь птушыны лес следам асабліва стараецца – з’явіўся Майстар і ўсе астатнія пачынаюць старацца наперабой, кожны хоча ўзняць планку» (“Прожито”).

Саша, як сказаў Васіль Быкаў, ператварыўся ў «постаць еўрапейскага маштабу».

Прыязджаючы ў Мінск, Саша перш за ўсё ішоў да Навума.

За два гады да майго ад’езду ў Германію я перабіраў паперы, фотаздымкі і знайшоў мноства здымкаў, знятых Сашам і Навумам падчас іх хаджэння па Волзе. Я адабраў частку фотаздымкаў і вырашыў паказаць іх Наташы Адамовіч. Падчас майго візіту Наташа даведалася, што я яшчэ не прачытаў кнігу «Прожито» і падарыла яе з такім надпісам: «Шаноўнаму Валянціну Зіноўевічу Кісьліку, брату Навума, на добрую памяць. Саша і Навум сябравалі ўсё жыццё. Нават у апошні прыезд Саша патэлефанаваў: – Я ў Наума. Ен вельмі паважаў Ганну Навумаўну, любіў бываць у вашым доме. Вера і Наталля Адамовіч. Лістапад, 2001 г.»

Саша плаваў з сябрамі (Навумам, Алегам Сурскім, Валянцінам Тарасам) на лодцы па рэках і азёрах Беларусі. Але нават удваіх з Навумам ім было добра. Яны як бы дапаўнялі адзін аднаго.

Выправіліся яны ўдваіх пешшу па Волзе. Ну, дзе пешшу, а дзе і на транспарце. З тых часоў захаваўся ў памяці аповед пра тое, як яны наведалі старога, які яшчэ ведаў А.М. Горкага.

Прыходзяць у хату (стары з тых часоў, як ведаў Горкага, жыў у той самай хаце), старая кліча дзеда, які ляжыць на печы:

– Злазь, зноў прыйшлі пра Пешкава распытваць!

– Мы з Ляксеем у квач любілі гуляць.

– А што такое квач?

– Ты што не ведаеш? Бярэш кавалак сухога лашажага лайна і ганяеш!..

Потым Ляксей убачыў, што бальшавікі вялікую сілу забіраюць і перакінуўся на іх бок. А я так тут усю сваю навігацыю і праводжу.

Пытанне пра квача Саша задаў, думаю, з чыстай філалагічнай цікавасці. Бо квач, насамрэч, іншая гульня.

І фотаздымак захаваўся: Саша з гэтым дзедам на прызбе сядзяць.

Калі мы ўжо жылі каля парку Горкага, Саша два разы прывозіў да нас сваю маму – Ганну Мітрафанаўну. Яна тады ўжо была хворая, хадзіла з кіем.Назіранне за ёй у гэтыя два наведванні злучыліся ўва мне з тым, што было прачытана ў дылогіі: Саша вельмі дакладна апісаў і рысы характару мамы, і яе душэўныя якасці. З вялікай любоўю і павагай да мамы апісана ўсё, што тычылася яе ў «Прожито». Трэба яшчэ сказаць, што, калі я яе ўбачыў, падумаў, што жанчыны з такімі прыгожымі і высакароднымі тварамі павінны былі калісьці жыць у Пецярбургу і сканчваць Бястужаўскія курсы.

Акадэмік Радзім Гарэцкі ў сваіх успамінах піша: «Хаця і прайшло ўжо 10 гадоў, як перастала біцца сэрца Алеся Адамовіча, але ён яскрава бачыцца мне такім жа гарачым, імпульсіўным, няўрымслівым, вострым, шчырым. Здавалася, што ён не проста шыбка ідзе, а ляціць у прасторы, увесь час некуды спяшаючыся...” (Р. Гарэцкі. “Жыццёвы меланж”. “Тэрмапілы”). Такім захавалі яго фотаздымкі, калі ён ішоў на галоўную сваю трыбуну, каб «даць апошні бой» – як збіраўся Сахараў. Калі і паміраць, то вось так» (А. Адамович. “Прожито».). Ужо Алесем Адамовічам былі напісаныя словы: «Уся ісціна ў тым, што памерці я хачу ў Беларусі, а ляжаць у Глушы. Там я звязаны з усім...». Так пра сабе можа казаць сапраўды вялікі сын свайго народа.

Якімі б ні былі цудоўнымі студэнцкія гады, яны пралятаюць хутка. Час заканчэння ўніверсітэта і размеркавання на працу вельмі добра апісаны Леанідам Кавалём у кнізе “Дзённік сведкі” (Рыга, кн. 1, 2006). Праўда, ён сканчваў журфак, а журналісты заўсёды былі спецыялістамі ідэалагічнага фронту, а таму нічога дзіўнага, што ў размеркаванні журналістаў на працу прымаў удзел сакратар ЦК КПБ. Тады яшчэ не толькі ў ВНУ, але і па ўсёй краіне гучала рэха 1949 г. Акрамя таго, партыя і ўрад ставілі задачу – сцерці межы паміж горадам і вёскай. Як паказаў час, ніхто толкам не ведаў, як гэта робіцца і ці трэба гэта рабіць наогул. Але ва ўніверсітэце гэтае пытанне вырашалася проста: вясковых дзяцей пакінулі ў горадзе, а гарадскіх (не ўсіх, праўда) адправілі ў вёску.

Навум атрымаў накіраванне ў Дрысу. Гарадок гэты мала змяніўся, мяркую, у параўнанні з царскім часам. Сям-там памяняліся толькі надпісы, ды міліцыянт, у адрозненне ад гарадавога, ні з кім ужо не вітаўся (вітацца было няма з кім – паноў жа ўжо знішчылі). Але захаваўся яшчэ лагодны, шчодры і працавіты народ, які выжываў нягледзячы ні на што.

Зусім недалёка ад пераправы праз Заходнюю Дзвіну стаяла прасторная хата, частка якой была адгароджана, і там былі пакойчыкі, якія гаспадар здаваў. У адным з іх жыў Навум, а побач жанчына з нованароджаным дзіцем, ці то ўдава, ці то маці-адзіночка. Пра гэта напісана ў вершы «Як настаўнік складаў вершы»:

Не то здесь волки-переярки,
не то немецкие овчарки,
поодичавшие с войны,
в полях плутали до весны.

Не то между плетней
поземки
с тягучим посвистом текли...
Ночами в маленьком поселке
Учитель сочинял стихи.

Без передышки, без помарки
взгонял по лесенке слова.
Стенали волки-переярки.
Томилась за стеной вдова.

Горела вся, себя не помня,
а ночь длинней, чем бабий век,
а той зимою ровно в полночь
в поселке вырубили свет.

И тьма покрыла б все грехи...
И керосину было жалко...
Но и при тлении огарка
Учитель сочинял стихи.

Цяжка сабе ўявіць, як можна было жыць і пісаць вершы ў такіх умовах (а можа быць, якраз і пішуць вершы ў такіх умовах). Пасля працы ў школе трэба было прыгатаваць сабе ежу, праверыць сшыткі, падрыхтавацца да наступнага дня і толькі пасля гэтага сядаць за вершы. А святло ж выключалі кожны вечар...

Калі Валянцін Тарас распавядае пра сваіх сяброў – сяброў Навума – ён піша, што яны «былі неразлучнай пяцёркай, што называецца вадой не разальеш, – дзе паяўляўся адзін з нас, неўзабаве з'яўляліся і астатнія. Гэта было не проста сяброўства, а сапраўднае братэрства, амаль абсалютнае пры ўсім непадабенстве нашых характараў агульнасць думак, поглядаў, сімпатый і антыпатый, нават пачуццяў» (В. Тарас. «На высьпе ўспамінаў»).

І надыходзіць момант, калі нельга не сказаць пра яшчэ аднаго «члена» кампаніі і не толькі гэтай, а любой кампаніі творчай інтэлігенцыі ў Савецкім Саюзе. Гаворка ідзе пра КДБ. Гэтыя органы добра ведалі, што ядуць у кампаніях, і асабліва добра былі дасведчаныя аб тым, што там п'юць, але найбольш іх цікавіла, пра што гавораць і, асабліва, пра што думаюць. Часцей за ўсё яны звярталіся да дапамогі «двухногіх жучкоў», як назваў іх Валянцін Тарас – даносчыкаў. Пра гэта ён напісаў у «Справе Вакулоўскай» у «На высьпе ўспамінаў». Але ў кампанію Навума заслаць чужога было немагчыма. Органы павінны былі звяртацца да іншых метадаў. Яны «прамацвалі» кожнага з сяброў, спрабуючы схіліць на свой бок і такім чынам схіліць да здрады. Я вось падумаў, што яны правяралі кожнага не толькі на лаяльнасць да сацыялістычнай сістэме і ідэалогіі партыі, але і самыя галоўныя чалавечыя якасці – прыстойнасць, адданасць сябрам, сумленнасць, мужнасць, цвёрдасць характару.

Вось сведчанне Алеся Адамовіча. «Мы тады часта збіраліся ў гасціннай фінскай хатцы на ўскраіне Мінска – у Мастака (Мастак – Алег Сурскі, а фінскі домік знаходзіўся тады ў задах сучаснага ўніверсама «Рыга» – *В.К.*). Пасядзець за сталом, пашумець у гучных спрэчках, разгрызці ўсе пытанні, што раптам і разам адкрыліся нам. Лічылася, што «чужых» у нашай кампаніі няма (ды і надакучыла азірацца), таму казалі пра ўсё шчыра. А тым больш, мы былі заадно з М. Хрушчовым – каго ж баяцца? Аднойчы сабраліся, пытаемся: «А Паэт дзе?» Няма Паэта (Паэт – гэта Навум Кіслік).

І раптам з’яўляецца: выгляд чалавека крыху агаломшанага, але задаволенага: «Хлопцы! Дзе я бы-ыў!» Яго, аказваецца, «выклікалі». Даў падпіску пра неразгалашэнне. Падрабязна пачаў расказваць, што абяцаў «не разгалашаць», а напрыканцы параіў: «падрыхтуйцеся, кожны павінен мець “версію”, каб не заспелі, як яго, знянацку» («Прожито»).

Алег Сурскі (Алег Аркадзевіч) быў, як я ўжо казаў, трохі з іншага цэха. Ён быў журналістам. І сапраўднае сяброўства звязала іх усіх на ўсё жыццё, да канца дзён Навума. Калі Навум трапіў у шпіталь, а мяне не было ў Беларусі, ён сказаў маёй жонцы Волі:

– Калі што-небудзь здарыцца, першаму патэлефануй Алегу.

Вядома, праца з кожным з іх вялася ў рамках «размоўнага жанру» і ніякага «прымусу да міру». Пасля заканчэння ўніверсітэта Алег стаў літсупрацоўнікам аддзела культуры газеты «Советская Белоруссия», але збіраўся паступаць у аспірантуру Акадэміі мастацтваў Ленінграда па спецыяльнасці “Мастацтвазнаўства”.

Калі яго выклікалі ў КДБ, з ім гутарыў немалады чалавек у цывільным, доўга як бы даваў «уводную». А потым проста раскрыў карты, што, маўляў, калі Вы пагодзіцеся супрацоўнічаць з намі, мы дапаможам Вам паступіць у аспірантуру і ў далейшым... І Алег зразумеў, што ў аспірантуру ён не паступіць і вырашыў змяніць сваё жыццё.

Міжволі прыходзіць параўнанне. Калі фашысты ўсталёўвалі «новы парадак», то ў гарадах і вёсках яны расклейвалі загады новай улады, а ў вёсках зачытвалі ўслых. Там былі жахлівыя словы: «Забараняецца хаваць габрэя... тыя, хто хавае, і члены іх сям’і будуць расстраляныя... спаленыя... павешаныя...» І вось знаходзіліся людзі і ў гарадах і ў вёсках, якія нічога не ведалі пра высокія матэрыі, але хавалі у сябе габрэяў. Прычым на гэта ішлі часта муж і жонка. Гэта быў іх маральны выбар.

Свой маральны выбар сябры зрабілі даўно. Гэта былі не проста маладыя людзі, а сфармаваныя асобы, якія на вельмі многія пытанні далі сабе адказы і мелі цвёрдыя пазіцыі і перакананні, што разыходзіліся з ідэалагічнымі ўстаноўкамі партыі. Якраз у гэтым і хацелі органы іх выкрыць. А паколькі не маглі гэта зрабіць, то потым па творах пісьменнікаў ладзіліся дыскусіі і старыя партызаны або ваенныя тапталі іх творы, як гэта было і з Адамовічам, і з Быкавым.

Калі ўсё ж вярнуцца да Алега Сурскага, то лёс мог звесці Алега і Навума значна раней. Навум пасля ранення быў адпраўлены на лячэнне ў шпіталь у Тбілісі, дзе ў гэты час жыў Алег з бацькамі. Алег ад нараджэння быў надзелены мноствам талентаў, бо нарадзіўся ў творчай, інтэлігенцкай сям’і. Бацька быў акцёрам, а маці, Вера Сяргееўна Сурская, яшчэ да рэвалюцыі атрымала мастацкую адукацыю ў Маскве, была паэткай, пісала і сама афармляла дзіцячыя кніжкі. Алег, аднак, марыў стаць лётчыкам і пасля сёмага класа паступіў у авіяцыйнае вучылішча на факультэт канструявання. І хто ведае, можа быць, праз шмат гадоў з’явіўся б самалёт «СУ», але не Сухога, а Сурскага.

Лёс жа распарадзіўся інакш. У 1944 годзе бацька Алега атрымлівае працу ў Брэсце, куды і пераязджае сям’я, а трыма гадамі пазней Алег паступае ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Незвычайная энергія і талент спрыяюць таму, што яшчэ студэнтам пачаў друкавацца як мастацтвазнаўца. Пазней са сваім братам, вядомым ленінградскім скульптарам, выступіў як мастак-дэкаратар, афармляў экспазіцыі Музея этнаграфіі народаў СССР у Ленінградзе. У 1958 годзе ствараецца панарама «Дарога жыцця» для Музея гісторыі Ленінграда, у 1959 годзе для ВДНГ у Маскве ствараецца велізарная дыярама «Краснаярская ГЭС». З іншага боку, як піша С. Харэўскі пра Алега Сурскага, «у тым ліку дзякуючы і яго намаганням, у беларускую культурную спадчыну вярнуліся імёны Малевіча, Шагала, Ліціцкага ды і шмат яшчэ каго».

Натуральна, што Валянцін Тарас у сваёй кнізе «На высьпе ўспамінаў» прысвяціў старонкі і Алегу Сурскаму, адзначыўшы шматграннасць яго таленту: «Цяжка адназначна акрэсліць, хто ён. Мастацтвазнаўца? Так. Дызайнер? Так. Журналіст? Так. Але ён яшчэ і столяр, і цясьляр, і механік, і архітэктар, і будаўнік, а калі спатрэбіцца – і швец, і кравец, і сантэхнік». І яшчэ: «Наогул, шкло – яго другое пасля жывапісу каханне, матэрыял яго ўласнай мастацкай творчасці: зробленыя ім люстры, свяцільнікі, розныя бра і арыгінальныя абажуры ўпрыгожваюць залу Нацыянальнага банка Беларусі, урадавую рэзідэнцыю ў Мінску ў Вайсковым завулку, санаторый "Беларусь" у Сочы, пансіянат «Сосны» ў Нарачы, многія іншыя грамадскія будынкі ў гарадах Беларусі».

Калі мы перасяліліся ў новую кватэру, то пакой, які я павінен быў заняць, меў менш за пяць квадратных метраў плошчы, акрамя таго, у ім было двое двухстворкавых дзвярэй. У гэтым пакоі трэба было размясціць печ (гаворка не ішла пра ложак або тахту), пісьмовы стол і бібліятэку навуковую і навукова-папулярную. Алег вырашыў гэтую праблему, праўда, давялося пілаваць усю мэблю, але затое ўсё было кампактна, рацыянальна выкарыстаны кожны сантыметр.

Безумоўна, каштоўнымі з'яўляюцца яго кнігі і альбомы, прысвечаныя творчасці В. Сумарава, М. Данцыга, В. Грамыкі, В. Цвірко, Г. Паплаўскага, А. Кроля. Алег Сурскі рана заўважыў талент мастака Барыса Заборава, з якім яго на ўсё жыццё звязала сяброўства.

Валюшак. Так называлі сябры Валянціна Тараса. Стаўшы паэтам і пісьменнікам, Валянцін Тарас быў яшчэ і летапісцам той эпохі, у якой жыў ён і яго сябры ў Беларусі. «А самае галоўнае тут тое, – пісаў ён, – што колішняе мае партызанства прывяло мяне да людзей, у якіх я знайшоў найбліжэйшых сяброў, хоць амаль усе яны старэйшыя за мяне: Саша Адамовіч быў старэйшы на тры гады, Навум Кіслік на пяць... Аляксандр Дракахруст... на сем. На шэсць гадоў старэйшы за мяне быў Васіль Быкаў. Парадокс, але я павінен быць удзячны вайне, бо калі б не яна, не мой у ёй удзел, наўрад ці перапляліся б маі дарогі з дарогамі гэтых самых дарагіх для мяне хлопцаў, наўрад ці ўвайшоў бы я, як роўня, у іхняе кола.»

Акрамя пісьменніцкага таленту Валянцін Тарас валодаў яшчэ каласальнай здольнасцю, якую ў свой час меў Іраклій Андроннікаў. Ён быў бліскучым апавядальнікам і адначасова парадыстам. Прычым, ён змяняў не толькі голас, але і выкарыстоўваў лексіку і фразеалогію вядомых беларускіх літаратараў, якіх парадыраваў.

Асаблівай папулярнасцю карысталася пародыя на паэта, які, падобна адной з дзеючых асобаў п'есы вельмі ранняга А. Чэхава «Боты ўсмятку», гарэлку не піў, але заўсёды пах ёю. І вось у такім стане гэты паэт на юбілейным сходзе, прысвечаным якому-небудзь вядомаму беларускаму пісьменніку ці паэту, пасля выступу асноўных дакладчыкаў, заўсёды цягнуў руку і прасіў слова. Выйшаўшы на трыбуну, ён прамаўляў аднаго і таго ж зместу прамову і ў канцы яе зусім забываўся, пра якога пісьменніка ці паэта ідзе гаворка, і пачынаў выкрыкваць усе вядомыя яму імёны, пакуль хто-небудзь з тэхнічных работнікаў або з адміністрацыі не забіраў яго з трыбуны і не выводзіў у вестыбюль.

Такія ж пародыі рабіліся і на партыйных функцыянераў, сакратароў ЦК КПБ, якія лічылі сваім абавязкам прыехаць на нараду пісьменнікаў і павучыць іх, як і пра што трэба пісаць. Адна з такіх пародый перарасла потым у раздзельчык кнігі "На высьпе ўспамінаў" – "Куратар «Звязды» Цімох Гарбуноў".

Тым, хто прачытаў кнігу В. Тараса "На высьпе ўспамінаў", зразумелы дыяпазон пісьменніцкага таленту аўтара ад тонкага гумару, іроніі і самаіроніі да глыбокага разумення грамадскіх з'яў і падзей і пранікнення ў псіхалагічныя партрэты сяброў і людзей, успаміны пра якіх яму дарагія...

Навум яшчэ прымаў экзамены, а я прыехаў у Дрысу, каб спакаваць яго бібліятэ-

ку ў скрыні, бо скончыўся трохгадовы тэрмін настаўніцтва, і ён збіраўся вяртацца ў Мінск. Перад сыходам раніцай у школу ён кожны раз пакідаў мне нейкія грошы, каб я купіў на кірмашы сыр (вельмі смачны!) і бутэльку дрысенскай газіроўкі (ружовая, злёгку падсалоджаная вада). А абедаць мы хадзілі ў чайную.

Вярнуўся Навум яшчэ на вуліцу Завальную. Пачаў з таго, што абышоў усе рэдакцыі газет і літаратурна-мастацкіх часопісаў. Нідзе не ўзялі на працу. Але былі сябры ды і дапамог, як гэта часта бывае, выпадак.

Аркадзь Куляшоў, тады яшчэ не Народны паэт БССР, але ўжо лаўрэат дзвюх Сталінскіх (Дзяржаўных) прэмій СССР, выдаваў чарговы зборнік вершаў на рускай мове. У гэтым зборніку вершаў павінен быў быць вядомы школьнікам верш «Камуністы», які раней ужо пераклаў адзін рэпрэсаваны паэт. Трэба было зрабіць новы пераклад. Сябры Навума параілі А. Куляшову даць для перакладу гэты верш Кісліку. Атрымаўшы пераклад, Куляшоў папрасіў пазнаёміць яго з паэтам. Яны доўга размаўлялі, і на развітанне Куляшоў спытаў у Навума, дзе ён працуе і папрасіў тэлефон для сувязі. Даведаўся, што Навум шукае працу... І праз пару дзён Навума прынялі ў часопіс «Полымя», дзе раней яму было адмоўлена ў месцы. З гэтага часу пачалося іх цеснае супрацоўніцтва, якое перарасло ў шматгадовае творчае сяброўства.

У памяці захаваўся такі эпізод, звязаны з А. Куляшовым. Неяк быў Навум разам з ім у Маскве, ці то на нарадзе, ці то прыязджалі яны ў «Новый мир» да А. Твардоўскага. Жылі ў тады яшчэ новай гасцініцы «Расія», але на розных паверхах. Раніцай Куляшоў патэлефанаваў Навуму і запрасіў яго ў буфет на сняданак. Калі яны ўжо сядзелі за столікам, міма іх прайшла жанчына, з якой Куляшоў павітаўся. "Гэта, – сказаў ён, – вядомая Роза Куляшова (цёзка па прозвішчы Аркадзя Аляксандравіча і экстрасэнс. – *В.К.*)." Калі яна ішла назад, Куляшоў шырокім жэстам запрасіў яе да стала і сказаў:

– Роза, гэта паэт Навум Кіслік з Беларусі, ён не верыць у цуды, калі ласка, пакажыце нам што-небудзь з Вашага рэпертуару.

Роза села да стала і папрасіла які-небудзь ліст з надрукаваным тэкстам. Нібы і чакаў гэтага, Куляшоў дастаў з унутранай кішэні пінжака ў чатыры разы складзены аркуш шчыльнай паперы, адзін бок якога быў з тэкстам, а другі – чысты. Куляшоў паклаў паперу тэкстам да стальніцы і разгладзіў ліст. Роза ўсклала рукі зверху і праз кароткі час сказала:

– Старонка падзелена на дзве часткі, справа надрукавана па-расейску, а злева, я мяркую, на беларускай мове.

Сапраўды, гэта быў бланк, дзе было сказана, што А.А. Куляшоў мае адкрыты рахунак у Дзяржбанку СССР. За спінай у Розы ўжо стаялі наведвальнікі буфета і з цікавасцю глядзелі на цуд прадстаўлення. Адчуўшы ўвагу гледачоў, Роза скінула туфлі і паставіла ногі так, што ступні глядзелі назад, і прапанавала гледачам падносіць да ступняў металічныя прадметы. Такім чынам, яна беспамылкова адгадала нажы, відэльцы, лыжкі і нават вызначыла вартасць манет. Затым, абуўшы туфлі, пад апладысменты гледачоў, пакінула буфет.

У хуткім часе ў часопісе «Юнацтва» было апублікаваны верш «Эпізод з соллю» і Навум атрымаў ад галоўнага рэдактара ліст, дзе Барыс Палявы пісаў, што з гэтага часу Навум з'яўляецца іх аўтарам, але больш у часопіс ён вершы не прапаноўваў.

Прывяду выказванне Рыгора Бярозкіна з прадмовы да адной з кніжак Навума. «Навум Кіслік – такі ж прадстаўнік пакалення паэтаў-франтавікоў, што і Аляксандр Мяжыраў, Сяргей Арлоў ці Грыгорый Пажэнян. Пад некаторымі вершамі Кісліка пра памяць, узрушаную ўражаннямі бою, мог бы падпісацца любы з іх. Напрыклад, пад гэтым пра нябожчыка камузвода, які прыходзіць у сны паэта і, тыцкаючы цыгаркаю ў «чыстае поле», усё яшчэ чакае: «Сейчас пойдут танки... Танки, – слы-

шишь, – танки!» Ці пад прысвечанымі Васілю Быкаву (выдатнае прысвячэнне!) радкамі, у якіх тое ж пачуццё неадменнасці ваеннага досведу: ворагі «все не хотят отдать то кочку, то высотку... И ненависть опять берет меня за глотку.»

Нагадаю, дарэчы, што гэтыя вершы былі спачувальна сустрэтыя А. Твардоўскім, які ў лісце да А. Куляшова ад 25 снежня 1969 года пісаў так: "Я даў згоду на пераклад Кісліку (гаворка ішла пра пераклад паэмы «Далёка ад акіяна») – гэта, мяркуючы па адным вершы ў «Юности» (Твардоўскі меў на ўвазе «Эпізод з соллю"), чалавек сур'ёзны».

У гэты ж перыяд Навум шмат перакладае беларускіх паэтаў і празаікаў: Р. Барадулін, П. Броўка, Я. Брыль, А. Вялюгін, А. Вярцінскі, С. Гаўрусёў, С. Дзяргай, А. Карпюк, Я. Колас, У. Караткевіч, А. Куляшоў, Я. Купала, І. Мележ, П. Панчанка, А. Пысін, А. Русецкі, М. Стральцоў, М. Танк. Паэзія і проза, перакладзеныя Кіслікам, могуць скласці бібліятэку.

Памятаю, як Навум выйшаў са свайго пакоя (у гэты час ён перакладаў Р. Барадуліна) і сказаў:

– Рыгор вялікі майстар! І перакладаць яго цяжка.

Калі сказаць, што жыццё Навума стала ў Мінску наладжвацца, гэта будзе некаторым перабольшаннем. Былі 60-я гады. Без сур'ёзных падстаў рэдактар звальняе Навума, які адпрацаваў у часопісе каля сямі гадоў. Суд аднавіў яго на працы, але ён адразу ж падаў заяву на звальненне. Як я ўжо казаў, ён шмат працуе над перакладамі і, сыйшоўшы з часопіса, ён вызваліў час для напісання ўласных вершаў.

Неяк Навум сабраўся з духам і паслаў падборку вершаў у «Новый мир» А. Твардоўскаму. Ён нічога не сказаў пра гэта нават мне. І нават калі прыйшоў часопіс з надрукаванымі творамі, сказаў не адразу. З адным з яго вершаў тады адбылася пацешная гісторыя. У гэтай жа кніжцы «Нового мира» была апублікаваная падборка вершаў Б. Ахмадулінай. Навум адкрыў яе вершы і паказаў сярод іх свой верш («И, отстояв заупокой...»), які рэдактар аддзела паэзіі па памылцы ўнесла ў падборку вершаў Ахмадулінай. Навум напісаў рэдактару. Атрымаў прабачэнні. Але гісторыя мела працяг.

У 1977 годзе ў Грузіі вырашылі выдаць зборнік вершаў Б. Ахмадулінай. Рэдактар-складальнік зборніка Г. Маргвелашвілі выявіў у «Новом мире» верш Б. Ахмадулінай, які раней нідзе не друкаваўся, і ўключыў яго ў зборнік.

Неяк, будучы ў Маскве, Навум сядзеў з К. Ваншэнкіным у рэстаране ЦДЛ – абедалі і, натуральна, выпівалі. З гэтай жа мэтай, але за іншым столікам, сядзела Б. Ахмадуліна. Калі яна праходзіла міма, К. Ваншэнкін сказаў:

– Бэла, аддай Кісліку ганарар!

Усе дружна пасмяяліся, а неўзабаве Навум атрымаў важкую бандэроль ад Ахмадулінай з кнігай вершаў «Сны пра Грузію». На першай старонцы было напісана: «Дарагому Навуму Зіноўевічу Кісліку ў глыбокай збянтэжанасці і з палкай надзеяй, што 142 старонка гэтай кніжкі не стане прычынай варожасці і смутку, але, наадварот, пакладзе пачатак добраму знаёмству». І дата: 16 мая 1978 г. А на 142 старонцы: «Як бачыце, гэты верш Ваш, а не мой, аб чым з сумам і сорамам сведчу. Бэла Ахмадуліна».

Яшчэ калі Навум працаваў у часопісе «Нёман», я пачуў ад яго пра Рыгора Саламонавіча Бярозкіна. Гэта потым я пазнаёмлюся з ім, і ён часта стане прыходзіць да нас, і я яго пачую і буду ўражаны яго каласальнаму веданню рускай і сусветнай паэзіі і літаратуры наогул. І ўжо зусім потым прачытаю выдатны артыкул Уладзіміра Механа «Бярозкін, якім яго памятаю» («Мишпоха», №18), дзе сабраны не толькі самыя значныя факты яго біяграфіі, але паказана і тое, чым ён быў для беларускай літаратуры, і прыведзены выказванні пра яго найпрыкметнейшых фігур беларускай літаратуры – Алеся Адамовіча і Рыгора Барадуліна.

Мяне ж у аповедзе пра яго Навума ўразіла біяграфія гэтага чалавека, у чымсьці падобная да біяграфій вельмі і вельмі многіх людзей сталінскай эпохі. Але, мабыць, перакажу яе са слоў В. Мехава.

За тры месяцы да пачатку вайны, па ілжывым даносе вядомага літаратара, Бярозкіна саджаюць у турму. У гэты час Бярозкіну ўсяго 23 гады ад роду, ён студэнт педагагічнага інстытута, заг. аддзелам рэдакцыі «ЛіМа» і ўжо прызнаны таленавіты літаратар.

Мяркуючы, што Мінск з дня на дзень будзе захоплены фашыстамі, вязняў пагналі з горада ў калоне пад канвоем. Прыкладна праз 30 кіламетраў калону падзялілі на крымінальнікаў і палітычных. Першых адпусцілі, а другім старэйшы канвою сказаў: «Загад у мяне – усіх расстраляць. Бяжыце да лесу... Мы ўслед страляем. Хто ўпадзе – божая, значыць, воля. Хто ўратуецца – жыві, гуляй, не памінай ліхам...». (В. Мехаў, «Мишпоха», №18). Бярозкін застаўся жывым і ў Магілёве прыйшоў у ваенкамат ды папрасіўся на фронт. Ваяваў радавым, камандзірам аддзялення, пад Сталінградам быў цяжка паранены. Вярнуўся зноў у пяхоту. Ён стараўся ўвесь час быць у ценю, не выяўляць стаўлення да літаратурнага цэху. І ўсё ж такі парушыў гэтае правіла. Напісаў нататку пра байца з аддзялення – адважнага салдата. У газеце корпуса рэдактар адразу ж пачуў пяро прафесіянала высокага класа. А далей перавёў малодшага камандзіра Бярозкіна ў рэдакцыю. Потым, пасля заканчэння вайны, Бярозкін атрымаў камандзіроўку ў Маскву і вельмі захацеў заскочыць у Мінск (пры грашах і ў добрым еўрапейскім касцюме), пасядзець з сябрамі ў рэстаране. І засвяціўся. І ў другі раз трапіў у Мінск ужо не па сваёй волі. Прывезлі. «І прывялі да наркама дзяржбяспекі, усёўладнага Лаўрэнція Цанавы ў кайданках.

Лаўрэнцій Фаміч быў аматар пажартаваць.

– Тэбэ нэ стыдно, Бирозкин – ткнул он в наручники пухлым пальцем, – показываться так наркому? Культурный вед считаешься человек!.. (В. Мехаў, «Мишпоха», №18).

Бярозкіна адправілі ў лагер, дзе ён прасядзеў з 1949 па 1954, і толькі стараннямі А. Твардоўскага і А. Куляшова быў вызвалены і вярнуўся. Калі ён прыходзіў да нас, я заслухоўваўся яго апавяданнямі, дзівіўся таму, з якой лёгкасцю ён цытаваў пісьменнікаў, імёны якіх я потым знаходзіў у энцыклапедыі. Ён ведаў чалавека, які яго пасадзіў. І неяк я спытаў яго, ці не жадае ён паквітацца з гэтым чалавекам. У адказ ён толькі махнуў рукой. Заканчваючы пра яго, хачу зноў прывесці цытату з артыкула В. Мехава: «Перачытваю сказанае Адамовічам аб аўтарытэце крытыка Бярозкіна ў беларускай літаратуры: «Не ведаю, ці быў, ці ёсць у нас вышэй! – і засмучаюся, што пры жыцці не прачытаў і не пачуў ён такога ніколі.» 1-га снежня кожнага года Навум, Валянцін Тарас, Саша Дракахруст, Федзя Яфімаў і я ішлі на Маскоўскія могілкі да знаёмай магілы, каб яшчэ раз памянуць «нязлым ціхім словам» гэтага выдатнага чалавека і літаратара. Калі збіраліся сябры, Грыша заходзіў яшчэ толькі ў пярэдні пакой і ўжо шумеў:

– Хлопцы! Гарэлкі мала! Гэта быў звычайны жарт і ніяк не характарызавала іх кампанію як «пітную» (выраз В. Быкава).

«Сябры – гэта людзі, якія нас добра ведаюць, але ўсё роўна любяць». Гэты афарызм належыць Сашу Дракахрусту. Аляксандр Абрамавіч Дракахруст прыехаў у Мінск з Далёкага Усходу ў 1964 годзе і вельмі хутка ўвайшоў у кола сяброў Навума. Гэтаму спрыяў не толькі літаратурны талент, але і яго біяграфія. Нарадзіўся ён у Маскве ў сям'і вайскоўца. Бацька Сашы прайшоў Грамадзянскую вайну, быў паранены, кантужаны, вырас да дывізіённага камісара, начальніка палітаддзела танкавай брыгады. У 1937 годзе быў арыштаваны і як "вораг народа" расстраляны ва ўнутранай турме НКУС у Мінску ў ноч на 29 кастрычніка 1937 г. Маці правяла свае дзевяць гадоў у "Карлагу", выйшла адтуль цяжка хворым, фізічна

скалечаным, але глыбока духоўна прадбачлівым чалавекам. Сашу ўсё ж удалося скончыць Маскоўскае ваенна-інжынернае вучылішча і Хабараўскі педінстытут. З ліпеню 1941 года – у арміі, прайшоў вайну ад "званка да званка" і скончыў у Берліне камандзірам штурмавога сапёрнага ўзвода. Пасля вайны – ваенны журналіст спачатку ў Берліне, потым на Далёкім Усходзе. Віктар Ляскоўскі, пісьменнік, журналіст, які таксама жыў і працаваў на Далёкім Усходзе, успамінае: «Яго імя (А. Дракахруста – *В.К.*) часта гучала на розных літаратурных «тусоўках» у Хабараўску, Уладзівастоку, Бірабіджане. Заўсёды са знакам плюс. Ні пра аднаго чалавека не казалі з такой павагай, як пра яго. Усе ў адзін голас адзначалі яго выключную прыстойнасць, сумленнасць – а гэта для літаратурнага спадарства вялікая рэдкасць». («Апошні верш», Авив, №11, лістапад, 2008 г.) У гэтым жа нумары газеты «Авив» артыкул В. Тараса «Атлантыда Аляксандра Дракахруста». У ёй пісьменнік прыводзіць вершы Навума («Глядзяць блізарука мацёрыя старыя...») і піша: «Тая ж грозная, трагічная музыка, аркестраваная па-свойму, у сваім ключы, гучыць у кнізе ўспамінаў паэта А. Дракахруста «Што было, тое – было». А заканчвае артыкул ён з упэўненасцю, што тыя, хто «прачытае ўспаміны Аляксандра Абрамавіча Дракахруста, стануць завочнымі сябрамі паэта. І палюбяць яго. Такім, якім ён быў».

Не ікона, не ўзор хадзячай дабрачыннасці, а жывы грэшны чалавек. Як сказаў калісьці Навум:

> Нас Бог
> по-разному отметил
> и черт по-разному кружил,
> и всяк по-своему в ответе
> за то,
>         как он
>                 на свете жил.
> Не исключен и нагоняй –
> подобный факт предвидеть надо.
> А что положена награда,
> Пусть в это верит
>                         негодяй.
> Но мудрецы и простаки
> равно
>         не ждут себе медали
> ни за высокие печали,
> ни за веселые грехи.

Я ў гэтай цытаце замяніў толькі «какой он есть» на «какой он был». В. Тарас не мог ведаць, што калі артыкул яго ўжо быў у рэдакцыі, Аляксандр Абрамавіч Дракахруст памёр у шпіталі. У яго жыцці было вялізнае каханне да сваёй жонкі Дзіны Мікалаеўны, якое ён пранёс праз усё жыццё. Ён прысвяціў ёй мноства вершаў. І асабліва ўражваюць душу вершы, якія ён пісаў безнадзейна хворай, згасаючай і па-ранейшаму дарагой Дзіне.

Да апошняга дня мы перапісваліся з Сашам, і ён падарыў нам з жонкай абедзве кнігі сваіх успамінаў з надпісам: «Дорогим моим Вале и Оле – с неостывающей памятью и нержавеющей дружбой. Сердечно! Саша. Сентябрь, 2008».

Васіль Уладзіміравіч Быкаў мог бы з'явіцца ў нашым доме вельмі даўно, прыкладна ў 1957 г. ці годам пазней, але не супала. Валянцін Тарас вельмі падрабязна распавёў, як адбылося яго першае знаёмства з В. Быкавым у раздзеле "Дарога да Васіля» кнігі «На высьпе ўспамінаў». В.Тарас працаваў тады ў газеце «Звязда», а Навум – у аддзеле паэзіі і прозы газеты «Літаратура і мастацтва». Даведаўшыся, што Тарас едзе ў Гродна, узрадавана сказаў: «Цудоўна! Абавязкова зайдзі ў «Гродзенскую праўду», перадасі ад мяне прывітаньне аднаму чалавеку». І распавёў,

што на мінулым тыдні ў «ЛіМ» паступіла па пошце апавяданьне журналіста з «Гродзенскай праўды», нейкага Васіля Быкава – рэч выдатная! Якіх-небудзь сем старонак на машынцы, уражаньне, нібы прачытаў аповесць, такі ёмісты зьмест... Ён, Навум, такога не сустракаў. Яшчэ ён сказаў, што напісаў аўтару ліст, паведаміў, што рыхтуе апавяданьне да друку і будзе прапаноўваць яго ў адзін з бліжэйшых нумароў «ЛіМа». Але я ўсё роўна абавязкова павінен зайсці ў «Гродзенскую праўду». «Пазнаёмішся, паглядзіш, што за ён. Мне здаецца, што свой, блізкі нам чалавек» («На высьпе ўспамінаў», Мн., Беларускі кнігазбор, 2004).

Мне добра запомнілася першая сустрэча і знаёмства з Быкавым. Неяк я ўдзельнічаў у камандзе Алега Сурскага разам з Валянцінам Тарасам і Навумам, калі мы плылі па рацэ Нёман ад Бярозаўкі да Гродна. Падарожжа само па сабе было незабыўным, бо лета стаяла надзвычай цёплае. Калі мы, нарэшце, прыплылі ў Гродна, Навум з Алегам адправіліся ў горад, а мы з Валянцінам засталіся ў лагеры на беразе. Вярнуўшыся, Навум сказаў: «Васіль, аказваецца, з’ехаў, але я патлумачыў, дзе мы спыніліся». А я ж не ведаў, пра каго ідзе гаворка. І зразумеў толькі потым. На наступны дзень, калі цені ад дрэў на бераг пацягнуліся да вады, з’явіўся Васіль Быкаў. Першае ўражанне ад Васіля было, што ён чымсьці ўсхваляваны і заклапочаны. «Твар у хлопца быў звычайны, нават, як мне здалося, невыразны, гэткіх амаль аднолькавых твараў тысячы ў беларускіх вёсках, але вочы... зірнулі на мяне разумныя, вострыя, шэра-блакітныя, з зялёнымі іскаркамі, вельмі жывыя вочы!» (В. Тарас, “На высьпе ўспамінаў”).

Калі мы ўжо сядзелі там жа на беразе за імправізаваным сталом, Васіль, звычайна маўклівы, у асноўным адказваў на пытанні, якія яму задавалі ўсе прысутныя. Ужо тады партыйная цэнзура і вартавыя «сацыялістычнай уласнасці» пачалі цкаваць маладога пісьменніка, які ў першых жа сваіх творах заявіў аб сваёй пазіцыі – пазіцыі непрычасанай праўды. В. Тарас піша: «Ды як бы там ні было, Навум не памыліўся: убачыў, угадаў у маленечкім апавяданні нікому не вядомага аўтара вялікі талент і падтрымаў яго. Пра тое ведаю, пэўна, адзін я, бо сам Навум ніколі гэтым не хваліўся, не пнуўся ў «хросныя бацькі» знакамітага на ўвесь свет пісьменніка. У ім, у Навуме, не было і ценю таго, што па-руску завецца *суетностью*, тут яны з Васілем былі аднолькавыя».

Тут жа, на беразе, Васіль Уладзіміравіч распавёў, што атрымлівае велізарную колькасць лістоў з лаянкай ад старых партызанаў і генералаў, якія абвінавачваюць яго... З іншага боку, шмат лістоў у падтрымку ён атрымлівае, у прыватнасці, ад святароў, якія таксама ўбачылі талент пісьменніка і хацелі б павярнуць яго ў веру.

Так ён праседзеў у нас на беразе ўвесь вечар і, нават калі сам не казаў, заклапочана азіраўся на навакольныя кусты, падазраючы, што за імі можа хавацца “двухногі жучок”. Я кажу пра гэта, каб ясна стала, у якой атмасферы мужнеў талент пісьменніка, пастаянная зацкаванасць і адчуванне таго, што за табой сочаць, за кожным тваім крокам і ўздыхам. У адзін з прыездаў у Мінск і наведванне ім Навума меў месца такі эпізод, з гэтым звязаны і падрабязна расказаны В. Тарасам у яго кнізе. Знаходзячыся ў нас на вуліцы Фрунзе, Быкаў выглянуў у вакно і спытаў у Навума, што гэта за белая «Волга» стаіць супраць вокнаў на другім баку вуліцы. «Нас слухаюць», – сказаў Васіль...

У сваёй кнізе ў раздзеле «Дарога да Васіля» В. Тарас з вялікай глыбінёй пранікае ў псіхалагічны партрэт Васіля Быкава і Навума Кісліка. І, натуральна, спыняецца на трагічнай для Навума тэме, якая ўзнікла з перабудовай.

«Пераскокваю праз дзесяцігодзе зь вялікім гакам – у тыя часы, калі не было той нашай “кісьлікаўскай” кампаніі. Дакладней той, якой яна праіснавала да перабудовы, да найноўшага этапу гісторыі нашай краіны, калі мы апынуліся перад выбарам: зь кім мы? З новай Беларусьсю, з адраджэнцкім рухам, які з моманту

свайго ўзьнікненьня – канец 80-х – атаясаміўся з постацямі Зянона Пазьняка і Васіля Быкава, ці быў супраць іх? Для некаторых з нас выбар аказаўся балючым, драматычным, перш за ўсё для Навума... Калі разваліўся Савецкі Саюз, Навум успрыняў гэта, як страту Радзімы, пра што сказаў у адным із апошніх сваіх вершаў:

Земля и родина...
                                    А если
вдруг – и ни того, и ни другого,
зачем ты приколдован к бездне,
к пустому воздуху прикован?
Смирись, что корни анемичны,
Признай, что ветви сухоруки...
Но есть могилы, а не мифы,
И горе говорит по-русски.
На сломе времени, на склоне
судьбы
            и поквитаться нечем,
и отмолчаться нечем
                                    кроме
текущей в жилах русской речи.

Я б сказаў, што ён яшчэ раней зразумеў, што фактычна «страціў» сяброў, што мова, якая іх аб’ядноўвала (бо ён шмат перакладаў беларускай паэзіі і прозы для рускай літаратуры) іх і раз’яднала. Сябры былі адзінай радасцю яго самотнага жыцця.

Яшчэ адна, магчыма, апошняя цытата з В. Тараса: «Васіль бачыў і разумеў Навумаву драму, горка перажываў, што ў самым галоўным для яго, Васіля, Навум ня быў поўным ягоным аднадумцам, што ў многім яны страцілі агульную мову. Сказаў мне аднойчы: Навум, вядома, сумуе не па імперыі – па Расіі, якую насіў у сабе, якую адчуваў сваей духоўнай радзімай. На жаль, Беларусь такой радзімай для яго не была пры ўсёй ягонай павазе да нашай мовы, літаратуры, культуры. Але ж самая глыбокая павага яшчэ не любоў, якая патрабуе ахвярнасці, гатоўнасці пайсці на Галгофу ў імя ўсяго гэтага. Што зробіш, я магу толькі паспачуваць Навуму ў ягонай трагедыі» (*тамсама*).

Як бы гэта не па-блюзнерску гучала, але скажу, што Навум памёр своечасова. Скончылася другое тысячагоддзе з яго кровапралітнай вайной і трагічнай гісторыяй стварэння, амаль векавога існавання і распаду першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы. Настаў новы час, у якім Навум Кіслік не бачыў сябе, ды і ўзрост быў немалы. Настаў час, калі ўсё можна купіць – ад палёту ў космас да кавалка дзяржаўнай мяжы. Людзі рассталіся з апошнімі ілюзіямі і ідэаламі апошняга стагоддзя. Усё больш становіцца наймітаў, і ўсё менш – добраахвотнікаў.

І самая апошняя цытата з А. Дракахруста. «29-га (снежня – *В.К.*) пахавалі Навума. «Госпиталя, госпиталя – обетованная Земля...» Гэта ён напісаў пасля цяжкага ранення, калі быў яшчэ зусім маладым. Вось і памёр у шпіталі. Памёр, як сам прадказаў у вершах, «па заканчэнні крыві ўсёй». Вершы, на жаль, спраўджваюцца. Кроў хлынула горлам.

Трагічнае адзінокае жыццё. Быў ганарлівы і ранімы, і нікога не пускаў да сябе ў душу. Напэўна, таму і давёў сябе да стану, калі ўжо не толькі лячыць, але і аперавацъ было немагчыма. Яго смерць для мяне – як аскепак у сэрца.

Цяжкі няўступлівы характар, мудрэц, які глыбока пакутаваў, відаць, ад непаўнаты свайго жыцця. Люты палеміст, перакананы і нецярплівы да малейшых пярэчанняў. Але перш за ўсё – паэт. Буйны талент. І ў Маскве не згубіўся б, о не!

Дарма мы часам крыўдзіліся на Навума. У яго ў апошнія гады была вельмі цяжкая дэпрэсія, блізкая, мяркуючы па ўсім, да дэпрэсіі Слуцкага. Сумна, але мы, сябры, апынуліся нямоглыя ў барацьбе з ёю.

Калі вось так блізка сутыкаешся са смерцю блізкага, амаль роднага чалавека, лепш відаць дарэмнасць нашых намаганняў, нашу штодзённую мітусню. Нас трымае на плаву і прымушае нешта рабіць сіла інерцыі. Мабыць, адна яна».

Навагодняя ноч. На экране тэлевізара – пырскі шампанскага. Распусныя дзеўкі і старыя распуснікі, ва ўсякім выпадку, фаты, старанна імітуюць загадзя знятую весялосць. Пахабныя вершыкі. Агідныя паставы, фрывольныя анекдоты... Новы год! У газетах апакаліптычныя прароцтвы суседнічаюць з вымучанымі надзеямі.

А для Навума ўсяго гэтага ўжо няма. Яго праглынула яма крэматорыя. Застаўся попел. Можа, душа жывая? Хто гэта ведае?

Хто ведае?

...А на помощь в холодную полночь
только юность свою позовешь...

Гэта ён напісаў ужо вельмі даўно. Не выключаю, што ў рэанімацыі.

І паклікаў. Але было ўжо позна.

І вось яно – прароцтва, якое збылося.

...Лишь одна тебе будет отрада,
то, что сам ты по строчкам сложил,
будто жизнь свою прожил, как надо,
а теперь умираешь, как жил.

Я ўдзячны Богу, што ён падарыў мне такога брата і яго сяброў. Яны навучылі мяне многаму.

І што – спытаеце вы – жыць лягчэй стала?

А хто сказаў, што жыць лягчэй павінна быць. Кожны з іх пражыў цяжкае, але годнае чалавека жыццё.

Дзмітрый Паўлавец



…адзін Некрашэвіч, ці адзін Ластоўскі, або адзін Смоліч вартыя некалькіх навучальных устаноў…

# Укрыжаваны за роднае слова

***Да 130-годдзя з дня нараджэння Сцяпана Некрашэвіча***

Канец мінулага стагоддзя адметны тым, што ў гісторыка-культурны і навуковы працэс пачала вяртацца спадчына тых творцаў, хто стаў ахвярай палітычных рэпрэсіяў і каго ідэалагічная цэнзура настойліва імкнулася выкрасліць з айчыннай гісторыі, навукі. Гэта было пакаленне людзей, якія аддана, шчыра, рупліва, настойліва працавалі на карысць сваёй Бацькаўшчыны, свайго народа, пакаленне высокіх інтэлектуалаў, якое на парэштках Расійскай Імперыі імкнулася пабудаваць новую, вольную Беларусь. Маладыя інтэлігенты, у якіх прачнулася нацыянальная самасвядомасць, імкнуліся абудзіць іншых. Яны верылі ў тое, што “багаты слаўнай культурнай мінуўшчынай, поўны маладых творчых сіл... беларускі народ у хуткім часе дасць славянству і ўсяму свету яркія доказы свайго ўваскрашэння і прынясе на раскошны алтар чалавечай цывілізацыі плён свайго нацыянальнага генія, лепшыя кветы свайго вызваленага духу” [1, с. 29]. На жаль, іхнім марам, спадзяванням не суджана было здзейсніцца.



*Сцяпан НЕКРАШЭВІЧ.*

Аднак нягледзячы на трагічную незавершанасць сваіх задумаў, яны паспелі зрабіць вельмі шмат. Адны з іх зніклі бясследна і пахаваныя ў невядома якіх Курапатах, другія (іх значна менш) прайшлі праз пекла пакут і здзекаў, праз гвалтоўны разрыў з Радзімай і любімай працай. Пра іх не згадвалася ў энцыклапедыях савецкага часу, а калі і паведамлялася, то лёс абмяжоўваўся зашыфраванай фармулёўкай: "У апошнія гады жыў за межамі БССР...".

Сёлета будзе 130 гадоў з дня нараджэння аднаго з найбольш яркіх прадстаўнікоў гэтага пакалення — самага выбітнага мовавeда 20-х гадоў мінулага стагоддзя, заснавальніка Інбелкульта, Інстытута беларускай мовы, Акадэміі навук БССР, яе першага віцэ-прэзідэнта, арганізатара слоўнікавай працы — Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча. Мы не будзем засяроджваць увагу на агульнавядомых энцыклапедычных звестках, а паспрабуем паказаць працэс вяртання добрага імя вучонага да шырокай грамадскасці і ягонай спадчыны ў навуковы ўжытак. Ён пражыў у Мінску ўсяго дзесяць гадоў — перыяд зусім нядоўгі, але надзвычай плённы, паспяховы. І як бы ні стараліся прыхаваць памяць пра ягонае імя і дзейнасць, зрабіць гэта было немагчыма. Для тых, хто не пераставаў лічыць сябе беларусам, хто не крывіў душой, не шукаў у беларускай мове толькі сродку для здабыцця ступеняў і званняў, ён назаўсёды заставаўся ў памяці выдатным вучоным, таленавітым арганізатарам навукі, патрыётам. І не яго віна ў тым, што цягам многіх гадоў вартасць чалавечага жыцця, узровень адукаванасці, вучонасці вызначалася складальнікамі савецкіх энцыклапедый атрыманымі ганаровымі званнямі. Усё жыццё ён заставаўся чалавекам апантаным, імкнуўся да ведаў, марыў спазнаць сваю родную старонку і зрабіць так, каб Беларусь перастала быць краем, не вядомым беларусам. Аднак заўсёды было так, што чым бліжэй стаяў чалавек да праўды, тым быў больш небяспечны для ўладатрымальнікаў. Знаёмячыся з ягоным жыццяпісам, задаешся пытаннямі: навошта? чаму? які тут сэнс?

Напачатку бальшавіцкія ўлады БССР праводзілі гэтак званую палітыку беларусізацыі, якая хутчэй за ўсё была вымушанай з'явай, імкненнем прыхаваць сваё негатыўнае стаўленне да ўсяго беларускага з боку камуністаў, бо яшчэ ў 1918 годзе адзін з іхніх лідараў заявіў, што беларусы і беларуская мова — гэта выдумка нацыяналістаў і што камуністы выступаюць супраць "нацыянальных рагатак". Мусіць, не выпадкова, што прадстаўнікі беларускай нацыянальнай эліты за межамі савецкай Беларусі не вельмі давяралі бальшавіцкім уладам, іхняй рыторыцы. Так, У. Жылка ў лісце да А. Луцэвіча пісаў: "Камуністы ў грунце варожы беларускай сялянскай стыхіі і нашай нацыянальнай ідэі. Усё, што робіцца ў Менску (а не столькі той работы, як галасу) ёсць не ласка, а ўступка з бою. Жаданне беларускіх камуністаў манапалізаваць беларускі рух – тактычны крок..." [2, с. 257].

Гэта было сказана яшчэ далёка да безлічы судовых працэсаў, якія ахопяць краіну з пачатку 30-х, яшчэ доўжыцца тактычны перапынак, дазволены Масквою, яшчэ час росквіту нацыянал-камунізму. Улада быццам бы дазваляе беларускаму руху пашырацца і ўмацоўвацца, садзейнічаць таму, каб беларусы сталі людзьмі

нацыянальна свядомымі, і адначасова цікуе за тымі, хто складае патэнцыйную небяспеку, адступае ад генеральнай лініі. Што на самай справе ўяўляла палітыка бальшавіцкай улады ў дачыненні да беларускага нацыянальна-культурнага руху, добра бачна з “Докладной записки” І. Апанскага свайму шэфу, старшыні АДПУ СССР Мянжынскаму, асноўны сэнс якой у тым, каб давесці Лубянцы, што “белорусские дела”... изо дня в день приобретают все более серьёзный характер вследствие неуклонно усиливающегося национал-демократического движения” [3, с. 140]. Тут даецца характарыстыка ўсім найбольш прыкметным асобам айчыннай літаратуры, навукі, грамадска-палітычным дзеячам 20-х гадоў. Пра С. Некрашэвіча, між іншага, паведамляецца: “В данное время шовинисты поднимают снова вопрос о захвате в свои руки поста ректора Белорусского Университета, при чем на этот пост ими выдвигается “щирый белорус” (конечно из эс-эров) – НЕКРАШЕВИЧ (*так заўсёды ў тэксце*)... Теперь два слова о НЕКРАШЕВИЧЕ. НЕКРАШЕВИЧ видный член партии белорусских эс-эров (самоликвидировавшейся в 1924 г.). В период немецкой оккупации был Одесским консулом правительства БНР. Будучи в 1925 г. Пред. Главпрофбюро БССР оказывал неоценимые услуги белорусскому шовинистическому движению по захвату культурных учреждений. Ныне состоит Зам. Предом Инбелкульта” [3, с. 145]. Характарызуючы дзейнасць краязнаўчых аб’яднанняў, таварыш Апанскі зноў палохае свайго патрона тым, што “общества краезнавства являются скопищем национал-демократических элементов, под ширмой этих элементов проводится анти-советская работа” [3, с. 146]. Ацэньваючы значэнне Акадэмічнай канферэнцыі, чэкіст не без задавальнення адзначае, што на ёй партыя “нажила капитал, выразившийся в процессе развала белорусской эмиграции (в результате конференции ожидается возвращение в Минск видного бел. деятеля, бывш. премьер-министра правительства БНР ЛАСТОВСКОГО) и в поднятии значения Минска как единственного культурного и политического центра всей Белоруссии” [3, с. 149]. Усё гэта адбывалася напрыканцы 1926 года, было прэлюдыяй да бязлітаснага ўсёпажыральнага смерчу, які ў 1930 захапіў і знёс з Беларусі яе найлепшых сыноў, інтэлектуальную эліту, каб вярнуцца назад крывавым патопам 1937-38 гадоў. Сярод ахвяраў гэтай навалы быў і С.М. Некрашэвіч. У выніку згаданай палітыкі рэспубліка захлынулася ў крыві і анямела ад жаху, а колішняя рэвалюцыйнасць, імкненне да беларускасці не набылі сапраўднага, шырокага руху, і калі курс змяніўся і гаварыць па-беларуску стала небяспечна, большасць зраклася сваёй мовы.

Што ж такое небяспечнае рабіў С. Некрашэвіч, ці быў ён сапраўды шавіністам, ці займаўся падрыўной антысавецкай дзейнасцю? Ды не, з ягоных прац вынікае зусім інакшае: ён імкнуўся пабудаваць велічны храм роднай мовы, давесці яе вартасць, годнасць як самастойнай славянскай. Упершыню тэарэтычна абгрунтаваўшы прынцыпы айчыннай лексікаграфіі, Сцяпан Міхайлавіч Некрашэвіч выступіў ініцыятарам складання поўнага слоўніка жывой беларускай мовы. Гэтая праца стала мэтай і сэнсам ягонага жыцця. Змагаючыся за спрадвечную беларускую мову, блізкую да народнай, даследчык у сваім праграмным артыкуле спасылаецца на аўтарытэт і досвед У. Даля і цытуе яго выказванне пра тое, што “народная мова – безумоўна, галоўная і невычэрпная крыніца, руднік, скарбніца нашай мовы, а просты народ – ядро і корань нацыі”. Працягваючы гэтую думку вялікага збіральніка рускай мовы, наш вучоны сцвярджаў: “Толькі ўнікнуўшы ва ўсе таямніцы народнай мовы і народнага духу, пісьменнік зможа ўнесці нешта новае ў скарбніцу роднай мовы” [4, с. 53].

Асноўную задачу свайго слоўніка С. Некрашэвіч бачыў не толькі ў тым, каб спазнаць беларускую мову, але і “апрацаваць нашу мову, выявіць яе як мову беларускую, прыгодную не толькі для пісання вершаў і штодзённага ўжытку, але і для выражэння ёю самых глыбокіх навуковых ісцін, самых тонкіх адценняў нашай

мыслі" [4, с. 57]. Для С. Некрашэвіча было зразумела: "Слоўнік мовы ўсяго народа – гэта не такая кніга, што пішацца кожны год. З'яўляючыся раз на працягу дзясяткаў, а іншы раз і сотак год, слоўнік, каб ён быў агульны для ўсяго народа, павінен адбіць і ўсе яго гутаркі" [4, с. 58]. Ён лепей за іншых усведамляў, што "народная мова – гэта народная творчасць; яна таксама ж свежая і вобразная, як і мова штучнай паэзіі... яна лёгка і свабодна, падобна штучнай паэзіі, карыстаецца фігуральнымі зваротамі; яна, урэшце, называе рэчы не тым, чым яны ёсць у рэчаістасці, а па тым уражанні, якое яны робяць на народ. *Першапачатковыя словы народнай мовы – гэта жывыя вобразы*" (вылучана мной – *Д.П.*) [4, с. 62].

Не з'яўляючыся паслядоўным пурыстам, якім яго доўгі час паказвалі ў беларускім савецкім мовазнаўстве, С. Некрашэвіч імкнуўся ў многіх выпадках замяняць іншамоўныя словы беларускімі народнымі або ўласнымі неалагізмам. Так, напрыклад, ён прапаноўваў выкарыстоўваць замест *аўтамат – самарух, алегорыя – іншасказ, афарызм – выслоўе, богатырь – асілак, вентылятар – ветрагон, вертыкаль – старчак, прастапад, вадаварот – вір, генеалогія – радавод, дуэт — двуспеў, інтэрмедыя – паміждзея, маятник – хістальнік, махала, новолуние – маладзік, овощи – гародніна, полнолуние – поўня, вучэбнік – падручнік, фрукты – садавіна, хлопак – бавоўна, хранометр – часамер, экватар – роўнік* і інш. Большая частка слоў, прапанаваных С. Некрашэвічам і яго паплечнікам М. Байковым, была вельмі ўдалаю, адпавядала фанетычным і словаўтваральным асаблівасцям нашай мовы і ўвайшла ў актыўны слоўнікавы запас, замацавалася ў сучаснай літаратурнай і гутарковай мовах. І хоць не ўсе прапановы С. Некрашэвіча былі прынятыя літаратурнай мовай, але ў іх адчуваецца дзівосная інтуіцыя вучонага-лексікографа, тонкага знаўцы народнай гаворкі. Ён паўстае як змагар за чысціню роднай мовы, і ў гэтым вечная каштоўнасць яго слоўнікавай працы ў 20-х гадах мінулага стагоддзя.

Адметнай асаблівасцю слоўніка С. Некрашэвіча і яго суаўтара М. Байкова з'яўляецца дэманстрацыя велізарнага сінанімічнага багацця нашай мовы. Пры перакладзе рускіх адзінак на беларускую яны прыводзяць не адзін, а некалькі адпаведнікаў, у тым ліку і фразеалагізмы: бесталковы – бязглузды, бязмозглы, даўбня, шалапут; дурнагаловы, дурань, тлумны; хутко – шыбка, шпарка, хутка, спрытна, борзда, прудка, віхром, кацьма, як маланкай спаліць. Нягледзячы на некаторыя недакладнасці пры падборы сінонімаў, імкненне да адлюстравання ў слоўніку лексічнай варыянтнасці было новым для тагачаснай беларускай лексікаграфіі і заслугоўвала станоўчай ацэнкі. С. Некрашэвіч рэкамендаваў для складання поўнага слоўніка беларускай мовы скарыстацца матэрыяламі Рускага Геаграфічнага Таварыства, у архіве якога ён налічваў каля шасцідзесяці рукапісаў. Па заўвазе навукоўца, некаторыя з іх мелі велізарную каштоўнасць не толькі для слоўніка, але і для фанетыкі, марфалогіі і сінтаксісу беларускай мовы. Ён прапаноўваў стварыць слоўнікі пэўных мясцовасцяў з уключэннем у іх рэдкіх і састарэлых слоў, лічачы, што такія слоўнікі ўзбагацяць нашу мову трапнымі словамі, таму што "кожнае з такіх дзе-небудзь захаваных у глухім кутку слоў можа быць надзвычайна цікавым для мовазнаўцы, іншы раз вытлумачваючы паходжанне цэлай сям'і слоў" [4, с. 64]. Па яго разуменні, мова рыбакоў, пастухоў, рамеснікаў, вылучаючыся сваёй першароднай прастатой і свежасцю, з'яўляецца найцікавейшым матэрыялам для слоўніка.

Дарэчы, такі падыход выклікаў крытыку з боку І. Воўка-Левановіча, які адзначыў, што "спробы пакласці ў аснову літаратурнага слоўніка... слоўнік найбольш архаічных дыялектаў" былі ў рускай мове з боку вядомых патрыётаў у пытаннях мовы – А. Шышкова і У. Даля. "Першы з іх у барацьбе з тым жыццёвым слоўнікам, які даваўся ў творах найлепшых мастакоў слова, у сваім жаданні выкінуць усё "нярускае", рэкамендаваў зварот да старасветчыны, да гэтак званага

славяна-рускага языка XVII – XVIII века, а другі (В. Даль) рэкамендаваў замяняць усе чужаязычныя элементы наватворамі або рэдкімі правінцыяналізмамі. Мы ведаем, у наколькі нязначнай меры слоўны матар'ял, рэкамендаваны імі, прышчапіўся ў літаратурнай рускай мове" [5, с. 379]. Гэтая спасылка на "адмоўны"досвед А. Шышкова і У. Даля спатрэбілася І. Воўку-Левановічу для барацьбы з "дыктатарскай групай беларускіх культурнікаў і акадэмікаў" за чысціню роднай мовы. С. Некрашэвіча ўжо даўно не было ў Беларусі, а А. Александровіч, выступаючы на пісьменніцкай нарадзе, з запалам даводзіў: "На злёце беларускай контррэволюцыі, на так званай "акадэмічнай" канферэнцыі, нацдэмы поўным голасам выступілі супроць ленінскай палітыкі партыі ў Беларусі. Нацдэм С. Некрашэвіч у дакладзе "Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы", прапагандуючы ідэі контррэволюцыі, папярэджвае, што, бачыце, трэба быць вельмі асцярожным пры ўнясенні такіх слоў, "як модныя запазычаныя ад рускіх або складзеныя па ўзору рускіх, славечкі: "Інбелкульт", "Наркамасветы", бо "гэтыя" зладзейскія словы могуць быць і не беларускія, а інтэрнацыянальныя, а браць у аснову выключна "мову пастухоў, рамеснікаў і рыбакоў", якая выдзяляецца сваёй "першабытнай прастатой і свежасцю". На гэтай навуковай базе Некрашэвіч, сумесна з нацдэмам Байковым, выпускаюць слоўнік, у якім засмечваюць мову архаізмамі, штучнымі словамі, ігнаруюць рэвалюцыйныя наватворы, арыентуючыся на мову шляхецкакулацкіх колаў, на мову фашысцкай Польшчы" [6, с. 179-180].

Перапрашаю ў чытачоў за такое шматслоўнае цытаванне, аднак лічу, што яно якраз дарэчнае, каб паказаць, што насамрэч уяўляла з сябе палітыка бальшавікоў у дачыненні да беларускага мовазнаўства і сапраўдных мовазнаўцаў. Імкнучыся абмежаваць прысутнасць у нашай мове іншамоўных элементаў, С. Некрашэвіч заклікаў выкарыстоўваць толькі тыя, што ўжываюцца ў народнай гаворцы: "Чужаземныя словы ў нашай літаратурнай мове не раўнапраўныя члены моўнай сям'і, а выпадковыя госці, якія сёння ёсць, а заўтра могуць знікнуць" [4, с. 66]. Вучоны ўсведамляў, што ў народнай мове скрываецца велізарны патэнцыял унутранага маральнага выхавання, што мова павінна прывучаць чалавека з пялёнак да роднай глебы, зрасціць з духам, побытам і жыццём народа, яго гісторыяй і культурай, звычаямі і псіхалогіяй, нарэшце, са светаўспрыманнем. С. Некрашэвіч разглядаў народную мову як вынік шматвяковага гістарычнага вопыту, у якім склалася нацыянальная культура. Разам з тым ён не выключаў выкарыстання і запазычаных адзінак, калі, рэцэнзуючы "Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік", не цалкам падтрымліваў імкненне ягонага аўтара В. Ластоўскага ачысціць беларускую мову "ад тысячалетняга ўплыву баўгаршчыны", заявіўшы, што мы "ня толькі лічым марнай працай выкіданьне ўсіх тых культурных здабыткаў, якія беларуская мова набыла на працягу тысячалецьця, але й працай проста шкоднай, бо вынайсьці беларускую мову такой, якой яна была тысячу год таму, немагчыма, паколькі такой мовы напэўна яшчэ й не было" [7, с. 132].

С. Некрашэвіч аддаваў належнае працы па збіранні беларускай лексікі сваіх папярэднікаў: І.І. Насовіча, Е.Е. Раманава, А.К. Сержпутоўскага, Ул. Дабравольскага, А. Шлюбскага, М. Федароўскага, Е. Карскага, П. Шпілеўскага. Разважаючы пра спосаб складання тлумачальнага слоўніка жывой беларускай мовы, С. Некрашэвіч патрабаваў тлумачэння значэнняў слоў пры дапамозе сінонімаў, а таксама з дапамогай прыкладаў. Каб не быць галаслоўным, ён падаў узор афармлення слоўнікавага артыкула да дзеяслова *ладзіць*, з якога вынікае, што С. Некрашэвіч збіраўся выкарыстоўваць і элементы гнездавога прынцыпу падачы матэрыялу. Падводзячы вынікі сваім разважанням аб канчатковым выглядзе слоўніка, С. Некрашэвіч кажа, што поспех справы будзе залежаць ад зладжанай працы цэлага калектыву, а не аднаго чалавека. Ён таксама разумее, што задача збіральніцтва шырокая, нялёгкая, але вельмі важная, неабходная і неадкладная і

што яе паспяхова можна ажыццявіць з дапамогай краязнаўцаў. Гэта ён з уласцівым яму імпэтам неаднойчы даводзіў у сваіх выступленнях і допісах, гаворачы, што, “зразумела, сіламі адной камісіі гэтую працу выканаць нельга: тут патрабуецца самая шырокая дапамога беларускага грамадзянства, і, безумоўна, у першую чаргу краязнаўчых арганізацый”. [8, с. 52]. Сваю думку ён развівае ў звароце “Да беларускага настаўніцтва”, нагадаўшы, што “найлепшыя матэрыялы для зборнікаў беларускай народнай творчасці Шэйна, Раманава, для праграм Я. Карскага і інш. дало беларускае настаўніцтва. Ды яно і зразумела. Стала жывучы сярод сялянства і добра ведаючы яго быт і мову, настаўніцтва лепш, чым хто іншы, магло наглядаць факты жывой народнай мовы і рабіць іх запісы. Але, калі праца вывучэння роднай культуры была дарага беларускаму настаўніцтву ў ранейшыя часы, пры панаванні чужой культуры, то тым больш гэтая праца можа зацікавіць наша настаўніцтва цяпер, пры Савецкай уладзе, калі ідзе адраджэнне беларускай культуры. Найбліжэйшы ўдзел беларускага настаўніцтва ў слоўнікавай працы Інстытуту Беларускае Культуры з’яўляецца зусім зразумелым і адпавядае патрэбам культурна-асветнае працы саміх настаўнікаў – патрэбам беларусізацыі нашае школы” [9, с. 1]. Карацей: “Настаў час!”. І для гэтага С. Некрашэвіч, яго калегі па цэху не шкадавалі ані сіл, ані здароўя. С. Некрашэвіч імкнуўся пусціць у справу вялікія некранутыя слоўнікавыя запасы мясцовых гаворак, тлумачачы звычныя словы, адкрываючы новыя, незвычайныя значэнні, якія яны мелі ў розных месцах. Сцяпан Міхайлавіч быў чуйным і нераўнадушным да роднага слова, ён, як ніхто іншы, чуў яго, бачыў яго, шукаў і знаходзіў яго залацінку, дарэчнасць, складнасць. Роднае слова было падуладнае яму, ён натхнёна выкрасаў агонь хараства роднай мовы, рэпрэзентаваў яе душу. На жаль, ягоным задумам не наканавана было спраўдзіцца: неўзабаве яго і паплечнікаў абвінавацяць у спробах адарваць беларускую мову ад рускай. У 1930 годзе быў дадзены ход гэтак званай справе “Саюза вызвалення Беларусі”. У гэтым грандыёзным спектаклі было задзейнічана шмат актораў. Не апошнюю ролю ў ім адвялі С. Некрашэвічу. Ён і яго аднадумцы сталі ахвярай сталінскіх рэпрэсіяў супраць надуманай нацдэмаўшчыны, а зробленае імі на доўгія гады адышло ў нябыт ці было беззваротна страчана. Хлусня, ілжывы кірунак у развіцці беларускай мовы, грэбаванне ісцінай, прыгнёт свабоднага выказвання меркаванняў і перакананняў на доўгія гады ўзялі верх, а канаводы ад мовазнаўства, прызначаныя партыяй, павялі яго па торнай дарозе “прынцыпу пралетарскага інтэрнацыяналізму”, збліжаючы і ўзбагачаючы нашу мову за кошт рускай. У выніку беларусы дагэтуль так і не атрымалі сапраўдны поўны слоўнік сваёй роднай мовы, а карыстаюцца лексіконам, створаным у адпаведнасці з памянёным прынцыпам і вычышчаным ад “нацдэмаўскіх выдумак”.

Сёння, як падаецца, настаў час ажыццявіць мару С. Некрашэвіча: паглыбіць асэнсаванае ўключэнне ў слоўнікавы склад нашай мовы не забытыя ў народнай памяці, жывыя ў свядомасці людзей розныя функцыянальна-семантычныя разрады лексікі. Такі накірунак адпавядаў бы жыццёвым запатрабаванням беларускага народа, яго літаратурнай мовы, бо не адмаўляе існавання спецыфічных сродкаў народнага выражэння. Неабходна неадкладна пачаць працу па зборы моўнага матэрыялу ад нашых бацькоў, дзядоў, каб захаваць яго для нашчадкаў, бо ў ім – каштоўная крыніца інфармацыі пра наш народ, яго светапогляд, культуру, традыцыі, бо народная мова моцная, свежая, багатая, дакладная і ясная. Было б няблага звесці ў адно матэрыялы шматлікіх дыялектных слоўнікаў, занатаваць (з дапамогай вялікай арміі настаўнікаў роднай мовы, выкладчыкаў, студэнтаў) тое, што яшчэ не сабрана, каб стварыць нешта падобнае да «Толкового словаря живого великорусского языка» У. Даля. Не забываймася, што роднае слова – “кроў і косць, жывое цела ў нашых душах, дарагое, майстэрнае начынне – у ім наш духовы набытак. Кожны народ мае сваю асобную мову, і асобнасць ні ў

самых зыках – тое самае здаецца, а не – от, бач, не тое, нейкі асобы змест, што і аб'ясніць не ўмееш, хоць добра і чуеш. Вот гэтае "нешта неякае", звязанае неразрыўна з душой народа, прыдае нашай мове той асобны цэмент, што звязвае ў адно народнае, нацыянальнае ўсе яго думкі і перажыцця" [10, с. 50]. Апошнім часам гэты цэмент, на вялікі жаль, страчвае сваю моц, трываласць, разбураецца пад уздзеяннем разнастайных фактараў, а кроў, косць і жывое цела мовы цяжка хварэюць ад абыякавасці, няўважлівасці з боку праўладных структур.

Учытваючыся ў слова, сказанае на сходзе мовазнаўчай секцыі Інбелкульта 8 ліпеня 1925 года, пра стан і задачы беларускага слоўніцтва, пранікаючы ў яго сутнасць, авалодваючы яго філасофіяй, разумееш, наколькі яго змест і сёння актуальны для беларускага мовазнаўства, які велізарны патрыятычны зарад закладзены ў ім. Тут С. Некрашэвіч падае прыклад сапраўднай, а не ілжывай любові да народнай, роднай мовы, беражлівага стаўлення да яе багацця. З гэтага даклада вынікае, што С. Некрашэвіч быў добра абазнаны ў асноўных пытаннях лексікаграфічнай працы не толькі ў Расіі, але і на Украіне. Ён пастаянна спасылаўся на досвед складання слоўніка нямецкай мовы Я. Грымам. Сярод тэарэтычных прац, на якія абапіраўся вучоны, мы знойдзем прозвішчы У. Даля, І. Сразнеўскага, Я. Грота, І. Гольдшміта, Ф. Буслаева, Я. Грыма, А. Курылы, Я. Карскага. А гэта з'яўляецца сведчаннем грунтоўнай філалагічнай падрыхтоўкі вучонага, яго ўменне выкарыстоўваць дасягненні еўрапейскага мовазнаўства на глебе беларускага. Некалі А. фон Гумбальт сказаў: "Маю біяграфію шукайце ў маіх працах". Гэтая думка стасуецца і да нашага героя, творчая спадчына якога, вернутая з спецсховаў, абуджае вялікую цікавасць даследчыкаў, прываблівае сваёй навуковасцю, глыбінёю і свежасцю думкі. Праз дзесяцігоддзі забыцця С. Некрашэвіча цытуюць, яго прозвішча сустракаецца на старонках газет і часопісаў.

Калі мовазнаўчая спадчына С. Некрашэвіча даследавана больш-менш глыбока і ўсебакова, то амаль не вывучана яго праца як консула БНР у Адэсе і арганізатара беларускамоўнага школьніцтва ў Адэскай губерні на пасадзе загадчыка губернскага аддзела народнай асветы ў 1918-1920 гг. Напэўна, даследчыкаў чакаюць цікавыя матэрыялы ў Адэскім архіве, якія раскрыюць яшчэ адзін бок дзейнасці нашага земляка на карысць Бацькаўшчыны.

Цікава прасачыць, як адбывалася вяртанне добрага імя С. Некрашэвіча і яго спадчыны да грамадскасці, колькі часу спатрэбілася ўладзе, каб прызнаць невінаватасць вучонага.

2 кастрычніка 1957 г. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага Суда СССР Сцяпан Некрашэвіч быў рэабілітаваны, але толькі па апошнім прысудзе. Яшчэ праз 21 год ён быў адноўлены ў званні акадэміка (1978). І толькі 10 чэрвеня 1988 года Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда БССР у закрытым паседжанні адмяніла абвінавачанні 1931 і 1936 года "за адсутнасцю ў дзеяннях складу злачынства".

Упершыню ў паслясталінскай БССР пра С. Некрашэвіча напісаў часопіс "Полымя" [11]. Гэта быў артыкул з раздзела "Старонкі беларускай энцыклапедыі", відавочна, матэрыял рыхтаваўся для БелСЭ. Неабходна адзначыць, што ў ім даволі аб'ектыўна, станоўча ацэньвалася спадчына С. Некрашэвіча, яго роля ў распрацоўцы беларускай нацыянальнай тэрміналогіі, станаўленні Інбелкульта, а пасля і Акадэміі навук БССР, у падрыхтоўцы і выданні першых падручнікаў для беларускіх школ – "Лемантара" і дзвюх частак чытанкі "Роднае слова". Аўтары зацемкі зазначаюць, што "гэтыя падручнікі, заснаваныя на перадавых ідэях педагогікі і методыкі, былі напісаны з улікам канкрэтных умоў тагачаснай Беларусі...", што "Некрашэвіч вучыў на высокіх узорах мастацкай літаратуры і народнай творчасці, вялікую ўвагу аддаючы развіццю мовы вучняў" [11, с. 250]. Таксама гаварылася пра беспадстаўнае абвінавачанне і арышт у 1930 годзе і пасмяротную рэабілітацыю ў 1957 годзе, аднак

нічога пра паўторны арышт і расстрэл у 1937. Праўда, гэты артыкул так і не быў надрукаваны ў БелСЭ, і ўвогуле вы там не знойдзеце прозвішча Некрашэвіча ці хаця б урэзаных звестак пра яго (вось табе і рэабілітацыя!). Праз год аўтары "Гісторыі беларускай літаратурнай мовы" адмыслова ацанілі заслугі С.М. Некрашэвіча і М.Я. Байкова і іхняга "Расійска-беларускага слоўніка", зазначыўшы, "што, нягледзячы на не заўсёды паслядоўны правапіс, некаторыя лексікаграфічныя і метадалагічныя хібы, абмежаванасць лексічнага матэрыялу з крыніц беларускай літаратурнай мовы, ён адыграў вялікую нармалізуючую ролю ў справе фарміраванння лексікі беларускай літаратурнай мовы" [12, с. 211].

Даволі аб'ёмны артыкул пра С. Некрашэвіча з'явіўся ў 1972 годзе, яго аўтар падрабязна разгледзеў навуковую спадчыну вучонага і высока ацаніў яе, асабліва слоўнікавую працу. Тут адзначана, што "перакладныя слоўнікі С.М. Некрашэвіча і М.Я. Байкова з'явіліся важным этапам у гісторыі агульнанацыянальнай лексікаграфіі і аж да выхаду ў 1953 годзе "Руска-беларускага слоўніка" пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы і П. Глебкі і ў 1962 годзе "Беларуска-рускага слоўніка" пад рэдакцыяй К. Крапівы заставаліся найбольш грунтоўнымі працамі гэтага тыпу" і што "роля С.М. Некрашэвіча ў гісторыі нацыянальнай культуры і асабліва беларускага савецкага мовазнаўства цяжка пераацаніць" [13, с. 40]. Матэрыял гэтага ж аўтара змешчаны ў "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", дзе напісана: "з 1930 працаваў у Удмурцкай АССР (пры гэтым не тлумачыцца, чым займаўся там беларускі вучоны-мовавед, правадзейны сябар Акадэміі навук і чаму ён там апынуўся)... у першыя паслярэвалюцыйныя гады дапускаў памылкі нацыяналістычнага характару" (аднак якія, не раскрываецца) [14, с. 63], але зноў, як і пятнаццаць гадоў таму, аўтар не сказаў ні слова пра паўторны арышт і расстрэл у 1937 годзе. Яшчэ больш дзіўна тое, што ў кнізе таго ж самага аўтара "Беларускія мовазнаўцы" (1985) быў змешчаны артыкул пра сакратара Слоўнікавай камісіі Інбелкульта Міколу Байкова – паплечніка, аднадумца Сцяпана Міхайлавіча, з якім яны распрацоўвалі канцэптульныя накірункі маладой беларускай лексікаграфіі, вызначалі шляхі яе развіцця, шмат зрабілі, каб беларуская мова захавала сваю чысціню, набліжалася да мовы народнай, не выглядала скалечанай, – у якім ні слова пра С. Некрашэвіча. Быццам не было папярэдніх публікацый гэтага ж аўтара. Не адрозніваецца арыгінальнасцю і артыкул пра С. Некрашэвіча, падрыхтаваны М.Г. Булахавым, у якім падаюцца сціплыя біяграфічныя звесткі, пералічваюцца асноўныя працы, вылучаецца кола праблемаў, якімі займаўся. Аднак увогуле нічога пра тое, што быў незаконна рэпрэсаваны, высланы за межы Беларусі, а потым і расстраляны [15, с. 94-96]. Дэюрэ рэабілітаваны, да таго часу адноўлены ў званні акадэміка, але не прызнаны, бо яшчэ ў цэнзарах нашчадкі апанскіх, вальфсонаў, яшчэ жыве падсвядомая думка: раз расстралялі – значыць, быў вінаваты. Як бачым, апраўданы па другім прысудзе ў 1957 годзе, ён яшчэ доўга заставаўся персонай нон-грата ў айчынным мовазнаўстве і даведніках па палітычных выраках 1931 і 1936 гадоў. Савецкая ўлада па-ранейшаму лічыла, што беларускі вучоны рыхтаваўся да барацьбы з бальшавікамі і імкнуўся стварыць буржуазную Беларускую Рэспубліку.

Разважаючы пра суверэннасць і шляхі развіцця беларускай літаратурнай мовы, С. Запрудскі задаецца пытаннем: "Няўжо не было ў беларускай мове іншых, адрозных шляхоў, якія не былі б накіраваны на "няўхільнае збліжэнне" (з рускай мовай – *заўвага наша*) і не вялі б да дэградацыі і асіміляцыі адной з найбагацейшых славянскіх моў?" І адказвае, што яны існавалі і паспяхова рэалізоўваліся лінгвістыкай 20-х гадоў, аднак пасля былі забытыя, дадаючы, што "з увядзеннем у навуковы ўжытак прац Я. Лёсіка, В. Ластоўскага, лінгвіста-эмігранта Я. Станкевіча, з больш "прадузятым" вывучэннем лінгвістычнай спадчыны "напаўрэабілітаванага" С. Некрашэвіча сучаснае беларускае мовазнаўства змушана будзе – жыццё прымусіць! – заняцца і пытаннямі суверэннасці развіцця беларускай літаратурнай мовы, якія так доўга за-

моўчваліся ці разглядаліся вельмі тэндэнцыйна" [16, с. 295-296]. Аднак гэтаму спадзяванню не суджана было ажыццявіцца ні напрыканцы XX ст., ні на пачатку XXI ст. Сучаснае беларускае мовазнаўства пераважна "топчацца" на спадчыне савецкага часу і ніяк не можа выскачыць з аглабель, у якія яно было запрэжана ў 30-я гады мінулага стагоддзя.




*Памятны знак С. Некрашэвічу ў вёсцы Данілаўка Светлагорскага раёна. Фота В. Раманцова.*

Упершыню тэарэтычную спадчыну С. Некрашэвіча, яго важкі ўнёсак у распрацоўку айчыннай лексікаграфіі дэталёва ахарактарызаваў у шэрагу артыкулаў В. Шчэрбін, які адзначыў, што "С.М. Некрашэвіч вызначыў тры асноўныя ўмовы стварэння добрага слоўніка маладой літаратурнай мовы (абавязковая навуковасць такога слоўніка, яго агульнанацыянальны (народнадыялектны і літаратурны) характар, рэальная ўжываемасць у агульнанароднай мове змяшчаемых ім слоў)" [17, с. 45]. На жаль, гэтым задумам вучонага не пашанцавала ажыццявіцца праз рэпрэсіі і пераследы, якія абрынуліся на беларускую навуку ў 30-я гады. У Савецкай Беларусі "поруч з фізічным знішчэннем беларускіх мовазнаўцаў... ішло метадычнае вынішчэнне распрацаванай імі навуковай метадалогіі. У прыватнасці, была адкінута як непатрэбная добра абгрунтаваная С.М. Некрашэвічам канцэпцыя стварэння тлумачальнага акадэмічнага слоўніка агульнага, "далеўскага" тыпу. У выніку гэтага, не стварыўшы папярэдне падобнага поўнага апісальнага слоўніка жывой беларускай мовы, складальнікі нарматыўных слоўнікаў 30-80-х гг. вымушаны былі ажыццяўляць адбор рэстравай лексікі для сваіх слоўнікаў не з усяго пераліку рэальна існуючых у беларускай агульнанароднай мове літаратурных і дыялектных слоў, а з вельмі абмежаванага кола моцна адфільтраванай лексікі, зыходзячы пры гэтым з палітычных установак на адпаведныя слоўнікі рускай мовы і з суб'ектыўна-валюнтарысцкіх арыентацый на родныя гаворкі асобных буйных беларускіх пісьменнікаў. Менавіта гэтым тлумачыцца тое, што яшчэ і сёння, на зыходзе XX ст., завершанага слоўніка беларускай мовы пакуль што не існуе і задача па яго стварэнні застаецца актуальнай" [17, с. 49]. Развязванне гэтай задачы, на думку В. Шчэрбіна, "магчыма толькі ў тым выпадку, калі будзе адноўлена ў поўным аб'ёме навуковая метадалогія айчыннай слоўнікавай справы" [17, с. 49]. (Зноў з шкадаваннем неабходна зазначыць, што пакуль да гэтага вельмі далёка). Названае даследаванне вызначаецца шырынёю

ахопу бібліяграфічнага матэрыялу, шырокім цытаваннем асноўных выказванняў С. Некрашэвіча, якія дадаюць штрыхі да партрэта вучонага. У 1990-х — пачатку 2000-х у разнастайных перыядычных выданнях пра С. Некрашэвіча быў надрукаваны шэраг змястоўных артыкулаў гісторыка-прафесара Э. Іофе, лінгвіста С. Запрудскага.

Праз 15 гадоў (!) пасля поўнай рэабілітацыі да творчай спадчыны Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча нарэшце звярнулася галоўная мовазнаўчая навуковая ўстанова краіны, ля вытокаў якой ён стаяў, — Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа НАН Беларусі, — надрукаваўшы асобным выданнем асноўныя лінгвістычныя працы вучонага. У прадмове да кнігі зазначаецца: “У асобе С.М. Некрашэвіча Нацыянальная акадэмія навук Беларусі мела таленавітага вучонага і буйнога арганізатара беларускай навукі ў гуманітарнай сферы, які пакінуў выдатны след у гісторыі беларускага мовазнаўства і гуманітарнай навукі наогул” [18, с. 10]. Тады ж у мовазнаўчым штогодніку быў надрукаваны артыкул А.І. Жураўскага, які называе С. Некрашэвіча “здольны арганізатар беларускай мовазнаўчай навукі і старанны даследчык беларускай мовы з шырокім дыяпазонам навуковых ведаў” [19, с. 3], “буйнейшы беларускі мовазнавец таго часу” [19., с. 9].

Пра Некрашэвічаў радавод, яго карані, узлёт і трагедыю, пра лёс ягонай жонкі, сястры, брата падрабязна распавёў А. Статкевіч-Чабаганаў [20, с. 105-108].

Кажуць, што гісторыя паўтараецца звычайна ў выглядзе фарсу. Так, пасля таго, як быў арыштаваны С. Некрашэвіч, а затым П. Бузук і праведзена рэформа беларускага правапісу 1933 г., у 1935 г. перастаў існаваць Інстытут мовы, яго разам з іншымі гуманітарнымі інстытутамі рэарганізавалі-ўзбуйнілі ў Інстытут літаратуры, мастацтва і мовы. Прыкладна тое ж самае паўтарылася пасля прыняцця Закона “Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” (2008): зараз ужо няма ў складзе НАН Беларусі ні Інстытута мовазнаўства, ні Інстытута літаратуры, ні Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. На іхнім месцы створаны нейкі цэнтр навуковых даследаванняў беларускай мовы, літаратуры і культуры.

Такія людзі, як Сцяпан Некрашэвіч, заўсёды і ў любым грамадстве акрамя вучоных і дзяржаўных заслуг, мелі яшчэ вялікую духоўную каштоўнасць для свайго народа. Сёння несумненна тое, што адзін Некрашэвіч, ці адзін Ластоўскі, або адзін Смоліч вартыя некалькіх навучальных устаноў, добрых кніг. Іхняя ідэйнасць, шляхетнае імкненне да пашаны, у падмурку якога — найперш гонар за радзіму, родную мову, навуку, іх упартае імкненне да вызначанай мэты, багацце ведаў і працалюбства, іх фанатычная вера ў навуку, зрабілі іх у вачах народа падзвіжнікамі, якія ўвасаблялі вышэйшую маральную сілу. Аднак такое становішча было не даспадобы бальшавіцкім уладатрымальнікам, якія пільна сачылі за кожным іх крокам, словам, справай. Яны баяліся людзей разумных, ініцыятыўных, самастойных, якія ўмелі думаць. Прыдумаўшы фантастычную контррэвалюцыйную арганізацыю і залічыўшы ў яе шэрагі С. Некрашэвіча, ягоных паплечнікаў, аднадумцаў, пастараліся пазбавіцца ад гэтага “нацдэмаўскага” гнязда, а затым выкрасліць іх з народнай памяці, аддаць забыццю. Дасюль няма вуліцы С. Некрашэвіча ні ў Светлагорску, ні ў Гомелі, ні ў Мінску, ягонае імя не нададзена ніводнай гімназіі ці ліцэю. Праўда, у 2007 годзе скульптар Эдуард Астаф’еў падрыхтаваў эскіз помніка вучонаму і перадаў на захаванне ў Светлагорскую карцінную галерэю імя Г. Пранішнікава, а на месцы былога фальварка Данілоўка ўстаноўлены памятны знак. Але настане час, і С. Некрашэвічу паставяць помнік, напішуць кнігу, а ягонае імя зойме вартае месца ў гісторыі Беларусі.

Л і т а р а т у р а :

1. Цвікевіч, А. Беларусь. Политический очерк. / А. Цвікевіч. – Берлин: Изд. Чрезвычайной Дипломатической миссии Белорусской Народной Республики, 1919. – 33 с.

2. Жылка, Ул. Выбраныя творы. / Укладанне, прадмова і каментарыі М. Скоблы. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. – 358 с.

3. Скарыніч: Літ.-навук.гадавік Вып. 5 / Укл. А. Каўка. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. – С. 140-157.

4. Выбраныя навуковыя працы акадэміка С.М. Некрашэвіча: Да 120-годдзя з дня нараджэння // НАН Беларусі: Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; Навук. рэд. А. І. Падлужны. — Мінск: Бел. навука, 2004. – 190 с.

5. Воўк-Левановіч, О. В. Пра некаторыя важнейшыя недахопы беларускай літаратурнай мовы / О. В. Воўк-Левановіч // Лінгвістыка 1920-х: тэрміналёгія, лексыкаграфія, правапіс, фармаванне літаратурнай мовы / ARCHE, № 11 (98), лістапад 2010, с. 354-380.

6. Александровіч, А. Класавая барацьба на мовазнаўчым фронце і рэформа правапіса беларускай мовы / Гісторыя беларускага мовазнаўства (1918 – 1943): Хрэст. для студэнтаў філал.фак. У 2 ч. Ч.2 / Аўт.-ўклад. С.М. Запрудскі, Г.І. Кулеш. – Мінск: БДУ, 2008.

7. Некрашэвіч, С. Рэцэнзія на слоўнік В. Ластоўскага / Лінгвістыка 1920-х: тэрміналёгія, лексыкаграфія, правапіс, фармаванне літаратурнай мовы // ARCHE № 11 (98), лістапад 2010. С. 130-134.

8. Некрашэвіч, С. Мовазнаўчая праца краязнаўчых арганізацый // Працы Першага ўсебеларускага краязнаўчага з'езду (7-11 лютага 1926 году). – Мн., 1926.

9. Да беларускага настаўніцтва. – Мінск, 1925.

10. Тарашкевіч, Б. Выбранае: Крытыка, публіцыстыка, пераклады / Уклад., уступ, камент. А. Ліса // Б. Тарашкевіч – Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. – 310 с., [1] л. партр.

11. Германовіч, І. Лапаў, Б. Сцяпан Некрашэвіч / І. Германовіч, Б. Лапаў // Полымя, 1967. № 6, с. 250-251.

12. Крамко, І.І. Юрэвіч, А. К. Яновіч, А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. / І.І. Крамко, А.К. Юрэвіч, А.І. Яновіч. // Рэд. А.І. Жураўскі. — Мінск: Навука і тэхніка, 1968. — 340 с.

13. Германовіч, І. К. Аб навуковай дзейнасці Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча / І.К. Германовіч // Веснік БДУ. Сер. IV. 1972, № 3, с. 34-40.

14. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5-ці т. Т. 4. Накцюрн – Скальскі / Рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.] – Мінск: БелСЭ, 1987. – 742 с., іл.

15. Булахов, М.Г. Восточнославянские языковеды: т. 3 (Л – Я). / М.Г. Булахов. —Мн.: изд. БГУ, 1978. — 384 с.

16. Запрудскі, С. Чалавек з мінулага, або Чаму цяжка сціраць белыя плямы ў гісторыі беларускага мовазнаўства // З гісторыяй на "Вы"; Публіцыстычныя артыкулы. Выпуск другі/ Уклад. У. Арлова. – Мн.: Маст. літ., 1994, с. 276-297.

17. Шчэрбін, В. Ідэалам навукі не здрадзіў: Трагічныя старонкі з жыцця С.М. Некрашэвіча / В. Шчэрбін. // Роднае слова, 1995. № 4, с. 52-58; № 5, с. 45-50.

18. Падлужны, А. І Выдатны мовавед 20-х гадоў мінулага стагоддзя / Выбраныя навуковыя працы акадэміка С.М. Некрашэвіча: Да 120-годдзя з дня нараджэння // НАН Беларусі: Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; Навук. рэд. А.І. Падлужны. — Мн.: Бел.навука, 2004. – 190 с.

19. Жураўскі, А.І. Сцяпан Міхайлавіч Некрашэвіч (Да 120-годдзя з дня нараджэння) / А.І. Жураўскі // Беларуская лінгвістыка, вып. 54. Мн.: Беларуская навука. 2004. – С. 3-11.

20. Статкевіч-Чабаганаў, А. Некрашэвічы герба "Любіч" / А. Статкевіч-Чабаганаў // Роднае слова, 2010, №4, с. 105-108.

Алесь Бяляцкі



...Ці дасягнулі мы самага галоўнага?
Хто пераможа ў гэтай бойцы,
тупая сіла ці адухоўлены інтэлект?..

# "Дзяды" былі з намі

***З нагоды 25-годдзя першага масавага мітынгу ў Беларусі***

## Замест прадмовы

Канец 80-х – пачатак 90-х гадоў мінулага стагоддзя... Час, калі вырашаўся лёс Беларусі на многія гады наперад. Азіраюся назад, углядаюся ў тыя гады, і некалькі падзеяў высокімі стромамі вытыркаюцца над завірухаю ўсемагчымых фактаў, тэндэнцыяў, якія склалі захапляльнае ніціва таго няпростага, радаснага і нервовага часу. Часу, рухавікамі якога былі і мы, часу, які хутка прывёў нас да незалежнасці. Адной з такіх падзеяў сталі "Дзяды" 1988-га года.

Ужо быў праведзены ў 1987-м годзе самы першы ў краіне за апошнія 60 гадоў мітынг у абарону Верхняга горада, ужо адбылося разам з латышскімі актывістамі нефармальных рухаў воднае ралі па Дзвіне супраць пабудовы Дзвінскай гідраэлектрастанцыі, у выніку якой былі б затопленыя дзясяткі беларускіх вёсак у пойме ракі. Ужо прайшлі першыя "Дзяды" з антысталінскім падтэкстам, ужо адбыліся шматлікія талокі па ўпарадкаванні гістарычных мясцінаў, а на сходы нефармальнага аб'яднання

"Талака" штотыдзень збіраліся сотні маладзёнаў, якія шукалі адказы на пытанні, датычныя будучыні Беларусі. Ужо бурліла беларуская інтэлігенцыя, у Саюзах пісьменнікаў, мастакоў, згуртаваная пры Фондзе культуры. Ужо стала вядомая праўда пра Курапаты. Ужо снаваліся планы аб стварэнні першай грамадскай-палітычнай арганізацыі, якая магла б скласці альтэрнатыўны цэнтр камуністычнай уладзе. Вось такі гэта быў час.

Не памятаю, хто першы ў 1987-м годзе вылучыў ідэю адзначэння "Дзядоў". Падштурхнула, мабыць, тое, што ў тым годзе спаўняліся 50-я ўгодкі змрочнага 1937-га з масавымі расстрэламі і амаль поўным вынішчэннем беларускай інтэлігенцыі. Дата трагічная для беларускага народа і надта непрыемная для камуністаў і КДБ. Мы разумелі, што антысталінская тэматыка ў часы, калі пачала адкрывацца праўда пра маштаб сталінскіх рэпрэсіяў, будзе біць пад дых існуючай уладзе. Бо гэтая ўлада мела свае ідэалагічныя карані ў тых часах і не адмаўляла гэтага. Сама структура ўлады, яе хрыбетнік быў выбудаваны ў сталінскія часы. Таму яны, прамыя пераемнікі "сталінскіх сокалаў", і не збіраліся ні прызнаваць ранейшыя памылкі, ні каяцца, ні пераглядаць карэнным чынам свае адносіны да агульных грамадскіх і палітычных свабодаў і грэблівае стаўленне да беларускай культуры і мовы.

"Дзяды" пасавалі нам яшчэ з тае прычыны, што мы адначасна адраджалі і старажытнае народнае свята памінання продкаў, раней характэрнае для ўсёй і праваслаўнай, і каталіцкай Беларусі, а на той час пунктірная традыцыя адзначэння яго захавалася хіба толькі ў Заходняй Беларусі. Мы адраджалі свята, якое дзесяцігоддзямі праследавалася камуністамі. Лепшую нагоду і прыдумаць было цяжка.

У 1987 годзе на адным з чарговых сходаў "міктарату" – падпольнай групы беларускай моладзі, якая і ініцыявала развіццё нефармальнага моладзевага руху ў Беларусі – было вырашана, што ўсе фармальныя моманты па арганізацыі "Дзядоў" возьмуць на сябе сябры Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя". Я, старшыня "Тутэйшых", пагадзіўся, бо наймацнейшым аргументам было тое, што мы, адзіныя з усіх тагачасных мінскіх нефармальных суполак, мелі амаль легальны статус. Мы працавалі "пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі", які хоць і ніякім чынам не аформіў нашыя стасункі, але афіцыйна прызнаваў нашае існаванне. Таму ў перамовах з уладамі мы маглі абапірацца на гэтае "пры..." . Трэба мець на ўвазе, што на той час вага Саюза пісьменнікаў у структурах беларускай улады была непараўнальнай з цяперашняй. Апроч таго, адчувалася, што ўжо прыйшла нашая чарга браць ініцыятыву (і агонь) на сябе, бо арганізатарам усіх папярэдніх вялікіх акцыяў заўсёды выступала "Талака".

Мне важна было, каб прапанову пагадзіўся Анатоль Сыс. Я быў перакананы, што ў звязцы з ім мы здолеем арганізаваць правядзенне свята. Анатоль выслухаў мяне і ўспрыняў гэтую ідэю з энтузіязмам.

На "Тутэйшых" прапанова аб адзначэнні "Дзядоў" таксама была ўхваленая. І першыя "Дзяды" ў 1987-м годзе адбыліся гэтак, як мы і меркавалі – сталі адраджэннем старажытнай нацыянальнай традыцыі.

І яшчэ найважнейшым вынікам правядзення першых "Дзядоў" было выцісканне страху з грамадскай свядомасці і грамадскага жыцця. Гэта быў першы за многія дзесяцігоддзі заяўлены мітынг, які і арганізоўваўся менавіта як мітынг, заяўку на правядзенне яго падавалі ў выканкам Цэнтральнага раёна А. Бяляцкі і А. Сыс. Мы з неспакоем чакалі рэакцыі ўладаў. На нашае здзіўленне, улады ніякім чынам не адрэагавалі на наш зварот, і мы правялі "Дзяды", што называецца, па факце.

Пры набліжэнні наступных "Дзядоў" – 1988-га года – пазіцыя моладзевых арганізацыяў і "Тутэйшых" заставалася нязменнай: праводзіць! Але пазіцыя ўладаў цяпер была адваротнаю – забараніць! На гэтае рашэнне паўплывалі і канкрэтныя падзеі, якія здарыліся напярэдадні, а гэта абвяшчэнне 19 кастрычніка 1988 года першай беларускай праваабарончай арганізацыі "Мартыралог Беларусі", а таксама

стварэнне аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэнне". Мабыць, улады ўрэшце зразумелі і ідэалагічную небяспеку для іх пытання, звязанага са сталінскімі рэпрэсіямі.

Узнікненне аргкамітэту БНФ "Адраджэнне" – гэта асобная гісторыя, пра якую больш падрабязна могуць распавесці старэйшыя – Зянон Пазьняк, Міхась Чарняўскі, Алесь Марачкін ды яшчэ шмат хто з тых, што задумвалі стварэнне масавага дэмакратычнага руху, я ж толькі адзін ці два разы быў запрошаны на папярэднія сходкі Камітэту-58 – правобразу Мартыралога. Памятаю адзін з такіх арганізацыйных сходаў, які праходзіў у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук, дзе тады працавалі Зянон Пазьняк і Міхась Чарняўскі. Абмяркоўвалася ідэя стварэння Беларускага Народнага Фронту, выказваліся перасцярогі, каб гэтую ідэю не перахапілі беларускія камуністы і не сплюгавілі яе.

Мне даручылі арганізацыю дружыны падчас правядзення агульнага сходу некалькіх творчых саюзаў – пісьменнікаў, кінематаграфістаў і мастакоў – 19 кастрычніка ў Чырвоным касцёле, тагачасным Доме кіно. Меркавалася, што дружына будзе адфільтроўваць несяброў творчых саюзаў, каб не пусціць "чужых" у памяшканне. Ды арганізацыю гэтай дружыны я паспяхова праваліў. Намовіў хлопцаў, падрыхтавалі бел-чырвона-белыя павязкі, прыйшоў, як і добрая палова маёй дружыны, у Дом кіно раней за пачатак сходу, але там ужо амаль уся зала была занятая як сябрамі саюзаў-ініцыятараў, так і рознымі старпёрамі, запрошанымі гаркамам кампартыі. Такім чынам, наганяючы сваіх людзей, улады ўжо і раней спрабавалі зрываць паседжанні "Талакі". Падышоў да Пазьняка: "Што рабіць?" Той толькі махнуў рукою – дзе ж вы прападаеце... Далей дзейнічалі па сітуацыі. Мы з Вадзімам Александровічам, актывістам "Талакі", стаялі на сцэне каля выступоўцаў. Сход, тым не менш, прайшоў так, як і планавалі арганізатары. Адзінае, што дружыннікам, мне і Вадзіму, тады давялося зрабіць, дык гэта вывесці пад рукі супрацоўніка ЦК КПБ Р. Бузука, які было захапіў трыбуну і не даваў выступаць Васілю Быкаву, баючыся, што той абвесціць аб сварэнні БНФ. Камуністычнага "бонзу", мабыць, упершыню ў жыцці зганялі з трыбуны, і ён паводзіў сябе, як загіпнатызаваны. У лісце да Наталлі П. я тады так пісаў пра гэтыя падзеі: "У сераду (19-га) здарылася ў жыцьці нашай рэспублікі гістарычная падзея – абвясьцілі стварэньне Народнага Фронта Беларусі!! Куды таемна ад мяне (бо ўсё рабілася таемна) уключылі і мяне ў арганізацыйны камітэт. Я ўжо 2-ю ноч ня сплю амаль і зараз гадзіна ночы, еду ў Вільню на іх Сойм Фронту, ужо ад імя Камітэту. Загружанасьць страшэнная. Добрая частка тэхнічнай працы – на мне".

Такім чынам, уладам не ўдалося сарваць стварэнне альтэрнатыўнага грамадска-палітычнага руху, і ім патрэбны быў рэванш. Такі рэванш яны вырашылі ўзяць на "Дзядах".

На фоне гэтых падзеяў мне з Анатолем Сысам і даводзілася займацца ўсімі фармальнасцямі па арганізацыі "Дзядоў". Да помніка Янку Купалу ўлады нас не пусцілі, спасылаліся на тое, што ў гэты дзень пляцоўка будзе занятая пад фальклорныя калектывы, тады мы папрасілі іншае месца для правядзення "Дзядоў" – сквер каля Маскоўскіх могілак. Да арганізацыі мітынга падключыўся гарадскі аддзел Фонду культуры на чале з мастаком і прарэктарам тэатральна-мастацкага інстытуту В. Шаранговічам, а пасярэднікам у перамовах з уладамі выступіў чамусьці парткам Акадэміі навук. Мусіць таму, што я тады вучыўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры Акадэміі навук. Але і гэта не ўратавала нас ад забароны гарадскімі ўладамі мітынга.

24 кастрычніка гарвыканкам адмовіў А. Бяляцкаму і В. Шаранговічу ў правядзенні "Дзядоў" з фармулёўкаю "ў сувязі з адсутнасцю ў горадзе традыцый правядзення Дня памяці... а таксама ў сувязі з правядзеннем 29-30 кастрычніка ўрачыстасцяў, прысвечаных 70-годдзю ўтварэння ВЛКСМ".

Цікавая фармулёўка, якая вельмі добра характарызавала той фантасмагарычны час. Яшчэ святкаваліся “дні нараджэння” камсамолу, гэтага састарэлага аслаблага монстра. Ідэалагічная савецкая машына, загрузлая ў фармалізме, круцілася па завядзёнцы, у той час як літаральна побач нараджалася нешта новае, непрымальнае для старой улады, пакуль што, здавалася, бяскрыўднае і нешматлікае, з чым можна было лёгка справіцца і, калі спарэбіцца, задушыць. Памятаю нашую размову з Нілам Гілевічам, на той час сакратарам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Прачытаўшы “Маніфест “Тутэйшых”, дзе мы жорстка крытыкавалі “прыкарытнікаў” – прыкормленых уладамі пісьменнікаў, а таксама сацыялістычны рэалізм як асноўны творчы метад у літаратуры, паслухаўшы нашую крытыку ўладаў за іхнія адносіны да беларускай мовы і культуры, ён папярэджваў мяне і Анатоля Сыса: “А вы ведаеце, з якой сілай вы сабраліся змагацца? Вы ведаеце, што за імі стаіць і кампартыя, і КДБ, і войска – уся сістэма?” Але мы не збаяліся. Мы “адвязаліся”. Было перакананне, што робім сапраўдную справу, а далей – што будзе, тое і будзе.

Увогуле, праглядаючы нашыя тагачасныя заявы, скаргі, просьбы, пратэсты, напісаныя за месяц падрыхтоўкі “Дзядоў”-88, атрымліваю задавальненне ад таго, наколькі грунтоўна мы, зусім нявопытныя ў гэтай справе, падышлі да спробы атрымаць афіцыйны дазвол на правядзенне “Дзядоў”. Мы адчайна прадзіраліся праз бюракратычную машыну, б’ючы ва ўсе званы. Пасля афіцыйнай адмовы адышоў ад арганізацыі “Дзядоў” гарадскі Фонд культуры з В. Шаранговічам, але мы вырашылі працягваць падрыхтоўку “Дзядоў” далей. З аднаго боку – дабівацца афіцыйнага дазволу на правядзенне свята: напісалі скаргу ў Савет міністраў БССР, даслалі тэлеграму ў Маскву, з другога боку, ухітрыліся адбіць на нейкай інстытуцкай памнажальнай машыне дванаццаць тысячаў абвестак з заклікам прыйсці на “Дзяды” і заклеілі імі мінскія пад’езды. На той час гэта было ноў-хаў. Я клеіў абвесткі ў пад’ездах каля ўніверсама “Рыга” і пасля вымушаны быў змываць плашч, спрэс заліты спераду сілікатным клеем, бо клеевых алоўкаў тады яшчэ не было.

Пасля папярэджання, вынесенага мне пракурорам горада, стала зразумела, што ўлады не збіраюцца жартаваць і што магчымыя рэпрэсіі супраць арганізатараў “Дзядоў” і актывістаў. Было крыху вусцішна, я разумеў, што гэта можа скончыцца для мяне зняволеннем, але адступаць нават і думкі не ўзнікала. Было адчуванне, што вось нарэшце прыйшла тая хвіліна, калі штосьці ў справе дэмакратызацыі ў Беларусі наўпрост залежыць ад мяне, ад маёй асабістай пазіцыі. Адступіць ці збаяцца ў такой сітуацыі было раўназначным здрадзіць усяму таму, чаму я прысвяціў апошнія сем гадоў свайго жыцця.

Памятаю, як насцярожана ўспрынялі інфармацыю пра “Дзяды” некаторыя сябры аргкамітэту БНФ “Адраджэнне”, баяліся, што могуць быць затрыманыя ці збітыя, ніхто тады яшчэ не меў вопыту арыштаў і адсідак. На адным з пасяджанняў я падаў інфармацыю пра тое, што “Дзяды” будуць праходзіць у любым выпадку, нягледзячы на забарону ўладаў і што, як бы аргкамітэт ні вырашыў для сябе, мы, моладзь, будзем браць у свяце ўдзел. Хтосьці прамаўчаў, хтосьці асцярожна выказаўся, што могуць быць правакацыі і, як вынік, – затрыманні. Зянон Пазьняк рашуча сказаў, што на “Дзяды” пойдзе.

Захавалася даволі падрабязнае апісанне ходу падрыхтоўкі правядзення “Дзядоў”, надрукаванае ў бюлетэні “Тутэйшых”, які выходзіў пад назовам “Кантроль”, захавалася старонка тэксту, набітая мной на друкавальнай машынцы на памяць адразу па гарачых слядах пасля “Дзядоў”, а таксама прыватны ліст з апісаннем падзеяў і сведчанне паэткі Тацяны Зіненкі, перасланае мне адразу пасля “Дзядоў”. Цікавасць выклікае і міліцэйскі дакумент, які паказвае, якім чынам да гэтага мерапрыемства рыхтаваліся ўлады. Ён таксама сведчыць пра тое, што рашэнне пра разгон “Дзядоў” прымалася на самым высокім узроўні. Гэтыя дакументы, нататкі,

гістарычныя сведчанні свайго часу падаю ніжэй. З іх відавочна, што мы разумелі, якое значэнне мела правядзенне “Дзядоў” на той час, нягледзячы на гвалтоўныя дзеянні ўладаў, якія спрабавалі не дапусціць правядзенне свята.

Вынікі ад разгону “Дзядоў”-88 аказаліся надта неспрыяльнымі для ўладаў. Разгон выклікаў адваротны эфект: замест усепаглынальнага страху – выбух грамадскай актыўнасці і поўнае непрыняцце грамадскасцю падобных паводзінаў уладаў. “Дзяды” адыгралі вялізнае значэнне для далейшага лёсу краіны, паслужылі пэўным Рубіконам, пасля якога працэс дэмакратызацыі, набыцця незалежнасці набыў незваротны характар. Сотні і тысячы людзей шукалі магчымасць уступіць у БНФ “Адраджэнне”, такім чынам выказваючы сваю грамадзянскую пазіцыю, пратэстуючы супраць гвалту ўладаў і падтрымліваючы наспелыя перамены. Пачаўся поўнамаштабны працэс зменаў грамадскай свядомасці. “Дзяды” 88-га года былі першым штуршком, відавочным прадвеснікам тых шматлікіх і шматлюдных грамадскіх акцыяў, мітынгаў, дэманстрацыяў, іншых падзеяў, якія скаланулі Беларусь у наступныя гады і якія ўрэшце прывялі да незалежнасці краіны. Упершыню на гэтых “Дзядах” быў адкрыта ўзняты бел-чырвона-белы сцяг.

Вынікі разгону “Дзядоў” сталіся перасцярогай для ўладаў. Пасля гэтага аж да 1996 года ў Беларусі хаця і былі спробы абмяжоўваць права на свабоду маніфестацыяў і сходаў, але не быў гвалтоўна разагнаны ні адзін мітынг, ні адна дэманстрацыя. Апроч усяго, пасля 1988-га года нам удалося вярнуць традыцыю адзначэння “Дзядоў” на ўсенародны ўзровень. Пэўны час пасля замены савецкай эсэсэсэраўскай на адносна незалежную і дэмакратычную ўладу “Дзяды” адзначаліся ў краіне як дзяржаўнае свята. Урэшце, арганізацыя і правядзенне “Дзядоў” аказалася вяршыняй у грамадскай дзейнасці Таварыства маладых літаратараў “Тутэйшыя”.

## Публікацыя ў бюлетэні “Тутэйшых” “Кантроль” № 1 за снежань 1988 г.*

“Дзяды” былі за намі. Леташняя шуміха вакол іх[1], унутраная насьцярога, зь якою ўпершыню, без загаду зьверху, ня ведаючы, чым гэта для іх скончыцца, да помніка Купалы выйшла тры сотні чалавек, спроба ачарніць Дзяды “папяляевымі”, важкае слова “за” ў “Советской Белорусии” В.Быкава і поўная падтрымка ў “Литературной газете” А.Казловічам, які падвёў рысу: “Мероприятие носило благородный, традиционный, народный характер”, усё гэта сьведчыла, што правядзеньне і сёлетніх Дзядоў – за “Тутэйшымі”.

Падрыхтоўка пачалася за месяц да прызначанага тэрміну. 3 кастрычніка 1988 году ў Цэнтральны райвыканкам г. Мінска была пададзеная заяўка такога зьместу: “Просім дазволіць Таварыству маладых літаратараў пры СП БССР “Тутэйшыя” пры садзеяньні Беларускага аддзяленьня Фонда культуры СССР правядзеньне гістарычна-літаратурнага беларускага сьвята Дзяды на тэрыторыі вашага раёна (у скверы Я.Купалы, каля помніка Я.Купалы).

Мэта правядзеньня: Ушанаваньне памяці продкаў (што адпавядае тысячагадовым традыцыям беларускага народа).

Тэмат выступаў і лозунгаў на плакатах: Закранаюць пытаньні гісторыі, ушаноўваюць памяць продкаў.

Час правядзеньня: 30 кастрычніка, нядзеля, 11-14 гадзін.

Прыкладная колькасьць удзельнікаў: Тысяча чалавек.

Маючы вопыт правядзеньня Дзядоў у 1987 годзе, просім Райсавет забясьпечыць парадак у час правядзеньня мерапрыемства пры дапамозе органаў правааховы.

* Тут і далей правапіс арыгіналаў захаваны.

Просім зарэгістраваць групу па падтрыманьню парадку з членаў “Тутэйшых”, маючых пасьведчаньні ДНД. Просім забясьпечыць мерапрыемства сродкамі ўзмацненьня гуку.

Адказныя за правядзеньне: Бяляцкі Аляксандр Віктаравіч, Сыс Анатоль Ціханавіч (5)”.

12 кастрычніка старшыня райвыканкаму А.А.Мількота сабраў камісыю па народнай адукацыі і культуры, якая выслухала нас і сказала, што яны ні ў якім разе не супраць, яны за такі высакародны звычай і што яго абавязкова трэба адраджаць, але ў гэты час у раёне будуць праходзіць Дні Брэсцкай вобласьці і пляцоўка перад (Янкам) Купалам будзе занятая. Мы прапанавалі іншае мейсца, на што нам адказалі, што там будзе дзіцячы сьпектакль і ўвогуле, гэта недалёка адтуль, дзе будзе таньчыць самадзейнасьць. Тады мы прапанавалі нeяк урэгуляваць графік аднаго і другога мерапрыемства ці зьмяніць час правядзеньня Дзядоў (перанесьці на 2-е лістапада), на што нам адказалі, што гэта немагчыма.

Назаўтра мы атрымалі такую паперу: “Исполнительный комитет районного Совета народных депутатов РЕШИЛ:

1. Согласиться с предложением постоянных комиссий районного Совета народных депутатов по народному образованию и культуре; по социалистической законности и охране общественного порядка и отказать гр-нам Беляцкому А.В. и Сысу А.Т. в проведении данного мероприятия 30 октября 1988 г. в Центральном районе г. Минска ввиду того, что с 24-30 октября 1988 г. в Центральном районе г. Минска будут проходить Дни Брестской области в рамках III Всесоюзного Фестиваля народного самодеятельного творчества. Территория сквера Я.Купалы и ряда других точек района 30 октября 1988 г. будет предоставлена для выступлений коллективов художественной самодеятельности г.Бреста и Центрального района г. Минска. Проведение 2-х подобных мероприятий, отличающихся по своей направленности, считать несовместимым.

2. Рекомендовать товариществу молодых литераторов при СП БССР “Тутэйшыя” впредь продумать вопрос о проведении праздника Дзяды, связанного с ритуалом поминовения, не у памятников культуры и местах массового отдыха минчан, а в других точках, более соответствующих подобным ритуалам.

3. Контроль за выполнением данного решения возложить на отдел внутренних дел Центрального районного Совета народных депутатов г. Минска тов. Папковского В.М.

Председатель исполкома А.Милькота.

Секретарь исполкома В.Папковский”.

Пасьля гэтай адмовы мы падалі скаргу ў гарадзкі выканкам, бо лічылі, што адмова парушае Закон “Аб правядзеньні мітынгаў...”, і адразу ж 14 кастрычніка падалі заяўку ў Першамайскі раён на правядзеньне Дзядоў каля Курапатаў, мяркуючы, што праводзіць Дзяды трэба ля сьвятых мейсцаў. І калі адмовілі ля Купалы, правядзем іх там, дзе ляжаць сотні тысяч ахвяраў генацыду, дзе ніякія Дні гарадзкімі ўладамі сьвяткаваць не намячалася. У адрозьненьне ад першай заяўкі, мы ўказалі, што прыкладная колькасьць удзельнікаў мітынгу-рэквіему будзе 3 тысячы чалавек.

15 кастрычніка было пасяджэньне “Тутэйшых”, дзе, пасьля абмеркаваньня сітуацыі, маладыя літаратары аднадушна прыйшлі да высновы: нягледзячы які будзе адказ бюракратыі – “Дзяды” праводзіць. Ні леташні Дзень памяці, ні мітынг у Курапатах не былі дазволеныя. Мінскія бюракраты робяць што хочуць, у іх хапае сумленьня не дазваляць нават спрадвечны нацыянальны абрад (некалі ж хапала калядоўшчыкаў міліцыя).

Праз два дні А.Бяляцкі сустрэўся са старшынёй гарадзкога Фонду культуры

Ехаў я ў складзе прыходскага хору аднаго з мінскіх сабораў, рэгентам якога была Ларыса Гуськова, вядомая цяпер як арганізатар розных фестываляў праваслаўных спеваў. Накіроўваўся наш хор у места Гайнаўка, ці, на польскі манер, – "Гайнуфка", што ў Беластоцкім ваяводстве, дзе меўся адбыцца штогадовы фестываль тых самых праваслаўных спеваў. Мы падрыхтавалі моцную, цікавую праграму, цвіком якой былі беларускамоўныя праваслаўныя песнаспевы, у тым ліку калядныя і велікодныя канты 16 ст.

У купэ я адразу выцягнуў пачатую пляшку самагнёту і пачаў частаваць харыстаў, якія далікатна адмаўляліся.

"Ну і дурні! – падумаў я зусім па-вясковаму, – самагонка ж хлебная!".

Праўда, сам факт адмовы не надта мяне засмучаў, урэшце, можна было проста выпіць з разумным чалавекам, г. зн. з самім сабою... Аднак да такога скрайняга варыянту не давялося звяртацца, бо мяне падтрымаў баяніст Мікола – найлепшы тэнар хору, які толькі што прыйшоў з перакуру. Дык налілі, здаецца, два разы па сто, загаманілі...

Раптам у дзверы купэ пастукалі. Гэта была сама рэгент Ларыса. Яўна раз'юшаная і не вельмі тактоўная:

– Калі ты вып'еш яшчэ, дык па прыездзе адразу можаш браць білет з Гародні ў Мінск.

Але было запозна. Змесціва бутэлькі ўжо скончылася.

Раніцай мы высадзіліся на вакзале ў Горадні.

Надышоў знаёмы стан "неакрэсленага быцця" – гэта значыць поўнай апатыі і нежадання нейкіх актыўных рухаў, з болем у галаве і агульнай "млявасцю". Не, жаданне ўсё-ткі было. І толькі адно – тэрмінова знайсці які бар і пахмяліцца.

Калі мы выгрузіліся каля Гарадзенскага Кафедральнага сабора і ўсе харысты згуртаваліся вакол рэгента і мясцовага царкоўнаслужыцеля, я незаўважна выслізгнуў з-пад пільнага вока маёй начальніцы і выскачыў на вуліцу. Піўны бар, дзе давалі і гарэлку на разліў, я знайшоў імгненна. Умомант на душы зрабілася добра, галава стала яснець і нарэшце запрацавала. Толькі тады я і схамянуўся, а дзе група? Бо, паводле сцэнару, да нас мусіў прыехаць аўтобус і павезці ў Польшчу. Калі я глянуў на гадзіннік і ўбачыў, што ўжо палова на трэцюю, то ўпершыню спалохаўся: ці не пазнюся на аўтобус? Падхапіўся і пабег да сабора.

Каля храма нікога не было. Вартаўнік і яшчэ нейкі чалавек, мабыць, псаломшчык, сказалі, што група з Мінска ўжо хвілінаў 40 як з'ехала на прыгожым польскім аўтобусе.

"От табе і з'ездзіў за мяжу! От табе і фестываль!" – крутнуліся ў галаве панылыя і балючыя думкі. "Скаціна! П'янюга! Быдляк!"

"Што ж рабіць? Няўжо ўсё скончана?"

І тут я ўспомніў пра свае рэчы. У мяне быў ладны заплечнік, дзе акрамя абавязковага камплекту дарожнага адзення, зубной шчоткі з мылам і электрабрытвы, была цэленькая бутэлька першаку і дзве літровыя бутэлькі спірту "Раяль". Спірт я вёз у Польшчу на продаж, тады ўсе яго везлі, бо ў Польшчы, як нам сказалі, яго ахвотна бяруць і плоцяць добрыя грошы. Але гэта быў *тавар,* і таму асаблівых эмоцыяў успамін не выклікаў. А вось калі я ўзгадаў хлебную самагонку... У мяне аж засмактала пад бокам:

"Заплечнік – таксама ў аўтобусе! Замест мяне паехаў у Польшчу! Усе мае напоі – ужо ў Польшчы! Усе і ўсё – там!" – наперагонкі несліся думкі. А разам з імі панёсся і я – спачатку на вакзал, потым зноў у піўную, потым зноў на вакзал, дзе сеў на прыгарадны цягнік, які мусіў завезці мяне да самай беларуска-польскай мяжы.

Рэч у тым, што польская віза ў мяне была. Упершыню ў жыцці ў пашпарце стаяла адзнака, маўляў, уезд у Польшчу з 12 па 19 мая 1993 года дазваляецца. Яшчэ ў Мінску на ўвесь тыдзень фестывалю харыстам зрабілі візы.

І я наважыўся дагнаць хор! Хада думак была наступная: даязджаю да мяжы, перабіраюся нейкім чынам праз яе – ёсць жа віза, а там у Польшчы еду ў Гайнаўку і далучаюся да калег. Усё проста, і няма чаго панікаваць!

З такімі думкамі я прыехаў на канцавы прыпынак. Выйшаў. І адразу здзівіла малая колькасць людзей, і на станцыі, і на прывакзальнай плошчы. Пустая мяжа? Але адразу ж усё высветлілася – я сеў не на той цягнік і апынуўся ў памежным горадзе, спадарожніку Горадні.

Спрактыкаваны погляд прафесійнага пітука на прывакзальную плошчу адразу задаў кірунак на кавярню – і неўзабаве я трымаў куфаль піва, які належала выпіць у новым месцы. Піва, чарговы раз, на імгненне прасвятліла мазгі, хоць важнейшай ідэі, акрамя як ехаць назад у Горадню, мне прыйсці і не магло. Першая спроба перасячэння мяжы ляснулася.

Горад сустрэў мяне змрокам ночы, прывакзальнай мітуснёй і “кансультацыямі” з мясцовымі забулдыгамі, як дабрацца да Польшчы. Само сабою, гэты важны працэс запабягаў паход у гастраном, дзе я набыў добрую пляшку віна, якая выклікала ў вакзальнага народа прыхільную рэакцыю і ўвагу да мае персоны.

Высветлілася, што ехаць трэба да станцыі Брузгі, апошняй на беларускім баку – там мяжа. На другім баку мяжы – ужо польскі памежны пункт Кузніца, з яго і пачынаецца Польшча.

Мужыкі далі мне ў дарогу – здаецца нават задарма – кучу розных гаспадарчых прыладаў: нейкую рулетку, складны метр, кусачкі ды абцугі. Адзін з маіх новых сяброў з дакладных крыніцаў ведаў, што гэтыя рэчы ў Польшчы на вагу золата і гарадзенцы ездзяць гандляваць такім таварам. Зразумела, набытыя дэфіцытныя рэчы прыйшлося падмацаваць новай пляшкай чарніла. За ёй яшчэ адной...

Начаваў на вакзале. Раніцай сеў у электрычку, якая ўжо дакладна кіравала на Польшчу. Брузгі, як выявілася, правінцыйнае, нічым не прыкметнае месца. Але слыннай мяжы нешта было не відаць. Куды ж ісці? Я падыйшоў да купкі мужыкоў, што абыякава стаялі каля нейкай хаты, падобнай да сельскае крамы.

– Як прайсці да польскай мяжы? – звярнуўся я да мужыкоў, імкнучыся пры гэтым захоўваць абыякавы выгляд, быццам бы штодзень туды хаджу, але з іншага месца.

Мужыкі пераглянуліся, а потым адзін асцярожна спытаўся:

– А навошта вам польская мяжа?

Не паспеў я адказаць на гэтае “законнае” пытанне, як пасыпалася з усіх бакоў:

– Хто вы такі будзеце? Куды едзеце? Чаму адзін? – закідалі пытаннямі пільныя брузгаўцы.

– Ды я... Адстаў ад групы, якая едзе ў Польшчу на фестываль... Хачу іх дагнаць.

– Ты б прыдумаў што разумнейшае, – разам загаварылі пільныя брузгаўцы. – Ведаеш, колькі мы тут шпікоў ужо выкрылі? У цябе ў кішэнях, можа, і грошай нашых няма, адны амерыканскія даляры! Хіба не так? Ну, прызнавайся, гад! Паказвай, што маеш.

Я не на жарт перапужаўся і дастаў з правай кішэні чырвонец. Палез быў і ў другую, дзе дзякуючы старой звычцы рассоўваць грошы па ўсіх кішэнях, таксама нешта было. Але больш не спатрэбілася. Ад групы мужыкоў падаўся наперад найшустрэйшы, рыжы хлопец – відавочна лідар – і спрытна “зняў” дзесяцірублёвую купюру з маіх пальцаў.

– Што напалі на чалавека, – зычліва прамовіў рыжы брузгавец, – чалавек на фестываль сабраўся, гарэлкай нас частуе... – Тут ён пільна і настойліва паглядзеў у мой бок, яўна чакаючы пацверджання сваім словам. А гэтага не давялося і чакаць, патрэбныя словы самі пасыпаліся з маіх вуснаў. З іх вынікала адна галоўная думка: “Добра было б, хлопцы, пахмяліцца!”

Неўзабаве добрыя – як высветлілася! – брузгаўцы шчыра развітваліся са мною, наперабой паказваючы пальцамі ў бок Польшчы. І доўга, па некалькі разоў, паціскалі мне руку. Я даведаўся, што да мяжы тры кіламетры, але ўжо праз які кіламетр пачнецца чарга з фураў і іншых грузавых машынаў – яны чакаюць пераходу мяжы вельмі доўга, бывае, па некалькі сутак. Аднак для простых людзей, тых, хто едзе на аўтобусе ці самаходзе, чарга нашмат меншая, таму – тлумачылі брузгаўцы – трэба ісці ўздоўж калоны фураў, пакуль не з'явіцца чарга легкавых аўто.

"А калі ўбачыш які рэйсавы аўтобус, то прасіся ў яго – такія аўтобусы прапускаюць без чаргі", – вучылі абарыгены.

Так яно ўрэшце і сталася. Амаль...

Я даволі хутка дасягнуў чаргі грузавых машынаў, што, нібы вялізныя груганы, выстраіліся ў адным кірунку, як я меркаваў – на Польшчу. Шафёры лянiва сноўдаліся паўз даўно нямытыя фуры, клялі памежнікаў беларускага боку і бесперапынна смалілі цыгарэты.

## Мяжа

...З успамінаў савецкага памежніка:

*По всей территории находится много закопанных в землю датчиков, через которые оператор на заставе может на расстоянии до нескольких сотен метров от датчика определить, кто прошел, человек или животное, даже назовёт какое. В дневное время ведётся наблюдение с вышек с помощью мощных оптических приборов. Сейчас не помню их высоту, но не менее метров 15 – 20. Очень мне нравились замаскированные препятствия. Например, замаскированные ямы с путанкой, такие же заборы метров по 100 – 200, но больше всего мне нравился спотыкач. Это когда закапываются в землю небольшие поленца, сантиметров по тридцать и торчат они из земли сантиметров на пять. От одного к другому натянута колючая проволока, и всё. Такое сооружение зарастает травкой и совершенно невидимо. Когда человек бежит, он, попадая на такую преграду, обязательно цепляется носками ботинок за колючку, и эффект следующий – клиент со всего маху падает плашмя на колючку. Пренеприятно, а какие лица после этого, ни одна косметическая операция не поможет...*

...Было каля дванаццатай гадзіны. Поўдзень Я даволі борзда рушыў уздоўж грузавікоў, як кажуць, па ходу руху. Аптымізму і веры ў слушнасць абранага кірунку пакуль што не паменела. Адступаць, у кожным разе, было рана. Але паступова мяне пачала засмучаць і ўсё больш трывожыць адна акалічнасць – надвор'е. Была сярэдзіна мая і перад маім ад'ездам з Беларусі ўсталявалася цёпленькая, веснавая пагодка, прырода выбухнула размаітым цвіценнем вішні, грушы, яблыні і іншых, абуджаных пасля зімовага сну дрэў. Ды дасведчаныя людзі добра ведаюць: за бурным наступам летняга цяпла трэба чакаць часовага паніжэння тэмпературы, а бывае – добрага майскага пахаладання. І найчасцей гэта здараецца ў час масавага цвіцення вішні.

Якраз на такі перыяд прыпаў мой пераход польскай мяжы. Недзе а дванаццатай гадзіне стала рэзка халадаць, і сонца схавалася за покрывам густога туману. Мяне гэтая прыродная з'ява зачапіла як мае быць, і вельмі шчыльна. Рэч у тым, што на мне былі толькі летнія нагавіцы, ды танюсенькая, у клетачку кашулька з кароткімі рукавамі. І зараз аголеныя па локці рукі сталі пакрывацца, гэтак званай, "гусінай скурай". Як я ні прыспешваў свой рух, цяплей не рабілася. Патрэбнае было добрае адзенне, а яно, як я тады памылкова думаў, было па той бок мяжы – у маёй падарожнай валізцы. Новая думка пра валізку і швэдар прымусілі мяне паскорыць рух уздоўж застылых груганоў-фураў.

Праз добрыя гадзіны-паўтары хады ўздоўж шматкіламетровай калоны я ўрэ-

шце ўбачыў першы памежны пункт – невялічкі будыначак, упрытык да якога разлёгся паласаты шлагбаум.

– Куды гэта вы кіруецеся? – запытала мяне грозная кабета нявызначанага веку з сяржанцкімі пагонамі, якая раптам вырасла побач са шлагбаумам.

У Польшчу мне трэба, от і рухаюсь... – адказваю ледзь чутна.

– Дзе ж ваш самаход? – на польскі лад запытала памежніца, маючы на ўвазе аўтамабіль.

– У мяне няма машыны...

– Дык вы што, аўтобусам прыехалі? Экскурсійным? А дзе ж ён? – закідала яна мяне пытаннямі.

– Не. Сам прыйшоў...

– Як сам? У якім сэнсе сам? На мяжу, пехатой? – доўга не магла ўцяміць жанчына-памежніца.

Я, як мог жаласна, пачаў тлумачыць, што адстаў ад свайго аўтобуса, што ехаў... а цяпер іду... на міжнародны фестываль у Польшчы і ў мяне праз дзень канцэрт у Гайнаўцы... Нешта гаварыў пра адкрытую візу і пра рэгента Ларысу... Дастаў пашпарт, тыкаў у візу і зноў нешта плёў пра канцэртную праграму і пра партыю басоў, якая бяз мяне асірацела...

– Так. Ясна, – урэшце важна сказала сяржантка, – хуценька разварочвай аглоблі і шуруй у свой Мінск, – яна не толькі перайшла са мной “на ты”, але і на народную мову: – Ты ўжо нікуды, ні на які фэст не трапіш. Па адным у Польшчу не ходзяць. А візу сваю цяпер заткні ў с...ку...

Як я ні маліўся, ні плакаўся перад памежнікамі – а да нашага дыялогу з жанчынай далучыліся яшчэ два мужчыны-памежнікі вышэйшых чыноў, якія выйшлі з будынка са шлагбаумам – нічога не выйшла. Усе ў адзін голас паказвалі мне “на дзверы”, г.зн. накіроўвалі назад у Мінск.

Рабіць няма чаго. Я павярнуў назад і абвёў вачыма панылы беларускі пейзаж у бок Мінска. Можа, ён мне толькі здаваўся такім, але гэта, па вялікім рахунку, нічога не мяняла. Сумны і пануры, я адышоўся ад памежнай будкі і стаў. Першы раўнд, а можа, і ўсю партыю я прайграў. Мяжу так проста не перайсці.

“Так проста не перайсці... Так проста не перайсці...” – круцілася ў мяне ў галаве.

Я азірнуўся ў бок варожай ужо мне памежнай будкі са шлагбаумам і хацеў ужо смачна харкнуць у той польскі бок з будынінай і з яе непрыступным штатам на чале з сяржантам жаночага полу, але раптоўна перадумаў. У мяне мільганула “геніяльная” думка:

“А што калі перайсці мяжу праз лес?”

Было бачна, што адразу за будкай у абодва бакі гасцінца на Польшчу стаіць непралазны, густы лес. Калі трохі адысціся, каб не было відаць з дарогі, ды ўбіцца ў лес... Вырас я ў Васілевіцкіх гушчарох, і блукаць па лесе, нават без мэты, любіў з маленства. Дык паблукаць дзеля справы было такой простай задачкай, як падняць куфаль жыгулёўскага піва пасля першых ста грамаў. “Прайду мяжу праз лес. Мо ўжо не савецкія часы, і датчыкі ў лесе зліквідавалі. Можа...” – думаў я, далёка не ўпэўнены ў тым, што гэта так.

Як і раней, нейкая няведамая сіла пхнула мяне – і ногі паслухаліся тых крамольных, быццам і не маіх, думак. Бо ў сваёй аснове я чалавек абачлівы і рацыянальны. Падышоў неўпрыкмет да тыльнага боку ненавіснай памежнай будкі і, прасачыўшы за дзеяннямі сяржанцкага і афіцэрскага складу на ахоўванай імі дарозе са шлагбаумам, слізгануў пад стромкую елку, за якой не было нічога відаць. Як спадчынны партызан – бацька ў мяне партызаніў пад Ліскамі на родным Палессі – я пачаў прадзірацца праз елкавы гушчар, які неўзабаве трохі прарадзеў, і з’явілася ўрэшце расквітнелая пасля зімняга сну россыпам пралесак, прагаліна. Па

добра чутным гуле матораў можна было меркаваць, што недзе справа праходзіць той самы гасцінец з бясконцым ланцугом машынаў на Польшчу.

Так яно і было. Я прабраўся бліжэй і ўбачыў дарогу. Але яна была пустая, толькі зрэдку па ёй праляталі фуры ці легкавікі, якіх прапусціў той – ужо згаданы – шлагбаум каля памежнай будкі, што апынулася цяпер далёка ззаду.

Каля самае шашы я агледзеўся. Майму расчараванню не было мяжы! Наперадзе, недзе праз метраў 50-60, праглядвала яшчэ адна будка, каля якой транспарт зноў прыпыняўся, шафёры і пасажыры выходзілі і нешта паказвалі ўжо новым памежнікам. Я падцікаваў да месца прыпынку апошняй легкавой машыны, выйшаў з лесу і змяшаўся з мітуслівым натоўпам людзей ля гэтай “новай мяжы”, што і з’яўлялася самашчырай мяжой. А будка, якую я так шустра абмінуў, была толькі папярэднім этапам праверкі і рыхтавала людзей да спраўджання пашпартоў.

Упаўшы духам, па інерцыі, я зноў пачаў паказваць пашпарт, візу, казаць пра фестываль і “ўва ўсім вінаватым рэгенце Ларысе”...

І раптам, зусім нечакана, я дабіўся праўды. Гэта заўсёды так: спецыялісты альбо прафесіяналы значна больш гнуткія ў справах, чымсьці іх неадукаваныя, але больш нахабныя маладыя калегі.

Як і раней, мяне накіравалі назад у Мінск. Але натхнёны сваім папярэднім пераходам праз лес, я доўга не перажываў і пачаў абдумваць новы прарыў праз дзяржаўную мяжу – у мяне, як і належала, назапашваўся досвед нелегальнага пераходу мяжы. Самавіта паківаўшы галавой на знак згоды, маўляў, пара вяртацца дадому, я, згодна з новай завядзёнкай, зайшоў за памяшканне памежнай будкі, каб нырнуць у гушчар лесу. Але гэтым разам мяне чакала жорсткае расчараванне: ушчыльную з будынкам велічна і ўрачыста распачынала свой шматкіламетровы шлях сапраўдная двухметровая памежная сетка са знаёмым з шпіёнскай літаратуры калючым дротам наверсе. “Finita la camedia”, – амаль абыякава і механічна адзначыў гэтую акалічнасць я.

Ужо без усялякай надзеі на нешта добрае, я зноў падышоў да людзей у пагонах.

– Ты яшчэ тут, гуляка? – засмяяўся, убачыўшы мяне, лейтэнант, што абсёк мяне трохі раней. – Спяшайся, а то да прыцемкаў у Мінск не трапіш.

Я маўчаў. Атупела разглядваў насок свайго мурзатага, даўно нячышчанага чаравіка. Нават не заўважыў, што да нашай групы падышлі яшчэ два маладыя афіцэры. Адзін з іх, інтэлігентнага выгляду афіцэр-памежнік, здаецца, капітанскага рангу, ці не паспачуваўшы майму працэсу адхадняку, бо ад холаду і сіндрому пахмелля мяне пачало даволі моцна калаціць, – раптам сказаў:

– У цябе ёсць толькі адзін шанец. Пераехаць мяжу на машыне.

– Як гэта?

– Трэба папрасіцца да каго, ну, у каго мала пасажыраў, каб узялі з сабой. Калі ты будзеш у салоне аўто, то маеш права на пераезд па сваёй візе. Ніхто не будзе цябе пытацца як ты тут апынуўся. Так, яшчэ... Запытаюць “Куды едзеш?” – не ляпні, што на фестываль песні пець. Скажы: “Еду на рынак у Беласток гандляваць гаспадарчымі таварамі”. Пераедзеш мяжу, а там накіроўвайся ўжо куды трэба.

Чатыры першыя машыны мяне не ўзялі. У пятай, пацёртым сінім “Фольксвагене”, ехала маладая пара – муж і жонка – гандляваць на Беластоцкі рынак нейкімі фарбамі для парфумнай прамысловасці. Яны мяне і ўзялі.

Праз паўгадзіны мы ўехалі ў Польшчу.

Зоя і Валера – так звалі маіх збаўцаў – давезлі мяне аж да Беластока. Гэтае “аж” мае толькі 50 кіламетраў, але ж я маліўся пераехаць хоць бы за памежны слуп, а не тое, што далей па Польшчы. Так што настрой мой пайшоў угару. Мэта набліжалася.

Я прапанаваў сваім выратавальнікам матэрыяльную кампенсацыю за турботы, а менавіта нешта з таго гарадзенскага набору слясарных вырабаў, што набыў ноччу на вакзале, але яны адмовіліся. Наадварот, хацелі мне даць колькі даляраў на першы час, бо надта няшчасны выгляд у мяне быў і надта сумная была мая гісторыя. Я, сваім парадкам, таксама адмовіўся, і, як неўзабаве выявілася, дарма.

У бліжэйшым беластоцкім пункце абмены валюты за ўсю маю валютную гатоўку – 10 даляраў – далі ні многа ні мала – 18 тысяч злотых. Я яшчэ не ведаў, што на самай справе гэта была – на той час "узлётаў і ўпадкаў" – вельмі малая сума. Але гэтыя веды не забавіліся чакаць. На Беластоцкім аўтавакзале я падышоў да касаў і замовіў білет да Гайнаўкі.

– 28 тысяч злотых, проша пана, – адказала сімпатычная бялявая касірка. У мяне мову адняло.

– Як? – мне здалося, я недачуў, – Ile kosztuje bilet do Hajnówki[1]?

– Już Panu mówiłam, dwadzieści ośiem tyśiący złotych. Będzie Pan kupować[2]?

– Не. Ад вас не трэба! – агрызнуўся я на ні ў чым не вінаватую касірку і зноў падышоў да вялікай мапы Беластоцкага ваяводства, што займала амаль паўсцяны залы чакання.

"У мяне толькі 18 тысяч. Не стае..." – свідравалі і без таго хворую галаву новыя сумныя думкі. Я пачаў вывучаць мапу, каб знайсці нейкі буйны населены пункт пасярэдзіне дарогі да Гайнаўкі. "Ёсць! Вось – Narew, па нашаму будзе Нарва".

Грошай да Нарвы ў мяне ставала. Я, праўда, яшчэ не ведаў, што буду рабіць, калі даеду.

...Аўтобус быў прасторны, светлы. Палова месцаў пуставала.

"От так. Не тое, што ў нас!" – думаў я, успамінаючы, як у Стоўбцах прарываўся ў забіты людзьмі аўтобус на сваю вёску Беражное.

Міналі польскія краявіды з хвойнымі ляскамі, чыстымі раўчукамі ды дагледжанымі палямі. Няўмольна набліжалася "мая" вёска.

– Następny przystanek Narew[3], – урэшце аб'явіў кіроўца.

Я падняўся і падышоў да кабіны кіроўцы. На сваёй вясковай беларуска-польскай мове я паведаміў яму, што "ў мяне хапіла грошай на білет толькі да Нарвы, а мне трэба ў Гайнаўку. Але, можа, пан давязе..." – я выцягнуў з кішэні складны метр гарадзенскіх бадзяжнікаў і паклаў перад прыборнай панэллю вадзілы.

Так я даехаў да мэты падарожжа – Гайнаўкі.

## Гайнаўка

З Вікіпедыі:

*ГА́ЙНАЎКА (польск.: Hajnówka), горад у Польшчы, цэнтр павета ў Падляшскім ваяводстве, знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад Беластока, на захадзе этнічнай тэрыторыі беларусаў. Гайнаўка размяшчаецца каля заходняй ускраіны Белавежскай пушчы, над ракой Лясная.*

*Колькасць насельніцтва — 22,2 тыс. чал.*

*Паводле вынікаў перапісу насельніцтва 2002, у Гайнаўцы самая вялікая ўдзельная вага беларусаў сярод усіх гарадоў Польшчы. У шэрагу школ і гімназій Гайнаўкі сотні дзяцей як дадатковы прадмет вывучаюць беларускую мову. Акрамя таго, у Гайнаўцы дзейнічаюць гімназія і ліцэй з дадатковым навучаннем беларускай мовы, дзе гэты прадмет з'яўляецца абавязковым.*

---

[1] Колькі каштуе білет да Гайнаўкі?

[2] Я ўжо вам казала, 28 000 злотых. Купляць будзеце?

[3] Наступны прыпынак Нарва.

У Гайнаўцы мяне ніхто не чакаў.

Гэта, канечне, зразумела. “Ларыса з хорам, відавочна, ужо забыліся пра мяне – менш турбот з п’янтосінай... Відаць, узмоцнена рэпетуюць, рыхтуюцца да конкурснага выступу”. З такімі думкамі я крочыў да Гайнаўскага Троіцкага сабора, дзе мусіў праходзіць фестываль.

Царкоўная начальства адаслала мяне ў аргкамітэт фестывалю, які я надзіва хутка знайшоў.

– З Мінска? – запытала мяне прыгожая, ладная дзяўчына-сакратарка ў беларускім народным строі. – Вам трэба да маэстра Роўды, ён старшыня журы і ведае, дзе хто жыве з Беларусі. А вось і ён, – паказала дзяўчына на нашага славутага харавіка, які толькі што зайшоў у залу журы.

Віктара Роўду, сусветна вядомага майстра харавых спеваў, ведалі ўсе: і ў Беларусі, і ў свеце. З 1965 года і на той момант (1993 год) і да самай смерці (2007) ён быў мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам акадэмічнага хору Беларускага тэлебачання і радыё. Ні адно мерапрыемства ў галіне харавога мастацтва, ні адзін фестываль не абыходзіліся без удзелу маэстра. Але я ведаў яго і асабіста, бо нашая рэгент Ларыса іншым разам запрашала яго да нас у сабор на літургію, каб пахваліцца поспехамі. Часам Роўда прыстройваўся бліжэй да групы тэнараў – ён сам быў тэнарам – і спяваў з намі “Ектении”, “Единородный Сыне” альбо нават “Милость Мира”. Але харысты былі не вельмі задаволеныя гэтым суседствам, бо маэстра не надта слухаў нашага рэгента, а спрабаваў “прапхнуць” сваё бачанне музыкі.

Сам Роўда, відавочна, мяне не надта памятаў. Ён утаропіўся ў мяне сваімі калючымі вачыма:

– З Мінска? Які калектыў? У нас з Беларусі Дзяржаўны хор тэлебачання і радыё... Але я сам ім кірую... – маэстра палез пальцам па нейкай паперчыне, дзе, як я зразумеў, былі спісы прыехаўшых калектываў. – Так, Царкоўны хор... Каложскай царквы горада Гродна... Віцебская акадэмічная капэла... – нешта не бачу тут больш з Мінска, – а хто ў вас рэгент, прабачце?

– Ларыса Гуськова, у нас брацкі хор пры Пятрапаўлаўскай царкве.

– А! Відаць, намінацыя “Прыхадскія хары”... Ага, вось. Як жа вас сюды прапусцілі, на міжнародны фестываль! А ваш хор нават я не ведаю. Сапраўдны “катакомбны” хор.

І праўда, наша надзвычай актыўная, порсткая рэгент Ларыса выявіла не толькі цуд настойлівасці і асабістага шарму, яна здолела прывезці на фэст цэлых дваццаць чалавек. Улучаючы мяне.

– Але ж дзе яны цяпер? – нецярпліва ўставіў я.

– Гэтага, на жаль, я вам не скажу, бо размяшчэннем, планаваннем праграм выступленняў і культурных візітаў гасцей займаецца мясцовы дырэктар фестывалю. Хадземце са мной, я якраз да яго накіроўваюся.

Праз хвілю мы былі ў дырэктара.

– Так, брацкі хор з Мінска... Ёсць такі, будзе паслязаўтра выступаць... Але ж цяпер іх тут няма. Яны яшчэ не прыехалі...

– Як??? – ледзь не крыкнуў я, – а дзе ж яны? Я ж з імі яшчэ пазаўчора сюды выехаў!

Сапраўды, нешта незразумелае дзеелася ў гэтым свеце. Я ўспрыняў новую інфармацыю як здзек з маёй замучанай, няшчаснай і не зусім працверазелай асобы, – такое бывае толькі ў тыя крытычныя моманты, калі вы перажываеце нечаканую здраду блізкага чалавека, каханай альбо лепшага сябра.

“Мяне кінулі”, “Мяне запрасілі ў Польшчу – і кінулі!”, “Мяне прадалі!!!” – бязглуздая мітусня думак закруцілася ў галаве. І гэта заміж таго, каб успомніць, што насамрэч не *яны* мяне кінулі, а я *іх усіх* падвёў, – яшчэ ў Горадні.

– Супакойцеся, яны паводле праграмы падарожжа цяпер выступаюць, – збянтэжана сказаў дырэктар. Было відаць, што ён не чакаў такой рэзкай рэакцыі на шараговае паведамленне. Адкуль жа яму было ведаць, што чалавек, які стаяў перад ім, пераадолеў неймаверныя цяжкасці, двое сутак бадзяўся паміж дзвюма краінамі, каб злучыцца са сваім родным калектывам і ўжо амаль дасягнуў сваёй мэты... і тут....

Высветлілася, што Ларыса павезла харыстаў гастраляваць па Беласточчыне, а дакладней – выступаць у праваслаўных храмах, якія існуюць амаль у кожнай вёсцы, калі ехаць з Беларусі. І база іхняя, то бок месца дыслакацыі – у Супраслі, гэта недалёка ад Беластока.

Каб далучыцца да хору, трэба ехаць назад у Беласток, а адтуль якіх 10 км – і Супрасльскі манастыр. І каб...

Колькасць гэтых "каб" імкліва множылася, але ў выніку дырэктар дастаў з кішэні грашовую купюру вартасцю 50 000 злотых і адправіў мяне начаваць у службовы гатэль пры Гайнаўскім музеі беларускай народнай культуры. А наранку я мусіў кіравацца у Беласток.

Відаць, тыя 50 000 злотых вартасцю былі, як цяперашнія 50 000 беларускіх рублёў. Потым палякі скінуць тры нулі, і іхнія грошы стануць такімі, як цяпер. А мы, можа, калі будзем скідваць і ўсе чатыры нулі...

Я пайшоў знаёміцца з горадам. Першым аб'ектам майго падарожжа была, зразумела, крама, ці, па-польску – "склеп спажыўчы". Трэба было тэрмінова ажыццявіць тое, што не выходзіла з галавы ад самае мяжы – апахмяліцца.

Мысленне алкаголезалежнага чалавека даволі прымітыўнае. Дзе б ён ні знаходзіўся, куды б яго ні закінуў лёс, на якую б вышыню службовай лесвіцы ён ні падняўся, ці наадварот – як бы ні ўпаў ён маральна альбо фізічна – на першы план заўсёды выходзяць думкі пра алкаголь. Любы алкаголь. З савецкіх часоў самым пашыраным і даступным алкаголем традыцыйна было піва. "Піўка для рыўка" – такі ход ранішняй думкі савецкага п'яніцы. Але апахмяліцца можна было і самым любым алкаголем – віном, гарэлкай і нават парфюмернымі вырабамі.

...Піва ў Гайнаўскім склепе было далёка не танным – разы ў тры даражэйшым за беларускае. Але смачным і чамусьці вельмі родным, хоць той гатунак я піў упершыню. Мая купюра ў 50 000 злотых імгненна ператварылася ў мноства дробных купюр, сумарная вартасць якіх хутка дасягнула крытычнай мяжы кошту квітка да Беластока.

І я накіраваўся ў Беларускі музей.

*У 1990 была адкрытая першая экспазіцыя Гайнаўскага музея помнікаў беларускай культуры. Цяпер музей мае 3 будынкі, 6 экспазіцыйных залаў, кіназалу, бібліятэку, гатэль. У музейнай экспазіцыі прадстаўлены сельскагаспадарчыя прылады працы, творы народнага мастацтва і культурныя здабыткі беларусаў у Польшчы.*

*Музей беларускай культуры ў Гайнаўцы – амаль адзінае месца ва ўсёй Польшчы, дзе ўдалося захаваць вялікую колькасць матэрыяльных помнікаў беларускай культуры. Аналагаў музею сярод музеяў іншых нацыянальных суполак Польшчы няма. Але сотні яго экспанатаў – гэта не проста звычайная выстава старажытнай гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Для мясцовых жыхароў, якія і за мяжой лічаць сябе беларусамі, нават саламяны дах – частка радзімы.*

Аднак, як вы разумееце, не помнікі беларускай культуры і не любоў да старажытнай гісторыі беларусаў Падляшша кіравалі маім паходам у музей – у ім мне трэба было начаваць.

Дырэктар музея аказаўся вельмі цікавым і свойскім чалавекам. Неяк незаўважна пад гамонку пра беларусаў Гайнаўкі, якія не спаланізаваліся, хоць і не хочуць

вучыць беларускую мову, мы спустошылі пляшку сівой вадкасці, якая нагадвала мне добра знаёмую палескую “хлебную”. І я пайшоў адпачываць.

Першую ноч за мяжой я правеў пад коўдрай. Пад дахам гасціннага беларускага музея.

Я прачнуўся ад гукаў добра знаёмай песні:

У суботу Янка ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна мыла ручнікі.
– Пакажы, Алена, броду земляку,
Дзе тут пераехаць на кані раку.

Я ляжаў нерухома і думаў: я сню, ці сапраўды аднекуль ліецца песня. Калі прапелі пра тое, што Янка “ў маркоце галавой панік”, я расплюшчыў вочы і ўбачыў Антона Доўжыка, які, відавочна, у сваю чаргу, заўважыў мяне і перастаў пець. Ён павярнуўся да Лёнькі Сохара, які паказваў на свой парэзаны палец. Абодва, не зважаючы на мяне, пачалі аб нечым спрачацца і гучна крычаць. З пальца крапалі ружова-сінія, буйныя кроплі крыві. Я ўспомніў, што яны ўжо адзін раз з нагоды парэзу пальца спрачаліся. Гэта было ў Мінску падчас моцнай п’янкі ў Бюро добрых паслуг, дзе я працаваў рэпетытарам. Тады Лёнік парэзаўся аб кансервавую бляшанку і моцна перажываў.

“Вось зараз Антон схопіць кансервавы нож і паласне сабе па далоні, каб даказаць Лёніку, што нечага баяцца такой дробнай раны і ныць з такой пустой нагоды”. – устрывожыўся я. Сапраўды, усё дзеелася так, як і *тады.* Антон узяўся за нож, і...

“Не, гэта ўсё ж сон. Я ж у Польшчы”, – прыйшла здаровая думка.

І я другі раз расплюшчыў вочы. Ужо па-сапраўднаму. Я убачыў учарашні пакойчык музейнага гатэля... Усе было нармальна. Ніякога Антона і ніякога Лёніка не было. Але раптам зноў загучала нашая любімая застольная песня:

Касіў Ясь канюшыну,
Касіў Ясь канюшыну
Паглядаў на дзяўчыну...

“А цяпер падхопіць Антон з Міколам”, ведаў я, і адразу пачуў знаёмыя, родныя галасы:

А дзяўчына жыта жала,
А дзяўчына жыта жала,
А дзяўчына жыта жала
Ды на Яся пазглядала.

У галаве канчаткова праяснілася. Я выразна ўспомніў усе мінулыя падзеі і нават памацаў кішэню з грашыма – грошы былі на месцы. Выцягнуў купюры. “Так, правільна, 35 000 злотых”. Усё нармальна... Што ж мяне так трывожаць?

Песня! Беларуская песня гучала на ўвесь пакой, на ўвесь музей, на ўсю Гайнаўку. Пра Яся, пра Станіславу, што садзіцца на ўсю лаву і пра працавітую дзяўчыну Яніну... “Як гэта можа быць. Я ж у Польшчы!” – нібы безабаронныя акунькі ў сетцы браканьера, біліся ў маёй галаве справядлівыя думкі. Можа, я здурнеў?

“Усё! Сеў на белага каня! Дапіўся...”

Я сканцэнтраваў сваю кволую волю і, не пакідаючы думак пра алкагольны дылерыум, выйшаў з памяшкання.

Было шэсць раніцы.

Песня гучала ўсё мацней. І неўзабаве стала яснай прырода гэтага гучання. Выявілася, што побач з музеем, фактычна, за сценамі пачынаўся плот, які агароджваў вялізны рынак.

Рынкі ў Гайнаўцы, як і ўва ўсёй Польшчы, пачынаюць сваю працу вельмі

рана. І тая музыка, песні – трансляваліся проста для гандляроў і пакупнікоў. Каб ім было весялей. Самае дзіўнае і радаснае было тое, што перадавалі выключна беларускія песні. У Мінску мне не даводзілася так гучна і адкрыта чуць родную песню. Ажно для гэтага трэба было прыехаць у Польшчу.

Дзякуй Богу! Ні на якога каня я не сеў.

"Тэрмінова на аўтастанцыю! На Беласток! На Супрасль, людзі чакаюць!" – панесліся цалкам здаровыя думкі, якія заклікалі да дзеянняў.

Па вялікім рахунку, прычына маёй панічнай спешкі была не ў тым, што хор застаўся без свайго любімага баса, а холад, ад якога нельга было схавацца ў маёй паркалёвай сарочцы з вельмі кароткімі рукавамі. Занадта кароткімі! Бо рукі змерзлі і не было куды іх схаваць.

Нікому не раю ехаць за мяжу без багажу. І яшчэ, чым браць цыгарэты на продаж, лепш вазьміце ў запас кашулю з даўгімі рукавамі.

## Супрасль

З Вікіпедыі:

*Супрасль (польск. Supraśl) — горад у Польшчы, у Беластоцкім павеце Падляшскага ваяводства. Насельніцтва 4526 чалавек (на 2004 год).*

*У пачатку XVI стагоддзя тут была пабудавана Супрасльская Благавешчанская царква, якая пазней была ўпрыгожаная фрэскамі і іканастасам. На працягу XVII – XVIII стст. Супрасль стаў прыкметным культурным і навуковым цэнтрам, тут знаходзілася багатая бібліятэка, друкарня. Вядомыя імёны шэрагу супрацоўнікаў друкарні другой паловы XVIII ст.: кнігадрукар Антон Чарняўскі, Адам Генрых Падэбраньскі, мастак караля Панятоўскага і прафесар жывапісу Кракаўскай акадэміі Антоні Грушэцкі, гісер Аляксей Завадскі.*

*Супрасльскі Благавешчанскі манастыр быў заснаваны ў 1498 годзе маршалам Вялікага Княства Літоўскага і ваяводам навагрудскім Аляксандрам Хадкевічам...*

У Супрасль, як ні дзіва, я дабраўся без прыгод. Відаць, іх масць ужо скончылася. Знайшоў і Благавешчанскі манастыр, дзе, як мне сказалі, заходзіцца брацкі хор з Мінску. Харыстаў не было. Яны з'ехалі ў суседнюю вёску Васількаў служыць ранішнюю літургію. Некалькі гадзін прайшло ў напружаным чаканні.

Рабіць няма чаго – пайшоў знаёміцца з горадам.

Гонар і галоўная каштоўнасць Супрасля – Благавешчанскі манастыр. Якраз тады, з рысункаў і апісанняў, толькі пачалі рэстаўрацыю старажытнага храма на тэрыторыі манастыра. Гэта адзін з трох храмаў абарончага тыпу, якія вядомыя як унікальная з'ява даўнейшай беларускай архітэктуры XV стагоддзя. Яшчэ адзін падобны – Сынкавіцкая царква, якая цяпер дзейнічае і ў якой ёсць вядомая ікона "Пантаніса", што памагае хворым на анкалогію. І трэці храм стаіць у вёсцы Мала-Мажэйкава (Шчучынскі раён). Супрасль – адзіны з гэтай троіцы, што апынуўся на тэрыторыі Польшчы.

...Але вось, нарэшце, і аўтобус.

У поўным маўчанні харысты пэўны час разглядвалі маю пакамечаную, мурзатую і здрыжэлую ад холаду постаць. Парушыла гэтую "ідылію" рэгент Ларыса:

– Так. Сапраўды – "не ждалі". Мог бы і не шукаць нас. Пяяць з намі ты ўсё роўна не будзеш. Працягвай свой больш важны занятак – п'янства!

З тым яна развярнулася і пайшла. За ёй пацягнуліся і харысты. Трыумфальнага з'яўлення перад сваімі калегамі па спевах не атрымалася. Сама крыўднае, што ніхто нават не перапытаў, якім чынам я тут аказаўся, як я пераехаў праз мяжу, як знайшоў іх... Вядомая справа – конны пешаму не таварыш. Ды і гэта праўда: сыты галоднага не разумее...

Канечне, у мясцовы гатэль мяне накіравалі. Забяспечылі, так бы мовіць, дах над галавой.

А! Мяне чакаў яшчэ адзін вясёленькі сюрпрыз: ніякіх маіх рэчаў у маёмасці групы не было. Мой заплечнік яны пакінулі ў Горадні, у кафедральным саборы. Так што пра цёплае існаванне ў Польшчы зноў заставалася толькі марыць.

Дарма я ехаў сюды!

Увечары Ларыса сабрала народ на рэпетыцыю. Мяне не пазвалі. Здавалася, увесь свет адвярнуўся ад мяне. І я – адзін на адзін з бядою. Холад і адзінота. Нікому не патрэбен! Толькі Таццяна, першая руплівіца хору, ды і наогул усяго Брацтва, падыйшла да мяне і ціха сказала:

– Антон, здымі кашулю. Я пасціраю.

Нішто на мяне так не падзейнічала, як гэтыя простыя словы. Слёзы гатовыя былі паліцца з вачэй, але я іх неяк утаймаваў.

Можна было б і падсумаваць. Зразумела, ні на якія канцэртныя выступы хору, ні на царкоўныя службы, якія суправаджаў хор, я тады не патрапіў. Ларыса не пусціла. І ў дзень нашага конкурснага выступу ў Гайнаўцы я таксама быў адпраўлены ў залу і сядзеў разам з гледачамі. Нашы выступалі вельмі хараша і атрымалі спецыяльны прыз у намінацыі “Прыхадскія хары”. Гэта быў дыплом і грашовая ўзнагарода памерам мільён злотых. Я быў вельмі рады за сваіх. Вельмі рады.

І раптам да мяне дайшло, што “мая місія ў Польшчы” ўжо скончылася. Мяне апанавала настойлівае і балючае жаданне хутчэй з’ехаць адсюль у Мінск. Туды, куды мне зусім не хацелася яшчэ некалькі дзён таму. Туды, куды мяне накіроўвалі памежнікі, а я ўпарта іх абыходзіў дзеля цяперашняга бясслаўнага фіналу.

У праграме фестывалю заставаўся яшчэ Гала-канцэрт, але гэта мяне чамусьці зусім не турбавала і не вабіла. У Беларусь! У Мінск, дадому!

Таму што *місія скончылася*. Можна, канечне, запытацца, што гэта за “місія”, пра якую я тут пляту.

Адказ ёсць і, нават, грунтоўны. Была місія, была.

Першае: я на справе прадэманстраваў моц аднаго з законаў уланізму, аднаго з найважнейшых шляхавызначальных прынцыпаў краіны Алкаголія: “Калі п’янка замінае працы – кінь яе”. Ідучы за вучэннем, я выбраў першае.

Другое: гэтае падарожжа добра падрыхтавала мяне да іншай місіі, місіі чалавека цвярозага. Гасподзь дае нам нам выпрабаванні, і часам вельмі цяжкія выпрабаванні, з тым, каб мы прыслухаліся да сябе. А значыць, да Яго.

## Дадому!

Будзе не поўнай гэтая гісторыя, калі не раскажу пра сустрэчу са сваімі рэчамі, якія за мяжу, як ужо высветлілася, зусім не ездзілі.

...Прыгарадны цягнік “Беласток – Гродна” прыбыў у Горадню а другой гадзіне ночы. Ад вакзала да Кафедральнага сабора метраў 500, так што раніцы можна было і не чакаць, тралейбус не патрэбен.

Ну, што ж... Пара шукаць прапажу. Пара знайсці свой жаданы заплечнік. Чаму жаданы? Ды таму, што, калі пашукаць Фрэйдаўскія матывы ў маіх паводзінах, то можа высветліцца сапраўдная прычына маёй трываласці і нават настырнасці, якія я выявіў на цярністым шляху за мяжу.

Магчыма, адстаўшы тады ў Гродна ад сваёй пеўчай кампаніі, менавіта ў пагоні за заплечнікам я і памкнуўся ў Польшчу?

Добрапрыстойны алкаш мяне лёгка зразумее. Але табе, цвярозы мой чытач, я патлумачу.

У маім заплечніку... Хіба ты забыўся, што з’ехала – як я тады меркаваў – ад мяне разам з заплечнікам? *Яно*, такое прываблівае, далікатна-мутнаватае, пахнучае спіртам і асновай усяго існага – хлебам? Рэчы, цёплая вопратка, нават грошы – тлен і транты. Яны не здольныя спадзвігнуць на бадзянні і пакуты, якія

перацяпеў я. Яны не каштуюць таго. А вось *яно*, што бярэ ў палон свядомасць і падсвядомасць, дыктуе волі, кіруе целам і душой... Эх шкада, што няма ўжо з намі дзядзькі Фрэйда!

Недзе каля трох гадзін ночы я быў ля храма. Як зайсці? Пагрукаў у дзверы галоўнага ўваходу. Цішыня. Абыйшоў агароджу, знайшоў яшчэ адну брамку. Ніхто не йдзе. Я ведаў, што вартаўнік мусіць быць. Таму не адступаўся. Ці не з паўгадзіны падымаў вартаўніка. І дабіўся!

Прыкладна столькі ж часу спатрэбілася, каб растлумачыць соннаму дзеду, чаго мне трэба. Прыкладна столькі часу шукалі мае рэчы. Ссумуем, і выйдзе, што недзе ў 4 гадзіны 30 хвілін заплечнік злучыўся са сваім гаспадаром.

Як толькі адбылася гэтая – для мяне сусветная па важкасці – падзея, сілы мяне раптам пакінулі. Усё напружанне апошніх дзен рэзка спала да нуля. Мэта і сэнс гэтага падарожжа, больш таго – мэта і сэнс жыцця – згубілі сваю каштоўнасць, рассыціліся ў прамежку ночы і новага гарадзенскага дня, які пераможна паўставаў у прысадзе Кафедральнага сабора.

...Я прысеў на тапчанчык царкоўнага вартаўніка, нецярпліва намацаў сабачку на замку заплечніка і раскрыў яго. І... вось яно – шчасце! Над роўным стосам зложаных адзін на аднаго розных знадабняў: кашуль, куртак, запасных нагавіц, маек – майго гардэробу, на самым версе гэтага ўжо неактуальнага скарбу ляжала цалюткая бутэлька смачнага хлебнага вырабу з не зусім прыгожай, але дастойнай і справядлівай назвай – самагонка. На дне заплечніка была знойдзена і закуска пад гэты смачны выраб. Праўда, кілбаса тыпу “Кракаўская” ужо сапсавалася – пазелянела, але сухая і шматок сала – мелі вельмі прыстойны выгляд.

Вартаўнік знайшоў шклянку і алюмініевы кубак, і я наліў па сто грамаў...

Цяпер у мяне шмат – можа гадоў з дзесяць – цвярозага жыцця. Бывае, пытаюцца: “А ці ёсць у выпіўцы хоць штосьці станоўчае? От вы кажаце: “Гарэлка, віно, піва ды і любыя спіртавыя напоі – рэчы зусім не патрэбныя чалавеку. Маўляў, гэта атрута. Гэта хваробы. Гэта злачынствы і турма. Гэта ўрэшце смерць. Але ж людзі ўсё роўна п’юць. Чаму? Дзе ж тое страшэнна прыцягальнае зерне ў алкаголю, у чым яно?”

Дык вось у тыя хвіліны, седзячы ўва ўтульным пакойчыку вартаўніка, я ведаў цану алкаголю. Я ведаў: якая ж яна смачная гэтая хлебная атрута! І як хараша яна разліваецца па стомленым целе. І як светла і лагодна становіцца ў зацкаваных мазгах і заблытаных думках!

Я не думаў аб прычынах маіх пакут у мінулым, не турбаваўся аб пакутах у будучым, я любаваўся гэтай прычынай, налітай у алюмініевы кубак вартаўніка, любіў яе і амаль абагаўляў.

Вось яна, подлая сіла спакусы: карнік прадстае перад *ахвярай* у абліччы *збаўцы*!

Іншым разам, я мяркую: а ці была б у маім жыцці гэтая польская старонка, калі б не быў я тады ў палоне п’янства?

“Што пройдзе, тое будзе мілым”, – сказаў паэт. Што ж, відаць, так яно і ёсць. Гэта настальгія? Магчыма.

Так, гэта гаворыць ува мне спакуса *атавістычная*. Але я яе ўжо не баюся, я яе нават трохі пешчу. Бо, каб прагнаць яе, дастаткова агледзецца вакол і ўспомніць: “Я жывы!”.

*P.S.* Пільны чытач, пэўна, не забыўся, што ў маім заплечніку былі яшчэ дзве літровыя бутэлькі знакамітага спірту “Раяль” пачатку 90-х. Ім было наканавана вярнуцца назад у Мінск. І там іх чакала няпростая рэалізацыя. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя...

*19 лютага – май 2013 г.*

запісы

Алесь Гібок-Гібкоўскі



...у кахання чэшуцца рукі на стварэнне,
у нянавісці – на разбурэнне...

# Навучыцца любіць

***Вытрымкі з філасофскага дзённіка***

***

Найбольш драматычным у пары каханых ёсць несупадзенне маштабаў іх душ. Бо ці шмат перальеш, да прыкладу, з вядра ў кубак?

***

Калі рызыкнуў і адчыніў-такі дзверы ў жаночую душу, то зачыніць іх потым цяжка, а то й зусім немагчыма...

***

Правадніком для большасці мужчын і ў рай, і ў пекла (часцей другое) ужо не адно тысячагоддзе штатна і паспяхова працуе прыгожы пол.

***

У каханні выбіраюць заўсёды не мужчыны, а жанчыны,

як гэта ні сумна прызнаць “моцнаму полу”. Прычым нават тады, калі мужчыны набываюць іх – закаваных у ланцугі – на нявольнічым рынку.

***

Мезальянс – рэдка можа быць шчаслівым, бо ёсць парушэннем законаў раўнавагі духоўнай наасферы. І не дзіва – бо больш сталы партнёр займае ў такім выпадку законнае месца маладога. Шчасце тут магчымае толькі пры поўным растварэнні аднаго ў другім...

***

Немаўля можа нават памерці ад недахопу ласкі і абдымкаў. У нейкім сэнсе “памірае” сёння без гэтага і большасць дарослых. Гэта – “амарфізацыя блізкасці”.

***

Шукаем у жанчынах багіню, але часцей за ўсё знаходзім неспатольную пушкінскую старую з “Казкі пра рыбака і рыбку”.

***

У добрай сям’і муж і жонка нават калі і маўчаць, то ў гэты час шмат пра што “гавораць” адно аднаму.

***

Подласць і здраду часцей за ўсё можна чакаць ад людзей маладушных, празмерна пакорлівых і выканальных.

***

Без мужчыны жанчына ніколі не вызначыць духоўную мэту свайго жыцця, а мужчына без жанчыны – зямную.

***

Мужчына становіцца моцным ад веры жанчыны ў яго і катастрафічна слабее (і можа нават і загінуць) ад яе нявер’я.

***

Нейкі малады хлопец каля крамы карміў бяздомную котку толькі што набытай сасіскай. Гэта, відаць, і ёсць найпершая прыкмета добрага сэрца – жаданне накарміць галоднага...

***

Мы, наша пакаленне, яшчэ доўга, а магчыма, і да самага “фінішу”, будзем хадзіць, як той пушкінскі вучоны кот, “по цепи кругом” вакол разлапістага дрэва расійскай культуры. Аж пакуль не вырасце новая генерацыя беларусаў. Праўда, няма ніякай гарантыі, што ў выніку яна выбера сваю нацыянальную культуру.

***

Леў Гумілёў назваў духоўныя сілы, якія працуюць на вынішчэнне роду чалавечага, Антысістэмай, у процілегласць Сістэме – парадыгме жыцця, закладзенага Госпадам. Час Сістэмы, відаць, ужо мінуў, сёння мы якраз і жывём у час Антысістэмы...

***

Жанчына, якая кахае насамрэч, знойдзе апраўданне амаль усялякаму граху. Прычым, не толькі свайму...

***

Удача і багацце дастаюцца людзям найперш дзякуючы не розуму, а хітрасці і вывёртлівасці.

***

Хлусня – адзін з інструментаў улады над людзьмі – спосаб маніпуляваць іхняй воляй.

***

Дасціпнасць – не спосаб рассмяшыць. Гэта лад інтэлекту, а не розуму.

***

Тыя, хто рупліва ствараюць вакол сябе свет паўпраўды і абапіраюцца выключна на яго, не разумеюць, што ён вельмі ілюзорны і ў кожную хвіліну нейкая ягоная падпорка можа надламіцца, і тады можа абрынуцца і ўвесь “дом” – само жыццё.

***

Адзін з самых вялікіх талентаў чалавека – умець убачыць і ацаніць талент іншы.

***

Усё часцей стала сніцца родная хата, якой ужо даўно няма... Быццам стаіць кінутая, адзінокая... Відаць, ёй балюча там, у іншым вымярэнні....

***

З прачытанага: “Мы можам доўга пераконваць жанчыну ў нейкіх сваіх поглядах, абгрунтоўваючы сваю пазіцыю пры дапамозе забойчых фактаў і разлікаў, прыводзіць аргументы і доказы, каб урэшце заўважыць, што ёй непрыемны нават сам гук вашага голасу”.

Што цікава, і пасля гэтага мы зацята працягваем пераконваць...

***

Жаданне любіць Гасподзь дае нам усім пры нараджэнні, але вось Дар любіць – далёка не кожнаму.

***

Толькі паэзія здольная “разагнаць” нашую душу на самыя высокія духоўныя хуткасці, а значыць, вывесці яе на больш высокую духоўную арбіту.

***

Нашыя пачуцці да чалавека – падмурак адносінаў з ім. А без падмурка дом не пабудуеш.

***

Аднойчы са здзіўленнем разумееш – дабро ніколі не бывае ліслівым, яно ж ніколі не запабягае...

***

Прыгажосць і дабрыня ў нас не ад таго, што мы ведаем, а ад таго, у што верым.

***

Чалавечая душа, як ні дзіўна, у 99% падобная на ягоны твар. Таму, каб убачыць сваю душу, варта ўсяго толькі зазірнуць у люстэрка. Што да 1% выключэнняў, то гэта імітатары-геніі, як правіла, асуджаныя стаць геніяльнымі артыстамі.

***

Перачытаў "Міфы старажытнага свету" К. Бекера. Сумна, але гісторыя чалавецтва – гэта найперш не гісторыя гераізму, а гісторыя здрады...

***

І ўсё ж прадуктыўней быць "шклянкай напалову поўнай", чым "напалову пустой".

***

Мы часта блытаем дробязі і нюансы. Але першыя – галоўная зброя нячыстай сілы, а другія – Вялікі Дар Божы, каб мы маглі спасцігнуць агульнае ва ўсім яго хараstве...

***

Нельга замбіраваць на дабро. Вынік будзе той жа, што і пры замбіраванні на зло.

***

Спыніць у сабе каханне – амаль тое ж, што спыніць у сабе кругаварот унутранага сонца. А там, дзе няма сонца, – памірае жыццё.

***

Так званыя "справы" часам захінаюць людзей ад сапраўднай любові – часта адзінай у жыцці.

***

Самыя небяспечныя не тыя, хто адкрыта адмаўляе духоўныя і Боскія законы, а імітатары прыхільнасці да іх. Менавіта яны, як правіла, прэтэндуюць у соцыуме на ключавыя месцы. Гэта, бадай што, адна з галоўных прычын стагнацыі нашага грамадства.

***

Гранічная бескампраміснасць – як правіла, тыповая рыса або праведнікаў, або дурняў.

***

У кожнага чалавека ёсць свой "пінкод" душы. Проста ў некаторых ён толькі "двузначны", у лепшым выпадку – трохзначны, і яго лёгка падабраць...

***

Зласлівасць (злосць) у чалавеку – найперш прыкмета яго драбнадушша.

***

У жыцці не існуе безвыходных лабірынтаў – яны ёсць толькі ў нашай душы.

***

У кахання чэшуцца рукі на стварэнне, у нянавісці – на разбурэнне....

***

З прачытанага: “Адзінота сярод людзей нагадвае заплыў на плыце праз акіян – вады шмат, а напіцца нельга...”

Напіцца то можна, але ж абавязкова атруцішся...

***

Усе нашыя жыццёвыя дасягненні (кар’ерныя, матэрыяльныя, у немалой ступені і творчыя) маюць сэнс, калі ёсць каму іх аддаць. Ці хаця б прысвяціць...

***

Сёння ўсё больш відавочна: будучыня чалавецтва не за індывідуалізаванымі еўрапеідамі, а за “роевымі” народамі Усходу.

***

Веды кшталту “мужчына павінен” ці “жанчына павінна” ў адносінах сведчаць пра рэзкую абмежаванасць іх носьбіта, бо, безумоўна, вельмі небяспечныя для такіх адносін.

***

Мы нярэдка прагнем дасягнуць вынікаў у піяры сваёй творчасці нават тады, калі добра разумеем, што людзі, якіх мы да гэтага далучаем, нічога ў нашай творчасці не разумеюць.

***

Называцца Асобай, напэўна, мае права найперш той, хто здольны хоць у нечым пераадольваць жорсткую наканаванасць (матрыцу) лёсу.

***

Па ўсім відаць, цягнік эвалюцыі няўзнак адкваліў нам – беларусам – нейкі важны функцыянальны духоўны орган. І сёння з такой вось нашай “інваліднасцю” неяк трэба навучыцца жыць, прымірыцца з ёю. Бо відавочна, што страчанае нам ужо ніколі не вярнуць нават самымі дасканалымі “хірургічнымі аперацыямі”.

***

Чытаеш успаміны таго ці іншага нашага вядомага творцы і з вялікім сумам разумееш, якая магутная няўхільная цэнтрабежная сіла заўсёды разрывала цела нашага нацыянальнага адзінства.

***

На вуліцы ўбачыў бамжа, які трымаў у руках пакет з выявай гары і надпісам “Шамбала”. А гэта ж – вядомая на Усходзе таямнічая краіна гармоніі і сапраўднага шчасця для зямнога чалавека... Як жа ўсё знітавана ў свеце!..

***

З прачытанага: “У лукавую душу прамудрасць зайсці не можа”. А нас ужо амаль 20 гадоў пераконваюць у іншым!

***

Чалавеку вельмі цяжка, а часам проста невыносна, змірыцца з думкай, што без Бога ён нішто! Таму большасць і ставіцца так стрымана да царквы і веры.

***

Чалавек без Бога – як карабель без лоцмана, што праходзіць вузкі небяспечны праліў. У выніку ён абавязкова наткнецца на рыфы і разаб'ецца.

***

Як часам здзіўляе чалавек, які, будучы напоўненым уласнай веліччу і пыхай, не "заўважае" добра знаёмага простага смяротнага дзе-небудзь на вуліцы ці ў грамадскім месцы. Наколькі ж ён самога сябе абкрадвае...

***

Калі лёс крытычна пазбаўляе чалавека адразу і матэрыяльных сродкаў, і любові, то відавочна, што ён сур'ёзна выпрабоўвае яго найперш на духоўную трываласць.

***

Грошы – ці не самы спрыяльны канал для інфернальнай інфармацыі-энергіі ў нашыя душы.

***

Гульня з лёсам – заўсёды гульня з інфернальным. Бо абыграць "рагатага" (як гэта ўдала зрабіў герой Караткевіча, што абыграў яго сваячку – смерць) у рэальным жыцці яшчэ нікому не ўдавалася!

***

Жанчына часта і не падазрае, што калі яна засталася няскоранай, то гэта яе найвялікшая драма.

***

Калі засяроджваемся толькі на надзённым, то бачым толькі адну плоскасць жыцця, і губляем адчуванне яго аб'ёмнасці.

***

Леў Талстой сцвярджаў, што не бывае перакананняў больш цвёрдых, чым заснаваныя на выгадзе...

Дык ці не адтуль сёння ў "вялікім" рускім народзе такая непераадольная вера ў грошы...

***

Для нас, мужчын, усё ў жыцці пачынаецца і завяршаецца ў жанчыне. Яна нараджае нас на свет, у ёй мы і паміраем. Не тады, калі фізічна, а тады, калі яна ў нейкі момант не выбера нас, перастане кахаць...

***

З кожным годам усё цяжэй сустракаеш яснасць і празрыстасць думкі ў напісаным сучаснікамі... Часта за ўзор падаецца клінічны вэрхал душы, які зазвычай вылучаецца на самыя высокія літпрэміі.

Што ж, у кожнага часу свае ідэалы...

***

У свой час Беларусь, як гэта робіць яблыня перад гібеллю, дала фантастычны ўраджай, “выстраліўшы” Быкавым, Караткевічам, Мележам... Але ў выніку гэта ўсё ж ці выратавала сітуацыю?..

***

За знешняй “праведнасцю” нярэдка стаіць звычайнае бяздушша. Так лягчэй яго рэалізоўваць.

***

Старанна штудзіруем падручнікі, кнігі, інструкцыі, як атрымаць даброты, славу ў жыцці... А нам бы ўсяго толькі навучыцца кожнаму несці свой крыж...

***

Паэзія – сакральнае. А такога не можа быць шмат апрыёры і па вызначэнні. Вось таму нават у вялікіх паэтаў з аб’ёмнай спадчынай нямала твораў, якія да паэзіі маюць мала дачынення.

***

Чалавек, які па-сапраўднаму кахае, мае імунітэт ад навакольных спакусаў.

***

Кажуць, што чалавек прыходзіць у гэты свет, каб зрабіць свайго адзінага шчаслівым. Праўда, ёсць невялічкая праблема – як яго знайсці?

***

Перад Богам мы адказваем не за ўсе грахі на свеце, а толькі за тыя, якія маглі асабіста прадухіліць.

***

Мужчыну саступіць у спрэчцы з жанчынай – праявіць сваю слабасць, жанчыне зрабіць тое ж у канфлікце з ім – праявіць сілу.

***

Некаторыя мёртвыя і сёння працягваюць жыць сярод нас (у народзе іх называюць “нежыці”), і яны часам жывейшыя за многіх жывых. Так што прымаўка савецкіх часоў пра жывучага Леніна зусім не дэкларатыўная.

***

У маралі кампрамісаў няма – ўсе яны толькі ад лукавага.

***

Прыходзім у свет, каб навучыцца любіць, але чамусьці спасцігаем найлепш навуку нянавісці.

Ігар Набытовіч



...кожны чалавек-акцёр
мае сваё прызначэнне,
час выхаду на сцэну
і час вяртання за кулісы...

# Мальфар беларускай драматургіі

***Агляд творчасці Сяргея Кавалёва***

*Пераклад з украінскай мовы – Анастасіі ЖУРЫХІНАЙ-РУСЕЦКАЙ.*

У кожнага народа ёсць свае незвычайныя творцы – тыя, што будуюць культурную прастору, якая мае карані ў мінулым, у нацыянальнай традыцыі, і пры гэтым кронамі сваіх твораў дасягае пошукаў сучаснасці і вышынь будучыні. Яны зачароўваюць дзіўным уменнем ствараць са слова высокую паэзію, драму або прозу, а ў рэальны зямны свет прыўносяць цуд магічных, сакральна-міфалагічных, фантастычных або іншых светаў і прымушаюць сілай мастацкай моцы свайго незвычайнага слова паверыць у рэальнасць створаных імі мастацкіх універсумаў.

Тэатр і ёсць такой прасторай, у якой драматург сваім уяўленнем і словам, а рэжысёр і акцёры талентам сваёй ігры ствараюць «іншы свет» (Наталена Каралёва), свет тэатральнага мастацтва. У гуцульскіх Карпатах тых, хто ўмее замаўляць прыроду, «уваходзіць» у міфалагічна-рытуальныя светы, уплываць на іх сілай свайго незвычайнага дару, называюць *мальфарамі*, а тых, хто ведае мінулае і будучыню – *віжлунамі*. Сяргея Кавалёва можна назваць мальфарам свету беларускай драматургіі, чараўніком беларускага слова, і, адначасова, віжлуном шматмоўнай беларускай рэнесанснай літаратуры XVI стагоддзя і сучаснай беларускай

літаратуры, паколькі ён з’яўляецца доктарам філалагічных навук, прафесарам-літаратуразнаўцам універсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне.

Адметнасцю беларускай драматургіі апошняй дэкады ХХ – пачатку ХХІ стагоддзя стала тое, што ў яе прыйшло новае пакаленне аўтараў, якія адначасова з’яўляюцца літаратуразнаўцамі і даследчыкамі як беларускай, так і іншых еўрапейскіх літаратур. Сярод іх – Пятро Васючэнка, Ігар Сідарук, Сяргей Кавалёў. Некаторыя з іх пішуць п’есы і для дарослага гледача, і для дзяцей (Ігар Сідарук, Максім Клімковіч, Міраслаў Адамчык).

Сяргей Кавалёў з’яўляецца адным з выбітных прадстаўнікоў гэтай генерацыі. Пры гэтым можна сцвярджаць, што ён усё часцей выступае – праз пераклады ягонай драматургіі (а гэта больш за два дзясяткі разнажанравых твораў) на іншыя мовы – галоўным рэпрэзентантам сучаснай беларускай драматургіі ў еўрапейскіх краінах.

Сяргей Кавалёў нарадзіўся ў Магілёве ў 1963 годзе. Ягонае ўваходжанне ў свет тэатра пачалося ва ўзросце 4-5 гадоў, калі бацькі прывялі яго на пастаноўку казкі Яўгена Шварца. З таго часу магічны свет тэатра, чароўнай прасторы, у якой жыццё ідзе па сваіх законах, захапілі ўяўленне беларускага хлопца. Падобным чынам, за два стагоддзі да яго, у Парыжы дзядуля прыводзіў у тэатр свайго ўнука, які з захапленнем назіраў за тым, што адбывалася на сцэне тэатра. Хлопчыка звалі Жан Батыст Паклен. Яго таксама паланіла сцэна, і тэатральны свет стаўся ягоным лёсам. Так нарадзіўся неўміручы драматург і акцёр Жан Батыст Мальер.

Жаданне юнака пісаць драматычныя творы атрымала падтрымку пісьменніка Уладзіміра Ягоўдзіка, які ў сярэдзіне 80-х гадоў супрацоўнічаў з лялечным тэатрам у Брэсце. Менавіта тады Сяргей даведаўся пра тое, наколькі беларускім тэатрам не хапае беларускага рэпертуару. Пад уплывам гэтага была напісана першая ягоная п’еса – “Драўляны Рыцар” (1987). Аднак да таго былі і паэтычныя спробы, і казкі (не толькі для дзяцей), якія выйшлі асобным зборнікам “Мэва” [1]. Частка казак з гэтага зборніка пазней была перароблена ў п’есы для дзяцей: “Чарнакніжнік” (1995), “Пясчаны замак” (2006).

У канцы 1980-х – на хвалі беларускага нацыянальнага адраджэння – С. Кавалёў стаўся адным са стваральнікаў і актыўным удзельнікам мастацкага аб’яднання “Тутэйшыя”. Літаратурна-крытычныя артыкулы, у якіх выкладзены погляд на сучасную беларускую літаратуру, выйшлі дзвюма асобнымі кнігамі: “Як пакахаць ружу” [2] і “Партрэт шкла” [3].

Пасля “Драўлянага Рыцара” з’явіліся і іншыя п’есы для дзяцей: “Хохлік” (1992), “Ціліпка і Ведзьма” (1993), “Братка Асёл” – “Шлях да Бэтлеему” (1997), “Пацалунак ночы” (2003). Пад непасрэдным уплывам вершаў-казак Уладзіміра Караткевіча С. Кавалёў напісаў п’есы для дзяцей “Заяц варыць піва” (1991) і “Жабкі і Чарапашка” (1991). На аснове казкі Пятра Васючэнкі з’явілася супольная з ім п’еса Сяргея Кавалёва “Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага і Заблоцкага” (1990), а паводле вершаў Кармэн Барнос дэ Гаштольд – монап’еса “Маленькі Анёлак” (1992). Канчаткова казачная драматургія С. Кавалёва склалася ў кнігу “Шлях да Бэтлеему” [4].

На пачатку 1990-х гадоў у маладога драматурга ўзнікла ідэя своеасаблівага “герменеўтычнага” праекта, які нарадзіўся з адчування непаўнаты беларускай літаратуры XVI стагоддзя, бо ў ёй, па ягоным меркаванні, няма драматычных твораў узроўню рыцарскіх раманаў “Бава” і “Трышчан”, са шкадавання, што ў беларускай літаратуры XVIII стагоддзя няма п’есы, роўнай мемуарам Саламеі Пільштыновай-Русецкай, а ў XIX стагоддзі беларуская міфалогія і фальклор не знайшлі ў драматургіі такога адлюстравання, як у празаічным творы Яна Баршчэўскага “Шляхціц Завальня”. Нортрап Фрай, адзін з самых вядомых літаратуразнаўцаў XX стагоддзя, падкрэсліваў, што “калі спытаем, што натхняе паэта, заўжды знойдзем два адказы: пэўны выпадак, досвед, падзея могуць стацца імпульсам

да напісання. Але жаданне пісаць можа ўзнікнуць толькі дзякуючы папярэднім кантактам з літаратурай, і фармальная інспірацыя, паэтычная структура, якая крышталізуецца вакол новай падзеі, можа чэрпацца выключна з іншых вершаў. З гэтага вынікае, што кожны новы верш адначасова з'яўляецца новым унікальным творам і пераасэнсаваннем вядомых літаратурных канвенцый, у іншым выпадку ён увогуле не будзе лічыцца літаратурай" [5].

Сам драматург адзначае, што назваўшы свой творчы праект "герменеўтычным", ён хацеў падкрэсліць, што "герменеўтычная п'еса, як і навуковае даследаванне, набліжае нас да разумення літаратурнага твора, да прачытання актуальных сэнсаў, закладзеных у гэтым творы" [6]. Такім чынам, на перасячэнні драматургічнай творчасці Сяргея Кавалёва і ягоных навуковых пошукаў як літаратуразнаўцы, рэалізаваны адмысловы праект мастацкага "дапаўнення" прасторы "няпоўнай літаратуры" (Дзмітрый Чыжэўскі) мінулых стагоддзяў драматургіяй, якая, з аднаго боку, мацуецца на творах і творчасці іншых аўтараў мінулых стагоддзяў, а з іншага – з'яўляецца арыгінальным працягам і пашырэннем – з будучыні ў мінулае – гэтай літаратурнай прасторы сучаснымі мастацкімі сродкамі і стылістыкай.

Такі падыход у сусветнай літаратуры мае даўнюю мастацкую традыцыю – ад "Акіяну апавяданняў" Самадэвы (XI стагоддзе), трансфармаванай з "Вялікага аповеду" Гунадх'і, сярэднявечных раманаў пра рыцараў караля Артура (ад Вальфрама фон Эшэнбаха і Крэцьена дэ Труа да "Смерці Артура" Томаса Мэлары) і да "Андрамахі", "Іфігеніі", "Федры" Жана Расіна. Украінскі паэт і, адначасова, вядомы літаратуразнаўца і перакладчык Юрый Клен (Освальд Бургардт) неяк пісаў, што "ў такога вялікага паэта, як Уільям Шэкспір, амаль усе сюжэты былі запазычаны з іншых літаратурных крыніц: хронік, мастацкіх твораў папярэдніх стагоддзяў. Шэкспір амаль не змяняў змест, але апрацоўваў дэталі ўласна знойдзеных рашэнняў драматычных калізій, што дало яму магчымасць пакінуць пасля сябе творы неўміручай вартасці. Знакаміты кампазітар Вагнер у сваіх музычна-драматычных творах апрацоўваў народныя паданні, старадаўнія аповесці ці легенды і ўкладваў у іх сучасныя ідэі. У "Нібелунгах" гэта, напрыклад, ідэя праклятцця, што вісіць над золатам. Такім чынам, сюжэт набываў сучаснасць, актуальнасць, пачынаў ззяць новымі гранямі" [7].

Творы герменеўтычнага праекта С. Кавалёва падзяляюцца на дзве групы. Першая з іх, па азначэнні самога драматурга, мае прыкметы "інфернальнасці", дзе сустрэча з сакральным, інфернальным, міфалагічным, легендарным з'яўляецца прасторай для даследавання мастака. Сюды можна аднесці п'есы "Звар'яцелы Альберт" (1990), "Стомлены д'ябал" (1997), "Тарас на Парнасе" (2000) і "Легенда пра Машэку" – "Замак" (2003). Другая група, па тым жа азначэнні самога аўтара – "феміністычная", у якой матыў кахання, "навука кахання" становяцца галоўнымі: "Трышчан ды Іжота" – "Трышчан, або Блазны на пахаванні" (1994), "Францішка, або Навука кахання" (1999), "Балада пра Бландою" (1995), "Чатыры гісторыі Саламеі" (1996, 2000). Вобраз жанчыны тут робіцца цэнтральным. Гэта незвычайна моцныя характары, якія пераадольваюць жыццёвыя цяжкасці, шукаюць каханне і змагаюцца за яго, хоць не заўсёды выходзяць з гэтай барацьбы пераможцамі.

Драматург пачаў працаваць і над двума іншымі цыкламі твораў. Адзін з іх умоўна можна было б, услед за самім драматургам, назваць цыклам "магічнага тэатра". Як прыклад – п'есы "Сёстры Псіхеі" (2000) і "Пан Твардоўскі" (2007). А п'есы "Вяртанне Галадара" (2005) і "Інтымны дзённік" (2007) маюць шмат прыкмет "new writing" – "новай драмы", што асімптатычна набліжаецца да дакументальнай літаратуры, якая ў сучаснай культуры ўсё часцей выходзіць на першыя ролі.

Сяргей Кавалёў з'яўляецца таксама аўтарам лібрэта оперы кампазітара Яна Давіда Голанда "Чужое багацце нікому не служыць" (2008. Опера ўпершыню была

пастаўлена ў 1785 годзе) і мастацкай трансфармацыі крывіцкага касмаганічнага апокрыфа "Дзеці багоў" (2009).

Сёння ўжо пра ягоную творчасць пішуць навуковыя артыкулы, кнігі, дысертацыі. Адным са своеасаблівых этапных вынікаў творчага шляху С. Кавалёва стаўся зборнік даследаванняў, рэцэнзій, артыкулаў пра ягоную драматургію, інтэрв'ю і размоў з ім – "Паміж Беларуссю і Польшчай. Драматургія Сяргея Кавалёва" [8].

Сяргей Кавалёў сваімі драматычнымі творамі стварыў уласны тэатральны свет. Цяпер у ім добра заўважная "герменеўтычная" перспектыва, накіраваная ў мінулае беларускай і еўрапейскай літаратур, у легенды і гістарычныя паданні. Казачная прастора ягонага тэатра таксама ўжо сталася значным творчым плёнам – аж да ўзбагачэння сучаснымі сродкамі магчымасцяў казкі. Сёння вельмі актуальна развіццё і пашырэнне гэтай тэатральнай прасторы ў "магічным тэатры", са зваротам, у прыватнасці, у дагістарычную свядомасць і тэатральны дыялог з сучасным светам – светам, дзе беларуская праблематыка становіцца неад'емнай часткай агульначалавечага быцця.

* * *

Амаль усе казкі-п'есы С. Кавалёва маюць глыбінны падтэкст – гэта асаблівы тып прыпавесцей, казак-парабал. Ужо ў першай ягонай п'есе-казцы "Драўляны Рыцар" паўстаюць адвечныя праблемы вернасці, сяброўства, здрады і вераломства. Герой, які даў назву гэтаму твору, без сумнення мае прыкметы Сервантаўскага Дон Кіхота. Подобныя агульначалавечыя праблемы характэрны і для казкі "Хохлік". Асноўныя сюжэтныя лініі казкі "Піліпка і Ведзьма" будуць зразумелыя ўкраінскаму гледачу (па казцы пра Цялесіка), паколькі ўкраінскі і беларускі фальклор вельмі блізкія адзін да аднаго. Гэты прыклад пацвярджае тое, што этнаментальныя, моўныя характарыстыкі ўкраінцаў і беларусаў з'яўляюцца найбольш блізкімі сярод усіх іншых славянскіх народаў.

Калі ў казках "Пясчаны замак" і "Заяц варыць піва" можна шукаць водгукі філасофіі таталітарнага грамадства і мастацкі шлях пераадолення гэтага таталітарнага мінулага, то ў "Шляху да Бэтлеему" сродкамі паэтыкі казкі-п'есы паказана спроба пошукаў дарогі да Храма, да Бога (падобную філасофскую перспектыву мае і казка "Маленькі Анёлак").

З пошуку драматургам мастацкага рашэння праблем выхаду ў сучаснасць паўстае п'еса для дзяцей "Пацалунак ночы" – архіважная спроба размовы пра смерць у свеце дзяцінства.

Драматычныя творы С. Кавалёва, якія склалі кнігі "Стомлены д'ябал" і "Навука кахання", паўжартам названы самім аўтарам "інфернальным" і "феміністычным" падцыкламі "герменеўтычнага" цыкла. Такі падзел, хоць і не цалкам адлюстроўвае адметнасць паэтыкі, ідэйна-эстэтычныя і аксіялагічныя вымярэнні гэтых твораў, аднак можа быць прыняты для тэрміналагічнага акрэслення мастацкага пошуку творцы.

Творы "феміністычнага" падцыкла драматургіі Сяргея Кавалёва разгортваюцца ў асаблівую "гістарычную" перспектыву – пачынаючы ад "Балады пра Бландою" і "Трышчана ды Іжоты", у якіх падзеі адбываюцца ў выдуманай Антоніі і геаграфічна рэальнай, але перанесенай у паўтаратысячагадовае легендарнае мінулае Брытаніі, да рэалій XVIII стагоддзя ў "Навуцы кахання" і "Чатырох гісторыях Саламеі".

"Балада пра Бландою" напісана на аснове старабеларускага рыцарскага рамана "Бава". Падзеі ў творы адбываюцца ў выдуманым княстве Антоніі. Княгіня Бландоя – маладая жонка князя Антоніі Гвідона, у "Пралогу" моліцца, выказваючы ўсе свае патаемныя мары і памкненні: "Божа ласкавы, злітуйся нада мной! Перамяні маё жыццё альбо дазволь мне памерці. Я стамілася ад адзіноты, ад холаду, ад пустэчы навокал [...]. Ачысці маё сэрца ад нянавісці і напоўні яго любоўю..." [9]. У гэтай малітве іманентна схаваны ўсе пачуцці, якія вядуць да трагічнай

развязкі драматычнага дзеяння. Княгіню аддалі замуж за нашмат старэйшага за яе і нялюбага князя Гвідона. Іх маленькага сына Баву Гвідон аддаў на выхаванне свайму стрыечнаму брату Сімбалду, бо так ён атрымае “суровае, мужчынскае выхаванне і вырасце слаўным рыцарам”, а Бландоя “можа толькі яго распесціць, зрабіць празмерна чуллівым” [10].

Бландоя, якая кахала калісь Дадона, князя суседняй дзяржавы – Маган-ца, падгаворвае Гвідона адправіцца на паляванне і паведамляе пра гэта Дадону. Дадон, які падступна забівае Гвідона, становіцца ўладаром Антоніі і жэніцца з Бландояй. Аднак здрада і шлюб з Дадонам не прыносяць ёй шчасця. Сын, якога яна ратуе ад смерці, вырасце ейным ворагам. Для Дадона галоўнае – не каханне Бландоі, а ўлада. І калі праз дзесяцігоддзі Антонія будзе вызвалена Бавою, Дадон павядзе сябе не як рыцар, а як апошні баязлівец, будзе вымольваць жыццё ў пераможцаў: “Я не вінаваты! Я не хачу паміраць! Гэта ўсё яна, Бландоя! Яна забіла свайго мужа і хацела атруціць сына! Я толькі выконваў яе жаданні!...” [11]. Маральна-этычны канфлікт у трагедыі разгортваецца паміж шлюбным абавязкам жыцця з нялюбым мужам і каханнем да ягонага ворага – уладара суседняй дзяржавы, між любоўю маці да сына і замешаным на крыві і здрадзе каханнем да мужа, праз якое Бландоя павінна была б атруціць сваё дзіця. Каб ўратаваць душу Бавы ад граху забойства маці, яна сама выпівае ў вязніцы атруту. Сярод падкопаў, маральных падзенняў і здрад, подласці і нянавісці, толькі сэрца Бландоі, няхай атручанае шлюбнай здрадай і смерцю Гвідона, застанецца чыстым і высакародным.

У інтэртэкстуальнай перспектыве “Балада пра Бландою” несумненна пераклікаецца з “Гамлетам” Уільяма Шэкспіра. Дастаткова адкрытай алюзіяй на такую паралель з’яўляецца прывід князя Гвідона, які прыходзіць да Бландоі. Аднак цэнтральнай постаццю трагедыі С. Кавалёва, якая праецыруецца на вобраз Гамлета, становіцца галоўная гераіня – Бландоя, якая нясе пакаранне за здраду і забойства мужа, за распусту. Але яна ж, адначасова, становіцца сімвалам гамлетаўскай нязломнасці і трываласці пад ударамі Лёсу.

У п’есе “Трышчан ды Іжота” аўтар, выкарыстоўваючы адзін з асноўных мастацкіх барочных прыёмаў канчэтызму – цеснага спалучэння і перапляцення ў творы сур’ёзнага і ўзнёслага з гумарыстычным і жартаўлівым, дасягае асаблівага сцэнічнага і мастацкага эфекту: трагедыя тут мяжуе з камедыяй, аднак мастацкая прастора хоць і балансуе на мяжы трагікамедыі, у яе не ператвараецца.

Паміж двума драматургічнымі жанрамі (камедыі / трагедыі) у гэтай прасторы захоўваецца пэўная дыстанцыя, якая канструюецца ў розных плоскасцях сіметрыяй дзвюх пар акцёраў (акцёра / акцёркі) – драматург і акцёр Францішак (ён жа Трышчан) і Камедыянтка (яна ж служка Брагіня) ды Францішка (яна ж Іжота) і Трагік (ён жа кароль Марка). Пазначаны сярод дзейных асоб яшчэ адзін акцёр – Незнаёмы, гэта, насамрэч, пераапрануты кароль Марка (ён з’яўляецца медыятарам светаў камедыі і трагедыі). Яшчэ адным сродкам дыстанцыявання гэтых жанравых прастораў з’яўляецца іх існаванне ў розныя часы: пара “камедыянтаў” – нашы сучаснікі, “трагікі” апранутыя ў вопратку XVII-XVIII стагоддзяў.

Адна з важных мастацкіх дэталяў, якая адрознівае каханне Трышчана ад Іжоты – гэта прырода іх кахання: Іжота палюбіла Трышчана яшчэ да таго, як выпіла з Трышчанам на караблі чароўнага напою. Трышчанава ж каханне выклікана толькі чароўным напоем. І таму ён перастае кахаць Іжоту (і забывае, хто яна такая), калі выпівае новы чароўны напой, які павінен забраць выкліканае каханне. Каханне ж Іжоты трывае і далей. Каханне Іжоты да Трышчана і каханне-нянавісць Марка да Іжоты – трагедыйныя (у адпаведнасці з трагедыйнай структурай іх роляў), каханне Трышчана да Іжоты і Брагіні да Трышчана мае прыкметы кахання з камедыі дэль артэ (як адлюстраванне камедыйнай асновы іх роляў).

Гульня ў шахматы, якая ў “Трышчане ды Іжоце” С. Кавалёва таксама мае

функцыю канструявання дзвюх прастораў – камедыі / трагедыі, ужо ў XVI стагоддзі (калі з’яўляецца беларускі “Трышчан”) становіцца сярод беларускай шляхты звыклай з’явай: калі Трышчан прыбыў да караля Самсіжа (Лазансіза) разам з Жанібрай (Гвеніверай) ды Іжотай (Ізольдай), Самсіж зайшоў у шацёр і «зостал оные пание в шахи играючи, которые шахи были крышталовы велми пекны. (...) И рекл корол: “Играймо ж в шахи о нее (на Ізольду – *І.Н.*) и о третюю часть моего кролевства!” И Трышчан рекъ: “На што бы ми не было моей воли, рекъ ми еси, на то кгвалту не чынит. А я не знаю, як в шахи играют: я поставлю попа (пешку – *І.Н.*) в старшом местцу, а иншыи шахи где маемъ поставити?”» [12].

Калі Трышчан у камедыйнай прасторы спачатку прапануе служцы Брагіне: “Давай, га?”, “Ну адзін раз, Брагінечка”, а яна кажа, каб ён гэта зрабіў з Іжотай (Трышчан адмаўляецца, бо Іжота “пры гэтым вершы чытае. А мяне ад вершаў ванітуе. Лепш ужо сам-насам”) [13], камічнасць сітуацыі заключаецца ў тым, што рэцыпіент не адразу разумее, што гаворка ідзе пра прапанову згуляць у шахматы. Сцэна аднаасобнай гульні караля Марка з уяўным Трышчанам у шахматы адкрывае трагічную прастору, бо разважанні караля пры гэтым становяцца драматычнай споведдзю чалавека, хоць і надзеленага ўладай, але вельмі нешчаслівага і самотнага. Пры гэтым раскрываецца гісторыя нянавісці Марка да Трышчана (гэтая нянавісць таксама ўзнікла на мяжы спробы змены роляў камедыі / трагедыі, калі Марка (ужо маючы намер абвясціць Трышчана сваім пераемнікам) падслухоўвае размову прыдворных: “Калі старая малпа [Марка] памрэ, у нас будзе найлепшы кароль у свеце [Трышчан]” – “Няхай жыве. Мы зробім Трышчана каралём, а Марка застанецца пры ім блазнам”) [14]. Трагедыйнае вымярэнне гульні, адразу ж пасля нечаканага з’яўлення Трышчана (якога ўсе ўжо лічаць загінуўшым), пераходзіць у прастору камедыйную: Трышчан, пакінуўшы чакаць за дзвярыма Іжоту, сядае за гульню ў шахматы з каралём.

Ігра дзвюх груп акцёраў у прасторах камедыі / трагедыі працягваецца да заключнай сцэны, і кожная з іх атрымлівае характэрную жанравую развязку ў эпілогу, але з “прысмакам” супрацьлеглай жанравай структуры: Трышчан / Францішак намагаецца ўспомніць, “як звалі тую каралеву, якая мела нялюбага мужа і марыла вандраваць усё жыццё са сваім каханым рыцарам”, а Трагік, нягледзячы на тое, што п’еса ўжо скончылася трагічнай смерцю Іжоты, імкнецца “хоць адзін раз, на адным прадстаўленні” скончыць жыццё самагубствам (падміргнуўшы гледачам, ён тэатральна забівае сябе кінжалам).

Мастацкі свет п’есы “Францішка, або Навука кахання” пабудаваны на скрыжаванні некалькіх гістарычных і літаратурных прастораў, сатканы з рэальных фактаў гісторыі – жыцця першай беларускай жанчыны-драматурга Францішкі Уршулі Радзівіл, “Навукі кахання” Публія Авідзія Назона і знакамітай шэкспіраўскай сентэнцыі пра свет як тэатр, і людзей-акцёраў, кожны з якіх тут іграе сваю ролю, нават калі гэтая роля – рэальнае жыццё. Хранатоп п’есы дакладна акрэслены гістарычным часам (1752-1755), які вызначаецца і смерцю Уршулі, і асобнымі гістарычнымі маркерамі.

Княгіня Уршуля Радзівіл (1705-1753) – прамы нашчадак украінскага гетмана Байды (Дзмітрыя) Вішнявецкага, аднаго з заснавальнікаў Запарожскай Сечы, князя Ярэмы Вішнявецкага і ягонага сына – караля Польшчы Міхала Карыбута, стварыла ў сваім маёнтку ў Нясвіжы тэатр, пісала для яго свае п’есы і сталася адной з важных постацей шматмоўнай барочнай беларускай літаратуры. Як адзначаюць Жанна Некрашэвіч і Наталля Русецкая, даследчыцы творчасці Уршулі Радзівіл, “заснаванне і дзейнасць тэатра ў радзівілаўскай рэзідэнцыі ў Нясвіжы, далучэнне праз яго да высокага мастацтва шырокіх колаў беларускага грамадства – найвялікшая заслуга нясвіжскай асветніцы” [15].

Уршуля Радзівіл, здавалася б, жыве ў створаным ёю “тэатральным” свеце, не

заўважаючы часам нізкіх рэалій навакольнага жыцця. Адзін з герояў п’есы кажа: “Наш лад жыцця тут, у Нясвіжы, крыху нерэальны, прыдуманы. Але кожны чалавек мае права бачыць сусвет вакол сябе такім, якім хоча. Не варта разбураць гэты прыгожы, але крохкі сусвет выпадковымі праўдамі жыцця” [16].

Аднак з перспектывы часу, які праходзіць пасля смерці Уршулі, становіцца зразумелым, што ейная жыццёвая ўяўная блізарукасць насамрэч была амаль прароцкім бачаннем лёсаў тых, хто яе атачае. Яна кахае свайго мужа, які ёй пастаянна здраджвае, піша яму лісты, нават калі ён побач з ёй, няспынна працуе над спробамі ўтрымаць каханне, будаваць агульны лёс і агульнае шчасце з князем. Сведчаннем таго, што яна прадбачыла будучыню князя Радзівіла і Ганны, з’яўляецца перадсмяротны ліст Уршулі да Ганны, пакінуты ў нечаканым месцы – у кнізе Авідзія “Навука кахання”. У п’есе жыццё Уршулі і князя пераходзіць у тэатр, становіцца Уршулінай тэатральнай камедыяй “Распуснікі ў пастцы”, якая адлюстроўвае/“перакручвае” будучыню ейных рэальных герояў.

Своеасаблівай мастацкай “кропкай біфуркацыі”, якая праектуе лёсы абедзвюх гераінь, выступае ў п’есе дыялог Уршулі і ейнай пляменніцы Ганны. Ганна пасля смерці свайго мужа прыязджае ў Нясвіж, каб папрасіць князя Міхала Радзівіла, мужа Уршулі, дапамагчы ёй аплаціць пазыкі, якія пакінуў нябожчык. Ганна не сумуе па сваім памерлым мужы, бо яна яго не кахала. На здзіўленую заўвагу Уршулі, што яна памятае, як Ганна “радавалася, калі брала з ім шлюб”, адказвае: “А хто з дзяўчат не радуецца, калі выходзіць замуж? Асабліва, калі табе пятнаццаць гадоў, а твой жаніх – князь Радзівіл. Але потым ты бліжэй пазнаеш свайго выбранніка, і ад былога кахання не застаецца ані следу”. Абураная Уршуля нагадвае, што каханне – гэта вялікая і пастаянная душэўная праца, і цытуе Авідзія: “Пасля таго, як сустрэнеш свайго выбранніка і завалодаеш ягоным сэрцам, думай пра найважнейшае – як вашае каханне захаваць!” Ганна прыводзіць іншую цытату з Авідзія: “Тым, хто прыгожы, мая не патрэбна навука, іх хараство за навуку вышэй!” [17]. Як заўважае польская даследчыца Беата Сівек, у лёсе Францішкі Уршулі ў п’есе Сяргея Кавалёва “мы бачым адлюстраванне экзістэнцыяльнай сітуацыі, у якой жанчына, адгукнуўшыся на покліч уласнага прызначэння, становіцца актрысай змрочнай драмы кахання і смерці” [18].

Кожны чалавек, такім чынам, становіцца акцёрам у тэатры жыцця, а ягоная экзістэнцыя – адлюстраваннем складанасці і складзенасці чалавечага быцця. Кожны чалавек-акцёр мае сваё прызначэнне, час выхаду на сцэну і час вяртання за кулісы. Апошняя сцэна, у якой памерлая Уршуля і выпадкова атручаная Тэрэзка рыхтуюцца да свайго апошняга акту – выхаду на сцэну перад найгалоўнейшым Рэжысёрам – Богам, набывае метафізічную афарбоўку – як вынік чалавечага жыцця ў тэатры свету. Зусім юная Тэрэзка паспешліва змывае грым, а Уршуля, якая даўно адчувала сваю блізкую смерць, робіць гэта нетаропка, бо “трэба старанна змыць з сябе грым”, каб не з’явіцца “перад Рэжысёрам з брудным тварам” [19]. Менавіта гэтая сцэна адкрывае прысутнасць за тэатральным жыццём і жыццём як тэатрам яшчэ адной, трансцэндэнтальнай перспектывы, дзе кожны, у апошнім і заключным акце, атрымае па заслугах ад Рэжысёра ўсяго свету.

Падзеі п’есы “Чатыры гісторыі Саламеі”, напісанай на падставе мемуараў беларускай шляхцянкі Саламеі Русецкай, адбываюцца ў 1760 годзе ў Стамбуле. Галоўная гераіня распавядае маладой хворай турчанцы Айшэ гісторыю свайго бурлівага жыцця, поўнага страсцей і нягод. Кожны з ейных мужоў (лекар-немец, ад якога яна навучылася медыцыне, аўстрыйскі харунжы, якога яна выкупіла з турэцкага палону, польскі шляхціц-альфонс з Камянца-Падольскага) з’яўляецца ўвасабленнем пэўнага чалавечага слабога ці дэспатычнага характару. З кожнай з гэтых жыццёвых гісторый Саламея выходзіць больш высакароднай, і, не зважаючы на горкі жыццёвы досвед, зноў і зноў шукае сапраўднае каханне, верыць у яго.

Гэтай верай у магчымасць існавання сапраўднага кахання яна натхняе хворую Айшэ, падтрымлівае ейныя пачуцці да Недзіма – закаханага ў яе маладога турка. Для Саламеі, Айшэ і Недзіма сімвалам магчымасці існавання сапраўднага кахання становяцца разваліны Садабада, горада, пабудаванага непадалёк ад Стамбула султанам Ахмедам. На пачатку XVIII стагоддзя пра гэты горад напісаў верш паэт Махмед Недзім, што загінуў падчас паўстання янычараў, якія зруйнавалі і Садабад. П’еса заканчваецца шчаслівым шлюбам Айшэ і Недзіма. Саламея ж адплывае на караблі ў паломніцтва ў Іерусалім.

П’есы “інфернальнага” падцыкла “герменеўтычнага” цыкла драматургіі Кавалёва таксама маюць своеасаблівую «гістарычную» перспектыву – ад сярэднявечнага падання пра ўзнікненне горада (“Легенда пра Машэку”) да паказу з’яўлення міфалагічнага і інфернальнага ў свеце чалавека Новага часу (ад “Тараса на Парнасе” да “Звар’яцелага Альберта” і “Стомленага д’ябла”).

У “Легендзе пра Машэку” падзеі адбываюцца ў XIII стагоддзі. У гэтай п’есе – на фоне падання пра заснаванне-пабудову замка ў Магілёве – цесна пераплятаюцца матывы кахання, нянавісці і здрады, падзення чалавека на дно грахоў і адчаю ў горне жыцця, а разам з тым – знаходжання і здабыцця любові і хрысціянскіх цнотаў. Героі твора з далёкага мінулага – жывыя і рэальныя людзі, імі рухаюць у жыцці тыя ж страсці, якія жывяць і чалавека XXI стагоддзя. Адзін з герояў кажа: “Горад – гэта... не толькі людзі, якія ў ім жывуць... Кожны горад пачынаецца з нейкай легенды. Наш горад пачаўся з прыгожай легенды: легенды пра каханне...” [20].

“Тарас на Парнасе” – своеасаблівая “народная забава”, як яе назваў у падтытуле сам аўтар. У гэтым творы зноў адбываецца сутыкненне двух светаў – свету рэальнага, у якім жыве галоўны герой – ляснік Тарас, і свету старадаўніх алімпійскіх багоў, якія перабраліся на Парнас, бо з Алімпу іх ужо даўно выгналі. Матыў самазванца, простага беларуса, які па падгаворы багіні Геры пэўны час кіруе ў вобразе Зеўса на Парнасе, а потым вяртаецца ў рэаліі свайго свету, дае магчымасць стварыць цэлы шэраг камічных сітуацый: некаторыя з іх (як заляцанні да Гебы Марса і Геркулеса) атрымліваюць сіметрычную сцэну ў сямейным жыцці Тараса (заляцанні да ягонай дачкі Зоські шляхціца Віктара і селяніна Грышкі). Калі ўлічыць, што акцёры іграюць такія ж сіметрычныя ролі і на Парнасе, а потым у сельскіх сцэнах (аўтар сам дае тлумачэнне да апошняй сцэны, што падчас заключнага сельскага танца “добра відаць, што на нагах у многіх [акцёраў] – сандалі, а з-пад сялянскай вопраткі выбіваецца антычнае адзенне” [21]), зразумелай становіцца задума аўтара здзейсніць зваротна-сіметрычнае травеставанне і бурлескную нарацыю ў абедзвюх прасторах дзеяння твора.

Упарадкаванне хаосу, які пануе ў адносінах паміж багамі на Парнасе, прыводзіць да канстатацыі, што разумны беларускі селянін можа лепш спраўляцца з інтрыгамі алімпійскіх багоў, чым Зеўс, які ў гэтым табары алімпійцаў ледзь дае сабе рады.

Інфернальныя матывы з’яўляюцца неад’емным і адным з найважнейшых элементаў міфапаэтычнага мадэлявання мастацкага свету п’есы “Звар’яцелы Альберт”, якая ў творчым даробку Сяргея Кавалёва з’яўляецца асаблівым спалучэннем барочнай нарацыі Яна Баршчэўскага і, адначасова, упляценнем у тканіну драматычнага аповеду міфалагічных і казачных элементаў, якія аб’ядноўваюцца матывам дамовы з д’яблам. Матыў сустрэчы і ўзаемаадносін чалавека з д’яблам і звязаныя з ім сюжэтныя лініі маюць глыбокія карані ў сусветным прыгожым пісьменстве: “Д’ябал з’яўляецца літаратурным героем са старажытным радаводам. Магчыма, такім жа старажытным, як сама літаратура. Сустракаем яго ў гісторыі пра райскае жыццё нашых продкаў; з таго часу ён з’яўляецца бесперастанна ў розных постацях і ў розных функцыях ва ўсіх літаратурах свету” [22]. У познім Сярэднявеччы нарадзіліся дэманалагічныя легенды пра дамову чалавека з

д'яблам – каб дасягнуць багацця, славы, задаволіць эратычныя жаданні, атрымаць навуковыя веды. Матыў заключэння дамовы з нячыстай сілай становіцца адным з галоўных у кантэксце праблемы барацьбы за чалавечую душу. Але не толькі эпоха Сярэднявечча прасякнута барацьбой чалавека з д'яблам, ягонымі спакусамі. Зрэшты, як піша Жан Дэлюмо, і "нараджэнне новых часоў у нашай Заходняй Еўропе суправаджаў неймаверны страх перад д'яблам. Рэнесанс, безумоўна, атрымаў у спадчыну канцэпцыю і дэманічныя ўзоры, якія фарміраваліся на працягу Сярэднявечча. Але надаў ім цэласнасць, выразнасць і папулярнасць, якіх яны ніколі раней не дасягалі" [23].

Дамова, якую заключае шляхціц Альберт з д'яблам праз Чарнакніжніка, прыводзіць не толькі да ягонага вар'яцтва, але і да смерці ягонай жонкі Амеліі, да разбурэння свету іншых герояў твора.

Матыў чарнакніжніцтва прадстаўлены і ў казцы "Чарнакніжнік", але тут вобраз Чарнакніжніка, які ўвасабляе зло, што імкнецца пераадолець няпраўдай дабро, не мае такой інфернальнай глыбіні, як у "Звар'яцелым Альберце".

Тэму дамовы з д'яблам драматург разгорне яшчэ ў адной п'есе – "Стомлены д'ябал". Тут заключэнне дамовы з нячыстай сілай мае сімвалічнае адлюстраванне няспыннай барацьбы чалавека са сваімі слабасцямі і спакусамі навакольнага свету. Чалавек дае слова быць стойкім і нязломным перад гэтымі спакусамі, аднак зноў і зноў саступае ім. Драматург адзначае, што "старадаўнія тэксты захоўваюць у сабе важныя сэнсы і значэнні, нацыянальныя і сусветныя архетыпы, забытыя на многія стагоддзі, але, магчыма, актуальныя менавіта для нашай эпохі. Напрыклад, выкарыстанне разнастайных элементаў з твораў К. Марашэўскага, Янкі Купалы і Ф. Аляхновіча ў п'есе "Стомлены д'ябал" дало мне магчымасць распавесці ўніверсальную, але разам з тым беларускую гісторыю пра звычайнага чалавека, пра ягоныя пошукі шчасця і прычыны няшчасцяў [...]. Я паспрабаваў падсумаваць пэўны досвед – жыццёвы і літаратурны – сваіх славутых папярэднікаў у вырашэнні адвечных экзістэнцыяльных праблемаў, актуальных для чалавека як у XVIII стагоддзі, так і ў нашыя дні" [24].

Можна сцвярджаць, што "герменеўтычны" праект драматурга не з'яўляецца самадастатковай і замкнутай прасторай у ягонай творчасці. Пэўныя матывы з яго "перацякаюць" і ў казачную прастору ягонай драматургіі, і ў "магічны" праект (гаворка, у прыватнасці, і пра матыў чарнакніжніцтва, і пра вечныя матывы кахання). У той жа час між дзвюма кнігамі-падцыкламі драматычных твораў "Стомлены д'ябал" і "Навука кахання" існуе вялізная колькасць паралеляў. Асаблівасцю амаль усіх "герменеўтычных" п'ес Кавалёва з'яўляецца існаванне ў іх характэрных для жанру навелы пуант, паваротных момантаў, якія асаблівым чынам змяняюць перспектыву ўсёй папярэдняй наратыўнай прасторы і робяць "рэальным" тое, што, здавалася б, належыць да міфалагічнай, гістарычнай ці мастацкай прастораў. У развязцы п'есы "Трышчан ды Іжота" сам Трышчан вось-вось успомніць сваё імя ў мінулым драматычным жыцці, і гэтая спроба становіцца адлюстраваннем высокай трагедыі чалавечай экзістэнцыі, шчымлівага адчування чагосьці важнага, але страчанага, таго, што ўжо ніколі не вярнуць. У "Навуцы кахання" такой пуантай становіцца ліст Уршулі да сваёй суперніцы-пераемніцы, пакінуты ў кнізе Авідзія. Ён адкрывае зусім іншую перспектыву ейнай трагічнай постаці ў барацьбе з выклікамі лёсу, новае бачанне кахання Уршулі да свайго мужа. "Рэальнасць" вандроўкі Тараса на Парнас пацвярджае атрыманая ім у падарунак стрэльба – абяцаная Зеўсам, а ўручаная панам Севярынам (які таксама іграе і ролю Зеўса). Рэальнасць казачнай прасторы ў "Драўляным Рыцары" дэкларуецца развязкай п'есы – у пакінуты дом (з якога пачынаюцца казачныя падзеі) прыходзіць Незнаёмы, вельмі падобны на Драўлянага Рыцара з казкі, стукае ў дзверы і просіць былых жыхароў давезці яго да горада.

Міф пра каханне Амура і Псіхеі, які захаваўся ў старажытнагрэчаскім рамане Апулея “Метамарфозы, або Залаты асёл”, у сусветнай літаратуры зрабіў бліскучую кар’еру: трансфармаваўся ў паэзію, драматургію, атрымаў шырокае мастацкае ўвасабленне ў прозе. У п’есе С. Кавалёва “Сёстры Псіхеі” гэтая міфалагічная структура набывае асаблівую мастацкую інтэрпрэтацыю: дзве сястры Псіхеі – Ата-каралеўна і Іфіда – становяцца ўвасабленнем адвечных чалавечых страсцей: прагі да ўлады і прагі зямных раскошаў і багаццяў (ва ўласным каментарыі да твора аўтар напіша, што Ата і Іфіда ўвасабляюць “сучасную цывілізацыю з яе рацыяналістычным прагматызмам і пачуццёвым геданізмам” [25]). У адрозненне ад гэтых алегорый зямных жаданняў зямнога чалавечага цела, Псіхея становіцца ўвасабленнем чалавечай душы (псюхэ – па-грэчаску “душа”). Душа-Псіхея прагне высокага і чыстага кахання, іншага, не сапсаванага ніззкімі чалавечымі жаданнямі, яна можа бачыць іншыя прасторы, нябачныя ейным сёстрам, захопленым зямнымі часовымі памкненнямі. Сёстры – зямныя страсці знішчаюць сваімі падгаворамі высокую і чыстую душу-Псіхею, якая, парушыўшы абяцанне, стане птушкай і вымушана будзе вандраваць па свеце і шукаць страчанае шчасце і каханне.

Ядром п’есы “Пан Твардоўскі” (яна мае падзагаловак “негістарычная драма”, аднак падзеі адбываюцца ў XVI стагоддзі) з’яўляецца аповед чарнакніжніка Твардоўскага пра гісторыю кахання вялікага князя літоўскага і польскага каралевіча Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл. Пра гэтае каханне напісаны дзясяткі п’ес на розных мовах, але С. Кавалёў выбірае сваю наратыўную перспектыву. Рамачным матывам для гісторыі каралеўскага кахання становіцца гісторыя жыцця самога мага Твардоўскага. Гэты вобраз чарнакніжніка, які, паводле падання, пасля смерці Барбары выклікаў, па просьбе Жыгімонта Аўгуста, ейны прывід, атрымлівае ў творы беларускага драматурга новае семантычнае напаўненне: “Усемагутны маг Твардоўскі ператварыўся ў фанфарона-няўдачніка, які быў сведкам і саўдзельнікам вялікіх падзеяў, а ва ўласным жыцці так і не зведаў ні сапраўднага кахання, ні шчырага сяброўства” [26]. Можна дадаць, што гэты вобраз мае шмат агульных рыс са сваім “сучаснікам”, вобразам знакамітага героя нямецкай народнай кнігі XVI стагоддзя “Гісторыя пра доктара Іагана Фауста”.

Інтэртэкстуальная п’еса “Вяртанне Галадара” сваімі ідэйна-эстэтычнымі каранямі звязана з “Галадаром” Франца Кафкі і “Адыходам Галадара” Тадэвуша Ружэвіча. Аднак твор Сяргея Кавалёва не напісаны па іх матывах, а з’яўляецца самастойным своеасаблівым працягам твора Ружэвіча. У сваёй п’есе беларускі драматург ставіць цэлы шэраг вострых і актуальных грамадска-палітычных праблем сучаснасці, і, ў той жа час, упісвае іх у мастацкую прастору агульначалавечых каштоўнасцей. Адначасова п’еса мае і філасофскае вымярэнне: пошук чалавекам межаў свабоды ў грамадстве і ад грамадства, магчымасці знайсці сваё месца між тымі, хто хоча і здольны шукаць новыя шляхі змянення гэтага грамадства. Можна ўбачыць у “Вяртанні Галадара” і пэўную сугучнасць з ідэямі драматургіі англічаніна Джона Осбарна і ірландца Марціна МакДонаха.

Максім Багдановіч – культавая постаць у беларускай літаратуры XX стагоддзя, найвялікшы паэт беларускага Мадэрнізму. У бездзяржаўных народаў такія паэты становяцца амаль сакральнымі сімваламі, і вельмі часта спробы прыадкрыць занадта зямныя, чалавечыя рысы і старонкі жыцця такога творцы робяцца балючай і трапяткой праблемай посткаланіяльнага грамадства. Сяргей Кавалёў у п’есе “Інтымны дзённік” звяртаецца да неапублікаванага дзённіка Багдановіча, які ён вёў падчас знаходжання ў Старым Крыме. Гаворка ідзе пра вельмі натуралістычныя эратычныя апісанні ягонага “курортнага рамана” з замужняй жанчынай Клавай Салтыковай.

Твор складаецца з дзвюх частак. У першай апісваецца гісторыя кахання Максіма і Клавы – так, як яе ўявіў драматург. Другая частка адбываецца ў сучасным

Мінску, дзе жывуць сучасныя героі, маладыя беларускія інтэлігенты. Калі першая частка будуецца як мадэрнісцкі наратыў, у якім вобраз кахання (нават калі гэта “курортны раман”) не перасякае семантыка-семіятычнай мяжы эратычнай прасторы, то ў другой частцы постмадэрнісцкі наратыў сучаснасці зазірае ў бездань парнаграфічнага кітчу, дзе прыватнае жыццё нават вялікага паэта становіцца таварам на продаж, маргіналізуецца да таннай сенсацыі, якая можа прынесці звышпрыбыткі жоўтай прэсе. Высокая трагедыя асабістага пачуцця паэта, такім чынам, перацякае ў смакаванне натоўпам сімулякраў фізіялагічных узаемаадносін. Аднак у гэтай постмадэрнісцкай сучаснасці ёсць месца і для сапраўдных чалавечых узаемаадносін, якія выпрабоўваюцца на трываласць праблемамі навакольнага свету. Аўтар п’есы сам прызнае, што “напэўна, гэта самая нязвыклая мая п’еса, створаная на небяспечнай мяжы добрага густу і банальнай пошласці, узнёслай эротыкі і парнаграфіі. Мне ўяўляўся метафізічны дыялог паміж нашым цынічным часам і рамантычным часам паэта, палароідны партрэт майго пакалення на фоне пажоўклых фатаздымкаў з музейнага альбома...” [27].

Драматург Сяргей Кавалёў збудаваў сваімі творамі асаблівы мастацкі свет. Свет, дзе беларускае слова выводзіцца з глыбокіх і чыстых крыніц беларускай нацыянальнай традыцыі, а адначасова сцвярджае беларускую культуру як неад’емную частку агульнаеўрапейскай культурнай прасторы.

Спасылкі:

1. Кавалёў С. Мэва. Мінск, 1988.
2. Кавалёў С. Як пакахаць ружу. Мінск, 1989.
3. Кавалёў С. Партрэт шкла. Мінск, 1991.
4. Кавалёў С. Шлях да Бэтлеему. Мінск, 2009.
5. Фрай Н. Література як контекст: «Лісідас» Мільтона // Сучасна літературна компаративістика: стратегії і методи. Антологія / За заг. ред. Дмитра Наливайка. Київ, 2009. – С. 250.
6. Кавалёў С. Германеўтычная драматургія, або актуалізацыя забытых сэнсаў // Кавалёў С. Стомлены д’ябал. П’есы. Менск, 2004. – С. 10.
7. Клен Ю. [Рецензія:] Леонід Мосендз: “Канітферштан” – на мову українську перелицьований. Поема. “Звено”. Мюнхен, 1946. Ч. 1. – С. 74.
8. Паміж Беларуссю і Польшчай. Драматургія Сяргея Кавалёва / Pomiędzy Białorusią a Polską. Dramaturgia Siarhieja Kawalowa. Мінск, 2009.
9. С. Кавалёў. Навука кахання. П’есы. Менск, 2005. – С. 5.
10. Тамсама. – С. 7.
11. Тамсама. – С. 22.
12. Беларускія “Александрыя”, “Троя”, “Трышчан”...: Перакладная белетрыстыка Беларусі XV-XVII стст. Пер. з старабеларус. А. Бразгунова. Мінск, 2009. – С. 461.
13. Кавалёў С. Навука кахання. П’есы... – С. 37.
14. Тамсама. – С 42.
15. Некрашэвіч Ж., Русецкая Н. Асветніца з Нясвіжа // Радзівіл Ф.У. Выбраныя творы / Укл. С. Кавалёва. Мінск, 2003. – С. 24.
16. Кавалёў С. Навука кахання. П’есы. – С. 149.
17. Тамсама. – С. 142.
18. Siwek B. Obraz Franciszki Urszuli Radziwiłłowej w dramacie Siarhieja Kawalowa „Franciszka, abo Nawuka kachannia” // Працы кафедры гісторыі беларускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Вып. 7. Мінск, 2006. – С. 182.
19. Кавалёў С. Навука кахання. П’есы. – С. 199.
20. Кавалёў С. Стомлены д’ябал. П’есы. – С. 98.
21. Кавалёў С. Стомлены д’ябал. П’есы. – С. 187.
22. Rudwin M. Diabeł w legendzie i literaturze. Kraków, 1999. – S. 304.
23. Delumeau J. Strach w kulturze Zachodu. Warszawa, 1986. – S. 220.
24. Кавалёў С. Германеўтычная драматургія, або Актуалізацыя забытых сэнсаў. – С. 9.
25. Кавалёў С. Пасля гісторыі, або Практыкаванні ў свабодзе // Кавалёў С. Сёстры Псіхеі. П’есы. Мінск, 2011. – С. 9.
26. Тамсама. – С. 10.
27. Тамсама. – С. 11.

Анатоль Сідарэвіч



...калі мусіш замоўчваць адных,
міжволі даводзіцца выводзіць
на авансцэну другіх...

# З гісторыі гісторыі літаратуры

***Прыклад Рыгора Семашкевіча***

***Рыгор Семашкевіч. Янка Купала і беларускае адраджэнне / падрыхтоўка тэкстаў, укладанне, прамова і каментары М. Казлоўскага. – Маладзечна: Победа, 2012.***

У літаратуразнаўстве ёсць дзялянка, якая вабіць мяне найбольш. Называецца яна гісторыяй літаратуры. Гісторый беларускай літаратуры, гісторыка-літаратурных публікацый у нас шмат, але нешта не сустракаліся мне публікацыі з гістарыяграфіі беларускай літаратурнай гістарыяграфіі. Пісаныя за Саветамі працы Міхася Мушынскага з гісторыі беларускай літаратурнай крытыкі і літаратуразнаўства, якія выйшлі ў 1975 і 1985 гг., на жаль, не атрымалі працягу. Ніхто не ўзяўся за грунтоўнае вывучэнне пытання пра тое, хто ў якіх умовах і як даследаваў гісторыю нашага краснага пісьменства, чым, якімі адкрыццямі папоўніў гісторыка-літаратурную навуку, нашы веды. А яшчэ цікава было б супаставіць гісторыю гісторыка-літаратурных даследаванняў з гісторыяй даследаванняў палітычнай гісторыі Беларусі. Былі ў гэтай гісторыі цікавыя (цікавыя цяпер, а тады




проста драматычныя) сітуацыі і нават калізіі, калі "ўласна" гісторыкі "з партыйных пазіцый" крытыкавалі гісторыкаў літаратуры і давалі ім указіўкі.

Гэтыя сітуацыі і калізіі былі непазбежныя, бо кожны ведае, якую ролю адыгралі беларускія пісьменнікі, літаратура ў цэлым у нацыя- і дзяржаватворчым працэсе. Даследчык гісторыі беларускай літаратуры рад-няволя мусіў ступаць на міннае поле палітычнай гісторыі Беларусі і займацца гісторыяй беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Да ліку такіх даследчыкаў належаў і Рыгор Семашкевіч (1945–1982), аўтар шмат у чым піянерскіх прац.

Рыгор Семашкевіч – адзін з тых нешматлікіх навукоўцаў, хто патрапіў нават такі спецыфічны твор, як дысертацыя, зрабіць даступным шырокаму чытачу і на яе аснове выпусціць кніжку "Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX — пачатак XX ст.)" (1971). А выдадзены асобнай кніжкай нарыс 23-гадовага навукоўца, учарашняга студэнта БДУ "Браніслаў Эпімах-Шыпіла" (1968) паставіў яго ў шэраг самых прыкметных гісторыкаў і ўласна літаратуры, і беларускага руху XX ст.

Узяўшыся вывучаць пачаткі беларускага руху, Р. Семашкевіч працягваў сваю працу і пазней. Пэўныя (так і хочацца сказаць: прамежкавыя) вынікі сваёй працы ён прадставіў публіцы ў 1982 г. Тады ў свет выйшла яго кніга "Выпрабаванне любоўю: Эсэ, артыкулы". Акрамя літаратурна-крытычных тэкстаў, у гэтым зборніку былі надрукаваныя эсэ "Світка Буйніцкага" (1974–1975), а таксама нарысы "Янка Купала і Эпімах-Шыпіла" (1965, 1978) і «"Не загаснуць зоркі ў небе..." (Янка Купала і "Наша Ніва")» (1965, 1980). Калі характарызаваць гэтыя працы коратка, дык можна сказаць так: гэта і даследаванні, і проза; яны чыталіся і будуць чытацца. Таму не дзіўна, што гэтыя нарысы, а таксама праца "Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX — пачатак XX ст.)" і рэцэнзія Рыгора Семашкевіча на выдадзены ў 1977–1980 гг. двухтомнік Алега Лойкі "Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд" склалі змест кнігі "Янка Купала і беларускае Адраджэнне", якая выйшла летась у Маладзечне.

Гэтая кніга – у пэўнай меры ўнікальнае выданне, бо яе ўкладальнік Міхась Казлоўскі карыстаўся з матэрыяльнай падтрымкі Маладзечанскага райвыканкама і рыхтаваў томік у супрацоўніцтве з раённай бібліятэкай імя Максіма Багдановіча. Такім чынам маладзечанцы ўшанавалі 120-я ўгодкі свайго земляка Янкі Купалы і 30-ю гадавіну з дня смерці даследчыка яго жыццёвага і творчага шляху Рыгора Семашкевіча, які таксама нарадзіўся ў той старане.

Чытаючы працы Рыгора Семашкевіча новым зрокам (праз трыццаць гадоў пасля выхаду кнігі "Выпрабаванне любоўю"), я магу канстатаваць: малады даследчык (а Рыгор Семашкевіч пакінуў нас ва ўзросце 37 гадоў) быў так шырока начытаны ў гісторыі беларускага руху, беларускай культуры, што ягоных ведаў пры спрыяльных грамадска-палітычных умовах хапіла б не на адну кнігу. На жаль, ён не дажыў да таго часу, калі былі знятыя шматлікія табу.

Табу датычылі перш-наперш імёнаў і фактаў, у тым ліку такіх фактаў, як творы таго ці іншага аўтара: імя аўтара згадваць не забаранялася, але друкаваць тое, што выйшла з-пад яго пяра (усе ці частку яго твораў), было нельга. Напрыклад, у свой час Рыгор Семашкевіч падрыхтаваў быў да друку ў нейкім выданні ўспаміны Алеся Бурбіса "Колькі слоў аб беларускім тэатры і хоры". З тае прычыны, што ва ўспамінах згадваліся Беларуская Сацыялістычная Грамада (БСГ), Вацлаў Іваноўскі, Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч ды іншыя "буржуазныя нацыяналісты", успаміны ў свет так і не выйшлі. Вось мне цікава: эсэ "Світка Буйніцкага"

калі пісалася – у той час, як у даследчыка яшчэ мелася надзея на публікацыю Бурбісавых мемуараў, ці пасля таго, як цэнзура гэтыя ўспаміны “зарэзала”? Як бы там ні было, Р. Семашкевіч паведамляе сваім чытачам, што такія – яшчэ не апублікаваныя – успаміны маюцца [1]. Ён іх цытуе і пераказвае. Затое, калі апісвае нам постаць самога А. Бурбіса і паведамляе, што ў падпольных гуртках у яго была мянушка “Рыжы”, крыніц інфармацыі нам не падае. Менавіта крыніц, бо такую інфармацыю можна знайсці ў некралогах і ўспамінах Палуты Бадуновай, Антона Луцкевіча ды Яўгена Хлябцэвіча [2]. Як вядома, на імёны і творы Бадуновай і Луцкевіча ідэалагічная служба КПБ наклала табу. Раз не дазвалялася даваць спасылку на двух, не выпадала даваць яе і на трэцяга. Калі ж Рыгор Семашкевіч цытаваў характарыстыку, якую Зміцер Жылуновіч даў свайму таварышу Алесю Бурбісу (“заядлы вораг усяго хісткага, палавінчатага”), дык гэта з артыкула, які публікаваўся ў 1920-х гг. [3] Як мы ведаем, на артыкулы Жылуновіча з гісторыі беларускага рэвалюцыйнага руху і БССР таксама было накладзена табу (яны і да гэтага часу не перавыдадзеныя). Пішучы ж пра пахаванне А. Бурбіса і пра тое, як ён, смяротна хворы, шаптаў словы “вясковыя настаўнікі” і “Чырвоная Армія”, Р. Семашкевіч цытаваў нам артыкул Міколы Байкова і прамову на жалобным мітынгу табуяванага Усевалада Ігнатоўскага ў ягоным пераказе [4]. Што дзіўна: згадваць народнага камісара БССР У. Ігнатоўскага было нельга, а палітычнага эмігранта, члена ЦК БСГ, сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Міколу Шылу – дазвалялася. Праўда, Р. Семашкевіч пісаў пра М. Шылу ў адпаведным кантэксце: як пра актора трупы Ігната Буйніцкага.

Бадай, тое мы бачым і ў нарысе “Не загаснуць зоркі ў небе...”. Не могучы назваць імя аўтара, а іншы раз і загаловак яго артыкула, апублікаванага ў “Нашай Ніве”, Р. Семашкевіч спасылаўся на саму газету, на пэўны яе нумар. Гэта былі, як правіла, спасылкі на артыкулы Аляксандра Уласава [5] і Антона Луцкевіча [6]. Пішучы, што палеміка з чарнасоценцамі (як расейскімі, гэтак і з польскімі) працягвалася і ў 1912-м, і ў 1913-м, даследчык зноў называе шэраг нумароў “Нашай Нівы”, у якіх, зноў жа, змешчаныя артыкулы А. Уласава [7] і А. Луцкевіча [8].

У працу “Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX – пачатак XX ст.)” Р. Семашкевічу ўдалося “працягнуць” нават адну спасылку на брашуру ксяндза Адама Станкевіча “Прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпіла: З яго жыцьця і працы” (1935).

Як бачым, даследчык Р. Семашкевіч спрабаваў абысці бар’еры і рагаткі, якія на яго шляху паставіла бальшавіцкая цэнзура. І іншы раз яму гэта ўдавалася. Цікава было б паглядзець першыя, дацэнзурныя варыянты эсэ “Світка Буйніцкага” і нарыса “Не загаснуць зоркі ў небе...”: што цэнзура выкасавала, не прапусціла? Але і без таго мы бачым відавочны прагрэс. Вядома, што ў “Тэзісах аб асноўных пытаннях гісторыі БССР”, якія сталі дырэктывай для гісторыкаў, адмыслова было запісана:

“У 1905–1907 гг. на Беларусі паявілася вучэбная літаратура роднай мове (буквары, кнігі для чытання). Друкаваліся на беларускай мове брашуры і лістоўкі рэвалюцыйнага зместу. У 1906 годзе выходзіла газета рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку “Наша доля”, закрытая на 6 нумары царскім урадам.

У гады рэвалюцыі значнага развіцця дасягнула беларуская мастацкая літаратура рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку, прадстаўнікі якой Я. Купала, Я. Колас, А. Цётка заклікалі беларускае сялянства да барацьбы супроць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску” [9].

У яшчэ адным абзацы было адзначана, што “палітычны твар” газеты “Наша Ніва” вызначаў “ліберальна-нацыяналістычны (грамадаўскі) напрамак”. Пры гэтым агаворвалася: “ў “Нашай Ніве”, як адзінай легальнай беларускай газеце [10], прымалі ўдзел і прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнай інтэлігенцыі

(Я. Купала, Я. Колас, Э [11]. Цётка), якія ў сваіх творах адлюстроўвалі настроі і спадзяванні прыгнечанага беларускага сялянства" [12].

Гэтымі дырэктывамі павінны былі няўхільна кіравацца таксама і гісторыкі літаратуры. Можна было хваліць "Нашу Долю", пісаць пра беларускія лемантары, брашуры і лістоўкі рэвалюцыйнага зместу, але не акцэнтаваць увагу на тым, хто быў іх аўтарамі і друкарамі. Вызначалася кола "добрых" аўтараў (Купала, Колас, Цётка і, пазней, М. Багдановіч ды Зм. Бядуля), якія рэзка супрацьпастаўляліся аўтарам "кепскім" і агульнай ("ліберальна-нацыяналістычнай") накіраванасці "Нашай Нівы". Спробы рэабілітаваць "Нашу Ніву" спыняліся ў зародку. Станіслаў Станкевіч паказаў, як у паваенны час у БССР Міхась Ларчанка, Мікола Верабей і Цімафей Гарбуноў (за яго, паводле сведчання Алега Лойкі [13], артыкул пісаў Юльян Пшыркоў) спрабавалі вярнуць "Нашу Ніву" на належнае ёй месца і што з гэтага выйшла [14]. Менавіта "канонам", выпрацаваным у 1948 г., кіраваўся, напрыклад, Алег Лойка, калі ў 1982 г. прадставіў чытачам свой раман-эсэ пра Купалу "Як агонь, як вада". У тым творы Пясняр супрацьпастаўлены братам Луцкевічам (Лапкевічам) і Вацлаву Ластоўскаму (Ласоўскаму).

У 1982 г., нагадаю, выйшла і кніга Р. Семашкевіча "Выпрабаванне любоўю". У нарысе "Не загаснуць зоркі ў небе..." аўтар паспрабаваў і, па-мойму, здолеў паказаць, што паміж Купалам ды рэдактарам-выдаўцом "Нашай Нівы" Аляксандрам Уласавым, а таксама вядучым публіцыстам газеты Антонам Луцкевічам не было разыходжанняў у паглядзе на беларускае пытанне. Не будзе такога разыходжання і тады, калі Купала сам стане рэдактарам-выдаўцом "Нашае Нівы". Вельмі каштоўная заўвага Р. Семашкевіча пра тое, што ў "пасляжалейкаўскі" перыяд, у перыяд супрацы Паэта з "Нашай Нівай" яго "любоў да "роднага кута" перарастае ў больш ёмістае паняцце патрыятызму". Супраца з газетай і праца ў рэдакцыі газеты вяла да грамадзянскага і (хочам мы таго ці не) палітычнага сталення Янкі Купалы.

Дырэктывы 1948 г. адназначна забаранялі адносіць "Нашу Ніву" да прагрэсіўных выданняў. І прагрэсам было ўжо тое, што гісторык мог напісаць: газета была супярэчлівая, як супярэчлівы быў сам час, у які яна выходзіла; гісторык мог пахваліць газету, што яна давала дарогу пісьменнікам, друкавала "рэвалюцыйнага дэмакрата" Янку Купалу, што яна змагалася з чарнасоценцамі, у прыватнасці, з Уладзімірам Пурышкевічам, а Пурышкевіча і ўсіх чарнасоценцаў лаяў "правадыр і настаўнік сусветнага пралетарыяту". Прыкрыцца цытатай з Леніна не шкодзіла.

Можна сказаць, што сваім нарысамі Р. Семашкевіч прадоўжыў справу, распачатую яго папярэднікамі – Міхасём Ларчанкам, Юльянам Пшырковым, Сцяпанам Александровічам ды іншымі. Прадмова Міхася Казлоўскага да кнігі "Янка Купала і беларускае Адраджэнне" мае загаловак "Чалавек прадвесня". З гэтым вызначэннем нельга не згадзіцца: Р. Семашкевіч і сапраўды быў чалавекам прадвесня. Вясна ж наступіць тады, калі неактуальнымі стануць дырэктывы 1948 г. і знікнуць табу на імёны і творы. На жаль, сам вучоны да гэтай часіны не дажыў. Яму, як і ягоным сучаснікам, давялося сутыкнуцца з такімі перашкодамі, якія не ўдалося ні абысці, ні – тым больш – адолець.

У працы "Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX — пачатак XX ст.)" Р. Семашкевіч цытуе "ліст рэдактара "Нашай нівы" да свайго знаёмага". Далей ідзе цытата: "Антон Іванавіч!" Хто гэты Антон Іванавіч – для паспалітага чытача загадка. У той жа працы гісторык даволі падрабязна пераказвае змешчаныя ў альманаху "Маладая Беларусь" артыкулы "На дарозе да новага жыцця" і "К пытанню аб нацыянальных адносінах у Беларусі і Літве", але імя аўтара так і не названа. У нарысе ж "Не загаснуць зоркі ў небе..." Р. Семашкевіч, пішучы аб водгуках нашаніўскіх аўтараў на зборнікі Янкі Купалы, не тое, што не пераказаў, а нават не згадаў нашаніўскую рэцэнзію на кнігу "Шляхам жыцця", бо

аўтарам рэцэнзіі, як і артыкулаў у "Маладой Беларусі", быў А. Луцкевіч. У нарысе "Янка Купала і Эпімах-Шыпіла" гісторык сцвярджае, што што сваімі перакладамі з Песняра Апалон Карынфскі "праклаў дарогу да паэта другім перакладчыкам", і нават не згадвае аб тым, што Іван і Антон Луцкевічы звярнулі ўвагу на Купалаву творчасць значна буйнейшай постаці ў расійскай літаратуры – Валерыя Брусава – і што Брусаў з іх "падачы" стаў перакладчыкам Купалы.

Многае і многіх ён мусіў замоўчваць. А калі мусіш замоўчваць адных, міжволі даводзіцца выводзіць на авансцэну другіх. Ды спачатку пра многае.

У працы "Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе..." Р. Семашкевіч вылучае два этапы гэтага руху: канец XIX ст. – да рэвалюцыі 1905 і з 1905 да 1917 г., або ад "Гомона", "Гуртка моладзі польскай, літоўскай, беларускай і маларускай" (Адам Гурыновіч), Бранiслава Эпімаха-Шыпілы да выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца" і Беларускага літаратурна-навуковага гуртка студэнтаў Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. Тым, хто вывучаў гісторыю беларускага вызвольнага руху, у вочы міжволі кідаецца лакуна. Кудысьці падзеўся той перыяд, калі былі была ўчынена спроба заснаваць Беларускую Рэвалюцыйную Партыю (БРП), калі ўзнік Круг беларускай народнай прасветы і культуры, калі была заснавана Беларуская Рэвалюцыйная Грамада (БРГ), калі пачалося беларускае легальнае і нелегальнае кнігадрукаванне, калі беларускі рух выйшаў на міжнародную арэну (маю на ўвазе канферэнцыю 1904 г. сацыялістычных і апазіцыйных партый і арганізацый Расіі ў Парыжы). Гэта вельмі важны часавы прамежак: *калі беларускі рух другой палавіны XIX ст. уяўляе сабою "рад спарадычных выступленняў, не мае цягласці ды ўсцяж рвецца" [15], дык у 1902 г. пачынаецца, кажучы словамі А. Луцкевіча, ужо несупынны культурніцкі і палітычны беларускі рух, які вядзе да ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі і Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі.* І пачынаецца гэты рух у сталіцы імперыі, дзе сустрэліся (першапачаткова) маладыя беларусы з Віленскай і Менскай губерняў.

Не выключаю, што Р. Семашкевічу не дазволілі пра ўсё гэта пісаць (вядома, пісаць ён мог, але не публікаваць). І прычына тут, як думаецца, у асобе Вацлава Іваноўскага. Ягонае імя ў кнізе мы не сустрэнем. Сустрэнем толькі яго нерасшыфраваны псеўданім – В. Тройца. Прычына і ў постацях Івана ды Антона Луцкевічаў.

Р. Семашкевіч паспрабаваў пераадолець гэтую забарону, і сюжэт пра Круг беларускай народнай прасветы ён уставіў у сярэдзіну главы, якая мае назву "Студэнцкі рух пасля 1905 года. Янка Купала ў Пецярбурзе. Выдавецкая справа". Але Семашкевічаў паказ выдавецкае дзейнасці Кругу не вельмі поўны. Самае ж галоўнае ў тым, што ён не назваў ніводнага сябра Кругу. Паведамляючы потым, што сярод арганізатараў выдавецкай суполкі "Загляне сонца..." сустракаюца імёны людзей, якія ўдзельнічалі ў працы Кругу беларускай народнай прасветы, ён зноў не назваў ніводнага прозвішча.

Не маючы магчымасці ўвесці ў свае працы ў якасці рэальнага дзеяча Вацлава Іваноўскага, Рыгор Семашкевіч называе неафіцыйным кіраўніком суполкі "Загляне сонца..." Бранiслава Эпімаха-Шыпілу. Пытанне "А хто быў афіцыйным?" застаецца без адказу. Абвясціўшы Б. Эпімаха-Шыпілу неафіцыйным (фактычным?) кіраўніком суполкі, Р. Семашкевіч стварыў (а дакладней – развіў) легенду пра яго, якая з лёгкай рукі Зміцера Жылуновіча, Мікалая Каспяровіча і Адама Станкевіча пачала складвацца ў міжваенны час.

Р. Семашкевіч сцвярджаў, што Шыпіла "актыўна разгортваў сваю работу і на першым, і на другім этапе літаратурна-грамадскага руху" ў Піцеры. Хоць мы і не згаджаемся з такой перыядызацыяй таго руху, мусім адзначыць: пра грамадскую актыўнасць Б. Эпімаха-Шыпілы да рэвалюцыі 1905 г. няма ніякіх сведчанняў. Мусіць, уся яго актыўнасць была ў тым, што ён збіраў "Беларускую

хрэстаматыю". Мала таго, у фрагменце "Браніслаў Эпімах-Шыпіла і яго «Беларуская хрэстаматыя»" Р. Семашкевіч назваў Шыпілу "адным з першых і самым актыўным арганізатарам і кіраўніком беларускага літаратурна-грамадскага руху на працягу ўсяго развіцця" ў сталіцы імперыі. Кім-кім, але арганізатарам руху Эпімах-Шыпіла не быў. У той час, як В. Іваноўскі і браты Луцкевічы стваралі БРП, БРГ і Круг беларускай народнай прасветы, за Шыпілам не было нават самай бязвіннай культурніцкай арганізацыі.

Р. Семашкевіч піша, што "складанне Б. І. Эпімахам-Шыпілам рукапіснай "Беларускай хрэстаматыі"... паставіла праблему беларускага кнігавыдання" і што вырашэнне гэтай праблемы "стала магчымым толькі на другім этапе руху разам з частковым вырашэннем праблемы мовы" [16]. Аднак мы не бачым Шыпілу ў пачатках беларускай кнігавыдавецкай дзейнасці. Ягонае імя з'яўляецца на старонках гісторыі беларускага руху толькі ў момант заснавання *легальнай* выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца" (1906). Было б цікава даведацца, як ініцыятар стварэння суполкі, яе першы і адзіны старшыня В. Іваноўскі выйшаў на Б. Эпімаха-Шыпілу. Ці не праз Аляксандра Ельскага?

Легенда пра тое, што Шыпіла быў душой выдавецкай суполкі, ідзе ад ксяндза Адама Станкевіча. Ён сцвярджаў гэта ў сваёй брашуры "Прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпіла: З яго жыцця і працы" [17]. Але студэнт Духоўнай каталіцкай акадэміі Станкевіч стаяў ад спраў суполкі надта далёка, каб быць надзейным сведкам. Так, на першым часе існавання выдавецтва "Загляне сонца..." (1906–1908) Шыпіла ўваходзіў у склад яго ўправы і аддаў у яго распараджэнне частку сваёй кватэры, але пасля 31 снежня 1908 г. "ён выйшаў з управы суполкі, параіўшы ёй пашукаць іншае памяшканне" [18]. Пішучы аб "пераарганізацыі" суполкі 30 красавіка 1909 г., Р. Семашкевіч, на жаль, не паказаў, у чым жа яна заключалася, а сутнасць яе была і ў тым, што Эпімах-Шыпіла адышоў ад спраў суполкі, а сама яна размясцілася ў адмыслова нанятай кватэры на Васільеўскім востраве. Прычыны адыходу Шыпілы патлумачыў Юры Туронак: гэта і дзейнасць Іваноўскага як кіраўніка нелегальнага партыйнага выдавецтва "Грамада", і судовыя разбіральніцтвы вакол выдадзеных суполкай Купалавай "Жалейкі" ды зборнікаў "Дудка беларуская" і "Смык беларускі" Францішка Багушэвіча. Шыпіла адчуваў дыскамфорт у сувязі з гэтымі падзеямі, бо мог страціць працу. Калі справы з названымі зборнікамі нармалізаваліся, тады Шыпіла аднавіў супрацу з суполкай (1911), але нефармальна [19].

Як бачым, Эпімах-Шыпіла не адносіўся да ліку людзей, "якія актыўна ўдзельнічалі ў рабоце выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца»". Ён удзельнічаў у гэтай працы, але не заўсёды; удзельнічаў, але з аглядкай. Можна было б думаць, што лектар Духоўнай каталіцкай акадэміі падтрымліваў выдавецтва "Загляне сонца..." фінансава, але, на жаль, Р. Семашкевіч не падаў ніводнае непасрэднае спасылкі, калі пісаў: "Са шматлікіх успамінаў сучаснікаў відаць, што Эпімах-Шыпіла вялікую долю свайго заробку аддаваў на ўтрыманне суполкі". Маецца толькі адна ўскосная цытата – з акадэміка Ігната Крачкоўскага, які сцвярджаў, што Шыпіла "ўсяляк падтрымліваў беларускае выдавецтва і беларусаў, якія траплялі ў Пецярбург". Пра матэрыяльную падтрымку тут наўпрост не гаворыцца. Да таго ж вядома, што матэрыяльна ён падтрымліваў аднаго чалавека, але да гэтага пытання мы яшчэ вернемся.

Лічыць чалавека абачлівага, не здольнага на рызыку "адным з першых і самым актыўным арганізатарам і кіраўніком беларускага літаратурна-грамадскага руху" ў Піцеры не выпадае. Не быў ён ліку першых.

Больш дакладны Р. Семашкевіч, калі ў нарысе "Янка Купала і Эпімах-Шыпіла" пісаў, што памочнік бібліятэкара Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта быў *неафіцыйным* кіраўніком піцерскай калоніі маладых беларусаў. Аднак падкрэслім:

тое сталася толькі тады, калі маладзёжны, а дакладней – студэнцкі беларускі рух набыў *легальныя* арганізацыйныя формы: Беларускі літаратурна-навуковы гурток студэнтаў Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта [20] і Беларускі гурток у Духоўнай каталіцкай акадэміі, які матэрыяльна падтрымала княгіня Магдалена Радзівіл [21]. І ўсё ж не адзін Шыпіла быў кіраўніком руху. На гэты конт у нас ёсць сведчанне А. Луцкевіча: у 1929 г. ён пісаў, што беларуская студэнцкая сям'я ў Піцеры гуртавалася "навакол дзвюх асобаў: праф. Эпімаха-Шыпілы і студэнта тэхналогіі Вацлава Іваноўскага" [22]. Той жа Ю. Туронак, над якім не было бальшавіцкай цэнзуры, паведамляў, што да заснавання Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта мелі непасрэднае дачыненне і В. Іваноўскі, і Б. Эпімах-Шыпіла, што Іваноўскі разам з Шыпілам быў запрошаны на інаўгурацыйны сход гуртка і выступаў на ім. Піша Ю. Туронак і пра тое, што знакамітыя студэнцкія "суботнікі" праводзіліся не толькі ў Б. Эпімаха-Шыпілы – на кватэры В. Іваноўскага таксама [23]. Апроч таго, а. Адам Станкевіч сведчыў: супольныя сходы студэнтаў акадэміі і ўніверсітэта адбываліся і ў ксяндза Францішка Будзькі [24]. Ды пісаць пра гэта ў 1971 г. было нельга.

Хто ведае, ці стаў бы Баніслаў Эпімах-Шыпіла публічным дзеячам, вядомым у грамадстве чалавекам, калі б не рызыка маладых беларускіх сацыялістаў, якія яшчэ да рэвалюцыі 1905 г. запачаткавалі беларускі палітычны і культурніцкі рух, выдавецкую справу? Ці не застаўся б ён у ліку тых людзей, якія, кажучы словамі Р. Семашкевіча, "хавалі сляды сваёй працы"? Хто ведае, як склаўся б лёс маладога Яна Луцэвіча, калі б маладыя беларускія сацыялісты не паўплывалі на яго, не заснавалі "Нашу Ніву" і выдавецтвы?

Слава да Эпімаха-Шыпілы прыйшла ці не ў першы чарод у сувязі з імем Янкі Купалы, але і вакол сюжэту "Шыпіла–Купала" таксама склаліся легенды. Асабліва гэта тычыцца пецярбургскага перыяду жыцця і творчасці Паэты.

Пераезд Я. Луцэвіча ў сталіцу імперыі быў выкліканы звальненнем яго з пасады памочніка бібліятэкара ў віленскай бібліятэцы-чытальні Барыса Даніловіча "Знание". (Як мы ведаем, спачатку Б. Даніловіч адправіў Я. Луцэвіча ў "ссылку" – у свой маёнтак Беніца, – а потым і зусім пазбавіў месца працы). Падкрэсліваю: асноўным месцам працы Я. Луцэвіча была бібліятэка. За гэтую працу ён атрымліваў 25 рублёў штомесяц [25]. Не шмат, але і не вельмі мала – месячны аклад народнага настаўніка. У "Нашай Ніве" Я. Луцэвіч працаваў па сумяшчальніцтву. Як сведчыць В. Ластоўскі, ягоным абавязкам было праглядаць і рыхтаваць да друку дасланыя ў рэдакцыю вершы, і за сваю працу ў рэдакцыі ён атрымліваў 5 рублёў і кут. Звольнены з працы ў бібліятэцы, Я. Луцэвіч застаўся без сродкаў да існавання. Але ўзяць яго на працу ў рэдакцыю выдаўцы і рэдактары "Нашай Нівы" не адважваліся.

Тут ёсць, як пісаў Р. Семашкевіч, "далікатнасць моманту". У нарысе "Не загаснуць зоркі ў небе..." гісторык пераканаўча даказаў (і мы ў гэтым пераканаліся), што ў паэта Янкі Купалы не было разыходжанняў з рэдакцыяй "Нашай Нівы" ў падыходзе да беларускіх праблем. Гісторык, напрыклад, паказаў, што штуршком да напісання, на жаль, і сёння актуальнага верша "Ворагам Беларушчыны" быў перадавы артыкул А. Уласава ў 9-м нумары газеты за 1908 г. Верш гэты з падзагалоўкам «да № 9 "Нашае Нівы"» быў надрукаваны ў якасці перадавога артыкула ў 12-м нумары газеты. Але гэта паэзія, грамадзянская лірыка. А газеце патрэбная публіцыстыка, журналістыка. У Луцэвіча ж не было належнае вывучкі, падрыхтоўкі. І нават не гэта, як я думаю, стаяла ў рэшце рэшт на перашкодзе.

Момант быў, кажучы словам Р. Семашкевіча, сапраўды далікатны. Хоць сам даследчык пісаў, што да Купалы, "як і да кожнага вялікага паэта, трэба адносіцца як жывога чалавека, а не як да забранзавелага помніка", выканаць гэты імператыў ён не здолеў. Мабыць, не ў апошні чарод таму, што зрабіць гэта яму не дазволіла б ні галоўлітаўская, ні выдавецкая цэнзура. Цытуючы адпаведныя мясціны з ліста

Янкі Купалы да Льва Клейнбарта – “...увлекался слишком компанией другого сорта, к сожалению” (пра віленскі перыяд 1908–1909 гг.); “...увлекался веселой компанией, которая в смысле духовном мало чего могла дать” (пра пецярбургскі перыяд), – Р. Семашкевіч вымушаны быў абысці ўспаміны В. Ластоўскага пра Я. Купалу (ці тыя ўспаміны ён не чытаў?). А ў сваіх мемуарах Ластоўскі пісаў пра “сур’ёзныя і непрыемныя перажыванні” Луцэвіча “перад выездам з Вільні”. З кантэксту ўспамінаў вынікае, што прычыну звальнення Луцэвіча з працы трэба бачыць у тым, што ён, як піша Ластоўскі, “меў некаторую склоннасць да «шкляного бога»” [26]. Можна думаць, што Луцэвіч, як гэта кажуць, парушаў правілы ўнутранага распарадку бібліятэкі-чытальні.

Што цікава, В. Ластоўскі не вінаваціць за “сур’ёзныя і непрыемныя перажыванні” Я. Луцэвіча ні Б. Даніловіча, ні рэдакцыю “Нашай Нівы” (братоў Луцкевічаў і А. Уласава), а з Антонам у яго былі не самыя прыязныя адносіны.

Мы ведаем, што рэдактар “Жалейкі” Б. Эпімах-Шыпіла, пазнаёміўшыся ў Вільні з Я. Купалам асабіста, паводле свайго прызнання, “сказал [Паэту], что следует ему приехать когда-нибудь в Питер и что, если он это сделает, то двери моей квартиры... всегда для него открыты”. Як выявілася, Купала неадэкватна зразумеў свайго рэдактара. Апынуўшыся ў “паганым палажэнні”, Паэта ўспомніў Шыпілава абяцанне наконт дзвярэй і пачаў яму “часта дакучаць”. А што мог Шыпіла? Уладкаваць Луцэвіча на працу ў якой-небудзь піцерскай бібліятэцы, як ён прасіў? Нават прыняць на працяглы час у сваёй кватэры, як выявілася, спачатку не змог.

Р. Семашкевіч піша: “Ужо восенню 1909 г. ён [Купала] застаецца на тры гады ў Пецярбурзе, жыве ў Эпімаха-Шыпілы, наведваючы курсы А. Чарняева”. Папершае, не восенню, а на самым пачатку зімы. Па-другое, не на 3 гады, а на тры з хвосцікам. Па-трэцяе, жыў ён першыя паўгода не ў Эпімаха-Шыпілы.

Паказваючы заслугі Б. Эпімаха-Шыпілы ў станаўленні творчае асобы Я. Купалы, Р. Семашкевіч пісаў: “...нельга палічыць, “колькі талентаў звялося” кажучы словамі Коласа, на нашай зямлі з-за таго, што ў патрэбны момант ім не падалі рукі, не падтрымалі”. Так, Б. Эпімах-Шыпіла падаў руку Я. Луцэвічу, падтрымаў яго, але не забывайма, што першы руку яму ў драматычны момант падаў В. Іваноўскі.

Р. Семашкевічу быў вядомы ліст Уладзіміра Самойлы да Эпімаха-Шыпілы ад 2 снежня 1909 г. Даследчык цытаваў яго, але ён не змог працытаваць самага галоўнага ў тым лісце, а менавіта наступныя словы: “Ивановский его [Купалу] берет, кажется, пока в Суполку, предполагая устроить ему какую-либо работу для заработка постоянного” [27]. Нельга было згадваць імя В. Іваноўскага – і Р. Семашкевіч пісаў, што Я. Луцэвіча прыняў і ўладкаваў Б. Эпімах-Шыпіла. Апублікаваная ж ва ўкладзеным Генадзем Кісялёвым зборніку дакументаў і матэрыялаў “Пуцявінамі Янкі Купалы” (1981) бестэрміновая пашпартная кніжка Я. Луцэвіча сведчыць, што 4 снежня 1909 г. ён быў прапісаны ў памяшканні выдавецкае суполкі “Загляне сонца...”. (Ён жыў там пэўны час разам з Антонам Грыневічам). Лісты Я. Луцэвіча да А. Луцкевіча паказваюць, што Паэта сапраўды працаваў у суполцы, у прыватнасці, “вёў” альманах “Маладая Беларусь”. Пэўна, як і ў Вільні, Паэта не мог жыць толькі з рэдакцыйнае працы. Запісы ў пашпартнай кніжцы ад 9 красавіка і 17 траўня 1910 г. паказваюць, што Купала быў практыкантам аднаго з казённых вінных заводаў у Пецярбургу. Можна думаць, што на працу яго ўладкаваў В. Іваноўскі, хімік-інжынер-тэхнолаг, доктар тэхналагічных навук. З пашпартнае кніжкі вынікае таксама, што ў кватэры Б. Эпімаха-Шыпілы Паэта прапісаўся толькі праз шэсць месяцаў пасля прыезду ў Піцер — 11 чэрвеня 1910 г.

Такія факты. Не могучы паказаць ролю В. Іваноўскага ў лёсе Я. Купалы,

Р. Семашкевіч цытаваў успаміны Язэпа Сушынскага, у якіх той сцвярджаў, што Б. Эпімах-Шыпіла аддаў у распараджэнне Купалы пакой, забяспечыў яго на правах члена сям'і харчаваннем, плаціў за яго навучанне на курсах, даваў грошы на кішэнныя выдаткі: кіно, тэатр, фурманкі, конкі, параходы. Тут, па-мойму, ёсць пэўная доля мастацкага вымыслу. Ва ўсякім разе, зафіксаваны факт, што ў чэрвені 1912 г. Я. Луцэвіч прасіў (праз Б. Эпімаха-Шыпілу) выслаць яму грошы "п[ана] старшыну" суполкі [28], а не Шыпілу.

Калі ісці за фактамі, дык мы ведаем, што выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца", на чале якой стаяў В. Іваноўскі, выпусціла ў свет чатыры кніжкі Янкі Купалы: "Жалейку" (1908), "Сон на кургане" (1912), "Паўлінку" (1913) і "Шляхам жыцця" (1913). У 1910 г., калі ў суполкі былі судовыя праблемы, дзве Купалавы кніжкі ("Адвечная песня" ды "Гусляр") выйшлі ў выдавецтве А. Грыневіча.

Б. Эпімах-Шыпіла, пра якога Р. Семашкевіч пісаў, што ён выхаваў Я. Купалу як паэта, меў бясспрэчнае дачыненне да двух з названых тут выданняў: пасля "Жалейкі" ён рэдагаваў "Гусляра". Але ж другую Купалаву кніжку Р. Семашкевіч сам назваў "зборнікам няпоўных магчымасцей". Зборнік няпоўных магчымасцей яна таму, што абачлівы рэдактар учыніў папярэднюю цэнзуру твораў, прызначаных для кніжкі. Як відаць з выказвання Р. Семашкевіча, тая цэнзура пайшла на шкоду "Гусляру". А калі мы згадаем, што сярод адсепараваных Эпімахам-Шыпілам і апублікаваных толькі ў 1929–1930 гг. вершаў былі такія шэдэўры, як "Мая малітва (Я буду маліцца і сэрцам, і думамі)" і "Пакіньма напуста на лёс свой наракаць..." (1906), "Перад бурай" і "Я не для вас..." (1907), "Перад вясельняй" (1908) і "Маладая Беларусь" (1909), дык паўстае пытанне: ці заўсёды была карысць з такое рэдактуры?

На думку А. Луцкевіча, самога сябе Купала знайшоў у зборніку "Шляхам жыцця". Са свайго боку, Р. Семашкевіч назваў "Шляхам жыцця" завяршальным акордам пецярбургскага перыяду ў жыцці Купалы. Пішучы, што "Эпімах-Шыпіла меў, вядома, дачыненне да гэтага выдання", гісторык нічым, ніякай спасылкай не абгрунтаваў сваё цверджанне. Мне ж думаецца, што Купала, ужо набыўшы рэдактарскі досвед, мог быць сам сабе рэдактарам.

Зрэшты, развіваючы легенду пра Б. Эпімаха-Шыпілу як адзінага кіраўніка і ментара беларускай моладзі ў Піцеры, Р. Семашкевіч не мог (забараняла цэнзура) сказаць пра яго, бадай, самае істотнае. У сваёй брашуры "Прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпіла..." кс. Адам Станкевіч пісаў, што "ў большай або ў меншай меры" духоўнымі дзецьмі складальніка "Беларускай хрэстаматыі" можна лічыць Янку Купалу, Браніслава Тарашкевіча, Зміцера Жылуновіча, Клаўдзія Дуж-Душэўскага, Тамаша Грыба, Леанарда Зайца, Язэпа Варонку, святароў Фабіяна Абрантовіча, Вінцэнта Гадлеўскага, Андрэя Цікоту, Віктара Шутовіча ды іншых. "У большай або ў меншай меры", бо сацыялісты Тарашкевіч, Жылуновіч, Душэўскі, Грыб і Варонка мелі яшчэ іншыя ўплывы і сувязі.

Цверджанні Р. Семашкевіча пра тое, што "пасля Пецярбурга Купала вярнуўся ў Вільню", што "пасля Пецярбурга ён прыехаў рэдагаваць «Нашу ніву»" можна, зноў-такі, растлумачыць немагчымасцю паказаць ролю В. Іваноўскага ў жыцці Я. Купалы. Насамрэч пасля Пецярбурга Я. Купала жыў у Акопах. І пісаў 2 чэрвеня 1913 г. Б. Эпімаху-Шыпілу: "Сяджу дома, ...і чакаю ў моры пагоды" [29]. І ў тым жа лісце пытаўся: ці пераехаў у Вільню пан Іваноўскі? А В. Іваноўскі меўся ўзначаліць і 1 ліпеня 1913-га сапраўды ўзначаліў заснаванае ў Вільні Беларускае выдавецкае таварыства. І на пачатку кастрычніка ён на правах старшыні запрасіў на пасаду сакратара БВТ Я. Луцэвіча ды прапісаў яго ў сваёй кватэры. У мяне няма сумнення, што і да прызначэння Я. Луцэвіча рэдактарам, а потым і рэдактарам-выдаўцом "Нашай Нівы" таксама непасрэднае дачыненне меў сябар

ЦК БСГ В. Іваноўскі. Памятайма, што гэта В. Іваноўскі заснаваў для Я. Луцэвіча і часопіс "Рунь" у 1920 г.

Гісторыка-літаратурная навука не стаіць на месцы. Ужо амаль чвэрць стагоддзя як знятыя табу на імёны і творы, як адчыніўся перад даследчыкамі архіўныя спраты (на жаль, пакуль што не ўсе), і пры перавыданні гісторыка-літаратурных твораў неабходна ўлічваць новыя публікацыі, выяўленыя факты. Сёння некаторыя выказванні Р. Семашкевіча проста неабходна ўдакладняць.

Напрыклад, калі я чытаю сказ "Некалісь мы з Цёткай Пашкевічанкай хадзілі па мінскіх фабрыках і заводах...", дык магу сказаць, што П. Бадунова тут хутчэй за ўсё недакладна пераказала словы А. Бурбіса. Цётка магла хадзіць з Бурбісам па віленскіх фабрыках, і тое ў 1905 г. Пра яе працу ў Менскім камітэце БСГ, які Бурбіс узначальваў у 1906 г., сведчанняў няма. Цяпер ужо даведзена, што газета "Свабода", якую спрабавалі выпусціць В. Іваноўскі і яго таварышы ў канцы 1902 г., была б першым выданнем не будучай арганізацыі Круг беларускай прасветы, а БРП. Вядомая цяпер і дата смерці Я. Хлябцэвіча (Р. Семашкевіч пісаў прыблізна, што ён памёр "у 50-х гг. у Маскве"). Назваць Тарашкевіча аўтарам "першай граматыкі ў гісторыі беларускай мовы пасля старажытных часоў" цяпер таксама немагчыма, бо некаторыя лінгвісты лічаць, што першую граматыку пісаў А. Луцкевіч, які, дарэчы, вітаў выхад граматыкі Тарашкевіча і заклікаў усе беларускія інстытуцыі кіравацца ёю. Мажліва, незнаёмствам з адпаведнай літаратурай (напрыклад, з успамінамі В. Ластоўскага і М. Шылы) тлумачыцца цверджанне Р. Семашкевіча пра тое, што Б. Эпімах-Шыпіла "прывіў" Купалу любоў да кнігі. Гэтая любоў была ў Я. Луцэвіча з маленства. Маючы больш шырокае кола крыніц, Ю. Туронак ужо даўнавата давёў, што суполку "Загляне сонца..." нельга лічыць "вельмі беднай арганізацыяй", як тое зрабіў Р. Семашкевіч. Пішучы ж, што "мы не можам лічыць значным цэнтрам каталіцкую газету «Biełarus»", Р. Семашкевіч выпусціў з-пад увагі тое, што з гэтае газеты пачалося станаўленне Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, у 1920-х і 1930-х гг. даволі ўплывовай сілы ў Заходняй Беларусі. Зрэшты, ён мо і не выпусціў гэта з-пад увагі, а напісаў таму, што пра "Biełarusa" трэба было напісаць хоць гэтак, каб паказаць, што перад Першай сусветнай вайной выходзілі ўжо дзве беларускія газеты. А вось казаць, што ў Піцеры "сабраліся значныя літаратурныя сілы на чале з Янкам Купалам" не варта было б, бо ў канцы 1912 – пачатку 1913 г. Якуб Колас жыў у Пінску, Максім Багдановіч – у Яраслаўлі, Алесь Гарун і Язэп Лёсік – у Сібіры, Змітрок Бядуля, Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч і Цётка – у Вільні, Ядвігін Ш. – у Карпілаўцы, Максім Гарэцкі – у Горках...

Усе ўдакладненні, якія я зрабіў у гэтай рэцэнзіі, належала б зрабіць у кнізе "Янка Купала і беларускае адраджэнне" ў выглядзе або каментароў, або грунтоўнай прадмовы ці пасляслоўя. Цяпер жа нам застаецца толькі падзякаваць маладзечанцам за памяць, за ўвагу да спадчыны Р. Семашкевіча ды выказаць спадзяванне, што некалі выйдзе больш грунтоўны том (а мо і двухтомнік) ягоных твораў і ў ім знойдзецца месца для навуковых каментароў.

Спасылкі і заўвагі:

1. Падрыхтаваныя Р. Семашкевічам успаміны А. Бурбіса "Колькі слоў аб беларускім тэатры і хоры" апублікаваны ў: Дзеяслоў. 2010. № 5(48).

2. Гл.: П. Б. [Бадунова П.] Памяці А. Бурбіса // Адраджэньне: Літаратурна-навуковы весьнік Інстытуту беларускае культуры. Сш. першы. Менск, 1922; Луцкевіч А. Аляксандар Бурбіс // Беларускі Звон. 1922. 22 красавіка; Хлебцевич Е. Памяти А. Л. Бурбиса // Каторга и ссылка. 1923. № 5.

3. Жылуновіч З. Алесь Бурбіс (Рэвалюцыйная характарыстыка) // Полымя. 1927. № 2.

4. Байкоў М. Памяці А. Бурбіса // Вестник Народного комиссариата просвещения. 1922. Вып. 5–6.

5. Вільня, 16(29) лістапада (ноября) // Наша Ніва. 1906. 17(30) лістапада. № 2; Вільня, 13(26) апрыля // Наша Ніва. 1907. 13(26) красавіка. № 15; Уласаў А. Вільня, 25 апрыля // Наша Ніва. 1908. 25 красавіка. № 9; Вільня, 11(24) сенцября // Наша Ніва. 1908. 11(24) верасня. № 19; Апошні адказ «Белорусской Жизни» // Наша Ніва. 1911. 3 лютага. № 5.

6. Вільня, 4(17) мая // Наша Ніва. 1907. 4(17) мая. № 17; У Думе і каля Думы // Наша Ніва. 1908. 20 чэрвеня. № 13; Г. Б. З газет // Наша Ніва. 1911. 6 студзеня. № 1; Г. Б. З газет // Наша Ніва. 1911. 13 студзеня. № 2; Г. Б. Pro domo sua // Наша Ніва. 1911. 27 студзеня. № 4; Г. Б. Не падзяліліся!.. // Наша Ніва. 1911. 2(15) чэрвеня. № 22.

7. Адказ на навагоднія "павіншаванні" // Наша Ніва. 1912. 5(18) студзеня. №1.

8. З газет // Наша Ніва. 1912. 19 студзеня. № 3; Г. Б. Новы хаўрус "нацыяналістаў" // Наша Ніва. 1912. 22 сакавіка. № 12–13; Згодны канцэрт // Наша Ніва. 1913. 20 лютага. № 8; а-н-а. Старая работа // Наша Ніва. 1913. 8 сакавіка. № 10; З газэт (Спорка аб беларусах) // 1913. 12 красавіка. № 15. Не вызначана аўтарства артыкула "Хто страшней" (Наша Ніва. 1913. 15 сакавіка. № 11), падпісанага крыптанімам Б.С.

9. Бальшавік Беларусі. 1948. № 8. С. 62.

10. Складальнікі тэзісаў выпусцілі з-пад увагі, што ў 1913 г. пачала выходзіць другая легальная беларуская газета – "Biełarus", вакол якой гуртаваліся каталіцкія клерыкалы, будучыя дзеячы Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці.

11. Так у часопісе.

12. Бальшавік Беларусі. 1948. № 8. С. 63.

13. Гл.: Крыніца. 2000. № 11–12. С. 156.

14. Гл.: Станкевіч С. Савецкае асуджэньне "Нашай Нівы" й спробы ейнае рэгабілітацыі // Янка Купала і "Наша Ніва": Міжнародная навуковая канфэрэнцыя 7–8 кастрычніка 1996 г. Менск, 1997.

15. Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. Выд. 2-е, дапоўненае і папраўленае. – Вільня: Інстытут беларусістыкі – Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2010. С. 170.

16. На ўвазе маецца тое, што 12 снежня 1904 г. царызм легалізаваў беларускі друк як кірыліцай, гэтак і лацінкай.

17. Гл.: Станкевіч А. З Богам да Беларусі. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. С. 269.

18. Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 119.

19. Гл.: тамсама. С. 122.

20. А. Луцкевіч у некралогу "Валадзімір Хлябцэвіч" (Гоман. 1918. 13 верасня) паведамляе, што ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце існаваў таксама "Гродненскі кружок пазнання Беларусі".

21. Гл.: Станкевіч А. З Богам да Беларусі. С. 481–483.

22. Луцкевіч А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва. – Мн.: Кнігазбор, 2006. С. 237. Да таго часу, як Я. Купала прыехаў у Пецярбург, В. Іваноўскі стаў інжынерам. У 1909 г. ён абараніў доктарскую дысертацыю, а трохі пазней стаў дацэнтам Тэхналагічнага інстытута ў Пецярбургу.

23. Гл.: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 123. Зноска 61. У артыкуле А. Луцкевіча "Роля моладзі ў пачатках адраджэнскага руху", на які Ю. Туронак таксама спасылаецца, згадкі пра "суботнікі" ў В. Іваноўскага няма, але паказана яго роля, а таксама роля Цёткі, Б. Эпімаха-Шыпілы і Я. Хлябцэвіча як арганізатараў беларускай моладзі ў Піцеры. Артыкул змешчаны ў цытаванай тут кнізе А. Луцкевіча "Да гісторыі беларускага руху".

24. Гл.: Станкевіч А. З Богам да Беларусі. С. 481.

25. Гл.: Ластоўскі В. Выбраныя творы. – Мн.: Беларускі кнігазбор, 1997. С. 198.

26. Тамсама. С. 201.

27. Цалкам гэты ліст апублікаваў у зборніку "Пуцявінамі Янкі Купалы" Генадзь Кісялёў. Каб абысці цэнзурную забарону, ён напісаў у каментары, што на ўвазе маецца Іваноўскі Юры Леанардавіч. Так, брат Вацлава ўваходзіў ва ўправу выдавецкай суполкі, але, як паказаў Ю. Туронак, яго ўдзел у працы "Загляне сонца..." быў намінальны, і насамрэч Я. Луцэвіча ў Піцер запрасіў старшыня суполкі В. Іваноўскі (гл. Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 119, 185).

28. Гл.: Купала Я. Поўны збор твораў. У 9 т. Т. 9. Кн. 1. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2003. С. 231.

29. Купала Я. Поўны збор твораў. Т. 9. Кн. 1. С. 236.

Ала Петрушкевіч



...заўсёды адзінокі чалавек
застаецца сам-насам
са сваёю адзінотай...

# Каханне і смерць Едруся Мазько

***Мазько, Э. Займеннікі. Вершы / Э. Мазько. – Гародня; Варшава: Studium Europy Wschodniej UW, 2004-2012. – 90 с.***

Едрусь[1] Мазько з кагорты паэтаў аднае кнігі (нашаніўская традыцыя, калі толькі Купала і стаў выключэннем), якую ён падрыхтаваў, але не дачакаўся. Затое маем мы, чытачы, каб ведаць, што ў Гародні жыў вельмі цікавы паэт з адметным талентам, з адметным успрыняццем свету, святла і цемры, і чалавека, што ў іх і між імі шукае сябе.

Ад пачатку пагодзімся з Анатолем Брусевічам, які, як ніхто з гарадзенцаў, ведае і разумее творчасць Едруся Мазько. Яе “можна акрэсліць як паэзію сюррэалізму: вершы аўтара “Займеньнікаў” поўняцца алюзіямі і іншымі цікавымі стылістычнымі фігурамі, характэрнымі для згаданага кірунка. Разам з тым, Эдзік Мазько паэт наскрозь беларускі”[2]. Разумеем тут не

[1] Тут і далей імя паэта напісана так, як ён назваўся аўтарцы пры знаёмстве.

[2] Брусевіч, А. // https://plus.google.com.

супярэчнасць: які б літаратурны напрамак ні быў блізкім паэту беларускаму, ён заўсёды застаецца прывязаным да гэтага Краю, ён не можа быць касмапалітам. Занадта балючаю ёсць рэальнасць, стрэмкаю, ад якое не пазбавішся. Таму і патрапіў у кнігу верш “Дзень волі”, пад якім дата 25.03.1998. Гэта быў апошні шматлікі паход беларусаў у Гародні, які, зразумела ж, нікуды і ні да чаго не прывёў. Паэт малюе тое шэсце праз успрыняцце яго вачыма старое габрэйкі:

нястройны натоўп
паціху ідзе тратуарам
і вецер калыша сьцягі
дзе пасам па белым разьлілася кроў
нястройны натоўп
аточаны –
нібы ручнік вышыванкай –
мясцовай міліцыяй

Позірк старое габрэйкі выхоплівае з-за вакна тое, што яна ўжо бачыла ў сваім жыцці. Час адкручвае кінастужку назад. Рэтраспекцыя даўніх балючых падзеяў. Бо амаль нішто з тых часоў не змянілася:

ідуць беларусы
а ёй падаецца –
габрэяў у гета вядуць

Лёс Краю балеў паэту заўсёды. Непрытульнасць на сваёй зямлі, у сваёй Радзіме, пакінутай светам, “*здраджаным Эўропай*”, перададзена ў вершы “Беларуская арытметыка”. Пошук шляху да свайго Дому, “*утульнага і гасьціннага*”, расцягнуўся ў прасторы і часе надоўга, на бясконца, бо няма туды ўваходу. Такая вось інтэрпрэтацыя па-беларуску біблейскага матыву блуднага сына з адваротным, зусім не шчаслівым фіналам. Шлях беларускі ператвараецца ў замкнутае кола:

зноў апынуцца
перад пасьпешна замкнёнаю брамай
і злоўленым, зьбітым, зьняволеным
рухацца ў іншым напрамку

і гэтак – бясконца

Відавочная старанная праца аўтара па ўкладанні кнігі. Прадуманыя назва, кампазіцыя, раздзелы. Іх чатыры: “Я”, “Ён”, “Яна”, “Яны”.

Назваўшы кнігу “Займеннікі”, аўтар падказвае зменную сэнсавую напоўненасць паняццяў у залежнасці ад розных поглядаў, ракурсаў, часава-прасторавых вымярэнняў. Бо гэта выключная часціна мовы, адзіная з самастойных, што не мае пэўнага, дакладна акрэсленага значэння, а толькі ўказвае на знакі-сэнсы. Тым самым дае магчымасць чытачу разумець гэтыя сэнсы па-свойму. Так і паэт, толькі ўказвае, у якіх ролях для яго гэтыя займеннікі могуць выступаць.

Уступны верш-эпіграф – “Прысьвячэньне”. Зварот да чытача. Не столькі тлумачэнне, колькі папярэджанне, чым ёсць ягоная паэзія. Бо нішто ў свеце не ствараецца знову, бо ўвесь “будаўнічы матэрыял” даўно вядомы:

мой верш
сатканы са словаў
будзённых і шэрых
звычайных словаў
якія ты чуеш штодня...

Але сэнс у тым, як гэты верш саткаць, як гэтыя звычайныя словы зрабіць паэзіяй, як прапанаваць яго, той каштоўны дар, які кошту не мае, бо самакаштоўны, самадастатковы. Як супаставіць словы між сабою, каб яны, "насельнікі" самых розных "сонечных (слоўных) сістэмаў", носьбіты розных аддаленых сэнсаў, падпарадкоўваліся прынцыпу свабодных асацыяцый, каб спалучалася неспалучальнае. Паэт імкнуўся выявіць логіку, здавалася б, блытаных думак, каб стварыць сваю, новую паэтычную рэальнасць.

У Едруся Мазько гэта адбываецца надзвычай проста і шчыра, стрымана, лаканічна. Але з глыбокай павагай і нават пяшчотаю да чытача, якая праступае таксама ў займенніку, але ўжо прыналежным. А што можа быць больш дарагім, чым тое, што *наша*, тым больш – *маё*:

мой верш
сатканы з гэтых словаў
я ахвярую табе
мой чытач

Першы раздзел "Я". Зразумела, для кожнага гэта цэнтр свету, пункт адліку. Гэтае *я* паэт і імкнецца раскрыць, напоўніць сэнсам. Зачынны верш і самапрэзентацыя: кім быў, кім ёсць, і прэзентацыя чалавека, які мае асабовасць, самасць, які *Я*. Які хоча гэтае *Я* ўсвядоміць. Адлучаючы сваё ад усіх і адначасна непарыўна з кожным іншым. Каб зразумець, кім ёсць чалавек наогул. Вось жа, ад пачатку паганцам, які не мае моцы, бо залежыць ад усяго, што навокал, ва ўсім бачыць сілу, вышэйшую ад сябе, што кіруе, ды не заўсёды мілуе. Гэта дзяцінства чалавека. Далей, з часам, у ім абуджаецца прага, імкненне быць моцным, узняцца над вышэйшаю сілаю, вызваліцца ад яе, нат праз знішчэнне. Ніцшэанства тут удаванае – гэта не ягонае, асабістае. Гэта і не ягоны герой. Але гэта магчыма ўзгадаваць у кожным, калі чалавек бярэцца за зброю і праступае Закон:

я ўзяў сякеру
я забіў Бога
я стаўся моцным

А вось заключны акорд цалкам зразумелы. Бо чалавек-творца, чалавек, які шукае сэнсы, ніколі не мае спакою: "*І згубіў спакой*". І гэта не толькі пра таго, хто забіў у сабе Бога.

У кнізе мноства скразных матываў. Найперш гэта экзістэнцыяльныя матывы адзіноты, холаду, цемры, дажджу як адной з выяваў таго ж холаду. Герой, які ведае, што такое холад, асабліва прагне цяпла. Ён здольны знішчыць, спапяліць сябе, каб толькі даляцець да агню. Бо невыносна, бо

на душы –
толькі дождж
кладзецца няўтульным святлом
пыл адзіноты

Гэты прыклад ілюструе адметнасць мовы паэзіі Едруся Мазько. Ёй характэрна метафарычнасць, якая абсалютызуецца сюррэалістамі, даведзеныя да парадаксальнага супастаўлення прадметы, не сумяшчальныя між сабою. Гэта з верша "Туга па агню", дзе агонь – каханне. Далей сустракаем той жа лірычны сюжэт, але ўжо вобразна дакладна акрэслены. Верш, у якім дзве страфы, дзве часткі, якія адбіваюцца адна ў другой. Чалавек – гэта той позні кастрычніцкі матыль, што спапяляе сябе агнём ліхтарні. Агонь, такі чаканы, стаецца не ратавальным, а пякельным, знішчальным. Бо ўжо нанізаныя ўсе пацеркі на нітку лёсу і падведзеная рыса вандроўкі-жыцця:

а час надыдзе –
падарожным
пагрукаю
у браму пекла

Жыццё – штодзённае кола, і штодзень тое кола запаўняецца пошукам сэнсу, які заўсёды той самы – адзінота, што неадступна прыцягвае і раніць, але ніколі не адпускае. У вершы "Дзень" *дзень* – зусім і не дзень, бо ў сюррэалістычнай паэзіі паняцці часава-прасторавыя адносныя, як і свет, і чалавек у ім. Усё траціць свае межы, усё змяняецца, усё зрушваецца. Заўсёды адзінокі чалавек застаецца сам-насам са сваёю адзінотай:

калі вечар даесьць гэта сонца,
адрыгнуўшы прахалоду
і ночы счарнелай ікру,
я губляю
сваю калючую адзіноту
каб заўтра,
нараньні,
спачатку пачаць усё

Пачуццё героя цяплее ў матывах-згадках пра вясковае мінулае, калі памяць вяртае час, у якім не пачуваўся адзінокім, калі дом быў ветлым і цёплым, бо палілася ў грубцы, і суладна ўжываліся там шчасце і спакой (верш "кожным самотным вечарам..."). Але гэтая ідылічная карціна, зразумела ж, існуе на мяжы рэальнасці і мроі. Адзінокі герой сутыкаецца не з таямнічым і загадкавым, а з добра вядомым, але назаўсёды адабраным імклівым часам.

*Ён* у паэзіі Едруся Мазько не сябра, не вораг, *ён* – горад. Матыў горада таксама скразны. Ягоны ўлюбёны горад Гародня – найлепшы прытулак для паэтаў. Бо ў іншых пачуваўся як іншацела, чужаніца, дзе ніштo не дапаможа пераадолець шлях да вышыняў:

па цаглянай сьцяне
не сягнуць мне вышыняў –
здрадная цэгла чужая

Знакамітае Караткевічава, што сталася назвай ягонага рамана, якое кім толькі ні згадваецца з розных нагодаў, паэтам інтэрпрэтавана адметным чынам. У сваім сне-трызненні, а гэта натуральны стан асобы сюррэалістычнай паэзіі, герой бачыць не прыйсце Хрыста, а Ягоны сыход:

крохкі сьнег не пільнуе сьлядоў
сьціхаюць перад Ім завірухі
Ён азіраецца –
Хрыстос пакідае мой Край

Сумяшчэнне сну і рэальнасці – адна з адметнасцяў сюррэалістычнай паэзіі. Гэткім чынам дасягаецца тое адзінства душы і свету, да якога імкнецца творца. На фоне такога сумяшчэння розных станаў паўстае абсурднае спалучэнне натуралістычных з'яваў, калаж, пры дапамозе якога і ствараецца новая вобразнасць. І тут невыпадкова, што амаль усе "гарадзенскія" вершы "часам дзеяння" маюць ноч – зацемненую рэальнасць, калі прадметы і так, натуральным чынам, цемнатой, скажаюцца, змяняюць форму, абрысы, а, значыць, і сутнасць. Як у вершы "Начавы пейзаж":

з перакуленай лыжкі на горад
высыпала ноч –
каралеўства чорнага спакою

і музыка небыцця
зачараваная ў кола ўцёкаў

Загадкавасць, прыгажосць, таямнічасць вобразаў створаная незвычайнай метафарычнасцю. Літаральна ўсе вершы гэтага раздзелу: "ляцелі тры белыя птушкі...", "далёка за поўнач...", "начныя гукі...", "у водары ночы спатолю жаданьні..." і інш. напоўненыя пачуццём балюча-самотным, у такія ж мелодыі зліваюцца ўсе начныя гукі. І гэты бязладна-зладжаны аркестр выконвае не начную песню, серэнаду – яркае, грацыёзнае прызнанне каханаму гораду, а самотную санату, дзе не чуваць ні аднае мажорнае ноты, дзе палітра карціны не змяшчае ні аднае яркае фарбы:

кроплі дажджу
на блясе акна
адбіваюць
рытміку самоты
бледны ліхтар
ў атачэньні
ліпавых гольляў
згукаў аўто
і выцьці цягнікоў
гэтаксама самотных

Хіба нікому з гарадзенскіх паэтаў не дадзена было так, невыносна балюча, кахаць Гародню.

*Яна* (а гэта ўжо трэці раздзел кнігі), зразумела, жанчына. Каханая, адзіная, муза. Ягоная муза імя мае пяшчотнае, працягнутае насустрач – Галіна, якое прыцягвае, вабіць здалёку.

*Яна* – гэта і тая, што ўзгадоўвала яго, унука, у вялікай любові. Гэта любоў. Да родных, крэўных. Едрусь вельмі шанаваў, любіў сваю бабцю Юзэфу, якая заставалася з ім і пасля сыходу. Партрэт старое кабеты не мае дакладных рысаў. Яна ў штодзённай просьбе да Бога, не для сябе, для блізкіх:

малітоўна склаўшы свае нямоглыя рукі
яна штовечара моліцца Богу
і просіць у Яго
здароўя блізкім
шчаслівай дарогі дзецям
якія разляцеліся з праменьнем вясновага
сонца
у далёкі і блізкі свет

Тут і глыбокая пяшчота, і шкадаванне, бо нямоглыя, спрацаваныя рукі, і малітоўная радасць, такая несыходная, нязгаслая, бо ў вобліках іншых старых кабетаў ён бачыць яе. Пра гэта ў фінале верша.

Паэту мала было насыціць вобраз *яе* толькі традыцыйным сэнсам: каханая. Бо каханне – гэта растварэнне, знікненне, смерць. Каханне і смерць – Багдановічаў матыў, не дадзены чытачу тады, калі ён павінен быў сцвердзіцца ў нашай паэзіі, сто гадоў таму. Бо занадта быў адкрытым у самым патаемным для тутэйшае грамады, да страху цнатлівае і закамплексаванае. Едрусь не быў арыгінальным. Ён любіў Багдановіча, як усе гарадзенцы. Ішоў услед, не наследуючы слепа. *Яна* павольна і незваротна перамяняецца на смерць. Каханне саступае смерці. Як і ў нізцы нашаніўскага класіка. Становіцца гераіняй, валадаркай, з чыіх абдымкаў не вырвешся.

Паэт імкнуўся спазнаць яе, шукаў яе сляды, вызначаў іх колер. Атрымліваўся адназначна (у яго надзвычай значны) чорны:

адно-ткі ён заўсёды існы –
***ЧОРНЫ*** колер –
першы і праўдзівы
сьлед сьмерці

Колер цемры, што столькі знакаў хавае. Гэта з трыпціху “Сьляды сьмерці”, які ахвяраваў свайму сябру паэту Толіку Брусевічу. Прэпараванае мастацкай свядомасцю чалавечае цела, як на карцінах Сальвадора Далі, дзе з натуралістычнай падрабязнасцю і адначасна метафарычна выпісаны ўсе ягоныя складнікі, што прагнуць вырвацца на волю. Цела чалавечае як сістэма, дзе ўсё ўзаемазвязана, пераплецена, сціснута пэўнымі рамкамі, межамі. Фантазія паэта стварае хваравіта-жахлівы свет. Гэта ўжо ў другім следзе:

пад абалонкаю нацятай скуры
схаваны мускулы
што апляліся зьмеямі
вакол карэньня-костак
і прагнуць вызваленьня –
прарваўшы вабны покрыў
выбухнуць фантанамі крыві
й аголенага мяса

Цэнтральны верш у гэтым раздзеле “Спроба ідэнтыфікацыі сьмерці”. Няма тут жаху смерці. Яна толькі вобраз. Ёсць спроба з нейкага пэўнага пункту адліку вылічыць, убачыць, што ж адбываецца на той мяжы, у часе тае сустрэчы. Цікавая, удалая спроба стварыць тую новую рэальнасць з парадаксальным сутыкненнем розных вобразаў, думак. Сапраўды, неверагодная аддаленасць прадметаў, іх лагічная несупастаўляльнасць (смерць – тралейбус) і ствараюць вобраз вялікай эмацыянальнай напружанасці і паэтычнай рэальнасці. Эпітэты вельмі “дакладна” (дакладнасць тут таксама парадаксальная) характарызуюць стан сыходу:

сьмерць – гэта тралейбус
з патушанымі фарамі
і бяз сьвятла ў салёне
пусты тралейбус
нерухомы і стомлены
тлумам і мітусьнёю

Чалавек ад самага пачатку знаходзіцца ў гэтым тралейбусе. У абдымках смерці. Адно невядома, калі ён (тралейбус-смерць) зрушыць з месца, каб праз рух перамяніцца з сваім адпаведнікам – жыццём. Бо пасажыр чакае руху, ён заўсёды падрыхтаваны, хоць і ніколі не ведае пра вызначаны яму час:

тралейбус
з шыльдаю “Сьмерць”
стаіць пасярод вуліцы
і я – ягоны пасажыр

Ідэнтычнасць жыцця і смерці – таксама скразны матыў кнігі. Бо ўсё пустата, цемра, нерухомасць, бо ўсе, заўсёды і ўсюды, даўно стамлёныя ад будзённасці, мітусні, якія знішчаюць усялякі сэнс і запаўняюць усё пустатою. Таму па розныя бакі жыцця адно і тое ж:

там такое ўсё як і тут
проста
ў іншы павернута бок –
мітусня

пустата
анічога цікавага

І выснова, якую якраз і мажліва зрабіць, адно знаходзячыся на тым пункце адліку, што над усім, – усё марная марнасць: "*аднолькава марныя / жыцьцё і сьмерць*". Спавядаючы эстэтыку сюррэалізму, Едрусь Мазько і аспрэчвае некаторыя яе асновы. Так, ён не абсалютызуе цудоўнае. Ён перафразоўвае сутнасць пастулата Андрэ Брэтона: "Няма нічога, апроч цудоўнага" на "Няма нічога, апроч пустаты".

І ў вершы (можна назваць яго "Малітва да цемры"), што завяршае раздзел "Яна", той жа матыў: жыццё і смерць заўсёды побач і гэткія ж бессэнсоўныя. Паэт пяе блаславенне цемры, бо яна пазбаўляе ад болю, ад фобіяў, жахаў, роспачы, якія нясе святло. Бо яна і пачатак, і канец:

будзь блаславёнай
ад сёньня і назаўшы
цемра
зь якой пачалося
і скончыцца ўсё
існае

Назва апошняга раздзела "Яны" – вобраз таксама шматаблічны. Гэта найперш сябры. Тыя, што прыйшлі ў ягонае жыццё ў Гародні. Сёння асабліва балюча чытаць верш "На дне" – *Ахвярую гарадзенскім сябром.* Як паэт-сюррэаліст, аўтар і прыводзіць сваіх сяброў на спатканне з загадкавай рэальнасцю, з надрэальнасцю. І яна зусім не цудоўная, бо – тая ж пустата, якая замяняе сабою і час, і прастору:

на дне
на самым-самым
сапраўдным дне
дзе ні ночы ні дня
ні вечара ні раніцы
мы спаткаемся там
на дне
на самым-самым
сапраўдным дне

Паэт якраз і знаходзіць, разумее *дно* як тое "*месца*" (бо зусім не месца, а нейкае новае пpасторавыяўленне), дзе жыццё і смерць, мінулае і будучае, рэальнае і ўяўнае зусім не ўспрымаюцца як супярэчнасці. Асноўны сінтаксічны прыём тут – паўтор сэнсава значных радкоў і ў пачатку, і ў канцы як бы строфаў, бо зразумела, што строфы не вылучаюцца. Той жа хаос вершабудовы, як і светабудовы, які, аднак, ад аўтара, творцы новае рэальнасці, патрабуе і новага парадку, новага шчаплення кантэкстаў. Паўторы ў канцы страфы гэтак жа належаць і пачатку новай:

на дне
на самым-самым
сапраўдным дне
і ў галаў
ня прыйдзе нікому з нас
спытацца ў сябе –
што мы робім
тут
на дне
на самым-самым
сапраўдным дне

У найбольш светлых вершах герой патанае ў меланхалічных мроях, настальгіі па страчаным. Так, верш “Саната ростані” перадае сум па даўнім, незваротным, па каханні. Абрамляючы твор словам *дождж* (яно тут вельмі дарэчы, бо гэта самая празрыстая (праз дождж відаць усё) і самая ненавязліва-кволая мяжа, якая можа паўстаць між людзьмі), паэт “замыкае”, “адгароджвае” ёю светлы лірычны сюжэт. Наогул, улюбёны прыём паэтычнага сінтаксісу ў Едруся Мазько – кальцавая кампазіцыя, калі напрыканцы рэхам вяртаецца пачатак, які ўжо мае іншы сэнс. Дождж можа быць і жыццядайным, насычаць жывое, а можа “*падаць атрутай*”, калі надыходзіць восеньская расстайная пара:

гэты дождж
не схавае нас больш
пад адным парасонам
і вецер
згубіўся ў чаканні
былога
а цягнік адышоў
і ў вакне тваім згасла
надзеі сьвятло
дождж

Зрэшты, вобраз дажджу ўсюды. У кожным раздзеле кнігі. Гэта суправаджальны матыў да ўсяго, што было. І будзе.

У чалавека Едруся Мазько было многа сяброў. У розных гарадах і краінах. Ён быў вельмі камунікабельным. А паэт Едрусь Мазько, ці ягоны герой, быў надзвычай адзінокім. Такое незвычайнае спалучэнне. Мо таму, што ведаў: усё змяняецца. І сяброўства таксама. Але як жа балюча і незваротна рвуцца і гэтыя, здавалася б, надзейныя, сяброўскія повязі, калі паўстае пытанне пра сутнасць. Кожны радок наступнага верша – самастойная страфа, бо за лаканічнасцю фразаў сэнсу вельмі багата. Ён і змяшчаецца ў гэтых падвоеных прабелах між радкоў. Чытайце:

сябры ад’язджаюць

мінаюць гады

сябры вяртаюцца

але ці сябры яны?

Яны – гэта і чужыя гарады. Якія любіў. Як Вільню, Львоў, Бельск, Люблін. Але, як усе гарадзенцы (не блытаць з тутэйшымі, што жывуць тут), любіў адно Гародню. Гэтыя гарады не былі чужымі. І таму, што там незваротна страчанае, але заўсёды прысутнае наша, як у Вільні. На якое няма прэтэнзіі, а ёсць толькі ўсведамленне, што гэта нашае. Таму так добра

блукаць сам-насам зь Вільняй
ігнаруючы Vilnius
проста блукаць
падсьвядома
сыцьвярджаючы Беларусь

І таму, што “*жыве Беларусь*”, хай нават *“побач з przecz*”, хамскім і жорсткім, як у Бельску.

“Займеньнікі” – гэта не проста кніга, а папярэджанне, прадказанне, развітанне. Зрэшты, так бывае хіба заўсёды з творамі сапраўдных паэтаў: пасля іх сыходу пачынаем бачыць і разумець, што яны ўжо ўсё ведалі, што ў іх радках усё было

выказана. Толькі справа ў тым, што ведалі, не ведаючы, бо той неспазнаны Нехта падказваў, дыктаваў ім, вадзіў іхняю рукою. Так, у раздзеле "Я" ў вершы "...нечаканы дотык" да дробязяў дакладна (супадаюць пара году, час сутак, "дыягназ") абмаляваны сыход паэта:

нечаканы дотык
страсянула цела
і болем працята сэрца
і ў шарую гадзіну
сонечны дзень перайшоў

Такім бачыцца сёння і верш "Прадвызначанасьць" з раздзела "Ён", бо ён, горад, і сапраўды стаўся месцам сыходу і адзіным сведкам. Але людзям нішто не можа быць вядомым, аж пакуль не спраўдзіцца. Як незразумела тое вулічным лямпачкам, бо ўключае іх не анёлак, які запальвае свечку, а людзі:

Бяззорнаю ноччу анёлак
запаліць над горадам сьвечку...
і ніводная з вулічных лямпачак
не зразумее,
што сьмерць прыйшла

Прыйшла, каб спраўдзіць тое, што заўсёды было законам: яна мацней за ўсё, мацней за каханне.

Перачытваю кнігу Едруся, разумею, чаму яе не было раней. У вершах ён заўсёды быў не тут, не з людзьмі. Таму і не выйшла гэтая кніга пры жыцці, бо было б цалкам відавочна, што глядзіць ён на жыццё ўжо даўно з іншага вымярэння, ужо ведае, што там, а тутэйшае асэнсоўвае праз каштоўнасці таго. І ўжо даўно абранніца ягоная смерць. А разуменне гэтага заўсёды мусіць прыходзіць пасля.

Алеся Лапіцкая



...хіба добра для Слова

быць зброяй?..

# Раман з памфлетам

***«Сімъ победиши»: раман, эсэ / Алесь Пашкевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 260 с.***

Раман «Сімъ победиши» – твор, які аб’ядноўвае, здавалася б, неспалучальныя рэчы. Тут і славянскія першадрукары, і вусаты кіраўнік вялікай постсавецкай дзяржавы, афонскі манастыр і крывавыя злачынствы Івана IV (Жахлівага), роздумы пра веліч Слова і выяўленне заўсёднай непрывабнасці імперскай палітыкі. У рамане злучаюцца, пераплятаюцца, тлумачаць адна адну дзве паралельныя гісторыі: героем першай часткі твора з’яўляецца маскоўскі цар Іван Жахлівы, героем другой – сучасны прэзідэнт Іван Мароз, які таксама прэзентуецца (прынамсі, замежнымі СМІ) як дыктатар і дэспат.

Храналагічна раман ахоплівае прыкладна паўтара стагоддзі: 1429–1571, 1963–2013 гады. Пісьменнік пералічвае важныя гістарычныя падзеі, вылучае шэраг патрэбных эпізодаў і нязменна трымае ў полі зроку як галоўных герояў, так і старажытнае Евангелле ад Яна. Прыгоды гэтай кнігі даюць магчымасць аб’яднаць сучасную і гістарычную часткі: рука-




піснае Евангелле трапіла ў Маскву разам з абозам Зоі Палеалог і выявіла вялікую цудадзейную сілу, навучыла чытаць маладога Івана IV і напярэдадні ягонай смерці знікла – і ўжо ў 60-я гады зацікавіла вышэйшае кола савецкай дзяржавы. Напрыканцы рамана кніга зноў з'яўляецца ў сталіцы і пакідае ў разгубленасці сучаснага ўладара: «Перад ім – шэрагі аднолькава апранутых манекенаў. Слухаюць, а ён не можа знайсці слоў... Злосна кусае вусны, пераступае з нагі на нагу... Маўчыць...». Даволі суровы фінал для твора, у якім праблема Слова – адна з галоўных...

Відавочна, што Алесь Пашкевіч імкнецца супаставіць не столькі дзве эпохі, колькі двух кіраўнікоў. Агульных рысаў у іх сапраўды багата: эгацэнтрызм, папулізм, празмерная самаўпэўненасць, нецярпімасць да крытыкі і апазіцыі, у выніку чаго ў партыі ўлады – адны мізэрнасці і падхалімы. Воляй гісторыі два Іваны – Мароз ды Жахлівы – атрымалі ўладу над цэлай краінай, але дбаюць найперш пра сябе, а не пра народ. Пра жыхароў уласнай дзяржавы кіраўнікі згадваюць толькі тады, калі трэба ўзмацніць сваё становішча – і ладзяць піры па ўсёй Маскве альбо загадваюць тэрмінова выплаціць пенсіі і заробкі з «сакрэтнага стабфонду».

Але, на вялікі жаль для чалавецтва, гэтымі рысамі рускі цар падобны не толькі да свайго сучаснага спадкаемцы, але і да большасці ўладароў з сусветнай гісторыі. Адзін з набораў тыповых якасцяў «кепскага кіраўніка» дазваляе прыпадабняць Івана Жахлівага не толькі да першага прэзідэнта, але і да безлічы іншых асобаў, надзеленых уладай. Пры гэтым, пісьменніку такі даводзіцца канстатаваць гуманізацыю славянскай культуры (здзейсненую не без удзелу «друкарскай кнігі»): сёння ўнутрыпалітычныя праблемы даводзіцца вырашаць больш літасціва, і ўжо не атрымоўваецца «галаваць без суду і правежу» ўсіх іншадумцаў. Вось толькі колькасць ахвяраў знешніх канфліктаў цягам стагоддзяў, бадай, не меншае...

Да цікавай высновы можна прыйсці і праз супастаўленне кульмінацыі сучаснага сюжэта з паралельным «гістарычным» месцам. Раман распачынаецца і сканчваецца няздзейсненым тэрактам: былы выкладчык першага прэзідэнта спыняе састаў метро і звязваецца з Марозам... Прапанова простая: кіраўнік дзяржавы павінны спусціцца на станцыю, каб выратаваць пасажыраў, што апынуліся ў небяспецы, і зрэшты выслухаць колішняга прафесара, які марна спрабуе сам-насам паразмаўляць з выхаванцам. Мароз, вядома, не выконвае патрабавання – дый Заяц насамрэч не збіраўся арганізоўваць злачынства і зрабіў усё выключна дзеля таго, каб прадэманстраваць мізэрнасць і баязлівасць прэзідэнта.

Нешта падобнае адбываецца з Іванам Жахлівым: татары паляць Маскву, цар хаваецца ў Ноўгарадзе і чытае там ханскае пасланне: «Я разрабаваў зямлю тваю і спаліў сталіцу. Ты ж не прыйшоў абараняць людзей сваіх. А яшчэ хвалішся, што цар маскоўскі!».

Побач з палітычнымі праблемамі цэнтральнае месца ў творы займае праблема Слова. Дзейнасць братоў-янітаў і славянскіх першадрукароў, праніклівыя размовы канстанцінопальскага патрыярха і ігумена Ніла прасякнуты пашанай да Слова і ўсведамленнем яго моцы. Але аўтар рамана імкнуўся не толькі давесці неабходнасць паважлівага стаўлення да прамоўленага ці напісанага. Разам з усім, Слова – гэта адвечная зброя, і афонскія манахі, Іван Жахлівы ці Іаан Федаравіч разумелі гэта не горш за чалавека постіндустрыяльнага свету. Інфармацыйная вайна – з'ява не толькі нашай эпохі, пачатак ёй паклалі яшчэ ідэолагі-летапісцы

(увасабляе іх у рамане дзяк Іван Віскаваты), якія намагліся то апраўдаць злачынства, то абмаляваць яго як добрую і карысную справу. Але час дае магчымасць абвергнуць любую хлусню, і канчатковая перамога пэўнага дыскурсу, бадай, ніколі не здзейсніцца. Тэксты працягваюць спрачацца адзін з адным праз стагоддзі і тысячагоддзі, вось толькі прыёмы гэтай барацьбы застаюцца нязменнымі і часцяком надзвычай прымітыўнымі.

Але «Сімъ победиши» – зусім не раман-эсэ: А. Пашкевіч не абцяжарвае чытача працяглымі разважаннямі адноснай арыгінальнасці, праблемы актуалізуюцца ў творы пераважна праз асобныя эпізоды і кароткія дыялогі. Вось толькі побач з выяўленнем сур'ёзных ідэй у творы багата месцаў, напісаных галоўным чынам каб пацешыць чытача і высмеяць непажаданых асобаў, праз што твор атрымліваецца месцамі глыбокі, а месцамі наўздзіў "плыткі". Так, пісьменнік закранае праблему царквы і вайны (ці можа святар бласлаўляць забойства аднаверцаў?), а побач дае эпізод з бараплацэнтай, патрэбны выключна дзеля таго, каб яшчэ раз падкрэсліць эгаізм і самалюбства прэзідэнта ды адзначыць сімвалічную імпатэнцыю кіраўніка.

Раман можна лічыць паралельным паводле развіцця сюжэтаў, але абедзве яго часткі ніяк нельга назваць сіметрычнымі, роўнымі па аб'ёму. І тут і там – чырвоныя коні, медзведзяватая паходка, годныя Кацярыны, але пісьменнік відавочна па-рознаму выяўляе мінулае і сучаснасць, распавядае пра іх у розных танальнасцях. Праз прызму часу даўніна бачыцца пісьменніку нібыта больш велічнай, універсальнай і яркай, чым бляклая сучаснасць. У выніку Іван Жахлівы – постаць значна больш каларытная і цікавая, чым шэранькі прэзідэнт Мароз. Іван Жахлівы – гэта сапраўдны мастацкі вобраз, між тым як Іван Мароз відавочна не дацягвае да галоўнага героя рамана.

Што тычыцца другасных персанажаў, то ў гістарычнай частцы твора ёсць дзейныя асобы ідылічна-гераічнага тыпу: гэта Сілуан, мітрапаліт Макарый, Міхаіл Глінскі, якія не баяцца катэгарычна ацэньваць царскую палітыку і велічна прамаўляць высокія ісціны. У сучаснасці ж іх месца вакантнае: у асяроддзі прэзідэнта такіх людзей дакладна няма, а прафесар Заяц не спяшаецца пераказваць тое, што ўжо было калісьці сказана. Магчыма, сёння наогул не засталося людзей, здатных шчыра нагадваць пра адвечныя каштоўнасці, а можа гэта проста не патрэбна пісьменніку ў сучаснай частцы твора?

Падчас чытання робіцца зразумелым, што сучасная і гістарычная часткі былі напісаны з рознымі мастацкімі мэтамі. У пэўнай ступені А. Пашкевіча зацікавіла асоба Івана Жахлівага, але яшчэ больш захапляльна было звязаць у адно ніці гістарычных сюжэтаў з мінулага суседніх краін. Твор адметны тым, што гісторыя Рэчы Паспалітай і ВКЛ пададзена тут у вельмі шырокім знешнепалітычным кантэксце – ад заваёвы Візантыі да каранацыі ў Швецыі Кацярыны, сястры Жыгімонта-Аўгуста. Строга кажучы, гістарычны раман пра Івана Жахлівага (старажытнае Евангелле? Лівонскую вайну?) мог бы быць у некалькі разоў большым...

Сучасную ж частку твора можна з лёгкай душой назваць памфлетам – насуперак таму, што пісьменнік па-майстэрску аб'яднаў абодва тэксты пад адной вокладкай і абвясціў раманам, гісторыя Івана Мароза належыць да зусім іншага жанру. Аўтар пад розным вуглом глядзеў на галоўных герояў, пісаў у розных модусах – таму паралельныя часткі твора так моцна кантрастуюць. Жанравыя эксперыменты, вядома, даўно нікога не здзіўляюць, вось толькі побач з праблемамі Слова, царквы, улады высмейванне нейкіх канкрэтных асобаў падаецца справай дробнай і неістотнай: не той маштаб...

Жанравая несуадноснасць, натуральна, выяўляецца і ў выразнай стылёвай рознасці двух аб'яднаных тэкстаў. Гістарычная частка напісана без прэтэнцыёзнасці,

але чыста, інфарматыўна і ў патрэбных пасажах прыгожа, што зусім не проста спалучыць. Атмасфера сярэднявечнага манастыра, таямніца Кнігі, выяўленне бясспрэчнай вартасці хрысціянскіх ідэй – усё гэта напачатку нават нагадвае «Імя ружы».

Пры гэтым, у сучаснай частцы пераважае своеасаблівы публіцыстычны стыль, усё вельмі дынамічна. Звяртае на сябе ўвагу найперш шаржаваная мова Івана Мароза – эмацыйная, грубаватая, багатая прастамоўямі і сучаснымі выслоўямі, сапраўды народная мова народнага прэзідэнта. Менавіта праз мову і раскрываецца гэты персанаж – чалавек сярэдняга інтэлекту, які па-панібрацку ставіцца да любога суразмоўцы, а ў палітычнай практыцы карыстаецца падкрэслена прымітыўнымі схемамі пераканання электарату і банальнымі папулісцкімі лозунгамі.

Так, цягам стагоддзяў Слова губляе вагу, робіцца хлуслівым, ліслівым, няшчырым, ператвараецца ў сродак – і хіба добра для Слова быць зброяй? Празаік мае дастаткова такту, каб ухіліцца ад пазіцыі сумленнага аўтара-маралізатара – што паробіш, кожны стваральнік больш-менш прыкметнага тэксту бярэ ўдзел у слоўнай вайне. Тэма Слова раскрываецца ў рамане своеасабліва і даволі правакацыйна, сам аўтар, здаецца, усведамляе, што ўсеагульнае стаўленне да Слова ніколі не будзе сумленным – але дзеліцца адвечнай узнёслай марай чалавецтва, прычым на ўзроўні яе сучаснага асэнсавання.

Дык – пераможам?

крытыка

Алена Ніякоўская



...кожны нясе гісторыю свайго Роду

ў сабе самім – для сябе...

# У пошуках нястрачанага часу

***Пра раман Алеся Аркуша «Палімпсэст»***

***Алесь Аркуш. Палімпсэст. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 164 с. – (Бібліятэка Таварыства Вольных Літаратараў).***

Паэт Алесь Аркуш напісаў свой першы вялікі празаічны твор. Раман «Палімпсэст». Назоў – метафара вельмі ёмістая, з добрымі традыцыямі. Згадваюцца радкі Анны Ахматавай, яе палімпсэсту: «Я на твоем пишу черновике, /И вот чужое слово проступает...» У метафары – абяцанне пазачасовасці аповеду і сувязі ў ім будучага і мінулага – у часе цяперашнім. Аповед – ад першай асобы. Твор паводле фактаў і падзеяў з жыцця аўтара.

Вызначаць кірунак, жанр, стыль – занятак няўдзячны. Існуе пэўная «дыфузія» літаратурна-мастацкіх рухаў і плыняў. Так, усё рухаецца – разам з гісторыяй, часам. І разам з намі. Пра гэта – раман Алеся Аркуша. Твор – без сумнення – рамантычны. Трэба аднак заўважыць, што існуе вялікая колькасць школ (тыпаў, кірункаў) рамантызму. Агульная іх рыса – сталенне героя ў барацьбе за чалавечую годнасць. Гэтыя тыпы акрэсленыя ў літаратуразнаўстве як




прэрамантызм, уласна рамантызм, неарамантызм. Але не будзем «рэзаць па жывым». Бо ёсць памежныя станы развіцця гэтых комплексаў ідэяў і выяўленчых сродкаў.

Прэрамантызм у мастацтве – адказ на здрабненне чалавека ў капіталістычных варунках. Герой – волат духу – выступае супраць прыродных і сацыяльных звышсілаў, сцвярджаючы ў духоўным выкліку сваю чалавечую годнасць. Характарыстыкі героя – пераважна псіхалагічныя.

Уласна рамантызм – вельмі шырокая і ўсталяваная плынь. Герой – таксама барацьбіт супраць варожай рэчаіснасці. Але ён больш вызначаны як асоба. Гэта заклік да індывідуальнай свабоды чалавека, і разам з тым – канкрэтызацыя ягоных пазіцый у сацыяльных адносінах.

Неарамантычны герой – асоба, вызначаная гістарычна і нацыянальна. Ён выступае супраць прозы і пошласці будзённага жыцця. І духоўна перамагае, абвяшчаючы новае жыццё ў новых абставінах.

У канцы XIX – пачатку XX стст. у мастацтве вызначаюцца новыя рысы – пераход да мадэрну, да авангардных накірункаў, да плыняў неарэалістычных.

Мадэрнізм адрозніваецца ад рамантызму, перш за ўсё, новым бачаннем чалавека. У мадэрнізме – выразнае адчужэнне героя ад свету і ад самога сябе, адмова ад рамантычных ідэалаў. Але ў літаратуры павінны існаваць таксама прамежкавыя станы, якія абяцаюць ёй новыя формы і шляхі жыцця. Прынцып «нярэзання па жывым» патрабуе ўбачыць гэтае «жывое». У зменлівым свеце мастак абавязкова нешта скажа – тут і зараз. І гэта будзе звяно, якога не стае. Дзе ж гэтае прамежкавае звяно? Так, гутарка пойдзе аб пострамантызме.

Сучасная філасофія, працягваючы традыцыі «філасофіі жыцця», абапіраецца на паэзію. Бо ў паэзіі прымаюць удзел (як у творчасці, так і ў чытацкім успрыманні) усе пласты свядомасці – ад пачатковага, ці не фізіялагічна-псіхічнага водруху, да высокіх абагульненняў. І мастацкая проза, згодна з нашым жыццём і часам, каб сябе ўзбагаціць, шукае апірышча ў паэзіі. Ці не адсюль – нярэдкі зварот паэтаў да прозы, празаікаў – да паэзіі?

Пісьменнікі-пострамантыкі пішуць сёння на высокіх «чарнавіках» папярэдніх рамантычных плыняў. Іх герой, каб не згубіцца ў сацыяльна-культурніцкай эклектыцы, разглядаецца за новымі сістэматворчымі элементамі, не атаясамлівае сябе з «працэсам». Ягоныя пошукі – не толькі барацьба супраць знешніх звышсілаў – барацьба ідзе за самога сябе ў абшары ўласнай душы як у мікракосме. Галоўнае – самастанаўленне і самавыхаванне. У гэтым – першасны, асноўны сэнс «палімпсэсту» – і героя, і аўтара.

Пострамантызм не з'яўляецца плынню ўсталяванай і шырокай. Мяркую, што больш поўнае тэарэтычнае абгрунтаванне пострамантызму адбудзецца ў рэтраспектыве, пры вонкавым поглядзе на гэтую літаратурную з'яву. Прэрамантызм, дарэчы, быў «выяўлены» такім менавіта чынам...

Пісьменнік Алесь Аркуш паказвае, як ягоны пострамантычны герой Алесь шукае свету – у сабе і сябе – у свеце. «Насамрэч наша жыццё пераважна дзеецца ў нашым уяўленьні, нашых марах, нашых снах. Калі думка чалавека, як сьцьвярджаюць навукоўцы, рэч матэрыяльная, дык чым тады розьніцца рэальнасьць ад выдумленага?»

Барацьбу звышсілаў за чалавека герой рамана адчувае як пакуты ўласнай душы. І перамога прыходзіць тады, калі герой бярэ на сябе адказнасць за свае

ўчынкі. Так узбагачаецца ўяўленне аб ідэале. І «зорка, якая зіхаціць у дзённым небе, ляціць табе насустрач».

У творы няма дамінантнага мастацкага, стылявога, жанравага вырашэння. Сюжэт, як гэта сёння характарызуецца, вольны. Мэта аўтара – не храналогія, але ступень важнасці падзеяў і рознае іх перажыванне. Колькасць персанажаў, як гэта ўсталёўваецца ў пострамантызме, не можа быць і не ёсць сталай. Для персанажаў А. Аркуша як уваход у аповед, так і выхад з яго – вольныя. Героі з’яўляюцца, каб падкрэсліць тую ці іншую дэталь. І знікаюць, выканаўшы сваю ролю.

Галоўнае значэнне мае не кампазіцыя твора, а прынцыпы разгортвання аповеду. І – як вынік – яго пачуццёвая дынаміка. Лісты сяброў, старонкі дзённіка, сны, напаўдрымотныя і ўяўныя відзежы, дыялогі і ўнутраныя маналогі, разважанні аўтара...

Апрача лініі героя – яна галоўная – аповед трымаецца на дзвюх грунтоўных лініях. Гэта бег часу і імкненне да ідэалу. Герой адкрывае, што час можа існаваць асобна ад яго, не супадаючы з часам яго ўнутранага свету. Жыццё без нас не спыняецца. Пасля службы ў войску Алесь баіцца выпасці з «повязі часоў», бо доўгачаканая сустрэча з мінулым трагічна не адбываецца. А ў адзінага сябра – Дзімкі – Дзімыча, другога «Я» галоўнага героя, нават хвіліны часу для Алеся не знайшлося. Памёр Дзімыч – час ягоны скончыўся. Герой застаецца ў сваім уласным свеце – самотны, як усе людзі перад важным выбарам. Каб жыць далей, трэба «назапасіць» свой свет і час. Сімвалічнае ўяўнае спатканне з Дзімычам дазваляе герою зразумець, убачыць, як усё навакольнае знікае для яго, ператвараючыся ў нешта ці ў нішто. Немагчыма затрымаць час у матэрыяльных, прадметных рэчах. Таму кожны нясе гісторыю свайго Роду ў сабе самім – для сябе.

Гратэскавая, здзеклівая ацэнка людзей і з’яваў, іронія і самаіронія – так абараняе сябе герой, каб не выпасці з часу. Але герой не выракаецца ні мінулага, ні сённяшняга. Сённяшняе заўсёды напісана на мінулым – зрэзаным, але ўсё адно жывым. Панадчасавая пазіцыя існуе разам з прыналежнасцю да зямнога. Інакш можна апынуцца «...паміж сацыяльнымі прыступкамі, як над счэпкаю паміж вагонаў...»

Да гэтай высновы герой прыходзіць не адразу. Мы бачым, як фармуецца стаўленне Алеся да рэчаіснасці. Спачатку – юнацкі нонканфармізм – актыўная дэміфалагізацыя і дэкананізацыя ўстойлівых грамадскіх традыцыяў, звычных уяўленняў і вартасцяў. Далей гэтая рэзкасць саступае месца хаця й іранічнаму – але роздуму. Алесь вучыцца хаваць сваю душу за малазначнымі заўвагамі. Бо яны, гэтыя заўвагі, выклікаюць «розныя сур’ёзнасці і тлумачэнні».

Службе ў войску аўтар надае вялікую ўвагу. І нездарма, бо армія, як кожная ўстанова «закрытага тыпу» – здымак з грамадства, але больш выразны. Са звычайнай іроніяй ставіцца герой да вайсковай будзённасці. Але іронія адступае. І мы бачым, як насуперак армейскай руціне, невуцтву, здзекам герой вучыцца не быць апошнім. Адкрываецца «другое дыханне». Герой сталее.

Але «другое дыханне» – гэта не толькі перамога над сабою ў армейскім кросе. Гэтае «дыханне» адкрываецца тады, калі чалавек мае рацыю ў сваіх надзеях. Калі ён вызваляецца, выключаецца са «стаднасці». Калі ён мог бы сказаць сабе: «межы майго ўяўлення – гэта межы майго індывідуальнага існавання. Я мыслю інакш, адчуваю інакш – гэта значыць я існую». Тады, можа, і здзейсніцца юнацкая мара «...напісаць раман, у якім будуць галоўнымі героямі думкі. Толькі думкамі спрачацца, пераконваць, змагацца за месца пад сонцам». Так – думкамі. Бо выбар учынкаў – абмежаваны ў нашых будзённых магчымасцях. Каб выйсці з гэтага праклятага кола, адрынуць усе недахопы і кампрамісы сённяшняга, трэба мець ідэал. «Ідэал – гэта ўмоўная велічыня. Але ён павінен існаваць. Як арыенцір.

Як каардынаты быцьця». Толькі тады можна жыць у зменлівым свеце. Дзімыч, заўчасна памерлы сябар, ужо ведае ў сваім небыцці, што такое час страчаны. Як жа, чым прыпыніць час, уратаваць вытокі свайго Роду?

Ратунак – у творчасці. У дзейнасці, мэты якой перавышаюць норму часу цяперашняга. «Я... адчуў патрэбу пісаць-ствараць. Адчуў гэта непаўторнае пачуцьцё творчага парыву, гэты кайф быць богам у сваім прыдуманым сьвеце...» Пострамантызм не патрабуе маніфестаў. Яго галоўная рыса – імкненне мастака і героя – сам-насам з сабою – ператварыць свой унутраны свет у дасканалы. У творчасці – перамагчы сябе і свет.

Дзе межы мастацкай Творчасці? Кніга – не даведнік, не захапляльная прыдумка, не востры сюжэт, але імкненне – спроба сканцэнтраваць у душы і выказаць праз Слова «горныя вяршыні» ідэалу.

Свой ідэал чалавек можа ўбачыць у рэлігіі, мастацтве. І ў каханні. Бо каханне – гэта творчасць. Спаткаўшы – зусім нечакана – дзяўчыну, якую ён столькі год кахаў здалёк, герой не можа, не хоча змясціць-уладкаваць яе ў межах цяперашняга часу. Ідэал не можа стаць звычкай, будзённасцю. Каб не руйнаваць ідэалу, герой пазбаўляе яго працягласці. «У нядзелю на танцы я не пайшоў. А праз два тыдні назаўсёды пакінуў родны горад».

У канцы кнігі герой развітваецца са спадарожнікамі сваёй ранняй маладосці. Развітанне кароткае, стрыманае. Няма ўжо ніякага слэнгу. Няма пабытовасці. Няма разменнай гутарковай манеты. Стыль робіцца змястоўным, ёміста-простым. Як метафара палімпсэсту.

...На вокладцы – сябры. Алесь і Дзімыч. Позірк Алеся – надзея, давер, чаканне. А Дзімыч ужо глядзіць у іншы, не наш свет. Сядзіць, склаўшы рукі, нібыта ўжо ўсё на зямлі зрабіў.

Леанід Галубовіч



...прарочасць –
самая галоўная функцыя
літаратурнага мастацтва...

# Асвяжальныя “Кроплі дажджу”

***Мікола Кандратаў. Кроплі дажджу. – Мінск: І.П. Логвінаў, 2013. – 98 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 37).***

Апошнім часам пра сучасную літаратуру ў нас гаворыцца як не пра здзейсненую мастацкую з’яву, а як пра магчымую спробу яе рэалізацыі. Пішу такімі казённымі словамі, бо менавіта яны сёння пануюць у прылітаратурным атачэнні. У той час, як сама тая літаратура (такая, якая пакуль ёсць) занятая сваім вячэрнім туалетам, рыхтуючыся ні то да выхаду ў свет, ні то да сну...

Пачытайце анонсы, водгукі, прэзентацыйныя рэкламы-запрашэнні і рэцэнзіі на новыя кніжкі – і вы зразумееце (альбо не), што ўсе яны *ангажаваныя* тым ці іншым статусам альбо грамадска-палітычнай пазіцыяй таго ці іншага аўтара, – гэта найперш, а па-другое, там многае акцэнтуецца на публічным дзействе і – чаканым – творчым максімалізме аўтара, які пакуль што не рэалізаваны, аднак, магчыма, неўзабаве спраўдзіцца... Усе, больш ці менш, напрактыкаваліся ў сцэнічнай дэкламацыі, прыгожагаварэнні і нязмушаным артыстызме... Разумеюць, што яны з сябе ўяўляюць на сённяшні дзень




як творцы, і ў той жа час – *тут і цяпер!* – прагнуць часовага “трыумфу”... Пры ўсім інтэрнэт і сацыяльныя сеткі распладзілі і ўраўнаважылі сярэднестатыстычнага аўтара і чытача.

Наўрад ці правільна было б казаць, што такой ёсць толькі нашая мастацкая літаратура. Пераважна такой яна ёсць паўсюль, зважаючы хіба толькі на непараўнальны моўны пасыл ды прамоцыю. Прычына ляжыць на паверхні: прагматычная (нярэдка мусовая) уцягненасць літаратуры ў сучасную светабудову. Аднак бязмежжа наднацыянальнай глабалізацыі не робіцца панацэяй для мастацтва. Неўпрыкмет і паступова творчы чалавечы фактар нівелюецца з вытворчым. Хоць, як многім здаецца, прарочасць – самая галоўная функцыя літаратурнага мастацтва – не павінна была б мець такой татальнай залежнасці ад стану грамадства, маючы карані ў чалавечай маральнасці ды інтэлекце. І найперш, вядома, у Божым таленце. Аднак жа...

Таму сёння сур’ёзна гаварыць пра паэзію – гэта як настальгаваць па пяру і чарнільніцы, седзячы за маніторам кампутара. Пагадзіцеся, на паверку выйшла б, бадай, абсурдна і аддавала б ледзь прыхаваным адценнем іроніі...

І ўсё ж гаварыць пра паэзію, дзякаваць Богу, яшчэ час ад часу даводзіцца.

Мікола Кандратаў, пра зборнік вершаў якога я тут паспрабую паразважаць, амаль мой аднагодак. Калі чалавеку за пяцьдзясят, у яго пачынаецца не толькі фізічная, але і ўнутраная душэўная (у пэўным сэнсе і духоўная) “ломка”. Ён становіцца больш кансерватыўным, бо баіцца за страту свайго пражытага і наробленага (створанага), робіцца больш удумным, не такім паспешлівым у сваіх рашэннях, менш эмацыйным, і спакайнейшым:

> Мае развязка быць простай:
> розум з душой памірыцца.
> Узрост вымагае прозы,
> нібы замовы ад лірыкі.

Назавіце мне беларускага паэта за пяцьдзясят, які, як тая змяя, “не скінуў з сябе былую творчую (шагрэневую) скуру”. Я мог бы назваць двух. У. Някляева, які старанна мімікруе свае паэтычныя жэсты і рухі, аднак штучнасць і сілавыя намаганні гэтага дзейства ўсё ж заўважныя, і, бадай, А. Разанава, у якога гэта праяўляецца больш пэўна і больш натуральна, хоць, будзем шчырымі, Алесь Сцяпанавіч ад пачатку быў малаэмацыйным лірычным думаннікам...

М. Кандратаў у гэтым плане таксама не надта зменлівы з прычыны позняга паэтычнага выхаду на людзі (дэбютны зборнік “Возера Рудакова” пабачыў свет, калі паэту стукнула 45 гадоў). Мікола як прадаўжальнік класічнага традыцыяналізму ў беларускай паэзіі вызначаецца агульнапрынятай характэрнай беларускай ментальнасцю. Няма ў яго вершах бяздумных высокіх парыванняў, узлётаў і залётаў... У пераважнай большасці яго лірычная плынь цячэ роўна, без хвалістай бурапены і выхаду з берагоў, як тое нярэдка здараецца ў паэтаў ад Бога (і ў той жа час Богам выклятых ці непрыкаяных)... Яго пачуцці і роздумы маюць сваю пэўнасць і залежнасць ад таго ці іншага часу і той ці іншай прычыны. Але, чаго не адымеш у Кандратава, дык гэта душэўнасці, глыбіні, вернасці і выверанасці ўласных пачуццяў, настраёвасці і настроенасці на тэму, унутранай заведзенасці, а падчас і загадзя вызначанай высновы (рэзюмэ) верша на яго прыканцы...

Я люблю Кандратава як паэта і чалавека (хоць ведаю яго шапачна) за яго

блізкую мне чалавечнасць у стаўленні да сучаснага жыцця. А паэтычная яго творчасць прыцягвае мяне чысцінёй поглядаў, нацыянальнай годнасцю, чалавечай натуральнасцю і адпрыроднай зададзенасцю....

Вядома, можна быць добрым чалавекам і годным грамадзянінам, але так і не стаць тым паэтам, які “*меж детей ничтожных мира, быть может, всех ничтожней*”... Ды Бог з імі, з гамерамі, шэкспірамі, пушкінымі, купаламі, – тут хоць бы вартым увагі паэтам Кандратавым у нацыянальнай літаратуры застацца...

Ці не з гэтай занепакоенасці ён узяўся выбудоўваць свой мастацка-паэтычны свет, у якім для ірэальнай магчымасці мройлівага чытацкага жыцця панавала б хоць адносная гармонія, як, да прыкладу, выказана ў гэтым яго кароткім вершы:

На шалі душы маёй
вечнае ляжа,
як вобраз і думка –
што з іх пераважыць?
Як водбліск і рэха,
як голад і смага...
А сэрцу, як цэнтру,
мілей раўнавага.

Ствараецца (уяўляецца мажлівасць) таго свету, па бел-чырвона-белым сімвале якога мірна паўзе божая кароўка... І тут жа – цэлая гурма родных людзей, сяброў, калегаў па пяру... У зборніку пятнаццаць адных толькі адрасных прысвячэнняў-(запрашэнняў у гэты свет)... Ёсць яшчэ вершы прысвечаныя памяці, па ўсім відаць, у нечым блізкіх (ці апалагетных) аўтару паэтаў і літаратараў, як А. Сысу, А. Асташонку, А. Вазнясенскаму, В. Скалабану... І вось у гэтым, скажам так, прывідна-выштукаваным свеце ідзе сваё жыццё з усімі сваімі вобразнымі праявамі і млява-сюжэтнымі паваротамі-развагамі. Кандратаў разумее, што нешта новае, наскрозь сваё, стварыць, бадай, немагчыма, бо насамрэч:

Магчыма толькі паўтарыць
з таго, што свет паспеў забыцца.

У зборніку “Кроплі дажджу” шмат унутраных развагаў пра сутнасць паэзіі, пад час трапляюцца нават палемічныя маналогі, як у вершы “У адказ спадарыні М.”, што не часта ў нашай паэзіі сустракаецца. Сюды ж можна далучыць і экзальтаваны верш “Паэт-камікадзэ” з намёкам на паэтаў-Бум-бам-літаўцаў, хутчэй за ўсё, канкрэтна З. Вішнёва (магчыма, я памыляюся). Але, на жаль, ёсць вершы, якія не тое што не ўражваюць сваім пасылам, а найперш сваёй мастацкай вартасцю, як тое здарылася ў вершы “Рэверсі” з эпіграфам з В. Рыжкова. Заўважаюцца ў зборніку і іншыя прыкрыя пралікі, недагляды і недапрацоўкі. Асабліва кідаецца ў вочы навязлівасць сюжэтных ліній шмат у якіх вершах, звязаных з маной і падманам... Бываюць і проста няўдалыя вершы, асобныя строфы, радкі, словы, як вось тут:

І <u>сэрца</u>, ламаючы краты,
за ветрам памкне наўздагон,
і хвалі мінулых сімпатый
падхопяць, <u>як трэску</u>, яго.

Паўстае пытанне, чаму верш з назвай “У залаты альбом” з адпаведным зместам і маламастацкай вартасцю ўсё ж змешчаны аўтарам у кніжцы? Спакуса перасіліла нават уласную ацэнку твора... Верш, які, магчыма, быў напісаны да банкетнага тоста на юбілеі спадарыні Ірыны Андрончык. Дарэчы, у зборніку ёсць

яшчэ падобныя вершы, напісаныя з розных прычынаў. І бальшыня з іх, апроч выдатнага верша з прысвячэннем А. Квяткоўскаму, мае толькі адноснае дачыненне да паэзіі. Усе яны даволі наўпроставыя, візуальныя – без заглыбленасці, філасофіі і таямнічасці, адным словам, – рыфматворчасць пад настрой і сітуацыю. Не хацелася б, каб аўтар у наступных сваіх выданнях паўтараў падобнае, ды і рэдактару (і каму?! – Наталлі Кучмель, чалавеку і паэтцы, бездакорнаму ў паэтычнай чуйнасці) трэба было праявіць больш клопату да празмернага плёну аўтара і ў пэўных момантах засведчыць сваю крытычную настойлівасць. Тады ў кніжку не трапляла б, скажам, такое:

> Пустая хата
> чакае мяне,
> як бацька з матуляй
> калісьці чакалі.

Гэта ўвесь верш. Што ж новага ў ім сказана аўтарам? Анічога. Больш за тое, акцэнтаванае вобразнае слова *пустая* на зачыне верша ў параўнанні з *бацькамі* выклікае непаразуменне ў роздумнага чытача... Але спішам гэта на няўвагу аўтара да канкрэтнага слова ў канкрэтным выпадку ці аднясём да выпадковай аўтарскай глухаты..

Бо ўсё ж у зборніку шмат адметных, як бы мімаходных, вершаў:

> Можа, хтось з нашчадкаў мовіць,
> кінуўшы пагляд праз шыбу:
> "Тут смяяўся Хадановіч,
> файна дзеіў вершы Жыбуль"...

Даволі дакладная характарыстыка вядомых сучасных паэтаў новага пакалення і чарцёжнае акрэсленне стану самой маладой беларускай паэзіі. "Дзеіць" і "смяяцца" і ёсць у пераважных выпадках "візуальная форма крэатыву" цяперашняй маладзёвай вершатворчасці. Хоць, памятаецца мне, вядомы расейскі эміграцыйны крытык Георгій Адамовіч усе падобныя версіфікацыйныя пошукі і новыя напрацоўкі ў форматворчасці тадышніх (сярэдзіна 20-х XX стагоддзя) маладых літаратараў назваў не менш, як "паветрам (азонам?) паэзіі" (на дакладнасць цытаты не прэтэндую, але за сэнс ручаюся). Зрэшты, можна ўзяць і бліжэй, са свайго, айчыннага. Не так даўно заманулася мне аднавіць у памяці маладую прозу М. Стральцова. І вось, чытаючы аповед "Блакітны вецер", аслупянеў, натыкнуўшыся на такую цікавую сцэнку:

*"Неяк пацягнула Лагацкага за язык – пакпіў з таго парукаўскага матаролера. Як ён цяпер зразумеў: была ў тым неўсвядомленая яшчэ і смешная спроба як бы наперад апраўдацца перад кімсьці ў нейкай сваёй няздатнасці.*

*– Браце мой, – сказаў яму Парукаў, – ты разважаеш недаравальна для дарослага чалавека. Спытай у любога школьніка, ён табе скажа, што мы жывём у атамны век. Матаролер хоць і не ўзносіць мяне да вышынь цывілізацыі, але, заўваж сабе, сведчыць пра псіхалагічныя зрухі ў маім характары. Я раблюся сучасным чалавекам. – Ён засмяяўся, пераводзячы ўсё на жарт. – Ахвяруй, браце, сваім вясковым ідэалізмам, не трэба быць "дзядзькам у Вільні". Ясна?*

*Чорт бы яго спазнаў, гэтага Парукава, ён умеў разважаць лагічна. Жарты жартамі, але Лагацкі адчуў сябе ніякавата..."*

А гэта ж, шаноўныя калегі, выдрукавана ў 1960 годзе, яшчэ да першага палёту чалавека ў Космас! І кім?! Па сутнасці, 23-гадовым беларускім хлопцам, які адольваў першыя прыступкі ў нацыянальнай літаратуры... Дзіва што ён (Міхась Стральцоў) амаль усё жыццё стаяў на водшыбе яе (літаратуры нашай) ды, можна сказаць, і сёння яшчэ далёкім маяком свеціць ёй, каб дарэшты не заблудзілася

ў нераце правінцыйных рыфаў ды не асела на дно на псеўдаінтэлектуальным мелкаводдзі...

Гэта я да таго, што ў адным з вершаў паэт як бы прагаворваецца на карысць “паэзіі чыстай красы”:

...што і ў гэтай краіне адталай,
дзе яшчэ салаўі не спяваюць,
заўважаюць чамусьці купалаў,
багдановічаў не заўважаюць.

Выснова сумніўная. Але – няхай, значыць, недзе ў нашай літаратурнай падсвядомасці такая праблема яшчэ пакуль мае права на існаванне. Бо:

Калі адбываецца пахаванне рыфмы,
паэзія працягвае жыць
у алітэрацыях і перагуках.
Калі знікаюць перагукі, застаюцца промні вобразаў.
Калі пачынаюць знікаць вобразы, паэзія трымаецца верай,
у ёй яшчэ б’ецца сэрца рытму.
Але калі знікае вера,
застаюцца камяні маўклівасці.

Нездарма, відаць, кладзецца на душу стылёвай “матыльковай лёгкасцю”, мілагучнасцю і лірычнай экспрэсіяй верш, прысвечаны Максіму Багдановічу.

Выбітныя сваім духоўным і душэўным ростам і такія вершы, як “Пра крону мараць карані” і “Колькі можна расці?”

Колькі можна расці?
Усё роўна не вымкнеш да неба
у кароткім, самотным,
халодным і шэрым жыцці...
Не спяшаецца з цела душа,
сэрца не выпінае за рэбры,
кроў аорту не рве.
Толькі духу ўдаецца расці.

Сярод помных твораў аўтара: “Геніяльнасць”, “На шалі душы маёй”, “Маю гонар, бо маю свае карані”.

І калі я ўжо меч не ўтрымаю ў руках,
у апошні свой міг зноў душой узгадаю
гэта шчасце: мець веру, мець мову, мець шлях,
калі нават нічога я болей не маю.

Дарэчы, код патрыятычнасці і нацыянальнай годнасці скразной лініяй, як вянозная кроў у жывым арганізме, праходзіць праз увесь зборнік паэта, напрыканцы якога ёсць вершы і экзістэнцыйнага гучання. Праўда, уласна я вершаваныя развагі аўтара пра Тварца свету і спробы зазірнуць у таямніцу векавечнасці не аднёс бы да яго найбольш значных удач. Куды іскрамётней імправізацыйныя шэдэўры тыпу верша “Новы Герастрат”, які хвалюе і запамінаецца глыбінёй успрымання:

з усмешкай хіжай
ён запальнічку паднёс
да дзьмухаўца
боль непрацяглым быў
амаль
за міг няўлоўны знік сусвет

Але не паэтычны свет Міколы Кандратава. Яшчэ ў 2008 годзе ў сваіх лімаўскіх рэцэнзійных "кулуарах" на зборнік М. Кандратава "Вершы і зоркі" я пісаў так: *"Але, скажаце вы, усе гэтыя тэмы не абыходзіў у сваёй творчасці ні адзін геніяльны творца. Так. І таму тут на першы план выходзіць пытанне* ***"як"****. Вядома, што ідэальнае ўпарадкаванне думак і слоў – асноўная задача паэта. Не думаю, што Купала меў шырэйшы слоўнікавы запас, чым яго мае Кандратаў. Ды і на думкі наўрад ці быў багацейшы. Але ж нейкім чынам тое, што меў, народны песняр так парадкаваў, што змест дападаў да формы, як віно да чаркі, а твор, нібы з царкоўнага атвору, сыходзіў да паствы, быццам вышэйшая малітва, – калі не з вуснаў самога Бога, то з вуснаў – да самога Бога... Што праўда, падобны творчы дар вельмі рэдкі, але чаму ж многія, не маючы яго, думаюць, што ўсё-ткі маюць? Ды таму што ў іх ёсць ці з часам узнікае глыбокі ўнутраны пасыл – жаданне і жарсць – быць набліжаным да ўзвышанага".*

Хіба М. Кандратаў не адзін з такіх нашых паэтаў?! Пажадаем жа Міколу наблізіцца да гэтага так, як дадзена і дазволена яму Звыш, пакуль будуць высыхаць на чытацкіх разгарачаных тварах яго асвяжальныя "кроплі дажджу"...

# Жывая мова

### *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**Кірыла Анохін. Асцярожна, дрэвы зачыняюцца. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 56 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; Пункт адліку).**




У "Пункце адліку" бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка" выйшла новая дэбютная кніга. Восьмым па ліку маладым аўтарам серыі зрабіўся Кірыла Анохін са зборнікам вершаў "Асцярожна, дрэвы зачыняюцца". Звяртае ўвагу, што ў маленечкай кніжачкі з мінімалістычнымі тэкстамі ажно два макрарэдактары (Андрэй Хадановіч і Віталь Рыжкоў). Ці ўдалося аўтару ў кропельцы расы адлюстраваць хараство Сусвету, меркаваць чытачу.

*вось і ўсё*
*а я чакаў усяго толькі*
*толькі і ўсяго*
*ну вось*
*і ўсё*

**Юрась Бушлякоў. Жывая мова. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2013. – 294 с.**




"Жывая мова" – плён шматгадовае працы мовазнаўцы. Па сутнасці, – працы аддзела, калі не цэлага інстытута... "Гучанне слова", "Націскі", "Будова слова", "Формы слова", "Будова фразы", "Выбар слова" – з такіх раздзелаў складаецца кніга. Тут выбудавана адмысловая сістэма з адметным ілюстрацыйным матэрыялам, праз які кніга можа быць надзвычай карыснай як для выкладання, гэтак і для самастойнага вывучэння і дасканалення мовы. У кароткіх эсэ чуецца голас Юрася – шляхетны, далікатны, багаты на розныя адценні... На добры лад, да кнігі мусіла б прыкладацца кружэлка. "Практычныя парады, як правільна і прыгожа гаварыць па-беларуску. Кніга любові" – пазначана на вокладцы. Так і ёсць.

**Адам Глобус. Імёны. – Мінск: І.П. Логвінаў, 2013. – 122 с. – (Бібліятэка "Беларускі калегіюм").**




Новая кніга Адама Глобуса складаецца з літаратурных партрэтаў вядомых людзей, што спачылі і ў розны час прысутнічалі ў жыцці аўтара: "пісьменніка Караткевіча, паэта Сыса, настаўніка Карпейчыка, мастачкі Русавай, жывапісца Малішэўскага, выкладчыка Хадыкі і мастака Хацкевіча". У анатацыі кніга пазіцыянуецца як антыпод скандальных "сУчаснікаў". Але настраёва яна блізкая да іх: адмысловая мазаіка жыцця з пазнавальным стылем, дзе лаканізм часам суседнічае з нечаканым раскрыццём як герояў, гэтак і асобы аўтара на тле пэўных падзеяў. Не кожны з гэтых тэкстаў можа быць выкарыстаны ў якасці памінальнай прамовы. Але, падобна, тое і не было мэтай аўтара.

**Міхаць Мірановіч. Жартачкі: гумар і сатыра. – Мінск: Медысонт, 2013. – 420 с.**




Гэта другі зборнік вершаваных карацелек віцебскага паэта-гумарыста Міхася Мірановіча (папярэдні – “Міранізмы” – выйшаў у 2002 годзе і быў з ухвалай прыняты крытыкай) і першая кніга заяўленае трылогіі. Гумар спадара Мірановіча мае перадусім показкавую сюжэтную канву. Адрозна ад выдання, што адкрывае наш агляд, тут звяртае ўвагу адсутнасць у выходных дадзеных рэдактара. Ці патрэбны ён? А якой жа кнізе рэдактар калі зашкодзіў?..

**Валер Санько. Грэх на іх нязмыўны: аповесць-уява. Смаленск: Ноопресс, 2013. – 146 с.**




Аўтар гэтай кнігі з нечаканага боку зазірнуў за сцены таямніцы гібелі першага Народнага паэта. Чытача прыцягнуць філасофскія разважанні, гістарычная дакументальная фактура. “Дапамагаюць аўтару праўдзівіць, па-новаму ўзірацца ў тагачасныя падзеі на Беларусі і СССР, уменне выкарыстоўваць архіўныя матэрыялы, празорная інтуіцыя доктара народнай медыцыны, шматгадовая рэдакцыйная і даследчыцкая праца”, – сцвярджае ў пасляслоўі доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч. Рэдкі здымак упершыню надрукаваны ў Беларусі: Янка Купала, Платон Галавач, Уладзімір Хадыка, выкладчыкі і навучэнцы рабфаку ў Соснах Любаньскага раёна. Здымак 1933 года захавала медсястра Люба Санько, жыхарка вёскі Вялікая Сліва Слуцкага раёна, маці аўтара аповесці-уявы пра абставіны смерці генія беларускай літаратуры Янкі Купалы.

**Тэксты №4. Альманах. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 336 с.**



Чацвёртыы нумар “Тэкстаў” (папярэдні, паводле прынцыпу сагі “Зорныя войны”, меў парадкавы другі нумар, а былі яшчэ і трэці, шосты і нават дванаццаты) на палову адведзены тэкстам экс-бумбамлітаўцаў. Да прыкладу, творчая сям’я Жыбуляў наогул прадстаўленая тут у поўным складзе – маці (аднадзейнай п’ескай “Здарэнне з Нестарам, або Нехта”), тата (дзённікамі і артыкулам пра слуцкі перыяд Паўлюка Шукайлы), сын (вершамі першакласніка Кастуся, самага маладога аўтара альманаху, распачынаецца паэтычная частка нумару). Празаічную частку адкрываюць Ілля Сін і Зміцер Вішнёў. Яшчэ адна, так бы мовіць, нумарацэнтрычная асоба, – Марыя Мартысевіч: у альманаху друкуецца ейная падборка вершаў, Георгій Барташ дае дасціпны адказ Міхасю Южыку адносна зборніка “Амбасада”, а гутарка з Юрыем Станкевічам завостраная на выказваннях сп-ні Мартысевіч пра творчасць пісьменніка (у прыватнасці, ён кажа пра “дзікія і хлуслівыя абвінавачванні”, “мэтай якіх было справакаваць негатыўную рэакцыю” ў журы конкурсу імя Гедройца). Сяргей Кавалёў рэцэнзуе “Гамбургскі рахунак Бахарэвіча”. Лада Алейнік дзейсніць востра крытычны (каб не сказаць знішчальны) аналіз рамана Юліі Шаровай. “Тэорыя” прадстаўленая тэкстамі Ірыны Шаўляковай і Юра Пацюпы. Разынка нумару – пераклады Рышарда Капусцінскага і Сяргія Жадана.

# Нашыя аўтары

**Ахроменка Уладзіслаў** – празаік, драматург. Аўтар кніг: «Здані і пачвары Беларусі», «Янкі, альбо Астатні наезд на Літве», «Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша» (усе – у суаўтарстве з Максімам Клімковічам), «Тэорыя змовы» і інш. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску і Чарнігаве.

**Бандарэнка Ксеня** – паэтка. Студэнтка лячэбнага факультэта Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта. Нарадзілася ў 1996 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Бельская Ірына** — паэтка. Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў» за лепшы дэбют (2008). Нарадзілася ў 1989 годзе ў вёсцы Чарневічы на Глыбоччыне. Жыве ў Наваполацку.

**Бурлак (Жыбуль) Вера** – паэтка, перакладніца, літаратуразнаўца. Аўтарка кніг паэзіі «За здаровы лад жыцця!», «Забі ў сабе Сакрата!» (сумесна з Віктарам Жыбулем), кнігі прозы «Творы соннага жанру», аўдыёкнігі «Phantom of the Literature». Нарадзілася ў 1977 годзе ў Кіеве. Жыве ў Мінску.

**Бяляцкі Алесь** — празаік, крытык, літаратуразнаўца, публіцыст. Аўтар кніг «Літаратура і нацыя», «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера», «Асьвечаныя беларушчынай». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Карэліі. Цяпер знаходзіцца ў Бабруйску.

**Вежнавец Ева (Святлана Курс)** – празаік. Аўтар кнігі «Шлях дробнай сволачы». Нарадзілася ў вёсцы Загалле на Любаншчыне. Цяпер жыве ў Польшчы.

**Волкава Ася** – паэтка, перакладчыца. Фіналістка конкурсаў Беларускага ПЭН-Цэнтра да стагоддзя Ларысы Геніюш і да стагоддзя з дня нараджэння Чэслава Мілаша. Нарадзілася ў 1988 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг: «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гібок-Гібкоўскі Алесь** — публіцыст, паэт. Лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро», Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Аўтар кнігі вершаў «Насамрэч». Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Рупейкі на Ваўкавышчыне. Жыве ў Мінску.

**Дземянчук Кася** – празаік. Нарадзілася ў 1991 годзе ў Навагрудку. Жыве ў Навагрудку.

**Дзмітрыеў Генадзь** – паэт, празаік. Аўтар кніг «Гарады на далонях», «Птушка Сінязорка», «Азярыны» і інш. Нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Злыднікі (цяпер Першамайка) на Гарадоччыне. Жыве ў Мінску.

**Дэбіш Анатоль** – паэт. Аўтар кніг вершаў «Калядная вячэра», «Стодзівы». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёну на Гарадзеншчыне. Жыве ў Берасці.

**Дэбіш Васіль** — паэт. Аўтар зборнікаў вершаў «Белыя птахі», «Лісты да Марыі». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёну на Гарадзеншчыне. Жыве ў Берасці.

**Кіслік Валяр'ян** – інжынер-геолаг. Кандыдат геолага-мінералагічных навук. Аўтар больш за 130 навуковых прац, у тым ліку 5 манаграфій. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў Віцебску. Жыве ў Нямеччыне.

**Кулон Антон (Анатоль Астапенка)** – публіцыст, навуковец, кандыдат фізіка-матэматычных навук. Доктар паліталогіі MAIT. Аўтар кніг «Паслухайце нацыяналіста», «Нацыянальная ідэя ў сучасным сьвеце», «Сіняя кніга беларускага алкаголіка». Нарадзіўся ў 1947 годзе на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Лапіцкая Алеся** – крытык, празаік, публіцыст. Лаўрэатка конкурсу «Беларуская літаратура XXI стагоддзя: постаці, тэндэнцыі, перспектывы» (2010 г., часопіс «Дзеяслоў»). Нарадзілася ў 1990 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Мароз Уладзімір** – паэт, празаік, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Косаве на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Набытовіч Ігар** – літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Прафесар Універсітэта імя М. Кюры-Складоўскай (Люблін). Галоўны рэдактар навуковага часопіса «Spheres of Culture». Аўтар манаграфій: «Леонід Мосендз – лицар Святого Грааля. Творчість письменника в контексті

європейської літератури», «Універсум sacrum'у у художній прозі (від Модернізму до Постмодернізму)». Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Стэбніку, што ў Галіцыі (Украіна). Жыве ў Любліне (Польшча).

**Навіцкая Наталля** – паэтка, празаік. Працуе ў газеце «Родныя вытокі» (Докшыцкі раён). Творы друкаваліся ў газетах «Родныя вытокі», «Переходный возраст», «Знамя юности», часопісе «Маладосць». Нарадзілася ў 1986 годзе ў г.п. Бягомль на Віцебшчыне. Жыве ў Докшыцах.

**Ніякоўская Алена** – філосаф, перакладчык. Кандыдат філасофскіх навук. Друкавалася ў часопісах «Калосьсе», «Arche», газетах «Культура», «Новы час», у бюлетэні «Кантакты і дыялогі». Нарадзілася ў 1936 годзе ў Мінску. Жыве ў Полацку.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі» прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Паўлавец Дзмітрый** – мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аўтар звыш за 150 публікацый у навуковых і папулярных выданнях. Суаўтар «Русско-белорусского словаря спортивных терминов», «Фальклорнага слоўніка Гомельшчыны», кнігі «Святло каштоўнасцей духоўных. Жлобінскі край: мінулае і сучаснасць». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Парэ на Піншчыне. Жыве ў Гомелі.

**Петрушкевіч Ала** – літаратуразнаўца. Абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме «Паэзія Дануты Бічэль-Загнетавай. Праблема лірычнага героя». Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гродзеншчыне. Жыве ў Гродне.

**Прыходзька Мікіта** – паэт. Скончыў мазырскую гімназію імя Янкі Купалы. Цяпер студэнт БДУІР. Вершы друкаваліся ў «Дзеяслове». Нарадзіўся ў 1993 годзе ў Мазыры. Жыве ў Мінску.

**Рублеўскі Сяргей** — празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг прозы «Апостраф», «Азярод», «Абмытыя валуны», «Ў, тое, што мы скарацілі», «Маўчанне на ўвесь Божы свет», «Святло лускі», «Паспець надыхацца». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабча на Лепельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Сідарэвіч Анатоль** — публіцыст, філосаф, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кнігі «Луцкевічы і Луцэвічы». Адзін з ідэолагаў адроджанай беларускай сацыял-дэмакратыі. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Доўгі Лес на Піншчыне. Жыве ў Мінску.

**Снарская Іна** – паэтка. Аўтар кніг: «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Палтаве (Украіна).

**Хадарэнка Ірына** – паэт, празаік, музыказнаўца. Аўтар кніг «Чорная ружа», «Танцы на шкле», «Свядомаграфія» і інш. Нарадзілася ў 1976 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Шчур Макс** — паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Спадарыня Адзіноцтва», «Амфітэатар», «Ранні збор», «Амальгама», «Ліст, знойдзены на папялішчы» і інш. Перакладае з чэшскай, іспанскай і ангельскай моваў. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Берасці. Жыве ў Празе.

**Шняк Максім** – паэт, дызайнер. Скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтва па спецыяльнасці «Мастацкая апрацоўка вырабаў з металу». Займаецца дызайнам мэблі, посуду, электронікі, фурнітуры ды іншых прадметаў прамысловага дызайну, частка з якіх запушчаная ў серыйную вытворчасць. Нарадзіўся ў 1985 годзе ў пасёлку Бешанковічы на Віцебшчыне. Жыве ў пасёлку Міханавічы, што пад Мінскам.

**Ялугін Эрнест** – празаік**.** Аўтар кніг: «Сіндбад вяртаецца», «Без эпітафіі», «Острова», «Последний князь» і інш.Нарадзіўся ў 1936 г. на станцыі Асінаўка Аршанскага (цяпер у складзе Дубровенскага) раёна на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

**Ястраб Фёдар** – галерыст, мастак, мастацтвазнаўца. Аўтар і куратар каля 120 маштабных мастацкіх праектаў. Браў удзел больш чым у 130 міжнародных, замежных, рэспубліканскіх і групавых выстаўках, міжнародных жывапісных сімпозіумах і пленерах. Мае больш за 70 публікацый на тэмы выяўленчага мастацтва, аўтар кнігі «Мастацтва ў сацыяльнай прасторы», «В.Д.-Марцінкевіч». Паэзіяй, як новым для сябе відам творчай дзейнасці, заняўся ў пачатку 2012 года. Падрыхтаваў да друку шэсць кніг санэтаў. Нарадзіўся ў 1953 годзе. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Юрыя Дзядзінкіна, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.